УДК 821.161.3-31
ББК 84(4Беи)-44
Ш76

*Выпуск выдання ажыццёўлены па заказе*
*і пры фінансавай падтрымцы*
*Міністэрства інфармацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

Мастак *Міхаіл Дайлідаў*

Ш 77 **Шніп, В. А.**

Трава бясконцасці : дзённікавы раман паэта / Віктар Шніп ; мастак Міхаіл Дайлідаў. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2018.— 383 с.

ISBN 978-985-02-1817-9.

Трава — гэта зялёнае святло. Трава — гэта жыццё. Трава — гэта мы. Яна высокая, як і ўсё, што было высокім у дзяцінстве. Яна глыбокая, як нашыя рэкі і азёры. Яна вечная, як нашая памяць. Яна бясконцая, як неба. І, чытаючы гэтую кнігу, кожны супольна з аўтарам зможа зайсці ў траву, якая была, ёсць і будзе.

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-02-1817-9**

# *Кастрычнік — снежань, 2014*

## *Кастрычнік*

***2.10.2014***

Каб вярнуцца ў сям'ю, мужчына памёр...

***3.10.2014***

Маладзік, як пабялелая і надарваная ветрам марка на блакітнай капэрце восеньскага неба...

У бібліятэцы імя Цёткі тэатр «Арт. С» правёў вечарыну, прысвечаную памяці Змітра Сідаровіча. Каля трох гадзін гучалі Змітравы музыка, вершы, песні, і было ўражанне, што ён побач з намі і слухае нашыя аповеды. Узгадваючы дудара, адзін з сяброў Змітра апавёў і пра тое, як ён быў у яго ў гасцях на дзевятнаццатым паверсе і на пытанне: «Для каго ты тут іграеш?» — пачуў: «Для неба!»

***4.10.2014***

Мама часта мне казала, каб нікуды ўвечары не хадзіў, сядзеў дома. Мамы няма, а я сяджу дома...

***7.10.2014***

Прыходзіў фотамайстра Яўген Коктыш. Ягоныя здымкі надрукаваныя ў кніжцы Барыса Крэпака пра Міхаіла Савіцкага. Кажучы пра мастака, Яўген Фаміч узгадаў айца Віталя, які, будучы ў майстэрні Савіцкага, запытаўся: «Міхаіл Андрэевіч, хто ж пасля вас?» Мастак болей за паўгадзіны не адказваў на пытанне, нібыта не пачуў яго, а потым, калі айцец Віталь агледзеў карціны, што былі ў майстэрні, сказаў: «Нікога!»

***8.10.2014***

Холадна. Чайкі на беразе Свіслачы, як першы снег...

***9.10.2014***

У яго была кніга ў блакітнай флэшцы на ружовым матузку...

***12.10.2014***

Трэці дзень хварэю. Прыходзіў адведаць Алесь Квяткоўскі. Запрасіў на 19 лістапада на адкрыццё выставы ў галерэі Леаніда Шчамялёва. Колькі дзён таму Алесь тэлефанаваў Вітаўту Чаропку. На маё пытанне: «Як там наш вялікі празаік?» — Алесь адказаў: «З ім нешта адбылося і ён цяпер амаль нічога не памятае. Пачаў маляваць. Ужо мае каля дваццаці карцін. Словам, запрашаў прыехаць паглядзець і ацаніць ягоныя работы».

***16.10.2014***

Сядзеў каля камп'ютара, як мыш каля сыра ў пастцы...

***18.10.2014***

Высока ў бясхмарным небе вароны, як чорнае лісце ў вадзе...

***19.10.2014***

Прысніліся Лягезы. Паўстанне Каліноўскага. Я ў лесе. На ўзгорку каля Лягез адзін трымаю абарону. Страляю і не трапляю ў ворагаў, якія абыходзяць мяне, не страляючы. Бачу, як далёка ў баку Пугачоў ідзе бой. Хачу дапамагчы паўстанцам, але раптам чую, што мяне на ўскрайку Лягез кліча маладая паненка. Уся ў белым. Я пакідаю сваю пазіцыю і спяшаюся да дзяўчыны. Не паспяваю дайсці, як бачу, што да яе падыходзіць малады афіцэр і абдымае. Я хачу іх застрэліць. Страляю і... прачынаюся.

***21.10.2014***

Жыву побач са школай міліцыі. Вось ужо болей за дваццаць гадоў амаль штораніцу, калі іду на прыпынак, курсанты мятуць ходнік каля плота сваёй навучальнай установы. Сёння ў мяне быў такі настрой, што я падумаў, што будучыя міліцыянеры менавіта для мяне зачышчаюць дарогу...

***24.10.2014***

Прыходзіла сястра Еўдакіі Лось. Гадоў дзесяць таму яна забрала з выдавецтва ўспаміны пра паэтку і цяпер хоча,

каб мы надрукавалі. «А дзе ж рукапіс?» — пацікавіўся я. «Дома». — «Чаму не прынеслі?» — «Баюся згубіць дарогаю...»

***25.10.2014***

Неба чыстае, як першы лёд...

***26.10.2014***

Неба, як манітор не ўвамкнутага камп'ютара...

***27.10.2014***

Абляцела лістота, і на дрэвах у парку зачарнелі вароніны гнёзды, як дзіравыя шапкі лесавіка, што цэлае лета бадзяжыў у горадзе...

***28.10.2014***

Уладзімір Лукашык паказаў зробленую ім вокладку кнігі «Папяровая кветка» Алеся Гаўрона. Аздабленне ёсць, цяпер трэба сабраць творы Алеся. Валодзя ўзгадаў, што ў дзевяностыя гады Гаўрон збіраўся выдаваць газету для ананімных алкаголікаў «Трыумфальная чарка». Не выдаў, бо грошы прапіў...

Узгадваючы памерлых паэтаў, Валодзя сказаў: «Сёння, ідучы да сваіх студэнтаў, задумаўся пра сваю смерць. Хачу, каб мяне пахавалі ў кашулі ў краткі...» — «Чаму ў краткі?» — пацікавіўся я. «Мама заўсёды мне купляла кашулі ў краткі. Калі памру, хачу, каб мама мяне здалёку пазнала...» — адказаў мастак...

Размаўляючы пра творчасць, Лукашык сказаў: «У нас жывапіс не цэніцца. У нас цэніцца лядоўня!»

***30.10.2014***

Раніца. Толькі што прыйшоў на працу. Не паспеў сесці пры стале, як у кабінет зайшоў мужчына і гучна абвесціў: «Я тут з Кіева прыехаў. Хачу ў вас кніжку выдаць!» — «Аповесць? Раман?» — запытаўся я. «Не! Гэта маё навуковае даследаванне! Я напісаў яго ў вольны час ад працы на заводзе!» — сказаў госць з Кіева і апавёў пра тое, як усё кепска ва Украіне і што будзе яшчэ горш і скончыцца ўсё тым, што не будзе краіны. «Можна пачытаць?» — пацікавіўся я. Мужчына дастаў з партфеля велізарную тэчку, на якой прылеплена жоўтая паперка, а на ёй напісана: «Весенние сны Леонида Брежнева»...

* * *

З жыцця сыходзяць, быццам з эшафота,
Табой забытыя твае сябры.
І ты з альбома дастаеш іх фота,
Нібы агонь ты паліш у двары,
І грэешся ўспамінамі, не плачаш,
Бо што тут плакаць, раз жыццё прайшло,
Як з хаты выгнаны табой сабака,
Калі табе тут весела было
І цэлы свет быў, як вакно ў нябёсы,
Дзе белыя анёлы і раяль
Стаяў бялюткі і чакаў, каб слёзы
Ты музыкай нагнаў, ірваў паркаль
Душы сяброўскай, што не знала суму,
І разбіваў, нібы Байкал, бакал,
І ноч расцягваў ты, нібыта гуму,
І ноч была глыбокай, як Байкал.
Мінула ўсё, і нават успаміны
Цяпер, як дым ад танных цыгарэт.
Сябры сыходзяць, як па полі мінным,
Па белым свеце ў найбялейшы свет,
І ты з альбома дастаеш іх фота,
Ізноў хаваеш, быццам у труну,
У свой альбом, і, каб заплакаць потым,
Ідзеш на працу, нібы на вайну...

**5. 10. 2014**

* * *

Тады агнём напоўніцца вада
І белым дымам чорныя нябёсы,
Як будзе лісце спалена ў садах,
Што вершамі было на дрэвах прозы.
І разнясецца попел па зямлі,
Нібы ваўкамі, шэрымі вятрамі,
Якія ўчора музыкай былі
За нашымі замкнутымі дзвярамі.
І ты санет запішаш на вадзе
Пра гэты дзень, што ў вечнасць перальецца,
І яблыкам апошнім упадзе
Ці сонца з неба, ці анёла сэрца...

**13. 10. 2014**

**ЗІМОВЫ СОН ПЧОЛ**

і выпаў першы снег
і стала светла ў вуллі як у раі
і прыснілася пчолам
што яны вылецелі на вуліцу
і сталі гуляць у снежкі
і разбудзілі трутняў
якія пазяхаючы
вызірнулі з вулля на свет белы
і самы вялікі труцень
вываліўся на снег
і стаў сняжынкай
якая трапіла ў вока мядзведзя
і мядзведзь стаў добрым
як пчаліны бацька
і снілі пчолы вясну
і снілі пчолы лета
і снілі пчолы восень
і дзень калі выпаў пчаліны снег
з якога пчолы зляпілі
белы свет
у якім цяпер усе жывуць
як пчолы
якія сняць зімовыя сны
дзе добра як у раі

**28.10.2014**

* * *

Нібы малітва, пачынаўся дзень
І прарастаў туман з сырой зямлі.
Плыў жоўты човен па начной вадзе,
І следам зоркі мёртвыя плылі.
І ты стаяў на беразе ракі,
Нібы стаяў на беразе жыцця.
І дробныя кусты, нібы ваўкі
Аблезлыя, стаялі без лісця,
І вецер восеньскі ляцеў праз іх,
Нібы між рэбраў, між крывых сукоў.
Дзень пачынаўся, як апошні ўздых,
Як верш апошні пра тваю любоў
Да родных ніў, што шэрымі стаяць,

Да хат старых, дзе цішыня і сон,
Дзе на страсе буслы ўжо не сядзяць
І дзе з вакна, як сірата, вазон
Глядзіць на свет, не знаючы, што свет,
Нібы малітва, што ты прашаптаў...
І зоркі ажылі, і за табою след,
Як першы снег, з'явіўся і растаў,
Дзе ты стаяў на беразе ракі,
Нібы стаяў на беразе жыцця,
І чорнымі, нібы чарнавікі,
Былі сумёты мёртвага лісця...

**18.09—31.10.2014**



# *Лістапад*

***1.11.2014***

З сястрой Валяй і ейным мужам Віцем ездзілі ў Валожын. Урэшце маем дакументы на спадчыну, што нам засталася ад бацькоў...

Ходзячы па Валожыне, сястра заўважыла, што на мяне некаторыя землякі глядзяць так, нібыта я ў нешта выпацканы. «Гэта ж нядаўна мяне колькі разоў праз тэлевізар паказвалі, відаць, пазнаюць...» — адказаў я і насунуў шапку на вочы...

У Пугачы прыехалі па абедзе. На сажалках лёд. Хваляваўся за водаправод на кухні. Труба цэлая...

На яблынях ні лістоты, ні яблыкаў. Усё на зямлі. Сад, як забрукаваны яблыкамі...

Увесну купіў бензапілу. Ішоў дахаты з крамы, спынілася машына, і нейкі нярускі так мяне расчуліў аповедам, што яму на працы выдалі зарплату бензапіламі і цяпер ён не можа вярнуцца ў Расію, што я ўзяў і набыў рэч, якая мне асабліва і не патрэбная. Швагра Віця смяяўся з маёй дабрыні, але месяц таму і сам трапіў на такога самага нярускага гаротніка і пашкадаваў яго, прыдбаўшы бензапілу. Сёння ў нашым садзе было шмат працы і, каб не новыя пілы, то паламаныя сукі мы б цэлы тыдзень пілавалі, а так далі рады за чатыры гадзіны.

Пілую зламаную яблыню. Да плота падышла пажылая незнаёмая жанчына з хлопчыкам і дзяўчынкай. Павітаўшыся

і сказаўшы: «А я вас праз тэлевізар у «Дыяблогу» бачыла,— пачала апавядаць дзецям: — Гэта Віктар Шніп. Наш паэт...»

Я з Віцем пілаваў, а Валя паліла на вогнішчы галлё. А шостай гадзіне сцямнела. Вогнішча мы не залівалі вадой. Яно было ў цемры, як невядомая галактыка, у якой мільёны зорак...

«Калі мама пабачыць, што мы не затушылі агонь, будзе злавацца!» — я сказаў сястры і адразу ў цемры з вуліцы пачуў незнаёмы жаночы голас: «Не пакідайце ж агонь. Затушыце...»

***3.11.2014***

Трава на беразе ракі трымаецца за пясок, як мы за час, у якім жывем...

***4.11.2014***

Мёртвае лісце перабягае дарогу і яшчэ раз гіне пад коламі машын...

У выдавецтва некаторыя прыходзяць, як у сабес...

***5.11.2014***

Нізкакаларыйныя творы...

Прыходзіла аўтарка. Ёй даўно за семдзесят. Кажучы пра выданне кнігі, раптам перапынілася і сказала: «У вас на падваконні стаіць каштоўны вазон. За яго ў адной краіне можна вялікія грошы ўзяць!» — «Чым ён каштоўны?» — пацікавіўся я. «Ён падвышае мужчынскую патэнцыю!» — «Дык што, яго трэба есці?» — «Не! Ён расце і ў паветра вылучае сваю энергію. Такую ж моц маюць фікусы. Па вайне Сталін даў загад, каб у кожнай хаце і кватэры былі фікусы. Мужчын тады было мала, і тыя былі знямоглыя, таму фікусы дапамагалі паскорыць прырост насельніцтва». Пасля размовы прайшоўся па рэдакцыйных кабінетах і амаль у кожным пабачыў такі самы каштоўны вазон, як і ў мяне, а ў некаторых былі і фікусы...

***7.11.2014***

Чакаеш-чакаеш выходных, а потым не ведаеш, чым заняцца ў гэтыя дні, і сядзіш у сецiве, як кот на аўтобусным прыпынку...

*8.11.2014*

Сёння сем гадоў як зусім не ўжываю напояў з градусамі. За гэты час прачытаў дзясяткі выказванняў на карысць таго, што трэба пакрыху выпіваць і толькі некалькі, што зусім не піць — гэта вельмі добра. За гэтыя сем гадоў памерла шмат знаёмых, якія пілі, як у бочку, і ніводзін, хто кінуў піць...

*9.11.2014*

Дзень скукожыўся, як на асфальце апалы ліст...

*10.11.2014*

Прыязджаў краязнаўца Міхась Казлоўскі, каб паглядзець вёрстку і аздабленне кнігі Язэпа Драздовіча, якую ён склаў. Выданне атрымліваецца шыкоўнае, а галоўнае — у ім будзе прадстаўлены амаль увесь Драздовіч. З Міхасём паўспаміналі нашы зямляцкія сцежкі-дарожкі, якімі апошнім часам неяк не выпадае пахадзіць. Цяпер Міхась працуе над томікам Вячаслава Міхасёнка (доўгі час жыў і працаваў настаўнікам у Дубравах), дзе будуць і вершы, і проза, і ўспаміны пра Караткевіча, і ліставанне. Рукапіс ужо мае назву «Зазімак» — гэтак кнігу пры жыцці хацеў назваць Вячаслаў...

Першы раз за гадоў пятнаццаць быў у паліклініцы. Стаяў у чарзе, каб завесці асабістую картку, і чамусьці думаў, што стаю па пропуск на карабель, які ўвечары вязе ў Амерыку ўцекачоў ад белай гвардыі...

*13.11.2014*

Ідучы ў бібліятэку імя Янкі Купалы на прэзентацыю сваіх кніг «Тутэйшая туга» і «Першы папяровы снег», меркаваў, што збярэцца чалавек 20, ну максімум 30, як звычайна бывае на падобных імпрэзах у бібліятэках. І якраз сёння дома забыўся мабільны і, каго хацеў зранку асабіста запрасіць, каб прыйшоў, таго і не запрасіў. І тут на табе, ці то бібліятэчная абвестка каля шатні, ці то маё запрашэнне ў фэйсбуку, ці нешта іншае паўплывала на людзей, бо на прэзентацыю кніг, якія выйшлі ў выдавецтве «Чатыры чвэрці», прыйшло каля сотні (а мо і болей) чалавек. Мне і песні спявалі, і вершы чыталі, і казалі, што я сякі-такі вялікі, а я слухаў і ўсміхаўся. Едучы дадому, падумаў: «А можа, я ўсё гэта прысніў?..»

За апошнія тры тыдні прыходзіла колькі празаікаў, якія абвесцілі: «Я вам прынёс «Вайну і мір»! Друкуйце!» Гаворачы з імі пра «Вайну і мір», даведваўся, што мае новыя знаёмыя да канца не дачыталі твор Талстога, бо «яго без прымусу, што быў у школе, не магчыма чытаць».

***14.11.2014***

Ужо даўно рукапісы не змяшчаюцца на выдавецкія паліцы, і новыя кладу на шафы. Сёння зірнуў на пажаўцелыя тэчкі і чамусьці ўспомніў бацьку, і ўва мне прагучала бацькава: «Гэтых дроў хопіць на колькі гадоў!»

***15.11.2014***

За сценкай забрынкала піяніна, і я чамусьці ўспомніў сваё кватараванне ў цёткі Галі на вуліцы Мендзялеева. Мне было пятнаццаць гадоў. Вучыўся ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме. Штовечар над намі па гадзіне, а то і болей, нехта брынкаў на піяніне. Мае сваякі слухаць музыку перад сном не любілі, і я, ведаючы гэта, вырашыў падпільнаваць музы́ку і адвучыць яго граць увечары. За колькі дзён высветліў, што на піяніне брынкае даўганосы хлапчук, на пяць гадоў маладзейшы за мяне. І вось аднойчы я падпільнаваў яго ў пад'ездзе і, узяўшыся за штрыфлі пінжака, запытаўся: «Хто ты такі, каб штовечар не даваць людзям спакойна легчы спаць?» — «Я Дзіма...» — прашаптаў даўганосы. «Я зараз цябе паб'ю, калі ты не паклянешся, што болей не будзеш іграць увечары!» — пагрозліва заявіў я. «Добра. Але мне трэба граць, бо я здымаюся ў фільме пра Бураціна»,— сказаў Дзіма. Казка пра Бураціна была адной з маіх улюбёных, і яшчэ колькі гадоў таму я з сёстрамі ў вёсцы ставіў спектакль па гэтым творы. Хлапчук быў вельмі падобны да Бураціна, і мне раптам расхацелася яго біць, бо, б'ючы яго, я пабіў бы свайго літаратурнага ўлюбёнца, а любімых жа не б'юць. І ўжо недзе праз паўгода ў кінатэатры я глядзеў фільм «Залаты ключык, альбо Прыгоды Бураціна», дзе ў галоўнай ролі быў Дзмітрый Іосіфаў, які жыў нада мной і якога я хацеў адвучыць іграць на піяніна...

***17.11.2014***

Некалькі тыдняў таму адной паэтцы сказаў, што над яе рукапісам яшчэ трэба добра папрацаваць, каб атрымалася

кніга, вартая выдання. У пятніцу паэтка патэлефанавала і адразу абвесціла: «Я ўсю ноч плакала пасля размовы з вамі!» Падобнае ад паэтак чую не ўпершыню. Некаторыя старыя творцы, якія ў свой час нешта паспелі «выбіць» у выдавецтвах, палохаюць тым, што яны памруць і будуць мёртвымі прыходзіць да мяне і пытацца: «Чаму не выдаў кніжку?» Такіх, дзякуй богу, няшмат, але яны ёсць. І шкада іх, і дапамагчы ім цяпер амаль немагчыма, і самае галоўнае — яны не разумеюць, што калі іх гадамі нідзе не друкуюць, то і выдавецтва не выдасць кнігу. Чацверты дзень думаючы пра слёзы паэткі, закарцела дажыць да таго часу, калі знойдзецца чалавек, які пасля размовы (не толькі са мной!) пра яго слабенькія творы, затэлефануе і скажа: «Я ўсю ноч не спаў і вырашыў, што болей пісаць не буду, а калі буду, то не буду хадзіць па рэдакцыях і не буду займацца скаргамі!»



***18.11.2014***

Галодны, як камар...

***19.11.2014***

У бібліятэцы імя Цёткі ўдзельнічаў у адкрыцці выставы мастака Валерыя Сенчанкі. За час працы ў выдавецтве прызвычаіўся да яго як да добрага традыцыйнага дызайнера кніг і таму тое, што пабачыў на выставе, было мне прыемнай нечаканасцю — у карцінах жывуць Беларусь, Украіна і Паэзія. Валерый Іванавіч на мастака не вучыўся, хоць і спрабаваў паступіць. Пасля вучобы ў Маскве трапіў інжынерам на завод «Інтэграл». Там было літаб’яднанне. Пасябраваўшы з завадскімі паэтамі і аздабляючы іх падборкі вершаў у завадской газеце, звярнуў на сябе ўвагу таго начальства, якое разбіралася ў мастацтве. І ўжо ў 90-я гады Валерый Сенчанка на «Інтэграле» працаваў дызайнерам гадзіннікаў «Электрон». Аднавяскоўец і сябра Валерыя Іванавіча апавёў, як трыццаць пяць гадоў таму яны былі ў кавярні, дзе паблізу сядзелі дзяўчаты, сярод якіх адна спадабалася яму. Як пазнаёміцца? І ён папрасіў Валерыя Іванавіча, каб той на сурвэтцы намаляваў партрэт прыгажуні. Калі партрэт быў гатовы, сябра дапісаў свой тэлефон і просьбу патэлефанаваць. Праз два тыдні дзяўчына патэлефанавала, і вось ужо 35 гадоў яны жывуць разам і сябруюць з сям’ёй Валерыя Сенчанкі...

***20.11.2014***

Быў у кнігарні «ЛогвінаЎ» на прэзентацыі кнігі Андрэя Лазуткіна «Палігон». Аўтар на сустрэчу з чытачамі спазніўся на паўгадзіны. Зайшоў у паўнюткую залу і адразу пачаў спектакль. Слухаючы Андрушу (ён так сябе называў), часам думалася: «Хлопца нясе і заносіць, як на першым галалёдзе!» Але, нягледзячы на заносы, ён не забыўся і на тых, якія былі абвешчаны ў праграме як выступоўцы. Цвяроза пра Лазуткіна і яго творчасць сказалі Альгерд Бахарэвіч, Людміла Рублеўская і Антон Рудак. Андрушка, як будучы юрыст, усіх уважліва слухаў і самае галоўнае — не перапыняў. Прыканцы паспяваў пад гітару, а потым перайшоў да раздачы аўтографаў.

***21.11.2014***

Учора ўрэшце выпаў снег. Сёння растае. З берага Свіслачы ўзляцелі чайкі, як першы снег узляцеў...

***23.11.2014***

З Людай едзем тралейбусам. Размаўляем. У салоне чалавек дзесяць. На чарговым прыпынку зайшоў мужчына гадоў сарака пяці, сеў насупраць нас. І, чуючы беларускую мову, праз хвілінаў пяць запытаўся: «Адкуль вы?» Я хацеў адказаць, што мы з калгаса, але стрымаўся і сказаў: «Мы з Мінска!»

***24.11.2014***

У вёсцы. Сяджу за камп’ютарам. Адчыняюцца дзверы. Да мяне прыйшлі манахі: «Мы з Грэцыі. У свеце вялікая бяда...» — «Якая бяда?» — запытаўся і нічога не пачуў у адказ. Манахі завязалі мне вочы і павялі. «Куды мы ідзем?» — хвалююся. За нейкую хвіліну мы спыняемся. Адчуваю, што мы ў Старажытнай Грэцыі. «Яму трэба тэрмінова выкалаць вочы!» — чую голас. Мяне садзяць на вялікае крэсла, падобнае да трона, прывязваюць. «Навошта вы хочаце пазбавіць мяне зроку?» — пытаюся. «Сёння загінуў Гамер, а праз тыдзень ён павінен быў пачаць ствараць „Іліяду“»,— чую ў адказ і... прачынаюся ад болю ў вачах...

***25.11.2014***

Нас шмат, а ты адзін, як кропка ў канцы сказа...

***26.11.2014***

Па справах хадзіў да Ніла Гілевіча. Думаў, пабуду хвілінаў 10—15 і пайду дамоў, але Ніл Сымонавіч пачаў распытваць, што «там робіцца на волі?». Ён ужо даўно не выходзіў з кватэры і ўсе навіны ведае з сарочынага хваста. Паразмаўлялі болей за гадзіну. Ніл Сымонавіч падараваў мне 18-ты том са Збору твораў: «Маім добрым сябрам Людміле Іванаўне і Віктару Анатольевічу — на ўспамін аб сустрэчах, аб гутарках пра Беларусь, аб нашых абавязках перад Ёю. Ад сэрца — Ніл Гілевіч. 26.11.14.» У гэтым томе змешчаны артыкул пра мае вершы «Калі не перашкодзіць... пісталет». Ён быў напісаны ў 2002 годзе. Прабачаючыся за дробныя заўвагі да маіх твораў, Ніл Сымонавіч зачытаў з артыкула вершы пра Дуніна-Марцінкевіча і Генію ш, а потым і вось гэтыя радкі: «Нярэдка ў размовах аб літаратуры і крытыкі, і чытачы карыстаюцца такою ходкай формулай: калі б ён нічога болей не напісаў, апрача гэтага твора, то і тады заняў бы годнае месца ў літаратуры. Пакарыстаюся ёю і я: калі б у Віктара Шніпа былі толькі гэтыя два вершы, то і тады б ён... А ў яго ж такіх вершаў багата...» На маё пытанне: «Ці адведваюць вас пісьменнікі?» — Ніл Сымонавіч адказаў: «Часта прыходзіць мой аднакурснік Анатоль Вярцінскі. Бывае Эдуард. З Саюза кіраўнікі адведваюць — Пятровіч і Пашкевіч. З Маладзечна, прыехаўшы па справах у сталіцу, заходзіць Міхась Казлоўскі. Ён надта слаўны хлопец! Сёння вы прыйшлі...» Развітваючыся, Ніл Сымонавіч папрасіў: «Калі будуць пытацца, як сябе пачуваю, вы зманіце, што Гілевіч вельмі бадзёры, працуе шмат і на здароўе яшчэ не скардзіцца...»

***27.11.2014***

Прыходзіў стары. У кажуху і ў валёнках. У торбе прыносіў раман. Напісаны ад рукі. Амаль не прачытаць. Стары глухаваты. Яму 80 гадоў. На маё пытанне: «Адкуль вы?» — сказаў: «Я цяпер жыву ў Мінску, а так усё сядзеў у турмах у Сібіры...»

***28.11.2014***

Сёння быў у камісіі па абароне курсавых прац студэнтамі другога курса Інстытута журналістыкі. Пятро Жаўняровіч кіраваў працэсам, а я вучыўся і дапамагаў яму. Першай абаранялася Кацярына Забела. Яна з Ракава. Зямлячка.

Я ўпершыню ў сваім жыцці ставіў адзнакі ў студэнцкую залікоўку. Зямлячцы паставіў дзявятку. У яе была праца пра нашу раёнку «Працоўная слава». Другой дзяўчыне — васьмёрку, а трэцяй — дзясятку. Чацвертая студэнтка не прыйшла на абарону. Пятро сказаў, што цяпер яна павінна будзе шукаць мяне і, калі нават усё зробіць па курсавой на выдатна, я павінны ёй паставіць ніжэйшую адзнаку, бо праца зробленая не ў тэрмін...

Пятро Жаўняровіч апавёў пра тое, як студэнты з сеціва спісваюць курсавыя і, перакладаючы іх з рускай на беларускую мову праз гугл, трапляюць у камічныя сітуацыі. Найбольш пасмяяліся з курсавой, дзе старонка з заключэннем была пазначаная словам «Зняволенне».

***29.11.2014***

Алесь Квяткоўскі прапанаваў разам з'ездзіць у Гарадскую мастацкую галерэю твораў Леаніда Шчамялёва. Там працуе выстава ягоных карцін «Зімовыя сны пчол». Паехалі. Далекавата ад майго дома, але не шкадую, што пабыў у галерэі. Сабралася крыху людзей, якім у мароз захацелася памаляваць першы снег пад наглядам Алеся. Сярод маладых мам з дзецьмі быў Вітаўт Чаропка. Ён мне падараваў сваю новую кнігу «Геркулес, Руды і Пярун (Радзівілы-пераможцы)». Перад тым, як распачалося маляванне, я пачытаў цыкл хоку «Зімовае». Пры сталах, якія былі састаўленыя маладзіком, сядзела дванаццаць мастакоў, як дванаццаць апосталаў. Усе малявалі, а я сядзеў каля Чаропкі і натхняў яго ўспамінамі пра нашыя маладыя гады. Алесь Квяткоўскі хадзіў кругамі каля стала і падказваў, як трэба маляваць. Гледзячы на яго, мне чамусьці ўзгадаўся Астап Бэндэр, які даваў сеанс аднachасовай гульні ў шахматы ў вёсцы Васюкі. Я пра гэта сказаў Вітаўту, і ён запытаўся: «А дзе Панікоўскі?» — «Ён каля цябе сядзіць!» — адказаў я. Калі скончыўся наш пленэр, Вітаўт падпісаў сваю работу «Ранні снег» і падараваў мне. Развітваючыся з гаспадыняй галерэі Крысцінай Лядскай, прапанаваў, пакуль працуе выстава Алеся, яшчэ раз зладзіць падобны пленэр. Супраць не было нікога...

З Людай глядзелі фільм. Адзін з эпізодаў апавядае пра фотавыставу, на якую прыйшла карэспандэнтка. У час

размовы, стоячы каля фотаздымка, дзе кат расстрэльвае ахвяру, арганізатар выставы запыталася ў журналісткі: «А вы ў глыбіні душы на якім месцы хацелі б быць: на месцы ахвяры ці ката?» Дзяўчына не адказала і пакінула памяшканне. Люда паўтарыла пытанне для мяне. І я адказаў: «Пры гэтым пакаранні, што на здымку, быў трэці чалавек — фатограф...»

Хто не мерзне, той Граждан...

***30.11.2014***

У Алеся Квяткоўскага ёсць цыкл карцін «Пагоня на Грунвальд». Адна з работ цыкла прысвечаная Вітаўту Чаропку. Ён сядзіць на кані на чале першай харугвы. Учора на пленэры ў галерэі Шчамялёва, узгадаўшы пра гэтую карціну, я сказаў Вітаўту, што Алесь, малюючы яго, прамовіў: «Чаропка будзе ехаць у першай харугве. Яго першым і заб'юць!» Пачуўшы гэта, Вітаўт, смеючыся, замахаў рукамі: «Не хачу быць у першай харугве! Хачу ў абоз! Я жыць хачу!»



* * *

Кідаеш у неба, нібыта ў магілу,
Жаўцюткае лісце — асенні пясок,
І сонца хаваецца за небасхілам,
Дзе хмара — лятучы магільны грудок,
Які хутка знікне, асыплецца снегам.
Са снегу пачнецца нанова жыццё,
І свет зноў напоўніцца плачам і смехам,
І дрэвы ўпрыгожацца белым лісцём.
І ты азірнешся, не ўбачыш дарогу,
Якая нядаўна яшчэ тут была.
За ўсё, што ты любіш, адчуеш трывогу,
Якая засела ў табе, як страла,
Што доўга ляцела праз тыя магілы,
Дзе бацька і маці, вяскоўцы, сябры,
Дзе сонца схавалася за небасхілам
І будзе, пакуль ты не дойдзеш гары,
З якой ты пабачыш далёкія далі,
Дзе людзі таксама не ў танцах жывуць.
З бярозаў лісты на зямлю пазляталі,
Але шчэ праз сэрца лятуць і лятуць...

**3.11.2014**

* * *

...Заснуць і прачнуцца ў далёкім стагоддзі,
Дзе будзе ўсім добра і будзе твой край
Краінай тваёй, дзе ўсе людзі ў народзе
Жывуць, бы ў раі, а не мараць пра рай,
І ўжо не гавораць пра родную мову,
А проста на мове гавораць усе.
Заснуць і прачнуцца... Жаданне — не нова,
Яно, як жаданне прайсці па расе,
Калі ты сядзіш у сваім кабінеце,
Нібыта ў акопе, сядзіш за сталом.
І сонца табе, нібы лямпачка, свеціць
Праз шкло, а магло б разлівацца цяплом
Па полі, па лузе, па рэчцы, па лесе,
Дзе ты ўжо не быў амаль тысячу год.
І думка пра волю ў мазгі твае лезе,
Сляпенькая думка, нібы чорны крот.
Заснуць і прачнуцца... І ты засынаеш,
Але прачынаешся тут і цяпер.
Мо гэта і шчасце? Але ты не знаеш,
Бо ты не паэта, бо ты — інжынер...

**6.11.2014**



* * *

Чырвоны воўк ідзе па снезе белым,
Як сонца, што зрабілася ваўком,
У снег упаўшы з небакраю смела,
Агонь і дым рассыпаўшы кругом.

Ты не баішся гэтую звярыну,
Бо ты і сам, як невядомы звер,
Які сваю каханую пакінуў
І смерць сваю шукае ўжо цяпер.

Чырвоны воўк з табою размінецца
І пойдзе ў лес, нібы ў свой белы Храм,
І ноч, нібы ваўчыны плач, пачнецца
І ты, як белы воўк, завыеш сам...

**6.11.2014**

* * *

Калі снегам мой дом замяцецца,
У снягах прападзе цэлы свет,
Што маёю Радзімай завецца.
Толькі крыж на высокай царкве
Будзе бачны над снегам здалёку.
І па ім я пазнаю свой край,
І вярнуся дадому я лёгка,
Бы вярнуся ў няздзейснены рай,
Дзе ўсё белае, нібы са снегу,
Што ляціць на мой дом і ляціць
З таго дня, як я з дому паехаў,
Каб свой дом яшчэ болей любіць...

**22.11.2014**

## УСПАМІН ПРА ЛІТІНСТЫТУТ

*Людміле*

Іголкай Астанкінскай вежы
Працятае неба, й дажджы
Змываюць дарогі і межы
Да ўчора нявольнай душы,
Якая ў табе, як у клетцы,
Праз вочы глядзела на свет
І рада была кожнай кветцы,
І кожнай шчэ цэлай царкве.
А сёння душа, як маланка,
У Бога лятае ля воч,
Каб заўтра зноў быць паланянкай
І вершамі плакаць уноч...

**25.11.2014**

## У ГАЛЕРЭІ ЛЕАНІДА ШЧАМЯЛЁВА

карціны як вокны
у свет дзе час спыніўся
як снег які ўпаў на зямлю
дзе неба адлюстроўваецца ў вадзе
а вада адлюстроўваецца ў небе
куды ўрастаюць крыжы на Храмах
як малітвы што сталі крыжамі

і хлеб на стале
як адна з чарапах
на якіх трымаецца зямля
дзе чорныя пляшкі з віном
як чорныя свечкі
якія чакаюць свайго часу
як аголеная дзяўчына
на белай прасціне
як на прыстані з назвай «Каханне»
куды вядуць усе дарогі
а тры сланечнікі сумуюць
бо іх пакінуў чацверты
і знік сярод чорных дрэў
што як чорныя калоны
яшчэ недабудаванага палаца
куды на конях едуць людзі
не палохаючы варон на снезе
праз які плыве човен

і стаяць пад чорнымі парасонамі
тры мужчыны
і чакаюць нас
як з мора пагоды

**29.11.2014**



## *Снежань*

***1.12.2014***

Нафта чорная, і яе эксплуатуюць, як негра падчас рабства...

***2.12.2014***

Удзельнічаў у прэзентацыі трэцяй кнігі «Авантуры Пранціша Вырвіча» Людмілы Рублеўскай. Дзякуючы Ярашу Малішэўскаму і ягоным музычным інструментам, у «Кніжным салоне» быў створаны антураж XVIII стагоддзя і я за колькі хвілінаў забыўся, што на вуліцы мароз і вечар. У імпрэзе ўдзельнічалі Адам Мальдзіс, Алесь Карлюкевіч, Ганна Запартыка, Ганна Кісліцына, Ганна Бутырчык, Дзяніс Мар-

ціновіч, Андрэй Жвалеўскі, Алег Грушэцкі, Наста Грышчук, Ксенія Шталянкова, дырэктар «Кніжнага салона» Ала Зміёва. Падчас прэзентацыі адбыўся віртуальны кастынг на ролі галоўных герояў «Авантур». Бальшыня прысутных выказалася за тое, каб у цыкла пра прыгоды Вырвіча быў працяг. Прапаноўвалі пазбавіцца ад жонак і нявест галоўных герояў рознымі садысцкімі спосабамі. Адаслаць герояў у Рым, Амерыку, Афрыку. Зрабіць сенатарамі, піратамі, вандроўнікамі. На працягу ўсёй прэзентацыі я адчуваў няёмкасць праз тое, што некаторым Людмілiным чытачам давялося стаяць болей за дзве гадзіны, бо, на жаль, у кнігарні ім не хапіла крэслаў...



***3.12.2014***

Баліць сэрца. Дрэнна, што баліць, але і добра, бо яшчэ баліць...

***4.12.2014***

Па выдавецкіх справах хадзіў у мастацкі ліцэй, які ў свой час скончылі мае дачка і сын. Апошні раз там быў тры гады таму. Паўгадзіны размаўляў з дырэктарам Ліліяй Аляксееўнай. Потым паглядзеў дзіцячыя малюнкі, што вісяць на калідорах. Праходзячы каля кабінета, у якім першы клас заканчвалі Вераніка і Максім, сустрэў іх першую настаўніцу Зінаіду Кірылаўну. Абняліся, пацалаваліся. Зінаіда Кірылаўна заплакала. Паўспаміналі, паўздыхалі. Я заплакаў на вуліцы...

Сёння праходзіў першы дзень паўфінальнага адбору на «Еўрабачанне — 2015». У ім удзельнічаў дзявочы гурт «F!B!», дзе на бас-гітары грае мая дачка Вераніка. Прайсці ў фінал ім, відаць, не свеціць, але дзяўчаты малайцы, што не чакаюць, калі нехта прыйдзе да іх на рэпетыцыю і за рукі пацягне на вялікую сцэну. Сфатаграфаваліся з Аляксандрам Рыбаком. А можа, ён з імі...

***5.12.2014***

Бойцеся грaжданоў, якія рукапісы ў вялікіх торбах прыносяць...

Снілася родная хата, замеценая снегам. Крумкач сядзеў на коміне, як на чорнай поўні...

***6.12.2014***

Мароз. У заснежаным скверы ціха. На лаўцы ляжыць парожняя пляшка. Яна, як тое, што толькі і засталося ад чалавека...

***7.12.2014***

Сніў вёску. Родная хата. Усе дома. Да нас прыйшла ў госці мая стрыечная сястра Ірына з малымі дзецьмі. Яе меншы сын скраў у майго бацькі гаманец з грашыма. Я заўважыў, але прамаўчаў, думаючы, а што будзе далей. Праводзячы гасцей дадому, запытаўся ў хлопчыка: «Навошта ты дзедаў гаманец узяў?» Малы апусціў галаву і дастаў з кішэні скрадзенае, каб аддаць. «Забірай сабе! Табе болей грошы патрэбныя!» — сказаў бацька і пайшоў у бок Ракава. 25 снежня будзе два гады, як памёр мой бацька...

***9.12.2014***

У 1987 годзе споўнілася 100 гадоў з дня народзінаў Алеся Гаруна. Акурат у той сакавіцкі дзень, калі адзначаўся юбілей паэта, супрацоўнік часопіса «Маладосць» Алесь Гаўрон па п'янцы трапіў у міліцыю. Старшы сяржант, які складаў пратакол, раптам перапыніў сваю пісаніну і запытаўся: «Гэта ваш юбілей сёння ўся Беларусь адзначае?» — «Мой!» — упэўнена адказаў Гаўрон. «А што ж вы маўчыцё?! Мы вас дахаты даставім!» — Усхапіўся міліцыянер і загадаў адвезці Алеся, куды ён скажа...

***10.12.2014***

З таго часу, як выпаў снег, амаль штораніцу дарогаю на працу каля кнігарні «Светач» сустракаю сініцу. Яна ходзіць сцежкаю і не ўцякае ад мяне. Можа, гэта нейкі паэт, які, сканаўшы, стаўся сініцай?

***11.12.2014***

Кожнаму з нас даецца магчымасць быць шчаслівым, а не шчасце...

На працы. Гляджу з вакна, як лёдам з аднаго берага Свіслачы на другі пераходзяць хлапчукі. Адзін з іх — я...

***12.12.2014***

Быў у майстэрні скульптара Івана Міско. Пра яго Міхась Кенька і Зіновій Прыгодзіч ствараюць кнігу. Ужо шмат зроблена. Міхась Паўлавіч і Зіновій Кірылавіч абяцалі да канца студзеня здаць рукапіс. Сам Іван Акімавіч працуе над скульптурай Льва Сапегі. У час нашай размовы нячутна адчыніліся дзверы і перад намі з'явіўся невысокі з сівой вялікай барадой стары. Павітаўся і, адмовіўшыся ад запрашэння далучыцца да вячэры, пакінуў нас. «Гэта скульптар Коля Бельскі. Вучань Азгура. Яму ўжо пад дзевяноста. Ні кватэры, ні майстэрні. У яго яшчэ захоўваецца дыпломная работа ў пластыліне. Нядрэнная праца. Я колькі разоў казаў яму, каб давёў задуму да канца. Ён толькі ўсміхаецца. Ні разу не быў афіцыйна жанаты, а дзяцей цэлая купа. Бадзяецца. То ў адной каханкі пажыве, то ў другой, то пабудзе ў дзяцей. Яго мы завем Леў Талстой...» — Іван Акімавіч крыху апавёў пра нечаканага наведвальніка. Як пачало цямнець, да нашай кампаніі далучыліся егіпцяне — Самір і яго сябра, а Кенька і Прыгодзіч пакінулі нас. За паўгадзіны прыйшла кампазітар Ганна Казлова са сваім вучнем Уладам. Хлопец нам паспяваў і пабег на працу — увечары зарабляе грошы ў нейкай рэстарацыі. Гадзіны дзве размаўлялі пра Егіпет, пра Бога і мастацтва. Дамоў вяртаўся з пытаннем: «Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?»

Сама густа населенае памяшканне ў Мінску — гэта майстэрня скульптара Івана Міско...

***15.12.2014***

Амаль усе савецкія пісьменнікі паўміралі, а тыя, што яшчэ не сышлі ў лепшы свет, толькі і целяпаюцца ў нашым часе, як гузікі на гнілых нітках на паношаным шынялі, а не ствараюць шэдэўры, якіх чакае савецкі чытач. Савецкі чытач яшчэ жывы, і яму хочацца савецкіх твораў, якія яму зразумелыя і родныя, як сусед, у якога здохла карова. Новых савецкіх шэдэўраў няма і ўжо ніколі не будзе. А новая, беларуская, літаратура ёсць, але яна яшчэ цалкам не выйшла з савецкага ценю. Ёсць і новы, беларускі, чытач, і ён ужо ў кнігарні...

***18.12.2014***

Чайкі лётаюць над Свіслаччу, як снег, які не ведае куды яму ўпасці...

***20.12.2014***

Зося Кустава за год падрыхтавала чытанку для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў «Зярнятка». Звярсталі. І тут мы знайшлі ў вершы Уладзіміра Караткевіча «Заяц варыць піва» крамолу — спойванне старымі зайцамі зайчанят. Кніжка ж для малых дзяцей! Давялося зняць верш. Утварылася пустое месца. Чым запоўніць? Перавёрстваць няма часу. Да верша Караткевіча яшчэ і малюнак ёсць. Зняўшы яго, створым яшчэ адну пустую старонку. Пачухаўшы патыліцу, я ўзяўся напісаць верш да малюнка, на якім заяц варыць піва. Мастак піўныя куфлі перамаляваў на кубкі, з якіх цяпер зайцы п'юць квас. А я напісаў верш пра тое, як зайцы адзначаюць сабраны імі багаты ўраджай на сваім агародзе. У верш увёў радкі «Квасу папіўшы, зайцы заспявалі Песню пра моркву, пасля станцавалі», каб яны нагадвалі мне і Зосі Куставай, што на гэтым месцы быў верш Караткевіча «Заяц варыць піва».

Учора ўвечары з Маладзечна затэлефанаваў Міхась Казлоўскі і паведаміў сумную навіну — на 73-м годзе жыцця памёр пісьменнік Янка Галубовіч, які пісаў для дзяцей. Яшчэ на аднаго шчырага беларуса стала меней у нашай краіне. Адразу ж узгадалася Ракуцёўшчына, дзе апошніх гадоў пятнаццаць штовясну на дзень памяці па Максіму Багдановічу збіраліся маладзечанскія пісьменнікі, краязнаўцы, мастакі, супрацоўнікі бібліятэк. З Мінска прыязджаў я з сябрамі, але пераважна адзін. Збіраліся на станцыі Уша і потым пехатою ішлі ў Ракуцёўшчыну. Ян Янавіч (гэтак яго называў Міхась Казлоўскі, а за ім і ўсе астатнія) звычайна адставаў ад моладзі, бо балела сэрца, і нярэдка ў фальварак мы (Казлоўскі, Галубовіч і я) прыходзілі апошнімі. Дарогаю размаўлялі пра нашую родную Віленшчыну, пра літаратуру, пра жыццёбыццё. Ян Янавіч на ўсё меў сваю думку і не баяўся яе сказаць. Часцяком і на мяне «наязджаў» па выдавецкіх справах. Казаў шчыра, але так, што на Яна Янавіча немагчыма было пакрыўдзіцца. Ён любіў Вязынку. Ён любіў Купалу і землякоў. Ён не лез на сцэну, каб выступіць, каб «засвяціцца», але ён ніколі не адмаўляўся ад сустрэч з чытачамі. Я з ім не сябраваў, але мы з ім былі землякамі. Незадоўга перад смерцю Ян Янавіч папрасіў жонку, каб, калі ён памрэ, пахавала ў Дубравах. З нядзелі сярод маіх прадзедаў, дзядоў і аднавяскоўцаў будзе спачываць пісьменнік Янка Галубовіч...

***21.12.2014***

Снегу няма. Сонца няма. Настрою няма. Зіма...

***22.12.2014***

Сёння самая доўгая ноч. Доўгая, як спадніца ў манашкі...

На Свіслачы пад дрэвамі качкі, як камякі апалай лістоты...

***25.12.2014***

З бояззю чакаю вечара. Мне мусяць сёння патэлефанаваць і сказаць: «Гэта звоняць з Ракава. З бальніцы. Ваш бацька памёр. Заўтра прыязджайце і забірайце...» Мінула два гады...

Знайшоў сярод чарнавікоў:

«Бібліятэка — гэта скарбніца, дзе захоўваюцца залатыя Словы нашай нацыі.

Бібліятэка — гэта наш Рым, у які ў кожнага з нас павінная быць свая дарога.

Бібліятэка — гэта адзін з вялікіх кітоў, на якім трымаецца наша адукацыя.

Бібліятэка — гэта мара кожнага дзіцяці, якое навучылася чытаць.

Бібліятэка — гэта цэнтр сусвету беларускага Слова.

Бібліятэка — гэта сонца ў нашых кватэрах, якое ніколі не заходзіць.

Бібліятэка — гэта жыватворная крыніца святла, якая напаўняе нашыя душы Верай, Надзеяй і Любоўю.

Бібліятэка — гэта наша мінулае, наш сёняшні дзень і наша будучыня.

Бібліятэка — гэта школа, дзе ты сам вучань і сам настаўнік.

Бібліятэка — гэта дарога да Беларусі, пра якую мы марым.

Бібліятэка — гэта наша вечнасць.

І прыходзім мы ў бібліятэку з любоўю і павагай, і бібліятэка прыходзіць у нашыя сэрцы з любоўю і павагай».

***26.12.2014***

З Людай, сястрой Валяй і ейным мужам Віцем ездзілі на Ракаўскія могілкі адведаць бацькоў...

За кіламетры два перад Ракавам нечакана пабачылі нядаўна выразаны лес і вывернутую экскаватарамі зямлю — будуецца новая кальцавая дарога вакол Мінска. Уражанне такое, нібыта не ў той бок паехалі. Далей праз 20 кіламетраў мае Пугачы...

Дарога да Пугачоў (там, дзе за саветамі не паклалі асфальт — кіламетры тры) уся ў калдобінах. Усё наваколле прысыпана снегам, нібыта адумысна зіма пастаралася, каб людзям было ехаць весялей...

Сажалкі замерзлыя. Нікога на іх няма, але мне бачацца мае школьныя сябры, з якімі я гуляю ў хакей...

За новым плотам наша старая хата стаіць сярод яблынь, нібыта хаваючыся...

На зямлі мерзлыя яблыкі, як з каляровага шкла...

Завёў насценны гадзіннік. І ў хаце пацяплела...

У Ракаве на могілках светла і калядна...

Увесь час, які мы былі ў дарозе да бацькоў і ад іх, свяціла сонца. Раз-пораз нам дарогу пераляталі птушкі. Шчаслівыя, як мы...

Сніў Пугачы. Навокал сонечна. Дома бацькі. Толькі што пасадзілі бульбу. Я збіраюся ў Мінск. Бацька пытаецца, калі прыеду выбіраць. Кажу, што буду ў пятніцу. Субота і нядзеля выходныя, а панядзелак, аўторак і сераду вазьму на працы за свой кошт. Кажу і думаю, што выбраць бульбу паспеем і за тры дні, калі пачаць у пятніцу, а тады ў аўторак і сераду проста пабуду з бацькамі. Сёння вось і адведалі бацькоў на Ракаўскіх могілках...

***28.12.2014***

Неба за ноч замерзла, і птушкі ў нашым двары ходзяць па зямлі, а калі ўзлятаюць, то не вышэй за шматпавярховікі...

Увечары ў «Цэнтральнай» кнігарні разам з Людмілай Рублеўскай і Алесем Камоцкім прэзентаваў кнігі выдавецтва «Мастацкая літаратура». Да нас падышоў Адам Глобус. Маці Валярыны Куставай, якая арганізоўвала прэзентацыю, пачаставала Глобуса памаранчыкамі. Ён хацеў узяць адзін, але яна настойвала частавацца, і Валодзю давялося ўзяць два. З фэйсбуку я даведаўся, што потым адзін памаранчык Глобус падараваў (усё ж спатрэбіўся другі!) на тралейбусным прыпынку Кірылу Дубоўскаму. З прапанаваных ён абраў

меншы. Сціплы. У кнігарні не было шматлюдна, але нейкі час да Людмілы стаяла чарга набыць трэцюю кнігу «Авантур Пранціша Вырвіча».

***30.12.2014***

Раніца. На ўсходзе малінавае неба за дамамі. Каляжанка, гледзячы ў вакно, кажа: «Нібы рэвалюцыя распачалася! З-за маўзалея ўзыходзіць сонца...»

Гадоў дваццаць таму адзін кампазітар, які жыў каля Чырвонага касцёла, зімовым вечарам выйшаў на вуліцу. Навокал ні машын, ні людзей. І раптам малады чалавек пабачыў, як з неба на пляц перад Храмам апускаецца залаты горад. «Што гэта такое?» — прашаптаў кампазітар і ўгледзеў за плотам, дзе ішло нейкае будаўніцтва, незнаёмых людзей. Сярод іх малады чалавек пазнаў пісьменніка Астроўскага. «Таварыш Астроўскі, што гэта такое?» — запытаўся кампазітар у драматурга. «Гэта залаты Мінск! Яго могуць бачыць толькі геніі! Калі вы бачыце гэты горад, то вы геній!» — адказаў Астроўскі і знік. З таго зімовага вечара мінула гадоў дваццаць. І сёння, выступаючы перад канцэртамі, кампазітар апавядае пра залаты горад, які сышоў з неба каля Чырвонага касцёла...

* * *

Разбіўшы неба, ты рассыпаў зоры,
Нібы вуголле, голымі рукамі
Па дымным і заснежаным прасторы,
Дзе спяць вятры абняўшыся з ваўкамі.

І светла стала на зямлі самотнай,
Дзе ноч была бясконцай, як дарога
Праз гэта поле ад сядзібы роднай
У белы свет да шчасця і да Бога.

А шчасце тут, дзе сёння снег, як попел,
Які застаўся ад згарэлых зорак,
Якімі любаваліся ў Еўропе,
Як пырскамі шампанскага, дзе корак

Няшчаснай поўняю прымерз да неба,
Разбіўшы неба, як вакно ў той хаце,

Куды аднойчы ўсім дайсці нам трэба,
Бо кожнага там з нас чакае маці...

**6. 12. 2014**

* * *

Не хацеў бы я з Вамі сустрэцца
Ні на вулцы старой, ні ў метро,
Бо маё Вы растопчаце сэрца
І напоўніце дымам нутро.

Я хачу зноў у Вільню падацца
І па вулках, як прывід, хадзіць,
Які выйшаў з начнога палаца,
Каб свой горад шчэ больш палюбіць.

Не хацеў бы і з ім я сустрэцца,
Бо ён можа за Вільню спытаць
І мячом пранізаць маё сэрца,
Як маланка нябёсную гладзь.

Але ўсё ж мне сустрэцца тут з Вамі
І на вулцы старой, і ў метро.
І нябёсы ўсміхнуцца над намі,
Нібы ўбачаць каня ў паліто...

**15. 12. 2014**

* * *

Коцяць вятры па асфальце нулі
Шклянак шарготкіх, што з пластыку створаны.
Мы з гэтых шклянак з табой не пілі,
Як сярод чорных, мы белыя вораны.
Хутка снягамі накрыецца свет,
Шклянкі прымерзнуць да снегу, дзе неба,
Быццам са снегу, дзе поўня, як след,
Што пасля п'янкі застаўся, і трэба,
Каб гэты след зноў снягі замялі
Ці заклявалі галодныя вораны,
І каб зноў поўнымі сталі нулі
Шклянак шарготкіх, што з пластыку створаны...

**15.12.2014**

# *СТУДЗЕНЬ — СНЕЖАНЬ, 2015*

## *Студзень*

***1.01.2015***

З Людмілай Новы год сустрэлі на Кастрычніцкай плошчы сярод моладзі і замежнікаў. А пасля пайшлі да коней ля Ратушы, каб сфатаграфавацца. Вазок ужо быў заняты. У ім сядзелі бард Раман Абрамчук з сяброўкай і Каляднай зоркай. Спадзяюся, што Раман і ягоная сяброўка дачакаліся часу, калі конікі ля Ратушы ажылі, і яны на іх аб'ехалі ўвесь святочны горад...

Там цёплае мора, дзе нас няма...

***2.01.2015***

Ноч яшчэ доўгая, як дарога дамоў, дзе няма бацькоў...

***3.01.2015***

Хадзілі на фартэпіянны канцэрт. Зала на чацвертым паверсе філармоніі была амаль поўная. Слухачы — кампазітарчыны студэнты (чалавек семдзесят), бабулькі і мужыкоў дзесяць майго ўзросту. Ледзьве выседзеў першую гадзінную частку. Музыка не кранула. Яшчэ да таго, як кампазітарка абвесціла дзесяціхвілінны перапынак, мы з Людай вырашылі пакінуць гэты музычны «Тытанік». Выйшлі з залы. І пабачылі, што моладзь, а следам і старэйшыя адзін за адным сыходзяць з канцэрта. Мы толькі паспелі сходамі спусціцца на адзін паверх, як пачулі крык кампазіткаркі: «Стойце! Стойце!! Яшчэ я не скончыла граць! Стойце!!!» Ад душараздзіральнага крыку ўсе, хто ішоў, пабеглі ўніз, нібыта пачулі: «Пажар! Ратуйцеся, хто можа!» На сходах другога паверха натоўп ледзьве не збіў з ног народнага артыста СССР Эдуарда Ханка, які, як помнік самому сабе, спакойна ішоў на другую частку канцэрта. У шатні філармоніі было поўна людзей. Усе

хапалі свае курткі, футры. Смеючыся і на хаду апранаючыся, разам з моладдзю мы пакінулі музычны «Тытанік».

***4.01.2015***

Перад сном чытаў «Дзеяслоў» № 73. Спадабалася апавяданне Сяргея Абламейкі «Здарэнне на Дзяды». Праўда, на маю думку, твор трэба было скончыць радкамі: «Ад нечаканасці Сяргей прымружыўся, а калі расплюшчыў вочы, вакол нікога не было. Пісьменнікі зніклі...» Падобная гісторыя, якую апісаў Абламейка, здарылася са мной восем гадоў таму. Я тады яшчэ выпіваў. На Дзяды да мяне з Маладзечна прыехаў сябра Міхась Казлоўскі з маладым нашым земляком Сяргеем Лескецем. Набыўшы торбу гарэлкі, мы пайшлі на Вайсковыя могілкі да Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага і Паўлюка Труса, каб сказаць ім вялікі дзякуй за тое, што яны БЫЛІ. Пакуль хадзілі ад магілы да магілы, ап'янелі. Гарэлка не скончылася. У мяне ўзнікла прапанова паехаць на Усходнія могілкі, дзе пахаваныя Уладзімір Караткевіч і Васіль Быкаў. Паехалі. Ужо было цёмна. Сцюдзёна. Пад нагамі парыпваў снег. Абход пачалі з Анатоля Сербантовіча. За паўгадзіны п'яныя ў дыміну дабраліся да Уладзіміра Караткевіча. Толькі налілі ў папяровыя келіхі гарэлкі, як сярод шуму дрэў я пачуў голас Уладзіміра Сямёнавіча: «Хлопцы, канчайце піць!» Пасля тых Дзядоў праз год я завязаў з выпіўкай, а пасля мяне і Міхась...

***5.01.2015***

Нядаўна ў майстэрні скульптара Івана Міско пазнаёміўся з кампазітарам Ганнай Казловай. Іду праспектам. Насустрач Ганна. «Добры дзень!» — кажу і чую: «Прывітанне, Шпак!»

***6.01.2015***

Месяц таму, калі пачаліся першыя сур'ёзныя маразы, у мяне з'явіўся пачатак верша:

*Мінскае мора замерзла, і снег,*
*Нібы на полі бязмежным, ляжыць.*
*Заяц па моры, як прывід, прабег,*
*Быццам шукаючы ў поля мяжы...*

Далей натхнення не хапіла. Твор замарозіўся...

*7.01.2015*

Незнаёмы горад. Бязлюдная вуліца. На тралейбусным прыпынку я паклаў на асфальт чорны парасон і пайшоў у царкву. Там шмат людзей. Ідзе служба. Пабыўшы ў Храме, паехаў дахаты. Праз пару прыпынкаў успомніў пра парасон. Выйшаў з тралейбуса. Хацеў вяртацца да Храма пехатою, але вырашыў, што тралейбусам будзе хутчэй. Вярнуўся да царквы. На прыпынку майго парасона не было. «Што ты шукаеш?» — пачуў мамін голас і пабачыў на лавачцы каля царквы маму, бабулю Ганну і бабуліну сястру Маньку. Яны былі аднаго ўзросту, гадоў па шэсцьдзясят. Усе ў чорным, як манашкі. Мой паламаны парасон сярод смецця ляжаў каля сцяны будынка, што быў побач з царквой. Я падышоў да сваіх родных. Мама паказала чорна-белы фотаздымак, на якім яна была ў гарнітуры і з узнагародамі. Узнагарод шмат. Папрасіў фотаздымак на памяць, каб паказаць сваякам. Мама дала, і я, сеўшы ў тралейбус, паехаў у вёску. Каля Ракава... я прачнуўся...

Марозам пад 20 градусаў бацька паліў печку брыкетам. І мы, дзеці, падоўгу сядзелі каля цяпла моўчкі, слухаючы агонь. Не ведаю, што чулі мае сястра і брат, а я чуў музыку і вершы...

Поўня, як адзіная цацка, што засталася на апошняй навагодняй ялінцы, якую мне ў маленстве ўпрыгожылі бацькі...

*8.01.2015*

Удзельнічаў у вечарыне страшных калядных гісторый, якую зладзіла суполка «Літаратурнае прадмесце» пад кіраўніцтвам Людмілы Рублеўскай. Дзея адбывалася ў Музеі Багдановіча ў зале, дзе экспануецца нашаніўскі перыяд жыцця і творчасці Максіма. Я раз-пораз паглядаў на дзверы, над якімі шыльда «Наша Ніва», з надзеяй, што з іх выйдзе Багдановіч і скажа: «А слабо са сваімі вершамі ў «Нашу Ніву» зайсці?»

*9.01.2015*

У бібліятэцы імя Цёткі Паэтычны тэатр «Арт. С» святкаваў «Год Беласнежнай Казы». У імпрэзе бралі ўдзел: Ірына Клімковіч, Альжбэта Малішэўская-Спрынчан, Зміцер Арцюх, Ігар Клепікаў, Максім Клімковіч, Юлія Новік, Людміла Рублеўская і гурт «Мерада». Рэй вялі Яраш Малішэўскі і Аксана Спрынчан. У сваім выступе я прачытаў верш «Каза»:

*усе белыя козы*
*злепленыя з першага снегу*
*усе чорныя козы*
*злепленыя з вуголля*
*што засталося ад вогнішча*
*каля якога грэліся пастухі*
*а ты зрабіў казу з паперы*
*на якой пісаў вершы*
*і твая каза стала*
*казкай*
*у якой жыве казёл*
*якому трэба казаць*
*што нашы калядоўнікі*
*яго не будуць вадзіць бо ёсць каза*
*якую ўсе чакаюць*
*як чакаюць цудаў*
*што адбываюцца ў казках*
*дзе амаль заўсёды знаходзіцца казёл*
*які ўсё псуе*
*яшчэ раней сапсаваўшы казу*
*якая была злепленая з першага снегу*
*чыстага і лёгкага як аблокі ў небе*
*дзе маладзік як след ад казлінага капытка*
*з якога нельга піць*
*бо можна стаць казлішчам*



***11.01.2015***

Увечары вяртаўся з цэнтра горада дадому праз вакзал. Стоячы на прыпынку тралейбуса, доўга глядзеў на электрычку на Маладзечна. У светлых вокнах вагонаў бачыліся пасажыры. Нехта з іх, відаць, едзе і да Дубраў, і да Аляхновіч, з якіх да маіх Пугачоў 10 кіламетраў. Мог бы і я паехаць, як некалі было, але цяпер там ніхто ўжо не чакае мяне...

Іду праз вечар. Снег растае. У калюзе паўз ходнікі варушацца лапікі святла з вокнаў, а ў брудным небе над горадам яшчэ датухаюць агні калядных дзён...

***12.01.2015***

Раніца. Іду на працу абледзянелым асфальтам, як небам, якое за ноч прымерзла да зямлі...

Што такое Ракаў да 1939 года? Гэта 134 крамы, 96 рэстарацыяў, казіно, бардэлі. Добрае месца для паэта...

### *14.01.2015*

У бібліятэцы Цёткі ўдзельнічаў у адкрыцці выставы «Вечаровы звон» мастачкі Надзеі Барай. Яшчэ раз пераканӑўся, што мы, супрацоўнікі выдавецтва, працуючы разам шмат гадоў, праз працу, якую не ўсе цэняць так, як належыць, і якой аддаем амаль усе свае творчыя сілы і натхненне, мала ведаем адно аднаго...

### *15.01.2015*

У Музеі Янкі Купалы прайшоў фінальны вечар «Фэста аднаго каляднага верша» (ужо сёмы паводле ліку), які арганізаваў і правёў Георгій Барташ. Абвяшчаць фіналістаў і пераможцаў яму дапамагала Віка Трэнас. Сябрам журы (Андрэй Хадановіч, Людміла Рублеўская, Віктар Жыбуль, Вольга Базылёва-Клімко, Ціхан Чарнякевіч, Сяргей Пукст, Наталля Капа, Віктар Шніп) давялося прачытаць каля сотні твораў пад псеўданімамі і абраць з іх 6-7 фіналістаў і свайго пераможцу фэста. Маю лепшую сямёрку ўзначаліла Адэлаіда Грубка з вершам «Хлеб Святога Антонія». Яна ж стала і наагул пераможцай усяго фэсту. Хто такая Адэлаіда Грубка? Гэта Марыйка Мартысевіч. Гэтым разам вечарына не зацягнулася. Дамоў вярнуўся а дзявятай гадзіне. У памяці застаўся крык двухгадовай дзяўчынкі: «Я не паэтэса! Я не паэтэса! Я не паэтэса!» Так малая адказала нам, паэтам, калі мы, пабачыўшы яе побач, адзін за адным сказалі: «Паэтэса!»

### *16.01.2015*

Скончыўся працоўны тыдзень. Адчуванне, як балотам падмерзлым блукаў...

### *17.01.2015*

Стаўся да чалавека так, як хочаш, каб ён да цябе ставіўся. Гэтым правілам карыстаюся болей за трыццаць гадоў. І мне ў працоўных характарыстыках пішуць, што я надта добры з падначаленымі і гэта мая асноўная загана...

Гледзячы на галубоў на даху суседняга дома, узгадаў радкі рускага паэта Мікалая Старшынава (1924—1998):

*Не спугните... Ради Бога, тише!*
*Голуби целуются на крыше.*
*Вот она, сама любовь, ликует,—*

*Голубок с голубкою воркует.*
*Он глаза от счастья закрывает,*
*Обо всем на свете забывает...*

З Мікалаем Канстанцінавічам я быў знаёмы. А пазнаёміліся мы падчас майго навучання ў Літінстытуце. Увесну 1986 года мой сябра Генадзь Суздалеў прапанаваў з'ездзіць у выдавецтва «Молодая гвардия» і разведаць наконт выдання кніжак. Генадзь захапіў з сабой рукапіс паэзіі, а я пару дзясяткаў вершаў у перакладзе на рускую мову. Адразу зайшлі ў рэдакцыю альманаха «Поэзия», дзе галоўным рэдактарам працаваў Мікалай Старшынаў. За хвілінаў пятнаццаць у кабінеце сабралася чалавек дзесяць паэтаў. Пілі каньяк. Чыталі вершы. Я чытаў па-беларуску — Старшынаў папрасіў. Ён вельмі любіў Беларусь і беларусаў. Пасля нашай сустрэчы мае вершы былі надрукаваныя ў некалькіх зборніках. Мікалай Канстанцінавіч прапаноўваў прынесці рукапіс для «Молодой гвардии», а я, абяцаўшы, не зрабіў гэтага...



***18.01.2015***

У філармоніі 20 студзеня Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зніч» а 19 гадзіне пачне святкаваць 25-годдзе тэатральна-канцэртнай дзейнасці. Напачатку монаспектакль у выкананні Галіны Дзягілевай, а ў другім аддзяленні — рэтраспектыва монаспектакляў і выступы сяброў тэатра. Імпрэзу вядзем Людміла Рублеўская і я. Сёння ўвечары ў філармоніі з Галінай Аляксееўнай узгаднілі сцэнар. Да філармоніі прыехаў аўтобусам, каб сустрэцца з Людмілай, якая гуляла ў горадзе з дачкой. На прыпынку ў задуменні сядзеў пісьменнік Уладзімір Мехаў. Яму ў сакавіку будзе 87 гадоў. Гледзячы на Мехава, я сам сабе сказаў: «У цэнтры Мінска сядзіць «ЛіМ» XX стагоддзя, і ніхто не здагадваецца пра гэта...» Людмілы яшчэ не было, і я падышоў да Уладзіміра Львовіча, павітаўся. Ён чакаў сяброўку, з якой сабраўся на канцэрт класічнай музыкі. Паўспаміналі, паўздыхалі, пажартавалі. За хвілінаў дзесяць да Мехава прыйшла сяброўка, а за пятнаццаць з'явілася Людміла...

***19.01.2015***

На плошчы Перамогі сустрэў Міхаіла Фінберга. Сто гадоў не бачыліся. Думаў, што маэстра пройдзе міма і не пазнае мяне. Пазнаў. Заўсміхаўся. Адразу прадставіў сваймую спада-

рожніку: «Найлепшы беларускі паэт нашага часу!» Я не застаўся ў даўгу: «Гэта прыемна чуць ад найлепшага дырыжора нашай краіны!» Пастаялі, пасмяяліся, паўспаміналі, як раней было добра і музыкам, і паэтам, і кампазітарам, і дырыжорам...

***22.01.2015***

Побач з выдавецтвам будуецца дом. Ужо завершаны чацверты паверх. Уначы яго зацерушыла снегам. Будаўнікі, перад тым як працаваць, зляпілі снегавіка. Насунулі на яго зялёную каску, у якіх ходзяць толькі начальнікі, і доўгі час фатаграфаваліся. Калі фотасесія была скончаная, будаўнікі забралі ў снегавіка каску і пакінулі яго ў самоце...



***23.01.2015***

Слухаю Булата Акуджаву. Адчуванне, нібыта я на ягоным канцэрце ў ЦДЛе. Поўная зала. За дзве гадзіны амаль усе прысутныя кінуліся да сцэны, каб атрымаць аўтограф. А я з сябрамі з Літінстытута выйшаў з ЦДЛа і паехаў у інтэрнат...

***24.01.2015***

Тэлефанаваў Міхасю Казлоўскаму. Заспеў яго дарогаю ў Вішнева. Сёння там у касцёле служба ў памяць ксяндза Уладзіслава Чарняўскага. Потым будзе невялікая імпрэза ў мясцовым Доме культуры. Святы быў Чалавек!

У дварах засыпаныя снегам легкавікі, як ложкі з казкі пра прынцэсу на гарошыне...

***25.01.2015***

Стог саломы ў заснежаным полі, як узыходзячае сонца. Мы з бацькам на санях едзем да яго і, чым бліжэй, тым мне цяплей...

Патэлефанавала сястра Валя і паведаміла, што сёння на 92-м годзе жыцця а гадзіне ночы памерла цётка Шурка...

***26.01.2015***

З сястрой Валяй, яе мужам і стрыечнай сястрой Аняй ездзіў у Татары на пахаванне цёткі Шуркі...

Абапал дарогі заснежаныя палі і шэра-белыя, месцамі зялёна-белыя лясы. Вясковыя хаты, як намаляваныя...

У Татарах жыве чалавек дзесяць. Вуліца прачышчаная ад снегу, а да бальшыні хат і сцежак няма...

З Лягез прыехаў дзядзька Віця, цётка Лёдзя і Валька з Крапіўнікаў. Іх прывёз Вова (сын дзядзькі Віці). З Ракава прыехала цётка Марыя. Яе прывёз Сяргей. Каля цёткі Шуркі былі цётка Аля з дзядзькам Толем і іхныя сыны Алег і Сяргей з жонкай Светай і сынам Максімам. І яшчэ чалавек пяць вяскоўцаў...

На крыжы напісана: «Раманчык Аляксандра Міхайлаўна. 18.09.1923—25.01.2015». Я прызвычаіўся цётку называць Шуркай, і для мяне Аляксандра,— нібыта зусім іншы чалавек...

З Сяргеем цёткі Алі з'ездзілі ў Гарадок па святара. Дарогаю глядзеў на родныя палеткі. Яны сумныя, як цётка Шурка ў труне...

Ад святара даведаліся, што ў Гарадку цяпер жыве 300 чалавек. Ёсць пачатковая школа, а потым дзеці ездзяць у Аляхновічы. У маіх Пугачах 500 чалавек, а раней у Гарадку было болей людзей...

Святар малады. Усю дарогу апавядаў пра сваю паству: «У царкву мала ходзяць. Многія кажуць, што як пойдуць на пенсію, дык тады і ў царкву пойдуць. Не ўсе дажываюць да пенсіі...»

Пасля адпявання прысутныя правялі цётку Шурку да крыжа на канец вёскі, ад якога паехалі ў Пажарышчы на могілкі. Калі б не далакопы з Ракава, не было б каму і труну несці...

Могілкі вялікія. Магілы не густа. Дзе старыя пахаванні, там лес, а на новых толькі кусты і тое сям-там...

Дол выкапаны глыбокі. Дзядзьку Віцю спадабаўся: «А Ніне выкапалі толькі на метр...»

Пахадзіў могілкамі. І тут Шніпоў стае...

Цётку Шурку пахавалі каля мужа (Раманчык Уладзімір Іосіфавіч. 1915—17.06.2008), з якім яна пражыла гадоў дзесяць. Першы муж пахаваны ў Маладзечне...

З цёткай Аляй схадзілі да магіл, дзе пахаваныя ейныя свёкар са свякрухай. Шніп Рыгор Іванавіч (1903—10.05.1989) і Шніп Праскоўя Канстанцінаўна (2.08.1906—11.09.1982)...

На могілках ціха, як у Бога за пазухай...

Вярнуліся ў хату цёткі Шуркі, дзе ўжо ніколі не будзе цёткі...

Пры памінальным стале цётка Марыя зноў з пеўчымі з Ракава спявала і вяла ўсю жальбіну па цётцы. Аня папрасіла,

каб я сказаў. Сказаў, не ведаю, ці спадабалася цётцы Шурцы. Я даўно з ёй не размаўляў...

Пасля стала да мяне падышоў сусед цёткі Шуркі. «А я з вашым бацькам дваццаць гадоў кароў пасвіў! Добры быў чалавек! Мне з ім файна было! А я вас у газетах чытаю!» — абдымаючы мяне, сказаў стары. «А як вас завуць?» — пацікавіўся я. «Міхаіл Аляксандравіч Брысь! Лёгка запомніць! На ката ўсе крычаць: «Брысь!», а ў мяне прозвішча такое»,— усміхаючыся адказаў стары...

Развітаўшыся з усімі, паехалі да бацькоў на Ракаўскія могілкі. Перадалі ім паклон ад родных і знаёмых...

Вярнуўся дамоў. Сумна, як у заснежаным полі, дзе сям-там відаць лапікі зямлі і дробныя адзінокія кусты...



***28.01.2015***

Збіраемся перавыдаць «Блокадную книгу» Алеся Адамовіча і Данііла Граніна. Ранкам а дзясятай тэлефанаваў у Санкт-Пецярбург. Дачка Марына папрасілаператэлефанаваць праз пару гадзін... Данііл Аляксандравіч, якому пайшоў 97-мы год, сам падняў слухаўку і без затрымак адказаў на ўсе мае пытанні. Цікавячыся, на якой мове будзем перавыдаваць «Блокадную книгу», Данііл Аляксандравіч сказаў, што ён не супраць, калі з цягам часу мы выдадзім і беларускамоўны варыянт...

***29.01.2015***

Сёння раней звычайнага вярнуўся дахаты. Вячэраю. І раптам бачу: у нас яшчэ навагодняя ялінка стаіць...

Прыязджаў Міхась Казлоўскі. Набраў у кошт ганарару кніг «Язэп Драздовіч. Праз церні да зорак». Гартаючы фаліянт, які ён укладаў, Міхась узгадаў 1984 год, калі, жывучы ў Маладзечне ў інтэрнаце, ён стварыў мастацкую гасцёўню імя Язэпа Драздовіча. Тады ў Міхася была невялікая бародка і ён быў падобны да мастака. Нярэдка, калі сустракаўся з некаторымі дзяўчатамі, чуў воклічы: «Прывітанне, Язэп Драздовіч!» Міхасю такое чуць не заўсёды падабалася, і неяк адной знаёмай ён заявіў: «Зіна! Зіна! Каб Бог даў мне зрабіць для Беларусі палову таго, што зрабіў Язэп Драздовіч, я быў бы задаволены, а пакуль што мне да Драздовіча вельмі далёка!» Сёння, гледзячы з любоўю на кнігу, Міхась сказаў: «Не ведаю, што я зрабіў добрага ў гэтым жыцці, але вось кнігу пра Язэпа Драздовіча зрабіў!»

***31.01.2015***

Глядзелі скандынаўскі фільм «Анёлы сусвету». Дзея адбываецца ў Ісландыі, у бальніцы. Фільм дэпрэсіўны. Узгадалася Ракаўская бальніца і яе пацыенты. У палаце, дзе ляжаў бацька, стаяла тры ложкі. Бліжэй да бацькі ляжаў Вова, мужчына гадоў сарака пяці. З ім можна было паразмаўляць. Далей каля вакна, захутаўшыся ў коўдру, падчас маіх прыездаў заўсёды спаў незнаёмы. Ён неўзабаве памёр. Вова хадзіў калідорамі бальніцы, выходзіў на вуліцу. Неяк пайшоў у цэнтр Ракава, дзе так напіўся, што толькі ў Валожыне змаглі яго адратаваць. Пасля гэтага Вова сядзеў спакойна і нікуды не выходзіў з палаты. Размаўляў з маім бацькам. Каб хворым было весялей, я прывёз радыё, якое Люда даўно набыла ў Берліне падчас паездкі на Дні беларускай літаратуры. Калі бацька памёр, мы нічога з бальніцы не забралі. Засталося і нямецкае радыё. Хто яго там цяпер слухае і наагул ці стаіць яно ў палаце?..

* * *

Марудная, як цень, вада марская
Сцякае з валасоў, нібы з пяску,
І ў беразе, дзе ты ляжыш, знікае,
І ў небе сонца, як на валаску,
Вісіць над морам, дзе бялее ветразь
І чорны човен стомлена плыве
Насустрач невядомасці і ветру
У накірунку тым, дзе Беларусь жыве...

**10.01.2015**

## *Люты*

***1.02.2015***

Раптам засвяціла сонца. І зіма стала такой, як у маленстве, светлай і роднай...

***2.02.2015***

Заходзіў Вячаслаў Рагойша. Набыў кніжку Язэпа Драздовіча. Нагадаў мне, што сёлета ў нас на радзіме два юбілеі — Валожына і Ракава. Сёння ж я ў сваіх паперах

знайшоў верш, напісаны 4 кастрычніка 2002 года і прысвечаны землякам:

*Што нам Парыж далёкі, што нам Кракаў*
*І Амстэрдам, і Лондан той сівы.*
*Мы маем гонар свой, мы маем Ракаў,*
*Дзе ўсе святлом касцёла і царквы*
*Асветлены і вечнасці слугуюць,*
*Ствараюць слову роднаму прасцяг,*
*І словы тут з анёламі сябруюць,*
*І не губляюцца ў сівых вяках.*
*Мы маем гонар свой, мы Ракаў маем,*
*І новы дзень не кане ў небыццё,*
*Бо гэты дзень, нібыта Храм, ствараем,*
*І будзе ў ім, нібыта Бог, жыццё...*



З гэтым вершам я выступаў на Ракаўскіх чытаннях, што праводзіў Вячаслаў Рагойша ў Ракаўскай школе. Тады сярод гасцей прысутнічала Вера Рыч з Лондана...

***3.02.2015***

На працы. Гляджу з дзявятага паверха, як па лёдзе на Свіслачы ходзяць дзве дзяўчынкі гадоў па дванаццаць. Ходзяць, узіраючыся праз лёд у цёмную зімовую ваду, нібы шукаюць мяне...

***4.02.2015***

Снегапад. Снегавік каля легкавушкі, нібы абсыпаны снегам гаспадар машыны, які чакае жонку, а яна ўсё не выходзіць з кватэры, бо збіраецца ў далёкую дарогу...

***5.02.2015***

Па Свіслачы слізгае снег, як па небе аблокі белыя...

***6.02.2015***

Быў у Нацыянальным мастацкім музеі. Удзельнічаў у адкрыцці выставы жывапісу і графікі народнага мастака Беларусі Уладзіміра Стэльмашонка (1928—2013) і прэзентацыі кнігі «100 шэдэўраў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь», якая выйшла ў «Мастацкай літаратуры». Прыйшоў рана, таму нейкі час меў магчымасць спакойна паразмаўляць з мастакамі, якія прыйшлі следам за мной. Аляксей Марачкін, даведаўшыся, што выйшла кніжка

«Язэп Драздовіч. Праз церні да зорак» сказаў: «Калі б я даў свае вершы пра Драздовіча, Шніп мяне б не надрукаваў!» Пачуўшы гэта, Уладзімір Тоўсцік усміхнуўся: «А ты б даў пад пседаўнімам!» — «Мой псеўданім усе ведаюць!» — адказаў Аляксей і адразу ўзгадаў зборнік «Літаратура», які ў 1989 годзе выдаў Сяргей Дубавец. У ім ёсць мае творы. «Там твае, Віктар, вершы і цяпер вельмі актуальныя. Асабліва пра салдатаў»,— пахваліў мяне Марачкін. Георгій Ліхтаровіч прызнаўся, што ўпершыню за вершы (пра Язэпа Драздовіча) яму налічаны ганарар. Віктар Барабанцаў напомніў, што партрэт Людмілы чакае нас у ягонай майстэрні. Я абяцаў, што хутка забярэм падарунак. Алесь Квяткоўскі ў нядзелю едзе ў Магілёў. Клікаў у дарогу. Я адмовіўся. Папраўдзе, хочацца з'ездзіць, але баюся прастыць, бо наступным тыднем будзе кніжная выстава, дзе мяне чакае шмат клопатаў...



***11—13.02.2015***

Пачала працу XXII Мінская міжнародная кніжная выстава-кірмаш. У новым месцы. Праспект Пераможцаў, 14. Прасторна, светла, кніжна, людна...

Галоўны госць — Кітай. Два дні як удзельнічаю ў размовах з кітайскімі выдаўцамі і ў сумесных прэзентацыях. Сёння вярнуўся дадому з выставы, як з Кітая...

***14.02.2015***

Кнігі прыгожыя, як чытачы...

Кніжная выстава прайшла, а кнігі і чытачы засталіся...

***17.02.2015***

Да мяне па справах дахаты прыходзіў Алесь Квяткоўскі. Размову пачалі з карцін і паэзіі, а скончылі словамі: «Жонкі старэюць, а студэнткі трэцяга курса заўсёды маладыя...»

Прыходзіў «новы і мудры гісторык». У паношаным спартовым гарнітуры і ў валёнках. Яму за 80 гадоў. «Я напісаў вам новую і сапраўдную гісторыю Беларусі!» — зняўшы шапку-аблавушку, абвесціў стары. «Вы гісторык?» — пацікавіўся я. «Не! Я інжынер-канструктар. У мяне 50 вынаходніцтваў!» — адказаў наведвальнік. Пагартаўшы рукапіс, я запытаўся: «Міколу Ермаловіча чыталі?» — «Не. Ермаловіч мне не аўтарытэт!» — «А хто?» — «Я сам сабе аўтарытэт!» —

«А што рабілі б вы, калі б я да вас пасля Літінстытута прыйшоў у канструктарскае бюро з краслюнкамі вечнага рухавіка?» — «Мы б зрабілі рухавік!» — адказаў «новы і мудры гісторык».

***18.02.2015***

Спаліўшы рукапіс, выратуеш лес...

***20.02.2015***

Выступаў перад школьнікамі ў Музеі Якуба Коласа на імпрэзе да Дня роднай мовы. Дзеці маўчалі і ўсміхаліся па-беларуску...



***23.02.2015***

Мінулай восенню, вяртаючыся з працы, сярод бруднага лісця заўважыў цацку — маленькага тыгрыка. Відаць, нечае дзіця згубіла. Тыгрык быў, як і я, самотны і прамоклы пад восеньскім дажджом. Я падабраў малечу. Прынёс дахаты, памыў у цёплай вадзе, абсушыў і пасадзіў на паліцу каля кніжак, што побач з камп'ютарам. І цяпер усё, што я пішу і што гляджу ў сеціве, бачыць тыгрык, якога я падабраў на вуліцы падчас восеньскага дажджу...

***24.02.2015***

Сёння Рыгору Барадуліну было б 80. Многія ў фэйсбуку выставілі свае фотаздымкі з Рыгорам Іванавічам. Я ж яшчэ раз прэзентую кнігу «Каўчэг», якую склаў з дабраславення паэта ў 2013 годзе і якая выйшла на пачатку мінулага лета...

***25.02.2015***

«Іосіф Бродскі памёр ад таго, што не авалодаў камп'ютарам. Відаць, і я ад гэтага памру...» — сказаў пісьменнік, просячы мяне дапамагчы знайсці наборніцу новай аповесці...

***26.02.2015***

Удзельнічаў у першым пасяджэнні Рады па грамадскіх сувязях Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Сярод выступоўцаў цікава было паслухаць скульптара Івана Міско, артыста Арнольда Памазана, кампазітараў Ігара Лучанка і Эдуарда Зарыцкага, рэжысёра Барыса Луцэнку, драматурга Аляксея Дударава, кінарэжысёраў Вячаслава Нікіфарава і Аляксандра Карпава-малодшага, мастака кіно і

тэатра Уладзіміра Чарнышова, архітэктара Анатоля Шабаліна. Усе казалі пра праблемы ў культуры і шляхі іх вырашэння. Прыканцы абралі старшыню Рады. Ім стаў цудоўны чалавек і фотамайстра Юрый Іваноў. Вяртаўся дамоў са светлай думкай: «Можа, нешта і атрымаецца вартае з нашых пасяджэнняў…»

***27.02.2015***

Ёсць абмен вопытам, але і ёсць падман вопытам…

***28.02.2015***

У Маскве ўначы, амаль на Краснай плошчы, застрэлілі расійскага палітыка Барыса Нямцова. Нечакана, але я не здзівіўся. Страшна, што адбываецца ў Расіі…

Ад чорнага квадрата да срэбнай кулі…

Тэлефанавалі з вёскі, як з суседняй краіны…

**У МАЙСТЭРНІ АЛЕСЯ КВЯТКОЎСКАГА**

*

раздача хлябоў
у дзень апошні свету
усім без чаргі

*

ствараюць сонца
ранішнія анёлы
каб неба было

*

туман балотны
у травах губляецца
і ў днях пражытых

*

там дзе аблокі
там заўсёды ёсць неба
і час для сонца
чакай і жыві
яно неўзабаве з’явіцца

*

у Толікавай стайні
няма коней
у ёй жывуць успаміны
пра тых коней
на якіх мы ехалі
на Грунвальд

*

хаты і дрэвы
дарога і крыж
і сонца высока далёка
і цёплая цішыня
як пацалунак першы
і апошні

*

ідзеш праз туман
як праз белую вечнасць
дзе ні зямлі ні неба
а толькі туман
як шлях рассыпаны

*

сярод камянёў
як сярод патухлых зорак
крыніца
і ты глядзіш у ваду
як у неба
якое будзе
калі не будзе цябе

*

вецер вецер вецер
аблокі аблокі аблокі
чорныя чырвоныя шэрыя
і неба не бачна за імі
як будучыні

*

рыба была вялікая
і сохнуць рыбалоўныя сеткі
як восеньская павуціна

*

у кожнага свой адпачынак
ад гарадскога шуму і тлуму
а ты на Нёмане
які найлепшы ў свеце
бо ён наш беларускі
і ў ім жыве залатая рыбка
пра якую ведаеш толькі ты
бо яна залатая
як маладзік у небе



*

ты заходзіш у лес у грыбы
як у свет невядомы
дзе з неба святло цячэ па дрэвах
як па рэчышчах рэчак
у якіх водзяцца мурашы
вялікія і малыя
як твае мары пра грыбы
якімі ты хочаш напоўніць кошык
дзе начаваў белы кот
як туман што цяпер на ўскрайку лесу
хаваецца ў роснай траве

*

у кожным лесе
ёсць свой арган
на якім іграе лясун
і ты слухаеш ягоную музыку
забыўшыся што жывы

*

у майстэрні жывуць фарбы
і калі цябе няма сярод іх
яны самі ствараюць свет
прыгожы і страшны

вясёлы і сумны
каляровы і шэры
і чым ты даўжэй не вяртаешся
тым болей фантазуюць фарбы
і кожная мяркуе
што яна найгалоўнейшая
як нядаўна для іх быў ты
аднойчы ты не вернешся зусім
і фарбы памруць таксама
але толькі на імгненне
пакуль не ўзыдзе сонца
з цюбіка небакраю

*

прывіды карцін
што яшчэ не створаныя
майстэрню поўняць

*

уваход у Рай
сёння табе прысніўся
і ты ўсміхнуўся

*

ідзеш да Нёмана
па траве як па небе зялёным
праз туман як праз воблака
як праз крону белага дрэва
якое вырасла з Нёмана

*

дары Вешчуноў
не для нас прынесеныя
глядзі спакойна

*

і спыніцца той
хто ідзе
і золата пральецца з неба

і ўсміхнецца валун
самотны як той
хто чакае

*

у горадзе маім
цябе няма
у горадзе маім
была зіма
і ўсё прайшло
з вадой сплыло
і ўсё тут ёсць
і я не госць
у горадзе маім
у горадзе тваім
у горадзе жывым

*

пад дарогай тунэль
і мы пад Млечным Шляхам
жывем на зямлі
як у тунэлі

*

вятры пасвяцца ў паплавах
на рудых травах шэрань
а ты ідзеш туды
дзе сонечна дзе светла
як у дзяцінстве

*

у кроне дуба зоры
як вуголле
у карэннях дуба зямля
як попел
і падае з дуба камар
б'ючы бакі аб дубовыя сукі
і ты стаіш пад дубам
каб ратаваць камара

*

лес як хамелеон
раз-пораз мяняе свой колер
то ён зялёны
то ён шэры то залацісты то белы
а то і зусім чорны
а я люблю яго вечаровы колер
калі ў травах схавалася сонца
а зоркі яшчэ не запаленыя анёламі
і гэты час — гэта час пачатку
таемнай вячэры

**20.02.2015**



## *Сакавік*

***2.03.2015***

Сніліся Лягезы, дзе я гадаваўся ў бабулі Ганны. Навокал сонечна, зелена і ўсё такое роднае-роднае, нібыта гэта не сон, а ява. Сяджу на беразе Яршоўкі і лаўлю рыбу, якая ў празрыстай плыні, як ільдзінкі. Раптам паплавок знікае ў вадзе і я выцягваю... сонца, якое за хвілю пачынае затухаць. Навокал робіцца змрочна, шэра і холадна. Я прачынаюся. На вуліцы віднее, ідзе зімовы дождж, а на дрэвах у двары сядзяць вароны, як выгнаннікі з раю...

Снег растаў. Туман растаў. Дзень растаў. Гляджу на вуліцу праз шкло, як праз расталы снег, як праз туман, як праз дзень, і бачу цемру, як ваду, у якой зацішылася жыццё ў чаканні вясны...

***4.03.2015***

На возеры ні снегу, ні лёду. Белыя лебедзі, як белыя анёлы, каля берага пачарнелага...

***5.03.2015***

Быў у БДУ на філфаку. Удзельнічаў у прэзентацыі Збору твораў Івана Шамякіна ў 23-х тамах. Усе выступоўцы казалі, што тэкстолагамі зробленая велізарная праца. Было прыемна чуць добрыя словы і ў адрас супрацоўнікаў «Мастацкай літаратуры». Потым з выкладнікамі кафедры, якой загадвае

Таццяна Іванаўна Шамякіна, па-сямейнаму пасядзелі пры гасцінным стале. Вяртаўся дахаты з думкай: «Яшчэ ёсць каму вучыць беларускіх настаўнікаў...»

***6.03.2015***

На імпрэзу ў «Галерэю Ў» да Барыса Пятровіча прыехаў на пачатку сёмай. Сядзеў побач з дзядзькам Барыса Алесем Сачанкам, які, калі Барыс узгадаў пра яго, папрасіў слова для выступу. Прамаўлялі, праўда, усе даўгавата, але было цікава паслухаць Сяргея Законнікава, Андрэя Федарэнку, Сяргея Дубаўца, Людмілу Рублеўскую, Леаніда Галубовіча, Алеся Пашкевіча. Перамяжоўваў выступы сваімі песнямі Алесь Камоцкі. Барыс у заключным слове сказаў, што гэта наагул першая прэзентацыя ягоных кніг у Мінску.



***7.03.2015***

Снілася мора. Я ў адпачынку. На душы нейкая трывога, і я тэрмінова вяртаюся ў Пугачы, а там усё замецена. Чамусьці адразу не пайшоў да бацькоўскай хаты, а пачаў адкопваць са снегу хату Сашкі Балотніка. Адчыніў дзверы, а там пуста. Тады пабег да роднай хаты, якая ўжо вызвалілася ад снегу. Зайшоў у двор. Адчыніліся дзверы і мне насустрач выйшаў сын Максім, і я прачнуўся...

***8.03.2015***

Восьмае сакавіка без снегу і без сонца. Нязвыкла. Ваколле, як увосень. Аднак сёння ўсе дарогі вядуць, як у Рым, у крамы, дзе прадаюцца кветкі. І я нясу дадому букет, як паходню, якая асвятляе тое, што ёсць, што было і што будзе...

Сяджу дома. Крыху прастыў. Люда з дачкой пайшлі ў горад гуляць, а сын са сваёй дзяўчынай таксама недзе бавіць святочны дзень. Можна было б замаркоціцца, але я, узгадаўшы «ЛіМ» тых часоў, калі там працаваў, суцешыў сябе тым, што мы, «лімаўцы-мужчыны», 8 Сакавіка наагул байкатавалі, бо гэта прыдуманае савецкае свята. Праўда, свята байкатаваць байкатавалі ў думках, але ж на працу не хадзілі і сваім каханым у гэты дзень дарылі кветкі...

***10.03.2015***

У сметніцы каля пад’езда, як у вазе, яшчэ незавялыя кветкі. Свята прайшло...

***11.03.2015***

Каля аўтобуснага прыпынку вялікі шматок газеты, як лапік бруднага снегу…

***12.03.2015***

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ўдзельнічаў у адкрыцці выставы «З друкарні пана Марціна Кухты», прысвечанай 140-годдзю з дня народзінаў друкара. Вёў імпрэзу Алесь Суша. Выступалі амбасадар Літвы ў Беларусі Эвальдас Ігнатавічус і загадніца Музея Максіма Багдановіча Марына Запартыка. Я прачытаў верш.



## БАЛАДА МАРЦІНА КУХТЫ (1875—1956)

У Вільню, як у Рым, усе сцяжыны.
І ты прыйшоў сюды не каву піць
І рукі цалаваць старым жанчынам,
Каб потым толькі грошы іх любіць.
І Вільня для цябе, як цэнтр сусвету,
Дзе кожнаму ў Еўропу ёсць вакно,
Дзе вершы геніяльныя паэты
Ствараюць, нібы ткуць з агню руно,
Якое цэніш ты, як вернасць цэніш,
Бо ты не проста віленскі друкар,
Які прыгожыць словамі паперу,
А вечнасць ёй даеш, здзяйсненне мар
Даеш паэту, што ля сіняй бухты
Напіша з думкамі аб родным краю:
«Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты».
І ты, выходзячы з друкарні ў Вільню,
Глядзіш на зоры, да якіх ляцім.
І спраў хапае для цябе шчэ пільных,
Бо ты прыйшоў у Вільню, як у Рым.

***14.03.2015***

Прагляд добрага фільма, як яшчэ адно пражытае жыццё…

***15.03.2015***

Учора ў Маскве на 78-м годзе жыцця, за дзень да свайго дня народзінаў, памёр расійскі пісьменнік Валянцін Распуцін. У 1986 годзе, калі я вучыўся ў Літінстытуце, мяне з ім пазнаёмілі празаікі-аднакурснікі. Гэта было ў Цэнтральным Доме літаратараў, куды мы нярэдка хадзілі ў бар выпіць па сто грамаў каньяку і па філіжанцы кавы. Валянцін Рыгоравіч піў таматны сок і казаў нам: «Не забывайцеся на вёску! Там вашы карані!..»

Магілёўскае ТБМ арганізавала для сваіх сяброў вандроўку ў Мінск. Пасля ўсіх экскурсій па сталіцы госці з Магілёва прыйшлі ў Чырвоны касцёл на сустрэчу з Людмілай Рублеўскай. Людзей было шмат. Былі і мінчане. Прысутнічаў і я. Людміла апавяла гісторыі стварэння сваіх аповесцяў і раманаў, пачытала вершы, адказала на пытанні. На просьбу гасцей пачытаў вершы і я. Словам, сустрэча з Рублеўскай атрымалася змястоўнай і цікавай. Праўда, нас гаспадары касцёла вадзілі з аднаго памяшкання ў другое, бо там, дзе мы збіраліся, па нейкім часе пачыналася раней запланаванае мерапрыемства. Ходзячы сюды-туды, я сказаў Людміле: «Нас водзяць касцёльнымі сутарэннямі так, як Маісей вадзіў свой народ па пустэльні...»

***16.03.2015***

Праз дзесяць дзён у мяне будзе непрыкметны юбілей, а ўжо сёння аўтар «Буквара» Анатоль Клышка патэлефанаваў і павіншаваў са святочнай датай. У свой час мы працавалі ў адным будынку — ён у «Полымі», а я ў «ЛіМе». Калі я сказаў, што яшчэ рана віншаваць, Анатоль Канстанцінавіч засмяяўся: «Затое запомніш, што я быў першы!» Пажартаваўшы, я паглядзеў у тэлефонны даведнік і даведаўся, што самому Анатолю Клышку 16 красавіка будзе 80...

У Камаях Пастаўскага раёна на 79-м годзе жыцця памёр паэт Аркадзь Нафрановіч. Узгадалася, як у 1997 годзе ён прывёз новыя вершы ў «ЛіМ». Напачатку Аркадзь Іосіфавіч зайшоў да мяне, паразмаўлялі. Потым я адвёў яго ў аддзел паэзіі да Юрася Свіркі. Недзе за паўгадзіны ў рэдакцыйным калідоры пачуўся тупат. Адчыняю дзверы і бачу, як да кабінета Свіркі збіраюцца супрацоўнікі штотыднёвіка, а з самога кабінета гучыць арыя з нейкай оперы. Што здарылася? Іду глядзець. І бачу: спявае Аркадзь Нафрановіч!

*17.03.2015*

Гляджу з выдавецкага вакна. На вясновай Свіслачы чайкі, як скамечаныя аркушы паперы, якія выкінуў паэт, бо верш не атрымаўся...

*18.03.2015*

Год таму да мяне ў выдавецтва прыходзіў сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч з просьбай выдаць паэму «На шляхах волі», якая яшчэ ніколі не выдавалася асобнай кніжкай. Уступнае слова напісаў Міхась Мушынскі. І якраз да 100-годдзя Еўрапейскай вайны паэма была надрукаваная. Сёння ў Музеі Якуба Коласа адбылася прэзентацыя кнігі. Міхась Канстанцінавіч, нягледзячы на тое што яшчэ цалкам не ачуняў ад прастуды, прыйшоў на прэзентацыю і хораша выступіў. Дарэчы, 31 студзеня Міхасю Канстанцінавічу споўнілася 89 гадоў...

*19.03.2015*

На мінулай кніжнай выставе да мяне падышла маладая мастачка Кацярына Даська і папрасіла паглядзець яе курсавую працу — макет кніжкі пункціраў Алеся Разанава. З таго дня мінула болей месяца. За гэты час у мяне на працы мастачка і Алесь Сцяпанавіч пазнаёміліся, і кніжка пункціраў з некалькіх дзясяткаў твораў вырасла да 900. Сёння зноў паэт і мастачка сустракаліся ў мяне. На працягу гадзіны абмяркоўвалі аздабленне. Раіліся з нашым галоўным выдавецкім мастаком Надзеяй Барай. Гледзячы на ілюстрацыю (намаляваная рука), Алесь Разанаў сказаў: «Пальцы мусяць быць ідэальныя!» Я дадаў: «Як класічны верш!» — «Так!» — падтрымаў Алесь Сцяпанавіч. Зрэдку да малюнкаў Кацярыны я адразу прыдумляў радкі. Разанаву найболей спадабалася: «Гарбуз — гэта поўня, якая заўсёды з намі і якая залежыць ад нас, а не мы ад яе...»

*20.03.2015*

Раніца. Нядаўна развіднела. Іду на працу. Гарадскія чайкі на ўзбочы вуліцы, як на беразе чорнай рэчкі...

У бібліятэцы імя Янкі Купалы ўдзельнічаў у імпрэзе, прысвечанай Сусветнаму дню паэзіі. Вяртаючыся дахаты, думаў пра тое, што часта на падобныя імпрэзы згаджаюся з неахвотай, а потым, калі ўжо ўсё адбылося, хвалю сябе, што

сходзіў і выступіў. Зноў узгадаліся даўнія часы, калі пасля падобных паэтычных чытанняў мы, выступоўцы, не разбягаліся па кватэрах, а ішлі ў «Мутнае вока» ці якую іншую піцейную ўстанову і гудзелі там у цыгарэтным дыме да таго часу, пакуль нас не прасілі пакінуць аблюбаванае месца. Мы выходзілі на вуліцу, ішлі да Свіслачы і там на беразе, часам да раніцы, размаўлялі пра літаратуру, чыталі вершы і марылі пра залатое стагоддзе для паэтаў, якое ўсё ж некалі павінна зноў пачацца. Стагоддзе пачалося, а тых, з кім я марыў пра яго, амаль ужо ўсіх няма ў гэтым свеце...

Было сонечнае зацьменне. Дзівіўся на яго праз плёнку з дыскеты. Сонца было, як залаты талер, ад якога адкусілі кавалачак...



***21.03.2015***

У скверы на дрэвах вароны гнёзды майструюць, а пад дрэвамі на лавачках мужыкі гарэлку п'юць. Вясна...

***23.03.2015***

Пяць гадоў таму да майго юбілею Надзея Барай падаравала карціну. Павесіў падарунак у кабінеце. Сёння карціна ўпала і пабілася шкло. Намаляваныя ружы, вызваліўшыся з-пад шкла, аджылі, і ў пакоі стала святлей...

З дарослымі дзецьмі і сам становішся дарослым...

***24.03.2015***

Раблю заўвагу паэту наконт «Ў», з якога пачынаецца каля дзясятка вершаў у рукапісе кнігі, і чую ў адказ: «Так пісаў Якуб Колас!»

Залатое пяро не дапамагае Граждану напісаць геніяльныя творы...

І раптам пачынаеш разумець, што ў пісьменніка апрача звання «лаўрэат Дзяржаўнай прэміі» няма нічога, пра што можна казаць...

На аўтобусным прыпынку спінамі да мяне стаяць хлопец і дзяўчына. Ціха размаўляюць. Раптам дзяўчына штурхае

хлопца і пакідае прыпынак. Хлопец, крыху пастаяўшы, пабег услед за сяброўкай. Дагнаў. Яна павярнулася. Сімпатычная, але ўгледзеўшы, што ў дзяўчыны ў зубах цыгарэта, я прашаптаў: «Лепей бы не азіралася...»

***25.03.2015***

На чыстай паперы заўсёды зіма...

***26.03.2015***

На сайце «Нашай Нівы», віншуючы мяне з юбілеем, напісалі: «Ён пачынаў як рабочы, але хіліўся да літаратуры». Прачытаўшы гэта, я ўсміхнуўся. Пасля тэхнікума з 18 гадоў да 25 я нідзе не працаваў, калі не лічыць рэдкую (каб не памерці з голаду) падпрацоўку грузчыкам на лікёра-гарэлачным заводзе «Крышталь». У 1985 годзе паехаў у Літінстытут. Калі б мяне туды не прынялі, я сёння б ці ў зямлі ляжаў, ці блытаўся па свеце. У Савецкай Арміі не служыў, у камсамоле не быў. Першы верш прыдумаў у пяць гадоў. У дзевяць сваё рыфмаванне пачаў запісваць у сшытак. У сямнаццаць пачаў друкавацца. У дваццаць тры выйшла першая кніжка вершаў «Гронка святла», за якую адразу быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў, а ў 27 гадоў стаў лаўрэатам Усесаюзнай прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага. Словам, ні рабочым, ні будаўніком я ніколі не быў. Я пачынаў як дармаед...

***27.03.2015***

Другі дзень адзначаю сваё 55-годдзе. Віншуюць і праз сеціва, і праз тэлефоны. Не забыліся на мяне ні ў Валожыне, ні ў Пугачах. Па-нармальнаму, трэба было б у гэтыя дні быць у адпачынку, а то на працы не да працы. Адпрасіўся ў Алеся Бадака, каб рыхтавацца да прэзентацыі кнігі «Заўтра была адліга» ў бібліятэцы імя Цёткі. Максім дапамог завезці пачастунак. А шостай гадзіне зала ў бібліятэцы была запоўненая. Аксана Спрынчан і Яраш Малішэўскі файна правялі імпрэзу. Першымі пачалі нашыя выдавецкія мастакі Насця Капульцэвіч і Міхась Дайлідаў. Падаравалі мой партрэт. Добрая ў нас моладзь, таленавітая. І кажу я гэта не таму, што яны мяне павіншавалі, а таму, што сапраўды яны таленавітыя. Потым выступілі Рэгіна Багамолава, Алесь Бадак, Галіна Дзягілева, Альжбэта Малішэўская-Спрынчан, Алесь Квяткоўскі, Уладзімір Васюк, Дзмітрый Пятровіч, Барыс Пятровіч

і Людміла Рублеўская. Зноў надарылі мне розных патрэбных і непатрэбных рэчаў. Нахвалілі, нагудзелі, але не надакучылі. Шкада, што з Маладзечна не прыехаў Міхась Казлоўскі і праз хваробу не змог прыйсці Леанід Галубовіч. Пасля імпрэзы Мікола Ліннік падараваў фотакнігу з маімі здымкамі, а наша Вераніка прынесла намаляваны мой партрэт. На вячэру, на жаль, не засталіся ні Барыс Пятровіч, ні Алесь Бадак. А мы сядзелі ажно да пачатку дванаццатай гадзіны. Жартавалі, успаміналі, марылі. Было цудоўна, як дома...

***28.03.2015***

Прачнуўся а пятай гадзіне раніцы ад таго, што баліць галава. Да полудня змагаўся за сваё здароўе. Нічога не дапамагло. Пасля таго як Люда пайшла ў горад, надумаў памяняць пашпарт, з якім ужо да мора не пусцяць. А да мора ж хочацца! Пайшоў у домакіраўніцтва, дзе даведаўся, што трэба пасведчанні аб маім нараджэнні і шлюбе. Вярнуўся дамоў. Гадзіну шукаў дакументы. Нічога не знайшоў. Прыйшоў да пашпартысткі з аплачанымі квіткамі за тэрміновы абмен пашпарта. Жанчына падумала, што я прынёс патрэбныя дакументы, таму выдала бланк на запаўненне. Адзін сапсаваў. Папрасіў другі. Дала. Пісаў хвілінаў дваццаць. Пашпартыстка, атрымаўшы запоўнены бланк, папрасіла пасведчанні аб нараджэнні і аб шлюбе. «Не знайшоў. Мне сёння галава цэлы дзень баліць»,— паскардзіўся я. «Пахмяляцца трэба! — сказала жанчына. «Я не п'ю зусім!» — «Веру. Малады! Прыгожы! І жонка ў вас Рублёўская. Гэта ж яе крама побач з нашым будынкам...» — «Не. Жонка мая Рублеўская...» Паразмаўляўшы яшчэ пару хвілінаў з пашпартысткай і распісаўшыся ў паперах, што здаў пашпарт без пасведчанняў, я пайшоў дахаты. Дома, перад тым як выпіць пігулку ад галаўнога болю, паглядзеў у люстэрка і сказаў з усмешкай: «Малады! Прыгожы! І жонка ў мяне Рублёўская!»

***29.03.2015***

Як жывую ваду, п'ю бярозавік, прывезены з Лысай Гары Аксанай Спрынчан і Ярашам Малішэўскім...

Сніўся дзядзька Славік, які жыў у пасёлку Белае Луганскай вобласці. Ён там памёр на пачатку стагоддзя. Снілася, што скончылася вайна і я прыехаў да яго ў госці. Дзядзька водзіць

мяне па сваёй сялібе і апавядае, дзе і што ў яго знаходзіцца. Зайшлі ў пакой, у якім на сценах на цвіках вісяць кнігі. На маё пытанне: «Чые гэта творы?» — дзядзька адказаў: «Цяпер я пішу вершы. Пры жыцці не было калі, а цяпер вось пішу...» Я зняў кнігу са сцяны, разгарнуў, а там сапраўды вершы, але не надрукаваныя, а напісаныя прыгожым почыркам. «У нас камп'ютараў няма...» — патлумачыў дзядзька і папрасіў, каб я апавёў пра гэта ўсім пісьменнікам, якія яшчэ жывуць...

***31.03.2015***

У майстэрні мастака ўсе поры года адначасна...



* * *

Яшчэ жывеш у гэтым белым свеце,
Які даўно не белы, як і снег,
Які ляжыць, нібы пісьмо ў канверце,
У цішыні вясковай, дзе са стрэх
Вада, як час, па кропельцы сцякае,
У леташняй знікаючы траве,
Дзе дзён мінулых вечнасць залатая
У кожнае пясчыначцы жыве,
Як ты жывеш у гэтым белым свеце,
Які даўно не белы, бо вясна,
Дзе разбіваецца аб неба вецер,
Бо неба — Храма вечнага сцяна...

**14.03.2015**

* * *

Калі патухне ў вечнасці святло
І ноч пральецца з неба ў нашы вочы,
Груган стагодні мне махне крылом
І я за ім, як сын яго, пакрочу.
Але яшчэ святло, як мы, жыве
І шэпча нам, што мы яшчэ жывыя,
Як мурашы ў апаленай траве,
Як пчолы ў ссохлым садзе маладыя.
І я гляджу ў мядовае святло,
Якое праз аблокі працякае.
Яно, як тое, што ў нас ёсць, было,
Яно з'явілася і ўжо знікае,
Як мы знікаем у сваіх гадах,

Дзе працякае ноч праз нашы вочы
І вымывае з нас адвечны страх
Самоты, смерці і бясконцай ночы,
З якой мы выйшлі, да якой ідзём,
Бо верым, што памёршы — не памром...

**26.03.2015**

## *Красавік*



***1.04.2015***

Некалькі дзён таму задаволена падумаў: «Сёлета перазімаваў не хварэючы...» І вось ужо трэці дзень лекуюся. Распачаў слоік малінаў, якія летась мне з Людай падаравала Наста Грышчук. П'ю малінавую гарбату і ўспамінаю леташнія вандроўкі...

***2.04.2015***

У панядзелак патэлефанавала пашпартыстка і паведаміла, што без пасведчання аб шлюбе з Людмілай Рублеўскай мне новы пашпарт не зробяць. Тры вечары запар з Людай шукалі патрэбны дакумент. Пазнаходзілі шмат чаго, пра што даўно забыліся, што яно ў нас ёсць. Не знайшоўшы пасведчання, вырашылі зрабіць ягоны дублікат. Я патэлефанаваў у ЗАГС, дзе запыталіся: «Вы ўжо развяліся ці яшчэ збіраецеся?» Пасля тлумачэння, чаго хачу, мне сказалі, што пасля аплаты іхных паслуг мне адразу выпішуць новы дакумент або дадуць даведку, што я жанаты. Нягледзячы на сваю прыхварэласць, планаваў на сёння заняцца дакументам, але раптам патэлефанавала дачка і мы даведаліся, што наша пасведчанне аб шлюбе знаходзіцца ў яе. Цяпер можна спакойна лекавацца...

***2.04.2015***

У нашым двары нехта запаліў купу апалага лісця, і цяпер дым паміж дамоў, як паміж берагоў, цячэ і ўпадае ў неба, як у беларускае мора...

Увечары, як звычайна, з паштовай скрынкі забіраю газеты. Нешта чытаю, нешта праглядаю. І вельмі рэдка нечаму дзіўлюся, бо, відаць, ужо маю такі ўзрост, што мяне нічым не

здзівіш. А сёння раптам у адной газеце да артыкула «Хто вяскоўцу дапаможа?» бачу здымак, а на здымку свайго бацьку, якому цырульніца з камбіната бытавога абслугоўвання Валожынскага раёна робіць прычоску. Нічога дзіўнага не было б, калі б 25 снежня 2012 года бацька не памёр. Разумею, што карэспандэнтцы з газеты далі здымак, які быў у КБА, і ўсё ж у мяне з'явілася, хоць і кволая, думка: «А можа, мой бацька жывы?»



***5.04.2015***

У скверы, праз які хаджу ў краму, тыдзень таму на дрэвах было адно вароніна гняздо. Сёння іх ужо чатырнаццаць. І я прайшоў пад кронамі дрэў, як пад сусветамі, у прасторы якіх зараджаецца жыццё...

Каля крамы старая з вярбінкай, як з дубцом у пошуках старога, які не начаваў дома...

***6.04.2015***

У некаторых шыкоўных тэчках з рукапісамі, як у маўзалеі...

У канцы тэкста дата яго напісання, як у начным лесе ліхтар...

***7.04.2015***

Немагчыма для ўсіх быць Гражданом...

Прыходзіў малодшы брат аднаго пісьменніка, які памёр і які ў свой час быў вядомы. Не ведаю, ці пісаў Пятро (назавем гэтак наведвальніка), калі ягоны брат друкаваўся, ці пачаў тады, калі страціў родзіча. Галоўнае — Пятро піша і выдаў ужо колькі кніг прозы на рускай мове. Калі б ён выдадзеныя раманы не паказаў, то я і не ведаў бы, што яны існуюць. Пятро прыйшоў забраць рукапіс, які паўгода таму аддаў нам у выдавецтва. Падзякаваўшы за знаёмства, наведвальнік забраў раман і пайшоў, як цень старэйшага брата-пісьменніка...

Не кожнае яйка сустрэне Вялікдзень...

***8.04.2015***

Талент дае Бог, а прэміі даюць Гражданы...

***9.04.2015***

У бібліятэцы імя Янкі Купалы перад супрацоўнікамі бібліятэк Мінскай вобласці прэзентаваў сваю кнігу «Заўтра была адліга». Не абышлося без віншаванняў з маім нядаўнім днём народзінаў. Пасля імпрэзы хадзіў у кнігарню «Букініст», каб на просьбу Міхася Казлоўскага набыць часопіс «Маладняк». Не паспеў. Нехта ўжо раніцай не пашкадаваў каля мільёна рублёў. Ідучы да метро, сустрэў Алеся Разанава. Пастаялі, паразмаўлялі пра жыццё-быццё літаратарскае і пра жураўліныя пункціры над Мінскам...

***11.04.2015***

Дзень пачаўся з радкоў:

*Калі вадой напоўняцца сляды*
*І зоры пачарнеюць па-над намі,*
*Нібы бяроз сарваныя лісты*
*Вар'яцкімі не нашымі вятрамі,*
*Пачнецца іншы свет, дзе нас няма*
*І ўжо не будзе болей аніколі.*
*Мы сыдзем, як сусветная чума,*
*Як снег апошні ў павяснелым полі...*

Паглядзеў у вакно, а там сонечна і ў небе ні хмурынкі. Усміхнуўся і вырашыў не працягваць сваю самотную песню. Заўтра ж Вялікдзень!

Каля школы міліцыі суботнік. Хлопцы і дзяўчаты мятуць, ажно пыл курыцца. Некаторыя сядзяць пад сцяной дома і нешта вясёлае апавядаюць адзін аднаму. Без міліцэйскай формы і яны дзеці дзецьмі...

Сёлета пячы велікодныя булкі не атрымалася. На кухні рамонт не скончыўся, і ў нас ні вады, ні газу. Замэнчыліся. Сёння, апрануўшыся пацяплей (нядаўна хварэў), не паголіўшыся, пайшоў у краму. Абраў дзве найпрыгажэйшыя булкі. Аплочваю. Касірка гадоў сарака пяці пытаецца: «У вас пенсійнае пасведчанне?» — «Не...» — адказаў я і, забраўшы булкі, паплёўся дахаты, як пенсіянер...

Прыканцы нашай вуліцы Волаха нядаўна збудавалі царкву. Сёння туды з Людай хадзілі свянціць велікодныя

булкі і яйкі. Людзей было шмат. Запомніўся малады доўгавалосы худы бацюшка, які хадзіў сюды-туды, чытаў малітвы і свянціў, што прынеслі да храма людзі, а таксама міліцыянер, які стаяў каля царкоўнай брамы, як кардонны...

***12.04.2015***

Вялікдзень. Успамінаюцца толькі бацькі і як з імі было добра...

***13.04.2015***

Паглядзеў «Зеркала» Марыны Мігуновай пра Марыну Цвятаеву. Фільм пра паэтэсу амаль без вершаў і без паказу, як яны пісаліся, а толькі пра ўзаемадачыненні з мужчынамі — гэта не фільм пра Цвятаеву...

Прыходзіў Алесь Разанаў. Абмеркаваўшы ілюстрацыі да будучай кнігі пункціраў, размаўлялі пра Хрыста і «Шлях-360». Калі Алесь Сцяпанавіч пакінуў нас, на вуліцы пацямнела, пайшоў дождж, малюючы на запыленых шыбах сцяжыны да паэзіі...

***14.04.2015***

Душна без Паэзіі...

Снілася вёска. Асфальтаванай вуліцаю ішлі бацькі, як па рацэ...

***15.04.2015***

Памёр Уладзімір Содаль. Хто цяпер будзе ў Вязынцы на свята паэзіі сядзець каля купалаўскай студні, прадаваць беларускія кніжкі?

У Лондане памёр айцец Аляксандар Надсан. На пачатку 90-х, калі я працаваў у газеце «Наша слова», Надсан завітаў да нас у рэдакцыю. Гледзячы на яго і размаўляючы, верылася, што Беларусь будзе жыць...

***16.04.2015***

Ішоў дождж у пошуках парасонаў...

### *17.04.2015*

У бібліятэцы Цёткі Паэтычны тэатр «Арт. С» пад кіраўніцтвам Аксаны Спрынчан і Яраша Малішэўскага прадстаўляў паэтычна-міфалагічны праект «Сакральная Беларусь». Чатырнаццатая імпрэза была прысвечаная месту (гораду). Выступілі Таццяна Барысюк, Ігар Клепікаў, Ірына і Максім Клімковічы, Серж Мінскевіч, Таццяна Пратасевіч, Людміла Рублеўская, Віка Трэнас, гурт «Мерада». Прыгожую народную песню праспявала Альжбэта Малішэўская-Спрынчан. Усе апавядалі пра гарады і пра сябе ў гэтых гарадах. Уладзімір Арлоў, Навум Гальпяровіч і Пятро Васючэнка хваляцца, што першае, што яны пабачылі ў гэтым свеце — былі вежы Сафійскага сабора ў Полацку. Я ж з вакна радзільні пабачыў вежы Пішчалаўскага замка, дзе ў свой час у вязніцы сядзелі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Карусь Каганец, Алесь Гарун, Якуб Колас. Я павінен быў нарадзіцца ў Валожыне, але бацькаў брат Славік, калі мама сабралася нарадзіць мяне, адвёз парадзіху ў Мінск. Пасля нараджэння ўпершыню ў Мінск я трапіў толькі праз пятнаццаць гадоў, калі цётка Галя прывезла мяне паступаць у архітэктурна-будаўнічы тэхнікум...

### *18.04.2015*

З братам Вовам, сястрой Валяй і яе мужам Віцем ездзілі да бацькоў на Ракаўскія могілкі і ў Пугачы...

У метрах трыццаці ад могілак пракладаецца дарога. Яна стане адной з транспартных нітак, якая злучыцца з новай кальцавой дарогай, што пройдзе ў кіламетры ад Ракава. Гледзячы на развернутую зямлю, падумалася, што калі б цяпер быў Савецкі Саюз, то кальцавую дарогу маглі б пусціць па могілках...

Вова мокрай анучкай пачаў праціраць ад пылу помнік бацькам. І раптам бачым: на помніку амаль зніклі бацькоўскія фотаздымкі. Што рабіць? Трэба будзе ісці ў майстэрню, дзе замаўлялі помнік, і прасіць перарабіць. Хвілінаў дзесяць бедавалі. І тут брат узяў сухую анучку і пачаў нанова праціраць. Цуд! Здымкі зноў з’явіліся і такія ж выразныя!

За два месяцы, якія мы не былі ў бацькоў, непадалёк з’явілася дзевяць новых магіл. Адно супакоіла, што сярод памерлых няма маладых...

Прыехалі ў Пугачы. Каля хаты суха. У хаце ўсю зіму жыла цішыня. Завёў насценны гадзіннік. І паветра ў хаце пацяплела...

У садзе гаспадарылі шпакі, як нашыя бацькі...

Адведалі дзядзьку Шуру з цёткай Дзінай. Даведаліся, што за зіму памерла колькі вяскоўцаў, не дажыўшы да пенсіі. Мае равеснікі...

Падараваў сваякам сваю кнігу «Заўтра была адліга». Спадзяюся, што тое, што яны пра сябе там вычытаюць, не пакрыўдзіць іх...

На вуліцы раз-пораз бачу старых вяскоўцаў. Усе яны падобныя да маіх мамы і таты...

На буслянках стаяць буслы, як на сустрэчы закаханыя...

У Ракаве на азярыне плаваў лебедзь. Белы, як анёл...

Заехаліся да ракаўскай сваячкі Вольгі. У канцы яе агарода пабачылі людзей, якія нешта робяць. Ад Вольгі даведаліся, што там рамантуюць помнік яўрэям. На тым месцы стаяла сінагога, дзе падчас вайны 4 лютага 1942 года немцы спалілі 950 ракаўскіх яўрэяў...

Вяртаючыся дамоў, думалі пра родных...

***19.04.2015***

Сёння ў мамы дзень народзінаў. Ёй было б 85. Не было б мамы, не было б і мяне. Значыць, у гэты дзень нарадзіўся і я...

З Людай выбраўся ў цэнтр горада, каб скарыстацца бясплатнымі экскурсіямі па Мінску. На жаль, быў лёгка апрануты, а на вуліцы сцюдзёна і ветрана, таму вярнуўся дахаты. Застаўся б, калі б мала людзей прыйшло, а так за дзесяць хвілінаў да пачатку экскурсіі ўжо сабралася чалавек пяцьдзясят...

***20.04.2015***

Заўтра Радаўніца. Каля роднай хаты сяджу на лаўцы з бацькамі. Глядзім на сонца, якое заходзіць...

***21.04.2015***

Радаўніца. Чорны кот, як чорны манах, сядзіць каля брамы на Кальварыйскія могілкі...

Прайсці праз могілкі...

***22.04.2015***

Прыканцы працоўнага дня да мяне ў кабінет упэўнена зайшоў высокі худы мужчына гадоў сарака пяці. Паві-

таўшыся, з торбы дастаў велізарную тэчку і сказаў: «Прашу тэрмінова надрукаваць!» — «А што гэта ў вас за твор? Проза? Паэзія?» — пацікавіўся я. «Не! Тут я крытыкую Біблію!» — адказаў мужчына. «Вы паказвалі свой твор каму-небудзь?» — запытаўся я. «Год праляжала ў царкоўным выдавецтве! Там не захацелі друкаваць!» — «І мы не будзем друкаваць!» — «І вы баіцеся анафемы! Што за народ пайшоў!» — сказаў мой наведвальнік і схаваў у торбу свой твор...

***23.04.2015***

Ветрана. Сонца, як саламяны капялюш Язэпа Драздовіча...

Прыходзіў Васіль Раінчык з жонкай Ірынай Цвятковай. Рыхтуем кнігу «Верасы». «Я рукапіс не чытаў. Пасля. Гэта кніга — погляд Ірыны на тое, што адбывалася з намі. Тое, што я перажыў, некалі сам напішу, і гэта будзе зусім іншая кніга»,— сказаў Васіль Пятровіч Алесю Бадаку і мне. Размаўлялі недзе з паўгадзіны. Дрэнна, што не было дыктафона, бо тое, што апавядаў Раінчык, мала хто чуў. Я сказаў Цвятковай, каб яна ўсё запісвала. «Я паціху сёе-тое ўжо запісваю...» — прызналася Ірына і ўсміхнулася...

***25.04.2015***

Па выдавецкіх справах з Алесем Бадаком хадзілі ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. Пасля афіцыйнай размовы дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў зрабіў нам амаль двухгадзінную экскурсію. Прыканцы пазахапляліся талентам Леанарда да Вінчы. Мне ўзгадалася Італія і яе мастацкія музеі. Падумалася, што праз гадоў трыста і карціны некаторых нашых мастакоў набудуць пэўную каштоўнасць, а пакуль што глядзім на тое, на што глядзім...

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі наведаў пастаянную выставу беларускага мастацтва, якая раз-пораз абнаўляецца. Карціна Міколы Селешчука, як была выстаўлена гадоў пяць таму побач з творам Уладзіміра Тоўсціка, гэтак і сёння на тым самым месцы. Ці вісяць творы іншых мастакоў на тых самых месцах, як і раней, не ведаю, бо з таго першага прагляду іншых карцін, якія былі побач адна з адной, не памятаю...

На пляцы Свабоды каля касцёла невялічкі натоўп. Што за свята? Вяселле. Відаць, толькі што скончылася вянчанне. Маладая задаволена ўсміхаецца. Малады, расшпіліўшы кашулю, паліць, нібыта ў апошні раз...

На вуліцы сцямнела. Свецяцца, як тэлеэкраны, вокны. І ты глядзіш у іх з надзеяй пабачыць аголеную жанчыну...

***26.04.2015***

Колькі дзён таму з'явіліся радкі:

*Часовых класікаў раманы й вершы*
*Згубіліся ў лясах бібліятэк.*
*А ў кнігах велічныя Храмы й вежы*
*І ўсё яшчэ жывыя сотні рэк*
*Згубіліся і зніклі назаўсёды,*
*Нібыта іх ніколі не было.*
*І белыя счарнелі параходы,*
*І чорным снегам белы замяло.*

Далей не пайшло. Але сёння з'явіўся працяг: «І ты кажаш: «Гэта наша доля...» І я не знаю, што табе сказаць, Як пажадаць адно: „Пішы, як Толя! Пішы, калі не можаш не пісаць!“» Атрымаўся верш, прысвечаны Анатолю Сысу...

Алесь Квяткоўскі паклікаў у майстэрню паглядзець новыя працы. Паглядзеў і на карціны з цыкла «Пагоня на Грунвальд», і на рудога мураша, які ў мастака са стала скраў пясчынку цукру і нёс некуды хаваць...

З Людай ездзілі на Маскоўскія могілкі. Адведалі Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Пімена Панчанку, Івана Шамякіна, Яўгенію Янішчыц і пакланіліся ўсім, хто побач з імі спачывае. На пахаванні Генадзя Бураўкіна не былі, таму не ведалі, дзе ягоная магіла. Пайшлі шукаць. За хвілінаў пятнаццаць знайшлі. Адразу падумалася, што сам Генадзь Мікалаевіч падказаў нам да сябе дарогу. Паблізу з Бураўкіным пахаваныя Арлен Кашкурэвіч і Гаўрыіл Вашчанка. Някепская кампанія і тут збіраецца...

***27.04.2015***

Запыханы, папраўляючы на худым пераноссі чорныя, як жалобныя рамкі, акуляры, незнаёмец не ўвайшоў, а проста

ўляцеў да мяне, як вецер, у адчыненыя дзверы: «Ну вось і я! Я напісаў для цябе апавяданне! Друкуй!» Я выйшаў з-за стала, паціснуў наведвальніку працягнутую халодную, потную руку і прапанаваў сесці. «Мне няма калі тут у цябе заседжвацца! Будзеш друкаваць ці не?» — заявіў мужчына. «А дзе апавяданні?» — запытаўся я. «Калі будзеш друкаваць, то адразу прынясу!» — «Не чытаўшы, мы нічога не друкуем і нічога нікому не абяцаем!» — «А як цябе завуць?» — запытаўся незнаёмец. Пачуўшы адказ, мужчына зняў акуляры і сумна ўсміхнуўся: «Прабачце. Я не ў тое выдавецтва прыйшоў...»

***28.04.2015***



З Наталляй Семашкевіч і Уладзімірам Марозам ездзілі ў Маладзечна ў бібліятэку «Верасок», дзе бралі ўдзел у навукова-краязнаўчай канферэнцыі «Не наракаю на цябе, мой лёс...», прысвечанай 70-годдзю з дня народзінаў пісьменніка і навукоўца Рыгора Семашкевіча. Арганізаваў і вёў канферэнцыю Міхась Казлоўскі. З успамінамі пра брата выступіла Таццяна Міхайлаўна Семашкевіч. Даклады па творчасці пісьменніка зрабілі Лідзія Гардынец і Людка Сільнова. Успамінамі пра сябра падзяліўся паэт Мар’ян Дукса...

У 1979 годзе мой сябра з Латвіі Станіслаў Валодзька, здаўшы зімовую сесію, запрасіў мяне на сустрэчу з Рыгорам Семашкевічам, якому ён пакінуў вершы, каб той пачытаў і даў парады, што рабіць з творамі далей. Сустрэліся мы на калідоры філфака. Сеўшы на падваконне, Рыгор амаль паўгадзіны разбіраў творы Станіслава. Мне тады было дзевятнаццаць гадоў і для мяне тая сустрэча з Семашкевічам стала добрым літаратурным урокам, які потым мне доўга дапамагаў у напісанні твораў.

Мінула 33 гады, як не стала Рыгора Семашкевіча, але па сённяшні дзень памятаюцца ягоныя строфы:

*Вайсковыя могілкі Мінска*
*Не будуць варот зачыняць.*
*Спыніся — далёкі ці блізкі,—*
*Тут маршалы нацыі спяць.*
..............................................
*Купала і Колас...*
*Раптоўна*
*Адчуеш свабодна зусім —*
*Не толькі радком загалоўным —*
*Ты ўсім абавязаны ім.*

Нельга забыцца на верш, прысвечаны Францішку Багушэвічу, дзе ёсць радкі:

*Якія дакоры*
*Бываюць у горы?*
*Імжыць праз гады сіратлівы пагляд.*
*На ўсю Беларусь мільён пракурораў*
*І толькі адзін, толькі ён адвакат.*

Едучы ў Маладзечна, запытаўся ў Наталлі Семашкевіч пра дзённікі Янкі Брыля і перадаў просьбу Барыса Пятровіча пачаць іх друкаваць у «Дзеяслове». Наталля Іванаўна, выслухаўшы мяне, адказала: «Дзённікаў чатыры тысячы старонак! Гэта больш, чым дзвесце аркушаў. Ні ў якіх часопісах друкаваць не будзем! У мяне ад бацькі на аркушы напісана просьба: «Выдаць адразу кнігамі!» Я не магу не выканаць бацькаву просьбу».— «Тады, можа, дзённікі Рыгора Семашкевіча прапануеце ў «Дзеяслоў»?» — пацікавіўся я і пачуў: «Таксама не будзем у часопісе друкаваць! Не хачу расцягваць друкаванне на гады...»

***30.04.2015***

Учора каля крамы «Алеся» скасілі траву. Прыгожа, пахка, але тут трава ніколі не стане сенам...

* * *

У тых садах, дзе спеюць апельсіны,
Ніколі ты не быў і ўжо ці будзеш,
Бо, палюбіўшы яблыкі Айчыны,
Табе, як свята, кожны новы будзень
У гэтым свеце, дзе плыве самота
Аблокамі над восеньскай зямлёй,
Дзе саду абляцелая лістота
Табе заўжды тут будзе залатой,
Як тыя залатыя фараоны,
Якіх няма, бо ты не бачыў іх.
Зноў неба чорнае, бо ў ім вароны
Лятуць да зорак, як да гнёзд сваіх.
І ты ляціш душой, дзе ты ніколі
Яшчэ не быў і ўжо ці будзеш ты,
І ад самоты плачаш, і ад болю
За нашы апусцелыя сады...

**6.04.2015**

* * *

Вясновых дзён анёльскае цяпло
На дрэвах ціха лісцем прарастае,
Каб першых кветак дрогкае святло
І мёд пчала збірала залатая,
Каб сонцам напаўнялася душа,
Як ветразь напаўняецца вятрамі
У акіяне, дзе вадой мяжа
Размытая між вечнасцю і днямі,
Дзе мы жывем, не скардзімся, што мы
Самотныя, як кветкі палявыя,
Што нарадзіліся пасля зімы
І зацвілі, і сёння мы жывыя,
Як дзён вясновых першае цяпло,
Якое кожны з нас штодня чакае.
Над намі сонца кветкай узышло
І ўжо на захадзе, як зніч, знікае...

**21.04.2015**

* * *

Я палюбіў Венецыі масты і неба,
Якое не ў вадзе, якое над вадой,
Дзе зорак золата, начных аблокаў срэбра
Належаць не мастам, а толькі мне з табой.
І мы ідзем па горадзе, нібы па небе,
Дзе Млечны Шлях са Шляхам дрогкім у вадзе
Яднаецца, але ён нам з табой не трэба,
Няхай па ім, хто не хадзіў па ім, ідзе,
А мы з табой па ім было дайшлі да лета,
Якое адышло ў той невядомы свет,
Дзе каралевы Бонны з золата карэта
Пакінула ў калюгах, як у небе, след...
Я палюбіў Венецыі масты і неба,
Якое не ў вадзе, якое над вадой,
Дзе зорак золата, начных аблокаў срэбра,
Як і над Свіслаччу, дзе добра мне з табой...

**30.04.2015**

# *Травень*

***1.05.2015***

Нікуды з дому не хадзіў. Быў адзін. Чытаў і спаў. І мне было добра, як дома...

***2.05.2015***

У маладосці спрачаліся: хто здаравейшы, а пасля пяцідзесяці — хто хварэйшы...

З Людай хадзілі на пляц Свабоды, дзе адбываўся Міжнародны фестываль вулічных тэатраў. Людзей было вельмі шмат, таму апрача людзей амаль нічога толкам не паглядзеў. За дзве гадзіны, якія мы правялі на фестывалі, сустрэлі шмат знаёмых. З Людмілай Хейдаравай адно аднаго сфатаграфавалі. Сустрэўшы польскіх гімнастак, якія ўдзельнічаюць у міжнародных спаборніцтвах па гімнастыцы ў Мінску, я папрасіў, каб даказалі, што яны сапраўдныя гімнасткі, і яны, як гімнасткі, задзерлі ўгору ногі. Я адразу іх сфатаграфаваў. Навокал гучалі музыка і песні. П'яных і міліцыі не бачылі. Словам, усё было, як у пагарэлым тэатры...

Багоўка, як кропелька золата на чорным крыжы забытай магілы...

Мая Плісецкая. Лебядзінае возера. Лебедзь, які памірае. Памерла...

***3.05.2015***

Глядзеў фільм пра князёў. Узгадаўся выраз «князь Сярэбраны». Гэтак называў паэта Юрася Свірку Алесь Пісьмянкоў. Нярэдка Алесь называў старэйшага калегу па пяры настаўнікам. І недарэмна ўзгадаўся Юрась Мікалаевіч — у яго 6 траўня дзень народзінаў і было б яму 82 гады...

Яшчэ нядаўна думаў: «Калі ўжо дзень падаўжэе?!» Праз пяцьдзясят дзён дзень пачне карацець. Вось тут і жыві, і радуйся...

Чым болей пішу, тым болей разумею, што іншага занятку, які б мне прыносіў задавальненне, не маю...

Учора, вяртаючыся з фестываля вулічных тэатраў, на аўтобусным прыпынку сустрэў старога пісьменніка. Павітаўшыся, мужчына сказаў: «Я вас віншую з выйсцем новых кніг! Нядаўна чуў праз радыё, што летась у вас першы раз выйшла ажно чатыры кнігі!» — «Гэта, відаць, не пра мяне! У мяне летась выйшла адна кніга!» — запярэчыў я, але стары настойваў на сваім: «Чатыры! Чатыры! Першы раз! Чатыры!» Не ведаю, чым бы наша размова скончылася, калі б не прыйшоў аўтобус, у які я ўцёк ад суразмоўцы. І раптам сёння, узяўшы ў рукі кнігу «Першы папяровы снег», зразумеў, што стары пісьменнік інфармацыю пра тое, што ў мяне выйшла кніга «Першы папяровы снег» у выдавецтве «Чатыры чвэрці» пачуў, як тое, што ў мяне першы раз адразу выйшла ажно чатыры кнігі...



***4.05.2015***

Дзесяць гадоў мінула, як не стала Анатоля Сыса. Дзевяць гадоў таму (2.05.2006. Радаўніца) у мяне з'явіўся верш «Каля магілы паэта». Усё было, як учора...

*Год прайшоў, як Тут цябе няма...*
*Век міне, нібы міне зіма...*
*А зіма бясконцая цяпер.*
*Вецер вые, як галодны звер,*
*Ля тваёй магілы, ля крыжа,*
*На якім варона, як душа,*
*Што ад нас не хоча адлятаць,*
*Нас адных з зімою пакідаць*
*Не хацеў і ты, але пайшоў*
*З крыжам, як з агнём, у лес крыжоў,*
*Пад якімі ў вечнасці зямной*
*Землякі сустрэліся з табой*
*Не святым, самотным і чужым*
*Свету, у якім жыццё, як дым*
*Над пажарышчам, дзе сёння мы,*
*Як праталіны сярод зімы...*

*Год прайшоў, нібыта ты прайшоў*
*Між людзей, нібы сярод крыжоў...*

Ляжаць каля сметніцы старыя савецкія кніжкі, як дошкі пілаваныя...

### *5.05.2015*

З самага ранку зайшоў стары. З партфеля, купленага, відаць, яшчэ ў мінулым стагоддзі, дастаў тэчку, завязаную зашмальцаванымі матузкамі і ўпэўнена абвесціў: «Я тут хачу ў вас выдаць кніжку! Не пашкадуеце! Я сабе цану ведаю!» — «А што ў вас?» — запытаўся я. «Апавяданні. Некаторыя пры Кудраўцу друкаваліся ў «Нёмане». Потым Жыжэнка мяне нешта неўзлюбіў, і перасталі друкаваць...» — адказаў наведвальнік і паклаў на стол тэчку. Я развязаў матузкі і пабачыў пажаўцелыя старонкі з машынапісным тэкстам. На тытуле рукапісу было пазначана: «1988 год». «А чаму ў 1988 годзе вы забралі з выдавецтва свае творы?» — пацікавіўся я. «Тады тут працавалі людзі, якім я не спадабаўся...» — адказаў стары і апавёў, якія нехарошыя людзі працавалі ў выдавецтве амаль трыццаць гадоў таму...



### *6.05.2015*

Адразу пасля полудня ў маім кабінеце прагучаў тэлефонны званок. Падымаю слухаўку і чую: «Можна ў вас кніжку выдаць?» — «Можна. А што ў вас? Проза? Паэзія?» — кажу я. «Пераклады Пушкіна, Лермантава, Ясеніна...» — адказвае суразмоўца. «А як ваша прозвішча? Вы вядомы перакладнік?» — цікаўлюся. «Прозвішча — гэта імя па бацьку?» — пытаецца перакладнік. «Прозвішча, калі перакласці на расейскую мову, гэта — фамілія», — тлумачу. Мужчына называе прозвішча. Я такога перакладніка не ведаю. «А як вы перакладалі на беларускую мову, калі па-беларуску не размаўляеце?» — пытаюся і чую ў адказ: «Перакладаў са слоўнікам...»

Патэлефанаваў у Лягезы. Павіншаваў дзядзьку Віцю з днём народзінаў. Яму ўжо 82 гады. Клікаў у госці. Калі я ў Лягезах гадаваўся да школы, у дзесяці хатах было чалавек пяцьдзясят. Цяпер засталося чатыры. Дзядзька пры сустрэчы часта ўспамінае, як з гары яго са мной малым на возе панёс конь. Я не памятаю страху, бо мне было весела ад грукату колаў па брукаванцы, а дзядзька і сёння шкадуе, што тады ўзяў мяне з сабой у дарогу, якая магла скончыцца трагічна...

У выдавецкі кабінет праз адчыненае вакно заляцела пчала, нібы спалохалася самалётаў, якія толькі што праляцелі над горадам, рыхтуючыся да свята...

***7.05.2015***

У ціхай хмары маланкі водзяцца...

Працягваем працаваць над кнігай Алеся Разанава «Такая і гэтакі: талакуе з маланкай дождж». Мастачка Кацярына Дасько ўжо наблізілася да завяршэння аздаблення. Я пацікавіўся ў Разанава, што ён цяпер творыць. Алесь Сцяпанавіч прызнаўся, што піша пункціры на літоўскай мове. Ужо ёсць 150 твораў і яшчэ плануе каля 200. Сёе-тое зачытаў нам. Мы слухалі, а на вуліцы з ветрам талакаваў дождж...

Упершыню на чэмпіянаце свету па хакеі наша зборная перамагла амерыканцаў з лікам 5:2. На нашым лёдзе свята...



***8.05.2015***

Снег на страсе, як белая кудзеля, і ручаіны, што сцякаюць са страхі, як ніткі, з якіх ткуцца палотны вясновых калюг...

Заўтра еду ў вёску. Даўно не быў. Збіраюся, як з замежжа...

***9.05.2015***

З сынам Максімам, сястрой Валяй і яе мужам Віцем, і іхнай дачкой Надзяй ездзілі ў Пугачы...

Дарогаю па вёсках ніякіх сцягоў, ніякіх плакатаў, якія б нагадвалі пра сённяшняе свята, нідзе не бачылі. Сям-там людзі ў агародах, на сотках, а так ціха і сонечна...

Буслы ў буслянках стаяць, як моляцца...

У садах квітнеюць вішні і слівы. Яблыні яшчэ прачынаюцца...

Палі рунеюць, нібы ахопленыя зялёным агнём...

Прыехалі ў Пугачы а палове адзінаццатай. У вёсцы на вуліцы бязлюдна. Зрэдку праедзе легкавік і ніводзін сабака не гаўкне. А можа, іх у вёсцы і няма...

У хаце пасля зімы сцюдзёна. Паадчыняў дзверы, вокны і па нейкім часе гадзіннік на сцяне зацікаў весялей...

Дзядзька Толя прыгнаў каня. Запрог у плуг. Я хацеў, каб Максім заараў грады, але, паглядзеўшы, як ён арэ, сам узяўся за справу. Вучыць Максіма няма калі, бо ля хаты працы і так стае. Араць я сам навучыўся недзе ў гадоў

пятнаццаць, а мо і раней, і з таго часу дома толькі я і хаджу за плугам...

Заараўшы зямлю пад грады, скасіў усю траву на нашай сялібе. Мама пахваліла б...

Віця з Максімам спілавалі на балаціне, што засталася ад сажалкі, каля нашага плота віхлы, пасаджаныя бацькам гадоў трыццаць таму. Адна віхла падчас нейкага бурану павалілася і ледзьве не парвала электраправодку да нашай хаты. Па нейкім часе і іншыя дрэвы паваліліся б, бо ўжо напалову пасохлі. Дзядзька Шура, які жыве па суседстве, дапамог пілаваць. Калі праца была скончаная, дзядзька сказаў: «Цяпер стала неяк нязвыкла... Усё сыходзіць у небыццё...»

Максім быў малайцом. Працаваў, як дарослы. Бабуля з дзедам, калі б жылі, цешыліся б, што вырас такі не гультаяваты ўнук...

Валя з Надзяй пасадзілі грады. Прыляцеў шпак, сеў на плот каля градаў, нешта пасвістаў і паляцеў...

У агародзе тюльпаны і нарцысы, пасаджаныя мамай, усё яшчэ квітнеюць. Ад іх светла на сялібе і ў душы...

З вёскі ў Мінск выехалі на пачатку дзясятай. Горад сустрэў нас салютам Перамогі...

***10.05.2015***

Усе святы сканчаюцца смеццем...

***11.05.2015***

Мастак Дзмітрый Сарока падараваў мне свой каталог карцін. Мы з ім землякі. Ён нарадзіўся ў вёсцы Крапіўнікі, што ў паўкіламетры (праз рачулку Яршоўку) ад Лягез, дзе я гадаваўся да школы ў бабулі Ганны. Мастацтвазнаўца Таццяна Лявонцьева ва ўступным слове да выдання піша: «Сароку адначасова можна назваць і рэалістам, і імпрэсіяністам. Яго пейзажам уласцівыя светлы настрой, паэтычнасць і адмысловы рамантызм мастакоў старой школы, штосьці непераходзячае і вечна запатрабаванае, што будзе цікава людзям у розныя эпохі і часы. І яшчэ адно трэба падкрэсліць, самае галоўнае, на мой погляд, ва ўсіх яго працах — глыбокая нацыянальная прыналежнасць да роднай зямлі, да роднай Беларусі». 9 траўня Дзмітрый, наведваючы могілкі родных, заехаў у Крапіўнікі. Акурат дома была мая стрыечная сястра Аня. Пазнаёміўся. Паўспаміналі з ёй тыя Крапіўнікі, калі ў

вёсцы было шматлюдна, і Яршоўка светла цякла і цякла за небакрай, куды заходзіць сонца...

***12.05.2015***

Холадна. Пасля дажджу лістота на дрэве, як зялёны лёд...

***13.05.2015***

У бібліятэцы Акадэміі навук удзельнічаў у прэзентацыі Збору твораў Івана Шамякіна ў 23-х тамах. Здавалася б, пра што тут казаць, калі ўжо справа зробленая. Ды не! Размаўлялі амаль тры гадзіны. Найболей запомніўся Міхась Мушынскі, які ў сваім выступе закрануў праблему тэкстолагаў, якіх не стае. Малыя заробкі, таму моладзь, якая прыходзіць пасля ўніверсітэта, адпрацаваўшы прымусовы тэрмін, уцякае. Было б шмат тэкстолагаў, дык сёння можна было б распачаць працу над Зборам твораў Янкі Брыля, Аркадзя Куляшова і іншых класікаў беларускай літаратуры. А так маем тое, што маем...

На праспекце Незалежнасці сустрэў мастака Валерыя Шкарубу. Потым разам ехалі аўтобусам. Размаўлялі пра мастакоўскае і літаратарскае жыццё-быццё. На маё пытанне: «Хто цяпер купляе карціны?» — мастак адказаў: «Кітайцы!» Ад Валерыя даведаўся, што ўчора ў Віцебску патануў, пераплываючы Дзвіну, сын народнага мастака Беларусі Аляксандра Кішчанкі, мастак-манументаліст Саша Кішчанка. Не даплыў метраў дзесяць да берага. Ён любіў плаваць...

***14.05.2015***

У бібліятэцы імя Янкі Купалы прэзентаваў кнігу «Заўтра была адліга». Вяла імпрэзу маладая супрацоўніца Музея гісторыі беларускай літаратуры. Дзякуючы абвестцы ў фэйсбуку сабралася даволі шмат людзей. Чалавек семдзесят. Паводле плана адразу пасля невялікай музычнай часткі Людміла Рублеўская мусіла са мной размаўляць пра мае творы. А тут і музыка адыграла, і супрацоўнікі музея і бібліятэкі па пару слоў сказалі, а Людмілы няма. Спазнілася на хвілінаў дваццаць. Праз працоўны тлум ёй чамусьці падалося, што трэба ехаць у Музей Янкі Купалы, і яна туды паехала. Павінна было з'явіцца яшчэ чалавек дваццаць студэнтаў, але яны вырашылі, што прэзентацыя будзе адбывацца ў Нацыянальнай бібліятэцы.

Праз гэтыя недарэчнасці ўзгадалася даўняя прэзентацыя кнігі Алеся Пісьмянкова «Мы з братам» у кнігарні «Светач». Вёў імпрэзу Навум Гальпяровіч. Прамаўляў цэлую гадзіну без Алеся, бо ён не прыехаў. Часта называў кнігу «Мы з братам». Адзін дапытлівы слухач пацікавіўся: «А дзе ж брат?» — «Неўзабаве прыедзе!» — адказаў Навум. Пісьмянкоў жа з'явіўся толькі тады, калі людзі пачалі разыходзіцца. І той дапытлівы слухач з усмешкай заўважыў: «Вось і брат прыехаў!» Алесь спазніўся, бо якраз у гэты дзень гадзіннікі былі пераведзеныя на гадзіну наперад. Алесь не перавёў...

Калі скончылася прэзентацыя маёй «Адлігі», да мяне падышоў Аляксей Шэін і падараваў мне і Людміле сваю кнігу «Сем камянёў», а мы яму падаравалі свае выданні...



***15.05.2015***

На праспекце Пераможцаў сустрэў знаёмага Васіля, які працуе ў Тэатры-студыі кінаакцёра. На маё пытанне: «Як справы?» — ён адказаў: «Калі мне вельмі дрэнна, то я ў бальніцы. Калі мне вельмі добра, то я ў мянтоўцы...»

Прыходзіў Вітаўт Чаропка. Прынёс рукапіс кнігі выбраных твораў «Храм без Бога». Падараваў мне сваю карціну. Без рамкі. «Набудзеш сам! Якую захочаш!» — сказаў Вітаўт. Разабраўшыся з рукапісам, прайшліся да вуліцы Танка, дзе ў адной з крам прадаюцца фарбы. У Вітаўта шмат задум і фарбы ў яго хутка змалёўваюцца. Ідучы, скардзіліся адзін аднаму, што амаль загінула школа рэдагавання твораў і што цяпер няма дзе пісьменнікам пасядзець, каб выпіць кавы ці чаго мацнейшага...

***16.05.2015***

Холадна. Квецень, як снег, які думае: «Падаць на зямлю, ці вярнуцца ў неба?»

З Людмілай выйшлі з дому а першай гадзіне і вярнуліся задаволеныя жыццём а дзявятай...

Напачатку былі ў школе маладога літаратара. Таленавітая моладзь расце. Праўда, хлопцаў малавата...

Сёння «Ноч музеяў». Пачалі вандроўку з Музея Петруся Броўкі. Я ў ім быў упершыню. Ганна Севярынец вяла імпрэзу. Вядомыя пісьменнікі чыталі любімыя вершы любімых

паэтаў. На століку ляжаў важкі том Тараса Шаўчэнкі, які (мая фантазія) выконваў ролю стрэльбы, што павінна была ў канцы імпрэзы выстраліць (стаць падарункам аднаму з выступоўцаў). І я «стрэлу» баяўся, бо ў Людмілы з сабой ужо была цяжкая торба. Шаўчэнка трапіў (супрацоўніца музея выцягнула са шкатулкі прозвішча) у Альгерда Бахарэвіча.

У кнігарні сустрэлі Алега Дзьячкова, які прывёз з Магілёва лекараў у тэатр Янкі Купалы на прагляд спектакля, да якога была яшчэ цэлая гадзіна. Алег пайшоў разам з намі да Музея Янкі Купалы. Дарогай Людміла і Алег размаўлялі пра розныя гістарычныя мясціны ў Мінску. Я моўчкі слухаў. У Купалаўскім музеі «ноч» мусіла пачацца а сёмай гадзіне, таму мы пайшлі ў Музей Максіма Багдановіча. Там трапілі на выступы этнакалектываў. Пад столлю музея, нібы застылыя ў палёце, былі мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык, як анёлкі...

Вярнуўшыся да Музея Янкі Купалы, трапілі ў людскую раку, якая працякала праз сам музей, а потым разлівалася каля сцэны перад уваходам у будынак Песняра. У музеі ўсе праходзілі праз другі паверх, дзе каля кожнага экспаната стаялі гіды і апавядалі пра Купалу. Я ўпершыню пабачыў дзверы з нумарам 414 гатэля «Масква», за якімі жыў Купала. Тут жа прыступкі, якімі ішоў паэт, і парэнчы лесвічнага пралёта, праз які ён паляцеў у вечнасць. Паглядзелі на «прывід» Купалы і паслухалі верш у яго выкананні, які захаваўся. Уражвае. Еўропа! Не! Беларусь еўрапейская!..

***17.05.2015***

Чалавек, які часта без патрэбы паўтарае, як заклён, слова «кашмар», урэшце сам робіцца кашмарам...

Нашы людзі ў бібліятэку, каб там выступіць, на таксоўцы не ездзяць...

Бяры рукапіс, ідзі дамоў...

Рама без карціны пад кустамі, як вялізны абаранак, што драўляным і квадратным стаў...

***18.05.2015***

Прыходзіў Вітаўт Чаропка. Прынёс анатацыю да будучай кнігі. Паўспаміналі былыя часы, былую эпоху. Апошні

раз Вітаўт удзельнічаў у літаратурнай вечарыне 25 красавіка 1996 года ў Музеі Максіма Багдановіча. На мае словы «Трэба ў людзі выходзіць!» — Вітаўт адказаў: «А калі працаваць?» І ўсё ж я запрасіў Чаропку ў бібліятэку імя Цёткі на вечарыну «У-Зорныя сем'і», якая пройдзе 19 траўня. «Хто там будзе?» — пацікавіўся сябра. «Ірына і Максім Клімковічы, Аксана Спрынчан і Яраш Малішэўскі, я з Людмілай Рублеўскай, Ганна і Стыў Крамеры»,— адказаў я. «Хто такія Крамеры?» — «Музыка з жонкай спявачкай…» — «Сымон-музыка з жонкай!» — «Амаль што…» — «У мяне ўжо каля 70 карцін»,— прызнаўся Чаропка. «Давай выставу зробім у бібліятэцы. А потым вечарынку ў калгасе!» — прапанаваў я. «У калгасе? Не! У калгасе не хачу!» — Замахаў рукамі мой суразмоўца. «Калі я кажу пра вечарынку ў калгасе — гэта азначае, што пасля імпрэзы будзе добры фуршэт…» — патлумачыў я. Вітаўт заўсміхаўся і сказаў, што падумае над маёй прапановай, а потым апавёў, што свой «Храм без Бога» апошні раз ён чытаў у 1992 годзе. Пасля гэтага доўгі час баяўся перачытваць. Можа, слаба ўсё. Асмеліўся нядаўна. Прачытаў старонак пятнаццаць. Нічога. Можна чытаць і сёння, і дадаў: «Цяпер сур'ёзную прозу пісаць па 500—600 старонак — гэта самагубства…»

***19.05.2015***

Ездзіў у Маладзечна. Выйшаў на прыпынку электрычкі «Фестывальная», дзе мяне сустрэў Міхась Казлоўскі, каб, ідучы ў бібліятэку №6, зайсці на могілкі да Міколы Ермаловіча. Мінула пятнаццаць гадоў, як з намі няма Міколы Іванавіча. Час ляціць. Каля магільнай агароджы клён, які, здавалася б, учора быў танюсенькім, стаўся камлістым і кроністым. Пастаялі, паўспаміналі, пасумавалі і пайшлі ў бібліятэку, дзе нас ужо чакалі дзеці са школы №1 імя Янкі Купалы. Дзявяты клас. Землякі. Слухалі аповеды з майго «Пугачоўскага цырульніка» і вершы з кнігі «Заўтра была адліга». Задавалі пытанні. Жартавалі. Смяяліся. Добрыя растуць дзеці і хочацца верыць, што і яны будуць ведаць, што напісаў і дзе пахаваны Мікола Ермаловіч…

З Людмілай Рублеўскай, Ірынай і Максімам Клімковічамі ўдзельнічаў у спектаклі нон-фікшн Паэтычнага тэатра «Арт. С» «У-Зорныя сем'і», які прайшоў у бібліятэцы імя Цёткі. Сцэнарыстамі і рэжысёрамі былі Аксана Спрынчан і

Яраш Малішэўскі. Шмат цікавага даведаўся з гісторыі кахання Ірыны і Максіма. Асабліва ўразіла тое, што Максімава бабуля была супраць яго шлюбу з Ірынай. Старая мела іншыя планы. Пасля вяселля яна дваццаць гадоў (ажно да сваёй смерці) не размаўляла з унукам і ягонай жонкай, жывучы з імі ў адной кватэры. Калі спектакль скончыўся, мы за гарбатай яшчэ доўга апавядалі гісторыі са свайго жыцця...

***20.05.2015***

Жыву амаль у цэнтры Мінска. За вакном у двары чайкі ўсё крычаць і крычаць. І часам думаю, што мой дом стаіць на беразе Балтыйскага мора...

***21.05.2015***

Праліўся дождж, і апусцела неба, як Божае вядро...

Быў час, калі я разоў дзесяць на год ездзіў у Маладзечна, дзе далей з Міхасём Казлоўскім вандраваў нашай Віленшчынай. Выступалі ў бібліятэках і школах. Потым нярэдка апошняй электрычкай я вяртаўся ў Мінск. Праязджаючы станцыі Аляхновічы і Дубравы, часта (чамусьці асабліва ўзімку) хацеў сысці на пусты перон і пайсці праз ноч у родныя Пугачы. Дзесяць кіламетраў — не за свет. Але не сыходзіў, бо адразу ўспамінаў, як адзін п’яны аднавясковец уначы не дайшоў дамоў з суседняй вёскі. Сеў пад дрэвам адпачыць, заснуў і замерз. Некалькі дзён таму, вяртаючыся з Маладзечна, у дарозе надумаў верш:

*Электрычкі вагоны пустыя*
*Адзіноту праз цемру вязуць*
*І палохаюць цені начныя,*
*Што абапал чыгункі жывуць.*
*Я сыду на прыпынку няспешна,*
*На якім не чакаюць мяне,*
*І ад гэтага сумна і смешна*
*Будзе мне ў гэтай ранняй вясне,*
*Дзе няма ні снягоў, ні лістоты,*
*А вятры, халады і дажджы.*
*На прыпынку слупы ад самоты,*
*Як зламаныя ўзімку крыжы,*
*Да якіх мы прыходзілі светла,*
*Электрычку чакалі, як лета,*
*Каб ніколі сюды не вяртацца...*

Так. Хацелася не вяртацца ў вёску, але гэта было даўным-даўно. Мне тады было пятнаццаць гадоў...

Калі няма сонца ў небе, яго нібыта зусім няма...

З Мазыра прыязджала жанчына. На пенсіі. Прывезла ў дзвюх торбах раман. Напісаны ад рукі. Пачытаў колькі старонак. Запытаўся: «Даўно пішаце?» — «Са школы! Нідзе не друкавалася. Гадоў трыццаць таму хадзіла ў «Нёман» з вершамі. Параілі болей не пісаць. А я ўсё ж пісала,— адказала жанчына і, гледзячы самотна на мяне, пацікавілася: — А дзе тут у Мінску макулатуру прымаюць?»



***22.05.2015***

Пакуль пад дрэвам чакаў, калі суцішыцца дождж, накруціліся ў галаве радкі:

*Я схаваўся пад дрэвам, як воўк, ад дажджу.*
*На маланкі, нібыта на смерць, я гляджу.*
*Гром грыміць, быццам падаюць з неба крыжы,*
*Па якіх уздымаліся ў хмары дажджы...*

***22.05.2015***

На кожнага Сабаку ёсць свой Граждан...

Іду праз дождж. Вада халодная, як мёртвая...

***23.05.2015***

У якасці літкансультанта ўдзельнічаў у IX абласным злёце маладых паэтаў Міншчыны «Слова Купалы да творчасці кліча». Пад такім самым назовам выйшаў зборнік вершаў, дзе змешчаны творы 47 аўтараў. Сярод іх — людзі розных прафесій, студэнты і школьнікі.

У купалаўскія Акопы выехалі ад Мінскай абласной бібліятэкі. Я сядзеў побач з Міколам Чарняўскім, а Галіна Каржанеўская з Таццянай Сівец. Дарогаю абмяркоўвалі творы маладых, дзяліліся ўражаннямі. Пад’язджаючы да Лагойска, Чарняўскі ўзгадаў радок Ніла Гілевіча: «Гарыць, гарыць мая Лагойшчына...» — і адразу да яго дадаў, што заўсёды казаў, чуючы гэтыя словы Гілевіча, Рыгор Барадулін: «... і ўся паэзія гарыць».

«Дзе канчаецца асфальт?» — запытаўся ў мяне Мікола Чарняўскі. Я падумаў і адказаў, што не ведаю. «Асфальт канчаецца там, дзе пачынаецца твой Валожынскі раён! Праўда,

гэта было гадоў пяцьдзясят таму. У Валожынскім раёне ўсе дарогі былі брукаваныя...» — сказаў Мікола Мікалаевіч. Сапраўды, у нас амаль усе дарогі былі брукаваныя. Я памятаю, як з Лягез у Ракаў ездзілі брукаванкаю. Ды і сёння ў дзядзькі Віці ў Лягезах каля хаты ў двары ляжыць брук...

У Харужанцах, дзе знаходзіцца філіял Музея Янкі Купалы «Акопы», прайшло свята паэзіі. Са сцэны разам з намі, літкансультантамі-настаўнікамі, выступалі маладыя паэты. Было сонечна і святочна. У злёце паэтаў Міншчыны я ўдзельнічаў шосты раз. Гледзячы на сцэну, узгадваў тых, хто тут раней выступаў і ўжо ніколі не выступіць. Адны адышлі ў лепшы свет, другія ўжо з кватэр не выходзяць, трэціх сюды не запросяць. Сумна. І ўсё ж не так сумна, як часам падаецца, бо новыя паэты нараджаюцца, растуць і пішуць беларускія вершы пра Беларусь...



***24.05.2015***

Сёння Людміла Рублеўская была гідам па Кальварыйскіх могілках. Правесці экскурсію папрасіў старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Дзьячкоў, які прывёз у Мінск поўны аўтобус людзей. Дзве гадзіны мы хадзілі па могілках. Раз-пораз я дапаўняў Людміліны аповеды пра знакамітых дзеячаў культуры і іх родных, якія спачываюць на Кальварыі. Потым разам з магілёўцамі мы наведалі Прылукі, дзе стаіць палац Чапскіх. З 1872 года Прылукі былі ўладаннем вядомага калекцыянера і нумізмата Эмерыка Чапскага, а з 1897 года — ягонага сына Юрыя (Ежы). Цяпер у палацы месціцца Інстытут аховы раслінаў. У палацы Чапскіх быў зняты першы ў БССР мастацкі фільм «Лясная быль». Гэта чорна-белае нямое кіно выйшла на экраны 26 снежня 1926 года. Агледзеўшы палац, мы паехалі ў вёску Воўкавічы, дзе ў 1904 годзе быў збудаваны касцёл Сэрца Езуса і Найсвяцейшай Панны Марыі. Асноўную частку сумы на будаўніцтва ахвяраваў граф Е. Чапскі. За саветамі ў 1950-я гады касцёл быў зруйнаваны. Непадалёк ад месца, дзе быў касцёл, узвышаецца вялікі чорны мармуровы крыж. Гэта магіла жонкі фундатара касцёла Юзэфы Караліны Чапскай. Помнік быў зроблены ў Варшаве, а потым прывезены на могілкі. Далей экскурсія працягнулася без нас. У Станькаве і Койданаве мы з Людмілай былі. У Мінск вярнуліся прыгарадным аўтобусам, задаволеныя знаёмствам з магілёўцамі і экскурсіяй...

***26.05.2015***

Маладзік, як мяч працяты, з якога паветра сышло...

Дзьмухаўцы, як дым застылы цыгарэтны...

Дыскрымінацыя ў паэзіі: ёсць белыя вершы і ўсе астатнія...

***27.05.2015***



Удзельнічаў у адкрыцці выставы ў гімназіі-каледжы мастацтваў, прысвечанай 70-годдзю Перамогі. Пахадзіў калідорамі. Паўспамінаў, як сюды штодня сем гадоў вадзіў дачку і сына. Яшчэ працуе іх першая настаўніца Зінаіда Кірылаўна. Зазірнуў у клас. Дзеці як дзеці, і ўсё ў гімназіі-каледжы, здаецца, добра, але «няма таго, што раньш было». Развітаўшыся з Зінаідай Кірылаўнай, выйшаў на вуліцу. На вуліцы дождж. Сумны, як я...

***28.05.2015***

А восьмай гадзіне прыйшоў на працу. Каля дзвярэй майго кабінета ўжо стаяла жанчына. Гадоў за пяцьдзясят. Прыехала здалёку. Прывезла вершы. Напісаныя пад Цвятаеву і Ахматаву. Нядрэнна напісаныя. Рэдка такое бывае, каб немалады чалавек прыйшоў, нідзе не друкаваўшыся, з творамі падобнага ўзроўню. Звычайна вершы слабенькія, кшталту: «Я цябе любіла. Ты мяне любіў. Я цябе забыла. Ты мяне забіў...» Прагледзеўшы колькі твораў, я выказаў сваю думку і папрасіў пачытаць, бо вершы былі запісаныя ў сшытку часам не вельмі разборліва. Жанчына пачала чытаць, а я раз-пораз пахвальваў. Запытаўся, як завуць. Запісаў. Размаўлялі амаль гадзіну. Здавалася б, усё скончыцца добра. Ды не! Калі я сказаў, што мы, на жаль, не маем магчымасці друкаваць усіх, хто хоча, бо ёсць адбор і ёй трэба напачатку надрукавацца хоць бы ў «Нёмане», жанчына з мілай ператварылася ў нямілую: «А навошта вы запісалі, як мяне завуць?» Давялося падраць і выкінуць у сметніцу паперчыну. Праўда, за хвілінаў пяць я ўсё ж здолеў патлумачыць цяперашнюю сітуацыю з паэзіяй, якая стала амаль нікому не патрэбнай. Развіталіся, усміхаючыся адно аднаму. За хвілінаў дзесяць прыйшла яшчэ адна паэтка. Ёй вылучыў з паўгадзіны часу. Потым жанчына з казкамі. Зноў размаўлялі з гадзіну. Толькі выйшла з кабінета казач-

ніца, як з’явілася бабулька з паэмай пра Мінск. За бабулькай завітала жанчына з прозай. Незаўважна і полудзень прайшоў. Пасля трох гадзін я выйшаў па выдавецкіх справах у горад і сустрэў на вуліцы падпітых хлопцаў у форме памежнікаў. Сёння іх свята. Паглядзеўшы на хлопцаў, усміхнуўся: «Няма каму мяжу ахоўваць, вось і жанчыны прарваліся да мяне...»

У творчасці, як у вялікай чарзе, могуць затаптаць...

***29.05.2015***

Сёння не людзі залежаць ад Паэзіі, а Паэзія ад людзей...

***30.05.2015***

У бібліятэцы ў прыбіральні няма паперы. Не было і ў філармоніі...

***30—31.05.2015***

Мой зямляк Павел Каўрыга, які выкладае ў БДУ на геафаку, запрасіў мяне выступіць перад студэнтамі, што на Валожыншчыне каля вёскі Калдыкі на геастанцыі «Заходняя Бярэзіна» праходзяць практыку...

Дробныя птушкі перад машынай peралятаюць дарогу, як самагубцы ці экстрэмалы...

На палях ходзяць буслы, як геадэзісты...

За Валожынам стаіць вятрак, нібыта знак, што тут Еўропа...

Прыехалі а чацвертай гадзіне. На геастанцыі, якая знаходзіцца ў лесе, цішыня. Студэнты разышліся па сваіх вучэбных справах. З дамка выйшаў выкладнік, які пачуў, што мы прыехалі. «Учора ў нас быў Глобус...» — апавядаючы пра ляснoe жыццё-быццё, паведаміў мужчына. Пачуўшы пра гэта, я падумаў: «Малайчына Валодзя, што наведаў адарваных ад горада студэнтаў». За паўгадзіны я даведаўся, што тут учора быў не Адам Глобус, а студэнцкая вечарына «Музычны глобус»...

Хвоі, як геадэзічныя збудаванні...

У лесе студэнты з заплечнікамі, як дыверсанты...

Спявалі птушкі. Раптам стала ціха і пайшоў дождж. Адна музыка замяніла другую...

Над поймай ракі праляцелі два лебедзі. Белыя, як анёлы...

Пасля вячэры ўсе сабраліся ў клубе. Вечарына пачалася з «Купалінкі», якую праспявала студэнтка чацвертага курса. Яна для сяброў ужо свая эстрадная зорка. Лізавета Гурская прачытала верш Уладзіміра Караткевіча «Беларуская песня». За гэта я падараваў ёй кніжку «Заўтра была адліга». Потым гучалі вершы, што напісалі студэнты падчас практыкі. Вайсковец праспяваў «Тры чарапахі» Лявона Вольскага. Амаль да адзінаццатай гадзіны выступаў я. Вёў імпрэзу Уладзімір Малашэнкаў. Прыканцы Павел Каўрыга падараваў мне сваю кнігу «Метэаралогія і кліматалогія» (Беларуска-руска-англійскі даведнік) з аўтографамі студэнтаў сваёй кафедры.

Да другой гадзіны ночы з выкладнікамі размаўлялі пра жыццё-быццё. На іх просьбу чытаў вершы. Слухалі, не перапынялі...

Сходзіўшы на студэнцкую лінейку, з Паўлам Каўрыгам паехалі ў Мінск. У некалькіх кіламетрах ад геастанцыі на ўскрайку лесу заўважыў вялікага рудаватага зайца. Ён назіраў за намі, нібыта студэнцкі дазорца, які замаскаваўся пад зайца...



***31.05.2015***

З Людмілай хадзілі да Ратушы, дзе потым з гідам, а таксама князем Радзівілам Чорным і ягоным сямействам вандравалі па Верхнім горадзе. Народу сабралася шмат. На экскурсійны натоўп мінакі глядзелі па-рознаму: тры загарэлыя расейцы гадоў пад пяцьдзясят, пачытаўшы шыльду на Ратушы, прайшлі праз нас, як праз высокую траву. Нейкія замежнікі, якія сядзелі пры століках вулічнай кавярні, калі мы праходзілі каля іх, сустрэлі Радзівіла і ягонае сямейства воплескамі і воклічамі захаплення. Павандраваўшы па Верхнім горадзе, каля Ратушы гідэса Ганна правяла конкурс на веданне гісторыі. Мы з Людмілай не адбіралі ў прысутных магчымасць выйграць прызы. Нейкі час я пацешыўся з малымі радзівілятамі, адзін з якіх сказаў, што ён некаранаваны кароль...

* * *

У кнігах, напісаных ветрам і пылам,
Жывуць адзінокія змеі і мы.
І вечнасць хаваецца за небасхілам,
Як сонца збяднелае ў нетрах зімы.
І ты бярэш кнігу, і сыплецца з кнігі
Пясок чорных літар, якіх не сабраць.

І аркушы белыя, быццам бы крыгі,
Кідаеш агню, і ў агні не гараць
Не нашыя кнігі, што ветрам і пылам
Напісаны ўчора, дзе змеі і мы
Жылі яшчэ разам за тым небасхілам,
Дзе мы пачаліся з сыходам зімы...

**13.05.2015**

* * *

Схавалася сонца ў вячэрняй траве маладой
І стала трава застаялай зялёнай вадой,
Дзе водзяцца чорныя, быццам вуглі, карасі
Пад небам, дзе зорак, нібыта ў балоце гразі,
З якой ты зляпіць хочаш сонца для свету, дзе ты
Самотны, як крыжык драўляны сярод залатых
У лаўцы вакзальнай, дзе кожны вандроўнік, як Бог,
Ідзе па дарозе, з якою здрадніцца ён змог
У свеце, дзе сонца плыло па траве ўжо сівой
І стала трава снегавою жывою гарой,
Што коціцца следам, як поўня, цяпер за табой,
Каб ты не спыняўся, спакою сабе не прасіў
Пад небам, дзе хмараў, нібыта ў балоце гразі...

**13.05.2015**

* * *

У музыцы старых дзвярэй вакзальных
Мне чуюцца памерлых галасы
Сяброў, як гэты белы свет, звычайных
І мудрых, як дрымучыя лясы.
Сябры сышлі, як дні сыходзяць светла,
Пакінуўшы мне права на жыццё
Без іх у свеце, дзе дажджамі лета
Змывае з дрэў, нібы агонь, лісцё.
Праходжу, як праз музыку, праз дзверы,
Нібыта ў вечнасці, іду ў дажджы.
Маланкі, як сарваныя шпалеры,
Якімі пазаклеены крыжы
Былі на небе, што было нам Храмам,
Куды нас не пускалі, мы ж прыйшлі,
Калі нас нараджалі нашы мамы,
Не помнячы, што ўжо мы тут жылі...

**15.05.2015**

* * *

Вадой затоплены Венецыі праспекты
І неба ў ёй, нібы асфальт блакітна-белы.
І тут здаецца, што жывеш не першы век ты,
А што жывеш з часоў забытых Кампанэлы.
І горад Сонца горадам Вады зрабіўся,
Каб ты тут вечна жыў і вечнаю вадою
Ты сам сабе начыма залатымі сніўся
І быў па-над сабой, як крыж па-над царквою.
Плывеш паміж дамоў, як між цагляных рыфаў,
Дзе людзі, як арлы, сябруючы з вятрамі,
Глядзяць з вакон, нібыта з дзеясловўных рыфмаў
Паэзія на свет наіўнымі вачамі
Глядзіць і напаўняе сэнсам аркуш белы
Так, як напоўнены Венецыі праспекты
Жывой вадой з часоў далёкіх Кампанэлы,
І горад Сонца горадам Вады завеш ты,
Дзе востраў мёртвых і яшчэ жывых паэтаў
Вадою не затоплены, бо гэты свет
Цячэ прад намі і праз нас, як рэчка Лета,
Дзе, як сляпы Харон, чакае нас Паэт,
Каб нас у новай кнізе, як чаўне няспешным,
Павезці на той бераг, дзе наш Бог жыве,
Што любіць нас аднолькава святых і грэшных,
І не за тое, што ўсе мы былі ў царкве,
З якой нітуюцца ў вадзе марской праспекты,
І неба ў іх, нібы асфальт блакітна-белы,
Дзе ўжо ў Венецыі жывеш не першы век ты,
А нарадзіўся тут даўно да Кампанэлы...

**22—24.05.2015**

* * *

У Свіслачы вада вячэрняю гарбатай
Цячэ, а мы стаім на мосціку гарбатым,
І нашы цені размываюцца вадою,
Нібыта шэры лёд, што не растаў вясною.
Гаворыш ты, што вечнага няма нічога
І сонная рака, нібыта ў рай дарога,
Які там ёсць, дзе нас няма і век не будзе.

Ліхтар ля Свіслачы і ў ім, нібы ў сасудзе,
Агонь, нібы матыль, трапечацца ў паўзмроку,
І па вадзе туман, нібы Хрыстос, здалёку
Ідзе праз Мінск у Менск, які яшчэ бывае
Са Свіслачы старой іконаю ўсплывае
І лісцем восеньскім плыве, не кожны бачыць,
Праз дзень кароткі, што цяпер, як хвост сабачы,
Аблеплены калючкамі дажджоў і ветру.
Гаворыш ты: «Самотна мне...» Табе я веру,
Бо ў Свіслачы вада вячэрняю гарбатай
Цячэ, а мы стаім на мосціку гарбатым,
І з ценяў нашых, што, як шэры лёд вясною,
Крупінкі зорак вымываюцца вадою...

**25.05.2015**



* * *

За сонцам балтыйскім, прачнуўшыся рана,
Па Куршскай касе мы да Томаса Мана
Вандроўна прыйшлі, а яго няма дома,
І дзе нам яго адшукаць — невядома.
На століку кніга — матыль велізарны,
Які абляніўся лятаць у пакоі,
Стаў кнігай святой, не раманам бульварным,
Пакінуўшы свет у класічным спакоі.
На сценцы гадзіннік маўклівы, як вечнасць,
Вісіць на цвіку, нібы поўня на зорцы.
Разважна павук парасплёў сваю млечнасць
Пад столлю, як небам, у змрочнай каморцы.
Вітаюцца немцы, а мы, як нямыя,
З усмешкай няспешна праходзім ля іх,
Нібыта яны нам зусім не чужыя,
У Мана людзей не бывае чужых.
А сосны шумяць каля дома, як мора,
І дом караблём адзінокім плыве
У заўтрашні дзень з незнаёмага ўчора,
Дзе зоры рассыпаны, нібы ў траве,
У небе, дзе ёсць беларускае мора...

**25.05.2015**

* * *

Зайдзі ў электрычку, сыдзі каля гаю,
Дзе ўжо болей няма ні ваўкоў, ні грыбоў,
А толькі паэзія, што памірае
Вось так, як памерла да рыфмы любоў,
Бо рыфма патухла, нібы цыгарэта,
І ціш пачалася, нібыта вайна,
І вецер вярнуўся з нябелага свету
З вялікаю поўняй, як куфлем віна.
Не думай, што ты, як апостал, самотны,
Самотных ніхто ў нас не любіць цяпер,
Амаль як не любім будынкаў высотных,
І пятніца лепшая ў нас за чацвер,
Бо потым прыходзіць, як сонца, субота,
А сонца ў суботу няма, а дажджы.
І ты распінаеш сябе з асалодай
На ложку рыпучым, нібы на крыжы.
Паслухай паэта, дурноту не раю,
І заўтра лепш будзе табе, чым учора,
Зайдзі ў электрычку, сыдзі каля гаю,
Калі немагчыма сысці каля мора...

**27.05.2015**

* * *

Ты ізноў напісаў уначы на вадзе пра сваю адзіноту,
І пакрылася лёдам, нібыта санетам самотным, рака.
І, як толькі ўзвіднела наўкол, паляцелі, нібы самалёты,
Цені хмар па збялелай траве і, як дым, ажыла асака.
Можна плакаць і можна смяяцца — ніхто не пачуе,
І на полі аціхлым саломы стагі, як разбураны Рым,
Па якім, нібы раб, што застаўся жывым, крумкач белы вандруе
І табе ён махае крылом: «Давай, брат, мы адсюль паляцім!»
Толькі ты анікуды адсюль не паедзеш, не сыдзеш ніколі,
Ты да гэтай самотнай зямлі адзінотай навечна прырос,
Як вялікі валун у яшчэ не зарослым дзядоўнікам полі
Ці як гэты ля рэчкі змялелай стары, як наш свет, вербалоз.
Ты ізноў напісаў уначы на рацэ пра сваю адзіноту
І закрэсліў світанак твой сум, як празрысты бясконцы санет,
І рака зноў зрабілася светлай і вольнай ад першага лёду,
На якім паслізнулася сонца, несучы прад сабою сусвет...

**28.05.2015**

* * *

Праляцеў самалёт і закрэсліў нябёсы,
На якія з любоўю ты зранку глядзеў,
Па якіх яшчэ ноччу хадзіў Хрыстос босы,
Ён абутак аддаў, каб ты не захварэў
Гэтай ранняй вясною, калі выйшаў з хаты,
Як самотны нявольнік з савецкай турмы,
Калі ўсіх выпускалі на волю, бо свята,
Да якога не ўсе дажылі ў час зімы.
Праляцеў самалёт і закрэсліў нябёсы,
І яны не твае, як і шэры прастор,
Па якім ты ідзеш, як паўдурак цвярозы,
У якога не сэрца — чырвоны матор.
І ты дойдзеш туды, куды сам і не знаеш,
Як не знае вада веснавая свой шлях,
А цячэ па палях і ў калдобах знікае,
І слязамі ўскіпае ў аслеплых вачах...

**31.05.2015**

* * *

Два лебедзі лятуць па-над ракою,
Як аблачынкі дзве плывуць з вясны
Па небе, што зрабілася вадою,
Разбіўшыся, нібы аб край сцяны,
Аб небакрай, куды цячэ, як плача,
Як наша вечнае жыццё, рака.
І сонцам, як пячаткаю гарачай,
Нас пазначае Божая рука.
А лебедзі лятуць па-над ракою,
Знікаючы ў нябёсах, як вадзе,
І цэлы свет становіцца вадою.
Дакладней, гэта весні дождж ідзе.
І мы ідзем з дажджом, і мы такія,
Нібыта ўсе мы створаны з дажджу,
Самотныя, як кроплі дажджавыя,
І светлыя, як свечкі на імшу...

**31.05.2015**

# *Чэрвень*



### ***3.06.2015***

З Маладзечна прыязджаў Міхась Казлоўскі. Падараваў мне зборнік «Там, дзе Уша серабрыцца», у якім прадстаўленыя 32 творцы, дзейнасць і жыццё якіх непасрэдна звязанае з маладзечанскім краем. Укладанне і прадмова Міхася Казлоўскага. На вокладцы зборніка фотаэцюд Генадзя Селядца «Лета». Ва ўступным слове Міхась напісаў: «У свой час Генадзь Каханоўскі, праглядаючы чарговы нумар часопіса «Маладосць», з відавочным гонарам прамовіў: „Глядзі, нашы ідуць у літаратуру“». Для мяне Маладзечаншчына — родны край, і таму я з задавальненнем паўтараю за Генадзем Каханоўскім: «Нашы ідуць у літаратуру!» Апрача зборніка Міхась Казлоўскі падараваў мне паштоўку, выдадзеную ў Познані з нагоды выйсця ў «Мастацкай літаратуры» кнігі пра Язэпа Драздовіча «Праз церні да зорак».

### ***5.06.2015***

З Іванам Вараўкам сябрую з часу (1980-я гады) нашага знаёмства на літаб’яднанні «Крыніцы» пры «Чырвонай змене». Цяпер зрэдку сустракаемся, а так усё праз тэлефон дзелімся сваімі жыццёвымі навінамі. Іван нарадзіўся ў мястэчку Ілья на Вілейшчыне. Працуе на заводзе ў Мінску. Зрэдку піша вершы і яшчэ радзей друкуецца. Нікому, хто хадзіў на літаб’яднанне і потым выбіўся ў вядомыя пісьменнікі, Іван не зайздросціць. Сёння мы з ім сустрэліся. Размаўлялі пра бацькоў. Іванавай маці 90 гадоў. Цяпер яна, на жаль, у бальніцы. Сёе-тое новага з вершаў пачыталі адзін аднаму. На маё пытанне: «Чаму мала пішаш?» — Іван адказаў: «Не хачу! Я магу напрыдумляць сотні вершаў кшталту гэтага:

*Гляджу я ціліvізар вечарамі*
*І цэлу ноч яго глядзець гатоў.*
*А раніцай я крочу за грыбамі,*
*Хоць у гародзе мора агуркоў...—*

але ж гэта не высокая паэзія, таму і не псую паперу...»

### ***8.06.2015***

Здаецца, чым болей увесну спілоўваюць таполяў, тым у чэрвені ўсё болей тапалёвага пуху...

Сёння на працы ніхто з аўтараў не турбаваў мяне і толькі тапалёвы пух лётаў пад вокнамі кабінета, як пер’е графаманаў...

***9.06.2015***

Гарачыня. У некага мора перад вачыма, а ў мяне мора рукапісаў...

З Людмілай хадзілі ў Купалаўскі музей на «Канцэрт для сяброў» Алеся Камоцкага. Народу было сотні паўтары. Слухаючы песні, забыўся на многае, што перашкаджае жыць у гуморы. У перапынках паміж песнямі Алесь з сябрамі, якія яму падыгрывалі на гітарах, жартаваў, узгадваў былыя канцэрты, дзяліўся думкамі пра тое, што яму падабаецца і чаму. Я занатаваў: «Дзяцінства — гэта, калі твой кот старэйшы за цябе...» Праўда, гэта словы не Алеся, але яны сапраўды пра дзяцінства...

***10.06.2015***

Калі ніхто з аўтараў не тэлефануе, тады мне здаецца, што я не на сваю працу прыйшоў ці іншапланетнікі перарэзалі тэлефонныя драты...

***11.06.2015***

А палове на сёмую гадзіну быў у простым этэры тэлеперадачы «Добрай раніцы, Беларусь!». Размаўлялі пра акцыю «Лета з добрай кнігай». Забралі мяне з дому а палове на шостую. Ехалі амаль пустым праспектам. Звярнуў увагу, што на пляцы Якуба Коласа выстава рэпрадукцый карцін Міколы Селешчука. Падумалася, што калі б мастак цяпер жыў, то хутчэй за ўсё ніякай ягонай выставы на вуліцы не было б...

Раніцой на лузе белы туман ператварыўся ў белага каня, а ўвечары белы конь у белы туман...

Паміраючы па гэты бок нябёсаў, на другім баку з’яўляемся на свет...

Чакаючы аўтобус на прыпынку каля царквы Пятра і Паўла, прыдумаў радкі:

*Сядзіш ля царквы ў дзень святы з жабракамі,*
*Як на сцэне з вялікім начальствам сядзіш.*
*І жыццё, як рака, прад тваімі вачамі*
*Працякае няспешна і ціха, як мыш...*

***12.06.2015***

Сонца, якое заходзіць, прасвечвае лістоту бярэзніка, нібы шукае бяздомных птушак...

***13.06.2015***

Ездзіў у родныя Пугачы. Адзін...

У аўтобусе было паўнютка народу. Некаторыя з катамі і сабакамі, як у вандроўным пагарэлым цырку...

У Пугачы прыехала сем чалавек. Нікога не ведаю...

Іду вуліцаю. Углядаюся ў зеляніну дрэў, дзе стаіць родная хата. Стаіць...

У садзе трава вырасла вышэй за калена. Матылі па-над ёй, як кветкі, якія лятаюць...

У хаце, як на выспе, дзе яшчэ нядаўна існавала жыццё...

Схадзіў да дзядзькі Шуры. Паразмаўляў, як з бацькам. Ён адзіны, хто застаўся са стрыечных бацькавых братоў...

Касіў амаль пяць гадзін. Прыходзілі нечыя дзеці, каб паглядзець на пісьменніка...

Яблыкаў амаль не будзе, нібыта яблыні зразумелі, што нам не да яблыкаў...

Жабы ў траве. Каторая з іх зачараваная каралеўна?

Пярынка ў траве, як анёльская...

За мной у хату заляцела муха, як шпіёнка...

Вада ў кране ржавая, як паэзія пачаткоўца...

Над вёскай коршак, як гаспадар...

Зялёныя стрэлкі цыбулі паказваюць бясхмарнае неба. Паліў грады...

Праляцела вуліцаю машына, як звар'яцелая...

Людзі чакаюць дажджу, бо няма чаго болей чакаць...

Ідучы на аўтобусны прыпынак, спыніўся каля сажалкі. Плаваюць дзікія качкі. Прыгожыя. Здаецца, прыгажэйшыя, чым тады, калі я тут з сябрамі-хлапчукамі лавіў рыбу...

На прыпынку сеў на лаўку, дзе мама сядзела, чакаючы мяне з горада...

Ехаў у Мінск, як на іншую планету...

***14.06.2015***

Людміле патэлефанаваў аўтар «Буквара» Анатоль Клышка і прапанаваў сустрэцца паблізу нашага дома на аўтобусным прыпынку, каб падараваць нам кніжку. За дзесяць хвілінаў Людміла вярнулася з «Новым Запаветам» у перакладзе з грэцкай. Анатоль Канстанцінавіч, каб зрабіць справу, вывучыў грэцкую мову. Гамера чытаў у арыгінале. Словам, мы цяпер маем «Новы Запавет» на беларускай мове...

З цешчай, жонкай і дачкой ездзілі на Чыжоўскія могілкі. Толькі пачалі прыбіраць магілу Людмілінай бабулі Палагеі, як пачалася навальніца. Схаваліся пад дрэвы. Стаім сярод помнікаў, як помнікі пад парасонамі. Маланкі асвечваюць ваколле, гром грыміць, нібыта з неба крыжы падаюць. Праўда, было зусім не страшна. Узгадалася, што першы раз у навальніцу на могілках быў у Крывічах, куды хадзіў з бабуляй Ганнай адведаць дзеда Міхася. Мне тады было гадоў пяць. Было страшнавата. Мы з бабуляй нейкі час ад навальніцы хаваліся ў царкве. Потым, дачакаўшыся, калі стыхія крыху суцішыцца, праз дождж пайшлі дахаты. Бабуля малілася, а я паўтараў за ёй. Так і дайшлі дамоў.

Ад залевы штучныя кветкі на магілах сталі, як жывыя...

Прайшоўшы крокаў сто ад магілы Палагеі Максімаўны, я раптам прыпыніўся. Маю ўвагу прыцягнула яліна з абрэзанымі галінамі, якія яшчэ нядаўна затулялі магілу за высокай агароджай. Гляджу, а гэта ж тут пахаваны Сцяпан Гаўрусёў. На помніку выбіты радок з яго класічнага верша: «Я вырас пад гарматнымі стваламі...»

Не даходзячы брамы, што на ўваходзе на могілкі, мы схаваліся ад дажджу ў старую альтанку. Дождж суцішыўся, і я прайшоў алеяй, разглядаючы помнікі. У метрах пяцідзесяці ад альтанкі знайшоў магілу, дзе пахаваны празаік Кастусь Тарасаў...

Едзем у таксоўцы. Размаўляем. Звяртаючыся да Людмілы, кіроўца кажа: «Пара вам дачцэ машыну набыць, і яна вас будзе вазіць туды, куды папросіце!» Пачуўшы гэта, цешча адразу прызналася: «А я ўжо колькі гадоў з кожнай пенсіі латарэйкі купляю!»

На Чыжоўскіх могілках былі каля дзвюх гадзін. Увесь час навальніца то заціхала, то ўзмацнялася, нібыта дакараючы нас за тое, што на Радаўніцу не былі...

***15.06.2015***

Горача. Ідзем з працы праспектам Пераможцаў. Перад сабой у метрах дваццаці бачым: прылёгшы над фантанам, нейкі пасівелы доўгавалосы чалавек бярэ ваду, нібыта шэпчацца з ёй. «Так можа браць ваду толькі паэт ці бесхацінец», — падумаў я, і за імгненне чалавек узняўся з каленяў. Перад намі была з пачарнелым тварам жанчына, якая адразу з пластыкавай пляшкі пачала піць, гледзячы ў неба, нібыта пабачыўшы анёлаў...

Дэкарацыйны мітынг.



***16.06.2015***

Колькі дзён таму пачаўся верш, але, як пачаўся, так і скончыўся:

*Толькі ведае рыба сапраўднасць маўчання*
*І вада для яе, як бясконцы сусвет,*
*Дзе жыццё пачалося раней за каханне,*
*Што прыдумаў няшчасны тутэйшы паэт...*

Калі робіцца цяжка на душы і сумна, ратуюся ўспамінам пра сваё даўняе жаданне: кінуць-рынуць усё і з’ехаць у родную вёску, дзе стаіць пустая хата, якая яшчэ не развалілася ад адзіноты. І тады б мяне ўсе шкадавалі і г. д. Жартую! Нікуды я не паеду, бо я на гарадскім ланцугу, які голас падае праз тэлефоны, і нагадвае, што я тут яшчэ некаму патрэбны...

Тапалёвы пух няўлоўны, як паэзія таполяў...

***17.06.2015***

Раніцай у выдавецтва прыходзіў Адам Глобус. Ён і Алесь Бадак успаміналі былое, а я слухаў і думаў, што і наша пакаленне напісала не толькі геніяльныя творы, але жыло і жыве цікавым жыццём. Пра нас кніжкі пісаць можна. Можна і трэба! Праўда, калі мы самі іх не напішам, то ніхто і не напіша...

З Алесем Бадаком хадзілі ў Нацыянальны мастацкі музей. Пасля афіцыйнага мерапрыемства глядзелі фільм Алега Лукашэвіча і Аляксандра Аляксеева пра Марка Шагала. У

зале, дзе мы сядзелі, з карцін на нас паглядалі беларускія магнаты і некаторыя з іх вельмі-вельмі варожа...

Каля Музея Міхаіла Савіцкага сустрэўся з замежнікам, які запытаўся: «Как мне проехать к магазину "ЗамОк"?» Я не адразу зразумеў, што яму трэба крама «Замак», і ўсё з таго, што назоў крамы напісаны па-расейску і наш «замак» чытаецца як «замОк»...

***18.06.2015***

Размаўляў са Славамірам. Ён нядаўна вярнуўся з Нарвегіі, куды быў паехаў у студзені гэтага года. Там дапісваў раман, пачатак якога ўжо друкаваўся ў «Дзеяслове». Цяпер Славамір шукае машыністку, каб зрабіць набор твора. Хоча да канца года выдаць кнігу, каб паўдзельнічаць у барацьбе за прэмію Гедройца. Славамір быў з заплечнікам, нібыта з парашутам...

***19.06.2015***

У складзе дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі па спецыяльнасці «Літаратурная работа (рэдагаванне)» быў на абароне дыпломных прац у Інстытуце журналістыкі. Потым Уладзімір Ліпскі запрасіў мяне і Мікалая Супрановіча да сябе ў «Вясёлку» на экскурсію. Гэта не рэдакцыя, а музей дзіцячай літаратуры! Як іконы ў Храме, вісяць партрэты былых рэдактараў часопіса Васіля Віткі, Еўдакіі Лось і Анатоля Грачанікава. Гаворачы пра сучасных пісьменнікаў і даючы ім ацэнку, Уладзімір Сцяпанавіч сказаў: «Трэба глядзець не ў твар, а ў твор!»

***20.06.2015***

Бібліятэка — гэта кніжнае аліўе...

***21.06.2015***

Напачатку кветку зрываем, зразаем, а потым хочам, каб яна жыла — у ваду ставім...

Поўня, як дзьмухавец...

***24.06.2015***

Зайшоў у кнігарню. Вялікая! Кніг — мора! Крамніц болей за пакупнікоў. Як да Сцяны плачу, падышоў да паліц з беларускімі кнігамі...

Патэлефанавалі з Пугачоўскага дома культуры і паведамілі, што свята вёскі з 12 ліпеня перанеслі на 26. Перанеслі, бо я з Людмілай Рублеўскай 12 не магу быць у Пугачах. Развітваючыся, зямлячка сказала: «Без вас свята нашай вёскі — гэта не свята!»

***26.06.2015***

На працягу дваццаці апошніх гадоў, а мо і болей, я сустракаў яго амаль на ўсіх літаратурных імпрэзах і мастацкіх выставах у Мінску. Паедзеш на свята паэзіі ў Вязынку, і ён там. Паедзеш у Ракуцёўшчыну, і ён там. Некалькі месяцаў таму я з ім сустрэўся ў аўтобусе. Ён ехаў у Музей Якуба Коласа на вечарыну. Паразмаўлялі пра літаратуру. Развітваючыся, я хацеў запытацца, як яго завуць. Не запытаўся, бо падумалася, што калі буду пытацца, то чалавек пакрыўдзіцца. Мы з ім віталіся разоў сто, а я не ведаю, як яго імя. І вось сёння ў сеціве з'явілася інфармацыя з яго здымкам. Сумная інфармацыя. Ён памёр. І я даведаўся, як яго завуць. Барысу Мускаму было 76.

Быў за горадам на прыродзе. Цудоўна! Вярнуўся ў кватэру да камп'ютара, нібыта прачнуўся, а ўсё, што бачыў за горадам, прыснілася...

***27.06.2015***

Лебедзь над возерам праляцеў, нібыта адарваўся ад воза і цяпер яго цягнуць рак і шчупак...

У пакой заляцела муха. Цяпер гэта яе пакой...

***29.06.2015***

З купалаўцамі і сябрамі Музея Янкі Купалы хадзіў на Вайсковыя могілкі. Сёння дзень памяці Песняра. Гучалі музыка, вершы і ўдзячныя словы Купалу. Людзі, якія праходзілі побач каля агароджы могілак, прыпыняліся, прыслухоўваліся. Можа, што пачулі і яны...

* * *

Лісты на дрэвах, як старонкі новай кнігі,
Якую ўночы напісала нам вясна
На берагах закутай у бетон Нямігі
Амаль забытай, як стагодняя вайна,

Што некалі крывавіла ў старой Еўропе,
Якую ты не знаеш і не хочаш знаць,
І за пісьмовым ты сталом, нібы ў акопе,
Сядзіш, чакаючы загаду наступаць.
Лісты на дрэвах заўтра пажаўцеюць сумна
І на асфальт, нібы на чорную ваду,
Спакойна аблятуць, каб ты ішоў задумна,
Трымаючы партфель, як смерць за бараду...

**2.06.2015**

* * *

Калі сонца, як вішня, знікае ў траве,
Чорны крыж залатым бачыш ты на царкве
У мястэчку, якое ты любіш даўно
За гасцінны шынок, дзе заўсёды віно
Можна піць напавер, калі грошай няма,
Калі дзень быў самотны, нібы Калыма.
Мы з табою ў шынку, як на тронах, сядзім
І мне хочацца ў Вільню, табе ў вечны Рым.
Сонца вішняю спелай прапала ў траве,
Крыж ізноўку счарнеў на счарнелай царкве,
І закончыўся дзень, як у пляшцы віно.
За вакном родны свет, як нямое кіно,
Што нам трэба агучыць і расфарбаваць.
Толькі піць не патрэбна было нам даваць
Напачатку, таму больш не будзе кіна.
Занавесце туманам нябёсы вакна.
Мы да ранку з табою ў шынку прасядзім,
Бо мне хочацца ў Вільню, табе ў вечны Рым.

**16.06.2015**

* * *

гэта не тое сонца, з якога пачнецца восень
гэта не тое дрэва, з якога пачнецца лес
тое, што будзе лётаць не ведае чорны вусень
хоць ён высока й смела на яблыню ў садзе ўзлез

ты не кажы, што будзеш вяртацца дадому скора
можа ты сёння ўначы заснуўшы зусім памрэш
добра памерці ў музыцы вечнай начнога мора
з чайкаю паспрачаўшыся, што мора ты пераплывеш

гэта не тая спрэчка, каб варта было памерці
і небакрай над морам яшчэ не апошні край
сонца на небе маркай на сінім маім канверце
будзе магчымасць ліст ад мяне прад сном прачытай
**21.06.2015**

* * *

Калі адсутнічае інтэрнэт,
Нібы вада адсутнічае ў кране,
Якой калісь затоплены быў свет,
Ты мухаю сябе ў пустой нірване
Заўсёды адчуваеш і гудзіш
Сабе пад нос, што жыць тут немагчыма,
Што прападае без цябе Парыж
І толькі пыл застаўся ўжо ад Рыма...
Калі адсутнічае інтэрнет,
Ты, як на востраве нямым у моры,
Згараеш ад любові да катлет,
Якіх няма, як не было й учора,
Але ж учора працаваў камп’ютар
І прад табою быў наш грэшны свет
І ты глядзеў на свет, як Марцін Лютэр,
Якому і не сніўся інтэрнэт...
**22.06.2015**

* * *

Ты па рымскіх прыступках няспешна ішоў
І ў расколах каменных трава, нібы кроў,
Чырванела прысохшы да белай зямлі.

І было ў небе сонца, як вогненны шчыт,
Што на неба зляцеў, як на сіні граніт,
Па якім гладыятары ўчора прайшлі.

Калізей, нібы кубак, дзе кроў і віно
Сталі пылам і ветрам, і людзі даўно
Хочуць вечнасці з рымскага кубка адпіць.

І ты п’еш сваю вечнасць, як мёртвую кроў,
Да якой з Беларусі ты сёння прыйшоў,
Каб сваю Беларусь яшчэ болей любіць...
**22. 06. 2015**

# *Ліпень*

***1.07.2015***

Чамусьці падумалася, што, калі мы адзначаем Новы год, то чаму б уночы з 30 чэрвеня на 1 ліпеня не адзначаць Новае паўгоддзе. Сёння ж першы дзень новага паўгоддзя! Усіх са святам!

На пачатку цябе выганяюць з краіны, а па тваёй смерці ствараюць музей, дзе ты нарадзіўся...

Праз дзень буду ў адпачынку. Наперадзе тысячы кіламетраў шляху. Хвалююся, нібыта ў космас лячу...

У Мінску прайшоў кароткачасовы дождж, як кароткаметражны фільм, дзе я быў у бясплатнай масоўцы...

Над дрэвамі бліснула маланка, загрымеў гром, і з кроны старой ліпы ўзляцелі вароны, як абвуглелая лістота...

***3.07.2015***

Збіраемся ў вандроўку па Еўропе. Люда пасля Славакіі, куды ездзіла з купалаўскімі музееўцамі шляхам Янкі Купалы, ніяк не ачуняе ад прастуды. Гледзячы на яе, і мне кепска. Прыязджала Наста Грышчук. Зрабіла з Людай гутарку для «ЛіМа». Там хочуць адзначыць яе 50-годдзе. Словам, чакаем дарогу...

**ДЗЕНЬ ПЕРШЫ. МІНСК. БЕРАСЦЕ. ВАРШАВА. ГАТЭЛЬ «НЯВАДА»**

***4.07.2015***

Спалася дрэнна. Прачнуўся а чацвертай. З Людмілай у дарогу сабраліся моўчкі. На вакзал таксоўкаю прыехалі ў ліку першых. Аўтобус новы. Нашы месцы: 21—22. Вандроўнікаў у Іспанію да мора сабралася крыху болей за трыццаць. Выехалі а пятай сорак пяць. Выязджаючы з Мінска, наш куратар Зміцер апавёў, што нас чакае ў дарозе. Напомніў пра зладзеяў, якія нас у Еўропе чакаюць, таму трэба грошы берагчы, як жыццё.

З Людмілай у вандроўку выбраліся без асаблівага гарэння. Людміла прастылая, а ў мяне ў вёсцы спраў гара неперароблены...

Сёння ў нас наперадзе тысяча кіламетраў. Зміцер абяцаў, што да адзінаццатай гадзіны прыедзем начаваць у гатэль.

На палях збожжа амаль паспела, каб жаць. Стаіць, чакае...

У аўтобусе працуе кандыцыянер. Камфортна. Ні горача, ні холадна. Некаторыя вандроўнікі кашляюць.

Каля дарогі чарада гусей. Ідуць, нібыта ў Рым...

Над полем лятае коршак, нібыта аглядае ўладанні свае...

«Трактир» прачытаўся, як «трактар»...

Маладая кукуруза, як быльнёг, густая...

Буслянка над вёскай расцвіла бусламі...

У Брэсце каля ракі поўна адпачывальнікаў, і не трэба ім Еўропа і бераг турэцкі...

Перад мяжой у Берасці да нас дадалося яшчэ колькі чалавек. Зміцер усіх пералічыў, як пастух авечак.

Cтаім на мяжы. Горача. Каля машын, зазіраючы пад іх, скача верабей, як памежнік...

Памежніца. Худзенькая. Невысокая. У форме. З кабурой на поясе. А ці ёсць там пісталет?

Забралі пашпарты, праз якія стала зразумела, што сярод нас чатыры расіянкі і расіянін...

Хто хоча ў дзьюці фры? Ніхто. Усіх цікавіць прыбіральня...

Варшаўскі мост. Узгадаліся радкі: «Поўненькая рэчка, а над рэчкай мост. На мосце авечка, а ў авечкі хвост. Высахла рэчка, разваліўся мост. Здохла авечка, адваліўся хвост...»

Нашых памежнікаў праехалі за дваццаць хвілінаў. Палякі трымалі каля дзвюх гадзін. Паводле новых правілаў правяралі адбіткі пальцаў...

На польскім баку сустрэлі нас тры буслы ў небе...

Скошаны луг. Нібыта мой бацька касіў...

У Паджэры папалуднавалі. Павесялела ў жываце і ў галаве...

У збожжы шмат валошак, як кропелек паэзіі...

У агародах чорныя пудзілы, як манахі...

На балаціне ссохлыя чорныя дрэвы, як скруткі чорных змяюк...

Зміцер улучыў радыёперадачу — дурныя жарты расейцаў з польскай мовы. Паслухалі пару хвілінаў. «Яшчэ хочаце?» — «Не!!!»

Галубы каля коміна, як вясковыя анёлы каля выйсця з вогненнага пекла...

Варшава. Вісла. Людзі купаюцца і загараюць...

Аэрапорт імя Шапэна. У душы загучала музыка...

З Людмілай марылі пра Нацыянальны аэрапорт Мінска, які носіць імя Францішка Скарыны...

Каля дарогі польскі паліцэйскі. Выліты наш Юрась Пацюпа, але толькі ў форме...

Тры ветракі. Два круцяцца, а адзін не. Стаіць, нібы думае, а ці варта сёння працаваць...

Байкеры, як нячысцікі, гойсаюць па Польшчы...

Адзінокі вятрак у полі, як няспешны мудрэц...

Едзем услед за сонцам...

Неба ціхае, як вечаровае мора...

Ветракі, як прывіды камунізму...

Начаваць прыехалі ў гатэль «Нявада». Ён збудаваны ў выглядзе піраміды. Выдаючы нам ключ, Зміцер сказаў: «Нумар 35. Шніп Вікторый і Шніп Людміла...» Пасяліліся а палове дзясятай. Праехалі тысячу кіламетраў...



**ДЗЕНЬ ДРУГІ. АМСТЭРДАМ**

***5.07.2015***

Прачнуліся а 6:10. Спалася нармальна. Праўда, было крыху душнавата. Павіншаваў Людмілу з днём народзінаў.

Снеданне больш-менш нармальнае. Спакавалі свае валізы і зноў у дарогу. Дзякуючы таму, што аўтобус не цалкам запоўнены, многія рассяліліся на вольныя месцы. Людміла таксама пайшла ад мяне.

Праехалі польска-нямецкую мяжу. Одэр цячэ. Як вечнасць нямецкая...

Вакол дарогі каля 50 ветракоў. Стаяць, як саранча жалезная...

Хвоі, як вакол дарогі каля Ракава, калі едзеш у Пугачы...

Праехалі каля Берліна...

Узгадалася вайна. Так і бачу на палях падбітыя танкі і трупы...

Праехалі Магдэбург... Узгадалася магдэбургскае права...

Там, дзе на палях танкі гарэлі, цяпер ветракі стаяць...

Ветракоў у полі, як быльнягу...

У акупацыі ветракоў...

Белая арда ветракоў...

Праехалі былую мяжу паміж ФРГ і ГДР. Стаіць вартавая вышка, як пудзіла...

Побач Гановер... Узгадаўся Алесь Разанаў, які там нейкі час жыў і пісаў вершы па-нямецку...

Даведаўся, што наш куратар Зміцер скончыў ЕГУ...

Праехалі праз дождж, як праз невялікую краіну, створаную з дажджу...

На мяжы Германіі з Нідэрландамі горад Асанабрук... Узгадалася ракаўская брукаванка... Бацькі на Ракаўскіх могілках...

«Галандскія каровы прыгажэйшыя, чым іх пастушкі...» — паведаміў Зміцер...



Ехалі, ехалі і на табе — нас спыніла нямецкая паліцыя. Да Амстэрдама 230 кіламетраў. Зайшоў паліцыянт: «Русланд?» — «Найн! Мы Беларусь!» Нехта дадаў: «Мы — Лукашэнка!» Паліцыянт забраў пашпарты. За дзесяць хвілінаў вярнуў і сказаў, усміхаючыся: «Аўфідэрзэйн!»

Сонца няма. Змрочна, як часта бывае ў нас дома...

Неба, як шкло, на якім намаляванае неба...

Амстэрдам. Навокал ровары, ровары, ровары... Здаецца, што ровараў болей за людзей...

Каналы нагадваюць Венецыю... Толькі нагадваюць...

На вуліцы на беразе ракі прыбіральні, як вялікія бочкі, у якіх цябе ўсе бачаць.

Чуючы расейскую мову нашага гіда, колькі разоў на нашу кампанію мясцовыя паказвалі пальцамі і казалі гучна: «Рускія!»

На плошчы Мадам вакол помніка смецце...

Турыстаў шмат. Ходзяць, разінуўшыся, як галодныя птушаняты, што выпалі з роднага гнязда...

З Людмілай зайшлі ў індыйскую кавярню і адзначылі дзень народзінаў...

## ДЗЕНЬ ТРЭЦІ. АМСТЭРДАМ. ПАРЫЖ

***6.07.2015***

Начавалі ў гатэлі ў 50 кіламетрах ад Амстэрдама. Прачнуліся а сёмай. Паснедалі. Выехалі ў Амстэрдам на пачатку дзявятай. На вуліцы змрочна. Неба ў аблоках, як у кажухах...

На полі авечкі, як аблачынкі. Пасуцца каровы без пастушак...

Кукуруза, як асака...

Амстэрдам. Стаянка ровараў. На ёй недзе каля дзвюх тысяч ровараў...

У межах горада наведалі сыраварню. Тут і сыры гатуюцца і драўляны абутак робіцца. Паглядзелі на галандскіх кароў, а каровы на нас...

Гаспадар сыраварні вясёлы мужык гадоў сарака. З сырамі, як з дзецьмі...

На сыраварню следам за намі прыехалі кітайцы. Фатаграфаваліся з каровамі. Вакол фермы хоць і чыста, але смуроду стае. Праўда, мух няма...

Пасля фермы наш куратар Зміцер павёз нас глядзець на дыяменты. Мы з Людмілай прабегліся заламі і пайшлі ў Музей Ван Гога, які быў у метрах ста ад дыяментаў. Чарга. З намі стаялі яшчэ дзве нашы вандроўніцы, але яны не дастаяліся, бо пасля дыяментаў была экскурсія каналамі Амстэрдама. У музей трапілі за хвілінаў сорак. Тры паверхі. На першым — аўтапартрэты Ван Гога. На другім — сярод іншых выдатных работ — галоўная карціна «Сланечнікі». На трэцім — работы мастака і яго папярэднікаў і паслядоўнікаў. Мы з Людмілай да «Сланечнікаў» падыходзілі колькі разоў. Узгадаўся Язэп Драздовіч.

У Музеі Ван Гога былі гадзіны паўтары. Сярод наведвальнікаў пераважна немцы і рускамоўныя. Кітайцы, як гаспадары...

На першым паверсе музея ёсць вялікая крама, дзе ўсё прадаецца з партрэтамі Ван Гога і рэпрадукцыямі яго карцін. Тут жа можна набыць вопратку для сабачак з сюжэтамі карцін мастака.

Ад Музея Ван Гога пайшлі на пляц Мадам, арыентуючыся па мапе, шлях на якой нам пазначыў Зміцер.

Прайшлі праз рынак туліпанаў. Кажуць, калі хто вынайдзе новы гатунак туліпанаў, таму адразу ў Амстэрдаме даюць кватэру і на абжытак нейкія грошы.

Прыйшоўшы на пляц Мадам, дзе мы павінныя былі сабрацца ўсе, маючы яшчэ шмат вольнага часу, з Людмілай схадзілі ў каралеўскі палац. Квіткі па 10 еўра. Чаргі няма...

Хадзілі музеем-палацам цэлую гадзіну. Узгадаўся Нясвіжскі палац. Бачылі карціны Клода Манэ, Пісаро, Эдуарда Манэ, Радэна, Рафаэля, Дэга, Гагена і іншых цудоўных мастакоў.

На вуліцах моладзь, седзячы пры сценах дамоў, паліць і, чуваць паводле паху, не проста цыгарэты...

Ровары ў Амстэрдаме ў бальшыні, як у нас «запарожцы», паржавелыя...

А 16:30 стомленыя Амстэрдамам выехалі ў бок Парыжа...

Каровы ідуць на ферму адна за адной, як у чарзе аддаць сваё малако...

Каля дарогі побач з каналам ходзяць дзікія гусі з гусянятамі, як у казцы...

Цэлае поле туліпанаў, нібы карціна Ван Гога...

На вакне аўтобуса побач са мной уладкаваўся нейкі чорны жучок і ўжо другую гадзіну едзе з намі з Амстэрдама, як нелегал...

Едзем праз Бельгію. Усё змянілася, нават пакрыццё дарогі...

Каля дарогі ветракі, як мёртвыя з космасу, стаяць...

Чорныя авечкі, як камінары...

Антверпэн. Храмы. Шмат. Едзем, на жаль, не спыняючыся...

У горадзе на ўскрайку скверу заяц сядзіць і думае, як зварыць піва...

Да Бруселя 31 кіламетр. Чорны жучок на вакне яшчэ ўсё сядзіць. Куды ж ён з намі едзе? Няўжо і ён у Парыж?

Праехалі Ватэрлоа. Курган. На ім каменны леў...

Указальнік на Парыж. Да горада 254 кіламетры...

Горад Монс. Храмы...

І тут ветракі... Дон Кіхоту ёсць дзе разгуляцца...

Вось і Францыя. На гадзінніку дзявятая вечара. Жучок усё яшчэ сядзіць на шыбіне...

На полі каровы колеру кавы з малаком...

У Францыі ўжо жніво...

Едзем дарогаю, а следам за намі палямі скачуць мушкецёры з Баярскім. Нас не даганяць...

Аэрапорт Шарля дэ Голя. Свеціцца, як уваход у іншы свет...

Перад уездам у прадмесце Парыжа Іль дэ Франс Зміцер настрашыў нас: «Беражыце грошы! Тут поўна бандытаў і зладзеяў!»

А палове дванаццатай мы, настрашаныя, заехалі ў прадмесце Парыжа. Змрочна. Едзем. Вулка вузкая. З аднаго боку застаўленая машынамі. Прыпыніліся. Побач ішлі індусы. Дзеці пачалі паказваць на наш аўтобус пальцамі, а потым і

кланяцца нашаму аўтобусу. Пастаяўшы хвілінаў пяць, мы пасунуліся далей. Неўзабаве зноў спыніліся. За колькі хвілінаў адчыніліся дзверцы аўтобуса, і да нас зайшоў невысокі, гадоў сарака мужчына з пісталетам на баку. Апрануты па-спартоваму, у бронекамізэльцы. «Відаць, будуць рабаваць!» — падумалася. Паглядзеў на вуліцу. Жучка на шыбіне няма. Саскочыў! Гляджу, а на вуліцы перад намі стаіць машына з мігалкай. Каля машыны ўзброеныя людзі. За хвілінаў дзесяць мы даведаліся, што гэта парыжскія камісары — служба камісарыяту. Пасля таго як наш куратар Зміцер і кіроўцы патлумачылі камісарам, хто мы і чаго тут ездзім сярод ночы, далей мы паехалі следам за машынай з мігалкай. Прыехаўшы да гатэля, мы камісарам аддзячылі гучнымі воплескамі.

З Людмілай пасяліліся ў пакой № 402. Дзверы з кодам, і калі ты ў пакоі, то не зразумела, ці ты замкнёны, ці не. Каб ніхто не ўлез сярод ночы да нас, я падпёр дзверы пляшкай з вадой...



**ДЗЕНЬ ЧАЦВЕРТЫ. ПАРЫЖ**

***7.07.2015***

Спалі добра. Снедалі слабавата. Ёгурты, сочыва, печыва, кава. Навокал чорнаскурыя. «Гэта табе Парыж, дзетка!» — сказала мне Людміла...

Страшны Парыж... Спалоханыя Парыжам...

Экскурсію па Сене ніхто не захацеў...

Каля гатэля наша стаянка, як стаянка першабытнага чалавека...

Праляцеў матылёк, як французскі пацалунак...

Вуліцы вузкія. Транспарту не праехаць... Стае смецця... Да цэнтра, да сапраўднага Парыжа ехалі амаль гадзіну...

Вада ў Сене, як мокрая сівая трава, якой сніцца сена...

Трыумфальная арка. Сярод іншых гарадоў на ёй напісаны нашы Магілёў, Полацк і Краснае. Краснае — гэта мястэчка дарогаю на Маладзечна, і яно непадалёку з Ракуцёўшчынай. (Пасля публікацыі гэтага запісу ў часопісе «Полымя» мне сябра па фэйсбуку Віктар Лютынскі даслаў удакладненне, што паселішча Краснае, якое на Трыумфальнай арцы, знаходзіцца на Смаленшчыне. Магчыма. Але я сабе дазволю і далей думаць, што Краснае на Трыумфальнай арцы — гэта Краснае пад Маладзечнам.) У свой час мой бацька з Пугачоў у Краснае ездзіў па брыкет на зіму...

У рэстарацыі каля Цюільры елі мяса і пілі віно, як парыжане...

Купілі парфуму на Елісейскіх Палях. Калі заходзілі ў салон, думалі толькі паглядзець і панюхаць...

У Нотр-Дам чарга. Людзі праходзяць праз Храм, як праз мінулыя стагоддзі...

Нотр-Дам збудаваны ў 1163 годзе... Уяўляўся не такім, якім быў пабачаны. Уяўляўся болей духазахапляльным... Як верш Генрыха Гейнэ...

Ішоў дробны дождж, як прывітанне з Радзімы...

Эйфелева вежа, як шкілет Францыі, якая была...

Эйфелева вежа, як лесвіца ў неба, дзе ніхто нікога не чакае...



На тле вежы ўсе фатаграфуюцца, як моляцца...

У дворыках Луўра ў каменных чашах з вадой спіць звадзянелае мінулае...

У адной з ніш Луўра скульптура апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Панятоўскага. Ён адзін з герояў цыкла раманаў пра Пранціша Вырвіча Людмілы Рублеўскай...

Скульптура. Залатая Жанна д'Арк на залатым кані, як Дон Кіхот, які стаў жанчынай...

Вулічная кавярня. Пры століках сядзяць мужчыны з кавай, як напалеоны недабітыя...

Французская мова, як Мірэй Мацье...

Баяўся Парыжа. Цяпер люблю Парыж...

У Парыжы і сёння жыве Напалеон...

Каля Эйфелевай вежы ходзяць вайскоўцы са зброяй...

Праехала з дзясятак паліцэйскіх машын. Наш гід па Парыжы сказала, што гэта яны паехалі туды, дзе зараз адбываецца нейкі мітынг...

У Парыжы секлі галовы, як капусту...

Вятрак, як удасканаленая гільяціна...

**ДЗЕНЬ ПЯТЫ. БАРДО**

***8.07.2015***

Начавалі ў Пуацье. Прачнуліся а 6:45. За вакном аблокі. Сонца няма. Нехта ўчора ўвечары пажартаваў: «Чым бліжэй да мора, тым халадней!»

У Пуацье ў свой час дапытвалі Жанну д'Арк. Нас ніхто не чапаў...

На полі сланечнікі. Маладзенькія. Растуць у чаканні свайго Ван Гога...

Сланечнікі стаяць, адвярнуўшыся ад дарогі, як вінаватыя, што сонца няма...

Урэшце з’явілася сонца. Аблокі зніклі, нібыта былі цукровыя і расталі ў нябеснай сінечы-вадзе...

На зжатым французскім полі ходзяць вароны. Чорныя, як мушкецёры кардынала...

Вінаграднік. Малады, нібыта толькі што створаны Богам...

Прыехалі ў Бардо.

Рэчка Гарон. Узгадаліся нашы пісьменнікі Алесь Гарун і Алесь Гаўрон. У час Другой сусветнай вайны ў Бардо знаходзілася база італьянскіх падводных лодак...

У Гароне вада, як гарчыца. Рака вірлівая, бо рухаецца разам з акіянскімі прылівамі і адлівамі. Купацца нельга.

Спыніліся ў скверыку непадалёку ракі. Праз дарогу стаіць вандроўны цырк, адгароджаны цыркавымі фурамі ад свету, як жалезнай гарадской сцяной...

За хвілінаў дзесяць па нашым прыездзе з’явіўся мясцовы гід. Міхаіл Кротаў. На велізарнай чорнай торбе, уздзетай на плячук, дзве налепкі. На адной нешта мясцовае, а на другой вялікі Маскоўскі Крэмль...

Каля вандроўнага цырка да мяне падышоў мужчына і запытаўся: «Рускія?» — «Не! Беларусы!» — «А я малдаванін!» Усміхнуліся адзін аднаму, як родныя...

Спыніліся каля помніка Мішэлю Мантэню. Захацелася перачытаць яго «Вопыты»...

Міхаіл Кротаў правёў нас узбярэжжам і невялічкай часткай горада. Час на экскурсію быў абмежаваны, бо наперадзе чакала вінакурня. Міхаілу, мяркуючы па ягоным выглядзе, карцела на дэгустацыю вінаў...

Сцены будынкаў чорныя з даўніх часоў. Чорныя ад дыму параходаў і пажараў...

Крыху пахадзіўшы з Міхаілам Кротавым, мы з Людмілай пакінулі нашых сяброў па вандроўцы і пайшлі гуляць па Бардо самастойна...

Завіталі ў музей-вежу. Паглядзелі на горад з вышыні сарака метраў. Дахоўка на дамах старая, месцамі патрэсканая. Насупраць нас праз расчыненае вакно пабачылі ката. Ён падобны да майго Мурзіка, якога няма ў гэтым свеце ўжо гадоў сорак...

Былі ў саборы Святога Андрэя. Слухалі арганную музыку. Апрача нас у Храме нікога не было. І я пачаў уяўляць даўніну. У Храме поўна людзей. Моляцца. Заляцеў верабей. Спалохаўся. Шукае, як вылецець. У вітражах агонь, дождж, дым, вецер, крыкі, плач, смех...

Свечкі гараць. Музыка. Агонь свечак ад музыкі гайдаецца, як залаты маятнік у гадзінніку. Мы ў XIV стагоддзі. Баімся выйсці на вуліцу. Там узброеныя чужынцы...

Ходзяць манахі. Твары схаваныя. Шукаюць нас. А мы сядзім сярод вернікаў...

Чым даўжэй слухаю арган, тым глыбей правальваюся ў мінулае. Толькі дыхтавыя крэслы (падобныя да крэслаў, што былі ў бацькоўскай хаце, калі я быў малым) нагадваць, што мы ў XXI стагоддзі...

Каля сабора Святога Андрэя папалуднавалі ў кавярні старога індуса. Запомнілася гарбата з зёлак. Пазнаў палын і мелісу. Падобнай ніколі не піў...

Потым з Людмілай наведалі яшчэ колькі Храмаў, што былі на шляху да нашага аўтобуса...

Бардо пакінулі а шостай. За паўтары гадзіны пачалася гарыстая Францыя. На даляглядзе дзве велізарныя трубы цеплавой электрастанцыі. Дымяцца, як у нас каля Мінска...

Не ўсе французы жывуць у Парыжы...

Праехалі паўз невядомы нам замак. Прыгожы, як намаляваны геніяльным мастаком...

Ехаць да начлегу далёка. Каб прабавіць час, дастаў пісьменніцкі адрасны даведнік. Спіс пісьменнікаў не дачытаў да паловы...

**ДЗЕНЬ ШОСТЫ. ЛЛАРЭТ ДЭ МАР**

***9.07.2015***

З Бардо прыехалі начаваць у гатэль «ВіВі». Амаль дванаццатая. З персаналу гатэля нікога няма. Нейкія кіроўцы сядзяць перад уваходам і п’юць піва. Наш куратар Зміцер захваляваўся, што не можам засяліцца. Недзе толькі за паўгадзіны разабраліся, што тут да чаго. Пасяліліся. Нумар невялічкі. Вада ёсць, а мыла няма. Сеціва працуе, але з вялікімі перапынкамі. Спалі нармальна. Усталі а палове сёмай. Паснедалі, як і ўчора — слабавата. Выехалі а восьмай. Да мора засталося 200 кіламетраў. Сонечна. Адчуваецца, што будзе

горача. Навокал горы. Дробныя. Ветракі. Пірынеі. Прыгожа, як у казцы...

А 9:05 пераехалі мяжу паміж Францыяй і Іспаніяй. Зміцер паведаміў, што да мора засталося 62 кіламетры. Да Барселоны 107. Даведаліся, што прозвішча ў Змітра Жызнеўскі...

А 10:40 прыехалі ў Лларэт дэ Мар. У горадзе 50 тысяч жыхароў. З іх болей за чатыры тысячы рускамоўныя. Нам з Людмілай і яшчэ дванаццаці чалавекам з нашай вандроўнай групы па сістэме «Фартуна» выпаў чатырохзоркавы гатэль «Гран Гарбі», а іншым, што замаўлялі трохзоркавы,— гатэль «Самба». Засяленне пасля дванаццатай. Ёсць вольны час. Пакінуўшы рэчы на захаванне, мы з Людмілай пайшлі да мора. Да яго 350 метраў. На пляжы людна. Пад нагамі драбнюсенькія каменьчыкі. Гарачыя, як вугалькі. Зайшлі ў ваду. Пастаялі. Цудоўна! Вярнуліся ў гатэль. Нашы ўжо засяліліся. Нам выпаў 443 нумар. Адчынілі. Зайшлі, як у лядоўню. Выйшлі на гаўбец. Пяты паверх. Унізе басейн. Дзеці крычаць. Шумна. Што тут будзе ўначы? Пачалі раскладваць рэчы. Крыху супакоіліся. У пакой з вуліцы зацякло цяпло. Папалуднавалі. Пераапрануліся і пайшлі да мора. Абралі месца каля скалы. Не так людна. Побач немцы і рускія. Некаторыя жанчыны з голымі грудзямі. Паблізу купаюцца трое негрыцянят. Узгадалася: «Дзесяць негрыцянят пайшлі купацца ў мора...» Пасля мора пайшлі па крамах. Набылі сяго-таго на будучыя полудні. Людміла прыдбала сукенку. Крамнік адразу пацікавіўся: «Адкуль вы?» — «З Беларусі!» — «У вас там добра!» — «Ага!»

Наш куратар Зміцер паехаў назад у Мінск з вандроўнікамі, якія ўжо адпачылі, а нас пакінуў на мясцовую Алену. Яна прыйшла да нас пасля вячэры. Гаворыць з акцэнтам. Сабрала грошы на экскурсіі і абяцала кантактаваць з намі. Словам, наша жыццё ў Іспаніі пачалося...



## ДЗЕНЬ СЁМЫ. ЛЛАРЭТ ДЭ МАР

***10.07.2015***

Спалі добра. Выспаліся. Праўда, перад сном наслухаліся цыганскіх песень. У гатэлі жывуць цыганы. Іх шмат. Мужчыны па кілаграмаў дзвесце. Жанчыны па сто. Дзеці худзенькія і дробненькія. Усе вясёлыя і шчаслівыя.

Выйшаў на гаўбец, як на неба. На вуліцы сонечна. Крычаць чайкі. У басейне купаюцца цыганы...

Паснедалі і пайшлі на пляж, але ўжо ў іншае месца. Тут глыбей. Вада чысцюткая, як сляза, і вельмі салёная...

Удалечы белы ветразь, як вяршаліна марской белай піраміды...

Лянотныя хвалі спакойна б'юцца аб бераг. Яны як гук вадзяны, які раптам улучаецца і вылучаецца. Чамусьці стала сумнавата. Відаць, таму, што ўсё роднае за тысячы кіламетраў...

На пляжы ніхто нічога не прадае. Усе задаволеныя самі сабой, нібыта пясок пад нагамі...

Лётаюць чайкі, як беспілотнікі...

Пасля чатырох выправіліся зноў купацца. Далёка па пляжы не хадзілі. Спыніліся сярод моладзі. Немцы. Іх тут, як пяску...

З боку мора праляцеў голуб, нібыта ўцёк ад некага...

Прыйшла маладая пара каталанцаў з дзіцем. Малой недзе з паўгода. Тата, надзьмуўшы басейн для дачушкі, пачаў вядзерцам насіць ваду. Маці пасадзіла ў басейнчык малую, і тая пачала цешыцца жыццю. Потым мама ўзяла дзяўчынку і панесла ў мора. Малая не спалохалася. Пачала нешта гудзець і смяяцца...

Вярнуліся ў гатэль. Сеціва амаль не працуе. У мяне на смартфоне фэйсбук застыў на сёмым ліпені на інфармацыі са здымкам Адама Глобуса: «Зараз спакую ў гэтую валізу кнігі, накупленыя ў Барселоне, і пачну збірацца ў Мінск...»

Пасля вячэры пайшлі гуляць сярод крамак. Людна. Шмат расейскамоўных. Прыйшлі да царквы Сант-Рома. Зачыненая. У дворыку два хлапчукі футболяць мяч у сцены Храма...

За дзень наш пакой напоўніўся гарачынёй. Ёсць кандыцыянер, але мы ніяк не можам яго ўвамкнуць. А гадзіне ночы Людміла пайшла да адміністратара і папрасіла вырашыць нашу праблему. За хвілінаў пятнаццаць завітаў расейскамоўны мужык з велізарнай адкруткай. Запытаўся пра картку, якой мы адчыняем дзверы. Далі. Ён яе ўставіў куды трэба, зачыніў гаўбец і кандыцыянер запрацаваў...

Цыганы з гатэля з'ехалі, і навокал стала нязвыкла ціха...

## ДЗЕНЬ ВОСЬМЫ. БАРСЕЛОНА

### *11.07.2015*

Субота. Усталі а палове дзявятай. Сонечна. Чайкі, як белыя вароны, каркаюць за вакном. У басейне крычаць радасныя дзеці...

Паснедалі. Я без асаблівай асалоды...

А 13:30 паехалі ў Барселону. Кіроўцу завуць Педра. Наш гід паведаміла, што ў Барселоне цяпер мэр жанчына і яна лютуе. Яна супраць турызму.

На многіх дамах нацыянальныя каталанскія сцягі…

За хвілінаў сорак прыехалі ў Барселону. Горад Сонца…

Ідзем праз скверык. Навокал лётаюць зялёныя папугаі. Нешта крычаць па-каталанску…

Прыйшлі да Храма Святога Сямейства, які з 1882 года паводле праекта Антоні Гаўдзі (25.06.1852—10.06.1926) яшчэ ўсё будуецца.

Храм Святога Сямейства, як з гразі ластаўкамі злеплены…

Усе дарогі ў Барселоне турыстаў вядуць да Храма Святога Сямейства…

Гляджу на шпілі Храма. Была б шапка на галаве, дык сама звалілася б на зямлю…

Праехалі праспектам Дыяганаль…

Праспект Гарсія. Дамы збудаваныя паводле праектаў Гаўдзі…

Парк С'ютадзелья. Гэта іспанская «ВДНГ», пабудаваная да Сусветнай выставы 1888 года. Прыйшлі да фантана, а ў ім голуб плавае патанулы…

У Барселонскім порце высадзіліся з аўтобуса і ўсе разышліся хто куды. Мы з Людмілай пайшлі блукаць старымі вулачкамі Барселоны.

Напачатку зайшлі ў сабор Святога Крыжа і Святой Еўлаліі, які размешчаны ў гатычным квартале. Храм — рэзідэнцыя барселонскага архібіскупа і галоўны сабор Барселоны.

У саборы ішла служба, якая транслявалася на экранах. Сярод выступоўцаў, здаецца, была і мэр Барселоны…

На вуліцы каля Сабора музыка, пад якую танчаць старыя. Пастаялі, падзівіліся, парадаваліся за каталанцаў…

Паблізу Сабора і каля Дома Святой Клары завіталі ў невялікую кавярню, якая месціцца ў сярэднявечным будынку. Замовілі паесці. Маладая каталанка хуценька ўсё падала. Смачна…

Пайшлі вулкамі. Апынуліся на вуліцы, дзе грукалі барабаны і дуды гудзелі. Людзі ў нацыянальных строях на насілках неслі выяву нейкага свайго святога. Усе цешыліся. Натоўп спыніўся. Спыніліся і мы. Побач з намі на ходніку, прыхінуўшыся да мура старога дома, сядзеў здаравенны жабрак з вялікім

чорным сабакам. Сабака ляжаў і, паклаўшы галаву на зямлю, як на плаху, жаласліва глядзеў на ўсё, што адбываецца побач...

Амаль непрытомных Сабак і Гражданоў за тры гадзіны вандроўкі гатычным кварталам Барселоны мы бачылі колькі разоў...

Каля бульвара Рамбла стаіць манумент Калумбу вышынёй 60 метраў. Ён быў пабудаваны да Сусветнай выставы 1888 года і размешчаны ў тым месцы, куды Калумб вярнуўся са свайго першага падарожжа ў Амерыку...

Каталанцы, адказваючы на пытанне, куды глядзіць Калумб кажуць: «Не ведаем! Але дакладна ведаем, што дупай глядзіць на Мадрыд!»



На пачатку дзявятай гадзіны мы ўсе сабраліся ў Барселонскім порце. Тут ад нашай гідэсы даведаліся, што мы з Людмілай хадзілі побач з Музеем Пікасо. Доўга шкадавалі, што не натрапілі на музей. Цяпер трэба будзе яшчэ раз ехаць у гэты горад Сонца, каб схадзіць да Пікасо. На жаль, усе гіды апавядаюць падрабязна толькі пра тое, дзе знаходзяцца крамы і прыбіральні...

У порце шмат неграў. Прадаюць усялякую халеру, але не хапаюць за рукі, каб купіў...

Паехалі да Спеўных фантанаў. Дарогаю бачылі футбольны стадыён, дзе праходзілі Алімпійскія гульні. Каля фантанаў сабраліся тысячы людзей. Пераважна моладзь. Глядзець было на што, але гэта не Пікасо...

Тут жа, непадалёк ад фантана, каля сцяны нейкага адміністрацыйнага будынка на кардоне ляжаў мужчына гадоў сарака. Побач з ім чорны сабака, які, здавалася, вось-вось сканае...

Сцямнела. Фантаны сталіся каляровыя. Прыгожыя. Каля фантанаў я набыў Людміле кастаньеты...

Кажуць, што Барселона — гэта горад, у які хочацца вярнуцца. Па-мойму, Барселона — гэта горад, у якім хочацца жыць...

**ДЗЕНЬ ДЗЯВЯТЫ. ЛЛАРЭТ ДЭ МАР**

***12.07.2015***

Снілася Барселона. Стары горад. Храмы. Гражданы і Сабакі...

Прачнуліся з лёгкасцю. Паснедалі. Смачна. Лёгкая дэзарыентацыя ў часе. Які мы тут дзень? Колькі засталося? Адпачывальнікі часу не назіраюць...

Пайшлі на мора. Народу, як апалага лісця пад нябеснай бярозай...

На спецыяльным вазочку ў мора завезлі інваліда. Ён паплыў. За хвілінаў пяць на гэтым вазочку ў мора ўвезлі старую. Побач з ёй пялёскаліся дзеці. Відаць, яе ўнукі. За паўгадзіны старую вярнулі на зямлю, а інвалід некуды паплыў і галавы ягонай не відаць...

Наплаваўшыся, вярнуліся ў нумар. Сеціва не працуе. Не бядую. Адпачываю!

Папалуднаваўшы, зноў пайшлі да мора. Плаваюць катамараны ў выглядзе рарытэтных машын. Ствараецца ўражанне, што яны паўсплывалі са дна мора...

Прыгажунь амаль няма...

Пасля вячэры зайшлі ў Храм, што непадалёк нашага гатэля. Акурат ішла служба. Селі ў апошнім шэрагу. Уставалі, калі было трэба, разам з усімі, сядалі. Раптам усе пачалі адзін аднаму рукі пацiскаць. Да мяне падышоў каталанец, пацiснуў руку...

Неба зорнае. Зорка Венера, як далёкая Беларусь...



**ДЗЕНЬ ДЗЯСЯТЫ. ЛЛАРЭТ ДЭ МАР**

***13.07.2015***

Панядзелак. Уначы раз-пораз прачынаўся. Чайкі крычалі, як рагаталі...

На пляжы сёння людзей меней. Мясцовыя на працы...

Разаслалі посцілку. Селі. Людміла знайшла 50 цэнтаў...

Мора спакойнае, як стомленае...

Да вады прайшоў дзядок гадоў пад дзевяноста. Худы, як з палону. Зайшоў у ваду па калена, пастаяў і вярнуўся да старой. Нешта апавёў ёй і заўсміхаўся...

Пад парасонам рускія гуляюць у карты...

Каменьчыкі, як скамянелы рыс...

Побач дзве сям'і. Культурныя. Бацькі нашага ўзросту размаўляюць па-расейску, а іх дзеці паміж сабой і ў звароце да бацькоў па-нямецку...

«Андора адмяняецца! На гэтым тыдні там бастуюць крамы. Без магазінаў там няма чаго рабіць!» — абвесціла гід, калі мы селі ў аўтобус, каб паехаць у Батанічны сад.

На ўваходзе ў Батанічны сад нас усіх па чарзе сфатаграфавалі з папугаем. Пачуўшы, што людзі размаўляюць

па-расейску, папугай пачаў крычаць: «Давай! Давай! Давай!» Калі мы сталі смяяцца, нашымі галасамі засмяяўся і папугай. Потым, калі выходзілі назад, нам прапанавалі выкупіць здымкі. Набылі.

У Батанічным садзе сотні розных кактусаў. Сярод іх можна было заблукаць...

Пасля Батанічнага саду паехалі на вінакурню. Дэгуставалі віны з трыццаці бочак. Мы абралі віно «Сальвадор Далі».

Надэгуставаўшыся вінаў, паехалі ў гарадок Санта Крысціна на фабрыку скураных вырабаў. У аўтобусе было чалавек пяцьдзясят. Нашых чалавек дзесяць, а астатнія з іншых гатэляў. Шмат расіян. Яны на фабрыцы сёе-тое і купілі, а мы нічога. Вельмі дарага...



Гарадок нейкі камуністычны. На сценах сярпы з малаткамі і зоркі чырвоныя...

Вяртаючыся ў Лларэт дэ Мар, пабачылі аварыю. Машына ўрэзалася ў слуп. Прыехалі пажарныя і хуткая...

Вечар. Праз тэлевізар (ёсць расейскамоўны нямецкі канал) паведамілі, што сёння ў прыгарадзе Парыжа адбылося абрабаванне. Магчыма, там, дзе мы жылі...

Перад сном пахадзілі па Лларэт дэ Мар. Усё як у кіно...

**ДЗЕНЬ АДЗІНАЦЦАТЫ. ЛЛАРЭТ ДЭ МАР**

***14.07.2015***

Спалася болей-меней нармальна. Каб не кандыцыянер, дык ці заснулі б. Стала надта горача. Учора ўвечары а 10 гадзіне было 25 градусаў...

Чайкі замоўклі, нібыта ў іх, як у цыганоў, што нядаўна з'ехалі з гатэля, скончыўся актыўны адпачынак...

«У доме цішыня, калі муж у Сібіры, а ў Іспаніі жана...» — пажартавалі падчас снядання побач з намі...

Прыйшлі да мора. Абралі вольнае месца. Селі і адразу чуем: «Отодвиньтесь подальше от нас!» Гэта нам скамандавала жанчына кіляў 140, якая загарала з дачкой кіляў 100. Мы адсунуліся. Побач за пару хвілінаў спынілася сямейная пара з вазочкам, у якім сядзела дзяўчынка. Зноў чуем: «Отодвиньтесь от нас!» Каталанцы не зразумелі, што ад іх хочуць, таму паставілі вазочак, дасталі з яе малую і пайшлі купацца. «В Москве тепла уже не будет!» — паведаміла жанчына дачцэ і,

пабачыўшы, што каля іх збіраецца прыпляжыцца мужчына гадоў сарака, зноў завішчала: «Отодвиньтесь! Отодвиньтесь! Отодвиньтесь!»

За паўгадзіны сышлі мама з дачкой, што ўсім камандавалі, каб адсунуліся, і адразу вызвалілася паўпляжа...

Папалуднаваўшы з віном «Сальвадор Далі», выправіліся на мясцовыя могілкі. Дарогаю зазірнулі ў краму. Прадавачкі — карэянкі. Набылі сёе-тое дзецям. Далей пайшлі па мапе. Ідзем, ідзем, а могілак усё няма. Звярнуліся да самотнай жанчыны, якая праходзіла побач. Людміла да яе па-англійску, а яна ў адказ па-расейску. Пасмяяліся. Жанчына апавяла нам, куды ісці, дзе могілкі. Горача. Градусаў 30. Могілкам болей за 100 гадоў. Па-іспанску могілкі — цэментэры. Гучыць, як цэмент. За хвілінаў 15 былі на могілках. Прыгожа, а найгалоўнейшае — памяць на стагоддзі. А ў нас спаляць і ў агароджу могілак умуруюць твой попел...

Адвячоркам зноў пайшлі на мора. Побач жанчына цяжарная. У жываце малое стукае ножкамі, і па скуры жывата ходзяць хвалі...

Дзве дзяўчыны Людміле прапанавалі набыць парасон ад сонца. Звярнуліся да яе, бо пабачылі, што мы з крыжыкамі. Значыць праваслаўныя, значыць свае. Яны заўтра ад'язджаюць, а парасон ім дома не патрэбны...

Калі не ідзеш да мора, мора прыходзіць да цябе... крыкам чаек.

Увечары хадзілі па чужым горадзе, як па сваім...

### ДЗЕНЬ ДВАНАЦЦАТЫ. ЛЛАРЭТ ДЭ МАР

***15.07.2015***

Апошні цэлы дзень на моры. Заўтра ад'язджаем. І хочацца дамоў, і не хочацца...

Ужо на мора ходзім, як на працу...

Сёння нашымі суседзямі на пляжы былі нармальныя людзі. Мы з Людмілай па чарзе плавалі. Я, каб не згарэць на сонцы, сядзеў у саламяным капелюшы і ў белай кашулі. Чарговы раз выйшаўшы з мора, Людміла сказала: «Ты як Ван Гог...»

Папалуднаваўшы, выправіліся па крамах. Усюды кошты немалыя, але можна гандлявацца. Сёе-тое набылі дзецям і бабулі.

Удзень падчас сіесты тэмпература была 35 градусаў...

Апошні раз купаемся ў гэтым моры. Крыху сумнавата. Прызвычаіліся да адпачынку...

Заўтра а 14 гадзіне пакідаем Лларэт дэ Мар, а інфармацыі пра наш ад'езд не маем. Адкуль і якім аўтобусам? Гэта крыху нервуе, але, думаю, нас тут ніхто не пакіне...

Пасля вячэры з Людмілай доўга хадзілі вулкамі. Развіталіся з горадам...

Схадзілі на вечарыну фламэнка. Увесь час здавалася, што падчас танца на сцэну выйдзе велізарны дон Педра з кулямётам і скажа: «Спакойна! Усім заставацца на сваіх месцах! Гэта абрабаванне!»



**ДЗЕНЬ ТРЫНАЦЦАТЫ. ЛЛАРЭТ ДЭ МАР. ЛІЁН**

***16.07.2015***

Спалася дрэнна. Горача. Улучыш кандыцыянер, холадна. А пад раніцу яшчэ камар аднекуль заляцеў. Укусіў мяне, а я потым, калі развіднела, забіў яго...

Паснедаў без настрою. Ад'язджаем з райскай мясціны...

Пайшлі да мора. Узышлі на гару, дзе скульптура марачкі, якая чакае мужа. Відаць далёка. Там, недзе праз мора, Афрыка...

Пахадзілі па гарах пад самым небам. Чайкі, як анёлы...

У горадзе яшчэ раз наведалі вулачкі, якія нам спадабаліся. Зайшлі ў Храм. Потым папалуднавалі ў кавярні непадалёк ад царквы...

Да нашай вандроўнай суполкі дадалося яшчэ чатыры чалавекі: Васіль (Крумкач), ягоная жонка і дзве дзяўчыны. Калі мы звярталіся да Васіля, ён з намі размаўляў па-беларуску...

А 14:00 на прыпынку «Дыскатэка СССР» загрузіліся ў аўтобус. Амаль у два разы паболела валіз і розных торбаў. З Лларэт дэ Мар выехалі а 14:40. Цяпер у нас новы куратар. Вадзім. Мужчыну за сорак. Едзем у Швейцарыю...

На палях Іспаніі жніво. Усё зжата. Навокал колеры самотна-залатыя, амаль родныя...

Чамусьці падумалася, што самае чыстае месца на зямлі — гэта пустэльня...

Едзем Іспаніяй. Уяўляю часы Калумба...

Горы... Дробны лес, як мох...

Удалечыні праехала электрычка, як вусень прапоўз...

Адзінокі замак у гарах. Відаць, захоплены Дон Кіхотам...

Горы здрабнелі. Вінаграднікі і болей нічога. А дзе бульба?

Ветракі. Нібы просяць застацца і клічуць да сябе...

Праехалі дзве гадзіны. Сонца засталося каля мора...

Горы. Аблокі. Змрочна, як перад навальніцай...

Праязджаем раён Праванс. Гэта гістарычная вобласць на паўднёвым усходзе Францыі, цяпер частка рэгіёна Праванс-Альпы-Лазурны бераг. Цяпер на тэрыторыі Праванса знаходзяцца дэпартаменты Вар, Ваклюз і Бушдзю-Рон...

Праехалі Авіньён. Гэта адміністрацыйны цэнтр дэпартамента Ваклюз у Правансе на левым беразе ракі Роны. Адзін з найвыбітнейшых і адначасова найпрыгажэйшых гарадоў Францыі...

Удалечы Марсель. Перад намі Ліён. Рака Рона...

Францыя. Горы. У гарах замкі, нібыта едзем праз далёкія стагоддзі...

Рэчка Рона цячэ следам за намі...

Едзем у Ліён. Збудаваны яшчэ да нашай эры...

Начуем у Ліёне. Гатэль «BiBi». Пакойчыкі малыя, але ўтульныя...

**ДЗЕНЬ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ. ЛІЁН. ЖЭНЕВА**

***17.07.2015***

Сніўся Парыж. Потым Пугачы. Хата дзеда Юзі і бабулі Параскі. Пустая хата...

Снедалі а сёмай гадзіне. Едзем у Жэневу. Пабачым Альпы. Да Жэневы ад Ліёна 150 кіламетраў...

Гледзячы з аўтобуса на поле з каровамі, побач са мной мужчына сказаў: «Шчаслівыя швейцарскія каровы...»

Сувенірная карова...

Кароў у Швейцарыі дояць пад музыку...

Найвялікшае швейцарскае свята — свята кароў...

Едзем праз горы на вышыні болей за 500 метраў над узроўнем мора...

Каля дарогі выпаленая трава. Узгадалася чыгунка з Мінска на Маладзечна. Штогод абапал яе нехта выпальвае траву...

А 10 гадзіне ўехалі ў Швейцарыю...

Жэнева. Удалечы гара Манблан. Вышыня — 4810 метраў...

Жэнеўскае возера з фантанам. Вада ўзлятае да 140 метраў. Кажуць, што некалі цікаўны мужчына сунуў руку ў фантан і вада злупіла яму ўсю скуру з рукі. Цяпер каля фантана вартаўнік...

Гарачыня. 35 градусаў. Павандравалі старым горадам. Паглядзелі гатычную царкву Дэ-ла-Мадлен. Наведалі сабор Святога Пятра і капліцу XIII стагоддзя Адзітуар-дэ-Кальвін...

Крэсла Кальвіна. Як дзіцячае...

Гарматы. У адной паўнютка смецця, нібыта яна страляе смеццем...

Дом Жан Жака Русо. Як помнік...

Паглядзелі на ратушу. Пасядзелі на найдаўжэйшай у свеце лаўцы (126 метраў).

Амаль на кожным доме вялікія швейцарскія сцягі. Здаецца, што яны не вывешаныя, а самі павырасталі са сцен і дахаў...

У Жэневе вада і прыбіральні бясплатныя. Аўтобусны вакзал. Прыбіральня. Дзверы не зачыняюцца. Чарга. Стаяць палякі, незадаволеныя...

Паліцэйскі дапамог нашаму аўтобусу выехаць з тупіка, у які мы трапілі, а мог жа аштрафаваць...

Пакінулі Жэневу. Не лепшы горад Еўропы. Маленькія вангогаўскія сланечнікі праз драты агароджы глядзяць нам услед...

Раптам з’явіліся радкі:

*Па вулачках начное Барселоны*
*З табою мы самотныя ідзём.*
*У нас з табою беларускія мільёны,*
*Мы з імі тут да ранку прападзём...*

Праязджаем Лазана. Узгадалася калекцыя матылькоў Набокава...

Вільгельм Тэль — забойца і нацыянальны герой, які жыў прыканцы XIII — пачатку XIV стагоддзя...

Праязджаем Берн. Тут жыў Альберт Эйнштэйн...

Над дарогай мост, парослы лесам. Гэта мост для лясных жыхароў...

Цюрых. Тут жылі ды працавалі Рабіндранат Тагор, Ёган Штраус, Віктор Гюго, Рыхард Вагнер, Фёдар Шаляпін, Альберт Эйнштэйн. Тут пахаваны Томас Ман...

Самотны бусел ходзіць узараным полем, як філосаф...

Швейцарыя сапраўды падобная да Беларусі...

На ўездзе ў паселішча пад бярозай вялікі драўляны крыж. Узгадалася роднае...

Бадэнскае возера. Велізарнае. Над ім збіраецца навальніца. Жахаюць маланкі...

У вёсках Храмы. Ад іх ідзе супакой...

Зноў горы. Паралельна дарозе цячэ рака...

А 19:45 пераехалі мяжу Швейцарыі з Аўстрыяй. Па нейкім часе трапілі ў сямікіламетровы тунэль, які прывёў нас у Германію. Да гатэля яшчэ 160 кіламетраў...



Прыехалі адпачываць амаль аб 11 гадзіне. 500 кіламетраў ехалі 9 гадзінаў...

**ДЗЕНЬ ПЯТНАЦЦАТЫ. ГЕРМАНІЯ. МЮНХЕН**

***18.07.2015***

Спалася як пшаніцу прадаўшы...

Выйшаў на гаўбец. Наваколле кароўнікам пугачоўскім пахне...

Сняданак сціплы. Без ёгуртаў. Гаспадар гатэля, відаць, нейкі былы футбаліст. У страўні выстаўленая купа прызоў...

Адсюль да Мінска 1850 кіламетраў. Сумна, што вандроўка сканчаецца...

Прыехалі ў Мюнхен. Тут мы з Людмілай ужо другі раз і сябе адчуваем, як дома...

Прыйшла гідэса. Кандыдат мастацтвазнаўства. Жыве ў Мюнхене з 1992 года. Мы ў яе спыталіся, дзе тут які-небудзь мастацкі музей, бо мы ўжо ведаем, дзе малады Гітлер піва піў. Гідэса адразу пацікавілася: «Мо яшчэ хто хоча ў музей?» Ніхто не адгукнуўся. Жанчына пачала мяне з Людмілай называць «гаспадамі»: «Вось вы ўсе пойдзеце ў піўбар, а «гаспада» пойдуць у мастацкі музей!» І мы, пахадзіўшы паўгадзіны з усімі, атрымаўшы мапу Мюнхена і выслухаўшы гідэсу, як дабрацца да музея класічнага мастацтва, выправіліся любавацца сапраўдным мастацтвам. Ідучы да музея, каб не блукаць, запыталіся ў старой немкі, якая нам падалася інтэлігенткай, што абавязкова ведае родны горад, як прайсці. Немка

патлумачыла, і мы за хвілінаў пятнаццаць былі ў музеі. Ніякай чаргі. Квіткі па чатыры еўра.

Музей двухпавярховы. Шыкоўны. Бачылі карціны Леанарда да Вінчы («Мадонна з гваздзікам»), Дзюрэра («Аўтапартрэт»), Босха (фрагмент карціны «Пекла»), Пітэра Брэйгеля, Лукаса Кранаха Старэйшага, Цінтарэта, Рубенса, Рафаэля, Тыцыяна, Філіпа Ліпі, Сальвадора Раза і інш. Каля семісот карцін. Піва мы і ў Мінску пап'ем!

Папалуднавалі ў кавярні «У францысканцаў». Тут былі мы і летась. Абслугоўваў нейкі індзеец ці цыган. Болей сюды не пойдзем, бо абслугоўваў кепска, не ўсё прынёс, што замаўлялі...



Сабраліся ад'язджаць, а тут нашу вуліцу запоўнілі будысты з барабанамі, танцамі і песнямі. Наперадзе ў іх паліцыя. Словам, дэмакратыя...

Праехалі каля стадыёна мюнхенскай «Баварыі». Стадыён застрахаваны той самай кампаніяй, якая ў свой час застрахавала «Тытанік»...

Плантацыі хмелю, як зялёная арда, якая абклала Мюнхен, а ён не здаецца...

Праехалі дзве з паловай гадзіны. Захмурэла. Распачаўся дробны дождж, як музыка развітання з тым, дзе мы былі два мінулыя тыдні...

Рэдка якая машына з беларускімі нумарамі даязджае да сярэдзіны Еўропы...

210 кіламетраў да Берліна. Едзем праз дажджавую сцяну. Ветракі ў дажджы, як падводныя чоўны...

Праз дождж сярод ветракоў ідзе Язэп Драздовіч да Ван Гога...

Нанач прыехалі ў польскую «Няваду», дзе ўжо спыняліся, едучы ў Амстэрдам. Дванаццатая гадзіна. Цёмна. Адчуваецца сэрцам, што Беларусь ужо недалёка. Праўда, яшчэ трэба праехаць 1050 кіламетраў...

## ДЗЕНЬ ШАСНАЦЦАТЫ. ПОЛЬШЧА

***19.07.2015***

Нядзеля. Прачнуліся а шостай. Сонца за аблокамі. Наша надвор'е...

За два тыдні польская кукуруза падрасла. Збожжа месцамі палягло...

Ветракі, як нажы ў мясарэзцы...

«Пабачыць Парыж і памерці! Не! Не варта паміраць сярод арабаў!» — чую ўрывак размовы суседзяў, якія сядзяць перада мной...

«Я ў раі?» — «Не! Вы ў раённай бальніцы!»

Да беларускай мяжы 311 кіламетраў. Ужо абрыдзела ехаць. Пачынаю думаць, што я вяртаюся з еўрапейскага палону, і мне робіцца крыху лягчэй, але ненадоўга...

14:20. Едзем праз Варшаву. На вуліцы людзей мала, нібыта пахаваліся ад нас...

Сэрца Шапэна...

У Варшаве 31 градус...

Каля дарогі на футбольным полі вароны і галубы, як зачараваныя футбалісты...

Хлопцу гадоў дваццаці, які ў аўтобусе сядзіць за мной, нехта патэлефанаваў, і я пачуў: «Што я табе апавяду? Я нічога не памятаю!»

Нашыя мытнікі амаль дзве гадзіны правяралі аўтобус перад намі. Нас прапусцілі хутка. У Берасці былі а дванаццатай гадзіне. З намі развіталася жанчына з Санкт-Пецярбурга. Яна ў падобную вандроўку ўжо ездзіла восем разоў...

## ДЗЕНЬ СЯМНАЦЦАТЫ. БЕЛАРУСЬ

***20.07.2015***

Выехалі з Берасця. Пачалася навальніца. Дождж, як з вядра. Наш аўтобус, як падводная лодка, якая працякае. Жахаюць маланкі і навокал робіцца светла, як удзень. Едзем моўчкі. Маўчым, як у Храме...

Стараюся прачытаць указальнікі, каб даведацца колькі засталося кіламетраў да Мінска. Яшчэ вельмі шмат. Кажуць, што і ў Мінску вялікі дождж.

На паўдарозе колькі чалавек сышлі. Яны з раённага цэнтра. Сустрэў сын машынаю. Навальніца ўсё ўзмацняецца. Сядзім як мышы пад мяцёлкамі...

Наш аўтобус у дажджы, як у моры п'яны карабель...

Да Мінска 20 кіламетраў. Усе заўсміхаліся. Пачалі збірацца дамоў. Навальніца прыцішылася. У аўтобус нацякло вады, але гэта ўжо не бяда. Мы амаль дома...

Амаль чацвертая гадзіна ночы. Прыехалі! Думалася, што будзем развітвацца з тымі, з кім былі ў вандроўцы найбліжэй,

з кім размаўлялі. Не! Выйшлі ў дождж з аўтобуса і за хвіліну ўсе разбегліся, нібыта разам ніколі і не былі...

Прыехалі з Людмілай дамоў таксоўкаю. Дзеці спяць. На канапе ляжыць кіпа газет, якія сабраліся падчас нашай вандроўкі. Пакуль Людміла мылася, я пагартаў газеты. Нічога новага...

Дасталі з валіз падарункі дзецям і бабулі. Я дастаў са сваёй торбы кнігу вершаў Людмілы «Вяртанне інфанты», якая з намі праехала амаль сем тысяч кіламетраў і была сведкай таго, што мы бачылі...

***20.07.2015***



Вось мы і дома! За сямнаццаць дзён шэсць з паловай тысяч еўрапейскіх кіламетраў за плячыма. Варшава, Амстэрдам, Брусель, Парыж, Бардо, Барселона, Ліён, Жэнева, Мюнхен... Сон, які стаўся явай...

***21.07.2015***

Першы дзень пасля вандроўкі выйшаў на працу. Адразу ж на аўтобусным прыпынку заўважыў, што ў нас прыгожых дзяўчат і жанчын у сто разоў болей, чым там, дзе вандраваў.

Як еўрапейскай свабоды, наглытаўся марской вады...

***22.07.2015***

Прачнуўся а сёмай. Думаў, што ў Парыжы. Не! Дома...

***23.07.2015***

Не пі з неба, бо анёлам станеш...

***25.07.2015***

З Маладзечна патэлефанаваў Міхась Казлоўскі. Паведаміў сумную навіну. На 62-м годзе жыцця пасля невылечнай хваробы памёр мастак Васіль Лазоўскі. Учора Міхась яго наведаў у бальніцы. Выгляд у хворага быў перадсмяротны. Сёння Васіля мусілі былі выпісаць дамоў, «каб не псаваў статыстыку...».

***26.07.2015***

Некаторыя кажуць, што Беларусь — гэта маленькая Швейцарыя. Пабыўшы ў Швейцарыі, кажу: «Гэта Швейцарыя маленькая! А Беларусь вялікая!»

***27.07.2015***

З самага ранку ў выдавецтва прыйшла аўтарка з рукапісам прозы. Прывітаўшыся, паскардзілася: «Каб вы ведалі пасля якіх велізарных пакут я дабралася да вас! Ай-яй-яй!» — «І якія ж гэта былі пакуты?» — пацікавіўся я і пачуў: «У даведцы доўга шукалі вас. Я папрасіла, каб мне далі адрас бліжэйшага да вакзала выдавецтва».

Сёння, дзякуючы Ціхану Чарнякевічу, даведаўся, што наш куратар у нядаўняй вандроўцы дарогамі Еўропы Зміцер Жызнеўскі — не проста гід, а малады празаік, які друкаваўся ў часопісе «Макулатура».

***29.07.2015***

Спаліўшы графаманскі рукапіс, выратуеш чытача. Спаліўшы ўсе графаманскія рукапісы, выратуеш выдавецтва...

***30.07.2015***

З сястрой Валяй, яе мужам і дачкой Надзяй ездзілі ў Пугачы, каб пафарбаваць новы плот вакол нашай хаты. Выехалі дажджом, але са спадзяваннем, што ён перастане. Заехалі да бацькоў на Ракаўскія могілкі. Побач з’явілася пару новых магіл. Пастаялі. Памаўчалі. Кожны пра сваё.

Дарога з Ракава да Пугачоў была заасфальтаваная недзе ў 1990 годзе. Праўда не ўся. І вось урэшце на тым «няшчасным кавалку» (кіламетры чатыры) кладуць асфальт. Успрымаецца гэта, як нейкі знак на лепшае...

На палях буслы. Ходзяць, як правяральнікі з раёна...

Прыехалі ў Пугачы. Хаты з-за дрэў у садзе амаль не відаць. Стаіць? Стаіць! Чакае...

Яблыкаў сёлета амаль няма. Хаджу ў садзе. Самотны яблык ляжыць у траве, як адлюстраванне сонца ў зялёным моры...

Швагра Віця грунтаваў наш новы цэментавы плот, Валя з дачкой корпаліся ў градах, а я касіў. Побач праходзіў сусед Тонік Руткевіч. Віця ў яго запытаўся: «Чаму так кавыляючыся ідзеш?» — «Бо п’яны!» — адказаў Тонік...

Заходзілі да дзядзькі Шуры. Ён пацікавіўся, ці буду я ў нядзелю на свяце вёскі. «Буду!» — адказаў я. «Мне ж даслалі запрашэнне, у якім напісана: «Ваша явка обязательна». Я б і так прыйшоў»,— сказаў дзядзька і ўсміхнуўся...

Увесь час, пакуль мы займаліся справамі, каля нашай сялібы каталіся дзеці на роварах, нібыта іншага месца, каб пакатацца, няма. Ездзілі не проста абы ездзіць, а даганялі адзін аднаго, разагнаўшыся, рэзка тармазілі. Словам, відаць, ім хацелася, каб мы на іх звярнулі ўвагу. Цяпер, пішучы пра хлопцаў з роварамі, магу сказаць, што яны свайго дамагліся. Я нават запомніў, што двух з кампаніі завуць Максімам і Юрам...

Выдзіраючы крапіву з кустоў чорных парэчак, выдраў з каранямі клёнік. Раўнюткі, танюсенькі, вышынёю да двух метраў. Лісточкі на ім маладзенькія, рудзенькія. Словам, не клёнік, а прыгажунок. Шкада выкідаць на сметнік. Я паклікаў Валю з Надзяй: «Давайце пасадзім!» І мы побач з нашай сядзібай, там, дзе нядаўна спілавалі старыя, пашкоджаныя буранам віхлы, пасадзілі клёнік. Няхай расце вялікі!



Працавалі да паловы дзявятай. Цяпер у Пугачах у нас будзе найлепшы плот і найгоршая (старая) хата...

***31.07.2015***

Кінарэжысёр Уладзімір Арлоў, пакуль я быў у адпачынку, прынёс у выдавецтва і паклаў мне на стол старонкі з кнігі «Магия многоцветного экрана», якую выдаў у «Харвесце». Адзін з раздзелаў выдання пачынаецца: «Беларуские писатели не один год и не по одному месяцу творили в незабываемом Доме творчества: в коласовских Королищевичах — веселом бурлящем приюте, где на мастеров пера накатывали волны вдохновения три десятилетия после «дядьки Якуба». Тут рождались заметныя произведения национальной литературы, велись бесконечные споры о ней, ладились дружеские застолья со скандалами и исповедями... Таким он был — уютный утраченный дом. Таким вспомнился он поэту Виктору Шнипу — совсем молодым в декабре 1981-го участвовал он в семинаре начинающих поэтов:

*І вецер між соснаў лагодны і грозны*
*Лятае, прысніўшы ўначы зноў зіму,*
*Калі тут не будзе зусім анікога*
*І дом гэты будзе, як прывід, стаяць*
*У лесе, у снезе ля тлумнай дарогі,*
*Дзе толькі дарога адна і відаць...*

...Что там теперь в Королищевичах, никто не знает: то, говорят, разрушили коласовский Дом, то — «закрытый

объект», то — выкупила какая-то фирма. Давайте, съездим! — возникало предложение. Не нужно. Как мудро написал Геннадий Шпаликов:

*По несчастью или к счастью —*
*Истина проста:*
*Никогда не возвращайся*
*В прежние места».*

Вяртацца, можа, і сапраўды не трэба ў мінулае, але ж Коласаўскі дом — гэта не проста хата ў лесе. Коласаўскі дом — гэта КОЛАСАЎСКІ ДОМ! Хто там цяпер і што там?



## Жнівень

***1.08.2015***

З сястрой Валяй, яе мужам Віцем і дачкой Надзяй ездзілі ў Пугачы. Фарбавалі плот. Пачынаючы працу апоўдні, думалі, што скончым за гадзіны тры-чатыры, максімум за пяць. Фарба скончылася толькі а дзясятай вечара...

З яблыні зваліўся яблык. Белы наліў. Жоўценькі, як залаты. Падняў яблык швагра. Павярнуў на бок, які хаваўся ў траве, а ён чорны. Паглядзелі ў крону. Болей ніводнага яблыка не відаць...

На вуліцы каля нашага плота ўжо гадоў дзесяць працякае водаправодная калонка. Праз яе ў агародзе каля хаты заўжды вільготна. Што ні рабілі з вадой, а яна ўсё цячэ і цячэ, як вечная. Вяскоўцы кажуць, што трэба звяртацца ў Валожын, бо там цяпер усе службы, якія адказваюць за водаправод...

Сцямнела. Засвяціла поўня. Застракаталі цвыркуны. Усё навокал, як у маленстве. Толькі бацькоў няма...

Выехалі з вёскі цемраю. Праз святло фар машыны прабег заяц, як прывід...

У кватэру зайшоў а палове дванаццатай. Стомлены, але задаволены, што ў вёсцы добра і згодна папрацавалі...

***2.08.2015***

Прачнуўся а пятай. Гадзіны паўтары ляжаў і думаў, што трэба сказаць у Пугачах на свяце вёскі. Вырашыў доўга не прамаўляць і пачытаць два вершы, напісаныя трыццаць пяць

гадоў таму пра Пугачы. Пабудзіў Людмілу. Хутка сабраліся і паехалі на чыгуначны вакзал. З электрычкі патэлефанаваў у Пугачы і паведаміў, што ў Аляхновічах мы будзем а дзясятай. У вагоне сабралася шмат народу. Пераважна пажылыя жанчыны, якім трэба на лецішчы. Ехалі гадзіну. У Аляхновічах нас ужо чакала Наталля Жызнеўская. Машынаю ў Пугачы заехалі за хвілінаў дваццаць. Праязджаючы праз Еленку, узгадаў школьных сяброў, якія тут нарадзіліся. Шмат пустых хат. Сялібы зарослыя травой. Людзей зусім не відаць, нібыта ніхто ў вёсцы не жыве. На заездзе ў Пугачы спыніліся. Мы з Людмілай падаравалі Наталлі свае кніжкі з аўтографамі, а яна дала мне пачытаць, калі будзе вольны час, свае вершы...

Сустрэлі нас каля Дома культуры, як самых вялікіх гасцей. Адразу напаілі гарбатай, пачаставалі нядаўна спечанымі булачкамі. Завялі ў бібліятэку, паказалі куток з маімі кнігамі і партрэтам, які ў свой час намаляваў Алесь Кляткоўскі. Бібліятэцы мы з Людмілай падаравалі свае новыя выданні...

На свята вёскі сабралася сотні паўтары людзей. Былі артысты з Валожына і ракаўскі фальклорны гурт «Гасцінец». Першым выступіў старшыня Ракаўскага сельсавета, потым я і Людміла. Нам падаравалі гарбатны сервіз з гравіроўкай «Жыві, мая вёска Пугачы. 2015»...

На сёння найстарэйшая жыхарка Пугачоў — Валянціна Іосіфаўна Шніп. Ёй 88 гадоў. Яна ў школе выкладала беларускую мову і літаратуру. Гэта на ейным уроку я даведаўся, што ў дзесяці кіламетрах ад Пугачоў у Вязынцы нарадзіўся Янка Купала, да якога падчас летніх вакацый я і хадзіў з вершамі...

Падарунак атрымала і мая першая настаўніца Шніп Марыя Вікенцьеўна. У школе яна была строгай, патрабавальнай і справядлівай, як і належыць быць сапраўднаму Настаўніку...

Самы юны жыхар Пугачоў — Дзмітрый Сасноўскі. Ён нарадзіўся 1 студзеня 2015 года...

Дзякуючы святу вёскі сустрэўся амаль з усімі сваякамі, якія яшчэ жывуць у Пугачах. З Навасёлак адмыслова на свята прыехаў траюрадны брат майго бацькі Леанід Жыткевіч. Словам, сёння ўсе дарогі вялі ў Пугачы да Дома культуры...

Падарункаў на свяце вёскі было ўручана вельмі шмат. Гучалі песні, разам з «Гасцінцам» развучваліся танцы, дзеці малявалі, а хто хацеў, мог набыць вырабы мясцовых майстрыц, а таксама пачаставацца юшкай з блінамі...

Перад ад'ездам у Аляхновічы з Людмілай зайшлі дадому. Падкруціў у гадзінніку спружыну. Няхай у хаце не будзе мёртвай цішыні...

На палях жніво. Камбайны гудуць, буслы ходзяць і сонца ў небе, як вялікая кропля мёду...

Сёння Ілля. Павінна быць купа гнілля, а тут горача, як каля адчыненых дзвярэй лазні...

Наталля Жызнеўская адвезла нас у Аляхновічы на электрычку. Было крыху сумнавата, што свята вёскі прайшло, і адначасна радасна, што мае аднавяскоўцы не толькі ўмеюць добра працаваць, але і святкуюць, як належыць...



***3.08.2015***

Перад полуднем на працу да мяне прыходзіў рэжысёр Валерый Анісенка. Энергічны, эмацыйны, як вялікі творца. Паразмаўлялі пра літаратуру і тэатры. Развітваючыся, Валерый Данілавіч сказаў: «Будзем працаваць, а не плакаць!»

Пасля полудня зайшоў зямляк Язэп Янушкевіч. У шортах, сандалях на босыя ногі, у саколцы, у капелюшы. Загарэлы. Словам, прыгожы, як каўбой падчас адпачынку. Набыў у аддзеле рэалізацыі дзявяты том Уладзіміра Караткевіча. Наш Ракаў рыхтуецца да свайго 550-годдзя. Я пішу «наш Ракаў», бо ўжо трэці год, як Пугачы адносяцца да Ракаўскага сельсавета. Уся святочная праграма названая радком з майго верша «Мы маем гонар свой, мы Ракаў маем...»

Гадзіннік на руцэ, як кайданкі, якімі ты прыкаваны да часу, у якім жывеш...

Нашы воплескі для молі забойчыя...

Мае аднавяскоўцы, мае аднаваскоўцы...

***6.08.2015***

Прыходзіў Базыль. Набыў новыя тамы Уладзіміра Караткевіча і маю кнігу «Заўтра была адліга». Ён нядаўна прыехаў з Амерыкі, дзе 25 ліпеня атрымаў амерыканскі

пашпарт. Даў мне пагартаць. Пашпарт, як невялічкая кароткая амерыканская энцыклапедыя. Базыль у Амерыцы працуе ў лабараторыі Энрыка Фермі. Казаў, што ў ягонага начальніка на сцяне вісіць мапа, на якой на месцы Беларусі белая пляма. «Чаму так?» — запытаўся я, і Базыль адказаў: «Амерыка яшчэ не вызначылася, што з намі рабіць...»

### *8.08.2015*

Нягледзячы на гарачыню, з Людмілай, сястройВаляй і яе мужам Віцем, ездзілі ў Пугачы, каб дафарбаваць плот...

Зайшлі ў хату. На стале два букеты руж у вадзе стаяць, нібыта толькі што зрэзаныя. Мы з Людмілай тыдзень таму, атрымаўшы іх на свяце вёскі, пакінулі тут, бо яны ўжо былі амаль завялыя. «Мама любіла кветкі, таму яны і аджылі!» — сказала Людміла, гледзячы на букеты...

Гадзіннік цікае. Хата жывая...

Агрэст амаль увесь чырвоны. Суседзям казалі, каб ірвалі, колькі хочуць, а яны рвалі слабавата. У дзяцінстве мы з бацькам вазілі мяхамі агрэст у Гарадок здаваць. Атрымлівалі грошы, на якія нам, дзецям, бацькі куплялі сёе-тое з абновак перад школай...

Адвячоркам машынаю прыехалі дачка Валі Надзя з сябрам Сашам. У садзе зрабілі шашлыкі. Збегліся суседскія каты і малады сабака. Пачаставалі і іх...

З дому выехалі пасля дзявятай. Каля сялібы Ліды Шніп вуліцаю ішло чалавек пятнаццаць. «Відаць, нейкае вяселле...» — сказаў швагра. «Магчыма...» — выказаўся я. Праязджаючы каля людзей, я пабачыў Ліду і яе мужа Валодзю, якому я памахаў рукой. Швагра прыпыніў машыну, думаючы што я выйду, але я не выйшаў, бо сядзеў у майтках і з неадмытымі ад фарбы рукамі. Вярнуўшыся ў Мінск, з фэйсбука даведаўся, што да Ліды з Масквы прыехалі сваякі, з некаторымі і я знаёмы праз сеціва. Цяпер шкадую, што сустрэча не адбылася...

### *9.08.2015*

«Праз трыццаць гадоў будзе вялікая вайна і мала хто застанецца на нашай планеце!» — кажа мой аднагодак. Ягоная дачка, якой трынаццаць гадоў, адразу з крыўдай: «Вам добра! Вы да таго часу не дажывяце!»

***10.08.2015***

Надпіс на плоце: «Асцярожна! У двары злы Граждан!»

Каторы дзень у галаве круцяцца радкі:

*Лета пачалося. Не танцуй!*
*І яно аднойчы адвіруе.*
*Ад самоты сонца нас ратуе,*
*Ад спякоты сам сябе ратуй!*

***11.08.2015***

Спякота. На Свіслачы чайкі, як воблака, якому добра на вадзе, а не ў небе...

Сёння ў Адама Глобуса прачытаў: «На вокладцы кнігі Анатоля Кудласевіча «Трынаццаць дзён» змешчаная карціна Руслана Вашкевіча «Ладдзя». Ёсць на вокладцы і словы Руслана: «Гэтую маленькую карціну сто гадоў таму я падараваў Анатолю Сысу. Ён, узрадаваны, тыдзень паіў увесь інтэрнат БДТМІ. Калі я працверазеў, пайшоў у Дом літаратара і папрасіў карціну назад, Сыс адказаў: ”Я шчаслівы, што яна пабыла са мной увесь гэты час...“» Я памятаю гэтую гісторыю. Якраз у той час на Захарава быў рамонт у рэдакцыях і нас перасялілі ў Дом літаратара. Аднойчы прыйшоў да мяне Анатоль Сыс і са слязамі на вачах пахваліўся, што яму Руслан Вашкевіч падараваў карціну, за якую абавязкова трэба тут жа выпіць. Мы выпілі. Потым цэлы тыдзень Сыс хадзіў па Доме літаратара з «Ладдзёй», нібыта ён сам яе намаляваў...

***13.08.2015***

Быў на Вайсковых могілках. Сёння Дзень памяці Якуба Коласа. Прыехаўшы на паўгадзіны раней, чым трэба было, абышоў пісьменніцкія магілы. Пакланіўся Кузьму Чорнаму, Міхасю Клімковічу, Паўлюку Трусу, Усеваладу Ігнатоўскаму, Алесю Гурло, Валянціну Таўлаю, Аркадзю Моркаўку...

Сярод магіл апалае лісце, як тое, што засталося ад паперы, якая была на пісьмовых сталах у той дзень, калі пісьменнікі пайшлі ў лепшы свет...

Ад помніка да помніка павуцінка, як тэлефонны дроцік...

Зайшоў у царкву Аляксандра Неўскага. Прыцемкі. Запаліў дзве свечкі. Пасвятлела ў Храме і ў маёй душы...

Да магілы Якуба Коласа прыйшлі яго родныя, супрацоўнікі музеяў, пісьменнікі і карэспандэнты. Пасля ўскладання кветак каля помніка гучалі словы ўдзячнасці Песняру і вершы. Людзі, якія праходзілі міма, прыпыняліся на хвіліну, слухалі. Сярод прысутных, відаць, яшчэ не разумеючы, што адбываецца, бегала маленькая праўнучка Якуба Коласа. Прыгожая і непасрэдная, як сапраўдная Паэзія...

З сеціва даведаўся, што памёр мастак Георгі Скрыпнічэнка. Апошні раз мы з ім бачыліся сёмага траўня 2013 года ў галерэі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці на адкрыцці выставы жывапісу Алеся Квяткоўскага «Песні дрыгвы». Георгі Сяргеевіч, ведаючы, што я прыйду выступіць у сябра на свяце, спецыяльна прынёс свой таўшчэзны (438 старонак) мастацкі альбом, загадзя падпісаўшы: «Віктару Шніпу, паэту, грамадзяніну, з вялікай павагай і ўдзячнасцю!!! Працуйма на карысць БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!!! Георгі. Менск. 7.5.2013 г.» Дорачы выданне, Георгі сказаў: «Ты прыйшоў, хоць мы і не дамаўляліся сустрэцца. Дзякую. Цяпер мне не давядзецца валачы назад гэтую таміну, як колькі разоў ужо валок, бо не прыйшлі паэты...», і ён назваў імёны двух паэтаў...



***14.08.2015***

На 62-м годзе жыцця пакінуў гэты свет народны артыст Беларусі Сяргей Журавель. За свой творчы шлях артыст сыграў і Сальвадора Далі, і Несцерку, і Тарцюфа. І ў кожнай ролі быў беларусам...

Учора памёр беларускі Сальвадор Далі — мастак Георгі Скрыпнічэнка, а сёння — артыст Сяргей Журавель, які ў свой час выконваў ролю Сальвадора Далі. Яны пайшлі да Сальвадора...

***15.08.2015***

Былі за горадам...

Зялёная арда кукурузы чакае свайго часу...

Заяц каля дарогі ласаваўся жытам. Малады і непалоханы. За пару метраў ад машыны лянотна схаваўся ў жыта, а мы яму ўслед добразычліва пасмяяліся...

Побач з лецішчам на зжатым полі перапёлкі. Штук дваццаць. І ў кожнай ножкі не баляць, бо ад нас пабеглі, нібы прапануючы: «Паспрабуйце дагнаць!»

Сланечнікі ў агародзе. А дзе Ван Гог? Прыляцеў чмель. Вялікі і прыгожы. Сеў на галаву сланечніку і не зважае на нас...

Агуркі ўжо не растуць. І трава не расце. Апалае лісце ў баразне, як рудая вада...

Гронкі зялёнага вінаграду, як кроплі зялёнага бурштыну...

Вада са студні халодная, як жывая...

У азярыне купаюцца людзі. Машыны на беразе, як іх жалезная вопратка...

Чорная сліва на срабрыстай талерцы, як пляма на поўні...

На зжатым полі ходзяць буслы. Дзюбы іхнія, як стрэлкі, што паказваюць на восень...

***16.08.2015***

Хадзіў да Алеся Квяткоўскага. Ён рыхтуецца да выставы ў Гародні. Гаворачы пра творчасць, я прапанаваў Алесю намаляваць карціну «Чорны квадратасланечнік» і падараваў яму для натхнення свой верш:

*чорны квадратасланечнік —*
*гэта чорны квадрат Малевіча*
*і сланечнік Ван Гога*
*якія аб'ядналіся*
*каб чорным пчолам Квяткоўскага*
*было не сумна*
*у гэтым белым свеце*
*дзе чорны сланечнік*
*гэта чорнае сонца*
*гэта чорнае вока вечнасці*
*гэта шматкроп'і*
*з ненапісаных вершаў Апалінэра*
*і ты малюеш чорны квадратасланечнік*
*як пачатак свету*
*у якім знайшлося месца*
*і для нас з табою*

Дваццаць пяць гадоў жыву ў доме на вуліцы Волаха. Гадоў пятнаццаць таму пазнаёміўся з мастаком з суседняга пад'езда. Пазнаёміцца пазнаёміўся, а як завуць яго — забыўся. Сустракаючыся ў двары, мы віталіся, пыталіся пра жыццё-быццё. Гадоў дзесяць таму ў нашым доме быў капітальны рамонт. Доўгі час мы разам «ваявалі» з будаўнікамі, а потым

зноў схаваліся ў сваіх кватэрах, зрэдку сустракаючыся на вуліцы. Мастак даглядаў хворую маці. І ў мяне дажывалі свой век бацькі, якія тры гады таму пакінулі гэты свет. Нядаўна памерла і маці мастака. І, магчыма, я і далей не ведаў бы, як яго завуць (перапытвацца няёмка), калі б сёння ў фэйсбуку на старонцы Яўгена Колчава не пабачыў фотапартрэт свайго суседа з подпісам: «Мастак — Слава Лемачко»...

*17.08.2015*

Сёння пахаладала. І ўсе, як пару дзён таму адзін аднаму скардзіліся, што спякотна, скардзімся, што пахаладала... Нам не дагодзіш...



Лета адыходзіць ад нас, як мора ад берага, і апалае лісце, як пясок...

Сніцца родная хата, як пусты Ноеў каўчэг...

На дзявяты паверх выдавецтва, як на дзявятае неба, прыйшоў аўтар. Стаўшы на калідоры каля вакна, ён пабачыў аблокі, як Альпійскія горы, на якіх пасуцца швейцарскія авечкі. Прыгожыя і безабаронныя. І аўтару захацелася кінуць сваю пісаніну і пайсці ў пастухі. Але раптам падышоў рэдактар і запытаўся: «Вы да мяне?»

Птушыны Шлях, як лёска. Поўня, як грузік. Зямля, як прынада...

*19.08.2015*

У мастакоў сярод старых выданняў знайшоў зборнік паэзіі (448 старонак) Радзіслава Лапушына «Взрослее облаков» (1996), які рэдагаваў Рыгор Барадулін. Нічога не звычайнага ў тым, што кніга захавалася да сённяшняга дня, няма. Сумна, што кніга падораная была супрацоўніцы выдавецтва з подпісам: «Драгоценной Ларисе Николаевне Шлапо — доброму Гению этой книги — с сердечной признательностью. Р. Л. 25.08.», і не забраная дамоў. І гэта ўжо не першы падобны падарунак аўтараў, які мне трапіўся ў рукі. Кажуць, што Радзіслаў на пачатку 90-х з'ехаў у Амерыку. Ці піша ён там цяпер вершы — не ведаю. А паэт ён быў харошы. Абы-каго Рыгор Барадулін не рэдагаваў...

***21.08.2015***

Калі падчас вайны туркі хацелі разбурыць Парфенон, каб здабыць свінец, грэкі, даведаўшыся пра гэта, даслалі ім кулі, каб яны маглі страляць, не знішчаючы Парфенон...

Вяртаюся з крамы праз сквер. На лавачках сядзяць пенсіянеры і алкаголікі. Крумкач ходзіць ля сметніцы, як чорны анёл...

Скверам за мной бяжыць белы сабака. Малы, як цацачны. Жанчына крычыць услед: «Не бойцеся! Я нядаўна яго карміла!»

У сеціве знайшоў інтэрв'ю з гітарыстам Андрэем Маркуцам, якое ён даў Tuzin.fm. На пытанне: «Пра мінулыя свае гурты згадваеш з якім пачуццём?» Андрэй адказаў: «Па-рознаму, але, безумоўна, прыемнага заўжды болей. «Рэй» — гэта пачатак, першы выхад на сцэну, першыя запісы на вуліцы Чырвонай, 4. Першыя фанаты і аўтографы, кліпы ў Курапатах... Гэта было на хвалі набыцця Незалежнасці, узнікнення першых беларускамоўных гуртоў. Выступалі і рэпетавалі разам з «Мрояй». Музыку пісалі на вершы Віктара Шніпа, Адама Глобуса...». Як гэта было даўно! 1989 год. Я тады «Рэю» напісаў шмат тэкстаў. І толькі некалькі захавалася...

Пішыце і кажыце пра мае творы, што хочаце! З імі ад гэтага нічога не здарыцца.

Мы болей кажам пра Дон Жуана, чым пра Байрана...

***22.08.2015***

Дажывем да Паэзіі...

Прачнуўся а сёмай. Дзень пачаўся з радкоў:

*Мы пойдзем у горад з табою гуляць,*
*У люднай кнігарні не купім нічога.*
*Там кнігі, як мёртвыя людзі стаяць*
*У вечнай чарзе, зачакаўшыся Бога...*

Працягу не напісалася. Да ўсяго ў горад не ідзем...

Бог не прадаецца. Ікону можна купіць...

Чацверты год не выбіраю бульбу. Не садзіў...

З Людмілай паглядзелі фільм пра брытанскага мастака-пейзажыста Уільяма Цёрнера (23.04.1775—19.12.1851). Узгадаўся фільм пра Леанарда да Вінчы, які я глядзеў, калі мне было дванаццаць гадоў. Сёння ў сеціве знайшоў той фільм. Ён упершыню на тэлеэкраны выйшаў у 1971 годзе. Паглядзеў. І здзівіўся сам сабе, бо ўсё амаль памятаю. Яшчэ памятаецца, што пасля фільма я нейкі час маляваў, маляваў левай рукой, бо мне здавалася, што, калі буду так маляваць, як Леанарда да Вінчы, то і я буду, як гэты геніяльны мастак. Пасля таго фільма я і дзённік завёў, куды запісваў назіранні за прыродай, вынікі доследаў з раслінамі, мурашкамі, п'яўкамі, чарвякамі і г. д. Словам, з таго часу ў мяне заўсёды з сабой сшытак, куды занатоўваю ўсё, што ўважаю важным для сябе...



***23.08.2015***

Не збіраўся рана выходзіць з дому. Патэлефанаваў Алесь Квяткоўскі і паведаміў, што ў ягонай майстэрні з'явіўся «Чорны сланечнік». І я пайшоў глядзець. Гаворачы пра новую карціну, Алесь сказаў, што яна прысвечаная тым, хто на волі. А ў мяне з нагоды «Чорнага сланечніка» з'явіўся ланцужок асацыяцый: «Чорны квадрат у канцы тунэля... Сланечнік у канцы тунэля... Святло ў канцы тунэля...»

Дзякуючы Людміле, упершыню быў на вялікім канцэрце маладых рок-музыкаў, што праходзіў у адным з клубаў на Нямізе. Быў час, калі я пісаў тэксты рок-гуртам і часта з задавальненнем хадзіў на моладзевыя тусоўкі. Ды і мне не было трыццаці. А сёння ішоў з хваляваннем, бо мы ішлі не проста на рок-канцэрт, а на канцэрт, дзе ўсё арганізаваў і праводзіў гурт «F!B!» (з падтрымкаю сябра-барабаншчыка з Японіі), у якім бас-гітарыстка — наша Вераніка. Апрача нашых дзяўчат выступалі яшчэ тры рок-гурты. Пасля сваіх песень дзяўчаты з «F!B!» пусцілі за барабаны японца, з якім выканалі пяць сусветна вядомых песень. Атрымалася проста цудоўна! Дамоў вяртаўся, шкадуючы, што канцэрт скончыўся...

***25.08.2015***

Учора памерла Ала Канапелька. Сёння яе пахавалі на гарадскіх могілках у Смалявічах. На жаль, не быў на развітанні...

Знаёмства наша пачалося ў снежні 1981 года ў Каралішчавічах, дзе цэлы тыдзень мы былі разам на семінары ма-

ладых пісьменнікаў Беларусі. Сярод нас былі і Анатоль Сыс, і Васіль Сахарчук, і Міхась Барэйша, якіх ужо даўно няма ў гэтым свеце. Былі Уладзімір Арлоў, Алег Мінкін, Леанід Галубовіч, Сяргей Вераціла, Вадзім Спрынчан, Людміла Паўлікава, Уладзімір Ягоўдзік, Алесь Наварыч. Нас было шмат. Помняцца не ўсе. Ала Канапелька помніцца. Потым у нас было шмат сустрэч, сумесных выступаў. Нашыя дочкі скончылі гімназію-каледж мастацтваў, дзе мы сустракаліся, прыводзячы малых на вучобу. З Алай мы склалі кнігу «Мама, маці, матуля...», за якую на Рэспубліканскім конкурсе «Мастацтва кнігі» выдавецтва «Мастацкая літаратура» атрымала найвышэйшую ўзнагароду — дыплом імя Францыска Скарыны. І ва ўсім, што рабіла Ала Канапелька, яна была Паэткай...



***26.08.2015***

На запрашэнне Сяргея Дубаўца ўдзельнічаў у паэтычных чытаннях памяці Таццяны Сапач, якія гэтым разам прайшлі каля хаты, дзе нарадзілася паэтка. З Мінска ездзіў з Барысам Пятровічам, Усеваладам Сцебуракам, Галінай Дубянецкай і Людмілай Сачанка. Ехалі дарогаю на Вільню. Узгадвалі вядомых людзей, лёс якіх звязаны з Валожыншчынай. У Маркава, крыху паблукаўшы, прыехалі роўна а дванаццатай, як і прасіў Дубавец. Усе збіраліся каля школы, якую ў свой час скончыла Таццяна. Гасцей было чалавек трыццаць. З Польшчы прыехала дачка Дубаўцоў Адэля са сваёй малой, якая цудоўна размаўляе па-беларуску і раз-пораз ужывае польскія словы. Напачатку з'ездзілі на могілкі. Усклалі да помніка кветкі, памаліліся. Потым паехалі да роднай хаты паэткі. Там нас ужо чакалі брат Таццяны з жонкай Ларысай, школьнікі і настаўнікі. Імпрэзу вёў Сяргей Дубавец. Першымі выступілі дзеці, якія чыталі вершы Сапач, а за імі — Усевалад Сцебурака, Барыс Пятровіч, Уладзімір Арлоў. Калі спяваў Уладзіслаў Лянкевіч, да мяне падышоў Дубавец і запытаўся: «Можа, прачытаеш верш?».— «Добра.» — адказаў я, і Сяргей даў мне слова. Я прачытаў баладу, прысвечаную Таццяне. Пасля майго выступу Дубавец прапанаваў перайсці да неафіцыйнай часткі, дзе маглі яшчэ сказаць сваё слова пра Таццяну Сапач і Кася Камоцкая, і Зміцер Бартосік, і Вальжына Цярэшчанка, і Міхась Казлоўскі, і Генік Лойка, і Ірына Дубянецкая, і іншыя. Аднак, на жаль, гэтай магчымасцю яны не скарысталіся. Праўда, ад гэтага наша сумоўе не стала сумным. Выязджаючы з Маркава, у небе пабачылі

болей за сотню буслоў, якія развіталіся з роднымі мясцінамі. «Штогод 26 жніўня беларускія буслы адлятаюць у цёплыя краіны!» — пракаментавала пабачанае Галіна Дубянецкая. Зазірнуўшы ў сеціва, я знайшоў навіну (праўда, яна з'явілася з вялікім спазненнем), што 2 чэрвеня памерла Ніна Корсак — першая жонка Барыса Кіта. Я зачытаў інфармацыю: «Нарадзілася Ніна Корсак 10 жніўня 1920 года ў Лебедзеве (сёння Маладзечанскі раён) у сям'і Івана Корсака і Наталлі Глод. Бацька быў кіраўніком царкоўнага хору, з прыходам саветаў быў арыштаваны і адпраўлены ў Сібір...» І адразу ж усе ў машыне ўзгадалі, што гэтае Лебедзева, дзе нарадзілася першая жонка Барыса Кіта, знаходзіцца недалёка ад Таццянінага Маркава...



***28.08.2015***

Была прафесійнай масажысткай і танчыла толькі з Янкам Купалам. Пра каго гэта? Пра Цётку!

Ва ўспамінах Паўліна Мядзёлка піша пра Цётку: «У мяне склалася ўражанне, што Цётка з'яўляецца хутчэй кватаранткай, чымся гаспадыняй у сваім доме. Яна займала асобны пакой, вельмі просценька абсталяваны... Прымала яна... толькі ў гэтым пакоі... Здавалася, што Цётка з мужам жылі кожны сваім асобным жыццём...» Нічога тут ненармальнага няма ў тым, што Цётка са сваім мужам спалі ў розных пакоях. Так жылі арыстакраты. Мы з Людмілай хоць і не арыстакраты, а спім у розных пакоях. З гэтай нагоды ўспамінаюцца радкі, якія ў свой час пачуў ад бацькі: «Праз сценку жылі, а дзеці былі...»

***29.08.2015***

Не любячы адно аднаго, мы хочам, каб нас усе любілі...

Апалая лістота ў вадзе, як сонныя залатыя рыбкі... Час пераліваецца ў ваду, а вада — у час...

***30.08.2015***

З Людмілай глядзелі фільм Андрэя Хржаноўскага «Полторы комнаты, или Сентиментальное путешествие на Родину» пра Іосіфа Бродскага. Гэты фільм зняты паводле твораў паэта, паводле ягоных малюнкаў і матэрыялах біяграфіі. Пасля прагляду ёсць над чым падумаць і пра што паразмаўляць, і потым перачытаць вершы Бродскага, пачаўшы з радкоў: «Не

выходи из комнаты, не совершай ошибку. Зачем тебе Солнце, если ты куришь Шипку?»

Ранкам з Людмілай хадзілі ў Свята-Пятра-Паўлаўскі сабор. Стаялі на ўваходзе. Народу — не прайсці. Як ніколі было вельмі шмат дзяцей. І толькі, як людзі пачалі разыходзіцца, даведаліся, што ўсе маліліся за новы навучальны год. Мы з Людмілай шчасліва ўсміхнуліся: «У школу нам дзяцей збіраць не трэба. Вераніка ўжо трэці год працуе, а Максім на пятым курсе Беларускай акадэміі мастацтваў...»

Жоўты бярозавы ліст прыліп да шыбы, як мне напамін пра адзін дзень, што застаўся да верасня...



***31.08.2015***

З нагоды пачатку навучальнага года ўзгадаўся вершык з маіх школьных гадоў: «Першы клас купіў каўбас. Другі смажыў, трэці еў, а чацверты праз дзюрачку глядзеў...» Прыемна было ў трэці клас ісці, а ў чацверты не хацелася...

У пісьменніка А. М. ужо гадоў дваццаць таму сапсаваліся зубы. Дакладней, у яго іх амаль не было. Колькі месяцаў таму А. М. адважыўся напоўніць свой рот новымі зубамі. Мінулым тыднем тры гадзіны доктар поркаўся ў роце пісьменніка: пілаваў, клеіў, стукаў. Папярэдне паставілі першыя часовыя пластмасавыя зубы. Знізу тры і згары шэсць. Дзякуючы доктару за працу, А. М. пацікавіўся: «А як мы іх потым дастанем?» — «Не хвалюйцеся! Я малаточкам пастукаю — і яны адваляцца!» — адказаў доктар. Задаволены пісьменнік спакойна пакінуў кабінет. Прыйшоў дамоў. Адчыніў вакно. У кватэру заляцеў вецер. Пісьменнік чхнуў і... з рота вылецелі ўсе пластмасавыя зубы.

Мексіканская прымаўка: «Яны спрабавалі пахаваць нас, але яны не ведалі, што мы насенне...»

Мая хата стаіць на беразе дня, як на беразе мора. І сонца павольна апускаецца за небакрай, нібыта баіцца напалохаць мяне сваім знікненнем...

Спілаваная бяроза, падаючы, чаплялася галінамі за неба, і сыпаліся на зямлю зоркі і залатая лістота. Толькі зорак ніхто не бачыў...

* * *

Свой партрэт заказаўшы Ван Гогу,
Ты сядзіш і чакаеш партрэт.
А Ван Гога няма, нібы Бога,
Што стварыў і Ван Гога, і свет,
У якім ёсць сланечнікі ў полі,
Быццам бы залатая Арда,
Што счарнее і знікне паволі,
Як знікае пад сонцам вада,
У якой ты не бачыш нічога,
Ды ў вадзе наш люструецца дзень.
Ты сядзіш і чакаеш Ван Гога,
І Ван Гог адзінокі ідзе,
І пра гэта ніхто больш не знае
І ніколі не будзе ўжо знаць,
Бо ў сланечніках сонца знікае,
Каб ніколі ўжо больш не знікаць...

**12.08.2015**

**БАЛАДА ЖАННЫ ДАРК**

На кані залатым па Парыжы
Едзе Жанна і следам за ёй,
Абрываючы з тумбаў афішы,
Ты ідзеш, нібы шум за вадой,
Што цячэ ў пачарнелае Сене,
Што счарнела ад слёз і крыві,
І няма ад пакутаў збавення,
У пакутах, бы ў злаце, жыві.
Ды ніхто жыць не хоча ў пакутах.
Мы за Жаннаю следам ідзем,
І мы волю, нібыта цыкуту,
Адусюль папрыехаўшы, п’ем,
І глядзім на самотную Жанну,
Што адна засталася і ёй,
Залатой, паміраць зноўку — рана
За людзей з нетутэйшай крывёй...

**14.08.2015**

* * *

Ты п’еш ваду з жэнеўскага фантана,
Сцюдзёную, бы ў Іслачы, ваду,
Дзе люстраваўся сакавіцкі ранак
І вецер дзьмуў у поўню, як дуду,
І не хацеў ты вандраваць па свеце,
Бо гэты свет, як мутная вада,
Што ў колбе ў Бога ў ціхім кабінеце
З прыклеенай цыдулкаю «Бяда»
Стаіць даўно, ды выліць вон чамусьці
Ваду шкада, і нас шкадуе Бог,
І каб загінуў свет Ён не дапусціць.
Ты п’еш ваду, і ападаюць з ног
Спякоты ланцугі, і да фантана
Я па Жэневе стомлены іду
І п’ю, нібыта беларускі ранак,
Сцюдзёную, як з Іслачы, ваду...

**16.08.2015**

* * *

Чытаючы ў кавярні «Нашу Ніву»,
Ты думаеш, што ты ўжо дэмакрат.
І ты ад думкі, як віна, шчаслівы,
І каву п’еш, і душыш вінаград.
А за вакном марозная завея,
Як ледзяшы, бялеюць ліхтары.
І кажаш, што ніхто не разумее
Цябе, і асабліва змагары.
Прагрукацеў трамвай, ізноўку ціша,
Нібыта прад сусветнаю зімой.
І поўня — неба зноў прагрызлі мышы —
Халодная, далёка прад табой.
І да сярэдзіны не дачытаўшы,
Кладзеш газету ў торбу, як крадзеш,
І за абслугу дзякуй не сказаўшы,
Зноў у зіму, як у Сібір, ідзеш,
Шкадуючы сябе, як пяць капеек,
Якія ты ў дзяцінстве дзесь згубіў.
І ніткі срэбныя трамвайных рэек
Праз снег іскрацца, каб ты іх любіў,

Што ёсць яны і ты па іх дадому
Вярнуцца можаш і зайсці ў свой свет,
І стрэсці снег з плячэй, нібы салому,
Прынёсшы «Ніву» з пахам цыгарэт...

**17.08.2015**

* * *

Лісце падае, як попел з цыгарэты,
Бераг рэчкі засыпаючы, як стол,
На якім ляжаць, як першы снег, газеты.
Поўня, як забіты ў нашу вечнасць кол.

І табе глядзець на гэты свет балюча,
Нібы ў вочы вецер сыпануў пяску,
Выцiраючы хмурынай, як анучай,
Зоркі з неба, што глядзеліся ў раку...

**18.08.2015**

* * *

Калі наступіць дзень апошні свету,
Віна ты вып'еш, скурыш цыгарэту
І ўспомніш родных і сваіх сяброў.

І ўспомніш грошы, што ляжаць у банку,
Якія мог яшчэ патраціць зранку,
Пакінуўшы анёлам сто рублёў.

Ды дзень апошні ўсё не наступае,
Усходзіць сонца, потым зноў знікае,
Расце, як звар'яцелая, трава.

І ты чакаеш дзень апошні свету,
Нібы найпрыгажэйшую кабету,
Лысее ад чакання галава...

**19.08.2015**

* * *

За сабой замыкаючы дзверы на дзесяць замкоў,
Ты, нібы прызнаешся суседзям, што знікла Любоў,
Як папера й вада ў прыбіральні старога вакзала,
Дзе штодня штосьці ўсё прападае, але не прапала

У буфеце паўзмрочным і дымным гарэлка і піва,
І камса, што заўжды на свет наш паглядае шчасліва,
Хоць і мёртвая ўжо і нязменна гніе з галавы.
У пад’ездзе нікога не знаеш, але ўсе на «вы»
Да цябе, бо ты ходзіш з партфелем і ў чорным касцюме,
Што набыў, сам не помніш калі, на распродажы ў ГУМе.
За сабой замыкаючы дзверы на дзесяць замкоў,
Ты ідзеш, быццам бы ўжо ніколі не прыйдзеш дамоў,
На вакзал, праз які ты ў мінулае можаш вярнуцца,
Як у парку на лаўцы зімой распранутым прачнуцца.
Ты ідзеш на вакзал, бо няма больш падацца куды,
І табе, як Хрысту, трыццаць тры залатыя гады,
А мо болей, бо ты ўжо даўно тут не лічыш гадоў
З таго дня, калі зніклі Жанчына твая і Любоў...

**19-21.08.2015**



* * *

Табою намалёваная поўня
Мне асвятляе вечны шлях дамоў
Праз поле, дзе мяне даўно не помняць
Ні дрэвы і ні кучы валуноў,
Дзе я хадзіў і марыў пра сцяжыны,
Якімі свет аплецены, каб свет
Не разваліўся, нібы пляшка з гліны,
Калі пачне яе любіць паэт...
Табою намалёваная поўня,
Як растаптаны ў снезе мандарын,
Які сабою мне пра смерць напомніць,
Знікаючы пад коламі машын,
Што не спыняюцца на паўдарозе,
Як не спыняюцца зіма і час.
Ты ранак намалюй, і не змарозіць
Мяне ў снягах зіма, і свята ў нас
Адбудзецца, вярнуся з краю свету,
Што для мяне адкрэслены табой.
І ў полі белым праплыве карэта
Чырвоная, як сонца над зямлёй...

**21.08.2015**

* * *

Забіваючы цвік у гнілую сцяну,
Ты парваў павуціну, якую павук
Аж да зорак ад хаты тваёй расцягнуў,
Прывязаўшы да неба сівую траву.
І праз міг зашумела ля хаты трава,
Стаўшы вольнай, як ты, і самотнай, як свет,
Дзе шчэ Ленін на пляцы стаіць і царква,
І грукоча дзвярыма стары сельсавет...

Забіваючы цвік у гнілую сцяну,
Ты на хату глядзеў, быццам бы на труну,
У якой ты хаваеш сябе і гады,
Што ніколі не вернуцца болей сюды.
І сатчэ павуціну крыжасты павук,
І да зорак няспешна працягне яе,
І да неба прывяжа сівую траву,
Каб у хату не йшла, дзе ніхто не жыве...

**22.08.2015**



## *Верасень*

***1.09.2015***

На кухні на стале і пад сталом рассыпаныя алоўкі, як каляровая макарона...

Увечары перад сном, гледзячы на партрэты бацькоў, прыдумаў радкі:

*Тата і мама глядзяць на мяне*
*З рамак партрэтных на шэрай сцяне.*
*Тата і мама — іконы мае.*
*Вас мне жывых, як святла, не стае*
*Тут на зямлі, дзе заўсёды святло,*
*Нават у тым, што ў нябыт адышло...*

***2.09.2015***

Загрымеў гром, узняўся вецер — і імгненна з дрэў пасыпалася лістота, нібыта верасень узарваў сцены лета, за якімі хаваемся мы ад восені...

Дзень карацее, як дарога да Млечнага Шляху...

Прайшоў доўгачаканы дождж. І ў калюгах апалая лістота адчула сябе на сёмым небе...

***3.09.2015***

На кухні ўсе талеркі ўмеюць лётаць. Толькі пра гэта яны не ведаюць...

Перад сном занатаваў: «Папера — гэта зімовае поле, на якім словы ўмярзаюць у вечнасць. Адныя на час зімы, а іншыя — да вогненнага патопу...» Раніцай прачытаў. І пайшоў на працу, дзе на сталах і на шафах ляжаць рукапісы, як на гарах снег, які не растае...



Прыканцы працоўнага дня да мяне зайшоў стары энергічны інтэлігент, з якім я знаёмы гадоў трыццаць. Павітаўся і адразу пачаў апавядаць пра свае поспехі: «Ты ведаеш, а я выдаў кніжачку. Яшчэ нядаўна я быў проста выкладнік, а цяпер я пісьменнік сярэдняй рукі. Дзе ты адпачываў?» — «У Парыжы. Барселоне. Жэневе. Амстэрдаме»,— я пачаў пералічваць, дзе быў улетку.— «Ну ты малайчына! А я скончыў ін'яз, і ў мяне французская мова была першай мовай, і я ні разу не быў у Парыжы...» — сумна прамовіў пісьменнік сярэдняй рукі і на развітанне сказаў: «Жыццё цудоўнае, а мне ўжо семдзесят пяць...»

***4.09.2015***

Некаторыя перад люстэркам, як перад іконай...

***5.09.2015***

Поўня, як цыгарэтны попел, які прымерз да чорнай цыраты неба...

Болей за месяц таму ў Пугачах на свяце вёскі мы з Людмілай даведаліся, што нас запросяць на святкаванне 550-годдзя Ракава. Апошнія два тыдні я штодня, дастаючы з паштовай скрынкі газеты, спадзяваўся, што атрымаю запрашэнні. І яны прыйшлі сёння а другой гадзіне дня, і нам стала вядома, што свята ў Ракаве ўжо ў самым разгары. Гэта

наша пошта!!! Сумна. Нават ні кроплі не суцяшаюць радкі з майго верша, змешчаныя на запрашэнні:

*Што нам Парыж далёкі, што нам Кракаў*
*І Амстэрдам, і Лондан той сівы! —*
*Мы маем гонар свой, мы маем Ракаў,*
*Дзе ўсе святлом касцёла і царквы*
*Асветлены і вечнасці слугуюць,*
*Ствараюць слову роднаму прасцяг,*
*І словы тут з анёламі сябруюць,*
*І не губляюцца ў сівых вяках...*



***6.09.2015***

Ад выдавецтва ездзіў у Шчучын на святкаванне Дня беларускага пісьменства. Дамоў прывёз два падарункі — Рычард Бялячыц падпісаў новую кнігу «Споведзь накцюрна» і святочны нумар газеты «Слонімскі веснік», якую падаравала паэтка Алена Руж.

З усяго, што чуў са сцэны, найболей запомніўся выступ пісьменніка з Масквы Георгія Прахіна, які сказаў: «Беражыце сваю мову! Без мовы ў вас не будзе краіны! Без мовы не будзе нацыі, не будзе народа. Беражыце сваю мову!»

З усіх лаўрэатаў Нацыянальнай прэміі атрымаў найболей гучных і шчырых апладысментаў Дзяніс Марціновіч, калі яго выклікалі на сцэну, каб уручыць дыплом у намінацыі «Найлепшы крытычны твор» за кнігу «Жанчыны ў жыцці Уладзіміра Караткевіча».

***7.09.2015***

Белая поўня, як пакецік з гарбатай...

***8.09.2015***

Сёння майму бацьку было б 84. 25 снежня будзе тры гады, як Тут яго няма. І ўвесь час думаецца, што трэба было яшчэ лепей глядзець нямоглых бацькоў і яны і сёння жылі б. Узгадаўся верш, які напісаў 24 кастрычніка 2012 года за два месяцы да сыходу бацькі ў іншы свет:

*Зноў бацька ў бальніцы, нібы на вакзале,*
*На лаўцы сядзіць, быццам бы на труне,*
*Што лаўкай для бацькі гаротнага стала,*
*Магчыма, на месяц, магчыма, і не.*

*І скардзіцца бацька, што кормяць тут дрэнна*
*І піць так даюць, бы шкадуюць вады,*
*І хочацца мне белай фарбай на сценах*
*Пісаць: «Не трапляйце ніколі сюды!»*

*І бацька ўсміхаецца, быццам бы знае*
*Усё, што патрэбна яму заўтра знаць.*
*Ізноўку мяне ён на лаўцы чакае,*
*Забыўшыся дзень свой апошні чакаць...*

Поўня, як шкельца, якое выпала з акуляраў...

***9.09.2015***



Пасля працы зайшоў у «Цэнтральны» ўніверсам, каб папіць гарбаты і з'есці канапак. Ужо не памятаю, калі тут быў апошні раз. Здаецца, што нічога ў інтэр'еры не змянілася. Каля вокнаў гэтаксама, як дзесяць, дваццаць, трыццаць гадоў таму, стаяць людзі і падсілкоўваюцца. Чарга — пару чалавек. Стаў каля вакна на вольнае месца. Побач — маладыя кітайцы. Пра нешта размаўляюць, смяюцца. Гляджу на вуліцу, дзе на ходніку стаяць столікі. Насупраць мяне пад вакном сядзяць тры мужыкі майго ўзросту, няспешна п'юць піва і паляць. За маёй спінай сюды-туды ходзяць людзі. Пераважна маладыя. З кавенькай прайшоў стары, спыняючыся каля сметніц. Нічога там няма. П'ю гарбату. Вельмі гарачая. Трэба было б пачакаць, каб астыла хоць бы крыху, але я, апякаючыся, п'ю. П'ю гэтаксама, як у свае маладыя гады, калі, будучы беспрацоўным, прыходзіў сюды, каб пагрэцца і падсілкавацца на тыя капейкі, што ў мяне яшчэ былі. Выходжу на вуліцу. На ганку сядзіць стары з кавенькай. Побач стаіць купка моладзі з цыгарэтамі. Праспектам шнуруюць машыны. У небе вечаровае сонца. У мяне ў роце ўсё апалена гарбатай, у якой быў смак восеньскай самоты...

Наведаў галерэю сучаснага мастацтва «Ў», дзе прэзенталіся адразу тры новыя кнігі: Людмілы Рублеўскай «З'яўленне Інфанты», Леаніда Галубовіча «Поўня» і Юрыя Несцярэнкі «Звычайны шоу-бізнес». Напачатку зайшоў у кнігарню «ЛогвінаЎ». Сярод выданняў у бязлюднай зале, як кніжны бог, стаяў Алесь Разанаў. Пабачыў мяне, заўсміхаўся і адразу набыў выгляд паэта. Абмеркаваўшы працу над кнігай «Такая і гэтакі: талакуе з маланкай дождж», якую яшчэ

ўсё аздабляе мастачка, Алесь Сцяпанавіч звярнуўся да маладзенькай кнігакрамніцы: «Вы ведаеце, хто гэта?» — Дзяўчына, зірнуўшы мне ў вочы, адказала: «Ведаю. Віктар Шніп».— «А вы ведаеце, хто ён Рублеўскай?» — «Муж!» Задаўшы яшчэ колькі пытанняў і атрымаўшы слушныя адказы, мы з Алесем Сцяпанавічам пайшлі на прэзентацыю. Людміла выступала першай. Потым Леанід, які пачаў з паказу магніціка на лядоўню з надпісам: «Писал с утра до вечера, а читать нечего!» Настрой знаёмы. Аднак было што паслухаць у кожнага з выступоўцаў. Несцярэнка выканаў шэсць песень. Сярод якіх — на словы Рублеўскай і Галубовіча. Спецыяльным госцем вечарыны стаў паэт і бард Ігар Кананові, у якога нядаўна ў серыі СБП выйшаў вершаваны зборнік «Астэроід». Пасля прэзентацыі можна было набыць кнігі. Я пайшоў у кнігарню і купіў «Поўню». Вярнуўся, каб атрымаць ад Галубовіча аўтограф, а яго і след знік. Дамоў з Людмілай вярталіся пехатою праспектам. Нас праводзілі сябры ажно да Чырвонага касцёла. Каля кнігарні «Цэнтральная» бачылі Сяргея Харэўскага, які вёў экскурсію. Людзі ішлі за Сяргеям, як за апосталам ягоныя вучні. Перабегшы праспект, не спыняючыся, удзельнікі экскурсіі прайшлі каля бюста Дзяржынскага і зніклі ў змроку скверыка. Дамоў з Людмілай вярнуліся амаль а дзясятай гадзіне. Перад сном чытаў вершы Галубовіча, узгадваючы тыя гады, калі мы пасля вечарын не разбягаліся, як мышы ў свае норы, а працягвалі гавэнду, пакуль не скончаліся грошы...

***10.09.2015***

Іду праз сквер. Пад нагамі — апалая лістота. На лаўцы сядзіць стары, як на лаве падсудных...

Шаткую капусту. Здалёку, з ХХ стагоддзя чуецца голас мамы: «Асцярожна з нажом!»

Зайшло сонца. Цёмна і сцюдзёна, нібыта сонца і не было. Гляджу з вакна, як з чорнага квадрата Малевіча...

Сярод поля — зялёнае дрэва, як прывід з прамінулага лета. Няспешна ідзеш басанож да яго, нібыта баішся спалохаць. Пад нагамі — сухая трава. Калючая, як іголкі. Балюча, але маўчыш. Наперадзе — дрэва, як твая душа, што развітваецца з полем, якое чакае зімы...

***11.09.2015***

Поўня — гэта кропля вечаровага мёду, які дапамагае ад цёмнага настрою...

Каля крамы стары прадае лісічкі. Грыбы, як залатыя...

У апошнія дні жніўня і першыя вераснёўскія, калі вучыўся ў школе, амаль заўсёды адвячоркам хадзіў у лясок, што паблізу нашай хаты. Раскладаў вогнішча і пёк цэлае вядро маладой бульбы. Сам еў і прыносіў бацькам і сястры з братам. Бацькі, відаць, думалі, што мне вельмі моцна есці хочацца, а я, штодня капаючы лапатай бульбу, думаў пра тое, што як давядзецца яе выбіраць па-сапраўднаму, то яе ўжо меней будзе на полі...

Каля сметніцы старыя пажаўцелыя газеты, як лістота, апалая з дрэў, якія ўжо не існуюць...

***12.09.2015***

Ездзіў на Свята горада. У раёне Палаца спорту каля вялікага «Белкніжнага» шапіка з адзінаццатай гадзіны нейкі час сядзеў пры століку з шыльдай «Кнігі з аўтографам аўтара».

Падышла бабулька. Павіншавала «белкнігаўцаў» са святам. Яны адразу ёй далі ў падарунак сцяжок. Бабулька, прачытаўшы пад малюнкам надпіс «Лета з добрай кнігай», сказала: «Добрыя кнігі крадуць!»

Спыніліся каля мяне жанчыны. Пачалі гартаць кнігі. Пацікавіліся, колькі каштуюць. Даведаўшыся кошт, старэйшая сумна ўздыхнула: «Каб былі па 50—60 тысяч, то набылі б...»

Пажылая жанчына разгарнула майго «Пугачоўскага цырульніка», пачала чытаць. Засмяялася. Відаць, на нешта смешнае натрапіла. «Падпішыце!» — усміхаючыся, падала кніжку...

Сівабароды невысокага росту мужчына, усміхаючыся, запытаўся: «Пазнаеш?» — «Не!» — адказаў я, і мужчына, не назваўшыся, сказаў: «Памятаеш, гадоў пятнаццаць таму мы разам ездзілі з выступамі па дзіцячых аздараўляльных лагерах?» — «Памятаю! Тады з намі былі кампазітар Уладзімір Буднік і паэт Алесь Пісьмянкоў. Даўно ўжо іх няма...» — уздыхнуў я, і мы яшчэ колькі хвілінаў пастаялі, паўспаміналі памерлых сяброў...

Стары, беручы маю «Заўтра была адліга», сказаў: «Мяне кошт не цікавіць! Мне трэба аўтограф!»...

Жанчына ў гадах, прачытаўшы ў «Пугачоўскім цырульніку» зацемку пра гумарыста Уладзіміра Ермалаева, сказала: «Я добра ведала Уладзіміра Фаміча. Святлейшай душы быў чалавек!»...

За гадзіну да мяне далучылася Людміла Рублеўская. Уся чытацкая ўвага пералучылася на яе, і я пачаў рэкламаваць Людміліны кнігі...

Многія кажуць: «Вочы — гэта люстэрка душы». Па-мойму, вочы — гэта вокны душы...



Штогод увосень на нейкі час і нашыя прасторы робяцца жоўта-блакітнымі...

У зладзеяў беспрацоўя няма...

***13.09.2015***

Узгадаўся дурны жарт. Дакладней, я сам не памятаю, што і як было, а мне ўсё апавёў малодшы брат Валодзя. Бацька, вярнуўшыся з працы, лёг паляжаць і заснуў. Пабачыўшы гэта, мы з братам да бацькі на ложак паклалі пад коўдру фуфайку і гумовікі, нібыта, накрыўшыся з галавой, з бацькам ляжыць жанчына. На стол паставілі талеркі з ежай, пляшку і паналівалі вады ў чаркі. Самі селі пры стале і пачалі ўдаваць з сябе п’яных. Неўзабаве з працы вярнулася мама. Далей няма чаго апавядаць. З таго часу ведаю, што з бацькоў жартаваць нельга...

Ужо гадоў дзесяць ува мне існуе пытанне: «Як можна жыць на свеце і быць пісьменнікам, прыдумаўшы сабе ворагаў сярод сваіх калег?» Такога пытання не было б, калі б не адчуваў ад некаторых варожасць, і не толькі прыхаваную за сеціўныя псеўданімы, а і наўпроставую. Ведаю дакладна аднаго такога добразычліўца, які ў мой адрас сказаў: «Ён будзе Тут друкавацца толькі праз мой труп!» З таго часу я і не друкуюся Там. Хоць нічога дзіўнага ў падобных варажнечах няма. Пісьменнікі ж паміж сабой чужыя людзі. У нашым свеце часам родныя браты і сёстры дзесяцігоддзямі паміж сабой не размаўляюць...

Сёння дзень танкіста. Узгадаліся 70-я гады мінулага стагоддзя. Мне было гадоў адзінаццаць. Акурат падчас зімовых вакацый у нашым раёне праходзілі вайсковыя манеўры. На ўездзе ў вёску сапсаваўся танк. Даведаўшыся ў бацькоў, што гэты танк савецкі, а не нямецкі, я з сябрамі пайшоў пaглядзець на баявую тэхніку. Танкістамі былі вузкавокія хлопцы, якія кепска размаўлялі па-руску. Аднак па нейкім часе мы дамовіліся, што мы ім прынясем самагонку, а яны дадуць патронаў і па шлемафону. Толькі адзін з нас, не памятаю хто, прынёс пляшку. Ён і атрымаў патроны і шлемафон. Астатнім дазволілі пасядзець у танку і панаціскаць на кнопкі...

Сяджу дома каля вакна. У двары ў метрах дзесяці насупраць мяне хлапчук гадоў дванаццаці залез на дрэва. Сядзіць у кроне і назірае, хто пад ім ходзіць. Ён, відаць, думае, што яго ніхто не бачыць, бо ён не бачыць мяне, і я назіраю за ім, як ён назірае за тымі, хто ў двары. Магчыма, гэта я, яшчэ дванаццацігадовы, сяджу на дрэве, бо быў жа час, калі вось так я лазіў на дуб каля нашых сотак і глядзеў на зямлю і неба, каб потым пісаць вершы. Гляджу на хлапчука з думкай: «Хоць бы не зваліўся!» За хвілінаў дзесяць да дрэва падышла маці і з крыкам «Злазь, а то паб'ю!» сагнала малога на зямлю...



***14.09.2015***

Амаль ува ўсіх кнігарнях крамнікі не прапаноўваюць купіць новыя выданні, а толькі сочаць, каб ніхто нічога не скраў...

***15.09.2015***

Удзельнічаў у святкаванні 95-годдзя Валожынскай цэнтральнай раённай бібліятэкі. Яе дырэктар Ірына Зянько ў сваім выступе апавяла, як у 1920 годзе жыхар Валожына стварыў бібліятэку, у якой было ўсяго колькі соцень кніг і пяцьдзясят чытачоў. Кнігі былі пераважна на польскай мове, але сёе-тое было і з рускай класікі. Беларускамоўных не было і блізка. Цяпер у бібліятэцы колькі соцень тысяч выданняў. Штодня да кніжных паліц прыходзяць, каб пачытаць штосьці новае, болей за сто чалавек. Прысутнічалі на свяце і дзяліліся ўспамінамі не толькі былыя супрацоўнікі бібліятэкі, але і найболей актыўныя чытачы, якім былі ўручаныя падарункі — кнігі. Пасля ўрачыстасцяў разам з гасцямі з бібліятэк

Valожыншчыны паўдзельнічаў у пасяджэнні народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Рунь», якім кіруе паэтка Валянціна Гіруць-Русакевіч. Чытаў вершы, адказваў на пытанні. Прыемна было паслухаць творы маіх старэйшых зямлячак Марыі Шакун і Соф'і Русецкай. Сабраўшыся ехаць дадому, на вуліцы каля бібліятэкі нечакана сустрэў сябра з Маладзечна Міхася Казлоўскага. Ён прыехаў у Валожын з хлопцам па справах. Міхась падзяліўся навіной — мае кнігу «Выбраныя творы Вольгі і Сяргея Сахаравых», якую ён падрыхтаваў і выдаў у «Кнігазборы». Томік ёмісты — 580 старонак. У выданні добры ілюстрацыйны матэрыял. Міхась хацеў мне зрабіць падарунак, але машына была замкнёная, а ў мяне за пяць хвілінаў прыйшла маршрутка. І ўсё ж без новай кнігі я дамоў не вярнуўся — Валянціна Францаўна падаравала зборнік твораў удзельнікаў «Руні» «Помнім і жывём», у якім прадстаўлена болей за трыццаць маіх землякоў...

***16.09.2015***

Сыплюцца зоркі, як пясок у пясочным гадзінніку, у якім жывем мы...

Вяртаюся з працы. Следам вецер гоніць рудое лісце каштанаў, як попел недагарэлых рукапісаў, якія паліць верасень...

***17.09.2015***

Уначы снілася бульба. Вялікая. Ляжыць на полі, і ніхто яе не збірае. Я іду з кошыкам, а ў ім клубкі нітак. Усе розных колераў. Я бяру белы. Падкідваю ўгору, і з неба пачынае сыпацца снег. Робіцца холадна. Я прачынаюся. Цёмна. За вакном белая поўня, як клубок нітак...

***18.09.2015***

У Валожыне бываю колькі разоў на год. Праўда, апошнім часам дабіраюся да землякоў з сябрамі машынаю, ці з начальствам, таму горада амаль не бачу. Прыехалі, выступілі, павячэралі і дамоў. Нядаўна ездзіў сам маршруткаю. Гадзіна — і я ўжо ў Валожыне. Сышоў на аўтавакзале проста ў дождж. Вецер. Забег у памяшканне. У змроку ля вакна на лаўцы сядзіць жанчына і чытае газету. На дзвярах, дзе раней была кавярня, вялікімі літарамі абвестка, што тут можна папіць гарачую гарбату і з'есці смачныя канапкі. Хачу зайсці. Дзверы

не адчыняюцца. Пад абвесткай драбнюсенька: «Временно не работает». Пайшоў у прыбіральню, у якую гадоў пяць таму можна было зайсці толькі заторкнуўшы нос. Цяпер усё чысценька і без смуроду. Прагрэс! Вярнуўся ў памяшканне аўтавакзала. Узгадалася, як тут на пачатку 80-х бываў раз на месяц амаль пяць гадоў запар, калі ездзіў праводзіць літаб'яднанне «Рунь» пры раёнцы. Перапісаў расклад аўтобусаў і пайшоў у горад. На вуліцы дождж. Ад аўтавакзала да цэнтральнай плошчы ісці пад доўгую гару. Пакуль дайшоў, вымак, хоць і быў з парасонам. Спыніўся каля помніка Папу Рымскаму Яну Паўлу II, што каля касцёла Святога Язэпа. Падумалася з усмешкай: «Я ўзышоў на гару. Хадзем далей разам!»

Ужо колькі гадоў выбіранне бульбы мне толькі сніцца. На жаль...

Завітаў Юрась Пацюпа. Падчас адпачынку ён быў у маці ў сваіх Азёрах. Чысціў студню. У ёй скончылі жыццё самагубствам два мясцовыя каты. Вада — верхаводка, таму няглыбака — метраў пяць. Сусед адпампаваў ваду, а потым Юрась па драбінах залез у студню і падаставаў усё, што туды патрапіла. Пазнаходзіў грузілы да вядра, якія гадоў пад сорак таму абарваліся і ляжалі на дне. У маіх Пугачах і ў наваколлі студні вельмі глыбокія. Гэтым летам амаль усе СМІ пісалі: «У Валожынскім раёне ў вёсцы Гярвелі раніцай 16 ліпеня загінуў 26-гадовы мужчына, які капаў пітную студню. Глыбіня складала 25 метраў, калі раптоўна абрынуўся грунт...» Памятаю, як у Лягезах, калі я там гадаваўся да школы ў бабулі Ганны, мае дзядзькі Віця і Ваня з аднавяскоўцамі капалі студню. Капалі колькі дзён. Потым доўга даставалі ваду белую, як малако, і мне, малому, думалася, што гэта сапраўднае малако. А ў гады тры, пасвячы гусянят на поплаве каля ляска, я ўваліўся ў студню, якой ужо ніхто не карыстаўся, і яна была схаваная ад людскога вока ў крапіве і лопусе. Добра, што ў студню было накіданае ламачча і яно ў метрах двух сядзела ў студні, як у горле смерці косткі. Я зваліўся на ламачча. Быў лёгкі і таму далей не праваліўся. Бабуля адшукала, і мяне дасталі. З таго часу я заўсёды зазіраю ў студні, каб пабачыць іх халодную і галодную глыбіню...

Стары сядзіць на лаўцы. Побач на апалай лістоце скачуць вераб'і, як цацачныя...

***19.09.2015***

Колькі тыдняў таму да мяне ў выдавецтва са «Звязды» прыходзіла карэспандэнтка Дзіяна Серадзюк. З нашай размовы атрымаўся матэрыял, які сёння змешчаны ў газеце пад загалоўкам: «Віктар ШНІП: «Калі два пісьменнікі не могуць ужыцца разам, нехта з іх графаман». За два гады будзе сорак гадоў, як друкуюся. За гэты час са мной было шмат інтэрв'ю. Бальшынёй быў задаволены. Гэтым разам захацелася публікацыю змясціць у сваім дзённіку:

«Пра першы верш

Я нарадзіўся і рос у вёсцы Пугачы Валожынскага раёна. Да 15 гадоў у Мінску ні разу не быў, хоць да яго 50 кіламетраў. Жыў у «сваім» свеце, у даволі закрытай прасторы. Ведаў, што ёсць «тут», а «там» нічога няма, гэта ўсё прыдумана. Магчыма, існуе, а магчыма — не... Таму я фантазіяваў. Уяўляў, што збіраю войска, вызваляю свет ад злыдняў, будую замак дзесьці сярод лесу. А калі ў мяне ўжо быў замак і войска, я думаў пра тое, што трэба ажаніцца — шукаць каралеўну... І на гэтым звычайна ўсе мае мары заканчваліся, бо дзе ж яе знайсці?

Першы верш прыдумаў, калі мне было пяць гадоў. Жыў тады ў бабулі ў вёсцы Лягезы. Гэта былі 60-я гады, і я, слухаючы размовы старэйшых, пачуў, што Амерыка кагосьці бамбіць. І мне захацелася дапамагчы змагацца з ёй. Тады я не ведаў, што Зямля круглая, а ўяўляў яе пляскатай, і што тыя амерыканцы жывуць недзе пад намі. Але ў мяне не было экскаватара, каб дакапацца да іх, а рыдлёўкай капаць глыбакавата. Затое быў суседскі калодзеж, з аднаго боку якога бяром ваду мы, а з другога — тыя, хто жыве пад намі, амерыканцы. Я назбіраў камянёў (падумаў, што можна кінуць іх у калодзеж і трапіць якому-небудзь амерыканцу ў лоб) і пачаў кідаць. Здавалася, нават у кагосьці трапляў... Але тут выбегла суседка, пабачыўшы, чым я займаюся, накрычала на мяне. Я ўцёк, і ад крыўды прыдумаў верш...

Пра кнігі і Леанарда да Вінчы

У школе ўсе вялі дзённікі — запісвалі туды нейкія пажаданні, вершы, песенькі. Калі мне было 9 гадоў, да мяне трапіў такі дзённік. Трэба было нешта напісаць, і я ўспомніў, што мама спявала адну вельмі прыгожую песню. Вырашыў па

памяці яе перапісаць. Пасля мама прачытала і сказала, што гэта не тая песня, а я нешта сам прыдумляў. І тады я зразумеў, што напісаў верш.

Бацькі асабліва не звярталі на гэта ўвагі: піша — і піша, чытае — і чытае. У вёсцы галоўнае было дапамагаць па гаспадарцы. Я ўмею і касіць, і араць, але і займацца нейкай творчасцю ніхто не забараняў. Калі хадзіў паказваць свае вершы Купалу ў Вязынку (вядома ж, яго не пабачыў, але верыў у тое, што ён ёсць), мама (якая таксама не ведала, што ён памёр), запыталася, што Купала сказаў. «Каб я пісаў вершы, а вы мне давалі болей вольнага часу, не змушалі шмат працаваць і куплялі кніжкі». І калі бацькі паехалі купляць мне рэчы ў школу, прывезлі кнігу Івана Сяркова «Мы з Санькам у тыле ворага», якую я амаль вывучыў на памяць. Пасля даведаўся, што ў сябра ёсць «Палескія рабінзоны». Я вымяняў гэтую кніжку на ножык, які скраў у бацькі,— ён ім усё роўна не карыстаўся.

У 12 гадоў упершыню паглядзеў фільм пра Леанарда да Вінчы. У дзяцінстве будучы мастак быў вельмі назіральны, усё занатоўваў, і я таксама стаў нешта запісваць і маляваць. Пасля быў перапынак, але з 18 гадоў, дзякуючы фільму пра Леанарда да Вінчы, я вяду дзённік. Пішу ў сеціва — «Жывы часопіс», «Фэйсбук», але нешта заношу і ў сшытак.

Пра мову і выбар прафесіі

Школа ў Пугачах была цалкам беларуская, дома ўсе па-беларуску размаўлялі, іншай мовы я і не чуў, хіба толькі праз тэлевізар і радыё. З рускай сутыкнуўся, калі паступіў у Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум, мне было 15 гадоў. Экзамены здаваў па-беларуску, але, прабыўшы два тыдні ў горадзе, прыехаў дамоў і пачаў размаўляць па-руску. А тады сам сабе думаю: чаму гэта я не кажу так, як бацькі? І з таго часу стаў размаўляць толькі на роднай мове. Пытанняў наконт таго, на якой мове пісаць, таксама ніколі не ўзнікала.

Да нас на бульбу прыязджалі студэнты з Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума, і дома жылі выкладнікі. Яны параілі паступаць да іх. Ну я і паступіў... Часам шкадую: мне трэба было скончыць 9-ты і 10-ты класы, каб не было потым ніякіх прыгодаў. Але ў старэйшыя класы трэба было хадзіць за сем кіламетраў у Дубравы — далёка.

Прыехаўшы ў Мінск, дасылаў вершы ў розныя газеты. У 16 гадоў мне прыйшло запрашэнне з «Чырвонай змены» на літаб'яднанне «Крыніцы» ад Яўгена Крупенькі. Пайшоў, і першым, каго там сустрэў, быў Яўген Гарадніцкі, мой зямляк з Ракава. Ён тады працаваў у выдавецтве з мастаком Міколам Селешчуком. Я крыху маляваў, і, каб мог падзарабіць, Яўген прывёў да яго. Селяшчук даў мне кніжку на аздабленне. Я ўзяў, нешта маляваў, а пасля падумаў: «Які я мастак?» — і вярнуў кніжку.

Пра станаўленне



Літаб'яднанне стала для мяне своеасаблівай школай. У 23 гады выйшла мая першая кніжка. Пасля гэтага мяне адразу прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Пасля сканчэння тэхнікума сем гадоў быў беспрацоўным. Працаваць на будоўлі не мог: як высветлілася падчас практыкі, баюся вышыні. Калі скончыў тэхнікум, нават не пайшоў забіраць дакументы. Існаваў за кошт ганарараў, зрэдку нейкія грошы браў у бацькоў, працаваў грузчыкам на лікёра-гарэлачным заводзе. А жыў я творчасцю. Калі прыехаў паступаць у Маскву ў Літінстытут, мне сказалі: «Ты сапраўдны паэт, а то ўсе тут правільныя».

Час навучання найболей паспрыяў творчаму раскрыццю. Я сябраваў з літоўцам, украінцам, рускім і палякам. Мы чыталі вершы, абмяркоўвалі, перакладалі адзін аднаго. Сама вучоба была творчая, бо навучаліся не 18-гадовыя студэнты, а асобы, якія ўжо ўваходзілі ў Саюзы пісьменнікаў. У 25 гадоў я быў самы малодшы на курсе.

Дзякуючы сустрэчы з Людмілай Рублеўскай я стаў амаль кожныя выходныя хадзіць у тэатры, музеі. Сябры нават казалі: «Нас на бабу прамяняў».

Не хачу нікога пакрыўдзіць, але калі два пісьменнікі, муж і жонка, не могуць ужыцца разам, нехта з іх графаман. Не кажу, што мы такія ўжо вялікія, але сапраўдныя творчыя людзі разумеюць, хто што піша. Жонка — першая чытачка, і ад яе няма ніякай зайздрасці, поўнае разуменне.

Пра беларускую літаратуру

Літаратура не стаіць на месцы, яна як жывы арганізм. Калі я пачынаў пісаць у 70-я, 80-я гады, тады паўсюль былі «пратаптаныя сцежкі», рамкі, у якія пісьменнікі ці ўваходзілі,

ці не. Але мы і цяпер можам бачыць, хто ў іх стараўся не ўпісвацца: Караткевіч, Барадулін, Стральцоў, Разанаў. Многія пісьменнікі нешта пісалі для «рамак», а нешта — па-за імі. Атрымлівалася штосьці сваё, і яны разумелі, што гэта застанецца. Былі часы, калі ў кнігах мусілі быць нейкія «паравозікі» — пра камсамол, пра партыю. Калі няма — узнікаюць пытанні: кніжка не адпавядае часу. Цяпер шмат змянілася, кожны знайшоў сваю нішу, людзі сталі пісаць тое, што ім хочацца. І сапраўды, на кожны твор знойдзецца свой чытач. Пісьменнікі розныя, і я лічу, што гэта добра.

Нядаўна я рыхтаваў зборнік «Проза і паэзія маладых», там болей за 40 аўтараў узростам да 35 гадоў. Я бачу, што яны зусім па-рознаму пішуць. Майму пакаленню 30 гадоў назад у галаву такое не прыходзіла, бо мы глядзелі на старэйшых. Калі я ў 80-я гады пазнаёміўся з Адамам Глобусам, мы з іншымі пісьменнікамі збіраліся ў яго і пісалі хоку. Склалі кніжку, але ў выдавецтве яе «зарэзалі» праз нязвыклую форму. Цяпер такой праблемы няма, моладзь адчувае сябе вольнай, а таксама разумее, што беларуская літаратура — гэта частка еўрапейскай літаратуры.

Сёння ў літаратуры захоўваецца рэалізм, толькі называецца ён па-іншаму — нон-фікшн (непрыдуманая літаратура). Празаікі крыху гультаяватыя: раней пісалі ад рукі, пасля друкавалі, працавалі доўга. А цяпер хутка набіраюць на камп’ютары, ды яшчэ і абіраюць кароткія формы: 50 старонак — гэта ўжо раман. І героі нашага часу — у гэтых кароценькіх запісах. Мы героі, і пісьменнікі — героі.

Беларуская (вобразна кажучы) «Вайна і мір» напісаная. Гэта цудоўна зрабілі пісьменнікі, якія перажылі калектывізацыю, вайну. А датычна аб’ёмаў эпапеі, дык добры верш у чатыры радкі часам болей значны, чым паэма ў 4 тысячы радкоў.

Дарэчы, чытачы нашыя непатрабавальныя самі да сябе. Калі папросіш іх назваць сучасных беларускіх пісьменнікаў, якіх яны ведаюць, яны скажуць, што не ведаюць — і ганарацца гэтым.

Даволі шмат прыходзіць у выдавецтва людзей, якія ўважаюць сябе пісьменнікамі і просяць выдаць іх кніжку. Але не ўсё, што напісана і раздрукавана, з’яўляецца мастацкім творам. Няма школы, стылю. Пісьменнік павінен пачынацца з маленькага апавядання і спакваля рухацца ў сваім развіцці. А калі чалавек адразу на 500 старонак піша — можа быць,

вядома, ён геній, але, як правіла, нічога геніяльнага ў такіх творах няма.

Пра шчасце і каштоўнасці

Мы не цэнім тое, што ў нас ёсць. І толькі паглядзеўшы на чужое, звяртаем увагу на нашыя каштоўнасці. Мы цікавыя свету не ўраджаем бульбы. Гэта ўсё добра, але яно штогод мяняецца, а творы мастацтва застаюцца. А яшчэ Беларусь за мяжой ведаюць перадусім дзякуючы спорту. І гэта нармальна: найперш ідуць гладыятары, а пасля ўжо спевы.

Кожнае пакаленне шчаслівае і няшчаснае па-свойму. Але мы шчаслівыя тым, што жывем у сваім часе. Творчыя людзі шчаслівыя тым, што ім Бог даў нешта сказаць, пакінуць пасля сябе. Шчасце беларускага паэта ў тым, што ён — паэт. Трэба ва ўсім бачыць станоўчае, нельга заганяць сябе ў кут і шукаць ворагаў. Варта памятаць, што жыццё сённяшнім днём не канчаецца, заўтра прыйдзе Мудры Гісторык і раскажа пра ўсё, што было».



***19.09.2015***

Зайздрасць з'ядае чалавека, як чарвяк яблыка, якое ў руцэ Евы...

Болей за сем гадоў (1978—1985), калі быў дармаедам, я кватараваў у старых мінчан Марыі (1902—1985) і Мацвея Цяслёнкаў (1908—1991). Дзякуючы ім, для іхніх суседзяў я быў студэнтам філфака, які добра вучыцца і піша вершы. Я ж тады нідзе не вучыўся і нідзе не працаваў. Баба Марыя Цяслёнак (у дзявоцтве Куніцкая) была стрыечнай сястрой крытыка Сымона Куніцкага (28.2.1902, в. Гарані Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 14.10.1940, Калыма). Пра яго ў энцыклапедыі напісана: «У 1925—28 вучыўся на рабфаку БДУ. Першае апавяданне надрукаваў у 1928 (газ. «Чырвоная змена»). У 1929 выйшаў яго першы крытычны артыкул. У 1931 скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ. У 1931 залічаны як крытык у БелАПП ад Мінскай філіі. У 1932—36 працаваў вучоным сакратаром Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. Арыштаваны 27.11.1936. 1.10.1937 асуджаны на 10 гадоў лагераў. Памёр у зняволенні. Рэабілітаваны 18.12.1954». Пра свайго сваяка Марыя Сцяпанаўна часта апавядала. Я быў малады і асабліва не ўслухоў-

ваўся ў аповеды старых. Цяпер шкадую. Дзед Мацвей Сцяпанавіч у трыццатыя гады доўгі час працаваў у Купалаўскім тэатры рознарабочым. Добра ведаў усіх артыстаў. Апавядаў пра іх. Сёе-тое ў маіх дзённіках тых гадоў запісанае. Праўда, вельмі мала. Шмат дзед Мацвей апавядаў пра Мінск часоў нямецкай акупацыі. Па вайне ў 1945 годзе Мацвею Сцяпанавічу за палітыку далі дзесяць гадоў. Працаваў у Бодайбінскім раёне Іркуцкай вобласці на залатых прысках. Пра гэта ён мне апавядаў не горай, чым пісьменнік Варлам Шаламаў у сваіх калымскіх апавяданнях. Дамоў з ГУЛАГа дзед Мацвей вярнуўся па смерці Сталіна ў 1953 годзе. Потым да пенсіі працаваў дворнікам. Штодня чытаў кніжкі. Чытаў уголас, таму, калі я кватараваў, дзед мне быў як радыё, па якім штовечар перадаюцца літаратурныя творы. Сёння, узгадваючы Марыю і Мацвея Цяслёнкаў, для якіх я быў як сын (на пытанні суседзяў, хто такі ў іх жыве, яны адказвалі: «Наш сын!»), я кажу вялікі дзякуй ім, што яны былі ў маім жыцці...



***20.09.2015***

З Людмілай выйшлі з дому а дванаццатай. Адведалі Ніла Гілевіча. Ён пра ўсё, што хацеў ведаць, па парадку, як на ўніверсітэцкім іспыце, распытаўся. Мы, здаецца, адказалі на ўсе пытанні на дзявятку. Людміле падараваў кніжку «Эпіграмы», а мне 18-ы том свайго Збору твораў у 23-х тамах. У кніжцы напісаў: «Дарагому Віктару Шніпу на ўспамін пра нашы сустрэчы і гутаркі. З радасцю, што ў гэтым томе ёсць мая Вам падтрымка. Сардэчна — Ніл Гілевіч. 20.9.15». Перад тым, як рабіць подпіс, зачытаў радкі пра мяне і ўрыўкі з вершаў. Незаўважна ў размове праляцелі дзве гадзіны. На вуліцы распачаўся дождж. Абяцаўшы, што не будзем абмінаць кватэру Ніла Сымонавіча, мы развіталіся. Праз дождж пабеглі ў Нацыянальны мастацкі музей, каб паглядзець выставу карцін Адама Глобуса. Хацелі пакінуць запіс аб уражаннях, але не знайшлі дзённіка на водгукі. Ці яго няма, ці яго ўжо скралі? Паглядзеўшы старыя іконы з Веткі, пайшлі на выставу «Ад рэалізму да імпрэсіянізму. Жывапіс XIX — XX ст. з Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі». Карцін няшмат. Сярод іх творы І. Рэпіна, І. Шышкіна, В. Пярова, А. Саўрасава, В. Верашчагіна, В. Паленава, А. Куінджы, К. Каровіна, І. Левітана. Як эпіграф да выставы, словы Паўла Траццякова: «Мне не трэба ні багатай прыроды, ні эфектнага асвятлення,

ніякіх цудаў — дайце мне хаця б лужыну брудную, ды каб у ёй праўда была, паэзія, а паэзія ва ўсім можа быць,— гэта справа мастака...» Паэзія ў выставе ёсць. Зазірнулі ў дзённік водгукаў. Ужо шмат напісана ўдзячных слоў музею, але ёсць і такія: «У Вас Божий дар!», «Коровин рулит!», «У меня внучка шестилетняя лучше рисует. Валерий. Минск». І тут жа адказ Валерыю: «Жлоб!» Вярталіся дамоў праз дождж з кнігамі ад Гілевіча і са святлом ад пабачаных карцін...

Гаворачы пра жыццё-быццё, Ніл Сымонавіч паскардзіўся: «Пражыў 80 гадоў, дзіцячыя не лічу, а ні разу не быў на шашлыках. Усё працаваў і працаваў, як на катарзе. Іншыя на выходныя — за горад, а я дома ў кабінеце — то нешта пішу, то нешта рыхтую да друку. Словам, я не ведаю, што такое шашлыкі. Праўда, пра гэта асабліва не шкадую».



***21.09.2015***

Нярэдка даводзіцца чуць і чытаць пра беларускую мову: «З вялікім задавальненнем размаўляў бы, калі б усе вакол яе выкарыстоўвалі...» І мы чуем, і мы паўтараем: «Усе пачалі на роварах у горадзе ездзіць, і я пачаў!», «Усе пачалі татушкі рабіць на целе, і я зрабіў!», «Усе пачалі надзяваць вышымайкі, і я надзеў!» І зусім не чуем: «Усе пачалі труціцца, і я атручуся!», «Усе пайшлі тапіцца, і я іду!», «Усе пайшлі вешацца, і я павешуся!» І ва ўсіх выпадках «усе» — гэта не ўсе, а толькі тыя, якія ствараюць міф, што яны прадстаўляюць усіх. Таму хачу паведаміць, што ўсе пачалі з задавальненнем размаўляць па-беларуску. Давайце далучайцеся да ўсіх, а то будзеце не ў трэндзе...

Гаршкі, як званы з выдранымі языкамі...

***22.09.2015***

«У драматурга Дзялендзіка нядаўна чатыры кніжкі выйшлі. Адна ў вашым выдавецтве. Тоўстыя, як цэгла! Выдайце мяне хаця б таўшчынёй з «грабавую» дошку!» — кладучы мне на стол рукапіс, сказаў (ён гэтак сябе называе) «літаратар сярэдняй рукі»...

Вецер. У двары за першай апалай лістотай, як за мышамі залатымі, бегае малады чорны кот...

***24.09.2015***

Працоўны дзень пачаўся з сустрэчы з Міхасём Казлоўскім. Ён з Маладзечна прывёз у падарунак сябрам вялікую валізу новых выданняў — сваю кнігу «Цяпло айчынных камянёў» і том «Выбраных твораў» Вольгі і Сяргея Сахаравых. Наклады невялікія — па сто асобнікаў. За свае грошы шмат не выдасі. Мяне асабліва парадавала кніга самога Міхася. У анатацыі напісана: «Вуліцы і дамы Маладзечна і Радашковіч, што памятаюць крокі вядомых пісьменнікаў і мастакоў роднага краю, гісторыя і жыццё насельнікаў невялічкай заходнебеларускай вёскі, літаратурныя партрэты знакамітых землякоў сталі галоўнымі героямі новай кнігі аўтара». Для мяне гэтая кніга будзе настольнай, бо яна пра мае родныя мясціны, пра маіх землякоў. Гартаючы выданне, падумалася: «Дзякуючы вось такім рупліўцам, як Міхась Казлоўскі жыла, жыве і будзе жыць Беларусь!» Узгадаліся ягоныя словы, звернутыя да некаторых «добразычліўцаў»: «Калі не можаце нічым дапамагчы мне ў выданні кніг нашых славутых землякоў, дык хоць не перашкаджайце і, трымаючы ў руках зробленае мной, не кажыце: «Мы б лепей зрабілі!» Зрабіце! Буду толькі рады!»

Еду тралейбусам з працы. Тэлефануе Леанід Маракоў. Цікавіцца, як набыць у выдавецтве сваю кніжку. Тлумачу і пытаюся: «Ты ж беларускі пісьменнік, а чаму ў фэйсбуку стаў пісаць па-руску?» — «Так мяне болей людзей чытаюць!» — адказаў Леанід. «Пачні пісаць па-кітайску, і тады цябе паўтары мільярды змогуць прачытаць!» — сказаў я. Леанід прапанаваў пра ўсё гэта паразмаўляць пры сустрэчы.

***25.09.2015***

Колькі тыдняў таму з Людмілай быў запрошаны на тэлебачанне для ўдзелу ў перадачы «Дыяблог», якую сёння запісвалі ў студыі. Па нас прыехала машына. У «Дыяблогу» ўдзельнічаю другі раз, таму ведаю дарогу да тэлебачання. Кіроўца не павёз нас простым шляхам — праспектам, а, нібыта адумысна, паехаў тымі мясцінамі, дзе мы рэдка бываем. Напачатку праехалі каля дома, дзе жыў Максім Лужанін. Узгадаліся гасцяванні ў яго. Потым каля Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума, які мы з Людмілай у свой час скончылі. Мінаючы траўматалагічную бальніцу, узгадалася, як мы туды цэлы месяц ездзілі да сына, які ў школе на ўроку

фізкультуры зламаў руку. Успаміны, на жаль, сумныя. Сустрэўшыся на тэлебачанні з Таццянай Сівец і Стэлай Чырковай, адразу ад іх ветлых усмешак, хоць на вуліцы і захмурэла, пасвятлела на душы. Пакуль я здымаўся, Людмілу ў грымёрцы рыхтавалі да запісу, а на вуліцы распачаўся дождж. Едучы на працу, думаў пра Барселону, у якой цяпер сонца...

«Дыяблог» пра літаратуру. У слове «дыяблог» ёсць д'ябал і Бог. У сапраўдных пісьменніках жыве і д'ябал, і Бог. Каго болей? Каб ведаць, трэба чытаць...



***26.09.2015***

Амаль дваццаць гадоў, як пішу «Сабачыя гісторыі». Дапісаўся! Учора ўвечары Максім прынёс маленькую аўчарку. Ноч прайшла спакойна...

***27.09.2015***

Праходзіў паўз Кальварыйскія могілкі. З дрэў злятае лістота, пакрываючы магілы залатым саванам. Адно старое дрэва, якое цалкам агалілася, стаіць, як велізарны чорны помнік усім, хто пахаваны на Кальварыі...

Увечары Максім пайшоў да сяброў і пакінуў на Люду і мяне свайго сабачку Міёну. Напачатку яна была спакойная, а потым, калі заўважыла, што яе кармільца няма, пачала шукаць яго і скуголіць. На канапе, дзе спіць Максім, Міёна ўнюхала гаспадарскае адзенне. Доўга спрабавала ўзлезці туды, але так і не ўзлезла. Высака. Люда ёй дапамагла, і сабачка, лёгшы на Максімавы нагавіцы і кашулю, пачала іх вартаваць...

***28.09.2015***

Поўня — нанебны гадзіннік, на якім не кожны бачыць стрэлкі...

Паглядзеў серыял «Есенин». Някепскі. Галоўнае — гучаць вершы паэта. Нам хоць бы двухгадзінныя мастацкія фільмы пра Уладзіміра Жылку, Уладзіміра Дубоўку, Уладзіміра Караткевіча. Я ўжо не кажу, што трэба фільмы пра Купалу, Коласа, Багдановіча, Танка. Спадзяюся, што некалі будуць кінафільмы пра ўсіх лепшых беларускіх пісьменнікаў, але, на жаль, мы іх ужо не зможам паглядзець...

***29.09.2015***

У мінулую дажджлівую суботу патэлефанаваў кампазітар Эміль Наско і запрасіў на творчую вечарыну, якая сёння прайшла ў філармоніі ў Малой зале імя Рыгора Шырмы.

Пасля працы да вечарыны ў мяне было вольных паўтары гадзіны. Зайшоў у «Цэнтральны» ўніверсам, каб папіць гарбаты і з'есці пару канапак. Чарга была нядоўгай. Няспешна падсілкоўваючыся, узгадаў, што гадоў дваццаць таму мы з Людмілай мелі магчымасць пасяліцца ў гэтым доме ў чатырохпакаёвай камуналцы на пятым паверсе. Там жылі нашыя сябры і яшчэ адна сям'я. Надумаўшы раз'ехацца, яны нам прапанавалі аб'яднацца з Людмілінай маці і жыць у адной кватэры. На той час у гэтым аб'яднанні было колькі мінусаў. Першы — пяты паверх і няма ліфта. Другі — адчыніш фортку і свежага паветра не дачакаешся. Да ўсяго на праспекце стаіць бясконцы гул машын. Трэці мінус — пад кватэрай станцыя метро. Ну і самы маленькі мінус — жыццё з цешчай, якая, хоць і цудоўная жанчына, але яна даўно ўжо была прызвычаілася жыць адна. Таму па суме гэтых прычын мы і адмовіліся ад пераезду на праспект...

У касе філармоніі, адстаяўшы пяць хвілінаў у чарзе, набыў квіток на творчую вечарыну Эміля Наско. Канцэртная зала была амаль запоўненая. Так атрымалася, што сядзеў побач з мужам літаратуразнаўцы Лідзіі Савік і жонкай паэта-перакладніка Рыгора Рымскага. Гучалі песні на словы Пушкіна, Лермантава, Твардоўскага. Найбольшую колькасць кветак атрымала спявачка Вольга Шаўчэнка. Цудоўная спявачка. Прыгажуня. Калі б у зале быў Сяргей Ясенін, думаю, ён бы адразу закахаўся ў яе, як у Айседору Дункан, і пасля вечарыны прызнаўся б у каханні. У выкананні харавой капэлы імя Рыгора Шырмы прагучала мая «Балада Рыгора Шырмы». Здаецца, някепскі твор атрымаўся. Потым кампазітар запрасіў на фуршэт. Я напачатку пайшоў, але за пяць хвілінаў, пакуль збіраліся госці, не развітваючыся, уцёк, бо я не Ясенін...

***30.09.2015***

Маладзік, як восеньскі лісток, які не захацеў падаць на сырую зямлю...

Ізноў будуць танцы. Танцы на граблях...

Завечарэла. У скверы зажаўцеліся ліхтары, як закрасавалі. Адзін не запаліўся. Стаіць белы, як дзьмухавец...

* * *

«Голас Амерыкі» болей не слухаеш ты.
Вецер зрывае з бярозы сухія лісты,
І засыпае сцяжыны, нібыта хавае
Тое, што трэба не бачыць, як час наступае
Самацэнзуры, якая мацней за цэнзуру.
Радыё ты сапсаваў і ўзяў выкінуў здуру.
Сёння шкадуеш, глядзіш тэлевізар, смяешся
І ні на кога даўно ты ўжо не спадзяешся.
Вецер зрывае з бярозы сухія лісты,
Недаспадобы яму, пэўна, час залаты
Восені гэтай, дзе ты сам сабе гаспадар.
Сонца вісіць над зямлёй, як паветраны шар,
Што з рук тваіх узляцеў, калі ты быў дзіцём.
Вырас, і «Голас Амерыкі» слухаў, і днём
Сумны хадзіў, і казаў пра сваю адзіноту,
Як пра сарваную з дрэваў асенніх лістоту,
Што сёння зноўку ляціць нам пад ногі, ляціць
Без спадзяванняў, што можам яе палюбіць...

**12.09.2015**

* * *

*Уладзіміру Караткевічу*

Поўня пячаткай Вялікага Княства
Па-над маёю асенняй зямлёй.
Дым у лагчыне — там курыцца «Астра»
Шэрым ваўком перад лютай зімой.
З ім Караткевіч ля вогнішча з півам,
Што наварыў яму заяц стары.
Добра ім сёння, таму я шчаслівы.
Воўк журавін назбіраў тры вядры
Для Караткевіча, што прыйшоў з княства,
Дзе ён цяпер несамотна жыве,
Курыць з князямі савецкую «Астру»,
Моліцца з імі ў паднебнай царкве.
Я назіраю здалёк і нясмела
Босым іду па траве да агню.

Птушка над мною стралой праляцела
І напалохала мне цішыню.
І далей я не пайшоў, хай хоць часам
Будзе ў паэта святочны настрой.
Хай жа з ваўком яны вып'юць там разам
За Беларусь перад лютай зімой...

**13.09.2015**

* * *

Разбіваецца шкло, нібы лёд на рацэ,
І вятры, як вада, затапляюць твой свет,
Дзе нядаўна ты камень трымаў у руцэ
Так, як кніжку на сцэне трымае паэт
Перад тым, як пачне свае вершы чытаць,
У якіх спіць самота і тоіцца гнеў.
Шкло разбіта, і ўсё наваколле чуваць,
У якім ходзіць кот адзінокі, як леў.
Ты пакінеш задымлены склеп, як той свет,
У які нам спяшацца не трэба з табой.
Поўня ў небе, нібыта ў вадзе нечы след,
Што застаўся яшчэ прамінулай зімой.
І мы пойдзем шукаць, што патрэбна знайсці,
А не знойдзем — ніколі не прыйдзем дамоў.
На скляпах ні кустам, ні траве не расці,
Бо схавалі мы ў іх ад суседзяў любоў
Вось да гэтай зямлі, дзе вятры і дажджы,
Дзе кароткае лета, нібыта жыццё,
І самотнае, быццам у полі крыжы,
І калючае, быццам бы ў жыта асцё.
І зацягнецца лёдам на рэчцы вада,
І зашкліцца вакно, дзе разбітае шкло,
Але ты ўжо не будзеш казаць, што шкада,
Што з вадой шмат чаго назаўсёды сышло,
Бо нядаўна ты камень трымаў у руцэ
Так, як кніжку на сцэне трымае паэт,
Каб прайсці па жыцці, як Хрыстос па рацэ,
На вадзе пакідаючы сонечны след...

**20.09.2015**

* * *

Зноўку дзень карацее, нібыта старая вяроўка,
На якую прывязана сонца, нібыта багоўка,
Што пасецца па сіняй, як мора, нябёснай траве,
Не звяртаючы ўвагі на тое, як хто тут жыве
На зямлі, на якой то патоп, то зіма, то вясна
І бясконцая за незалежнасць і волю вайна.
Ты нальеш мне віна, я спалю адзіноту ў каміне,
Нібы жабіну скуру, і няхай нас любоў не пакіне
Да балота, куды нас Сусанін тутэйшы прывёў,
Атрымаўшы за гэта ад нас на віно сто рублёў.
Ты маўчыш, бо ты ведаеш многае вельмі і многа,
Ды не ведаеш ты, дзе канчаецца наша дарога,
І калі ўсё ж, як нервы, парвецца старая вяроўка,
На якую прывязана сонца, нібыта багоўка...

**22.09.2015**

* * *

Заходзіш у краму, каб толькі пагрэцца.
На вуліцы вецер, а з неба капеж.
І кубачак кавы гарачы, як сэрца,
Табе прапануюць, а ты не бярэш.
Ты слухаеш музыку, што пад нагамі
Рассыпана мокрым счарнелым пяском,
Якую анучай сатруць і ўжо ў краме
Падлога напоўніцца мёртвым святлом.
Пагрэўшыся, ціха ты выйдзеш ізноўку
На вуліцу ў вецер, нібыта ў раку,
Якая праз горад цячэ і без толку
Варушыць антэны, нібы асаку,
На стрэхах дамоў, нібы на астравах,
Дзе чайкі сядзяць і сядзяць галубы
І спрэчкі дурныя вядуць аб правах
На горад, які будавалі рабы
Імперыі той, што даўно загрымела
Пад гукі фанфараў у тартарары.
Фанерай над горадам штось праляцела —
Магчыма, французскі паэт з Мон-Пары.
Заходзіш у краму, каб зноўку пагрэцца.
На вуліцы вецер, а з неба капеж.

І кубачак кавы гарачы, як сэрца,
Табе прапануюць, і ты ўжо бярэш,
Бо ёсці ахвота і трэба сагрэцца,
І холадна так, што, здаецца, памрэш...

**28.09.2015**

* * *

Выходзіш ранкам з дома, як з турмы,
І забываешся, куды ідзеш.
Як сцены плачу, шэрыя дамы,
І разумееш ты, што тут жывеш,
Дзе жыў твой бацька, і жылі дзяды,
І снег ішоў, і раставаў вясной,
І ты стаяў на беразе вады,
Нібыта будучы біблейскі Ной.
І маці клікала цябе дамоў
Рабіць урокі і шукаць ката,
Што ўцёк, каб марцавацца, да катоў,
Не еўшы цэлы тыдзень ні чарта.
Калі было ўсё гэта? Так даўно,
Што ты не помніш, ці было зусім.
І неба — зацянёнае вакно
У сытую Еўропу, дзе ёсць Рым,
Які дакладна ёсць, як гэты свет,
Якому спраў няма, што ты паэт
Выходзіш ранкам з дома, як з турмы,
І забываешся, куды ідзеш,
І стоячы на беразе зімы,
Стаіш без шапкі, як без назвы верш...

**30.09.2015**



## *Кастрычнік*

### ***1.10.2015***

Удзельнічаў у чарговым пасяджэнні суполкі «Літаратурнае прадмесце». Збіраліся ў майстэрні народнага мастака Беларусі Івана Міско. Прысутнічала каля дваццаці жывых творцаў і паўтысячы мемарыялізаваных знакамітасцяў. Размаўлялі пра прафесіяналізм у творчасці. Чыталі вершы, слухалі песні. У печцы гарэў агонь, які чакаў свайго часу, каб ператварыць у попел напісанае, але не дачакаўся. Патух, як памёр з голаду...

***2.10.2015***

З сястрой Валяй і яе мужам Віцем ездзілі ў Пугачы.

Адведалі бацькоў на Ракаўскіх могілках. Восеньская лістота, як пясок...

Вянкі на свежых магілах, як незапаленыя вогнішчы інквізіцыі...

Непадалёку помнікаў падасінавік, як злеплены з пластыліну...

У Ракаве зайшлі ў краму, каб набыць атруты на вясковых пацукоў і мышэй. Няма. Нядаўна ўсю разабралі...

У Бузунах пустая буслянка на пазалацелым дрэве. Чорная, як згарэлая...

На палях стаіць кукуруза, як войскі, якім няма куды адступаць...

У Пугачах восень. Светла і сумна. Пахне бульбоўнікам і познімі кветкамі, назвы якіх я не памятаю...

Ад суседкі даведаўся: «Колькі дзён таму на нашым перакрыжаванні загінуў Андрэйка! МАЗ з пяском урэзаўся ў ягоную машыну. Андрэйка быў харошым чалавекам...»

У хаце на стале ляжыць мая кніга «Заўтра была адліга». Ляжыць, нібыта яе тут нехта чытае...

Яблыкаў няма ні на яблынях, ні на зямлі. Сёлета наш сад адпачываў...

Прыляцела сарока. Села на плоце. Нібы пераканаўшыся, што тут свае, паляцела некуды...

Узаралі агарод. Дзядзька Толя вадзіў каня, а я хадзіў за плугам і, думаючы пра бацькоў, раз-пораз чуў маміну просьбу: «Адпачні!»

Віця адрамантаваў varotцы. Бацькі былі б задаволеныя...

На лаўцы каля хаты сядзела сястра і парадкавала буракі і моркву. Хустка на ёй была завязаная, як некалі ў мамы...

Вяртаючыся ў горад, я доўгі час у думках яшчэ быў у вёсцы. Там усё роднае...

***3.10.2015***

У яблыку жыў чарвяк. Цяпер ні яблыка, ні чарвяка. Яблычнае віно...

Зацьменне сланечніка...

Патэлефанаваў Алесь Квяткоўскі. Папрасіў зайсці ў майстэрню паразмаўляць. Алесь рыхтуецца да адкрыцця выставы «Пагоня на Грунвальд», прысвечанай 75-годдзю з дня народзінаў Кастуся Тарасава. Ідучы ў краму па корм Міёне, зазірнуў да сябра ў майстэрню. Алесь паказаў новую карціну «Чорны квадратасланечнік», якую стварыў паводле майго аднайменнага верша. Гледзячы на карціну, я пажартаваў: «Цяпер засталося толькі вуха адрэзаць!» «Не! Не буду рэзаць!» — усміхаючыся, адказаў Алесь і даў мне пачытаць кнігу «Ван Гог. Письма», што выйшла ў 1966 годзе ў выдавецтве «Искусство». Каб не забыцца, каму даў кнігу, Алесь напісаў маё прозвішча на сцяне майстэрні і адчыніў вакно, праз якое я і пайшоў далей па справах...

Слухаючы верш Іосіфа Бродскага «Не выходи из комнаты...», натхніўся на чатыры радкі:

*Не прызнайся ў каханні, бо зробіш памылку,*
*І зашый сабе рот, і схавайся на небе,*
*Або ў вёску пустую ўцячы, нібы ў ссылку,*
*І жыві там сто год на вадзе і на хлебе...*

Вецер полем гоніць апалае лісце, як Залатую Арду...

***4.10.2015***

На лаўцы каля пад'езда каштан, як няўдалы перапечаны калабок, які ўцёк з казкі...

Ён быў спакойны, як кулямёт...

Патэлефанаваў Георгій Барташ і выказаў жаданне паглядзець нашага сабачку Міёну. За хвілінаў дваццаць прыйшоў са сваёй кнігай вершаў і перакладаў «Ботиночки», якая колькі дзён таму выйшла з друку. П'ючы гарбату, размаўлялі пра будучую прэзентацыю і наагул пра паэзію. На жаль, Георгій цяпер мала піша. Па колькі вершаў у год. Новую кнігу з такімі тэмпамі давядзецца чакаць доўга. А «Ботиночек» магло і сёння не быць, калі б у лімаўскім артыкуле, апавядаючы пра выступ паэта на вечарыне ў Музеі Максіма Багдановіча, не прадставілі яго, як аўтара праекта «Фестываль аднаго верша», і болей да гэтага нічога не дадалі. Прачытаўшы, Георгій вырашыў выдаць сваю кнігу...

***6.10.2015***

Мінулай ноччу на 91-м годзе жыцця памёр пісьменнік Алесь Савіцкі. Ганаровы грамадзянін горада Полацка. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Нарадзіўся Алесь Ануфрыевіч 8 студзеня 1924 года. Гэта паводле пашпарта. А насамрэч — 8 студзеня 1925. Падчас вайны ён паправіў сабе дакумент, каб узялі ў партызаны. З 1942 года — партызан атрада «Смерць фашызму», з 1943 — камандзір падрыўной групы атрада «Бальшавік» брыгады імя Варашылава на Віцебшчыне. У 1944—45 гг. удзельнічаў у вызваленні Літвы, Польшчы, у баях за ўзяцце Берліна. Быў тройчы паранены. Пачаў пісаць вершы яшчэ ў партызанскім атрадзе ў 1943 годзе. Першае апавяданне «Рыбацкае шчасце» надрукаваў у 1948 годзе ў полацкай абласной газеце. Алесем Савіцкім напісана шмат цікавых твораў. Асаблівай папулярнасцю ў юных чытачоў карыстаецца аповесць-казка «Радасці і нягоды залацістага карасіка Бубліка». Разоў дзесяць мне давялося выступаць разам з Алесем Ануфрыевічам. Памятаецца, як гадоў дваццаць таму мы з ім удзельнічалі ў вялікім пасяджэнні ў АН Беларусі, дзе ішла размова пра сучасную літаратуру. Выступаючы, Алесь Савіцкі не толькі называў імёны тагачасных маладых творцаў, а натхнёна па памяці цытаваў вершы. Тады ён прысутных добра ўразіў, калі прачытаў верш Анатоля Сыса, бо раней многія думалі, што Савіцкі ведае творы толькі тых пісьменнікаў, якія займаюць пасады і працуюць у рэдакцыях. З Алесем Ануфрыевічам было добра паразмаўляць пра цяперашняе жыццё, паўспамінаць пісьменнікаў, што адышлі ў лепшы свет. З ім не адчувалася розніца ў гадах. Ён быў малады сэрцам і душой...

У бібліятэцы імя Цёткі ўдзельнічаў у адкрыцці фотавыставы Міколы Лінніка, дзе прадстаўлена 28 фотаздымкаў з маімі творамі з цыкла «Балады беларускага шляху». Гэта толькі дзясятая частка балад, якія ў мяне напісаныя. Мікола зрабіў мастацкія здымкі магіл, дзе пахаваныя героі маіх твораў. Адкрыццё выставы пачалося з цудоўных песень у выкананні гурта Кацярыны Ваданосавай. Потым выступалі ўсе, хто жадаў. Асабліва прыемна было пачуць добрыя словы ад мастака Міколы Купавы.

***7.10.2015***

З Людмілай увечары былі ў Баранавічах. Удзельнічалі ў працы курсаў «Мова нанова», якімі апякуюцца Юля Траццяк і Алесь Гізун...

Ехалі цягніком «Мінск-Гродна». У плацкарце было поўна людзей. Бальшыня сядзела ўткнуўшыся вачыма ў камп'ютары і смартфоны. Не вагон, а камп'ютарны клуб на рэйках...

У цягніку даўно не ездзіў, нібыта не ўцякаў ад сябе самотнага...

Станцыя «Асіна». Лес. На ўзлессі ляжаць бярозавыя паленні...

Праехалі Стоўбцы. На прыпынку на лаўцы ў чорным капелюшы і скураным плашчы сядзеў пажылы мужчына, падобны да Якуба Коласа. Чытаў «Нашу Ніву»...

Каля чыгункі выкарчаваныя велізарныя пні, як тутэйшыя мёртвыя васьміногі...

Узгадаўся Мікола Купрэеў, які любіў ездзіць на цягніках. Разумею ягоную любоў. Едзеш, глядзіш праз вакно на наваколле і адчуваеш сябе вольным ад тлуму жыццёвага. Цягнік імчыць. Нас ніхто не дагоніць!

Выпіў дзве шклянкі вагоннай гарбаты. У думках памаладзеў на гадоў трыццаць. Узгадаў даўнія паездкі ў Маскву на вучобу ў Літінстытут. Тады я начыма ніколі не спаў. Мэнчыўся ўсю дарогу без занятку. Цяпер бы сядзеў у сеціве...

У парожніх шклянках танцуюць лыжачкі. Ім таксама добра...

На палях ужо зжатая кукуруза. Кукурузныя пянькі стаяць, як патухлыя свечкі...

У Баранавічах на вакзале нас сустрэла Юля Траццяк. У «PEOPLE BAR» дабіраліся пехатою. Паглядзелі на горад. Месцамі прыгожа, а месцамі сумнавата. Назвы вуліц савецкія, і людзей на гэтых вуліцах стае савецкіх...

На курсы сабралася болей за дваццаць чалавек. Бальшыня — дзяўчаты і жанчыны. Мы з Людмілай разам з усімі ўдзельнічалі ў навучанні. Алесь і Юля добра выкладаюць. Сяму-таму і мы падвучыліся...

Пасля гадзіны заняткаў нам з Людмілай далі слова. Мы апавялі пра сябе, пачыталі вершы, адказалі на пытанні, падпісалі кнігі. А 21:41 выехалі з Баранавіч. Едучы дадому, размаўлялі пра шчырых, светлых, таленавітых навучэнцаў Баранавіцкіх курсаў «Мова нанова». Дарожны час за размовай праляцеў

хутка. Гарбата ў цягніку «Брэст-Масква» была нягоршай, чым у «Мінск-Гродна», але ў плацкарце было цяплей, чым у купэ...

***8.10.2015***

Сёння а 14:20 мне быў першы тэлефонны званок з віншаваннем. Потым яшчэ некалькі. Мяне віншавалі з Нобелеўскай прэміяй, якую атрымала Святлана Алексіевіч. Віншавалі так, нібыта я стаў лаўрэатам. Было два званкі, у якіх пачуў: «Гэта не маё свята! Вось каб Быкаву далі! А так...»

***9.10.2015***

Жоўтая кляновая лістота, як восеньскія дранікі...

Тое, што мастацкі твор чытаецца на адным дыханні — не галоўны доказ таго, што твор геніяльны. На адным дыханні чытаецца і тэлефонны даведнік...

З Людмілай быў у прасторы Галерэі TUT. BY, дзе адбылася прэзентацыя кнігі вершаў і перакладаў Георгія Барташа «Ботиночки»...

Людзей сабралася шмат. Амаль усе заяўленыя выступоўцы прыйшлі. Не было выдаўца Змітра Вішнёва. Казалі, што ён недзе ў замежжы...

Побач са сцэнай быў столік, на якім прыгожыліся чаравікі Барташа. Чорныя. Адзін стаяў, а другі ляжаў...

На вуліцы халадэча, а ў памяшканні цёпла. Думаю, гэтаксама і ў чаравіках Барташа было б, калі б іх абуць...

Непадалёку ад сцэны і прысутных стаялі келіхі на шампанскае на вялікіх ножках, як дзяўчаты на цыпках, каб разгледзіць усіх, хто прыйшоў. Стаялі ціха, нібыта загадаўшы жаданне, каб іх узялі паэты, што выступалі, а не халяўшчыкі...

Прэзентацыя пачалася з віншавання Святланы Алексіевіч з Нобелеўскай прэміяй. Сёй-той, пачуўшы імя лаўрэаткі, пачаў позіркам шукаць Святлану Аляксандраўну ў зале...

Георгій Барташ добра глядзеўся на сцэне. Слухаючы песні ў аўтарскім выкананні, узгадаўся Маскоўскі ЦДЛ і вечарына Булата Акуджавы, куды я з Людмілай хадзіў падчас навучання ў Літінстытуце...

За велізарным вакном, што было за спінай Георгія была відаць у вечаровай цямрэчы вуліца. Яна была пазначаная пункцірамі ліхтароў і нагадвала аэрадромную паласу, на якой

стаяў нябачны самалёт, што чакаў сканчэнне прэзентацыі, каб забраць з сабой аўтара кнігі і выступоўцаў і паляцець у Парыж...

***10.10.2015***

Быў у майстэрні Алеся Квяткоўскага. Рыхтуецца да адкрыцця выставы, прысвечанай Кастусю Тарасаву. Алесь мне падараваў фотаздымак карціны «Партрэт Святланы Алексіевіч», напісаны ў 1987 годзе. Рэпрадукцыя партрэта змешчаная ў «Энцыклапедычным даведніку Беларускага саюза мастакоў. 1938—1998», што выйшаў у свет у 1998 годзе. «А дзе карціна?» — пацікавіўся я. Высветлілася, што яна засталася ў старой майстэрні, з якой Алесь у свой час з’ехаў, а туды перабраўся скульптар Уладзімір Церабун. Партрэт будучай Нобелеўскай лаўрэаткі Алесь Квяткоўскі маляваў з натуры. Тады ён у Палацы чыгуначнікаў кіраваў мастацкай студыяй «Квецень». Святлана Аляксандраўна прыходзіла пазіраваць і, калі карціна была скончаная, сказала: «Гэта класічны твор!» Думаю, што сёння некаторыя мастакі кінуцца маляваць Нобелеўскую лаўрэатку, але першы, хто яе намаляваў (амаль трыццаць гадоў таму),— Алесь Квяткоўскі...

Патэлефанавала незнаёмая жанчына. Назвалася Алай Піліпаўнай Шыпіцынай (у дзявоцтве — Мірочнік). Нарадзілася яна ў 1948 годзе ў Кудзяўцах, што ў кіламетрах чатырох ад маіх Пугачоў, але ў дакументах запісалі, што нарадзілася ў Русаках. Гэтая вёска ў некалькіх кіламетрах ад Лягез, дзе я гадаваўся да школы. Нумар майго тэлефона Але Піліпаўне даў мой дзядзька Віця з Лягез. Жанчына нядаўна прачытала маю кніжку «Пугачоўскі цырульнік». Хоча яшчэ пачытаць мае ранейшыя творы. Ёй нехта з нашых землякоў сказаў, што я ў нейкай кніжцы напісаў пра яе бацьку. Я не ўзгадаў. Можа, і напісана. Пазнаёміўшыся праз тэлефон, мы крыху паразмаўлялі пра родныя мясціны. Я апавёў, як у 60-я гады, калі жыў у Лягезах, з дзядзькам Ванем хадзіў у Русакі глядзець праз тэлевізар пахаванне касманаўта. Ала Піліпаўна адразу сказала, што тады ў Русаках быў тэлевізар толькі ў сям’і Грамовічаў. Яна ў іх глядзела «Паўлінку». Раней, чым у Русаках, тэлевізар з’явіўся ў Бакачах у сям’і Аляксандра Мацкевіча. Цяпер Ала Піліпаўна кожныя выходныя ездзіць у Русакі ў родную хату. Дамовіліся, што, калі пачнуцца маразы і ляжа снег, стэлефануемся і, як землякі, сустрэнемся...

Даведаліся ад былых гаспадароў нашай Міёны, што яна нарадзілася 17 жніўня. Словам, яна ў нас з'явілася, калі ёй быў толькі месяц...

***11.10.2015***

З Людмілай ездзілі ў цэнтр горада. Былі ў Палацы прафсаюзаў, дзе прадаваліся кнігі «Мастацкай літаратуры». Прагаласаваўшы, людзі падыходзілі да кніжных паліц і сёетое набывалі. Я нават аўтографы раздаваў на зборніку «Зярнятка», у якім ёсць і мае вершы. Ідучы да царквы, сустрэлі Кастуся Вашчанку. Паразмаўлялі пра выдавецкія справы. Людміла пасядзела на лаўцы Агінскага, паслухалі паланэз. У царкве было ціха і светла. Падумаў пра маму і бацьку. На вуліцы каля Храма лёталі галубы, як анёлы...



***12.10.2015.***

Пасля прачытання першай сотні старонак кнігі «Ван Гог. Письма», мае ўражанні знітаваліся ў радкі:

*Чытаючы ўначы лісты Ван Гога,*
*Нібыта праз сланечнікі іду*
*У Амстэрдам, дзе ўжо няма нікога*
*Хто б у каналах замуціў ваду,*
*Як неба, у якім далёка зоры,*
*Сланечнікі, што маляваў Ван Гог,*
*Якога аніхто больш не паўторыць,*
*Як непаўторны ў гэтым свеце Бог...*

***13.10.2015***

Тры дні запар пісьменнік, якому пад восемдзесят, тэлефанаваў і настойліва паўтараў: «Калі не выдадзіце кніжку ў бліжэйшы час, я памру!» Сёння прыйшоў сам і зноў з той самай песняй: «Тэрмінова выдайце, а то памру!» Такіх жывыхпаміраючых чалавек дзесяць набярэцца. Такога выдасі, а ён праз дзень прыйдзе з новым рукапісам і скажа: «Выдайце, а то я памру!» Гэтага ж пісьменніка, які сёння прыходзіў, мы выдадзім недзе напачатку года. Выдадзім не таму, што ён нас дастаў, а таму, што ў яго сапраўды ёсць чытачы, якія чакаюць ягоных твораў. У размове ён штораз апавядае, што за ім у дамах адпачынку бегаюць жанчыны і просяць, каб ён даў ім сваю новую кнігу пачытаць. «А як я ім магу даць новую кнігу, калі вы яе затрымалі з выйсцем! Друкуйце хутчэй, а

то я памру!» У гэтага аўтара творы пра каханне з апісаннем любоўных інтрыг і сексу. На маю заўвагу, што, пачытаўшы ягоныя сексуальныя сцэны, сексам нікому не захочацца займацца, пісьменнік сказаў: «Я ўжо болей пісаць пра жанчын не буду. Буду пісаць пра мужыкоў!»

***14.10.2015***

«Усе ведаюць аптэку ў Траецкім... Тую самую, што па літасцівым прывілеі яснавяльможнага пана Аўгуста III адчыніў у 1748 годзе менскі радца пан Ян Давід Шэйба...» — так пачынаецца адзін з раздзелаў аповесці Людмілы Рублеўскай «Ночы на Плябанскіх млынах». На сённяшні дзень у Траецкім прадмесці працуе аптэка № 88. Праўда, ёй каля трыццаці гадоў, але іншай у Траецкім няма. Некалькі тыдняў таму Людміле патэлефанавалі з аптэкі і запрасілі прыйсці і апавесці гісторыю пра тую даўнюю аптэку і аптэкара Ёсафа, што апісаны ў творы. Сабралася чалавек дзесяць. Адна з супрацоўніц апавяла пра аптэку. Потым дала слова мастачцы Аляксандры Дзятлавай, якая 25 гадоў таму зрабіла дызайн памяшкання. Слухаючы аповед, думалася: «Гэта я ўсё тут бачыў сто разоў!» За хвілінаў дваццаць наша гідэса Валянціна Сасонкіна прапанавала прайсці з ёй на другі паверх у кабінет гісторыі фармацыі, пра які мы ніколі не чулі. Пайшлі і... трапілі ў аптэку мінулых часоў. На самым бачным месцы я адразу ўгледзеў карціну Лідзіі Лазоўскай, якую яна намалявала паводле твора Людмілы. Ёсаф на ёй як жывы. Верыш, што ён быў сапраўды і ўсё, што Людміла пра яго напісала,— праўда. Побач з карцінай дакумент, у якім гаворыцца, што 28 лістапада 1748 года Аўгустам III быў дадзены дазвол на стварэнне аптэкі. Кабінету гісторыі фармацыі пяць гадоў. Сюды часта прыходзяць экскурсіі. І вось падчас адной да Валянціны Сасонкінай звярнулася жанчына: «А вы пра сваю аптэку не ўсё ведаеце!» І жанчына, паказаўшы кнігу Людмілы Рублеўскай «Жаніх пані Данусі», апавяла пра Ёсафа і ягоную аптэку ў Траецкім. Цяпер у аптэцы № 88 працуе гасцёўня «У гасцях у Ёсафа»...

***15.10.2015***

У Музеі Максіма Багдановіча ўдзельнічаў у адкрыцці выставы Алеся Квяткоўскага «Пагоня на Грунвальд», прысвечанай 75-годдзю з дня народзінаў Кастуся Тарасава...

З працы выйшаў амаль за гадзіну да пачатку імпрэзы. Выйшаў параней, каб паглядзець на качак на Свіслачы. Нешта іх мала...

Сустрэў Андрэя Ключнікава, якога не бачыў гадоў пяць. Ён у свой час удзельнічаў у пасяджэннях суполкі «Літаратурнае прадмесце». На маё пытанне: «Дзе ты прапаў?», Андрэй адказаў: «Ажаніўся! У мяне трое дзяцей. Двое маіх — Ніна і Ілья, якім чатыры і адзін год. І дачка жонкі. Яна сёлета паступіла вучыцца ў інстытут».— «Вершы пішаш?» — пацікавіўся я.— «Пішу!» — усміхаючыся адказаў Ключнікаў і абяцаў заходзіць да мяне на працу і пачаць зноў удзельнічаць у пасяджэннях суполкі...

На беразе Свіслачы, якім я ішоў, цалаваліся маладзёны. Хлопец быў у акулярах, і яны яму перашкаджалі цалавацца...

На другім беразе ракі каля Траецкага прадмесця маладыя пазіравалі фатографу. Ён у чорным гарнітурчыку, а яна ў белай вясельнай сукенцы. Абдымаліся і цалаваліся. Гледзячы на закаханую студэнцкую пару, я падумаў, што ім, каб быць на беразе каля Траецкага, дзе другая пара ў вясельных строях, трэба абавязкова прайсці праз раку. Праўда, у іх ёсць выбар — ісці вадою ці мостам...

У Музей Багдановіча прыйшоў першым. Алесь Кяткоўскі глядзеў у вакно. Павітаўшыся, мы сталі ўдвух глядзець. На жаль, не ўсе прыйшлі, хто абяцаў, але адкрыццё адбылося і без іх. Цікава было паслухаць Сяргея Ваганава, які ў дзяцінстве жыў у адным доме з Кастусём Тарасавым...

### *16.10.2015*

У бібліятэцы імя Цёткі ў рэжысуры Аксаны Спрынчан і Яраша Малішэўскага (гаспадароў Паэтычнага тэатра «Арт. С») прайшла «Вечарына інтэлектуальных зданяў», падчас якой прэзентавалася кніга Людмілы Рублеўскай «З'яўленне Інфанты»...

Ідучы на вечарыну, у «Цэнтральным» універсаме папіў гарбаты і з'еў пару канапак. Стараўся не апячы язык, не атрымалася. Глядзеў праз вакно на ходнік праспекта, як на подыум, на якім паказвалі моду «Восень-2015»...

Прайшоўся ад «Цэнтральнага» да плошчы Перамогі. Раз-пораз паўз мяне пралятаалі раварысты, як гарадскія дэманы...

Ападае лістота, і Музей Янкі Купалы відаць праз восеньскае самотнае золата. У скверы колькі адзінокіх людзей. Няспешна ходзяць, як грыбнікі...

Пад мастом у Свіслачы плавае колькі качак. Лістота праплывае каля іх, як парэшткі разбітага сонца...

Дарогаю да плошчы Перамогі прыдумаліся радкі: «Зоркі ў небе, як агні бакенаў на рацэ вечнасці...»

Ад плошчы Перамогі да станцыі метро «Парк Чалюскінцаў» ехаў экскурсійным аўтобусам. Выйшаў з яго пасля праслухоўвання інфармацыі пра тое, каля чаго праязджаў, з адной думкай, што Мінск — савецкі горад. Не рускі і не беларускі. Савецкі. Лепей такім аўтобусам не ездзіць...

На прэзентацыю кнігі Людмілы Рублеўскай сабралася поўная зала. Сярод усіх было каля дзесяці курсантаў вайсковай вучэльні, якія наведваюць амаль усе спектаклі тэатра «Арт. С». Пасля пачатку дзеі за хвілінаў пятнаццаць, пакідаючы бібліятэку, каля Людмілы спыніўся дзіўны хлопец гадоў дваццаці пяці ў шэрай спартовай шапцы і, учапіўшыся за яе руку, папрасіў: «Дабраславіце маладога паэта!» Людміла разгубілася, а я сказаў: «Дабраслаўляй! Не бойся!» Патрымаўшы за руку Людмілу, хлопец выгукнуў: «Максім, хадзем!» Адразу ўстаў стрыжаны пад нуль хлопец і хуценька следам за «маладым паэтам» пакінуў залу. Праўда, вечарына ад дзівакоў цалкам не пазбавілася. Мужчына гадоў пяцідзесяці, назваўшыся Русланам Зголічам і членам Расійскага ПЭН-цэнтра, усю прэзентацыю здымаў на смартфон. Напачатку на чорны, а потым на жоўты. Казаў, што ён кінарэжысёр і задумаў зняць фільм пра Рублеўскую, якая будзе Нобелеўскім лаўрэатам...

Адмыслова на вечарыну з Полацка прыехала Людмілiна чытачка, наша сяброўка па фэйсбуку — супрацоўніца Музея беларускага кнігадрукавання Вера Ашуева. Гэта такі не першы выпадак. Нядаўна, калі ў «Цэнтральнай кнігарні» выступала Людміла, з Маладзечна прыязджала маладая жанчына, якой вельмі даспадобы Пранціш Вырвіч і ягоныя авантуры...

Віншавалі Людмілу і чыталі яе і свае творы: Барыс Пятровіч, Віка Трэнас, Юля Новік, Наталка Кучмель, Таццяна Пратасевіч, Алесь Емяльянаў. Спявалі: Альжбэта Малішэўская-Спрынчан, Міхась Бараноўскі, Георгій Барташ, Андрусь Якушаў. Вядоўцы вечарыны — Аксана Спрынчан і Яраш Малішэўскі самі не сумавалі і нікому не давалі сумаваць. Фотамайстра Васіль Кузьмічкін усіх фатаграфаваў. Гаспадыня

бібліятэкі Рэгіна Багамолава, як сапраўдная гаспадыня, глядзела за тым, каб усім было добра. І ўсім было добра...

Інфанта, якая цяпер жыве ў кнізе Людмілы Рублеўскай, прысутнічала ў зале. Яе не ўсе бачылі, але яна была...

На прэзентацыі кнігі «З'яўленне Інфанты» Аксана Спрынчан падаравала Людміле жменьку зямлі з Вільні. Цяпер мы ўладальнікі Віленскай зямлі. Праўда, гэта ўжо не першае дарэнне Віленскай зямлі Шніпам. Ёсць у Вільні былое прадмесце, а цяпер староства Шніпішкі (Сніпішкі, Śnipiszki, Šnipiškės). У Вікіпедыі напісана, што гэтыя землі Вітаўт падараваў купцу Шніпу амаль 600 гадоў таму...



***18.10.2015***

У краме ў чарзе, як у чарзе па працяг жыцця...

Патэлефанаваў аўтар «Буквара» Анатоль Клышка і выказаў сваё захапленне маімі вершамі, што былі ў «ЛіМе» за 9 кастрычніка. Сказаў, што прачытаў і рэцэнзію Насты Грышчук на маю кнігу «Заўтра была адліга», пасля якой захацелася займець выданне. Прыемна чуць добрыя словы ад аўтарытэтнага пісьменніка, пагатоў што з майго пакалення (а мо і маладзейшыя), калі што з'явіцца маё на якім-небудзь сайце, дзе можна каментаваць пад псеўданімам, абавязкова напішуць нейкае паскудства. Ствараецца ўражанне, што большыня беларускіх пісьменнікаў шчыра мяркуюць, што апрача іх у літаратуры не павінна быць нікога, і калі што вартае з'явіцца на «іхнім полі», яго неадкладна трэба ці патаптаць, ці зрабіць выгляд, што яго няма.

***19.10.2015***

У шыкоўных катэджах не заўсёды існуе разумнае жыццё...

***20.10.2015***

З Людмілай Крушынскай рыхтуем да друку новую кнігу пра Уладзіміра Мулявіна пад яшчэ ўмоўным назовам «І сэрцам, і думамі...». Сёння Людміла Аляксееўна дадала да рукапісу пяць старонак інтэрв'ю з Песняром, якое было запісанае ў 1999 годзе і нідзе не друкавалася.

Кінарэжысёр Уладзімір Арлоў прынёс фотаздымкі з Мулявіным, якія таксама не былі ў друку. Разабраўшыся з

матэрыяламі да кнігі, Арлоў паскардзіўся: «Сёлета ездзіў на мора ў Італію з тваёй «Баладай камянёў», якая там ужо была! Падары новую, каб было што налета чытаць!» Падпісаў кнігу «Заўтра была адліга». Развітваючыся, кінарэжысёр сказаў: «Будзеш ладзіць свае выступы, запрашай мяне!»

***21.10.2015***

Прыходзіў пісьменнік, якому хутка 80. Паразмаўляўшы пра выдавецкія справы, ён апавёў гісторыю пра мастака Міхаіла Савіцкага. Гэта было па вайне. Савіцкаму ў вызваленым ад немцаў Мінску далі памяшканне на майстэрню, у якім нічога не было — голыя сцены, у адной з якіх чарнела дзірка. Мастак гэтую дзірку адразу не заладзіў, а потым ужо і не стаў, бо з яе выбягала мышка. Шэрая. Маленькая. Цікаўная. Неўзабаве мышка прызвычаілася да Савіцкага і стала браць з яго рук хлеб і тут жа есці. Прамінуў нейкі час і мастаку далі новую майстэрню, куды ён пераехаў, забраўшы ўсё, што меў. Адразу ж наступным днём Савіцкі адчуў, што яму на новым месцы нечага не стае. І ўзгадалася мышка, якая, паеўшы з рук мастака, падоўгу назірала, як ён малюе. І паехаў Савіцкі на старое месца, каб забраць мышку. Прыехаўшы, доўга клікаў малую, але яна так і не выйшла...

***23.10.2015***

Вяртаючыся дахаты па абляцелым лісці праз нудотны дождж, пачуў радкі:

*Ізноўку дождж, як напамін пра тое,*
*Што быў патоп і можа зноў вада,*
*Што з дрэў зрывае лісце залатое,*
*І нас са свету змыць, каб зноў жуда*
*Адна пад небам дажджавым стаяла,*
*Трымаючы аблокі над сабой,*
*Як дрэва крону, што сівою стала,*
*Дазнаўшыся, што змыта ўсё вадой...*

Заўтра субота. Чакаеш выходных, чакаеш, а яны такія кароткія, як шлях ад камп'ютара да лядоўні...

***24.10.2015***

Заходзіў да Алеся Квяткоўскага ў майстэрню. Пасумавалі, што юбілей Кастуся Тарасава амаль усе, хто яго павінен быў успомніць, праігнаравалі. Але як бы цяпер не было, кніж-

ка Тарасава «Памяць пра легенды» ў 80-я гады для многіх беларусаў сталася праўдзівым падручнікам па нашай гісторыі. Узгадалі Анатоля Сыса і тых, хто сёння паехаў у Гарошкаў на свята паэзіі, прысвечанае ягонай памяці. У мяне ёсць нізка хоку, напісаная пяць гадоў таму і прысвечаная Анатолю.

*

жолуд без шапкі
у першай сівой траве
Толіка Сыса

*

у келіху ліст
манетай залатою
на дне сусвету

*

карэнняў вужы
у пяску як у вагні
труну трымаюць

*

тут чужых няма
і ўсё-ткі крумкач сівы
крыжы вартуе

*

гронкі рабіны
як кароўкі божыя
чакаюць сонца

*

п'е чорны мураш
на агарачку свечкі
расу як неба

*

на крыжы паэта
павуцінка трапеча
як апошні верш

Амаль гадзіну з Алесем Квяткоўскім размаўлялі пра нашых сяброў, успаміналі тыя часы, калі мы былі маладыя. І ўвесь гэты час з новай Алесевай карціны на нас глядзеў Уладзімір Караткевіч, які з ваўком на балоце п'е піва, зваранае старым зайцам. Узгадаліся заключныя радкі з майго верша, па якім Алесь малюе карціну:

*... хай хоць часам*
*Будзе ў паэта святочны настрой.*
*Хай жа з ваўком яны вып'юць там разам*
*За Беларусь перад лютай зімой...*

***24.10.2015***

Іду праз пачарнелы сквер па мокрай патаптанай лістоце. Бязлюдна. Настрой такі, нібыта іду праз могілкі...

***25.10.2015***

Учора, калі перастала працаваць газавая калонка, я па старой звычцы палез яе рамантаваць. Толькі адкруціў нейкую чорную гайку, як адтуль, куды яна была ўкручаная, даў такі моцны струмень вады, што я напалохаўся і пачаў гайку вяртаць на месца. За хвіліну ўсё было навокал мокрае. Праўда, за гэтую хвіліну я пачаў клікаць сына, каб дапамог, і найгалоўнейшае — я здагадаўся перакрыць ваду. На мой крык на кухню прыбеглі Максім, Вераніка і Міёна. Вада была ўсюды. Нават трапіла ў электраразеткі. Як мяне токам не забіла — не ведаю. Пасля ўсяго гэтага пачаў чытаць інструкцыю па эксплуатацыі газавых калонак. Не спаў да паловы другой ночы. Прачнуўшыся а восьмай, за гадзіну стаў тэлефанаваць у фірму па рамонце калонак. Там такія не рамантуюць. Падчас полудня Максім прыйшоў на кухню са сваім інструментам. Усё адлучылі. Разабралі калонку, хоць і нельга яе паводле інструкцыі чапаць, бо пасля ніхто не будзе рамантаваць. Максім параскручваў усё, што можна было, а потым усё сабраў. Улучылі. І адбылося цуда! Калонка запрацавала. Цяпер чакаем Людмілу з далёкай вандроўкі, каб пахваліцца, якія мы майстры па рамонце газавых калонак...

Чалавеку, каб адчуваць сябе шчаслівым, не так шмат і трэба. Вось адрамантавалі разам з сынам газавую калонку для нагрэву вады — і цяпер на душы радасна. Хоць перамога была над калонкай, але ж перамога...

Я па скверы праз туман прайшоў, як вожык...

Па скверы прайшла старая. Прыгожая, як восеньская лістота ў яе пад нагамі...

На павуцінцы бярозавы лісток гайдаецца, як маятнік восеньскага гадзінніка...

***26.10.2015***

Побач прайшла дзяўчына на высокіх абцасах. Гледзячы ўслед прыгажуні, узгадаліся 80-я гады, калі і ў мужчынскім абутку былі абцасы немалыя. Праўда, не па пятнаццаць сантыметраў, але па сантыметраў пяць дакладна былі. Вось з такімі абцасамі я прыехаў у вёску. На іх хадзіць па горадзе было добра, а ў вёсцы калдобінамі не вельмі зручна. І вось улетку ў вёсцы ў майго мадняцкага чаравіка адарваўся абцас. Паказаў бацьку са спадзяваннем, што той адрамантуе мой абутак. Бацька паглядзеў, пакруціў чаравік і сказаў: «Дрэнь нейкая, а не чаравік! Можаш выкінуць!» Словам, бацька адмовіўся мне дапамагчы. І я пачаў сам думаць, як і што тут можна зрабіць. Хутка прыдумаў. Узяў шыферны цвік і прыбіў абцас загнуўшы пад падэшву. Увечары паехаў у Мінск. На абцасе, прыбітым шыферным цвіком, я хадзіў яшчэ колькі дзён, бо не адразу змог набыць новы абутак...

***28.10.2015***

Поўня — срэбная манета, кінутая Богам пад ногі вандроўніка...

Ніхто з аўтараў не прыходзіў. Толькі ліст бярозавы праляцеў за вакном, як пачатак верша...

***29.10.2015***

Завітваў гісторык, геральдык Анатоль Цітоў. Пытаўся, ці можна выдаць томік прозы Мар’яна Віжа (23.02.1949—31.04.1999), складзены з твораў, якія пры жыцці пісьменніка не выходзілі асобнай кніжкай. Праўда, спадар Анатоль рукапіс не прынёс. З Мар’янам я быў добра знаёмы. Ён, калі я на пачатку 90-х працаваў у газеце «Наша слова», спецыяльна завітаў у рэдакцыю і запрасіў мяне выступіць перад ягонымі студэнтамі. Тады ён, калі не памыляюся, выкладаў у медін-

стытуце. Пасля той вечарыны мы часта сустракаліся ў рэдакцыі. Неяк «Наша слова» абвесціла конкурс на стварэнне гімна Рэспублікі Беларусь. Нашаму рэдактару Эрнэсту Ялугіну вельмі хацелася, каб новы гімн Беларусі быў упершыню надрукаваны ў газеце ТБМ. Шмат хто ўдзельнічаў у гэтым конкурсе. Мар'ян Віж напісаў словы на «Паланэз Агінскага». Някепскі быў тэкст. Дзе ён цяпер? Не ведаю. Потым Мар'яна мы ўзялі на працу ў «Наша слова». Праз яго я пазнаёміўся з Міколам Ермаловічам, Георгіем Штыхавым, Генадзем Кісялёвым, Язэпам Юхо. Памятаецца, як мы з Людмілай і дзецьмі адпачывалі ў Доме творчасці «Іслач» і Мар'ян адмыслова прыйшоў да нас. Ён прыязджаў да маці, якая працавала каля Ракава ў адным з піянерскіх летнікаў. Прабыў з намі паўдня. Потым у Мінску нечакана, бо без папярэджання, зазірнуў да нас у госці і падараваў нам гаршчок, які ён у свой час знайшоў на раскопках у Мінску. Сказаў, што гэтаму гаршку болей за тысячу гадоў. У нашым «Альбоме сустрэч» Мар'ян пакінуў запіс: «Аднойчы ў свеце наведаў хату, дзе жывуць адразу два Паэты. Дзіўна, што ў іх тут усё ладзіцца. З найлепшымі пажаданнямі. Мар'ян Віж. 14.08.92.»

У Мар'яна пры жыцці выйшлі дзве кнігі — «Чары даўніны» (1989) і «Лабірынт» (1991). Прыход Анатоля Цітова ў выдавецтва быў адным з найрэдкіх выпадкаў, калі пісьменнік прасіў выдаць кнігу сябра па пяру, а не сваю...

***30.10.2015***

Здарыўся цуд! Нам у выдавецтва пошта прынесла газеты «Рэспубліку» і «СБ» за 8 чэрвеня 2013 года і каля дваццаці капэртаў з дакументамі, высланыя нам з бібліятэк, што закуплялі нашыя выданні. Апошнія два гады мы тэлефанавалі ў гэтыя бібліятэкі і прасілі даслаць накладныя за атрыманыя кнігі, і заўсёды чулі: «Мы ўсё вам адправілі!» Сярод лістоў прыйшло запрашэнне на свята, што два гады таму адбылося ў Александрыі. Словам, нам прыйшлі лісты з мінулага...

***31.10.2015***

Раніцай лістота на прыступках у шматпавярховік, як залатыя сляды сабак і катоў бесхацінцаў...

Ветэрынар нашай Міёне выпісаў патрэбны корм, ад якога не будзе алергіі. Я пайшоў у сабачую краму. Стаю ў

чарзе, трымаючы паперчыну, дзе напісана, што мне трэба. Падыходзіць мая чарга. Крамніца бярэ паперчыну, і я падаю свой голас: «Нашаму сабачку трэці месяц...» Жанчына адразу ўскліквае: «А я думала, што вы не ўмееце размаўляць! Я ўжо хацела крычаць вам на вуха...» Словам, я ў чарзе па сабачы корм у вачах крамніцы быў глуханямы...

Сонечна. Іду прыхопленай шэранню лістотаю. Яна самотна шамаціць пад нагамі, і мне чуецца адвечнае: «Вось і ўсё, што было...»

У двары сярод яшчэ зялёна-залатых дрэў стаіць бязлістая бяроза. Стаіць, як мёртвая. У двор прыляцела варона і села на бярозу...

Калі прыкласці да вуха марскую ракавінку, можна пачуць шум мора, якое жыве і будзе жыць. Але, калі разгарнуць кніжку і прыкласці да вуха, можна пачуць шум лесу, якога ўжо няма...

У Нацыянальным мастацкім музеі ў межах выставы «Ад рэалізму да імпрэсіянізму. Жывапіс XIX — XX ст. з Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі» разам з сябрамі «Літаратурнага прадмесця» ўдзельнічаў у паэтычнай імпрэзе, якую вяла Людміла Рублеўская...

З дому выйшаў параней, каб паглядзець на апошні дзень кастрычніка, які ў горадзе выдаўся нязвыкла сонечным...

Каля катэдры моладзь корміць галубоў. Увесь ходнік пад птушкамі амаль белы, як паштукатураны...

Зайшоў у царкву. Сонца зазірнула ва ўсе ваконцы. Светла і святочна ў Храме, як на небе...

Выйшаў з Храма. І адразу сустрэў празаіка Маргарыту Прохар. Прыйшла паставіць свечкі дзядам...

Каля машыны, упрыгожанай стужкамі і штучнымі кветкамі, стаяць маладыя. Яна яшчэ маладая і прыгожая, а ён ужо і не малады, і да ўсяго лупаты. Падумалася: «І яшчэ адзін няроўны шлюб...»

Зазірнуў у шкляное ратушнае збудаванне, як у сутарэнне. І вялікі стол, пры якім стаяць кошыкі з кветкамі, падаўся мне велізарнай труной, у якой ляжыць волат, што загінуў, абараняючы Менск...

Зайшоў у касцёл. Акурат ішло вянчанне. Іграў арган. Уражанне, што трапіў у XIX стагоддзе. Маладыя маладыя і прыгожыя, з усмешкамі. Светлыя, нібы родныя...

У скверыку дарогаю да Нацыянальнага мастацкага музея ліхтары, як замерзлыя бурбалкі...

На жаль, не ўсе літпрадмесцеўцы змаглі прыйсці на імпрэзу. А тыя, хто прыйшоў (Рагнед Малахоўскі, Мікола Кандратаў, Таццяна Пратасевіч), чыталі вершы паэтаў срэбнага веку ў перакладах і свае творы. Думаю, што найболей запомніўся прысутным Віктар Лупасін, які агучыў верш, напісаны пасля прачытання кнігі Уладзіміра Маякоўскага. Перад выступам-перформенсам Віктар сказаў: «Калі хто адгадае, якую кнігу Маякоўскага я прачытаў, таму і падару рукапіс верша». Ніхто не адгадаў нават пасля трох падказак. Скончыўшы конкурс, Лупасін адразу скамячыў аркуш з вершам і, засунуўшы яго ў рот, пачаў жаваць. Пакуль Віктар далей выступаў, жуючы верш, яму адна жанчына прынесла кубак вады, а другая пластыкавую пляшку мінералкі. Калі ўсе літпрадмесцеўцы выступілі, адна з жанчын, якія нас слухалі, звярнулася да Людмілы: «Скажыце свайму маладому паэту, каб, калі выступае, нічога не жаваў, бо гэта не прыгожа!»

Пакуль мы выступалі, да Рублеўскай раз-пораз падыходзілі людзі і прасілі аўтограф. Адзін мужчына Людміле прынёс чырвоную ружу. Я не раўнаваў. Ружы ружамі, а мужык той вершаў не піша...

Супрацоўніца музея Надзея Вусава Людміле і мне правяла экскурсію па выставе карцін Мая Данцыга. На другім паверсе карціны мастака я глядзеў адзін. Там вельмі шмат Данцыга! Можа, і занадта. Усе карціны ў аднолькавых паводле колеру рамках. Праз гэта ў мяне з'явіўся паэтычны радок: «Рамкі белыя, як са снегу, праз якія прабіваецца золата апалай лістоты...» На першым паверсе я пабачыў зусім іншага Мая Данцыга. Манументаліста. Ад Надзеі даведаліся, што многія работы выстаўляюцца ўпершыню і яны гадамі ляжалі скручанымі ў рулоны. Кажуць, што нядаўна ў Лондане выстава Данцыга мела вялікую аўдыторыю і там былі набытыя карціны на мільён даляраў. На пытанне: «Ці праўда гэта?» мастак толькі ўсміхаецца. Гледзячы на карціны, я не мог не сказаць: «Вялікі мастак! Вельмі вялікі! Не ацэнены, як належыць». Доўга глядзелі на карціну з маржыхамі. Зда-

валася, што яна напісаная даўно. Паглядзеў, а там пазначана — 2014 год. Словам, трэба, каб у Мінску была карцінная галерэя Мая Данцыга...

Зайшлі ў кавярню, што ў музеі, каб выпіць кавы. А там драматург Андрэй Курэйчык адказвае на пытанні. Паслухалі. Папілі кавы. Парадаваліся, што музей — не карцінныя могілкі, а жывы культурны цэнтр, дзе можна сустрэць разумных людзей...

Дамоў вярталіся доўга, вандруючы вечаровым горадам, як па сваёй маладосці, дзе ў паветры, як срэбная павуціна, лётае паэзія...



* * *

Я гляджу на ваду, як на неба, што стала вадою
І дзе птушкі зрабіліся рыбамі, што нада мною
Яшчэ ўчора ляталі, шукаючы зорку, што ўпала
У траву, у якой яна кветкай купальскаю стала.
Ты гаворыш, каб я не стаяў ля вады, бо вадою
Я таксама зраблюся і знікну, як дым над травою,
Што расце там, дзе хаты стаялі, а сёння — пустэча,
Туманы вечарамі, нібыта атара авечак,
Што калісь тут хадзілі, і месца хапала на лузе
І ваўкам, і авечкам, як нам у Савецкім Саюзе.
Я гляджу на ваду, як на неба, што стала вадою
І раблюся вадой, каб застацца сабою...

**4.10.2015**

* * *

Нібы ў акварыуме, ты сядзіш у кухні
І лямпачка па-над табой гарыць і тухне,
Калі ў кватэры часам пра цябе прыпомняць,
Прыпомніўшы, табе душу вадой напоўняць
І загадаюць фортку адчыніць, бо душна
І пахне невядома чым. За шыбай сцюжна
І дваццаць градусаў ваўчынага марозу.
Сысці? Але цяпер ты, як мярцвяк, цвярозы
І з кухні толькі вынесці цябе магчыма,
Бо сёння кухня для цябе твая Радзіма
І самая цэнтральная твая Еўропа,

І ты з вакна глядзіш на свет, нібы з акопа,
Куды бывае голуб шэры заглядае
І дзюбай вострай, як груган, дзяўбае ў шыбу,
І на цябе глядзіць, як на дурную рыбу,
Якая, чалавекам стаўшы, не лятае...

**5.10.2015**

* * *

У небе апусцелым, як у полі,
Адны вятры самотныя, як мы,
Што не былі вясёлымі ніколі,
Чакаючы няведамай зімы.
І паліш ты зжаўцелыя паперы,
Як быццам перад вобшукам якім.
Гараць паперы. Дым ідзе за дзверы,
Нібыта з Меккі мёртвы пілігрым.
І ў небе дым знікае, як у полі,
Дзе ўжо нішто святое не расце
І ўжо для нас не вырасце ніколі,
Як замак не збудуецца з касцей.
І чорны попел, што яшчэ папераў
Нядаўна быў, змяшаецца з зімой,
Што першым снегам выпадзе, і дзверы
Зачыніш ты, каб я ішоў з табой
У неба пабялелае ад снегу,
Дзе зоры, як анёлавы сляды,
Дзе месца ўсім хапае для начлегу,
Але не трэба нам спяшаць туды,
Бо добра тут у гэтым сумным свеце,
Дзе, нібы вечнасць, кожная зіма
Нам дазваляе сумаваць аб леце,
Якога, як і нас, даўно няма...

**10.10.2015**

* * *

Стаіш каля патрэсканай сцяны пустога дома,
Глядзіш у неба, дзе плывуць, як першы снег, аблокі,
Куды яны цяпер плывуць, адным вятрам вядома,
Пад імі дзень, як беларускі акіян, глыбокі.

І, як падводны жоўты карабель, стары тралейбус,
Што сінім стаў, праплыў па вуліцы, як па канале.
На ровары за ім па тратуары нечы бэйбус
Прапёрся, і лістота разляцелася, як хвалі,
Пад дрэвамі, якія, як счарнелыя каралы,
Растуць у неба, больш не марачы дастаць да Бога,
Бо ўвесну ім зразаюць вершаліны, каб не стала
Высокіх дрэў у нашым горадзе завельмі многа.
Стаіш каля сцяны, і цень твой у сцяну ўрастае,
І ты знікаеш ценем у сцяне, як у мінулым,
Дзе чуеш музыку, што ўночы створана трамваем,
Якая большасці жывых здаецца мёртвым гулам.
І ты ідзеш па лесвіцы гнілой пустога дома,
І шкло з вакон трашчыць, нібыта косткі, пад нагамі,
І што на дах ты выйдзеш, гэта і табе вядома,
Ніхто ж не знае: сыдзеш сам ці паляціш з вятрамі?

**11—18.10.2015**

* * *

Нам начнога дажджу азіяцкія слёзы
На апалым лісці беларускай бярозы
Дзень суботні прынёс і ў двары ацішэла,
Дзе машыны чакаюць, як смерць, панядзелак.
Мы ідзем па двары, як па тым, што мінула
Для мяне і цябе, дзе, як вершы Катула,
Ліхтары яшчэ свецяць, каб сцежкі да Рыма
Мы заўважыць маглі, ды мілей нам Радзіма,
У якой нас, як лісця ў бярозы, нямала.
Ты гаворыш, што восень урэшце настала
І, як рэшата, неба ваду не трымае.
І калі ў каляндар дакалумбавы Мая
Верыць нам, то закончыўся свет, як дарога,
Па якой мы ішлі, як дадому, да Бога,
Каб начнога дажджу невясёлыя слёзы
На апалым лісці адзінокай бярозы
Дзень суботні прынёс і ў двары пасвятлела,
Дзе машыны чакаюць, як смерць, панядзелак...

**24.10.2015**

* * *

Сыходзяць з рэек, нібы з розуму, трамваі
І па начах вясной лятаюць над лугамі,
Як матылі над кветкамі ў пчаліным маі
Лятаюць, не заўсёды ўбачаныя намі.
І мы прыйшлі на луг, каб ночы дачакацца
І ўбачыць як ляціць трамвай дзясяты нумар,
Дзе сто гадоў таму і мы маглі катацца,
Як сыр у масле. Ты і сёння любіш гумар,
Як я люблю любіць дрыготкія трамваі,
Што хочуць лётаць днём, а днём ім нельга лётаць.
І ты мяне, нібы стары трамвай, трываеш,
Трымаешся, як за парэнчу, за мой локаць.
І мы ляцім над лугам, як над белым светам,
Дзе з рэек, нібы з розуму, сышлі трамваі,
Што дачакацца не змаглі, як волі, лета,
І лета для трамваяў пачалося ў маі.

**27.10.2015**



## *Лістапад*

***1.11.2015***

Перад маім вакном чорны кот па дрэве ходзіць, і лістота ападае на зямлю, як падраны залаты ланцуг...

***2.11.2015***

Ранкам жоўтая поўня, як рамонак, на якім уначы варажыў закаханы анёлак, плыве па нябёсным акіяне...

***3.11.2015***

Чым даўжэй восеньскія вечары, тым даўжэйшым здаецца жыццё...

***4.11.2015***

Удзельнічаў у літаратурна-музычным свяце «Каласавіны», якое на Стаўбцоўшчыне ўжо 30 гадоў праводзіць Музей Якуба Коласа...

З Мінска выехалі а палове дзясятай. За горадам нас чакаў густы туман, і адразу падумалася: «Вось ён белы свет...»

Акінчыцы. Непадалёку хаты, дзе нарадзіўся Якуб Колас, на дрэве буслянка. Доўга глядзелі на яе, нібыта раней ніколі не бачылі буслянак...

Музыка. Песні. Вершы. І праглянула сонца на хвіліну, нібыта паэт у небе адгарнуў фіранку на сваім вакне...

Альбуць. Ідзем мастком, а пад ім вады амаль няма. Гэта бабры перагарадзілі плацінай ручаіну...

Сяліба Коласа. Навокал лес. Адчуванне, нібыта прыйшлі ў дваццатыя гады мінулага стагоддзя...

Вакол сялібы за плотам стаіць шмат вуллёў — пчаліны горад, а магчыма, і сталіца...

Збанкі на плоце. Паміж імі павуцінка. Падумалася, што гэта новы восеньскі музычны інструмент...

Дубы спакойныя. Класічныя, як творы Якуба Коласа...

Смольня. За плотам Коласавай сялібы за кустоўем Нёман. Калі суцішыцца і прыслухацца, можна пачуць плынь вады, як плынь часу...

Яблыкі яшчэ не апалі, нібы адмыслова трымаюцца за галіны, каб было светла ў садзе ў дзень народзінаў Песняра...

Туман адступіў, і светлы дзень пачаўся, як новы твор Паэта...

Разам з усімі пасадзіў дубок. Спадзяюся, што яму некалі будзе тысячу гадоў...

Мікалаеўшчына. Усклалі кветкі да помніка Якубу Коласу. Прысутнічалі мясцовыя школьнікі. Колькі гадоў таму іх было болей...

Па ўсім «Шляху Коласа» стаяць драўляныя скульптуры Сяргея Клешчука. Уявілася, што, калі нікога з людзей побач няма, яны аджываюць і жывуць сваім жыццём...

З’ездзілі на могілкі, дзе пахаваны Анатоль Грэкаў, які, будучы начальнікам аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама, шчыра клапаціўся, каб «Каласавіны» каласавалі...

***5.11.2015***

З дачкой Івана Навуменкі Валерыяй і Аксанай Спрынчан ездзіў у Рэчыцу на прэзентацыю пятага тома Збору твораў Івана Навуменкі...

Ідучы на вуліцу Карла Маркса, дзе жыў пісьменнік і чакаў кіроўца аўтамабіля Уладзімір, зайшоў у царкву. Зірнуў у гаманец. Там драбяза і дзвесце тысяч адной купюрай. «Усе

грошы выскраб з гаманца!» — сказала прадавачка, калі я папрасіў дзве свечкі, падаючы ёй драбязу...

Наша дарога да Рэчыцы была праз восеньскае золата...

За паўтары гадзіны спыніліся папіць гарбаты. Каля бензакалонкі хадзілі два сабакі. Адзін чорны, а другі руды. Чорнаму пашанцавала. Аксана аддала яму сваю канапку...

У Рэчыцы хвілінаў дваццаць шукалі бібліятэку, што на вуліцы Савецкай. Літаратуразнаўца Іван Штэйнер раз-пораз тлумачыў нам праз тэлефон, як да іх даехаць. Крыху паблукалі, але затое паглядзелі горад...

Прэзентацыю распачала загадніца бібліятэкі Тамара Фёдараўна. Здаецца, і не шмат мы выступалі, але незаўважна праляцелі амаль паўтары гадзіны. Прыемна было бачыць, як з любоўю землякі Івана Навуменкі ставяцца да свайго знакамітага земляка. Праўда, вуліцы Івана Навуменкі ў Рэчыцы няма...

Пасля прэзентацыі з’ездзілі на могілкі ў Гарошкаў, дзе пахаваны Анатоль Сыс. Разам з намі былі карэспандэнт раённай газеты і Іван Штэйнер. На могілках ціха і амаль усё ў залатым лісці. Могілкі, як Сысаў Храм...

Пакланіліся Анатолю і яго родным. Паглядзелі з краю могілак на лагчавіну, дзе цёк Днепр, у якім купаўся паэт. Сумна. Але сум светлы, як лістота на бярозах, што выраслі на старым рэчышчы...

З’ездзілі да роднай хаты Анатоля Сыса. Якраз дома была ягоная сястра Тамара. Я ўжо даўно не быў у хаце, але Тамара мяне пазнала. На паліцах стаяць кніжкі, якія купляў і чытаў Анатоль. На сценах — фотаздымкі і карціны. На століках — выданні, дзе друкаваліся творы Сыса і ўспаміны пра яго. Хата ператварылася ў музей Паэта...

Ліпу, што ля хаты, збіраюцца зразаць, бо велізарнае карэнне бурыць падмурак і можа разваліць будынак...

У двары ходзяць куры і каты. Адзін чорны, а другі шэры. На яблынях сям-там яблыкі, як восеньскія ліхтарыкі...

У вялікім сшытку наведвальнікі роднай хаты Анатоля Сыса пішуць пажаданні Сысу. Многія пішуць, звяртаючыся да Анатоля, як да жывога...

Вяртаючыся ў Рэчыцу, зазірнулі ў школу, дзе вучыўся Анатоль. Акурат быў дырэктар, які, пасля таго як Аксану і мяне карэспандэнт раёнкі прадставіў, хуценька знайшоў

ключы ад школьнага музея і павёў нас на другі паверх. Праўда, даведаўшыся, хто мы, сказаў напаўжартам: «Вы нам бы новыя вокны прывезлі з Мінска!»

Школьны музей сціплы. Месца для Анатоля Сыса не ў закутку. Адчуваецца, што людзі тут разумеюць, хто такі Сыс. «Мы Анатоля цэнім! Ён жа наш вучань. Некаторыя ягоныя аднакласнікі ў нашай школе працуюць!» — развітваючыся, сказаў дырэктар школы...

Вяртаючыся ў Мінск, мы з Аксанай заснулі і праспалі разам кіламетраў пяцьдзясят...



***7.11.2015***

Удалечы чорнае дрэва, як расколіна на небакраі...

***8.11.2015***

З ліста Ван Гога брату Тэа (7 верасня 1881): «Пакахаць па-сапраўднаму — гэта ўсё адно што адкрыць новую частку свету».

У паўзмрочнай кухні, седзячы каля вакна, слухаю восеньскі дождж, як у 80-я гады мінулага стагоддзя радыё «Свабода».

***9.11.2015***

Прыходзіла бабулька. Малая, нібыта старэйшая і болей рослая сястра сямі гномікаў. З вялікім, на ўсю спіну, сіняга колеру заплечнікам. Здаецца пустым. Я думаў, што вершы прынесла. Ды не! Папрасіла, каб я пацікавіўся ў Леаніда Маракова, які напісаў двухтомнік пра Мінск, ці патрэбны яму фотаздымкі 27-га, 28-га і 29-га гадоў мінулага стагоддзя. На здымках дэпутаты Мінскай губерні. Кажу, што тады ўжо была Мінская вобласць. Бабулька апавяла далей: «Так на здымках напісана! Яны знаходзяцца ў майго знаёмага калекцыянера. Патэлефануйце Маракову!» Я затэлефанаваў. Леанід зацікавіўся здымкамі. Завяршаючы размову, прапанаваў яму даць творы ў зборнік пра каханне. Мая госця, пачуўшы гэта, усцешылася: «Калі Маракоў нічога не дасць, я вам прынясу колькі захочаце вершаў і прозы з макулатуры! На беларускай, на літоўскай, на польскай мовах! Бесхацінцы здаюць, а я захоўваю!»

***10.11.2015***

Стаю на мосце над Свіслаччу. Пада мною не вада цячэ, а наш час...

***11.11.2015***

Сёння ў шмат якіх краінах адзначаецца Дзень памяці ахвяраў Першай сусветнай вайны. Болей за 800 тысяч беларусаў былі мабілізаваныя ў царскае войска, 70 тысяч з іх загінулі на франтах. Звыш за 2 мільёны насельнікаў Беларусі сталіся вымушанымі ўцекачамі, 400 тысяч так і не вярнуліся з эвакуацыі. Колькасць тых, хто загінуў і паўміраў ад хваробаў, сярод мірнага насельніцтва перавысіла 60 тысяч. У 1916 годзе каля мястэчка Крэва загінуў мой прадзед Янка Шніп, улан царскай арміі. Яму было пяцьдзясят. Без гаспадара засталася сям'я — жонка (Крыстына Андрэеўна 1885 года нараджэння) і дзеці — Юзя (майго бацькі бацька, нарадзіўся ў 1911 годзе), Янка (1914 года нараджэння) і Зенька (нарадзілася ў 1915 годзе).

Краязнаўца Аляксандр Камінскі ў даследаванні «Крэўская пазіцыя. Хроніка супрацьстаяння» на падставе архіўных дакументаў апісвае, як выглядала мястэчка ўвосень 1915-га: «На ўсходніх яго пагорках раскінуліся абарончыя ўмацаванні рускіх, заходняя частка перайшла ў рукі германцаў. Нейтральная тэрыторыя абапал рэчкі Крыўлянкі была аблытана сеткай драцяной загароды. На нямецкім баку, упісаўшыся ў першую лінію абароны, апынуўся і Крэўскі замак...

Пахаванні, якія захаваліся, яны збольшага ўсе нямецкія, расійскіх дайшло зусім мала. У Крэве былі Васкрасенскія могілкі — зраўняныя з зямлёй, мала хто здагадваецца, што яны некалі існавалі. Каля Аляксандра-Неўскай царквы стаяла Мікалаеўская царква, таксама былі пахаванні, цяпер там толькі пару каменьчыкаў без надпісаў. Смаргонскі краязнаўца Уладзімір Прыхач займаўся ўзнаўленнем некаторых помнікаў, але надта мала захавалася звестак. Былі адзіночныя магілы, нават шмат, але з часам усё страцілася. Яшчэ ў 1960-я гэтай справай апекаваўся крэўскі краязнаўца Пётар Грынкевіч, многія ягоныя запісы забралі ў архівы Літвы. Быў Савецкі Саюз, прыехалі літоўцы з музеяў, папрасілі — ну і аддалі. Нашым, відаць, было не патрэбна. Ягоная жонка потым звярталася да мясцовых уладаў, там толькі адмахваліся: адчапіся ты, барацьба за ўраджай — вось што галоўнае, а ты тут з нейкімі запісамі».

**12.11.2015**

У рамках рэспубліканскай акцыі «Сямейнае чытанне» ў кнігарні «Светач» з 11 гадзіны да 18 праходзіў «Кніжны марафон». Першымі выступалі я з Дзмітрыем Пятровічам. Напачатку людзей было няшмат (думаю, што праз дождж), а потым на сустрэчу з Аленай Церашковай і яе сямейна-эстрадным ансамблем «Без секунднай стрэлкі» найшло шмат дзяцей. Жанчына, з якой я сустрэўся ў дзвярах кнігарні, бо трэба было ехаць у бібліятэку імя Янкі Купалы на XIX Мінскія паэтычныя чытанні, сказала: «Слушна робіце, што прывучаеце дзяцей да беларускай мовы!»

У бібліятэцы сабралася шмат слухачоў. На жаль, не прыйшлі тры паэты, чые вершы ўпрыгожылі б імпрэзу і надалі б ёй большую значнасць. Спадабаліся студэнты, якія хораша пад музыку чыталі вершы. Прыканцы ўзбадзёрыў мяне і надаў добрага настрою артыст Сяргей Кравец, які праспяваў пяць беларускамоўных песень. Вяртаючыся дамоў праз гарадскі самотны дождж, думаў пра калег па пяру, якія не прыйшлі на паэтычныя чытанні: «Не прыйшлі, бо сапраўды прыхварэлі, ці не захацелі выступаць у адной кампаніі з пачаткоўцамі і тымі, хто немалы час пісаўшы на беларускай мове, перайшоў на рускую, каб сваімі тварэннямі плённа ўзбагачаць вялікую рускую паэзію?»



**13.11.2015**

У бібліятэцы імя Цёткі ўдзельнічаў у вечарыне «Сакральная Беларусь. Колеры. Жоўты». Палова выступоўцаў не прыйшла, але ад гэтага Паэтычны тэатр «Арт. С.» не сеў у калюгу, якіх на вуліцы пасля дажджлівага чацвярга ставала. Аксана Спрынчан, даючы мне слова, зачытала маю «Баладу пра Кітай», пра якую даўно забыўся:

*Мы сабе прыдумалі Кітай,*
*Жоўты, як наш жоўты папугай,*
*Для якога белая Еўропа,*
*Як для Адысея Пенелопа,*
*Недзе там далёка за гарой.*
*Нам не трапіць у Кітай з табой,*
*Бо і так народу там хапае,*
*Ды і тут ніхто нас не чапае.*
*Рыбу ў Хуанхэ нам не лавіць,*
*Па Шаўковым шляху не хадзіць,*

*Бо мы тут прыдумалі Кітай*
*І на кухні п'ем кітайскі чай,*
*І, будуючы з цытат сцяну,*
*Мы вядзем сусветную вайну,*
*У якой не выжыве й Кітай,*
*Толькі застанецца папугай,*
*Жоўты, як кітайскі мандарын,*
*І паўрускі, быццам бы Харбін...*
*Мы сабе прыдумалі Кітай...*
*Хочаш — будзь тут з намі,*
*Хочаш — уцякай!*

Цікава было паслухаць Рэгіну Багамолаву, Максіма і Ірыну Клімковічаў. Як заўсёды Альжбэта Малішэўская-Спрынчан хораша паспявала народныя песні. Мікола Пруднікаў да пачатку вечарыны і пасля граў на фартэпіяна. Словам, спектакаль пра жоўты колер жоўтая прэса не збэсціць...



***14.11.2015***

Дождж. І я радуюся, што дождж. Няхай ён ідзе да гадзін трох. Чаму? Бо ўчора з сястрой планавалі паехаць у вёску, калі не будзе дажджу. Сёння прачнуўся а сёмай. На вуліцы — дождж. Патэлефанаваў сястры. Вырашылі, калі ён перастане, то паедзем. Дождж часам пераставаў, але зноў пачынаўся. Можна было і ехаць, але на вуліцы ў такое надвор'е ў вёсцы цяпер нічога не зробіш, што трэба. І калі б дождж а гадзіне дзясятай перастаў і болей не ішоў, то цэлы б дзень, а магчыма, і тыдзень, я шкадаваў бы, што не паехалі ў вёску. У наступныя выходныя паедзем абавязкова! Нават, калі будзе дождж...

Нягледзячы на дождж, з Людмілай ездзілі ў майстэрню скульптара Івана Міско.

Пераходзячы вуліцу каля касцёла, размінуліся на пераходзе з графам Прушынскім. Мы паспелі перайсці, а граф патрапіў пад хвалю моцнага ветру, які сярод вуліцы зламаў яму велізарны парасон, сарваў з галавы шапку і кінуў пад колы машын...

У майстэрні Іван Якімавіч з Міхасём Кенькам чакаў нас. У расчыненай печцы весела гарэў агонь, і цяпло распаўзалася сярод скульптур, як вясновая паводка...

За хвілінаў дваццаць да нашай кампаніі далучыўся архітэктар Сяргей Асташонак, а яшчэ па нейкім часе прыйшоў чалавек, які займаецца вырошчваннем бульбы і ейным продажам...

Іван Якімавіч узгадаў, што ўчора быў на святкаванні юбілею Акадэміі мастацтваў: «Усе выступалі па-беларуску. Далі слова намесніку міністра адукацыі, і ён пачаў прамаўляць па-руску. Быў бы гэта нейкі дырэктар завода, дык кажы ты па-руску, але ж гэта намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь! На тле ўсіх выступоўцаў ён глядзеўся не як намеснік міністра адукацыі...»

Не маглі мы не паразмаўляць пра Парыж і тэракты, якія ўчора там адбыліся. Іван Якімавіч у Францыі ні разу не быў і з цікавасцю слухаў аповед Людмілы пра Парыж і Невер, у якіх яна тыдні два таму была...

Кажучы пра Парыж і творчых людзей, Іван Якімавіч узгадаў: «За саветамі жонка пісьменніка Анатоля Шаўні Зоя ездзіла ў Парыж з нейкай дэлегацыяй. Перад ад'ездам дамоў усім далі магчымасць пахадзіць па горадзе і набыць, што захочацца. Час вольны прайшоў, і ўсе сабраліся ў аўтобус. Адразу жанчыны пачалі адна перад адной хваліцца, хто якія станікі, хто якія майткі набыў. Зоя Шаўня таксама пахвалілася. Паказала ўсім свой партрэт, які ёй толькі што намаляваў парыжскі мастак і за які яна аддала ўсе грошы. Пасля гэтага ніхто болей не стаў хваліцца пакупкамі...»

На вуліцы ішоў дождж, у печцы гарэлі дровы. Мы размаўлялі з Іванам Якімавічам, а ягоныя скульптуры глядзелі на нас і слухалі. Так праляцелі дзве гадзіны. Ідучы на аўтобусны прыпынак, мы спыніліся каля Французскай амбасады і пастаялі разам з людзьмі, якія клалі кветкі і ставілі свечкі ў памяць загінулых у Парыжы. Многія плакалі...

### *15.11.2015*

У скверы, прыдзьмутым восеньскім ветрам, стары сядзеў на лаўцы на разасланай газеце. Пад ягонымі выпацканымі ў пясок чаравікамі ляжала апалая лістота, а высока ў небе кружляў крумкач, як чорны анёл.

### *16.11.2015*

З выдавецкага дзявятага паверха з Уладзімірам Сцяпанам глядзім на шматпавярховік, які ўжо амаль пабудаваны на месцы філфакаўскага інтэрната. Дом абліцаваны чорным шклом, як чорным лёдам. Валодзя кажа: «Ён падобны да крэматорыя». Я не пярэчу. А мне гэты чорны будынак даўно здаецца атамнай электрастанцыяй. Колькі месяцаў таму мастак Уладзімір Васюк назваў гэты дом чорным квадратам Малевіча...

Першы раз у жыцці выгульваў сабаку. Нашай Міёне заўтра ўжо тры месяцы. За гадзіну шпацыру мы пазнаёміліся з шасцю сабакамі. Яны ўсе былі меншыя за нашу. Падыходзілі і ўцякалі. Ідучы дахаты, да Міёны прычапіўся Балу. Дзяўчына, якая яго выгульвала, была сімпатычная...

***17.11.2015***

Быў на радыё. Яна Хадоска са мной запісала ажно тры перадачы. Апавядаў пра выдавецкія справы і пра сваю кніжку «Заўтра была адліга». Пасля студыі выйшаў на калідор і пабачыў прыгожа апранутую дзяўчынку, якая гучна спявала беларускую песню пра каханне. Побач з ёй стаялі жанчыны і яшчэ колькі дзяўчынак гадоў дзесяці. Я спыніўся паслухаць. Неўзабаве дзяўчынка скончыла спяваць і адна з жанчын ёй параіла, каб тая пасля песні сказала «спасіба». Пачуўшы гэта, я ўторкнуў свае тры грошы: «Лагічна было б пасля беларускамоўнай песні сказаць “дзякую”».— «Вой! Слушна! Скажы “дзякую”!» — заўсміхалася жанчына і прытуліла да сябе малую.

***18.11.2015***

У Музеі Максіма Багдановіча быў на вечарыне «Час робіць усё, што яму прыспявае», прысвечанай 110-годдзю з дня народзінаў Яна Скрыгана, якую арганізавалі і правялі супрацоўнікі Музея гісторыі беларускай літаратуры пры актыўным удзеле дачкі пісьменніка Галіны Іванаўны. Зала была паўнюткая. Прыемна было сустрэцца з Васілём Зуёнкам і Кастусём Цвіркам. Прысутнічалі дочкі класікаў — Наталля Семашкевіч (Брыль) і Валерыя Навуменка. Выступоўцы прамаўлялі коратка і па справе, але было пару і такіх, якіх карцела прагнаць ад мікрафона, бо яны ўсё казалі і казалі і далёка не пра юбіляра...

З Янам Скрыганам я пазнаёміўся недзе ў годзе 1980-м у Музеі Янкі Купалы ў кабінеце Хрысціны Лялько. Потым былі яшчэ выпадковыя сустрэчы ў рэдакцыях. Здавалася б, хто я такі для Скрыгана? Малады пачатковец. Ну друкуюся. Хаджу на літаб’яднанні. Такіх, як я, дзясяткі. А тут Скрыган, сустрэўшы мяне, распытваецца пра маё жыццё, размаўляе пра мае вершы, якія ён чытаў у перыёдыцы. Цытуе мае добрыя і дрэнныя радкі. Раіць, як і што рабіць далей. Такіх сустрэч было нямала, і яны вельмі дарагія. Асабліва запомнілася паездка ў Вязынку на святкаванне 100-годдзя з дня народзінаў

Янкі Купалы. Ехалі электрычкай. Кампанія сабралася немалая. Ян Аляксеевіч, Хрысціна Лялько, Роза Станкевіч, Мікола Мятліцкі, Леанід Галубовіч і я. Калі не памыляюся, квіткі нам набыў у Вязынку і назад Ян Скрыган. Пасля ўрачыстасцяў і свята паэзіі Ян Аляксеевіч нас частаваў. Сядзелі на траве пад дрэвамі, пілі фінскі вішнёвы лікёр. Размаўлялі пра літаратуру. Па чарзе чыталі вершы Яну Аляксеевічу. Вярталіся ў Мінск позна ўвечары. На душы было хораша-хораша. І цяпер, успамінаючы той далёкі святочны дзень, праведзены ў кампаніі з Янам Скрыганам, не магу болей нічога падобнага ўзгадаць. Праўда, нішто не паўтараецца. Аднак магу пахваліцца: «Я чытаў свае вершы Яну Скрыгану!» Мо для некага гэта пустое, але тады той зусім не ведае, хто такі Ян Скрыган...



***20.11.2015***

У двары пад дажджом стаяць машыны, як у нечым вінаватыя перад сваімі гаспадарамі...

***21.11.2015***

Спаў, як з Парыжа ўцёкшы...

Першая ільдзінка ў вадзе, як рыбка...

***22.11.2015***

Праходзячы паўз Кальварыйскія могілкі, заўважыў, што на іх шмат старых крыжоў і агароджаў пафарбаваныя ў сіні колер, які мне напомніў, што за восеньскімі дажджлівымі аблокамі ёсць чыстае неба...

***23.11.2015***

Уночы выпаў першы снег. На Свіслачы чайкі, як снежкі, якімі з аднаго берага на другі перакідваліся закаханыя, што гулялі ажно да ранку каля Траецкага прадмесця...

***25.11.2015***

Наша газавая калонка для награвання вады болей не рамантуецца. Цяпер, каб старую памяняць на набытую новую, трэба дачакацца пяці візітаў розных спецыялістаў — газавікоў, мантажнікаў, пажарнікаў, наладнікаў, пускавікоў. Сёння няспраўную калонку адлучылі. Потым другі спецыяліст пачапіў новую. Так мінуў дзень. Заўтра павінныя прыйсці

пажарнікі. Сказалі, каб чакаў іх тэлефанавання. Гледзячы на спецыялістаў, якія прыходзяць, і як яны выконваюць свае абавязкі, думаю, што я сам бы ўсё гэта зрабіў за колькі гадзінаў. Праўда, мая праца была б незаконнай. А так усё законна. І ўсё платна. Ведаю, што некаторыя пенсіянеры ў нашым раёне, не могучы адрамантаваць калонак, грэюць ваду ў рондалях на газавых плітах...

***26.11.2015***

Сёння святкуецца 70-годдзе часопіса «Нёман». Схадзіў бы і я на ўрачыстасці, калі б не хатнія праблемы з газавай калонкай, якія, чым болей імі займаюся, тым яны ўсё толькі павялічваюцца. Хацелася ж, каб усё было паводле закону. Цяпер паводле закону няпэўны час мы будзем без гарачай вады. І ўсё ж сёння свята і ў мяне. Як-ніяк, а з 1980 па 1985 год я працаваў літкансультантам у «Нёмане». Трапіў я туды дзякуючы загадніку аддзела паэзіі часопіса Браніславу Спрынчану. Тады я нідзе не працаваў і не вучыўся. Быў дармаедам. Хадзіў па рэдакцыях з вершамі. Надрукаваўшыся ў «Полымі», «Маладосці», «Беларусі» і ў «ЛіМе», пайшоў у «Нёман» прапанаваць свае творы на пераклад. Браніслаў Пятровіч сёе-тое ўзяў. Праз тыдзень я зноў прыйшоў. Размаўляліся. Чыталі адзін аднаму вершы. І, відаць, Браніслаў Пятровіч, размаўляючы са мной, здагадаўся, што я вольны паэт, а рэдакцыі акурат быў патрэбны няштатны літкансультант, таму ён і прапанаваў мне працу. Я з радасцю пагадзіўся. Праўда, аплата была невялікая — за адзін адказ адзін рубель. У месяц атрымлівалася ад дваццаці да сарака рублёў. Недзе за год у рэдакцыі газеты «Вячэрні Мінск», ведаючы, што я працую літкансультантам у «Нёмане», прапанавалі быць і ў іх літкансультантам. Пасля гэтага я стаў зарабляць ад сарака да шасцідзесяці рублёў у месяц. Грошы невялікія, але ж грошы. І я не прапаў. І не прапаў, дзякуючы «Нёману», у якім працаваў незабыўны Браніслаў Пятровіч Спрынчан...

***27.11.2015***

Займаючыся заменай газавай калонкі, за гэты тыдзень тры старонкі сшытка, куды пішу вершы, спісаў тэлефоннымі нумарамі, а гарачай вады так і няма. Да газавых разборак падлучылася Людміла. Наша Міёна чакае сваёй чаргі, як у казцы пра рэпку...

***28.11.2015***

З сястрой Валяй і яе мужам Віцем ездзіў у Пугачы...

На вуліцы на прыпынку станцыі метро «Магілёўская» чакаў амаль паўгадзіны, пакуль швагра падбярэ мяне машынаю. Змерз і засумаваў. За хвілінаў пяць да прыезду Віці патэлефанавала дачка і паведаміла, што да нас прыйшоў чалавек з Мінскага водаканала і памяняў лічыльнік на ваду, і ён пытаецца, чаму ў нас нулявыя паказнікі на старым прыборы. «Нулявыя, бо заўчора, калі быў дома наш Максім, прыходзіў чалавек з водаканала і памяняў лічыльнік!» — адказаў я і засмяяўся, уявіўшы, што яшчэ за дзень прыйдзе нехта з водаканала і пры Людміле памяняе лічыльнік, а потым яшчэ ў чацверты раз памяняюць і пры мне...

Заехалі да бацькоў на Ракаўскія могілкі. Усё прысыпана снегам. Светла. А тут і сонца засвяціла. На помніку пачала раставаць шэрань. Сястра, пабачыўшы, як з помніка крапае вада, сказала: «Плачуць нашыя бацькі...»

На палях праз снег тырчаць зялёныя стрэлкі азімых. Ад іх цёпла вачам і душы...

На буслянцы лапік снегу, як ліст пакінуты буслямі...

У вёсцы ціха. Нідзе не відаць ні варон, ні галубоў, ні вераб'ёў. Пару вяскоўцаў прамінула нашу хату. Жыццё не спынілася...

У хаце яшчэ не холадна. Завёў гадзіннік. Яшчэ болей пацяплела. Улучыў радыё. Хата наагул аджыла. Падалося, што бацькі на працы і па нейкім часе, пабачыўшы, што каля хаты стаіць машына, вернуцца дадому...

На кухні ўцяплілі ваду. Схадзілі да дзядзькі Шуры і цёткі Дзіны. Падзяліліся навінамі. Добра, што ў вёсцы яшчэ жывуць родныя...

На чарнаплоднай рабіне прыхопленыя марозам ягадныя гронкі, як патухлыя сузор'і нашага саду...

Адзінокі яблык прымерз да травы. Бяру — і здаецца, што трава не хоча яго мне аддаваць...

Непадалёку ад нашай хаты сажалка зацягнутая лёдам. Нясмела ступаю на лёд. Ён патрэсквае, але трымае. І мы з Віцем пакаталіся, як у дзяцінстве...

Вярнуўся з роднай вёскі. Адчуванне, што нібыта пабыў у цэнтры белага свету...

***29.11.2015***

Заходзіў у майстэрню да Алеся Квяткоўскага. Размаўлялі пра выставы, вечарыны і пра Караткевіча. Алесь падтрымаў маю думку, што, калі б сёння жыў Уладзімір Сямёнавіч, быў бы і ён такім самым самотным, як цяпер Ніл Гілевіч. У дзевяностыя гады, калі сталі народнымі Гілевіч і Барадулін, атрымаў бы і ён званне народнага пісьменніка. На сённяшні дзень не было б таго васьмітомнага Збору твораў, што выйшаў па смерці пісьменніка. Ніхто не выдаваў бы Збор твораў у 25-ці тамах, і наагул у цяперашніх варунках і ў Караткевіча былі б цяжкасці з друкаваннем новых твораў. За трыццаць гадоў, якія праляцелі з 1984 года, Караткевіч напісаў бы яшчэ каля пятнаццаці гістарычных раманаў. Многія з іх, як і раней, напачатку друкаваліся б на замежных мовах, а потым ужо ў нас на роднай. Колькі гадоў таму мы б мелі нашага першага Нобелеўскага лаўрэата, і ім бы быў Уладзімір Караткевіч. Было б шуму з паўгода, а потым усё б заціхла, як звычайна ў нас бывае. 26 лістапада на 85-годдзе Уладзіміра Каратевіча адбыліся б вечарыны, на якія б ён не пайшоў. Праўда, да самога Караткевіча з віншаваннямі б людзі ішлі колькі тыдняў, пакуль ён не перастаў бы адчыняць дзверы гасцям. Усё гэта магло б быць, але мы маем тое, што маем...

***30.11.2015***

Працягваем замену старой газавай калонкі на новую. У пятніцу ў ЖЭСе абяцалі на сёння даслаць майстра, які зробіць вентыляцыю. Едучы з працы, яшчэ ў аўтобусе, патэлефанаваў жэсаўцу, што буду яго чакаць за пяць хвілінаў. Не паспеў дома распрануцца, як з'явіўся майстра... на мыліцах. Параіў патэлефанаваць у Белвентыляцыю. Нумар тэлефона не даў, бо не ведае, а пакідаючы кватэру, сказаў: «Магчыма, ужо Белвентыляцыі не існуе...»

* * *

У імбрыку зноў выкіпае вада.
Калі не падыдзеш, то імбрык згарыць.
І пройдзе аўторак, пасля — серада,
Як пара, што з імбрыка зараз курыць.
І шыбы пацеюць, і шэры пакой
Цяплом напаўняецца, нібы вадой.

Бярэш цыгарэту, і дыбіцца дым.
Ён, волю спазнаўшы, знікае праз міг
Пад столлю, як небам высокім тваім,
І ў лёгкіх, як складзеных крылах тваіх.
І ты разумееш, што добры настрой,
Як дым, што цяпер напаўняе пакой.

У імбрык ізноў даліваеш ваду
І сыплеш гарбату ў гарбатнік стары,
Бярэш каляндар і ірвеш сераду,
Камячыш, як снежку ў заснежным двары,
Кідаеш у сметнік, і ў шэры пакой
Заходзіць чацвер з перабітай нагой,
Нібыта сабака, што бег за табой.

А ў імбрыку зноў выкіпае вада.
Калі не падыдзеш, то імбрык згарыць,
І сыдзе чацвер, і зноў прыйдзе жуда,
І будзе табе зноў пра смерць гаварыць.
І шыбы зляднеюць, і шэры пакой
Напоўніцца змрокам, нібыта трухой.

Ты ў імбрык ізноў даліваеш ваду.
І на каляндар, як на Бога, глядзіш.
Зноў заўтра субота, і я зноў прыйду,
Табе раскажу пра зімовы Парыж...

**7.11.2015**

**ЖОЎТЫ, ЖОЎТАЕ І ЗАЛАТОЕ**

штовосень белы свет
на нейкі час робіцца жоўтым
як палітра мастака
які не малюе чорныя квадраты
а які любіць сланечнікі
і дзьмухаўцовыя лугі
жоўтыя як Жоўтае мора
якое выйшла з кітайскіх берагоў
і затапіла па жоўты ўзровень
наш адзінокі белы свет
дзе жоўтыя дзюбы ў птушанят

дзе кураняты жоўтыя
як коцікі вярбовыя
жоўтыя жоўтыя жоўтыя
над чорнай зямлёй
дзе жоўты пясочак
як залаты
як залаты пясочны гадзіннік
для якога няма залатога ланцужка
і ўсё залатое жоўтае
як наш БАТЭ
што гуляе ў футбол
у жоўтай форме
нават калі на полі
не залатая пара футбола
і прайграючы іспанскай «Барселоне»
з лікам 0:3
і атрымаўшы колькі жоўтых картак
якія як гарчычнікі
што горыч прыносяць і лекуюць
наш жоўты БАТЭ
застаецца для нас залатым
і жоўты балонік ляціць у неба
і знікае сярод зорак
а магчыма там ужо і не зоркі
а жоўтыя балонікі
якія раз-пораз лускаюць
ад холаду і падаюць знічкамі
у залатую арду лістоты
з якой змагаюцца дворнікі
у жоўтай вопратцы
і ты ідзеш у Катэдру
якую ты памятаеш яшчэ жоўтай
а цяпер яна белая
як снег які не растае
у якім жоўтыя агеньчыкі свечак
як залатыя коскі
у сказах пра жыццё і смерць
дзе смерці няма
і ўвечары жоўтыя ліхтары каля Катэдры
як залатыя душы менчукоў
слухаюць залатыя словы Бога

і ты ідзеш у жоўты тралейбус
як у жоўты падводны човен
які плыве ў акіяне ночы
сярод дамоў як рыфаў
дзе ёсць жыццё там
дзе жоўтыя вокны
дзе ў жоўтым доме
ты нарадзіўся даўным-даўно
калі ў святлафора
гарэла жоўтае святло
і не было яшчэ вядома
будзе далей зялёнае ці чырвонае
і жоўтыя таксоўкі
як гарадскія анёлы
развозілі ўсіх туды куды хто хацеў
а ты плыў у жоўтым падводным чоўне
і слухаў восеньскую музыку
пажаўцела-залацелай лістоты
якая магла паляцець да сонца
але абрала зямлю
дзе ёсць жоўтыя фарбы
дзе ёсць жоўтая прэса
дзе з кропелек мёду
і жаўткоў курыных яек
зleплена тутэйшае сонца
жоўтае жоўтае жоўтае
як вялікі жоўты кубак
дзе запараныя зёлкі
ад жоўтай ліхаманкі
і ляжыць на маім стале
жоўты лімон
як вялікая жоўтая кропка
якой сёння пазначаны
цэнтр жоўтага свету
які пачаўся з першага жоўтага лістка
што праляцеў праз тваю душу залатую
як праз жоўтую

**9.11.2015**

* * *

На захадзе сонца ўзышло
І зойдзе, напэўна, на ўсходзе.
І слізгае сонна святло
Па небе, нібыта па лёдзе,
Які не растане цяпер,
Бо ўночы зіма наступіла
І ў лесу аблезлы каўнер
Дарога свой пыл затуліла.
І ты, адзінокі, глядзіш
На сонца, якое дурнотна
З усходу ўзышло, дзе Парыж,
Дзе страшна цяпер і самотна.
А мо гэта ўсё — толькі сон,
І сонца ўзыходзіць, дзе трэба,
Вялікае, быццам бы слон,
Які засяліўся на неба
І круглым зрабіўся, каб ты
Яму, адзінокі, дзівіўся
У час, калі з дрэваў лісты
Зляцелі, і страх нарадзіўся...

**21.11.2015**

* * *

Кроплі іржавай вады, нібы вечнасці кропкі,
Падаюць з чорнага даху на снежань нясвежы,
Што растае, нібы прывід стары, нетаропка
Пад белым небам без сонца, нібыта без вежы
Замак, які мы стварылі, каб разам сагрэцца
Сёння, калі халадэча і змрок абступае
Ліст на асіне апошні, як раніцы сэрца,
Што нарадзілася і на вачах паміраае
Тут у завулку, дзе хаты старыя, як людзі,
Як перад прорвай, прад вуліцай новай і тлумнай
Год ужо цэлы стаяць і не знаюць, што будзе
З імі, і з гэтага нам адзінока і сумна
Гэтак, як кроплям вады, што як вечнасці кропкі
Падаюць з чорнага даха на снежань нясвежы,
Што на асфальт прызямліўся ўначы нетаропка
Сцягам падраным з захопленай ворагам вежы...

**25.11.2015**

## *Снежань*

***1.12.2015***

У снезе затаілася смецце, каб дабыць на сваім месцы хоць бы да вясны...

***2.12.2015***

У Нацыянальным мастацкім музеі ўдзельнічаў у прэзентацыі кнігі «Алексей Кузьмич. Творец возвышенных Мадонн», якая выйшла ў «Мастацкай літаратуры» да 70-годдзя мастака Аляксея Кузьміча (1945—2013). Перад імпрэзай баяўся, што ніхто не прыйдзе. Аднак сабралася чалавек пяцьдзясят. З іх толькі пяць мастакоў. Пра гэта прысутныя даведаліся, калі кінарэжысёр фільма пра Сафію Слуцкую папрасіў падняць рукі мастакам, якія прыйшлі на прэзентацыю. Прадавалася кніга. Купілі трынаццаць асобнікаў. Да мяне падыходзіла народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч і падзякавала за вершы, якія яна чула праз радыё. Прысутныя мелі магчымасць не толькі паслухаць выступоўцаў, але і паглядзець карціны з пастаяннай музейнай экспазіцыі, а таксама выставу «Ад рэалізму да імпрэсіянізму. Жывапіс XIX — XX ст. з Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі», дзе прадстаўленыя творы І. Рэпіна, І. Шышкіна, В. Пярова, А. Саўрасава, В. Верашчагіна, В. Паленава, А. Куінджы, К. Каровіна, І. Левітана і параўнаць іх з карцінамі Аляксея Кузьміча...

***3.12.2015***

Супрацоўніца выдавецтва, якой што ні даручы, усё выканае добрасумленна, прынесла рэдакцыйную пошту. Кладучы мне лісты на стол, сказала: «Нам нейкі ліст з суда прыйшоў...» Зірнуўшы на капэрту, вырашыў пажартаваць: «Нам тут год турмы прысудзілі. Мо вы паўгода паседзіцё, а потым мы знойдзем каго-небудзь вам на замену. Добра?» Жанчына на імгненне разгубілася, а потым гучна рассмяялася...

***6.12.2015***

У майстэрні Алеся Квяткоўскага цячэ з трубы вада. Выклікаў майстроў з ЖЭСа. Нічога не зрабілі. Сказалі: «Не затаплівае? Не! Лічыльнік не круціцца? Не! Ну дык няхай і цячэ!» Цячэ другі месяц. А я ўзгадаў, што ў мяне ў вёсцы з калонкі, што ў дзесяці метрах ад хаты, ужо гадоў пятнаццаць

такая самая бяда. Раз-пораз нешта рамантуюць, але балота не знікае. Алесь, паказваючы, дзе прарвала трубу, кажа: «Вада цурчыць, і, калі малюю, часам здаецца, што я не ў майстэрні, а на прыродзе каля ручаіны...»

Раніцай заўважыў, што ў нашым двары на бэзе пупышкі зазелянелі. Яшчэ пару дзён — і лісце з'явіцца. Падумалася, магчыма, я ўсю зіму праспаў і цяпер на вуліцы сакавік?

***8.12.2015***

У Доме кнігі, дзе месцяцца выдавецтвы, на восьмым паверсе ў калідоры і ў прыбіральні пахне, як у Ракаўскай бальніцы, дзе памёр (неўзабаве будзе тры гады таму) мой бацька. Узгадваючы бальніцу, падумаў: «У выдавецтвах таксама не ўсе рукапісы выжываюць...»

Да святаў, да дзён народзінаў на працы часам даводзіцца ў дадатак да празаічных радкоў пісаць вершы. Потым віншаванні раздрукоўваем на прыгожых, зробленых выдавецкімі мастакамі, паштоўках. За апошніх дзесяць гадоў такога дабра мной напісана каля пяці дзясяткаў. У мяне амаль нічога не захавалася. Напісаў і забыўся. Нашы супрацоўніцы, якія займаюцца наборам і вёрсткай тэкстаў, увесь час мне кажуць, каб гэтыя экспромты выдаў асобнай кніжкай. У адказ толькі ўсміхаюся і амаль нічога не захоўваю. Некаторыя ўжо трапілі ў сметніцу, а некаторыя пыляцца ў шуфлядах. Сярод старых папер знайшоў колькі рукапісных віншавальных твораў, напісаных Леанідам Дранько-Майсюком. Хутчэй за ўсё іх у самога аўтара няма. Захаваю. Нядаўна я напісаў верш для віншавання і на просьбу выдавецкіх жанчын з камп'ютарнай занатаваў:

*Апошнія дні лістапада,*
*Нібыта вуголле кастра,*
*Якім асвятляецца Свята*
*Любові, Кахання, Дабра,*
*Якое бацькамі пачата,*
*Якое не мае мяжы,*
*Бо гэта вялікае Свята*
*Святое, як продкаў крыжы,*
*Як неба, як сонца, як зоры,*
*Якія заўсёды з табой,*
*Якія цябе не паўтораць,*

*Як музыку ў кветцы вясной,*
*Бо ўсё непаўторна, што свеціць*
*З тых дзён непаўторных тварэння,*
*Калі мы з'явіліся ў свеце,*
*І дзень той стаў Днём Нараджэння!*

***9.12.2015***

Сёння дзень народзінаў Максіма Багдановіча. Удзельнічаў ва ўрачыстым ускладанні кветак да помніка паэту. Нягледзячы на холад, людзей сабралася даволі шмат. Праўда, пераважна школьнікі і студэнты. Змерз. І няслаба. І відаць, змерзлі ўсе. Прадстаўляючы мяне, загадніца Музея Максіма Багдановіча Марына Запартыка сказала: «Зараз выступіць галоўны рэдактар выдавецтва „Роднае слова“...» І я пачаў з выпраўлення агаворкі: «Мы тут усе ўжо змерзлі, таму і не дзіўна, што выдавецтва „Мастацкае слова“ назвалі „Родным словам“». Сказаў і зразумеў, што і я памыліўся, таму давялося адразу выпраўляцца на «Мастацкую літаратуру». Аксана Спрынчан, якая выступала пасля мяне, потым апавяла, што мая агаворка ўспрынялася як дасціпны жарт. Словам, было холадна. Але найгалоўнейшае — каля Максіма Багдановіча былі людзі і спадзяюся, што нехта з іх прыйдзе ўвечары дадому ў цяпло, возьме томік з вершамі паэта і разам з ім у тыдзень Нобелеўскіх лаўрэатаў задасца пытаннем: «Хто мы такія? Толькі падарожнікі,— папутнікі сярод нябёс. Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?»

***10.12.2015***

Сёння споўнілася 145 гадоў з дня народзінаў мастака Фердынанда Рушчыца, які нарадзіўся ў маёнтку Багданава на Ашмяншчыне (цяпер Валожынскі раён). Мінулым тыднем мне патэлефанавала Валожынскае начальства і папрасіла, каб я выступіў на свяце. Да свайго сораму я ні разу не быў на радзіме свайго знакамітага земляка, таму з радасцю даў згоду...

Ідучы да мікрааўтобуса, які чакаў вандроўнікаў у Багданава на Цэнтральным пляцы, зайшоў у царкву. Было пару чалавек. Зусім маладыя. Са светлымі тварамі. Замовіў малітву па бацьках і сваяках, у памяць Фердынанда Рушчыца паставіў свечку.

З Мінска выехалі а восьмай гадзіне. Чалавек пятнаццаць. Мастакі, супрацоўнікі Нацыянальнага мастацкага музея, карэспандэнты. Амаль усіх ведаю. Сядзеў з Уладзімірам Васюком. Усю дарогу размаўлялі пра жыццё-быццё і пра тых,

каго ўжо няма з намі. За вокнамі мікрааўтобуса — туман. Часам здавалася, што мы не едзем, а ляцім самалётам...

У Валожыне да нас далучыліся госці з Літвы і Польшчы. Паперадзе нас ехала міліцэйская машына з мігалкай...

У Багданаўскім касцёле ўжо былі людзі. Ксёндз чытаў малітвы па-беларуску і па-польску.

Фердынанд Рушчыц пахаваны на мясцовых могілках на ўзгорку, як на вяршыні зялёнай беларускай гары, якая ў гэтай мясціне найбліжэйшая да неба. А неба было бясхмарнае. Свяціла сонца. Туман растаў — і перад намі з'явіліся краявіды, нібыта аджылі карціны Рушчыца...

У Вішнеўскай мастацкай школе адбыліся ўрачыстасці, якія распачаліся з мяне — прачытаў «Баладу Фердынанда Рушчыца». Потым выступалі валожынскае начальства, паслы Літвы і Польшчы, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў і яшчэ шмат хто...

Алесь Квяткоўскі падараваў будучаму музею Фердынанда Рушчыца карціну. Ён у Багданава прыехаў цягніком яшчэ ўчора. Начаваў у сяброў...

У мастацкай школе працуе невялікая фотавыстава Міколы Лінніка. На сценах вісяць карціны мастакоў, намаляваныя падчас пленэра. На іх краявіды, якімі ў свой час натхняўся Рушчыц...

Палуднавалі ў Валожыне. Калі госці пачалі збірацца ў дарогу, да мяне падышлі дзве жанчыны, якія працуюць у Вільні ў гімназіі імя Фердынанда Рушчыца, і папрасілі падараваць з аўтографам кнігу «Проза і паэзія агню», дзе змешчаная балада пра мастака...

На вуліцы, калі ўжо сядалі ў мікрааўтобус, да мяне падышоў мастак Алесь Суша і гучна сказаў: «Урэшце я пазнаёмлюся са Шніпам!» Я тут жа яму нагадаў, што нас яшчэ на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя знаёміў Анатоль Сыс і мы потым яшчэ колькі разоў сустракаліся на розных імпрэзах. Алесь прызнаўся, што не памятае. Сапраўды, можна было і забыцца, бо пасля тых сустрэч мы болей ні разу і не кантактавалі...

У Мінск вярталіся вясёлыя. Знайшлося ў мікрааўтобусе месца і Алесю Квяткоўскаму. Я выходзіў на Гусоўскага. Развітваючыся, мне моцна сціснуў руку Алесь Суша і сказаў: «Не пушчу!» — «Пусці!» — усміхаючыся, колькі разоў паўтарыў я, на што мастак сказаў: «Гэта не я трымаю! Гэта нас трымае Анатоль Сыс!»

***11.12.2015***

Да 75-годдзя з дня народзінаў Уладзіміра Мулявіна рыхтуем да друку кнігу, створаную Людмілай Крушынскай. Сёння павінныя былі здаць у друк. Не здалі, хоць і працавалі амаль да восьмай гадзіны вечара. І наагул гэты тыдзень працавалі дапазна. Праўда, толькі тыя, ад каго канкрэтна залежыць выйсце кнігі. Яна атрымалася аб'ёмам 616 старонак. У ёй каля паўтысячы здымкаў, многія друкуюцца ўпершыню. Сёння, магчыма, працавалі б і да дзясятай гадзіны (Людміла Крушынская, Дзмітрый Пятровіч, Вольга Максімовіч і я), калі б я напачатку не згубіў акуляры, а потым і не наступіў на іх. Дамоў вяртаўся напаўсляпым. Дома былі запасныя акуляры. У іх глядзеў хакей. Не дагледзеў. Упусціў, і пабілася правае шкельца. На працы было раструшчана левае. Словам, у мяне сёння быў акулярапад...

***12.12.2015***

Газавая калонка ў нашай кватэры сапсавалася 19 лістапада, і толькі сёння Мінгаз падлучыў новую. Амаль за месяц з сынам навучыліся рабіць на кухні вентыляцыю ў сцяне, дымаход, мяняць прачысныя кішэні ў дымаходзе. Нашу працу тройчы прымалі пажарнікі і заўчора выдалі акт, у якім гаворыцца, што ўсё зроблена, як патрэбна. Словам, мы з Максімам прайшлі добрае саманавучанне па ўсталяванні газавых калонак і катлоў. Цяпер у нас у кватэры ёсць гарачая вада і я, як Граждан, раз-пораз яе ўлучаю, каб пераканацца, што яна гарачая...

На сёння ў маім камп'ютары сабралася шмат фотаздымкаў, якія не спарадкаваныя ні паводле гадоў, ні паводле імёнаў, ні паводле падзеяў, а проста захоўваюцца ў розных тэчках, і не зразумела мне самому, што ў мяне тут ёсць, а чаго і няма. Усё мару знайсці вольны час, каб сесці і разабрацца ў сваім фотабагацці. Толькі што адчыніў першую, якая патрапіла на вочы, тэчку і натрапіў на фотаздымак, зроблены ў снежні 1981 года фотаапаратам Анатоля Сыса ў Каралішчавічах падчас Рэспубліканскай нарады маладых літаратараў Беларусі. Гляджу на здымак і чую галасы маладых Сыса, Барэйшы, Сахарчука, Канапелькі. Навокал Каралішчавіцкі заснежаны лес, мароз. Мы не апранутыя выбеглі на вуліцу, фатаграфуемся. У нас яшчэ няма кніжак. У нас

ёсць толькі першыя публікацыі ў «ЛіМе» і часопісах. У нас усё яшчэ наперадзе. У Барэйшы часу ў гэтым свеце дзевяць гадоў, у Сахарчука дваццаць адзін, у Сыса дваццаць чатыры, у Канапелькі трыццаць чатыры. Час праляцеў, як той снег, што падаў з неба на нашыя маладыя гарачыя галовы...

***14.12.2015***

Ездзіў у Дом быту, што каля станцыі метро «Інстытут культуры». Замовіў новыя акуляры. Каштуюць няслаба. Узгадалася, як гадоў пятнаццаць таму з Алесем Пісьмянковым, які тады быў галоўным рэдактарам «ЛіМа», а я першым намеснікам, прыязджалі сюды, каб здаць у хімчыстку Алесеў гарнітур. Даведаўшыся, колькі паслуга будзе каштаваць, сябра сказаў: «Я дадам да гэтай сумы грошай і новы гарнітур набуду, а пакуль што мы з Віктарам пойдзем піва пап’ем!» І мы пайшлі, і папілі піва, а за месяц Алесь набыў новы гарнітур...

***15.12.2015***

Дзякуючы Алене Ляшковіч і ўсім яе купалаўцам, ездзіў у Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Ляўкі» на ўрачыстае адкрыццё новай літаратурна-дакументальнай экспазіцыі. Ехалі з Мінска тры з паловай гадзіны. Сядзеў з Навумам Гальпяровічам. Усю дарогу гаманілі пра цяперашнія жыццёвыя варункі, узгадвалі сяброў, якія адышлі ў лепшы свет. Колькі тыдняў таму пасля цяжкай хваробы памерла былая дырэктарка бібліятэкі імя Пушкіна Наталля Чуева. Шмат гадоў яна арганізоўвала і праводзіла творчыя семінары «Слова Купалы да творчасці кліча», якія праходзілі на Лагойшчыне. Я меў шчасце разоў пяць удзельнічаць у іх літнастаўнікам. Шмат паэтаў Мінскай вобласці, якія былі на гэтых семінарах, цяпер маюць свае кнігі, прынятыя ў Саюзы пісьменнікаў.

На паўдарозе да Ляўкоў мы выйшлі з аўтобуса на адпачынак акурат на тым месцы, дзе ў 2002 годзе спыняліся з Алесем Пісьмянковым, Эдуардам Акуліным, Анатолем Зэкавым і Лідзіяй Макарэвіч, едучы з Ляўкоў, дзе разам з віцебскімі паэтамі Анатолем Канапелькам, Давідам Сімановічам, Алегам Салтуком, Алесем Жыгуновым удзельнічалі ў святе паэзіі. На сённяшні дзень з віцьбічаў жывы толькі

Жыгуноў. З Пісьмянковым тады ў прыдарожнай альтанцы мы сфатаграфаваліся. Недзе ў мяне захоўваецца здымак. Было лета. Цёпла. Светла. Пісьмянкоў у Ляўках пакупаўся ў Дняпры. Я сачыў, каб ніхто не прыйшоў, бо Алесь быў зусім голы. У яго была звычка купацца ва ўсіх вадаёмах, каля якіх можна было прыпыніцца. Ён любіў ваду...

У Ляўках нас сустрэлі хлебам-соллю і песнямі. Падчас урачыстасцяў з пісьменнікаў выступілі Навум Гальпяровіч і я. Упершыню прагучаў гімн Купалаўскага музея, створаны Камоцкім і Гальпяровічам. Экспазіцыя вельмі багатая і зробленая па-сучаснаму. Усім, думаю, запомніцца пакой, дзе за вакном у садзе ходзіць Янка Купала і аглядае дрэвы.



Я прапанаваў схадзіць да Дняпра. Бераг круты. Да вады далёка. Са мной пайшлі Аксана Аракчэева, Міхась Шавыркін, Навум Гальпяровіч і Анатоль Бутэвіч. Вада ў рацэ цяплейшая за вецер. Празрыстая, як неба. Вярнуўшыся на высокі купалаўскі бераг, Анатоль Іванавіч запытаўся: «Колькі прыступак у лесвіцы?» Ніхто слушна не адказаў. Я сказаў: «365!» — «Не! 210!» — задаволена назваў лічбу Анатоль Іванавіч...

Сонца не было. Але пасля таго, як мы схадзілі да Дняпра і пачалі ўздымацца сходамі да Купалы, каля ракі на заснежанай траве з'явілася сонечная паляна, якая, чым мы бліжэй былі да Купалы, павялічвалася, а потым і разраслася на ўсё наваколле Купалаўскай зямлі...

***16.12.2015***

На запрашэнне Таццяны Гаранскай быў у мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага на адкрыцці выставы Віктара Маркаўца «Заслаўе. Жывапісныя імпрэсіі старога горада». Большыня карцін мне даўно знаёмыя. Некаторыя прыканцы 80-х і пачатку 90-х друкаваліся ў часопісе «Беларусь», дзе я працаваў у аддзеле культуры і рыхтаваў да друку каляровую ўклейку з рэпрадукцыямі работ мастакоў. У тыя часы шмат было створана карцін, у якіх адлюстроўваецца наша гісторыя. Праз іх для многіх беларусаў адкрывалася незнаёмая Беларусь — краіна замкаў, Храмаў, рыцараў, князёў, асветнікаў, змагароў і герояў. І сёння, ходзячы па выставе Віктара Маркаўца, я адчуваў сябе вучнем, які паўтарае даўнія ўрокі па гісторыі нашай краіны...

Сустрэў на выставе земляка з Ракава Фэліка Янушкевіча. Ягоныя партрэты Льва Сапегі і Васіля Цяпінскага

вісяць у мяне ў кабінеце. З Фэлікам мы даўно ўжо бачыліся. Раней, у маладосці, праязджаючы аўтобусам праз Ракаў, я амаль штотыдзень бываў у яго дома. Тады яшчэ жылі бацькі Фэліка. Ягоная маці мяне заўсёды пасля дарогі карміла, а я сілкаваўся і глядзеў, як Фэлік малюе. Многія карціны ствараліся на маіх вачах. Гэта ўсё было даўно. Цяпер Фэлік малюе мала, а ўсё болей займаецца сваім музеем. Я апавёў пра сваіх дзяцей, а Фэлік — пра сваіх. Мае — мастакі, Фэліка — музыкі...

Мастак Віктар Барабанцаў зноў напомніў пра партрэт Людмілы Рублеўскай, які ён намаляваў гадоў пятнаццаць таму, а гадоў пяць таму падараваў нам. Ніяк не можам забраць. Я абяцаў праз пару тыдняў з Людмілай зазірнуць у майстэрню да Віктара...

Стоячы каля карціны Віктара Маркаўца, дзе сяўня і груган, Алесь Разанаў апавёў мне гісторыю яе стварэння: «Напачатку былі і сяўня, і груган, але нечага не ставала. Я прапанаваў Віктару, каб ён намаляваў зерне. Залатое зерне. І ён намаляваў зерне, і карціна набыла філасофскі сэнс»...

Алесь Разанаў у «Лятучым універсітэце» чытае лекцыі. У яго было пытанне да мяне: «Ці ведаеш, калі быў напісаны верш Алеся Пісьмянкова «Мой сад у снезе па калена...»? Я студэнтам сказаў, што незадоўга да смерці паэта...» Вярнуўшыся з выставы, я знайшоў верш Пісьмянкова і паведаміў Алесю Сцяпанавічу, што твор напісаны ў 1986 годзе. «Трэба будзе выправіцца на наступнай лекцыі!» — дзякуючы за дапамогу, сказаў Разанаў...

На адкрыцці выставы было шматлюдна, а не так, як часам, бывае, што карцін на сценах болей, чым іх гледачоў...

На аўтобусны прыпынак ад Віктара Маркаўца ішоў з Уладзімірам Васюком, які папрасіў мяне ганяць на падобныя выставы маладых мастакоў, якія ў нас працуюць у выдавецтве...

***18.12.2015***

Падчас абедзеннага перапынку набыў у канфіскаце кілаграм «Каралеўскага» сыру. Еду ў ліфце, трымаючы набытак у руках, бо торбы з сабой не захапіў. І раптам ліфт спыняецца напаўдарозе. Зайшлі прыгожыя дзяўчаты. Ліфт адразу зачыніўся, як велізарная пастка на мышэй...

*19.12.2015*

У СМІ вычытаў, што ў нас было ўжо шэсць міністраў замежных спраў Беларусі. Адны з іх запомніліся болей, іншыя меней. З Пятром Краўчанкам (1990—1994) і цяпер даводзіцца сустракацца. Ён зрэдку завітвае ў выдавецтва, каб у аддзеле рэалізацыі набыць кнігі. Часам зазірае да мяне ў кабінет. З Іванам Антановічам (1997—1998) знаёмы яшчэ з 1981 года, калі ён ад ЦК кампартыі прыязджаў у Каралішчавічы і выступаў перад удзельнікамі Рэспубліканскай нарады маладых літаратараў Беларусі. Уладзімір Сянько (1994—1997) колькі разоў прыходзіў у рэдакцыю «ЛіМа», і мы з Міколам Гілём і Барысам Пятровічам давалі яму свежыя нумары штотыднёвіка і апавядалі пра творы, якія варта пачытаць. Словам, былі часы...



*20.12.2015*

Тысячагоддзямі людзі спрачаюцца, ваюююць за землі. А зямля ўся, дзе мы ўсе жывем, належыць Адаму і Еве...

Снілася родная хата. Вечар. Марозіць. Я прыехаў дадому, збіраюся пераначаваць. На кухні падлога зусім сапсавалася. Змрочна. Сцюдзёна. Заходжу ў залу, а там цяплей і святлей. Здаецца, што тут нядаўна былі бацькі. І ў мяне з'яўляецца надзея, што пераначую, не змерзну. Прачынаюся. Успамінаю бацькоў. 25 снежня будзе тры гады, як бацька адышоў да мамы ў лепшы свет...

*21.12.2015*

З фотамайстрам Яўгенам Коктышам мы знаёмыя гадоў дваццаць пяць. Увесь гэты час ён мяне фатаграфуе пры сустрэчы. На пачатку года паказваў вялікі альбом, дзе ў яго сабраныя фотаздымкі многіх вядомых людзей Беларусі, зробленыя ў розныя гады. Большыня фотаработ нідзе не друкаваліся. Пабачыўшы свае здымкі, я папрасіў падараваць пару. Спадар Яўген абяцаў прынесці. Сёння прынёс пяць, зробленых не так даўно. Гартаючы старонкі новай кнігі пра Уладзіміра Мулявіна, дзе змешчаныя і здымкі Яўгена Коктыша (каля дваццаці), што нам прадаставіла аўтарка кнігі Людміла Крушынская, спадар Яўген сказаў: «Трэба было звярнуцца да мяне! У мяне яшчэ ёсць каля пяцідзесяці здым-

каў з Мулявіным, якія нідзе не друкаваліся...» У адказ я толькі і прамовіў: «Значыць ужо ёсць новыя матэрыялы для новай кнігі пра Песняра...»

***22.12.2015***

Быў у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь на адкрыцці выставы палітычных карыкатур Алега Карповіча. Зроблена ўсё па-майстэрску, прафесійна. Алега я ведаю яшчэ са студэнцкіх гадоў. Пазнаёміліся мы з ім у рэдакцыі часопіса «Маладосць» і потым пасябравалі. У мяне захоўваецца сёе-тое з дыпломнай работы Алега, на абароне якой я прысутнічаў. Калі я жаніўся, Алег у мяне быў адным са сватоў. Незаўважна з дня нашага знаёмства праляцела болей за трыццаць гадоў. Гледзячы на карыкатуры, я ўспамінаў юначыя работы сябра. Яны былі іншыя, але ўжо тады ў іх былі і гумар, і сатыра. У мяне ёсць падарунак ад Алега, які ён мне прэзентаваў гадоў пятнаццаць таму — гіпсавы, пакрыты бронзай, невялікага памеру мой бюст. Напачатку Алег мяне ляпіў з пластыліну. Галаву ляпіў на двухсотграмовай гранёнай шклянцы, з якой мы толькі што пілі віно. Ён ляпіў, а я смяяўся. Словам, ёсць што ўспомніць...

***24.12.2015***

Тры гады таму ў гэты дзень было вельмі марозна (болей за дваццаць градусаў) і завірушна. А гадзіне дня з Людмілай прыехалі ў скверык да помніка Адаму Міцкевічу. Сабралася людзей. Прыехалі амапаўцы. Чакаем, пакуль з Чырвонага касцёла пасля імшы прыйдуць вернікі, каб адзначыць дзень народзінаў Адама Міцкевіча. Амапаўцы прапануюць дзяўчатам пайсці разам з імі ў зялёны аўтобус пагрэцца. Дзяўчаты смяюцца і адмаўляюцца. Мы з Людмілай стаім у пустым намёце, дзе на стале гара пластыкавых кубачкаў, якія паціху напаўняюцца снегам, як цукрам. За паўгадзіны з Чырвонага касцёла пасля імшы прыйшлі вернікі на чале з ксяндзом Уладыславам. Мы зусім змерзлі, таму, выступіўшы, пабеглі ў гандлёвы «Дом на Нямізе» грэцца. Дамоў вярнуліся, як з партызанскага атрада. А сёння дванаццаць градусаў цяпла і ў скверыку каля помніка Паэту зноў гараць знічкі, ад якіх светла ў перадкалядны вечар...

*25.12.2015*

З Людмілай ездзілі ў цэнтр горада. Напачатку наведалі кнігарню «Ў», дзе забралі пакінутую нам Францам Сіўко кнігу «Плебейскія гульні». Пагарталі некаторыя новыя выданні, паглядзелі на чытачоў. Дзяўчына гадоў дваццаці хацела набыць Людміліну кнігу. Аднак, відаць, палічыўшы ў думках бацькоўскія грошы і зразумеўшы, што іх не хопіць на ўсё, па што яна прыйшла, не звярнулася да аўтаркі па аўтограф, хоць і кнігу не выпускала з рук да часу, пакуль мы былі сярод пакупнікоў...

У Нацыянальны мастацкі музей зайшлі паглядзець гравюры Гоя і Пікасо. На першым паверсе — пачатак выставы Рамана Заслонава. Карціны знаёмыя, раннія. На другім паверсе — працяг выставы. Напісаныя ў Францыі. Паглядзелі ўсё. Найбольш спадабаліся карціны, што былі напісаныя болей за дваццаць гадоў таму — «На радзіме Я. Наркевіча-Ёдкі. Дыпціх. Лета-зіма» і «Маладыя мастачкі». Пазнаў маладую мастачку Аксану Аракчэеву. Карціны прыканцы 80-х і пачатку 90-х друкаваліся ў часопісе «Беларусь», дзе я працаваў у аддзеле культуры. Зазірнулі ў альбом водгукаў. Пераважна запісы кароткія — «Дзякую! Спадабалася! У захапленні!» Ёсць і непрыемныя мастаку. «Талант у художника есть. А вот тематика картин не совсем понятна. Еще Пушкин говорил: «Пиши, не мудрствуя лукаво». А художник так намудрил, что и понять трудно что к чему. Наши белорусские женщины в жизни покрасивее будут и лучше сложены, чем на картинах художника... 24.12.2015», «Кризис нравственности... Жалко смотреть, как художник, владеющий бесспорным мастерством, растрачивает его на столь пошлое содержание. А Музей экспонирует... Женщина Юлия». «Новый Исачев! Где вкус у устроителей?» Гэтыя запісы нагадваюць каментары, напісаныя пад псеўданімамі да некаторых мастацкіх твораў у «Нашай ніве»...

У зале, дзе прадстаўленыя гравюры Франсіска Гоя (1746—1828) і Пабла Пікасо (1881—1937), шмат людзей. Многія падоўгу стаяць каля асобных работ, разглядаюць, выказваюць адно аднаму свае ўражанні. Назвы гравюр у Гоя, як вершы ў адзін радок — «Яна моліцца за яе», «Ніхто нікога не ведае», «Паляванне на зубы», «Збан пабіўся», «Сон розуму нараджае пачвар», «Вазы на могілках», «Уцякаюць праз агонь», «Ужо няма часу». Як вершы, гравюры і ў Пікасо — «Фаўн, які раскрывае спячую», «Сляпы Мінатаўр, якога вядзе маленькая дзяўчынка ўночы», «Мінатаўр, які атакуе амазонак»...

Не абмінулі выставы карцін Мікалая Залознага і Мацвея Басава, а таксама кераміку Валерыя Калтыгіна. Тут найболей мяне ўразіў цыкл «У кожнага свой крыж». Я палічыў крыжы. Усіх 26. З савецкай памяці ўсплылі Дваццаць шэсць бакінскіх камісараў...

Пасля Нацыянальнага мастацкага музея завіталі ў «Штоле», дзе напаткалі дачку Івана Чыгрынава Таццяну. Будучы ў Парыжы мінулым летам, мы з ёй сустрэліся на Елісейскіх Палях у кавярні. Тады і сёння мы падсілкоўваліся пры століку, дзе да нас сядзела дачка Чыгрынава. Паеўшы пірагоў, папіўшы гарбаты з ружаў, Людміла пацікавілася: «Ну як?» — «Як у Парыжы!» — адказаў я...

Наведалі «Цэнтральную» кнігарню. У беларускім аддзеле жанчына з дачкой пазнала Людмілу і пашкадавала, што ўжо набылі і прачыталі ўсе «Авантуры Пранціша Вырвіча»...

Зайшлі ў Свята-Пятра-Паўлаўскі сабор. Замовілі малітву аб памерлых, паставілі свечкі. Сёння тры гады, як памёр мой бацька...

***26.12.2015***

Жорны, як і крыж, святыя...

***27.12.2015***

Заходзіў у майстэрню Алеся Квяткоўскага. Ён колькі дзён таму скончыў «Партрэт Святланы Алексіевіч». Карціна новая, але яна амаль цалкам паўтарае тую, напісаную яшчэ ў 1987 годзе, калі Святлана Аляксандраўна прыходзіла да мастака і пазіравала яму. На жаль, той партрэт захоўваецца ў некага са знаёмых Алеся, а рэпрадукцыя надрукаваная ў «Энцыклапедычным даведніку Беларускага саюза мастакоў. 1938—1998». Гледзячы на Глобуса і на мяне, Алесь таксама падвёў вынікі працы за 2015 год. Ім напісана 17 карцін і зроблена шмат эскізаў на будучыя палотны.

Сярод алоўкаў і пэндзлікаў я сфатаграфаваў яблык. Калі да Алеся прыходзяць вучні-мастакі, яблык працуе натурнікам. Ён састарэў, скукожыўся, але не згніў...

У другой палове дня яшчэ завідна з Людмілай ездзілі ў «Цэх», што на Кастрычніцкай, 16. Месца мне знаёмае. Побач лікёра-гарэлачны завод «Крышталь», дзе я ў маладосці грузчыкам праходзіў адзін з курсаў жыццёвага ўніверсітэта.

Вуліца крыху змянілася. Папрыгажэла. Трамваі не ходзяць. Цішыня. Навокал пахне дражджамі, як і трыццаць пяць гадоў таму. Зайшлі ў «Цэх». Поўна моладзі. Напачатку я адчуў сябе шкодным бацькам, які шукае дачку і сына, каб паглядзець, чым яны тут займаюцца. Аднак пабачыўшы, што ніхто ў памяшканні не паліць і не п’янствуе, зняў шапку і пачаў удаваць маладзёна, які рана пасівеў ад багемнага жыцця. Людміла ў гэты час разглядала ўпрыгожванні і адзенне, якое прадавалася ў «Цэху». Можна было б папіць гарбаты, але не захацелася перашкаджаць моладзі быць вельмі дарослымі і самастойнымі. Цераз дарогу побач з «Цэхам» кавярня «Дэпо». Праз вокны бачна, што і там поўна маладых наведвальнікаў. На адным з вокнаў намаляваны Уладзімір Караткевіч з кацянятамі. Мы сфатаграфаваліся на памяць. Потым колькі хвілін пастаялі каля прахадной лікёра-гарэлачнага завода «Крышталь». На яго тэрыторыі, калі я працаваў, быў помнік Леніну. Ці ёсць цяпер? Не ведаю. Узгадалася маё апавяданне, напісанае на пачатку 90-х, пра гэтага Леніна. Твор сканчаецца тым, што Ленін стаяў-стаяў сярод пляшак з моцнымі напоямі і аднойчы сышоў з п’едэстала і ўначы, палохаючы мінакоў, пайшоў да Свіслачы, дзе ўтапіўся каля студэнцкага інтэрната...

Першая гадзіна ночы. Глядзім фінал расійскага тэлешоу «Голас». Перамагае іераманах Фоцій. Наша Міёна ў другім пакоі ціскае гумовую цацку, якая гучна пішчыць. Чуючы піск, кажу: «Як у «Сабачым сэрцы» Булгакава!» Людміла дадае: «Добра, што на балалайцы не грае!»

***28.12.2015***

Уначы наш горад захапіла Белая арда — выпаў снег...

Працягваю паціху чытаць Ван Гога «Письма» (Искусство, Ленинград-Москва, 1966 г.), якія даў мне Алесь Кватькоўскі. Спыніўся на лісце Вінсента брату Тэа, дзе ёсць радкі: «Знаешь, нам в искусстве очень и очень необходимы честные люди. Сейчас имеет место то, что Золя именует «триумфом посредственности». Место тружеников, мыслителей, художников занимают снобы и бездари, причем этого никто не замечает...» Напісана, як сёння. Праўда, цяпер снобаў і бездараў заўважаюць, падтрымліваюць і ўзнагароджваюць. Іх цяпер большыня і гэтая большыня агрэсіўная...

***29.12.2015***

Упершыню ўзяў працоўны адпачынак узімку. Праўда, усяго чатыры перадвнавагоднія дні, але яны разам з днямі святочнымі ператварыліся ў дзесяць. Нядаўна меў сякія-такія планы нешта зрабіць, што раней не мог, а ў выніку — сяджу з Міёнай. Людміла на працы, дзеці ў вандроўцы. Гляджу праз вакно ў двор. Там заснежаныя машыны, галубы, галкі, каты і дворнік, які мяце снег, пад якім лёд, як неба...

Сяджу дома з Міёнай. Звініць тэлефон. Патурбавалі з нейкай сервіснай фірмы па вокнах: «У нас акцыя праверак па вокнах. У вас усё ў парадку з вокнамі?» Хвіліны тры адказваю на пытанні. «Майстар да вас прыйдзе за гадзіну. Вы будзеце дома?» — цікавяцца з фірмы.— «Буду! Толькі мне нічога не трэба. Я адзін дома, і ў мяне не прыбрана!» — кажу я.— «А вы прыбярыце, і майстар да вас прыйдзе і паглядзіць вокны!» — настойвае дзяўчына.— «А ён умее рамантаваць вокны?» — пытаюся.— «Гледзячы што...» — «Ручку памяняць зможа?» — «Думаю, што зможа. Толькі гэта будзе платна!» — «Заплачу!» — «А вы паўнагадовы?» — «Мне неўзабаве сто гадоў!» — «А як вас завуць?» — «Віктар!» — «Чакайце майстра. Ён ужо ідзе!» Цяпер сяджу і чакаю. Я не адзін. Я з аўчаркай Міёнай.

Не прайшло і пятнаццаці хвілінаў пасля тэлефанавання з сервіснай фірмы па абслугоўванні вокнаў, як у дзверы пазванілі — прыйшоў майстра. Малады хлопец. Назваўся Раманам. Пачуўшы, што я кажу па-беларуску, хлопец загаварыў па-беларуску. Падчас праверкі вокнаў, я даведаўся, што Раман удзельнічае ў праекце «Мова нанова» і добра ведае Глеба Лабадзенку, Андрэя Хадановіча, Алену Церашкову і іншых маладых літарататараў. «А хто вы паводле прафесіі?» — пацікавіўся мой суразмоўца.— «Адгадай з трох разоў?» — прапанаваў я.— «Мастак!» — «Чаму так думаеце?» — «У вас шмат карцін на сценах!» — «Не!» — «Выкладнік беларускай мовы!» — «Не!» — «Гісторык!» — «Не!» — «Ну, тады не ведаю».— «Пісьменнік. Віктар Шніп».— «Ведаю такога. Чытаў нешта». На маё пытанне: «Дзе мову вывучыў?» хлопец адказаў: «Сам! Я ж беларус!» З дамовы на рамонт вакна даведаўся прозвішча Рамана — Кушнер.

***31.12.2015***

На Мухлі гуляю з Міёнай. На заснежаных хвоях вароны, як вялікія чорныя шышкі...

У адпачынку. Выгульваю Міёну, бо дзеці ў вандроўцы. Натузаўся з ёй, што ажно сэрца стала пабольваць. Восьмы дзень не галюся. Выгляд маю бандыцкі. З самага ранку наведаў краму, куды не хадзіў чатыры дні. Там у мяне з носа кроў пайшла. Выпацкаўся. Крамніцы мяне ведаюць. Звычайна вітаюцца, а сёння толькі паглядзелі, як на мужыка, які пачаў выходзіць з запою. Ішоў дамоў і, думаючы пра крамніц, сам сабе ўсміхаўся, плюючыся крывёй на ранішні снег...



**ЗЯМЛЯ ФЕРДЫНАНДА РУШЧЫЦА**
***(10.12.1870—30.10.1936)***

у снежні вечаровая зорка
над маёнткам Багданава
высока ў небе
як агеньчык свечкі каляднай
свеціцца свеціцца адзінока
але ты не адзінокі адзінокі
выходзячы з дома старога
у свет
ты не эмігрант
ты мастак
у якога ёсць Зямля
і спыняючыся каля касцёла
ты думаеш думаеш пра мінулае
дзе старыя яблыні
і лясны ручай
заўсёды чакаюць чакаюць цябе
як вясну
якая прыходзіць заўсёды
каб ворыва чарнела
як крылы чорных буслоў
што не адлятаюць
з нашых зімовых казак
калі ідзе вайна еўрапейская
як гаспадыня
і Крэўскі замак крывавіцца

крывавіцца цэглай чырвонай
і млын узімку
увесь заледзянелы
нібы крышталёвы стаіць
і апошні снег як попел з каміна
у якім ты паліў самоту
сыплецца сыплецца сыплецца
і бляклае сонца
асвятляе спакой у пакоі бабулі
і вясна пачынаецца пачынаецца
і ў карчме пры дарозе
гарыць святло святло святло
а вандроўнік едзе на кані
з добрымі весткамі
з Вільні і з Варшавы
куды імкнешся ў думках
але ты тут у Багданаве
як Ной у сваім каўчэгу
плывеш плывеш плывеш у сваіх фарбах
у заўтрашні заўтрашні дзень
дзе красуюць красуюць мальвы
дзе лета ўладарыць
дзе пуня і азярод
чакаюць чакаюць багатых дажынак
а ты ідзеш ідзеш да святых камянёў
і сам ты як святы
і воблачнае неба з месяцам
высока над табою ў Багданаве
і вецер восеньскі шэпча шэпча шэпча
пра хвалі акіянскія
дзе плыве і плыве карабель
і ты стаіш стаіш на ім
як на краі свету
і малюеш малюеш залаты пакой
дзе святло як залатая вада
і малюеш свяцілішча
і вулкі старыя Вільні
якія помняць цябе
як помніш ты сваю зямлю
дзе перад зімой старое гняздо
стаіць непахісна

прадзьмутае вятрамі вятрамі вятрамі
дзе дрэвы адзінокія як паходні
якія не тухнуць бо яны тутэйшыя
бо яны запаленыя табой
пад небам у белых аблоках
дзе сінеюць прагалы
як будучы лёд лёд лёд
на лясных ручаінах
з якіх ты піў піў жывую ваду
і натхненне
і цяпер на высокім узгорку
узвышаецца узвышаецца твой крыж
сярод крыжоў родных і вечных
як Зямля
над якой вечаровая зорка
як свечка ў тваім новым доме

**14.12.2015**

* * *

Пад столлю лямпачка, нібы пятля,
Вісіць над ваннай, дзе бялізна ў тазе
Счарнелая, як родная зямля,
Якую ты не любіш, бо ў калгасе
Твая зямля, а ты зямлі не меў
І не хацеў, і ўжо зусім не хочаш,
І ты ўсё гэта сёння зразумеў,
Калі патухла лямпачка і ўночы
Яе пабачыў белаю пятлёй,
Што над табою сто гадоў звісае.
Ваду ўлучаеш, і жыццё вадой
Перад табой у вадасцёк знікае...

**23.12.2015**

# *СТУДЗЕНЬ — ВЕРАСЕНЬ, 2016*

## *Студзень*

***1.01.2016***

З Людмілай са старым годам развіталіся ў бабулі, а Новы год сустрэлі на Цэнтральным пляцы каля святочнай ялінкі. Людзей было чалавек 150—200, а калі б лічылі міліцыянеры, то каля 100. Саміх жа міліцыянераў было чалавек дзесяць. Піць шампанскае і паліць бенгальскія агні яны не перашкаджалі. Калі было хвілінаў пятнаццаць новага года, Дзед Мароз, які невядома адкуль з’явіўся, прапанаваў павадзіць карагод вакол ялінкі. Многія з радаснымі крыкамі кінуліся ўслед за ім. Я не пабег, бо за дзень з Міёнай на Мухлі накарагодзіўся вакол хвоек. Яшчэ за хвілінаў дзесяць народ паціху пачаў разыходзіцца з пляца. Пайшлі і мы. Каля Ратушы пафатаграфаваліся на вазку з коньмі. Спадзяемся на новыя вандроўкі і ў новым годзе. Ідучы каля кавярні, я сказаў: «Бедныя людзі на свята спыняюцца каля кавярняў і зазіраюць у вокны, каб пабачыць, як заможныя ядуць ананасы і рабчыкаў жуюць...» Людміла сумна ўсміхнулася: «Ты гэта ў сваім дзённіку запішы». Дахаты вярталіся тралейбусам. П’яных не бачылі. Відаць, яшчэ было рана. Дома яшчэ раз сустрэлі Новы год. Тэлевізар не глядзелі, музыкі не слухалі. Успаміналі светлае і сумнае, што перажылі ў 2015 годзе. За колькі гадзінаў да Новага года абтэлефанаваў усіх сваякоў, павіншаваў. Стрыечная сястра Аня прапанавала ўрэшце ў 2016 годзе сабрацца нам, стрыечным сёстрам і братам, у Ракаве ў Ігара з Раісай (яны даўно чакаюць) і пасядзець разам пры святочным стале, а то мы апошнім часам толькі на пахаваннях і сустракаемся. Аднак жыццё працягваецца. І ўсё будзе добра. З Новым годам!

Штогод 1 студзеня па абедзе ездзім у госці да Пятровічаў. Гэтай традыцыі ўжо болей за дзесяць гадоў. Ідучы на аў-

тобусны прыпынак, прайшлі паўз тэлевізар «Гарызонт», які нехта ў навагоднюю ноч скінуў з гаўбца. Ён ляжаў на снезе, як забіты чорны дыназаўр. Людміла сказала: «Італьянская традыцыя — выкідаць на Новы год старыя рэчы на вуліцу!» Магчыма, але мо нехта не тое, што хацеў, пачуў ці пабачыў праз тэлевізар. У Пятровічаў былі госці — сёстры. Адна з Гародні, а другая мінская. Яны ў Барыса з мінулага года, таму з намі доўга не гасцяваліся. У застоллі засталіся Барыс са сваёй Людмілай і з сынам Алесем і я з Людмілай. Антось не выйшаў са свайго пакоя — рыхтуецца да экзаменаў.

Барыс мне зрабіў нечаканы падарунак — з Беластока прывёз кнігу з кружэлкамі гурта R. F. Braha, дзе ёсць песня на мае словы «Сляпы». У сеціве знайшоў інфармацыю: «На «Басовішчы» была прэзентаваная кніга пра гурт R. F. Braha. Гэты калектыў з'явіўся на пачатку 90-х у Падляшшы і спяваў на беларускай мове... Але вернемся да R. F. Braha. Гурт паўстаў у 1993 годзе і адразу трапіў на «Басовішча». Музыкаў пад крыло ўзяў вядомы мастак Лёнік Тарасевіч, які ў памежным Гарадку стаў рухавіком культурных зменаў. Усё рабілася грунтоўна і канцэптуальна. Нават у назве гурта — «Рок-фармацыя Брага» — была закладзеная адмыслова інспірацыя: «брага павінна ферментаваць, бушаваць і ўражваць новай якасцю».

Гісторыя гурта R. F. Braha — гэта не толькі гісторыя кампаніі хлапчукоў з Беласточчыны, якім хацелася граць і спяваць. Гэта, у першую чаргу, аповед пра спробу нацыянальнага акрэслення маладога пакалення беларусаў у Польшчы, а заадно запіс унікальнага перыяду — паскоранага пераходу гэтага пакалення ад посткамуністычнага менталітэту беларускай правінцыі да еўрапейскай сучаснасці.

«Брага» гучна выбухнула: гурт граў канцэрты ў Польшчы і Беларусі, выпускаў фірмовы мэрч, меў сваіх фанатаў, запісаў два альбомы — «Ślapy» (1995) і «Szyzafrenija» (1997).

На пэўны час гурт перастаў быць проста голасам свайго асяроддзя, а стаў істотнай часткай праекта пабудовы сучаснай беларускай ідэнтычнасці. Але краіна хутка мянялася, з'явіліся новыя далягляды і магчымасці, што прывяло да распаду раней закрытай супольнасці. Разам з ёй знік і гурт R. F. Braha, апошні выступ якога адбыўся ў 2000-м у Мінску...

Гэтыя з'явы апісаныя ў кароткім нарысе ў кнізе па-беларуску і па-польску. Дапаўняюць яго тэксты ўсіх выдадзеных песень R. F. Braha, а таксама рэдкія здымкі і дзве кружэлкі

з перавыдадзенымі альбомамі. Кніга зробленая вельмі якасна і аздобленая ў фірмовых колерах «брагі» — чорным і памаранчавым.

Нягледзячы на нядоўгае існаванне, лёс амаль невядомага беларусам гурта R. F. Braha стаў адной з найважнейшых старонак у гісторыі беларускай музыкі. Іх прыкладам яшчэ не адзін год карыстаюцца беларусы Беласточчыны, якія стваралі і ствараюць новыя гурты, такія як Kardon, The Dzviery, Rima, Zero-85, 5set5, Beton, Ilo&friends».

Верш «Сляпы», які стаў песняй і агульнай назвай адной з кружэлак гурта R. F. Braha, мной напісаны на пачатку 90-х і быў тады ж надрукаваны ў часопісе «Крыніца». Пра гурт і песню я даведаўся толькі сёння.



**СЛЯПЫ**

Хадзіў па горадзе Сляпы.
Куды ішоў — ён добра ведаў.
Што не патрэбна — ён забыў,
Хваліў расстрэленых паэтаў.

І кожны дзень адно крычаў:
«Ды вы ж не бачыце нічога!»
Пагрозы чуў: «Ты б замаўчаў
І пільнаваўся б лепш дарогі».

Царкву бульдозер разбураў.
Быў лозунг: «Збавімся старога!»
Хадзіў Сляпы і ўсё крычаў:
«Ды вы ж не бачыце нічога!..»

Прастыў і ў ноч памёр Сляпы.
Яго суседзі пахавалі...
На рэштках збуранай царквы
Шкляны будынак збудавалі.

***2.01.2016***

Вераніка і Максім вярнуліся з навагодняй шасцідзённай вандроўкі. Былі ў Дрэздэне, дзе наведалі Карцінную галерэю Старых майстроў і бачылі Сіксцінскую Мадонну Рафаэля. Новы год сустрэлі ў Празе на плошчы сярод людзей. У Чэхіі было амаль цёпла. Прыехалі дамоў, а тут мароз 17

градусаў. Сорак хвілінаў я з Міёнай чакаў Вераніку і Максіма на вуліцы. Змерзлі. Пабеглі дамоў. Толькі пачалі саграваацца, як прыехалі дзеці. У Міёны было радасці поўныя зубы. Цяпер у хаце зноў пацішэла. Нягледзячы на мароз, хочацца ўзяць Міёну і зноў пайсці на вуліцу, дзе снег і сонца (белае і залатое), а неба над горадам чыстае і толькі рэдкая хмарка даплывае да яго цэнтра, які заўсёды над кожным з нас, дзе б мы не былі...

***3.01.2016***

Раніца. Мароз. Сустрэўся з Алесем Квяткоўскім. Пытаюся: «Колькі градусаў?» — «Сорак!» — адказаў мастак.— «Не можа быць! У нас сорак градусаў бывае толькі ў пляшках!» — адказаў я, і мы засмяяліся, і нам пацяплела...



***4.01.2016***

У рамках акцыі «Сямейнае чытанне» ў «Цэнтральнай» кнігарні адбыўся кніжны марафон, які пачаўся аб 11 гадзіне. Людзей было няшмат. Мароз. Многія, як на мяне, заходзілі, толькі каб пагрэцца. Пры століку з шыльдачкай «Аўтограф на памяць» я размаўляў з наведвальнікамі і чытаў вершы з 16 да 17 гадзіны. Пасля мяне была Людміла Рублеўская да 18. За свае гадзіны мы прадалі па чатыры кнігі. Болей нічога ў аддзеле беларускай літаратуры пры нас ніхто не набыў, хоць на паліцах стаяць творы Святланы Алексіевіч, Рыгора Барадуліна, Васіля Быкава, Уладзіміра Арлова, Уладзіміра Някляева. Людзі пераважна корпаліся ў святочных паштоўках. Словам, прысутнасць пісьменніка ў кнігарні, які апавядае ў мікрафон пра свае творы і чытае вершы, абуджае ў пакупнікоў цікавасць да сучаснай беларускай літаратуры. Праўда, людзі, якія займелі нашыя кніжкі, ужо чыталі нашыя творы. Маці са школьніцай, якая купіла «Авантуры Пранціша», гадавала дачку, чытаючы ёй Людмілiны «Прыгоды мышкі Пік-Пік».

***5.01.2016***

Хадзіў на журфак БДУ, дзе на сёмым паверсе знаходзіцца студыя СТБ. Запрасілі мяне, як галоўнага рэдактара выдавецтва, якое выпусціла кнігу пра Уладзіміра Мулявіна, паўдзельнічаць у перадачы, прысвечанай 75-годдзю з дня нараджэння Песняра. Чакалі на запіс і Леаніда Барткевіча, але ён чамусьці не прыйшоў. Пытанняў было няшмат. Апрача апо-

веду пра кнігу, я ўзгадаў, як у 1976 годзе (я тады навучаўся ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме і жыў у інтэрнаце на вуліцы Змітрака Бядулі) да мяне прыходзілі патлатыя хлопцы. Пабачыўшы нечаканых гасцей, я адразу падумаў, што гэта прыйшлі браць дань. У інтэрнаце быў такі звычай, калі старшакурснікі і ўжо некаторыя выпускнікі збіралі ў першага і другога курса грошы на выпіўку. Грошай у мяне амаль не было, і я падрыхтаваўся да пабояў. Сярод гасцей быў Прынц. Ён даўно скончыў тэхнікум, але не пакідаў у спакоі наш інтэрнат са сваёй кампаніяй. Сеўшы на мой ложак, Прынц звярнуўся да мяне: «Нам паведамілі, што ты, пацан, вершы пішаш!» — «А што нельга?» — спалохана запытаўся я.— «Можна! Але гледзячы якія! Добрыя можна! Кепскія нельга!» — адказаў Прынц. Пачуўшы гэта, я крыху пасмялеў: «А што вы хочаце?» — «Трэба тэрмінова Лёню дапамагчы пару радкоў у песні дапісаць!» — сказаў Прынц і даў мне паперыну з вершам. Недзе каля гадзіны я рыфмаваў і зрабіў тое, што ад мяне хацелі. Лёня ўсе мае варыянты спяваў і злаваўся з таго, што я не ведаю нотнай граматы. Пазней я даведаўся, што мой госць Лёня — выпускнік архітэктурна-будаўнічага тэхнікума Леанід Барткевіч, які падчас навучання быў салістам тэхнікумаўскага аркестра, а ў далейшым стаў вакалістам створанага ім вакальна-інструментальнага ансамбля «Залатыя яблыкі». На той час, калі я рыфмаваў «Песнярам», Леанід Барткевіч ужо спяваў у «Песнярах» Уладзіміра Мулявіна. Развітваючыся, мае госці сказалі, каб я і далей пісаў вершы, а калі што атрымаецца песеннае, прапаноўваў «Песнярам», і, каб, калі хто будзе крыўдзіць, казаў, што я сябрую з Прынцам і ён залічыў мяне ў сваю кампанію...

***6.01.2016***

Сніліся Дубраўскія могілкі, дзе пахаваныя мае дзед і баба, прадзед і прабаба, а таксама іншыя сваякі і аднавяскоўцы. Лета. Вечарэе. Я з сябрам іду могілкамі. Глядзім, дзе хто пахаваны. Раптам сябра кліча мяне і паказвае, што на месцы нечай магілы чарнее прорва. Побач труна. Мы хуценька бяром труну і затуляем ёю прорву. Ад жаху я прачынаюся. Навокал цёмна. На вуліцы бялее снег, як мерзлае малако...

Мы любім фільмы, у якіх людзі перажываюць розныя выпрабаванні, а самі ў жыцці з падобным баімся сутыкацца...

***7.01.2016***

Марозная раніца. З Міёнай гуляю ля Мухлі. Навокал кусты і дрэвы, як з чорнага лёду. На хвойках сядзяць вароны, як прымерзлыя. Які ўжо раз, праходзячы каля плота з вароцамі, гляджу на завесы і ў сабе чую галасы сяброў з маленства: «Хочаш Маскву пабачыць? Прыкладзі язык да замка!» Колькі тады мяне не прасілі, я не прыклаў, а цяпер хочацца паспрабаваць. Праўда, Маскву я і так бачыў. Нейкую хвіліну гляджу на варотцы і, усміхнуўшыся, іду далей заснежанай Мухляй, як краінай дзяцінства...

***8.01.2016***



Да нас з Людмілай дадому прыходзілі літпрадмесцеўцы, каб паводле нашай, ужо старой, традыцыі разам святкаваць Каляды. Былі Таццяна Будовіч, Таццяна Барысюк, Таццяна Пратасевіч, Наталля Кучмель, Усевалад Гарачка, Рагнед Малахоўскі, Георгій Барташ, Мікола Кандратаў, Аксана Спрынчан з Альжбэтай, Маргарыта Прыка, Павел Дарохін, Вадзім Крук, Юрась Нераток, Дар'я Лёсава, Вераніка Ляўчук, Кірыл Бандэрс, Віктар Лупасін, Алесь Емяльянаў. Спявалі песні, чыталі вершы, жартавалі, успаміналі пасяджэнні «Літпрадмесця», вечарыны, прэзентацыі кніг, вандроўкі. Я фатаграфаваў. Сёе-тое атрымалася прыгожа, але здымкаў не выстаўляю, бо абяцаў не хваліцца, як нам было хораша. Наша Міёна адзін раз прарвалася да застолля. Пахадзіла пад сталамі і, нікога там не знайшоўшы, вярнулася да сябе ў пакой. Сёлета «Літпрадмесцю» будзе 14 гадоў...

***9.01.2016***

Заснежаны далягляд. Са снегу, як з марской пены, узышло сонца...

На хвілю вызірнула сонца. Пад маім вакном заснежаны куст бэзу, нібыта ў квецені...

Патэлефанаваў зямляк і мой даўні сябра Лёня Шчарбінскі. Ужо ідзе трэці год, як непадалёку ад Валожына ён займеў хату. Лёня апавядаў пра новую гаспадарку, а я слухаў і ўяўляў, як там яму хораша. Сябра з цягам часу збіраецца са сваёй Людмілай жыць у вёсцы круглы год, а цяпер, яшчэ працуючы, бывае частымі наездамі, бо мае машыну. Новы год

Лёня сустракаў у вясковай хаце, напаліўшы печ. Размаўлялі амаль гадзіну, ажно мне закарцела ўсё кінуць і паехаць у Пугачы ў бацькоўскую хату і жыць там, як Андрусь Горват, і весці дзённік, і кантактавацца з аднавяскоўцамі, і быць самым шчаслівым на свеце...

Учора падчас каляднага гасцявання Таццяна Будовіч папрасіла знайсці ёй «Крыніцу» за 1995 год, дзе змешчаныя матэрыялы пра Юрыя Гуменюка. Яна піша пра трагічныя лёсы паэтаў. У нас ёсць усе нумары гэтага выдання, калі не лічыць некалькіх самых апошніх, на якіх хоць і было напісана, што гэта «Крыніца», але яны ўжо тым часопісам, які і сёння актуальны, не былі. Амаль гадзіну перабіраў нашае з Людмілай часопіснае багацце. Не знайшоў. Але ж «Крыніца» гэтая з Гуменюком мусіць у нас быць. Нават падумалася, што Юрый не хоча, каб пра яго пісалі як пра трагічнага паэта. Шукаючы патрэбную «Крыніцу», натрапіў ажно на тры асобнікі часопіса «Беларусь» № 6 за 1997 год. Чаму так шмат? Стаў гартаць. Апрача таго, што тут змешчаны матэрыял Людмілы пра школу-ліцэй мастацтваў, дзе вучыліся нашыя дзеці, ёсць вершы Рыгора Барадуліна, да якіх я пісаў прадмову. На той час, працуючы ў «ЛіМе», я дапамагаў на паўстаўкі Янку Сіпакову ў «Беларусі» ў аддзеле культуры. Узгадалася, як браў вершы на друк Рыгора Іванавіча, а потым, напісаўшы да іх прадмову, зачытаў паэту праз тэлефон. Рыгор Барадулін адобрыў. Здаецца някепска было: «Трава, прабіваючыся праз асфальт, імкнецца да святла. А святло ў паэзіі — сімвал жыцця, свабоды. Але што такое свабода? У кожнага на гэтае пытанне ёсць свой адказ. Аднак свабоды без адказнасці перад Айчынай, перад маці, перад памяццю продкаў — не бывае. Менавіта разуменне адказнасці за свае ўчынкі з чалавека робіць Чалавека.

...У французскага паэта Беранжэ ёсць такая прыпавесць. У пекла, у суседнія катлы, трапляюць душы двух сучаснікаў — паэта і тырана. Агонь пад паэтавым катлом невялікі, з чаго небарака цешыцца, а пад былым уладаром — шугае полымя... Паэт чакае, што вось-вось адпакутуе за свае невялікія грахі. Але з гадамі агонь пад ім павялічваецца і ператвараецца ў велізарнае вогнішча. А агонь пад суседам-уладаром амаль затухае. Абураны несправядлівасцю, паэт патрабуе тлумачэння. І вось ён чуе: уладар пры жыцці нарабіў шмат ліхога і

адразу па смерці людзі клялі яго, але праз гады і на яго самога, і на ліха, ім зробленае, забыліся... А тыя зярняткі ліха, што пакінуў паэт у сваіх творах, з гадамі далі ўсё болей і болей усходаў. Усё болей чытачоў падпадала пад уплыў таго ліха, і канца яму не відаць...

Вялікая адказнасць пісьменніка перад сваім народам. Пагатоў у таго, каго ўжо назвалі «народным». Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, думаецца, годна нясе крыж правідэнцыйнай паэтавай службы. Як ніхто, ён ведае цану слова — умее ўкласці ў адну лексічную адзінку столькі інфармацыі, колькі часам не змесціць і паэма; адорвае другім жыццём забытыя беларускія слоўцы і нараджае новыя словы.

Свабода і адказнасць для паэта — два непарыўна звязаныя паняцці, аднолькава важныя для ўзлёту, як два крылы».

Дзякуючы нашай Міёне, на сёння ведаю ў сваім двары амаль усіх Гражданоў. Радуе, што ёсць і адэкватныя людзі, якім Сабака — гэта Сабака, а не вораг. Сусед Дзіма цяпер вітаецца здалёку. Сёння цікавіўся: «Кусаецца?» — «Не!» — адказаў я і пачуў: «Ну тады пазыч тысяч пяцьдзясят, а то я каго-небудзь пакусаю!»

***10.01.2016***

Пісьменнік Віктар Марціновіч у гутарцы з карэспандэнтам «НН» сказаў: «Пад шэрым небам Мінска я нікому непатрэбны». Адразу пад матэрыялам з'явіліся каментары. Зразумела, ананімныя. Адныя пішуць, што Віктар Марціновіч нам патрэбны, іншыя, што няхай ён едзе ў сваю Еўропу і там балдзее ад таго, што ён такі вялікі пісьменнік. Нехта Ігар І. Іваноў згадаў і мяне: «І як Вы, Віктар, можаце пра гэта ведаць, калі я не прачытаў яшчэ аніводнай Вашай кнігі?

Я і Шніпа яшчэ не прачытаў. Але ўжо ведаю — патрэбны. Патрэбны мне Віктар Шніп. Патрэбны яго «Пугачоўскі цырульнік». Патрэбны Граждан і Сабака. Патрэбная яго колішняя размова ў ваенкамаце. Шпацыр з мамаю. Шмат чаго.

Чалавек не горшы за сабаку. Мае права паскуголіць. На людзях навошта?

Сабе схлусіць можна. Людзей абражаць навошта? Здраджваць навошта? Хто асудзіць чалавека, які з'ехаў з Беларусі, толькі за факт — перасёк мяжу, жыў у другой краіне? А вось таго, хто пакрыўдзіў свой этнас, сваіх чытачоў, сваіх грамадзян, асудзяць?»

***12.01.2016***

Цэлы дзень з неба сыплецца і сыплецца снег. Жывем, як у снежным гадзінніку...

***13.01.2016***

У нябесным белым моры птушка, як чорны ветразь...

Вясковы зімовы вечар. На вуліцы другія содні завея. У роднай хаце цёпла. Я вярнуўся ўвесь аблеплены снегам з Гаіка, дзе катаўся на лыжах. Бацькі адпачываюць. Мама ляжыць на печы, бацька на ложку каля печкі, у якой поўна гарачага вугалля, як золата. Брат і сястра глядзяць «Калыханку». Пачуўшы, што я вярнуўся дамоў, мама кажа: «Ідзі павячэрай!» На кухні на стале ў рондалі вараная, яшчэ цёплая, бульба, на патэльні — смажаная вясковая каўбаса, у місцы — квашаная капуста, а ў другой — грыбы. Вячэраю...

Гарадскі зімовы вечар. На вуліцы другія содні сыплецца снег. У кватэры не холадна. Вярнуўшыся з працы, вячэраў. Мінула колькі гадзінаў. Дакладна не памятаю, што еў...

***14.01.2016***

Удзельнічаў у калядным кірмашы мусаў, які традыцыйна падчас святкавання старога Новага года праводзіць у Музеі Максіма Багдановіча суполка «Літаратурнае прадмесце». На жаль, не ўсе, хто збіраўся на аўкцыён, прыйшлі. Дзедам Марозам быў Усевалад Гарачка. Ён называў сябе Маразцом і раз-пораз пытаўся ў прысутных, ці задаволеныя маразамі і снегападамі. Мы маўчалі і ўсміхаліся. Маразец, калі пачалася імпрэза, захацеў, каб мы яму абралі Снягурку. Абралі Юлю — супрацоўніцу музея. На аўкцыёне прысутныя набылі за сімулякрыкі (грошы «Літпрадмесця») кнігі Адама Глобуса «Толькі не гавары маёй маме», Людмілы Рублеўскай «Сутарэнні Ромула», Георгія Барташа «Ботиночки», маю «Заўтра была адліга» і яшчэ шмат цікавых рэчаў, якія спатрэбяцца ў жыцці творчых людзей. Увесь час, пакуль адбываўся аўкцыён мусаў, над намі пад столлю лёталі велізарныя Камарык-Насаты тварык і Мушка-Зелянушка. Праўда, не ўсе гэта бачылі...

***15.01.2016***

Георгій Барташ з сябрамі, пачынаючы з 2007 года, падчас навагодніх святаў праводзіць фестываль аднаго каляднага верша, у якім звычайна ўдзельнічаюць каля ста паэтаў, што

жывуць у нашай краіне і ў блізкім замежжы. Я з Людмілай Рублеўскай, Андрэем Хадановічам і Наталляй Капай ва ўсіх гэтых фестывалях быў у журы. Сёлета давялося прачытаць 98 аўтараў, чые творы былі дасланыя пад псеўданімамі, і абраць з іх дзесяць фіналістаў і аднаго пераможцу.

Фінальная вечарына прайшла ў Галерэі TUT.BY. Народу была поўная зала. За дзесяць хвілінаў да пачатку імпрэзы Георгій Барташ раздаў сябрам журы сцэнар, з якога мы даведаліся прозвішчы сваіх фіналістаў і пераможцаў. Гэтым разам са сцэны гучалі вершы на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах. Сярод незнаёмых фіналістаў былі і даўно знаёмыя прозвішчы — Міхал Бараноўскі, Сяргей Балахонаў (не прыехаў, але мы яго змаглі пабачыць і паслухаць праз камп'ютар), Алесь Ліпай, Ігар Клепікаў, Таццяна Нядбай, Аляксей Арцёмаў (прыслаў сваё відэапрывітанне з Тулы), Алесь Плотка, Таццяна Барадуля, Эдуард Дубянецкі, Ірына Ляшкевіч, Дзяніс Кандрацьеў.

На ўсё жыццё гэтая вечарына павінная запомніцца фіналістцы фестывалю Ганне Авоце, якая, прачытаўшы свой верш, са сцэны сказала: «Каваль! Калі ты яшчэ не супраць таго, каб я выйшла за цябе замуж, то я цяпер табе кажу, што я згодная!» Каваль устаў з крэсла, абняў паэтку і пацалаваў!

Кожны з сяброў журы назваў свайго пераможцу. Першай атрымала прыз ад Юрыя Завадскага (Украіна) Таццяна Скарынкіна. Уручаў Андрэй Хадановіч. Потым ад Дзмітрыя Строцава — Андрэй Бастунец. Вольга Базылёва прызнала найлепшым верш Аксаны Спрынчан, якая не змагла прысутнічаць на вечарыне, бо ў гэты ж час у бібліятэцы імя Цёткі вяла спектакль тэатра «Арт. С». Сяргей Сыс назваў пераможцай Кацю Аліхвер. Людміла Рублеўская — Рамана Абрамчука, Вольга Гронская і Андрэй Хадановіч — Антона Рудака, Наталля Капа і Вольга Базылёва — Раксалану Жаркову (Украіна), Андрэй Хадановіч — Уладзю Лянкевіча. Я свайго пераможцу выклікаў да мікрафона апошнім, калі ад пачатку вечарыны мінула амаль тры гадзіны. Не ведаю, што думаў Стась Карпаў, калі імпрэза падыходзіла да завяршэння, а я хваляваўся: «Хоць бы ён не сышоў дамоў раней часу!» Не сышоў. I так атрымалася, што Стась Карпаў стаўся асноўным пераможцам. Яго абраў яшчэ і Віктар Жыбуль, і амаль усе сябры журы яго верш прапанавалі на ўдзел у фінале. Дарэчы на леташнім фестывалі асноўнай пераможцай была Марыйка Мартысевіч, чый верш я прызнаў найлепшым.

Амаль тры гадзіны праляцелі, як тры хвіліны. За гэты час прысутныя паслухалі каля пяці дзясяткаў вершаў і песень. Усе песні былі выкананыя прафесійна, а вось вершы некаторыя фіналісты і пераможцы чыталі са сцэны кепска, і магчыма, у некаторых слухачоў узнікала пытанне: «Чаму ён лепшы? Нічога асаблівага ў гэтым творы няма!»

Вялі вечарыну Георгій Барташ і Міхал Бараноўскі. Георгій на завяршэнне выканаў цудоўную песню на словы Вольгі Базылёвай у сваім перакладзе на рускую мову, сказаўшы з усмешкай: «Увесь гэты фестываль і вечарына былі задуманыя толькі дзеля таго, каб я цяпер вам паспяваў, а вы паслухалі!»

***17.01.2016***

«Запарожац» у снезе, як муха ў павуціне...

У белай вопратцы заснежанай прасторай ідзе Паэзія...

***18.01.2016***

Некаторыя рэдактары так рэдагуюць твор, што ад яго застаецца, як ад жывога дрэва (калі твор параўнаць з дрэвам), гладкі слуп. Ёсць і аўтары, якія напісаўшы добры твор, потым усё ўпісваюць у яго і ўпісваюць, як ім здаецца, патрэбныя дадатковыя абзацы. І дасканалае дрэва (твор) ператвараецца ў пудзіла, на якім вісяць паношаныя нагавіцы, дзіравыя шкарпэткі, закарэлыя хусткі, пажаўцелыя газеты і яшчэ шмат якая непатрэбшчына...

Вяртаючыся з працы, зайшоў у краму. Стаю ў чарзе. Нехта мне тэлефануе. Бяру мабільны. З тэлебачання. «Віктар Анатольевіч, мы вас хочам запрасіць у перадачу пра духоўнасць!» — чую прыемны жаночы голас.— «Добра. Прыйду. Калі трэба і пра што будзем размаўляць?» — цікаўлюся.— «Пра іконы. Вы ж вядомы рэстаўратар. Вамі адрэстаўравана шмат ікон...» — «Якіх?» — «Старажытных!» — «Не можа быць! Я ж паэт, а не мастак!» — «Вой, прабачце!» — ускліквае мая суразмоўца і развітваецца. Ідучы дадому і думаючы пра іконы, я ўзгадаў свае «Балады беларускага шляху». У іх я сапраўды рэстаўратар...

P. S. Надзея Вусава з Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, прачытаўшы мой запіс у фэйсбуку, паведаміла, што мяне пераблыталі з іх музейным рэстаўратарам Аркадзем Шпунтам...

***19.01.2016***

Гуляю па Мухлі з Міёнай. Пабачыўшы мяне, падышоў Граждан: «Я тут на выходныя ў вёску павязу свайго сабаку вешаць. Магу і твайго павесіць за кампанію...»

***20.01.2016***

Над зімовым вечаровым местам вышчарбленая поўня, як чэрап беднага Ёрыка...

***23.01.2016***

Удзельнічаў ва ўшанаванні памяці свайго земляка ксяндза Уладзіслава Чарняўскага (14.01.1916—22.12.2001). У Вішнева выехалі ад Чырвонага касцёла а дзявятай гадзіне раніцы. Даехалі хутка. У вялікім аўтобусе было амаль поўна людзей. З іх знаёмыя — Ірына Багдановіч і Алесь Пушкін. Я сядзеў з Алесем Квяткоўскім, які ў падарунак Музею Уладзіслава Чарняўскага падрыхтаваў карціну з выявай святара.

У касцёл прыйшло і прыехала шмат народу. Пакуль чакалі пачатак малітвы, мне здавалася, што яе будзе весці сам ксёндз Чарняўскі...

Мароз градусаў пад дваццаць. З капліччкі цячэ крыніца. Папіў вады. Цёплая...

Да канца малітвы з Алесем Квяткоўскім не былі. Пайшлі ў Вішнеўскі дом культуры. Ішлі доўга.

Пастаялі каля хаты, дзе нарадзіўся Шымон Перас. Узгадалася Алесева карціна, на якой наш славуты зямляк сядзіць каля студні. Студня, дарэчы, стаіць у двары сядзібы...

У Доме культуры мяне з Алесем сустрэлі наша Валожынская паэтка Валянціна Гіруць-Русакевіч і дзяўчаты-землячкі, якія працуюць у бібліятэцы. Нас адразу напаілі гарбатай, пачаставалі печывам. Мы, ачуняўшы ад марозу, паглядзелі музеі Уладзіслава Чарняўскага і Шымона Пераса. У музеі ксяндза ёсць здымак, на якім я з Уладзіславам Чарняўскім і пляменніцай Янкі Купалы Ядзвігай Раманоўскай. Пра існаванне гэтага здымка я не ведаў. Яму гадоў трыццаць...

У зале, дзе праходзіла ўрачыстае мерапрыемства да 100-годдзя Уладзіслава Чарняўскага, поўна народу. Многія стаялі, бо не было вольных месцаў, каб сесці. З Маладзечна прыехаў Міхась Казлоўскі з сябрамі. На жаль, не змаглі паразмаўляць...

Хораша выступіў пробашч касцёла Святых Сымона і Алены Уладыслаў Завальнюк. Я занатаваў з яго выступу колькі радкоў. Сярод іх: «Біблія — гэта кветка ўсіх народаў...»

У сваім выступе Уладзімір Гілеп узгадаў пра сакратара ЦК КПБ Аляксандра Кузьміна, да якога ён неяк прыйшоў, каб паразмаўляць па справах. Прыйшоў, а Кузьміна няма. Ад сакратаркі Уладзімір Аляксандравіч даведаўся, што Кузьмін паехаў у Вішнева да ксяндза Чарняўскага. Пра што яны маглі размаўляць? Гілеп выказаў меркаванне, што ксёндз і сакратар ЦК размаўлялі пра веру і культуру...

Фэлік Янушкевіч узгадаў пачатак 90-х, калі ўпершыню ў Мінску на вуліцы каля касцёла Святога Роха была беларускамоўная імша. Яе правёў ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі...

Дарогаю з Мінска ў Вільню ўсе касцёлы былі апаганеныя камуністамі і толькі касцёл у Вішневе заставаўся святым месцам для ўсіх...

Фэлік Янушкевіч прапанаваў збіраць сведчанні і подпісы, каб ксяндза Уладзіслава Чарняўскага залічылі да ліку святых. Першымі ў вялікім тоўстым сшытку паставілі свае подпісы святары. Спіс подпісаў ад прысутных у зале распачалі Фэлік Янушкевіч, Алесь Пушкін, Алесь Квяткоўскі і я...

Дамоў вярталіся не як з простага мястэчка Вішнева, а як са святога Вішнева...

***24.01.2016***

Марозна. Градусаў дваццаць. Сонца прасвечваецца праз шэрань, што на галінах дрэў, як праз радкі белай паэзіі. З Людмілай на Мухлі выгульваем Міёну. «Да вясны яшчэ далёка...» — кажу я, і Міёна кідаецца разграбаць снег, нібыта пачынае шукаць вясну. Каркнула варона, і мы ўсе ўтраіх паглядзелі на яе. Яна сядзела ў шэрані дрэва, як у сваім белым свеце. Сядзела, як чорная каралеўна, якая толькі ўначы з птушкі ператвараецца ў дзяўчыну. Да ночы яшчэ далёка...

***25.01.2016***

Прыканцы мінулага года ў «ЛіМе» быў мой аповед пра тое, якія выданні пабачылі свет у «Мастацкай літаратуры» ў 2015 годзе. Гаворачы пра кнігу «Недаспяваныя песні», у якой змешчаныя вершы паэтаў, што загінулі падчас вайны, я ўзгадаў верш Міколы Сурначова «У стоптаным жыце» і выказаў меркаванне: «Калі б Сурначоў не загінуў на Заходнім фронце

ў 1941-м, мы, можа, мелі б яшчэ аднаго народнага паэта». На жаль, я назваў недакладную дату смерці паэта, і мне пра маю памылку сёння сказаў, патэлефанаваўшы, Мікола Чарняўскі: «Сурначоў загінуў 20 красавіка 1945 года пад Берлінам. Гэта прыкрая памылка, але ж не абразлівая, як у адным з нумароў «ЛіМа» пісьменнік Даір Слаўковіч быў названы Даірам Сляповічам...»

***26.01.2016***

Каля дарогі кусты ў шэрані, нібы скруткі калючага дроту...



Раніцою да мяне на працу прыходзіла Наталля Адамовіч, каб узяць пару асобнікаў «Блокадной книги». Сёння дзень памяці яе бацькі. Была ў царкве. Я апавёў ёй, як недзе ў гэтым месяцы дваццаць дзевяць гадоў таму мы з Людмілай Рублеўскай, будучы студэнтамі Літінстытута, адведвалі Алеся Міхайлавіча, які падлечваўся ў адной з маскоўскіх бальніц. Амаль гадзіну ехалі аўтобусам некуды на ўскраіну Масквы. Выйшлі, а навокал усё замецена. Вецер. Мароз. Змрочна. Адно што надавала добрага настрою — апельсіны, якія ў нашай торбе свяціліся, як сонейкі. У Адамовіча ў палаце вельмі доўга не сядзелі, бо дактары не дазвалялі. Даведаўшыся, што мы неўзабаве збіраемся пабрацца шлюбам, Алесь Міхайлавіч нас па-бацькоўску дабраславіў. Слухаючы мяне, Наталля Аляксандраўна светла ўсміхалася. На развітанне нагадала, што 31 студзеня спаўняецца 90 гадоў сыну Якуба Коласа Міхасю Канстанцінавічу: «Абавязкова павіншуйце! Ён вас цэніць!»

***27.01.2016***

Пацяплела. І ў снега з’явілася свая забава. Снег з’язджае са стрэх...

***28.01.2016***

Прыемныя весткі распускаюцца ў табе, як драбок цукру ў вядры з вадой, а непрыемнасці нават велічынёй з муху, трапіўшы ў тваю душу, вырастаюць да памераў слана...

***29.01.2016***

По абедзе мяне на працы наведаў Вячаслаў Рагойша і падараваў краязнаўчы альманах «Наш гонар — Ракаў», які ён

з землякамі і роднымі падрыхтаваў і выдаў да 550-годдзя Ракава. Шкада, што гэтае выданне не пабачыла свет да святкавання юбілею нашага слаўнага мястэчка. Шмат у ім цікавых матэрыялаў і здымкаў. З Ракаўскіх хронік можна даведацца і такое: «04.08.1919 года Ракаў быў захоплены польскімі войскамі. На канец 1919 года ў Ракаве жыло 3 332 чалавекі. З іх 53,7 % палякі, астатнія — яўрэі, беларусамі ніхто не назваўся». На 1 студзеня 2015 года ў Ракаве жыло 2 530 жыхароў. Падпісваючы альманах, Вячаслаў Пятровіч напісаў: «Таленавіта-высакароднай сям'і Віктара Шніпа і Людмілы Рублеўскай, якая мае самае цеснае дачыненне да Ракава і Ракаўшчыны, з нязменнай сімпатыяй і найлепшымі пажаданнямі. Вячаслаў Рагойша. Ракаў-Мінск, студзень, 2016».



Удзельнічаў у вечарыне, прысвечанай 95-годдзю Івана Шамякіна, якая прайшла ў Музеі Максіма Багдановіча. Выступоўцаў было шмат. Прамаўлялі цікава, але падоўгу. Дочкі Івана Пятровіча сядзелі ў першым шэрагу, таму не бачылі, што ў іх за спінамі робіцца. Прыканцы вечарыны, якая цягнулася болей за дзве гадзіны, палова людзей (студэнты) паўцякала. Ішоў дамоў са злым пытаннем: «Калі ўжо нашыя старыя паважаныя пісьменнікі і літаратуразнаўцы зразумеюць, што, чым даўжэй яны кажуць, тым меней іх слухаюць?»

Амаль цёпла. На Свіслачы, дзе растаў лёд, з'явіліся качкі, як коцікі на вярбе...

***30.01.2016***

Сёння Адам Глобус у фэйсбуку апавёў пра тое, як у 1983 годзе ён тры месяцы гараваў у часопісе «Беларусь» пры Таісе Бондар. Я ж туды прыйшоў працаваць у 1987 годзе. На той час Таіса Мікалаеўна ўжо была намесніцай галоўнага рэдактара. Толькі першы месяц працы ў часопісе ў мяне быў болей-меней спакойны, а потым... І ўсё ж цяпер тыя чатыры гады ў «Беларусі» ўспамінаю, як рамантыку, бо, дзякуючы Бондар, я хадзіў у майстэрні да Гаўрыіла Вашчанкі, Леаніда Шчамялёва, Міколы Селешчука і іншых мастакоў. Я абавязаны быў наведваць усе выставы, хадзіць у тэатры, на кінафестывалі, знаёміцца з вядомымі фотамастакамі, артыстамі і кампазітарамі і пісаць пра іх. Праўда, у рэдакцыю ішоў без жадання, а тут яшчэ прыканцы 1990 года мяне супрацоўнікі

часопіса папярэдзілі: «Шукай працу! Бондар табе спакойнага жыцця не дасць! Яна цябе з'есць!» — «Сыду! Знайдзіце куды»,— сказаў я, і мне хутка дапамаглі ўладкавацца ў газету «Наша слова». Можна было б шмат чаго кепскага ўзгадаць, бо не проста ж так людзей Таісы Бондар называлі «Бондар-камандай, зондар-камандай», але не буду ўзгадваць. Яна даўно ўжо ў іншым свеце, і Бог ёй суддзя...

Знакамітаму фізіку Сцівену Хокінгу, які ў дваццаць адзін год быў паралізаваны, цяпер 74 гады. У гонар свайго дня народзінаў у Каралеўскім інстытуце Лондана ён прачытаў лекцыю, у якой сказаў: «Трэба заўсёды памятаць, што, у якія б цёмныя часіны вы ні трапілі, выйсце з іх заўсёды ёсць. Выйсце ўжо ў іншы сусвет». Узгадаўшы ў сваім жыцці цёмныя часіны, згаджаюся з фізікам. І яшчэ трэба памятаць, што выйсця няма толькі з магілы...



***31.01.2016***

Цёплая раніца. Крама. Малочны аддзел. У метрах двух ад мяне крамніца гадоў сарака пяці выкладвае на продаж пакеты з малаком. Каля яе стаіць невысокі, паводле ўзросту амаль пенсіянер, грузчык. Яна прывабная. Ён не пудзіла ў сваёй ватоўцы, але і не прыгажун. Чую, як грузчык пытаецца: «Што ты сёння ўвечары робіш?» — «Нічога»,— адказвае жанчына і працягвае выкладаць малако. «Паехалі да мяне пасля працы»,— прапануе мужчына.— «Чаго?» — «Гарбаты пап'ем, тэлевізар паглядзім».— «Я і дома пап'ю, і тэлевізар пагляджу».— «Дык на канапе паляжым».— «Я і дома паляжу».— «Дык мо чым вясёлым на канапе зоймемся».— «Не ведаю...» — «Ты падумай. Будзе ўсё добра...» — кажа грузчык і адыходзіцца ад крамніцы.

Наваколле стала шэрым, і толькі снег, як белы асфальт, ляжыць на палявой дарозе...

* * *

Калі канчалася вада на небе,
Спускаўся Бог на мокрую зямлю.
І ты спускаешся, бо ў краме трэба
Набыць віна, табе я не налью,
Бо сам не п'ю і не даю нікому

Дурнець у гэтым свеце праз віно.
Хаця на свеце лёгка жыць дурному,
Разумным прытварыўшыся даўно.
Зноў дождж ідзе і размывае ранак,
І ты вяртаешся дамоў з віном.
Нібы на п'едэстал, на мокры ганак
Усходзіш ты малы, нібыта гном,
І п'еш віно, нібы смалу ў тым свеце,
Дзе ў кожнага не будзе больш віна.
І не твая віна, што сёння вецер
І дождж, і лаўка побач, як труна,
Што зачакалася кагось, счарнела,
І ты ламаеш лаўку і крычыш,
Што жыць далей ты будзеш, як Атэла,
Што ты яшчэ спалохаеш Парыж...

**5.01.2016**



* * *

Твая вечнасць зрабілася снегам,
І яе п'яны дворнік змятае.
Цягне санкі хлапчук і са смехам
Лепіць снежку, і ў дзядзьку кідае
Тваю вечнасць, што заўтра растане
І вадою сцячэ ў вадасцёкі,
І ў нябёсным халодным тумане
Дзень прачнецца, каб пасвіць аблокі,
У якіх твая вечнасць сягоння
Стала снегам і ўпала пад ногі,
І па ёй не імчыцца пагоня,
Па ёй топчуцца толькі нябогі,
Як і ты, што сабраўся да Храма,
Каб у Храме ля свечак стаяць
І маліцца за тату і маму,
Што праз поўню з нябёсаў глядзяць...

**12.01.2016**

* * *

Ты стаіш у чарзе па святую ваду,
Як па пляшку чарніла зрання ў сераду
Мы стаялі ў мароз, бы ў чарзе ў лепшы свет,
Дзе ў пашане бадзяга і сумны паэт.

І бярэш ля царквы ты з-пад крана ваду,
І плюскоча вада, бы анёлы лятуць
Над табой, над зямлёй, што драмае ў снягах.
Напаўняецца пляшка, цяжэе ў руках,
І святлее ў тваіх вечна мокрых вачах.
Адышоўшы ад крана, са смагаю п’еш
І, адпіўшы сто грам, пляшку мне падаеш.
Я суседу даю. І знікае жуда.
І не скончыцца з крана святая вада.

**19.01.2016**



* * *

Зімой зіма бясконцаю здаецца,
І дзень пражыты, як разбіты лёд
На рэчцы часу, што між нас віецца,
Змываючы са снегам на галовы
З нябёсаў хмару, быццам бы сумёт,
Табе і мне, бо мы не так жывем,
Бо як цярнова, кажам, што цярнова,
Але не плачам з гэтага й не п’ем,
Бо ўсё мінае і зіма мінецца,
І змрочнасць трэсне, як на рэчцы лёд,
І сонца з трэшчын на зямлю пральецца,
І зарубцуе неба самалёт,
Які ляціць ужо ў густым тумане,
Нібыта з лёду злеплены ў той час,
Калі малымі мы былі і ў ванне
Хацелі пераплыць зіму якраз
Тады, калі на белым небакраі
Мы ўбачылі крыжы царквы старой,
Што, нам здавалася, стаіць у раі,
А нам у рай хацелася з табой...

Зімой зіма бясконцаю здаецца,
І дзень пражыты, як разбіты лёд
На рэчцы часу, што віруе ў сэрцы,
Але, магчыма, і наадварот...

**25.01.2016**

# *Люты*

***1.02.2016***

Гумовыя Гражданы амаль нічым не адрозніваюцца ад жывых Грамадзяноў...

***2.02.2016***

Пазнаёміўся з аўтарам помніка Уладзіміру Мулявіну Алесем Каструновым. Ён дапамагаў Людміле Крушынскай забраць дзясятак асобнікаў кнігі пра Песняра, якая нядаўна выйшла ў свет. Шмат не размаўлялі. Сустрэнемся 10 лютага на кніжнай выставе, дзе будзе прэзентавацца выданне, там і перамовімся, і паслухаем Мулявінскіх «Песняроў». Развітаўшыся з Каструновым і вяртаючыся з вуліцы на працу, сустрэў народнага артыста Рэспублікі Беларусь маэстра Міхаіла Фінберга. Сказаў яму пра прэзентацыю. Міхаіл Якаўлевіч адразу ж адказаў: «Не пайду! Мяне не запрасілі ў філармонію на юбілей Мулявіна. Усе былі, а мяне не было. Учора святкавалася 60-годдзе Беларускага тэлебачання, а я там працаваў яшчэ ў 1966 годзе. Зноў не запрасілі. Там былі ўсялякія голыя дзеўкі, а мяне не запрасілі...»

Артыст Ігар Сідорчык, які часам на тэлебачанні коратка прадстаўляе кніжныя навінкі, папрасіў мяне параўнаць два выданні пра Уладзіміра Мулявіна. Першы фаліянт выйшаў у 2004 годзе, а другі месяц таму. Каб доўга не апавядаць, я сказаў: «Першае выданне — гэта прыстойны драўляны дом, дзе прадстаўленыя жыццё і творчасць Мулявіна, а цяперашняе — гэта палац...»

***3.02.2016***

У панядзелак у выдавецтва па справах заходзіў Адам Глобус. Сядзелі ў кабінеце Алеся Бадака. Размаўлялі пра літаратарскае жыццё-быццё, узгадвалі свае маладыя гады і сяброў, якіх ужо няма. Валодзя падараваў нам па кніжцы. Мне — свой «Дом». Увесь час нашай размовы хацелася паклікаць сакратарку і папрасіць, каб яна сфатаграфавала нас на мой смартфон. Не паклікаў. Неяк было няёмка гэта рабіць. Яшчэ сфатаграфуемся. Сёння прыходзіў Васіль Зуёнак: «Я тут на Нямігу ў краму прыехаў. Пабачыўшы, што да вас недалёка, вырашыў наведацца.» У нашай размове колькі разоў Васіль Васільевіч паўтарыў, што яму ўжо 80 гадоў і цяпер у

яго кожны дзень жыцця на ўліку. І я паклікаў сакратарку, каб яна сфатаграфавала нас. Зуёнак адразу скінуў куртку, і мы сфатаграфаваліся...

Вечар. Зімовы дождж. Іду скверам. Раней тут былі могілкі. Пад дрэвам на лаўцы ў змроку сядзяць мужчыны. П’юць з чорнай пляшкі віно, як смалу...

***4.02.2016***

У белым снезе спіць белы мядзведзь. Ты яго не баішся, бо ты яго не бачыш...



***5.02.2016***

Выгульваючы на Мухлі Міёну, часта ўзгадваю радкі Івана Буніна з верша «Одиночество»:

*Что ж, камин затоплю, буду пить...*
*Хорошо бы собаку купить...*

Праўда, у мяне ўсё не як у вершы: сабака ёсць, каміна няма, дзявяты год не п’ю. Нейкі я няправільны, хоць і сумны...

***6.02.2016***

Сабакі радасна гуляюць на пляцоўцы для выгулу сабак, а мы, іх гаспадары, стаім каля дрэва, як прывязаныя...

Упершыню і не ад добрага настрою Максім пастрыгся пад нуль. Выгляд у яго цяпер салдацка-бандыцкі. Я ж у свой час, будучы школьнікам, быў стрыжаным пад нуль колькі разоў на год. Асабліва было слёзна, калі за тыдзень перад навучальным годам бацька браў тупыя нажніцы, доўга іх вастрыў, а потым стрыг мяне, як барана. Паехаўшы вучыцца ў Мінск, я ўжо не даваўся бацьку ў рукі і хадзіў па колькі гадоў нястрыжаным, што нават часам чуў у свой адрас у транспарце: «Дзевушка, вы выходзіце на следуюшчай астаноўке?» Праўда, у час маёй маладосці сярод хлопцаў была мода на доўгія валасы. Памятаецца, неяк мама папрасіла мяне, каб пастрыг бацьку. Я пастрыг і з таго разу быў асабістым бацькавым цырульнікам да апошніх дзён яго жыцця. Неяк, стрыгучы бацьку, запытаўся: «Ці памятаеш, як ты мяне стрыг, а я плакаў?» — «Не! Не памятаю...» — адказаў бацька, і мы разам засмяяліся...

***7.02.2016***

Памрэш і атрымаеш узнагароду — на ланцугу пражытых гадоў драўляны крыж...

Сонечна. Ты ідзеш скверам па леташнім лісці. Яно шэрае, як твой настрой. Месцамі з-пад лісця вызіраюць зялёныя промні травы. Гледзячы на іх, ты ўсміхнуўся. Побач ішла жанчына. Згледзіўшы тваю ўсмешку, яна таксама ўсміхнулася. Што яна падумала? Шчаслівы? Ідыёт? Відаць, падумала, што шчаслівы, бо ўсміхнулася, як шчаслівая...

Гадоў дзесяць таму знаёмы паэт, які жыве на раёне, клікаў прыехаць да яго на вясновае паляванне на пералётных гусей. Я адмовіўся. З таго разу цяпер штовясну баюся, што ён зноў патэлефануе і пачне клікаць на паляванне. Я люблю гусей, якія лятуць...

***8.02.2016***

Сёння з самага ранку адзін з аўтараў кнігі пра Уладзіміра Мулявіна даведаўся, што выданне выйшла і яго можна набыць у лік ганарару. За гадзіну пісьменнік прыехаў у выдавецтва з вялікай торбаю на фаліянт. Я павёў яго ў аддзел рэалізацыі, дзе высветлілася, што грошай не стае на кнігу. Ганарар малы, бо і напісанае пра Мулявіна малога аб'ёму. «А ў мяне з сабой ні капейкі няма!» — усклікнуў пісьменнік. Выслухаўшы шэраг прэтэнзій па ганарарах, я сказаў: «У наш час нельга выходзіць без грошай з дому і хадзіць па горадзе, як без пісталета ў рэвалюцыю!»

***9.02.2016***

Снілася родная хата. Адзінокая. Навокал снег, як мора, і далёка на даляглядзе стог саломы, як узыходзячае сонца. Я гляджу ўдалечыню, і мне спакойна, бо я ведаю, што недзе там бацькі, якім добра...

***10.02.2016***

На кніжнай выставе прэзентавалі кнігу «Владимир Мулявин. Сэрцам і думамі», якая з'явілася ў свет дзякуючы яе аўтару і ўкладальніцы Людміле Крушынскай.

На прэзентацыю прыехаў за паўтары гадзіны да пачатку. На ўваходзе ў выставачны павільён Людміла Крушынская

з Барысам Крэпакам сустракалі выступоўцаў, а я вадзіў у гардэроб. Першым прыйшоў Анатоль Кашапараў, якога адразу (многія пазналі) абступілі людзі і пачалі браць аўтографы, і разам з ім фатаграфавацца. Потым прыйшоў Леанід Барткевіч. Яго мала хто пазнаў, але многія глядзелі яму ўслед, бо ён быў апрануты вельмі не тыпова. Трэцім з'явіўся Пётр Ялфімаў. Гардэробніцы, пабачыўшы спевака, адразу завохкалі-заахкалі: «Ялфімаў! Ялфімаў!» Іншыя выступоўцы (фотамайстра Юрый Іваноў, кампазітар Алег Молчан, артыст Вадзім Касэнка, кінарэжысёр Уладзімір Арлоў, кампазітар Аляксей Скрыпнік, народны артыст Беларусі Міхаіл Казінец, музычны пастаноўшчык спектакля «Пясняр» Аляксей Еранькоў, жонка Уладзіміра Мулявіна Святлана Пенкіна і дзеці Песняра Валерый і Марына) не мелі такой увагі, як Кашапараў, Барткевіч і Ялфімаў, на шляху да места прэзентацыі, але, калі пачалася дзея, то і яны атрымалі ад удзячных слухачоў (было недзе каля 150 чалавек) мора воплескаў. Вёў імпрэзу артыст Алег Вінярскі, яна скончылася «Малітвай» у выкананні Уладзіміра Мулявіна. Усе слухалі стоячы. Адчувалася, што нябачны Мулявін стаіць на сцэне каля мікрафона і спявае...

***11.02.2016***

Пасля прэзентацыі кнігі пра Уладзіміра Мулявіна прыехаў дамоў запозна ў добрым гуморы, бо ўсё прайшло цудоўна. Многія казалі, што падобных па прадстаўнічасці і душэўнай цеплыні прэзентацый на кніжных выставах даўно не было і калі яшчэ будуць. Лёг спаць як звычайна а дванаццатай гадзіне і... прысніліся наша прэзентацыя і Мулявін, які спяваў і спяваў «Малітву». І сёння са словамі Купалаўскай малітвы ў душы я і паехаў на кніжную выставу. Прыехаў а дзясятай. Неўзабаве падышлі нашы выдавецкія супрацоўніцы, і мне адна з іх прызналася, што ёй усю ноч снілася наша прэзентацыя і песня «Малітва», таму яна не выспалася, але з гэтага не бядуе, бо слухала Мулявіна...

Учора, калі праводзіў у гардэроб ганаровых гасцей прэзентацыі кнігі «Владимир Мулявин. Сэрцам і думамі», меў магчымасць паразмаўляць з Леанідам Барткевічам. І пачаў я размову са згадкі пра тое, што ён і я ў свой час скончылі адну і тую самую навучальную ўстанову — Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум. «Потым я вучыўся ў Маскве ў

ГІТІСе!» — выслухаўшы мяне, сказаў спадар Леанід. «А я ў Літінстытуце!» — усміхнуўся я і запытаўся: «Ці памятаеце, як, ужо будучы ў «Песнярах», вы прыходзілі ў інтэрнат тэхнікума, і вам хлапчук дапамагаў пару радкоў да песні дапісаць, а вы злаваліся, што ён нотнай граматы не ведае?» — «Гэта ж было амаль сорак гадоў таму! Нешта памятаю, а нешта і не памятаю. Я ж тады пасля тэхнікумаўскіх «Залатых яблыкаў» часам зазіраў у інтэрнат, і, магчыма, было і такое, пра што вы кажаце...» — «Той хлапчук перад вамі».— «Вельмі прыемна», — сказаў Леанід Барткевіч і паціснуў мне руку...

Раніцай з Дзмітрыем Пятровічам прэзентавалі кнігу прозы і паэзіі маладых «Мой дзень пачынаецца...». Усе запрошаныя паэткі прыйшлі: Валерыя Саротнік, Яна Явіч, Ганна Чумакова, Ірына Чарняўская, Кацярына Массэ, Вераніка Мандзік, Людміла Клачко. Паэтаў не было. Іх у зборніку дванаццаць чалавек з сарака пяці. Было шмат маладых слухачак (дзяўчат семдзесят, а мо і болей) і таксама аніводнага хлопца. Праўда, сярод іх стаяў Леанід Дранько-Майсюк. На сцэне ў мяне не было фотаапарата, а то можна было б зрабіць паэтычны здымак з назовам кшталту «Паэт і ягоныя музы»...

На кніжнай выставе ўвечары вёў паўтарагадзінную імпрэзу «Сямейнае чытанне: чытаем класікаў беларускай літаратуры». На жаль, слухачоў было малавата. Праўда, нашы выступы, дзякуючы мікрафонам, былі чуваць амаль на ўвесь выставачны павільён. Я чытаў класікаў (Купалу, Багдановіча, Танка, Куляшова, Броўку, Караткевіча, Янішчыц), а прысутныя паэты чыталі сябе, як класікі. Завяршылася наша імпрэза выступам студэнцкага тэатра «Жывое слова» пад кіраўніцтвам Алесі Сівохінай. Пакуль мы чыталі вершы, на вуліцы выпаў снег. Белы, як чыстая папера на новыя творы...

***12.02.2016***

Кніжная выстава стамляе. Кнігі не стамляюць...

***13.02.2016***

На кніжную выставу прыехаў за паўгадзіны да пачатку паэтычнай імпрэзы, у якой быў вядоўцам. Сабраліся выступоўцы. Дзясятая гадзіна. Трэба пачынаць, а пачаць імпрэзу не можам, бо няма мікрафона. Дзе ён? А ён у гукаапе-

ратара, які забраў яго дахаты і ўжо едзе на працу. Чакаем. Хвалюемся. Час ідзе. Гукааператара ўсё няма і няма. Слухачы запытальна глядзяць на нас: «Чаму не выступаем? Каго ці чаго чакаем?» Хлопец з мікрафонам з'явіўся а палове адзінаццатай. Давялося падкараціць нашыя выступы. Спадзяюся, што ўсім запомніцца Касандра — цудоўная спявачка, гімназістка, прыгажуня. Яна праспявала песню «Жураўлі» на трох мовах — рускай, кітайскай і беларускай.

Хлопец Андрэй набыў маю кнігу «Заўтра была адліга» і запытаўся: «Калі будзе працяг?» — «Ён пішацца штодня!» — адказаў я.



Увечары на кніжнай выставе вёў імпрэзу «Сямейнае чытанне: чытаем класікаў беларускай літаратуры». Усё было хораша. Мне найболей спадабаўся паэтычна-музычны выступ паэта Змітра Арцюха і скрыпачкі Юліі Лебядзенкі, якая прыехала на вакацыі з Вены, дзе вучыцца. Вялікі дзякуй ім, што не адмовіліся выступіць, бо пасля выступу на іншай прэзентацыі яны ўжо ішлі дахаты, а я іх перахапіў на самым выхадзе з выставачнага павільёна...

***14.02.2016***

Апошні дзень кніжнай выставы, але не кніжнага свету...

Сёння не спяшаўся да выдавецкага стэнда, але ўсё адно прыехаў а палове адзінаццатай. Людзей мала. Ходзяць сярод кніг, як сярод цэглы, з якой будуюцца душы...

Урэшце змог цалкам абысці ўсе сцежкі-дарожкі выставы. Нічога незвычайнага няма, апрача кардоннага Абамы...

Удзельнікі выставы стомленыя ад шуму-тлуму, але ўсміхаюцца, як і належыць культурным людзям. Многія наведвальнікі, як шукальнікі скарбаў,— апантаныя да слепаты ў сваіх пошуках...

Сёння на галоўнай сцэне была прэзентацыя толькі кніжак Тамары Лісіцкай. Нехта мінаў, нехта спыняўся. Пыталіся: «Што за актрыса?» Тлумачыў. Нехта спыняўся, нехта ішоў далей...

Першай кнігай нашага выдавецтва, якую набылі на выставе, быў фаліянт «Владимир Мулявин. Сэрцам і думамі». Хто купіў — не ведаю, бо быў заняты сустрэчай ганаровых гасцей прэзентацыі гэтага выдання. Апошняй кнігай, набытай у нас, стаў том з серыі «ЖЗЛБ» пра Кузьму Чорнага. Яго займеў Міхась Скобла. Акурат была ўкладальніца кнігі Галіна Шаблінская, якая і дала пакупніку свой першы аўтограф на

гэтым выданні. Адразу каля выдавецкага стэнда пры сведках дамовіліся з Галінай Васільеўнай на новую працу. Думаю, што яна яе адолее і ўсе мы займеем цікавую і патрэбную кнігу. Якую? Сакрэт! Няхай зробіць!

Крыху сумна, што кніжная выстава скончылася. І добра, што скончылася, бо чытачы не паспелі абрыдзець выдаўцам і пісьменнікам...

Сёння дзень закаханых. Сёй-той купляў сваім каханым кнігі, таму верыцца, што і далей кніга застанецца найлепшым падарункам...

Вярнуўшыся дахаты пасля закрыцця кніжнай выставы і адпачыўшы крыху, з Людмілай пайшлі на V Міжнародны паэтычны фестываль «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова, каб паслухаць выступ Антона Рудака з гуртом Рамана Абрамчука і падтрымаць Георгія Барташа. Прыйшлі раней, таму трапілі яшчэ і на выступ Віктара Лупасіна і Віктара Жыбуля. Тое, што яны робяць, моладзі падабаецца. Старым не вельмі. Я не моладзь, але мне яшчэ далёка да старых...



Паэтычна-музычна-песенная кампазіцыя Рудака і Абрамчука сабрала поўную залу людзей. Стала душна і горача. Давялося зняць пінжак. Праўда, за колькі хвілінаў я змог забыцца на тое, што пяць дзён адпрацаваў на кніжнай выставе і што на вуліцы незразумелае надвор’е, ад якога няма настрою цешыцца жыццю...

Паэтычны слэм распачаўся на паўгадзіны пазней запланаванага. Паглядзеўшы на гадзіннік, я вырашыў, што з Людмілай падтрымаем воплескамі Георгія Барташа і пойдзем, бо заўтра ж на працу. І тут са сцэны сышоў Андрэй Хадановіч з прапановай да прысутных пабыць суддзямі слэмістаў. Ніхто сам не захацеў папрацаваць, і Андрэй, раздаўшы некалькім дзяўчатам шыльдачкі з адзнакамі, сказаў: «У нашай зале прысутнічае культавы паэт, наш класік Віктар Шніп. Я думаю, што ён будзе справядлівым суддзёй. Толькі іншыя не арыентуйцеся на яго адзнакі!» Ад пачэснай працы я не адмовіўся. У мяне ўжо быў судзейскі вопыт з самых першых слэмаў, якія праходзілі ў Музеі Янкі Купалы, дзе мы разам з Андрэем Хадановічам, Пятром Васючэнкам, Людмілай Рублеўскай, Адамам Глобусам і Алесем Камоцкім сядзелі ў журы...

Некалькім паэтам адзнакі занізіў праз непрыстойныя словы ў творах, а так, здаецца, быў справядлівы. Міхась Бу-

лавацкі з Магілёва быў вельмі строгі і паставіў выступоўцам пару двоек. І ўсё ж, калі Кастусь Жыбуль (яму гадоў дзесяць) па-за конкурсам чытаў вершы, напісаныя падчас слэму, Міхась Пятровіч найболей эмацыйна і адабральна рэагаваў на ягоныя творы. Думаю, калі б Кастусь быў удзельнікам слэму, ён не толькі б трапіў у фінал, а мог бы і перамагчы...

Ганаровае чацвертае месца занялі прадстаўнікі каманды «Рухавіка» Алесь Снег, Аліса Мініна, Рыгор Шыбека. Трэцяе месца падзялілі Наста Кудасава і Сяргей Прылуцкі, на другім месцы — Дайва Чапаўскайтэ з Літвы. Пераможцай стала Алена Сцепаненка з Украіны.

Пасля скanчэння паэтычнага слэму з прыемнасцю пазнаёміўся з паэткай Анхелай Эспіноса, якая хараша выступіла ў ліку самых першых. А першымі выступаць найцяжэй, бо сябрам журы яшчэ няма з кім іх параўноўваць. Запомніўся верш Анхелы пра Хрыста.

Дамоў з Людмілай вярнуліся амаль а дванаццатай гадзіне. Задаволеныя, нібыта мы перамаглі ў паэтычным слэме...

***15.02.2016***

Сёння чатыры гады, як мая мама пайшла ў лепшы свет. Перад працай наведаў Катэдру. Замовіў памінальную малітву. Набыў грамнічных свечак. Зайшоў у царкоўны прытвор і паставіў памінальную свечку. Якраз там быў бацюшка, які даваў усім пацалаваць крыж. Даў і мне. Пацалаваў і пачуў: «Дабраслаўляю!» Адразу ж ува мне душа страпянулася, стала светла і лёгка, а на вачах ад радаснага пачуцця з’явіліся слёзы...

***16.02.2016***

З гімназіі № 8 прыходзілі да мяне на працу гімназісткі (11 клас з філалагічным ухілам) Паліна, Юля і Дзіяна. Бралі інтэрв’ю для гімназічнага блога. На пытанне «Чаму абралі мяне?» пачуў: «Нам падабаецца тое, што вы пішаце». Мяркуючы па пытаннях, дзяўчаты, збіраючыся да мяне, добра падрыхтаваліся (пачыталі мае кнігі, паглядзелі матэрыялы пра мяне ў сеціве). Я ім апавёў, як у пяць гадоў бамбіў амерыканцаў, а потым прыдумаў на суседку верш, за які мне цётка выдала ганарар крапівой. Апавёў і пра тое, як у дванаццаць гадоў са сваімі вершамі хадзіў да Янкі Купалы ў Вязынку, а ўзімку ў гэтым самым ўзросце закахаўся ў Снягурку, якую пабачыў праз тэлевізар. Былі і пытанні пра сучасную літара-

туру. Падмацоўваючы адказ на пытанне, што варта пачытаць, я назваў шэраг імён і падараваў дзяўчатам кніжку Людмілы Рублеўскай «Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега». З гімназісткамі размаўляў амаль гадзіну. На развітанне падпісаў кніжку «Страла кахання, любові крыж», якую дзяўчаты захапілі з сабой з гімназічнай бібліятэкі, і падараваў кожнай «Пугачоўскага цырульніка». І ўжо, калі мае госці былі на парозе, пацікавіўся: «Можа, самі пішаце вершы?» — «Не!» — пачуў дружны адказ. «Я болей люблю чытаць вершы!» — сказала Юля і працытавала колькі маіх радкоў. Я расчуліўся і падараваў дзяўчыне кнігу «Першы папяровы снег».



***17.02.2016***

Пасля пяці дзён кніжнай выставы месяц у небе, як кніжка ў выглядзе месяца...

У калюзе мінулагодні руды бярозавы ліст, як маленькая Атлантыда...

***18.02.2016***

Прыснілася, што з Уладзімірам Сцяпанам прыйшлі да ракі купацца. Здымаем пляцакі, кладзем на пясчаны бераг. Рака шырокая. Раптам успомніўшы Алеся Пісьмянкова, я прапаную: «Паклічма Алеся Пісьмянкова! Ён любіць купацца. У яго неўзабаве дзень народзінаў». Сцяпан пагаджаецца, і мы вяртаемся да нейкага велізарнага будынка, каля якога стаяць пісьменнікі. Шмат незнаёмых. Знаходзім сярод іх Пісьмянкова і кажам, што непадалёку цячэ Днепр, у якім можна пакупацца. Алесь, усміхаючыся, і яшчэ колькі пісьменнікаў ідзе з намі. Прыходзім да вады, а нашых са Сцяпанам пляцакоў няма на месцы, яны ляжаць на процілеглым беразе. Пісьмянкоў закурвае і пачынае нешта апавядаць, а я кідаюся ў раку і плыву. Даплыўшы да берага, на якім пляцакі, чую звон — гэта звініць будзік, і я прачынаюся. Запісваючы прыснёнае, паглядзеў у даведнік. 25 лютага Алесю Пісьмянкову было б 59 гадоў...

***19.02.2016***

Удзельнічаў у спектаклі Паэтычнага тэатра «Арт. С», які прадстаўляў паэтычна-міфалагічны праект «Сакральная Беларусь». Гэтым разам тэмай дзеі быў чырвоны ко-

лер. Усе выступілі цудоўна, але найболей уразілі прысутных гімназісты Альжбэта Малішэўская-Спрынчан (спявала народныя песні) і Вячка Скобла, які дэбютаваў, як чытальнік вершаў. Вяртаючыся дахаты, я думаў пра сіні колер, які будзе тэмай наступнага спектакля. На вуліцы сыпаў дробны зімовы дождж, а ўдома мяне чакалі — Міёна, Людміла з Настай Грышчук, якая прыехала, каб зрабіць для «Сямейнай газеты» інтэрв'ю з намі. З Настай размаўлялі амаль да адзінаццатай гадзіны, падводзячы вынікі інтэрв'ю, яна сказала, што мы ідэальная сям'я. Мо яна так і ёсць. Дай Бог, каб у кожнага творчага чалавека было ўзаемаразуменне з блізкімі!



***20.02.2016***

Штораз, дастаючы з паштовай скрынкі газеты, спадзяюся, што сярод іх будзе квіток на атрыманне ганарару. Квіткі, на жаль, бываюць вельмі рэдка ды і ганарары прыходзяць драбнюткія. Сёння сярод газет ляжала позва ў ваенкамат на імя Шніпа Максіма...

Выгульваючы Міёну, да сённяшняга дня думаў, што я адзін са сваім сабакам размаўляю па-беларуску. Не! Не адзін! Сёння ў загоне для выгулу сабак была пажылая жанчына, і яна са сваёй Чарнічкай кантактуе па-беларуску. Жанчына нарадзілася на Палессі. Размаўляючы з ёй, узгадаў паэтку Яўгенію Янішчыц, якой цяпер было б столькі гадоў, колькі маёй суразмоўцы...

***21.02.2016***

Снег растае. Ты ім ідзеш, пакідаючы ланцужок слядоў, якія за нейкую хвілю напаўняецца вадой, як небам, з якога снег упаў, не думаючы, што ён растане...

Нават калі ўсіх нас не стане, то мова будзе ўсё адно жыць. Жыць у кнігах, як у спелых жытніх зярнятах жытнёвае мора...

***23.02.2016***

З таго часу, як у нас дома жыве Міёна, з якой у вольную хвіліну выходжу на вуліцу, амаль перастаў улучаць тэлевізар. Раней, калі не было сабакі, мог гадзінамі гар-

тацць каналы, шукаючы цікавае і часам глядзеў абы-што. Цяпер у зале тэлевізар, як чорны квадрат. Не! Не квадрат. Тэлевізар простакутны. Вялікі. Ён, як чорная дошка, на якой, узяўшы крэйду, можна пісаць і маляваць, як у маленстве...



***24.02.2016***

Вяртаючыся з працы, на дзвярах пад'езда прачытаў абвестку, што з 26 лютага ў доме будуць адлучаныя ўсе газавыя калонкі для награвання вады і падлучацца толькі тады, калі вентыляцыйныя шахты будуць прыведзеныя да ладу. Дзесяць гадоў таму ў нашым раёне рабілі капітальны рамонт. Вентыляцыю тады зрабілі з парушэннем нормаў, і, калі б не смяротныя выпадкі з газавымі калонкамі, пра якія пісалася ў друку, нічога б у нас ніхто не рабіў. Словам, смажаны певень у адно месца дзяўбануў — і начальнікі заварушыліся. Цяпер будзем невядома колькі часу без гарачай вады. Месяцы тры таму мы мянялі калонку, і мы ўжо ведаем, якія нас вясёлыя дзянькі чакаюць, пакуль вентыляцыя будзе даводзіцца да належнага стану.

Неяк было падараваў кнігу «Заўтра была адліга» кінарэжысёру Уладзіміру Арлову, а потым атрымаў ад яго ліст, які, сёння яшчэ раз прачытаўшы, вырашыў занатаваць:

*Што Віцьку «барселёны» і «кракавы».*
*Што «мадрыды», «саррэнты» ўначы,*
*Калі думкі пра могілкі ў Ракаве*
*І пра вёску бацькоў — Пугачы.*

Удар — з першага ж радка Вашай кнігі: «Упершыню за апошнія чатыры гады...» Што і як успрымалася далей — гл. эпіграф.

Я, можа, шчаслівейшы за Вас, бо адплывае ў туманную далеч боль страт, зацягваецца смалой-жывіцай часу: любімай бабулі не стала ў 71-м, бацькі — у 77-м, маці — у 92-м. Адно малюся за іх светлую памяць штораніцы. А наконт бацькоўскага дома... Вось урывак з маёй 9-й кнігі «Магия многоцветного экрана», якую паказваў Вам (515 старонак, 150 фотак. «Харвест», 2015 г. )

«Везде жили на съемных квартирах: мой светлый папа-идеалист — совестливый солдат советской системы — счи-

тал неприличным коммунисту заботиться о своем жилье, чем рьяно и успешно занимались товарищи по партии. Понятно, почему у меня нет так называемого «отчего дома». Может, поэтому фильмы мои назывались: «Твой дом на земле», «Добренево — отчий дом», «Дорога в оба конца» — о сельском и городском домах хлопцев-близнецов; «126 слов» и «Дорога на Евино» — о деревенских домах моих друзей-сценаристов,— 33 серии «Проклятый уютный дом»; и песни: «Дом», «Дом мой, столица», «Вы домой, журавли»...

Местечко Сопоцкин... там папа и бабушка упокоились: лежат рядом, как и прожили вместе свой век,— какое счастье!..



Вершы чытаю і перачытваю: як заўсёды, з захапленнем і асалодай. Цісну руку Майстра. З павагай — Уладзімір Арлоў, кінарэжысёр».

***25.02.2016***

Атрымаў ліст на сваё імя ад пісьменніка, твораў якога ў нашых выдавецкіх планах няма: «Прашу рэдактара маёй кнігі ў апавяданні «Юр’еў дзень» апошні сказ «Сонца яшчэ не зайшло» замяніць на сказ «Яшчэ не зайшло сонца» — так, як было ў арыгінале пры перадачы рукапісу ў часопіс “Полымя”».

Тэлефанаваў сваяк Анатоль Блашчыцын. Ад яго давед аўся, што ў гэтым месяцы ў Пугачах памерлі нашы землякі: 19 лютага Ганна Сікорская (у канцы сакавіка было б 87 гадоў), 22 лютага пахавалі Стася Рабца (пражыў 58 гадоў), а сёння памёр Казік Вярбіцкі (1951 года нараджэння). Тры чалавекі памерлі, і ніхто не нарадзіўся...

***26.02.2016***

Быў у мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» на адкрыцці фотавыставы Юрыя Іванова «Невядомыя фотаздымкі Уладзіміра Мулявіна». Прыйшоў амаль на паўгадзіны раней. Баяўся, што яшчэ нікога не будзе. Ды не! Ужо былі Юрый Іваноў, Ігар Лучанок, Людміла Крушынская, Барыс Крэпак і яшчэ з дзясятак чалавек, а таксама тэлебачанне і фотакарэспандэнты. Неўзабаве зала галерэі, на сценах якой віселі вялікія фотаработы, як мастацкія карціны, запоўнілася людзьмі. Тут жа ў цэнтры стаяў стол з зялёнымі

пластыкоўкамі, напоўненымі шампанскім. Амаль ніхто іх не чапаў, бо не прынята да адкрыцця выставы святкаваць. А сямнаццатай гадзіне ўсіх прысутных запрасілі ў залу, дзе стаяў мікрафон, а на століку ляжала кніга «Владимир Мулявин. Сэрцам і думамі», у якой шмат фотаздымкаў Юрыя Іванова. Так атрымалася, што я спыніўся на ўваходзе з адной залы ў другую і мне былі відаць выступоўцы і тое, што робіцца ў зале, у якім стол з шампанскім. Недзе за хвілінаў пятнаццаць паўз мяне ў залу з адзінокім гасцінным сталом прайшоў дзіўнаваты хлапчук з доўгімі светлымі валасамі. Ён пахадзіў каля стала, панюхаў пластыкоўкі і хуценька выйшаў з залы. За пару хвілінаў ён зноў прайшоў каля мяне, але ўжо не адзін. Іншыя такія самыя дзіўнаватыя хлопцы, відаць, са спецінтэрната для дзяцей з асаблівасцямі развіцця, абнюхаўшы ўсё, што было на стале, вярнуліся назад да сваёй кампаніі, якая стаяла непадалёку ад гардэроба. І яшчэ за колькі хвілінаў паўз мяне да стала з шампанскім прайшлі, як мурашкі, чалавек дваццаць хлопцаў і дзяўчат з таго спецінтэрната. Атрымалася вельмі прыгожая кінематаграфічная карціна — у адной зале пажылыя паважаныя дзядзькі выступаюць і гавораць пра Іванова і Мулявіна, а ў другой — у гэты самы час — дзеці са спецінтэрната з зялёных пластыковак п’юць шампанскае. Яшчэ за хвілінаў дзесяць я выйшаў з мастацкай галерэі. На ганку стаяла аўтар кнігі пра Уладзіміра Мулявіна Людміла Крушынская і глядзела на бялюткі густы снег, які нечакана пасыпаўся з неба, як пялёсткі белых кветак ад Песняра...

З Алесем Разанавым і мастачкай Кацярынай Дасько даводзілі аздабленне кнігі выбраных пункціраў «Такая і гэтакі: талакуе з маланкай дождж». Штораз пры размове з Алесем Сцяпанавічам у мяне з’яўляюцца паэтычныя радкі, чуючы якія, Разанаў кажа, каб я іх занатоўваў. Гэтым разам я паслухаўся паэта:

*На небе вырасла трава,*
*А на зямлі аблокі,*
*І ў іх схавалася царква,*
*Каб не прыйшлі прарокі,*
*Што косяць шаблямі траву...*

***27.02.2016***

Сонечна, як пры жывой маме...

З Людмілай дамовіліся сустрэцца каля ГУМа а шаснаццатай гадзіне. Прыйшоў раней. Каля ўвахода ў краму на парапеце сядзеў, трымаючы паміж ног велізарную чорную торбу, у чырвонай куртцы і ў груваісткай чырвонай вязанай шапцы бяззубы паэт. Яго ведаю амаль сорак гадоў. Мы з ім пазнаёміліся на літаб'яднанні ў «Чырвонай змене». Я тады вучыўся ў тэхнікуме, а ён працаваў на водаканале. Як яго завуць — не памятаю. Ці піша ён цяпер вершы? Хутчэй што не. Ён нярэдка бывае там, куды я прыходжу, і мне часам здаецца, што ён шпіёніць за мной. Хвілінаў пятнаццаць я таптаўся каля ўвахода ў ГУМ, і ўвесь гэты час бяззубы паэт сядзеў на парапеце і нешта сам сабе шаптаў, нібы маліўся. Каб пагрэцца, я на колькі хвілінаў зайшоў у краму і, калі выйшаў, майго знаёмага на месцы не было. На ўваходзе з'явіўся сабака. Нехта яго прывязаў да клумбы, і ён спакойна і з любоўю глядзеў на мінакоў, грэючыся на сонцы. Неўзабаве прыехала Людміла. Набыўшы ў ГУМе новых відэльцаў і лыжак, мы пайшлі на выставу дызайнераў «Млын». Уваход платны — 30 тысяч. Нягледзячы на гэта, у павільёне паўнютка людзей. Сустрэлі паэтку Наталку Кучмель. На самым пачатку нашай вандроўкі сярод рукатворнай прыгажосці мне прапанавалі набыць голас дажджу, а за хвілінаў дзесяць перад выйсцем з гандлёвага павільёна мог займець таблетку шчасця. Нічога не набыў, а Людміла сёе-тое купіла. Дамоў вярталіся стомленыя, але задаволеныя. У маёй памяці застаўся голас дажджу...

***28.02.2016***

На лаўцы, на якой учора ўвечары ляжаў бесхацінец, сёння ранкам ляжаў снег...

***29.02.2016***

З выдавецтва N прыходзіла рэдактарка кнігі паэта, які піша на рускай мове і які ў свой томік твораў змясціў пераклады беларускіх паэтаў. Пыталася, што рабіць з Максімам Багдановічам, каму плаціць. У бухгалтэрыі іх выдавецтва катэгарычна сказалі: «У такога паэта не магло не быць дзяцей! Яны цяпер недзе ў Амерыцы жывуць! Трэба знайсці і заключыць дамову на публікацыю, а інакш яны нас па судах зацягаюць!»

* * *

Снег растае, не паспеўшы абрыдзець.
У сакавіцкіх калюгах вада
Чорная, быццам той вечар, што прыйдзе,
Дзе зразумеюць усе, што бяда
Гэта прыйшла і прыйшла нечакана.
Што за бяда? Ты не знаеш зусім.
Проста зрабіўся наш свет акіянам,
І ўжо анёлы, як чайкі, над ім.
Снег растае, нібы прывід самотны,
І напаўняецца сумам прастор,
Дзе каля гаю дом чорны, высотны,
Як карабель, на якім Хрыстафор
Ноччу прыплыў і адкрыў Беларусь...

**2.02.2016**



* * *

Вымерлі на кухні прусакі
Не з таго, што есці там нічога,
А таму, што час прыйшоў такі
І не будзе часу ўжо другога.
Нежывое ў келіху віно,
Як вада сусветнага патопу,
Высахла і агаліла дно,
На якім убачыў ты Еўропу
Чорную, як вінная смала,
Што цячэ і вены запаўняе
Рэчак, у якіх вада была
Нашая, празрыстая, жывая.
Вымерлі на кухні прусакі
Не з таго, што есці там нічога,
А таму, што ў доме вахлакі,
І таму, што іх было замнога...

**3.02.2016**

* * *

Па беразе мокрым, нібыта па беразе плачу,
Ідзем мы няспешна з табою па следзе сабачым,
І вецер балтыйскі пясок, нібы снег, надзімае
У нашы сляды, і ў пясок, нібы ў вечнасць, знікае

І вецер, і мы, і Балтыйскае шумнае мора,
І неба, дзе сонца няма, хоць было яно ўчора,
Як піва ў піўбары, што сёння чамусь не працуе.
Па беразе мора ідзем, і за намі цікуе
Вялікая чайка, як маці ўсіх чаек мясцовых,
Якія суровыя тут і няма больш суровых
Такіх у Паланзе, куды не спяшаем з табою,
Бо мы ў адпачынку і нам не самотна чужою
Сцяжынай ісці па сабачых слядах, не баяцца
Згубіцца ў пясках і дадому сто год не вяртацца
Па беразе мора, нібыта па беразе свету.
З вады, нібы кветку марскую, газету
Дастаўшы, мы бачым, што гэта старая газета
І ў ёй некралог невядомага свету паэта...

**4.02.2016**

* * *

Чакаеш выхадных, нібы турэмшчык волю,
А прыйдуць выхадныя, прасядзіш у хаце
Без радасці, без сонца і без алкаголю,
Марнуючы нервова, як зарплату, шчасце.
Няспешна п’еш гарбату, слухаеш навіны
Адну хвіліну і не больш, бо знаеш ты,
Што заўтра будзе снег і ты ісці павінны
Праз снегапад, а ўвечары ізноў сюды
Прыйсці на кухню і зноў доўга піць гарбату,
І потым выхадныя, як патоп, праспаць
І, пакідаючы, нібы каўчэг свой, хату,
Спыніўшыся на ганку, вечнасць прастаяць...

**6.02.2016**

* * *

Сягоння светла снілася Жэнева
І возера, дзе да нябёс фантан,
І ты каля яго, як каралева,
Ішла, і следам за табой бажан
Ляцеў, а я глядзеў, нібы каменны,
На свет, які не ведаў я раней,
Дзе поўня, як гадзіннік мой насценны,
Была ў нябёсах, і мне весялей

Было стаяць сярод начной Жэневы,
І ўслед табе глядзець, не верыць сну.
І, як зялёны дождж, шумелі дрэвы,
Шумеў фантан і плакаў пра вясну,
Што адплыла, як карабель зялёны,
Па возеры ў нябесны акіян...
Прачнуўся. Каркала ў двары варона,
І пад вакном, як белы лес, туман
Стаяў, і праз яго плыла Жэнева,
Прыгожая, не горшая за Менск,
Які ты любіш так, як каралева,
Не просячы нічога наўзамен...

**23.02.2016**



## *Сакавік*

***1.03.2016***

Ранкам зямля была чорная. Цяпер белая ад снегу, які ўсё ляціць і ляціць на зямлю. Ідучы праз гэтую першасакавіцкую завею, узгадалася родная хата і тыя далёкія гады, калі бацьку было каля сарака. Ён працаваў на ферме падвознікам і палуднаваць прыязджаў на кані дахаты. Бывала прыедзе па вясновай чорнай зямлі, пакавіць воз у двары, а па нейкім часе пойдзе, як сёння, снег і сляды ад колаў знікнуць, нібыта іх і не было. Папалуднаваўшы, бацька вяртаецца на ферму, і следам за ім ад нашай хаты на снезе застаюцца дзве паралельныя каляіны, паміж якімі сляды каня. Я, дзесяцігадовы хлапчук, выходзіў з хаты і няспешна ішоў бацькавай дарогаю, уяўляючы, што тут нядаўна ехала карэта, у якой сядзеў князь. Князем быў мой бацька, і ён паехаў на вайну, а мяне пакінуў дома. З кім вайна? Пра гэта не думаў. Галоўнае мне было, што мой бацька князь і ён вернецца з перамогай...

Выпаў снег, нібыта з чыстай старонкі пачаўся сакавік...

***2.03.2016***

Над Свіслаччу чайка, як папяровы самалёцік, што прыляцеў з майго маленства...

***3.03.2016***

Раніца а палове дзясятай. Пад нагамі растае першасакавіцкі снег. Іду на радыё запісвацца для перадачы «Дыярыуш». Ходнікамі вуліцы Чырвонай у парк, дзе стаіць Марат Казей з гранатай, Ён і Яна прабеглі перада мной у сціплых спартовых касцюмах. Прыгожа. Яны не заўважылі мяне. А я цэлую хвіліну глядзеў ім услед. Прыгожа! Нават дзеля таго, каб пабачыць Іх разам у спартовых касцюмах, сёння і варта было а палове дзясятай ісці калюгамі на радыё...

У старых кніжках старонкі жоўтыя, як з пяску...



***4.03.2016***

У Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы ўдзельнічаў у адкрыцці фотавыставы «Балады Віктара Шніпа на фатаграфіях Міколы Лінніка», якое распачалося з выступу гурта Кацярыны Ваданосавай «Alta mente». У зале было шмат заўсёднікаў бібліятэкі, якія ўважліва ўсіх слухалі і гучна пляскалі. Адкрыццё выставы, якое стала працягам святкавання ўчорашняга дня народзінаў Міколы Міхайлавіча, заняло амаль паўтары гадзіны. Калі пісаў водгук пра фотаработы, да мяне падышоў пажылы мужчына і падзякаваў за «Баладу Язэпа Драздовіча». За хвілінаў пяць пакінуў апусцелую залу. Думаў, што ў калідоры ўжо нікога не будзе, а там амаль усе слухачы разглядалі фотаздымкі. Адна жанчына перапісвала ў нататнік маю баладу. Не падышоў, каб паглядзець якую. Потым фатаграфаваліся каля скульптуры Янкі Купалы. Ідучы з бібліятэкі на тралейбусны прыпынак, дагнаў двух здаровых хлапцоў з велізарнымі чорнымі цяжкімі торбамі. Падумалася: «А можа, кніжкі нясуць...»

***5.03.2016***

А сёмай вечара да нас дадому прыйшоў Віктар Лупасін з гуртом «Зялёнахвостыя» і кінааператарам, каб зняць кліп да песні «Піва і свінінка». З сабой хлопцы і дзяўчаты прынеслі паўтара кілаграмы свініны і шэсць літраў піва, а таксама вялікія куфлі. Юля і Даша на кухні пад музыку гатавалі адбіўныя. Віктар Лупасін і Лёха Арлоў разлівалі піва, музыцыравалі і спявалі. Калі вызваліўся гармонік, я недзе з паўгадзіны пілікаў на ім і пабудзіў нашу Міёну. Адразу яна напрасілася паглядзець, што ў хаце адбываецца, і трапіла ў

кадры кліпа, у якім быў задзейнічаны і наш папугай Северус. Амаль пяць гадзінаў здымак праляцелі, як пяць хвілінаў. За гэты час Людміла на фотаапарат зняла свой фільм для аўтарскага кіно. Не ведаю, што за кліп атрымаецца ў кінааператара Алеся Мельнікава (ён унук Янкі Запрудніка і ў свой час іграў у «Старым Ольсе» і «Ліцвінтролях»), а вось у Людмілы атрымалася файна. А дванаццатай зялёнахвостыя пакінулі нас. У гуморы, мыючы посуд, я сказаў Людміле: «Адчуванне, нібыта Новы год сустракалі!» Людміла ўсміхнулася: «Так! Як Новы год сустрэлі!»

***6.03.2016***

На Свіслачы качкі, як гумовыя. Не лятаюць і не тонуць...



***7.03.2016***

Прысніласа, што на праспекце каля ўніверсама «Цэнтральны» сустрэўся з Адамам Глобусам, які папрасіў пайсці да яго дахаты (кватэра на вуліцы Карла Маркса) і дапамагчы перапісаць вершы Уладзіміра Караткевіча, якія ён нядаўна стварыў. Сядзім перапісваем. Светла ў пакоі. Незнаёмая дзяўчына на старонкі з перапісанымі вершамі прылепліваe каляровыя драбнюткія кружочкі, каб было прыгожа. «А ці шмат яшчэ перапісваць?» — пытаюся. Глобус адказвае: «Тут яшчэ ёсць і новыя пераклады Караткевіча...» і я... прачынаюся, бо зазвінеў будзік, нагадваючы, што трэба пабудзіць Людмілу, якая едзе ў Вільню...

Памяць нашага хатняга камп’ютара амаль запоўненая. Даўно збіраемся выкінуць непатрэбнае і лішняе, але ўсё часу не стае. Сёння наўгад зазірнуў у колькі тэкставых файлаў. У першым былі старыя вершы, якія ўжо надрукаваныя, і я іх спакойна выдаліў. У другім файле, які быў створаны 20 верасня 2003 года, знайшоў тэкст пад назовам «Мама»:

*«Ёсць на Валожыншчыне вёска Пугачы,*
*Дзе рэчышчы сцяжын не зараслі ў лугах,*
*У агародчыках красуюць касачы,*
*Буслы на захад сонца коцяць па дубах.*

Гэтыя радкі, якія напісаліся болей за дваццаць гадоў таму, зноў і зноў узнікаюць у мяне ў памяці дарогаю дадому, да маці. І гляджу я з вакна аўтобуса і бачу, як з мамай іду на поле

жаць жыта. Мама яшчэ зусім маладая, і яна радуецца, што я пайшоў у першы клас і ўчора навучыўся пісаць слова «мама»...

А вось там у лесе на ўзгорку мы збіраем суніцы і мама апавядае, хто і дзе тут жыў раней, якой была наша вёска...

У тым балотцы, якое цяпер ужо амаль перасохла, з мамай і бацькам капаем торф. Крыху раней касілі асаку, сушылі і вазілі дамоў...

Каля дарогі сцяжынкаю, якая і сёння не затравела, мама ідзе ў кароўнік. Устае а пятай гадзіне раніцы, каб рукамі выдаіць шаснаццаць кароў, нанасіць ім есці, напаіць. Праца цяжкая, але мама не скардзіцца і паспявае зрабіць усё не толькі на кароўніку, але і дома. У шафе сярод палатняных абрусоў захоўваюцца мамiны ганаровыя граматы, дзяржаўныя ўзнагароды...

Мне дзевяць гадоў. Мама рыхтуе абедаць і спявае народную песню. Седзячы ў другім пакоі, прыцішыўшы дыханне, слухаю. А потым па памяці перапісваю песню ў сшытак. Хвалюся маме, што запісаў тое, што яна спявала, а мама і кажа: «У тваім запісе толькі два першыя радкі правільныя, а ўсё іншае ты прыдумаў...» Так з'явіўся мой першы напісаны верш...

Мама з бацькам паехалі ў Гарадок. Вярнуліся позна. Сястры прывезлі ляльку, брату вудачку, а мне кніжку Івана Сяркова «Мы з Санькам у тыле ворага»...

На вуліцы ноч. Мароз, завея. Аўтобус у вёску прыйшоў амаль на паўтары гадзіны пазней, чым трэба. Выходжу, а на прыпынку мама... Тэлефонны званок з вёскі. Паштальёнка маме прынесла запрашэнне ад Саюза жанчын прыехаць у Мінск у Палац Рэспублікі на ўрачыстае святкаванне Дня маці. І вось ужо я стаю на вакзале і чакаю аўтобус з Пугачоў. Аўтобус як заўсёды спазняецца, але мы яшчэ паспяваем з'ездзіць да мяне на кватэру, бо мама навезла ўнукам падарункаў. Заходзім у Палац Рэспублікі. Маму сустракаюць з букетам кветак. І я гляджу на сваю маму і на ўсіх маці, якія прыйшлі на свята, і бачу, якія яны ў нас падобныя. І я ганаруся сваёй мамай.

Аўтобус спыняецца. Выходжу. На прыпынку мама...

У сеціве натрапіў на інфармацыю пра выставу «Мінск сямідзясятых вачыма Уладзіміра Ткачова». Паглядзеў карціны. І пазнаў на іх будынкі завулка Дзімітрава, дзе я кватараваў з 1977 года па 1980. Напачатку каля года жыў у стрыечнай сястры Ніны, а потым у старых Мацвея Сцяпанавіча і

Марыі Антонаўны Цяслёнкаў. У 1980 годзе распачаўся знос дамоў і ўсім жыхарам далі новыя кватэры. Мае гаспадары пераехалі на вуліцу Герасіменкі ў дом нумар адзін. З імі паехаў і я. Памятаю, што ў Цяслёнкаў быў вялікі скураны фатэль, які дастаўся ім ад немцаў. Мацвей Сцяпанавіч любіў улетку ў ім сядзець каля дома і чытаць газеты і кніжкі. Неяк да старога падышоў незнаёмы мужчына і пачаў прасіць прадаць яму фатэль. Дзед доўга не хацеў пазбаўляцца любімай рэчы, але за пяцьдзясят рублёў прадаў. Фатэль быў цяжкі, і мне давялося дапамагаць незнаёмцу яго несці дахаты. Недалёка. У нашым раёне. Несучы фатэль, я пазнаёміўся з мужчынам. Як яго зваць — не памятаю, але запомнілася, што гэта быў мастак. Ён запісаў мне свой адрас і тэлефон майстэрні, казаў, каб завітваў у госці. На жаль, я ні разу да мастака не зайшоў, бо мы неўзабаве атрымалі новую кватэру. Цяпер, разглядаючы карціны Уладзіміра Ткачова, я думаю, што трыццаць пяць гадоў таму я пазнаёміўся менавіта з ім...



***8.03.2016***

Яшчэ пятага сакавіка многія жанчыны і дзяўчаты вярталіся ўвечары дахаты з кветкамі. Два выходныя дні перад восьмым сакавіка ў мяне прайшлі ў чаканні Свята. Сёння ў кветках, якія прадаваліся, не было вялікай радасці. У іх была стома: «Калі ж нас хто-небудзь набудзе і падорыць?» Я набыў і падараваў. Цяпер яны, шчаслівыя, стаяць у вазе. Прыгожыя, як адзіныя, якім яны падораныя...

***9.03.2016***

Ідзеш туды, дзе цябе павінныя чакаць. Прыходзіш. Нікога няма. Сам чакаеш: «Мо яшчэ прыйдзе? Пачакаю хвілінаў пяць і пайду!» Мінае паўгадзіны, і ты сыходзіш з месца, дзе павінныя былі цябе чакаць, але атрымалася так, што ты чакаў. Ідзеш і, чым далей ад месца, дзе мусіла адбыцца сустрэча, тым усё болей хочаш вярнуцца і пераканацца, што там нікога няма...

То снег, то дождж. Зямля то белая, то чорная. І сумна табе і ад снегу, і ад дажджу. І ты глядзіш з вакна, як з неба. І спускаешся на зямлю, каб адчуць яе пад нагамі. І ты ідзеш па зямлі праз снег і праз дождж, і ўсміхаешся, бо зямля пад нагамі то белая, то чорная...

Прыгажосці замнога не бывае. Яна ці ёсць, ці яе няма. І нават у тым, што яе няма, ёсць свая прыгажосць, якую не ўсе адчуваюць, бо бачыць прыгажосць мала...

Таленавітаму чалавеку за талент можна дараваць толькі кепскі твор, які можа здарыцца ў любога таленавітага, а ўсё іншае (хамства, п’янства і да гэтага падобнае) мусіць ацэньвацца, як і ў чалавека звычайнага...

***10.03.2016***

Прыснілася, што атрымаў запрашэнне на аб’ядноўчы з’езд двух пісьменніцкіх саюзаў. Прыйшоў у Дом літаратара. Пісьменнікаў у фае няшмат. Адчыняю дзверы ў вялікую залу для пасяджэнняў і бачу абледзянелыя, пакрытыя шэранню сцены і столь, а сярод гурбаў снегу сям-там відаць крэслы. З самага краю на ўваходзе сядзяць Ніл Гілевіч і Уладзімір Гніламёдаў. Размаўляюць. Апранутыя ў чорныя доўгія кажухі, на нагах шэрыя валёнкі без галёшаў, на галовах чорныя зайцавыя шапкі, падвязаныя пад бароды. Вітаюся. Гілевіч кажа: «Праходзь хутчэй! Зараз гімн будзе!» Загучала песня: «Паталок ледзяной, дзверь скрыпучая. За шаршавай сцяной цьма калючая...» і... зазвінеў мой будзік, і я прачнуўся.

***11.03.2016***

З Міёнай гулялі на Мухлі. Высока-высока над намі праляцелі два кліны гусей. У першым было болей за дваццаць птушак, а ў другім — каля сарака. І мы, задзёршы насы, глядзелі ў неба, слухаючы гусіныя крыкі пра вясну...

***12.03.2016***

Два дні таму на YouTube з’явіўся кліп гурта «Зеленахвостыя» «Піва і свінінка», куды ўвайшлі і здымкі, што рабіліся ў нашай кватэры. У кадр трапілі Людміла, я і Міёна. Сёння я паклікаў Міёну, каб падзівілася на сябе ў камп’ютары. Яна прыйшла, панюхала манітор, паглядзела кліп, задаволена гаўкнула і пайшла, віхляючы хвастом, да сябе ў пакой...

Чорны крумкач сядзіць на вяршаліне яшчэ чорнага дрэва і глядзіць у неба, дзе лятуць, вяртаючыся дадому, гусі. Пра што крумкач думае? Пра вясну, пра анёлаў ці пра тутэйшых людзей, да якіх вяртаюцца гусі?

Ідзеш вуліцаю сярод людзей, якіх ты бачыш упершыню, і ёсць сто адсоткаў верагоднасці, што ты нікога з іх ужо ніколі не пабачыш, як і яны цябе. Але яны будуць жыць у гэтым горадзе, хадзіць гэтай вуліцаю, на якую сёння ты трапіў выпадкова. І ўсё ж ты можаш з кімсьці з іх сустрэцца гэтаксама, як і могуць супасці лічбы, што ты пазначыў на картцы «Спортлато», з тымі лічбамі, якія выпадуць падчас розыгрышу выйгрышаў. Ты сёння зноў нічога не выйграў. Ты ідзеш вуліцаю сярод незнаёмых людзей, якія таксама, магчыма, сачылі за розыгрышам грошай у «Спортлато» і нічога не выйгралі. Ты ўсміхаешся і не баішся, што нехта падумае пра цябе: «Вар'ят нейкі!»



***13.03.2016***

Адбыўся з'езд кампазітараў, якіх у Саюзе ў параўнанні з пісьменнікамі не так і шмат. У дзесяць разоў меней. Недзе чалавек 130. У БСК прымаюць толькі з вышэйшай музычнай адукацыяй. Кампазітары, як і пісьменнікі, таксама не спяць у шапку, а твораць і твораць. І ўсё адно мы ведаем толькі тых, хто стаў вядомым гадоў дваццаць таму. Гэта чалавек дзесяць, а астатніх, як і няма. Яны нібыта затаіліся, баючыся, што і ім можа быць пастаўленая задача стварыць сваю «Вайну і мір». З'езд прайшоў без шуму і тлуму. Старшынёй абраны Ігар Лучанок, які на гэтай пасадзе з 1980 года.

***14.03.2016***

Зіма белай павуцінай снегу хапаецца за чорную зямлю...

***16.03.2016***

У сеціве з'явілася інфармацыя, што ў ЗША памёр Аляксандр Ясенін-Вольпін, вядомы савецкі дысідэнт, сын Сяргея Ясеніна і паэткі Надзеі Вольпін. У 1949 годзе ён быў змешчаны ў псіхіятрычную бальніцу за антысавецкія вершы. У 1965-м стаў ініцыятарам першай праваабарончай дэманстрацыі ў Маскве на Пушкінскай плошчы. У 1972 годзе ён эміграваў у ЗША. Аляксандр Ясенін-Вольпін быў вядомым матэматыкам і філосафам, аўтарам некалькіх фундаментальных работ у галіне матэматычнай логікі і тэорыі права. Пражыў 91 год. Пажыў за сябе і за бацьку...

Сто гадоў чакання пенсіі...

*17.03.2016*

У кнігарні «Светач» з 12 да 17 гадзіны прайшла акцыя «Сямейнае чытанне», у якой прынялі ўдзел пісьменнікі Алена Папова, Ганад Чарказян, Алесь Камоцкі, Дзмітрый Пятровіч і я. Мне і Пятровічу выпала выступаць з 14 да 16 гадзіны. Людзей напачатку амаль не было — працоўны ж дзень, і да ўсяго абвестка пра нашу акцыю з'явілася на дзвярах кнігарні толькі ўчора. Калі спяваў Пятровіч, зайшоў мастацтвазнаўца Яўген Шунейка. Пахадзіў-пахадзіў па кнігарні і, нічога не набыўшы, сфатаграфаваў нас, адзінокіх. Потым сабралася чалавек дзесяць слухачоў. Для іх мы і выступалі. Побач са мной сядзела маладая маці з дачкой гадоў шасці. Малая раз-пораз прасіла набыць кніжку Пятровіча, які спяваў пад гітару. І маці штораз шаптала дзіцяці: «У нас грошай на кніжкі няма...». Кнігарню за нашы дзве гадзіны наведала чалавек трыццаць, і толькі адна жанчына, якая амаль гадзіну слухала мяне і Пятровіча, набыла кніжку, і гэтай кніжкай сталася мая «Заўтра была адліга». Жанчыну звалі Галіна Леанідаўна. Іншыя наагул выходзілі з кнігарні, як з кніжнага музея...

*18.03.2016*

У бібліятэцы імя Цёткі Паэтычны тэатр «Арт. С» прадставіў паэтычна-міфалагічны праект «Сакральная Беларусь». Гэта была ўжо васямнаццатая імпрэза. Яна была прысвечаная сіняму колеру. Вядоўцы Аксана Спрынчан і Яраш Малішэўскі давалі слова Віцы Трэнас, Алесю Емяльянаву, Таццяне Пратасевіч, Юрасю Пацюпу, Ірыне і Максіму Клімковічам. Я выступаў паводле ліку другім і, баючыся, што наш спектакаль можа па часе хутка скончыцца (колькі выступоўцаў прыхварэла), прачытаў два вялікія вершы (звычайна адзін) — «Люты Рыгора Барадуліна» і «У сінім свеце». Апавядаючы пра Рыгора Іванавіча, узгадаў, як яму прыносіў у выдавецтва ў школьных сініх сшытках вершы, напісаныя сінім атрамантам на сініх лінейках. Калі ў Барадуліна сабралася маіх сшыткаў з дзясятак, ён паклікаў мяне дахаты, каб паразмяўляць пра творы. Успрымаючы Рыгора Іванавіча як свайго настаўніка, я чакаў, што вершы мае будуць скрэсленыя чырвоным атрамантам, як гэта рабілі ў школе настаўнікі, але над многімі вершамі стаялі толькі сінія крыжыкі. Гэта азначала, што гэтыя творы Барадуліну спадабаліся. Пазней і я пачаў ставіць сінія

крыжыкі або мінусы над чужымі творамі, якія даваліся на ацэнку.

Сіні колер у мяне — святы колер, бо ў яго былі пафарбаваныя дзверы царквы, у якую я ўпершыню ў пяць гадоў зайшоў з бабуляй Ганнай у Крывічах, дзе пахаваны мой дзед Міхась...

Зранку Максім праходзіў апошнюю вайсковую камісію. Калі я быў у Лагойску на выступе ў дзіцячай бібліятэцы, сын патэлефанаваў і паведаміў, што ён паводле здароўя ў першай групе і цяпер яму свеціць ПДВ і спецназ. Апавядаючы пра свае перспектывы, Максім з аптымізмам сказаў: «Галоўнае — я здаровы!»



***19.03.2016***

Дзесяць месяцаў мой бацька пражыў у Мінску на кватэры ў пятнаццаці хвілінах хады ад мяне. Штодня я наведваў яго раніцай і пасля працы. Мінула тры з паловай гады, як бацька з той кватэры трапіў у Ракаўскую бальніцу, дзе праз чатыры месяцы памёр на 82-м годзе жыцця. Бацькава мінскае жытло было нешыкоўным. Двухпакаёвая кватэра на першым паверсе ў двухпавярховым доме, які ў той час ужо быў у гарадскіх планах на знос. Падлога даўно не фарбаваная, сцены абшарпаныя, белыя рамы ў вокнах пачарнелыя, патрэсканыя. Краны цякуць. Гарачай вады няма. Ацяпленне аўтаномнае, за якім трэба сачыць, каб не патух агонь у награвальніку. Гаспадыня за кватэру брала сто даляраў. За тым, як жыве кватарант, гаспадыня не сачыла. Словам, для нас былі болей-меней прыдатныя ўмовы. Пасля таго, як бацька пакінуў кватэру, я ні разу не падыходзіў блізка да дома. Здалёку паглядаў пару разоў, і мне здавалася, што з вакна, у якім няма святла, бацька глядзіць на мяне, чакаючы майго прыходу. І вось сёння я прыйшоў да знаёмых вокнаў. Усе тры вакны занавешаныя. Вісяць нашыя фіранкі, якія чапляла Людміла, калі бацьку сялілі ў кватэру. Ніякіх прыкмет, што там нехта цяпер жыве, няма. Я стаяў перад вокнамі хвілінаў пяць і слухаў бацькава дыханне, ягоны голас, ягонае сэрцабіццё. Старая прайшла паўз мяне, і я пачуў вецер і рыпенне снегу пад нагамі старой, якая несла смецце ў чорным пакеце ў сметніцу, куды і я насіў ад бацькі такія самыя пакеты...

***20.03.2016***

Апоўдні з Міёнай гуляў ля Мухлі. Над намі было глыбокае сіняе неба, а навокал дрэвы, якія ўжо гатовыя выбухнуць зеленню, і ўчорашні снег, праз які месцамі відаць леташнія трава і апалае лісце. Раптам высока-высока пачуліся птушыныя крыкі. Гэта ў кірунку Прыбалтыкі ляцелі гусі. Іх было каля сотні. Пералётны ланцужок увесь час мяняў сваю форму і, калі я сказаў Міёне, каб яна паглядзела на птушак, на нейкі момант ён быў падобны да сэрца. Аўчарка, зірнуўшы ў неба, гаўкнула і пабегла далей гуляць, а я сачыў за птушкамі, пакуль яны былі відаць. І мне здавалася, што гляджу на шырокую вясновую плынь, якой плыве срэбны ланцужок князёўны з Вялікага Княства Літоўскага...

***21.03.2016***

Сяджу ў пустой студэнцкай аўдыторыі. Падлога пясчанага колеру. Гэткія самыя крэслы і сталы. Усё, як з пяску. Не аўдыторыя, а нейкая тутэйшая Сахара...

***22.03.2016***

З сеціва даведаўся, што 18 сакавіка памёр мастак Алег Мацievіч. З ім я пазнаёміўся гадоў трыццаць таму. Адразу пасябравалі. Сустракаліся ў мяне дома, у майстэрні Алега, хадзілі вуліцамі. Увесь час мастак планаваў намаляваць мяне з Людмілай. Нават паказваў чыстае палатно, на якім мусілі з’явіцца нашыя партрэты. Гадоў дзесяць таму, 5 ліпеня, мы з Людмілай дамовіліся пайсці ў адну з кавярняў паблізу з Нямігай, каб адзначыць дзень Людміліных народзінаў. Толькі сустрэліся каля «Гандлёвага дома на Нямізе», як адразу напаткалі Алега Мацievіча і нашы ранейшыя планы рассыпаліся. Зайшлі ў краму, набылі што трэба і пайшлі ў майстэрню да сябра. Пілі віно, чыталі вершы свае і сяброў. Мацievіч на паперы, што была пад рукой, зрабіў накід нашага будучага агульнага партрэта. Позна ўвечары, развітваючыся, Алег падараваў Людміле гіпсавую пасмяротную маску Сяргея Ясеніна. Яна цяпер у нас вісіць на сцяне сярод карцін у зале. Штодня, праходзячы паўз маску Ясеніна, міжволі ўспамінаю паэта і мастака і буду і надалей успамінаць...

У кнігарні «Галіяфы» адбылася творчая сустрэча з Людмілай Рублеўскай пад забойчым назовам «Прэзентацыя трох

новых кніг», якую вёў гісторык і выдавец Андрэй Янушкевіч, дзякуючы якому гэтыя кнігі і з'явіліся — «Аватюры Прантиша Вырвича, школяра и шпика» (папяровы рускамоўны варыянт) і электронныя кнігі «Дагератып» і «Авантуры Пранціша Вырвіча, здрадніка і канфедэрата». Болей за гадзіну Людміла адказвала на пытанні. Нічога новага не пачуў, бо творы пісаліся ў адной са мной кватэры і былі мной з цікавасцю прачытаныя яшчэ далёка да іх публікацыі, але я сядзеў, як загіпнатызаваны, і, амаль разінуўшы рот, слухаў аповед. Мне хацелася, каб гэтая імпрэза хутчэй скончылася і каб я мог паехаць дахаты і пачаць перачытваць прэзентуемыя кнігі. Прысутныя маглі набыць выданні. Прыемна было глядзець на хлопца, які адмыслова прыехаў на прэзентацыю з Навагрудка і набыў адразу ўсе кнігі Людмілы, што прадаваліся ў «Галіяфах»...

***23.03.2016***

У Мінску з'явіўся Сяргей Вераціла. Сустрэліся на вуліцы каля нашага выдавецкага будынка. Ён размаўляў з Леанідам Мараковым, які хвілінаў дзесяць таму быў у мяне. Сяргей адгадаваў бараду. Цяпер ён з барадой і доўгімі валасамі стаў падобны да ваўкалака. Чамусьці ўзгадаўся спявак Іван, які будзе прадстаўляць Беларусь на Еўрабачанні. Здымкі доўгавалосага аголенага хлопца з ваўкамі нядаўна з'явіліся ў сеціве. Спявак у такім выглядзе збіраецца выступаць на сцэне Еўрабачання. Гледзячы на здымкі, я думаў пра вобраз ваўкалака, а ўчора даведаўся, што Іван будзе ў ролі Маўглі...

Тэлефанаваў Алесь Квяткоўскі. Пачаў з сумнага: «Ці ведаеш, што Алег Мацievіч памёр?» — «Ведаю. А калі ён нарадзіўся?» — запытаўся я. «30 чэрвеня 1949 года... Ён памёр, а маці засталася адна. Ёй 92 гады...» — адказаў Алесь...

***24.03.2016***

На ганку каля крамы, дзе прадаецца гарэлка, букет у сметніцы, як у вазе на пустым стале...

Прыляцелі шпакі. Прыгожыя, як чорнабелыя фотаздымкі...

Узімку поўня, як пролямка на замерзлай рацэ вечнасці, дзе цячэ залатая вада...

***25.03.2016***

Ранкам ездзіў у Нацыянальную бібліятэку. Прыехаў без пяці дзясятая. Думаў, што нікога не будзе. Ды не! Каля дзвярэй чалавек сорак чакалі часу, калі адчыніцца бібліятэка. Мяне гэта парадавала, бо адкрыцця крам у раёне, дзе жыву, звычайна чакаюць чалавек дзесяць, часам пятнаццаць...

А палове сёмай раніцы, калі выгульваў Міёну, над горадам з боку Прыбалтыкі ў кірунку Магілёва праляцела сямнаццаць гусей. Увесь час пералётны ланцужок мяняўся. У нейкі момант у лёце птушак мне пабачылася хоку (5—7—5), але я не паспеў яго прачытаць. Магчыма, Міёна прачытала, але я не спытаўся ў яе, каб яна не падумала, што я непісьменны...



***26.03.2016***

Прачнуўся а чацвертай гадзіне ночы. Радкі папрасіліся ў свет:

*Паэтам не жывецца ў Занзібарах*
*І вечнаю дарогаю дамоў*
*Яны на небе аб прыгожых марах,*
*Замест чарніла скарыстаўшы кроў,*
*Начамі пішуць, ды заместа слоў*
*Мы бачым зоры...*

***27.03.2016***

Сонца — сланечнік, да якога Ван Гог не намаляваў пялёсткі...

***28.03.2016***

Колькі ні змагайся з ветраком, а ён усё адно цябе пераможа. І ўсё ж прыйдзе час, калі ўжо не будзе цябе, вятрак сам разваліцца, таму ці варта змагацца з ветракамі, калі ёсць справы болей важныя...

На азярыне, што на Мухлі, яшчэ ляжыць лёд. На ім ходзяць чайкі. Каля паўсотні. Крычаць, нібы злуюцца, што лёд не хоча раставаць. Я з Міёнай спыніўся на беразе. На лаўках вакол азярыны сядзяць людзі. І мне падалося, што лёд — гэта тэатральная сцэна, на якой неўзабаве пачнецца балет «Лебядзінае возера» ў выкананні чаек...

### *29.03.2016*

Другі дзень на азярыне, што ў нас на Мухлі, на лёдзе чайкі. Іх недзе каля сотні. Раз-пораз яны ўзлятаюць над лёдам і крычаць, нібыта гукаюць вясну для азярыны...

Ездзіў у Маладзечна. Міхась Казлоўскі арганізаваў мне выступы ў СШ № 9 і ў бібліятэцы № 6. Дабіраючыся да школы, а потым да бібліятэкі з Міхасём размаўлялі пра цяперашняе нялёгкае фінансавае жыццё-быццё. Узгадалі Ніла Гілевіча. Міхась нядаўна адведваў яго: «Выгляд у Ніла Сымонавіча быў вельмі кепскі. Такі, як у старых, якія хутка памруць...» У школе і ў бібліятэцы старшакласнікі ўважліва слухалі, задавалі пытанні. Разумныя дзеці. Аднак сумна, што яны мала чытаюць па-за школьнай праграмай. Амаль усе ў вольны час сядзяць у сеціве. Вершаў ніхто не піша. Міхась падараваў мне кнігу Пятра Сакола і Валянціны Казлоўскай «Выбраныя творы», якую ён з Сяргеем Панізнікам склаў і выдаў у «Кнігазборы». Вяртаючыся ў Мінск, чытаў прадмову «Паэты крывіцкай Атлантыды», напісаную Міхасём, і думаў пра Міхася: «Які ён малайчына! Нам бы паболей такіх, як ён!»

Памёр Ніл Гілевіч...

Паведамляю сыну: «Ніл Гілевіч памёр. Апошні народны паэт Беларусі...» Максім, праходзячы каля мяне, прыпыняецца і кажа, нібыта я народны: «А ты ж яшчэ жывеш?»

### *30.03.2016*

Калі памёр Рыгор Барадулін, а потым Генадзь Бураўкін, было вельмі балюча і сумна, але ў душы гучалі словы: «Яшчэ ёсць Гілевіч!» А цяпер, калі не стала Ніла Сымонавіча, здаецца, што з хвіліны ягонага сыходу ў лепшы свет пачало падаць беларускае літаратурнае Неба, якое доўгі час трымалася і на Быкаве, і на Барадуліне, і на Бураўкіне, і на Гілевічы. Неба падае на пакаленне пісьменнікаў, якія нарадзіліся ў 40-я гады мінулага стагоддзя...

### *31.03.2016*

Ездзіў у Аляхновічы ў бібліятэку, дзе выступаў перад старшакласнікамі. Выступ арганізаваў Міхась Казлоўскі. Ён мяне сустрэў на вакзале. Ідучы да бібліятэкі, узгадвалі, як

мы тут у маладосці бавілі час у старэйшых сяброў. Нікога не засталося. Ляжаць на могілках. Паслухаць мяне прыехаў дзядзька з Навасёлак. Ён набыў «Пугачоўскага цырульніка». Школьнікі задавалі пытанні, слухалі вершы і, калі я жартаваў, смяяліся. Назад з Міхасём да электрычкі ішлі праз дождж са снегам. Крыху змоклі. Ранейшым часам узялі б пару пляшак і блыталіся б па Аляхновічах да апошняй электрычкі, а там, магчыма, і заначавалі б у былога настаўніка беларускай мовы і літаратуры, перакладніка Яраслава Масеевіча Касцюка. Ён у свой час пераклаў з польскай мовы кнігу Аляксандры Бергман «Слова пра Браніслава Тарашкевіча». Толькі Яраслава Масеевіча даўно няма і мы ўжо іншыя. Сеўшы ў электрычку, думаў дапрацаваць новы верш, але ў Дубравах зайшла ў паўпусты вагон прыгажуня гадоў дваццаці пяці і села насупраць мяне. Мае мазгі адлучыліся да Масюкоўшчыны, дзе дзяўчына выйшла з электрычкі...



Пазаўчора, едучы ў Маладзечна, бачыў лебедзяў, якія лёталі над азярынай. Нічога болей прыгожага з таго дня не памятаю. Замружуся і бачу белых лебедзяў, якія лётаюць над вадой, як над небам...

## *Красавік*

***1.04.2016***

Быў на пахаванні Ніла Гілевіча. І ў царкве, і на Кальварыйскіх могілках. «Вось яны родныя дзеці Гілевіча!» — гучала ў маёй душы, калі глядзеў на сотні людзей, што прыйшлі развітацца з народным Паэтам...

Паэт Анатоль Шушко прыехаў на пахаванне Ніла Гілевіча з Пінска. У свой час Анатоль быў студэнтам Ніла Сымонавіча. На першым курсе прымаючы экзамен, Гілевіч адразу задаў пытанне Шушко не на тэму білета: «Якія народныя песні вы ведаеце?» Анатоль назваў адну. «Праспявайце куплет!» — папрасіў выкладнік. Студэнт праспяваў. «Яшчэ адну назавіце!» Анатоль назваў. Зноў Гілевіч папрасіў паспяваць. Потым яшчэ раз давялося студэнту быць спеваком. «Стаўлю выдатна! Калі б вы пачалі спяваць «Касіў Ясь канюшыну»,

якая гучыць з кожнага вакна, вам бы давялося пераздаваць экзамен!» — сказаў Ніл Гілевіч і аддаў студэнту залікоўку...

З Алесем Бадаком, усклаўшы кветкі да труны Ніла Гілевіча ў Свята-Пятра-Паўлаўскім саборы, нейкі час пабылі сярод людзей. Потым Алесь паехаў па сваіх справах, а я — дахаты, дзе праз «Радыё Свабода» глядзеў прамую трансляцыю з грамадзянскай паніхіды. А 14:45 паніхіда скончылася, і я пайшоў на Кальварыйскія могілкі. Ужо каля ста чалавек чакала Гілевіча. Адзін з маіх знаёмых пацікавіўся: «А дзе астатнія пісьменнікі?» Я патлумачыў яму, што быў дома і за ўсім сачыў праз сеціва, і хутка ўсе прыедуць. За хвілінаў дзесяць прывезлі Гілевіча. Сабралася чалавек трыста. Сустрэў роднага брата Ніла Гілевіча Міколу Сымонавіча, з якім мы доўгі час працавалі ў «ЛіМе» і даўным-даўно не бачыліся. Мікола Сымонавіч у свае 80 выглядае, па-мойму, гэтаксама, як і дваццаць гадоў таму, добра. «Я вельмі ўсцешаны тым, што прыйшло развітацца з Нілам столькі шмат народу. Людзі розных узростаў і розных палітычных поглядаў...» — сказаў Мікола Гіль і пайшоў да труны, а я некалькіх чалавек павёў да магілы Алеся Пісьмянкова, якую яны захацелі паглядзець. Якраз да Алеся прыйшла жонка Алена і я дапамог ёй запаліць свечку. Казала, што Максім ажаніўся. Пасля жалобнага мітынгу людзі развіталіся з Гілевічам. Развітаўся і я. Ён ляжаў у труне пакрыты сцягам. У царкве сцяга не было. Пасля пахавання Барыс Пятровіч клікаў мяне паехаць на памінальную вячэру. Я адмовіўся: «Тут без мяне людзей стае...» За пару хвілінаў каля магілы засталося чалавек дзесяць. Размаўляў з Славамірам Адамовічам і Анатолем Кудласевічам. Да нас падышлі жанчыны і хлопец, які прапанаваў паспяваць Гілевічу «Магутны Божа». Дамоў вярнуўся а палове шостай. А ў 19:10 раптам пайшоў снег, і ўся зямля стала белай-белай, як чысты шлях да Бога...

***2.04.2016***

На азярыне, што на Мухлі, лёд растаў і чайкі перасталі крычаць. Сядзяць на вадзе, як пераможцы...

***3.04.2016***

Наведваючы з Людмілай яе маму, якая жыве на вуліцы Бірузова, нярэдка вяртаемся дахаты праз Кальварыйскія могілкі. І сёння наш шлях пралягаў каля магіл Вячаслава

Адамчыка, Алеся Пісьмянкова і Ніла Гілевіча. Пастаялі, падумалі, паўспаміналі. Каля Ніла Сымонавіча апрача нас прыпыняўся мужчына гадоў васьмідзесяці. Стаяў, зняўшы шапку, маліўся. Гледзячы на помнік жонкі Гілевіча, раптам звярнуў увагу, што яна завецца Нінай, і што маці Адама Глобуса Ніна, і мая маці таксама Ніна. Нарадзіліся яны на пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Цяпер, відаць, мала хто сваім дзецям дае такое прыгожае імя, як Ніна...

На могілках вясна адчуваецца болей, чым дзе...

***4.04.2016***



На азярыне, якая вызвалілася ад лёду, хвалі. Яны, як сляды часу, які ідзе па вадзе...

Дома — гэта табе не ў гасцях. Тут самому трэба каву гатаваць і вяршкі з цукрам дадаваць...

З кожным вясновым днём спадніцы на дзяўчатах карацеюць, як карацеюць ночы...

***5.04.2016***

Дзякуючы фотамайстру Васілю Кузьмічкіну і ягонай машыне, ездзіў у Валожын у Краязнаўчы музей, дзе ўдзельнічаў у адкрыцці выставы «Балады беларускага шляху» (Балады Віктара Шніпа ў фотаздымках Міколы Лінніка). Мікола Міхайлавіч прадставіў сорак адзін здымак. На імпрэзу прыйшлі прадстаўнікі раённага кіраўніцтва, настаўнікі і вучні з СШ № 1, якую ў свой час скончыў спадар Мікола. Для мяне было нечаканасцю, што дзеці на памяць чыталі мае балады. Найболей выразна і без памылак была прачытана «Балада Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча». Шкада, што ў мяне ўжо даўно няма кнігі «Проза і паэзія агню», у якой змешчаная большая частка твораў з цыкла «Балады беларускага шляху», а то б падараваў дзяўчыне, ды і іншым чытальнікам я вельмі ўдзячны за дэкламаванне маіх твораў. На жаль, у Валожыне не знайшлося вольнага часу пагуляць, але ў самім краязнаўчым музеі былі той Валожын і Валожыншчына, пра якія раней не ведаў, і мне гэтага хапіла на добры настрой, з якім вяртаўся ў Мінск. Вакол дарогі мільгалі родныя краявіды, дзе мне раз-пораз бачыліся постаці маіх вядомых землякоў, якіх ужо даўно няма з намі, а зробленае імі жыве і будзе жыць...

***6.04.2016***

Перад нашай машынай на скрыжаванні вуліц праляцеў жоўты матыль, нібыта толькі што вылецеў са святлафора, калі загарэлася зялёнае святло...

Першая сёлета навальніца абудзіла ў памяці вельмі даўнюю размову з бацькам. Я тады верыў у казкі. На вуліцы была навальніца. Як толькі загрымела паблізу, бацька сказаў: «Гэта Бог бочкі з вадой па небе качае».— «Адзін?» — запытаўся я і пачуў: «Не! Яму дапамагаюць нашыя дзяды, якія цяпер на небе жывуць!» І сёння, чуючы грымоты, думаў пра бацьку, які дапамагае Богу качаць бочкі з вадой...

***7.04.2016***

Штодня а палове сёмай раніцы з Міёнай гуляю на Мухлі каля азярыны. На ёй ужо колькі дзён як няма лёду. Плаваюць чайкі і качкі. Сёння на беразе з'явіўся рыбак. Сядзіць лысы на зэдліку, курыць і вачэй не зводзіць з паплаўка. Хацеў падысці, каб пацікавіцца, ці бярэ, але перадумаў: «У чалавека, відаць, акурат цяпер натхненне на вялікую рыбіну!»

У камп'ютары знайшоў тэчку з відэазапісам размовы з бацькам. Запісана ў Пугачах у роднай хаце 24 ліпеня 2009 года.

Бацька апавядае: «...Рабі, Толя, чамаданы. Хлапцом прадавоў. Фанера там. Дошчак хватала. Было трыста чалавек заключонных. Нам трэба было дзяжурыць. Земснарады рабілі. Вада. Рыба была вялікая. Грузіны там былі. Адзін грузін, звалі яго Кацо, кажа мне: «Шніп, (у арміі па фаміліі называлі) дапамажы рыбу чысціць». Налезла рыбы ў абручы. Іду на кухню, а мне там і кажуць, каб не лез я да грузінаў, бо мы самі цябе накормім...»

Пытанне: «У Пажарышчах куды пан Мароз дзеўся?»

Бацька: «У Вільні быў у аркестры».

Пытанне: «А пані з голаду памерла?»

Бацька: «Пані ў Радашкавічы забралі. Многа каго туды забралі. Юркоўскі такі быў. Забралі. Іх расстралялі. Хто з голаду памёр».

Пытанне: «Немцы расстралялі?»

Бацька: «Дзе там немцы! Нашы! У белых кажухох прыехалі і ўвечары забралі».

Пытанне: «Гэта было ў 1939 годзе?»

Бацька: «Так! Ястрабкі мы іх называлі!»

Пытанне: «Граніца блізка была?»

Бацька: «Блізка. Там за Дубровамі...»

Пытанне: «Раней тут Польшча была?»

Бацька: «Я быў у Польшчы».

Пытанне: «Па-польску размаўлялі?»

Бацька: «Да касцёла трэба было ісці...»

Пытанне: «Тут гміны былі?»

Бацька: «Ракаўская гміна была. Солтыс быў. У яго было двое коней. А ён у Ракаў пяшком хадзіў».

Пытанне: «Кантрабандысты былі?»

Бацька: «Былі... У нас быў капітан. Харошы чалавек. Прыйшоў з Беластока. У нас ашывоўся. Адзежа была чорная на ім. Харошая. У часох на сцяне ў нас схаваў равольвер. Пробаваў страляць. Харошы равольвер быў».

...............

Бацька: «Быў час, калі нас палілі. Спалілі ўсю вёску. Была цэркаў. На гары там. Спалілі».

Пытанне: «Хто?»

Бацька: «Татары. У цэркаў загналі людзей і спалілі. Прадзед мой быў. Ён, малы, уцёк ад іх і ў Яніцкім лесе сядзеў і глядзеў, як яны над людзямі распраўляліся. Вёска была аж да Сасноўцаў. Могільнікі былі. Студню мы капалі Івану Фларыянавічу. Ён вучыцелем быў. Косці знайшлі...»

...............

«Была вучыцелька Гарбачоўская. Шустрая была баба. «Дай,— кажа,— лапку». Дам. А яна па лапе як упяра лінейкай, аж халера бярэ. Яе потым у Вільню забралі. Яна была прыслана з Варшавы. Зачынская была. Гарбаценькая. Яны ўсе хацелі, каб мы ўсе па-польску размаўлялі».

Пытанне: «Ці памятаеш Рагойшу? З Ракава. Вучыцелем быў».

Бацька: «На адной назе круціўся».

Пытанне: «Як гэта?»

Бацька: «Не помню. Васілеўская была. Прысланая з Віцебска. Другой вучыцельніцы бацьку немцы павесілі, а матку застрэлілі. За сувязь з партызанамі... Я б шмат расказаў, але шмат пазабывоўся».

Пытаннне: «А дзе мой дзед служыў?»

Бацька: «Дзед у Варшаве служыў. Харунжы. А я ў войску быў старшым сяржантам. Забралі мяне ў Сталінград, а там трапіў у Омск. На Волгу».

Пытанне: «Помніш вайну?»

Бацька: «Помню. У нас нямецкія салдаты стаялі. Да нас прыходзілі салдаты нямецкія. Па-польску размаўлялі. «Як вы папалі ў армію?» — пыталіся мы. А яны адказвалі: «Мы жылі на граніцы з Германіяй, і нас узялі ваяваць».

Пытанне: «Хто ў нас у паліцыі быў?»

Бацька: «Коля Міхалчышын. Насцін Валодзя. Рыдораў Віця. Колю... забілі ў Лялькаўшчыне. Нос, вушы паабразалі, язык вырвалі. Валодзя ўцёк. Не хочацца ўспамінаць...»

...............

Бацька: «Быў Антон храмы. Прыйдзе, усіх нас пастрыжэ. Добрыя людзі жылі ў Пугачах. Цяпер мала хто жывы застаўся...»

...............

Бацька: «Я хадзіў да Мані, а яна выйшла замуж у Радашкавічы...»

...............

Бацька: «Кальчэўскі быў. Любіў спяваць. Мы, бывае, косім, а ён спявае».

...............

Бацька: «Барodзіча хацелі вучыцелем зрабіць, а ён не пайшоў. Граматны быў чалавек...»

...............

Бацька: «Пад ложкам у нас была яма. Бульбу ссыпалі. Калі мы былі малыя, то неяк на ложку скакалі. Ложак зламаўся, і мы ў яму ўваліліся...»

............... .

Бацька: «У Баравікоўшчыне партызаны стаялі. Усяго там было. Як толькі ноч настане ды ўжо і пачынаецца: «Бух! Бух! Бух!» Едуць. Хавайся хто можа...»

...............

Бацька: «Прадалі карову. Купілі каня ў Маладэчыне...»

...............

Бацька: «Я не хацеў ехаць у Лягезы ў сваты. У мяне тут дзевак хапала. Уразмаўлялі... Цяпер вось маю цябе...»

Запіс размовы з бацькам — сорак хвілінаў. Слухаю і слёз няма, каб плакаць...

### *7.04.2016*

Прыснілася родная хата. У ёй жывуць белы кот і ягоныя ўжо вялікія кацяняты. Я прыехаў з сям'ёй і прывёз ката. Думаў, што пачнецца кацiная вайна, але белы кот, як гаспадар, налавіў птушак і пад ложак пасадзіў нашаму кату. Птушкі жывыя. Шэсць штук. Стаяць на тонкіх ножках і нікуды не ўцякаюць. Я ўзяў адну ў рукі. Птушка, як цацка. На галаве пёркі белыя. Як дзьмухавец. Хацеў выпусціць птушку, але прачнуўся. За хвілінаў дзесяць зноў заснуў. Прысніўся гатэль. Я з Людай прыйшоў начаваць. У пакоі два вялікія ложкі. Рассцеленыя. На адным нехта спіць. Мы леглі. Незнаёмец падаў голас, і я пазнаў Сашку Балотніка (суседа і аднакласніка). Слухаю яго і думаю: «Як ён можа тут быць, калі ён памёр даўно?» А Сашка кажа: «Я цяпер падарожнічаю па свеце. Вось толькі што быў у Берліне. Назбіраў там рознай драбязы. Магу падараваць!» — «Не! Не трэба! Мы самі ўсё купім!» — адказаў я і прачнуўся...



### *8.04.2016*

Патрэбныя Міёне пігулкі ад кляшчоў. Ездзіў у ветэрынарную аптэку. Для ейнай вагі ўжо разабраныя. Набыў кроплі за 160 тысяч. Трэба было накрапаць на хрыбеціну. Міёна выдзіралася, нібыта мы яе сабраліся рэзаць. Дзеянне кропель стане на месяц.

Ужо як дванаццаць дзён у адпачынку. Яшчэ тры — і на працу. За амаль два тыдні нічога, што мяне б самога радавала, не зрабіў. Праўда, дзякуючы Міхасю Казлоўскаму тройчы выступіў перад школьнікамі ў Маладзечне і ў Аляхновічах, а таксама з Міколам Лінікам і Васілём Кузьмічкіным быў у Валожыне ў Краязнаўчым музеі на адкрыцці фотавыставы да маіх «Балад беларускага шляху». Адзін дзень быў на працы, адзін дзень на пахаванні Ніла Гілевіча. Пераважна выгульваў Міёну і гатаваў есці. Нават толкам не высыпаўся. Тэлевізар амаль не глядзеў, напісаў пару вершаў. Словам, біў лынды, калі не лічыць, што за дванаццаць дзён напісаў дванаццаць старонак дзённіка...

Гледзячы праз вакно на захмуранае неба, машынальна дакрануўся да ацяпляльнай батарэі. Халодная. Адлучылі. Сёння? Учора? Жыццё працягваецца без ацяпляльных батарэй. Мы самі гарачыя...

Ты стаў лянотны. Цябе ніхто не кліча ў тэатр. І ты не ходзіш у тэатр, нібыта яго няма ў горадзе. А тэатр думае, што цябе ўжо няма на свеце...

У пошуках кветак побач праляцеў чмель. Наша Міёна радасна кінулася за ім. Не дагнала. Адвярнулася да мяне, паглядзела запытальна: «Хто гэта такі?» Я патлумачыў. Для Міёны, якая нарадзілася 17 жніўня, усё цяпер у навізну. Яшчэ нядаўна, калі навокал ляжаў снег і дзень быў кароткі, гуляючы з малой, уяўляў, што яна думае пра свет, у якім жыве: «Тут на вуліцы ўсё белае і халоднае! Гаў! І сонца рэдка свеціць...»



***9.04.2016***

Пасля таго як памерлі бацькі, жыццё пайшло, калі можна так сказаць, не паводле плана, паводле якога я жыў з імі. Бацькі былі, як мыліцы, з дапамогай якіх хадзіў па жыцці. Цяпер здаецца, што паўсюль не паспяваю і не бачу тое, што хацеў бы бачыць. Усё не тое, усё не так. Дзеці выраслі, і ў іх сваё жыццё. Яны не хочуць слухаць парад. Яны вучацца на сваіх памылках. І ты адчуваеш сябе бездапаможным і не патрэбным, як мыліцы для чалавека, у якога ногі не зламаныя. І гэта нармальна. І ўсё будзе добра. Ужо зеляпее трава і птушкі сядзяць у гнёздах, чакаючы птушанят...

Што за жыццё!!! Не паспяваеш з добрым чалавекам, якога ты ведаеш праз друк, пазнаёміцца асабіста, як ён памірае. Зміцер Саўка. Пражыў 50 гадоў.

Я ў дзяцінстве быў не паслухмяны. «Расце бандыт нейкі!» — роспачна казала мама, калі я паліў вогнішча на ганку хаты, уяўляючы сябе на каменнай выспе сярод зялёнага мора травы, як зялёнай вады. Мне хацелася, каб мяне заўважылі караблі, якія плывуць недзе далёка-далёка каля небакраю. Мама не ведала, што за фантазіі ў маёй галаве, і бачыла тое, што ўсе суседзі — агонь на ганку. І мама казала страшную, бо не зразумелую мне, фразу: «Здам у іспалніцельную калонію!» Што гэта за «іспалніцельная калонія», я не ведаў і баяўся пра яе пытацца нават у сваіх аднавяскоўцаў-сяброў. І сёння не ведаю і ведаць ужо не хачу. Мамы няма. І мне па-ранейшаму хочацца распаліць вогнішча на ганку роднай хаты, каб

мяне заўважылі караблі, што плывуць у моры маіх фантазій, і пачуць маму: «Расце бандыт нейкі! Здам у іспалніцельную калонію!»

На вуліцы сонца няма. Але ж не зіма!

Якія пісьменнікі паўплывалі на мой светапогляд? Адразу закарцела адказаць катэгарычна: «Ніхто!» Падумаўшы, паразважаўшы, кажу: «Усе, каго чытаў, цяпер чытаю і буду чытаць!» Магчыма, гэта і кепска, што лёгка трапляю пад уплыў розных людзей, але ж яўных няздараў я не чытаю...

Поўня, як атрамантніца з залатым атрамантам на чорным стале вечнасці...



***10.04.2016***

Уначы ішоў дождж. Мокрым ходнікам паўзуць дажджавыя чарвякі. Доўгія. Адначасна гідкія і прыгожыя. Бацька казаў: «Не бойся чарвяка, якога ты з'ясі. Бойся таго, што цябе будзе есці».

Калі выступаў у Аляхновіцкай бібліятэцы да мяне падыходзіла старшакласніца Маргарыта Гайдаржы. Яна піша матэрыял у часопіс «Бярозка» з парадамі вядомых пісьменнікаў пачынаючым і папрасіла мяне скласці спіс такіх парад менавіта ад сябе. Я крыху зацягнуў з адказам, але сёння напісаў Маргарыце.

1. Найгалоўнейшая парада — адразу пачаць пісаць па-беларуску, як бы цяжка гэта не было.

2. Штодня чытаць хоць бы па тры старонкі прозы або вершаў дзесяць. Чытаць і спрабаваць разабрацца, чаму так напісана, а не іначай.

3. Спрабаваць перакладаць вершы рускіх паэтаў на беларускую мову. Будзе нялёгка — але ж нічога ўпершыню лёгкім не бывае.

4. Не баяцца паказваць свае творы людзям, якія ў іх разбіраюцца ці самі пішуць.

5. Наведваць літаб'яднанні.

6. Дасылаць свае творы ў рэдакцыі і не баяцца, што атрымаеце крытычны водгук.

7. Не баяцца крытыкі. Не крыўдаваць на крытыку. Слухаць усіх, але мець сваю думку.

8. Выпісваць літаратурна-мастацкія выданні. Калі не можаце выпісаць, чытайце ў бібліятэцы.

9. Пісаць амаль штодня, калі гэта магчыма і ёсць натхненне. Калі параўнаць літаратуру з вадой, якая з крана цячэ напачатку ржавая, а потым чыстая, то гэтак і ў творчасці— напачатку будзе слабавата, а потым з'явіцца майстэрства і чысціня ў думках і іх выказванні.

10. Не думаць пра прэміі, але ўдзельнічаць у конкурсах.

11. Радавацца чужым поспехам, як сваім.

Ён сядзеў каля кніг, як каля скрыначак з попелам...

Нядзеля. Вечарэе. Чым меней часу да панядзелка, тым болей самоты...

Апельсін у гразі свінню чакае...

Неўзабаве трэба будзе грады садзіць. У які дзень? Без мамы не ведаю...

У сеціве з'явілася інфармацыя, што сёння ў касцёле Святых Сымона і Алены (Чырвоным касцёле) распачаўся працэс бэатыфікацыі альбо прызнання святым фундатара Чырвонага касцёла Эдварда Вайніловіча — выбітнага грамадскага і культурнага дзеяча, палітыка і патрыёта Беларусі. Дзесяць гадоў таму намаганнямі настаяцеля касцёла, ксяндза Уладыслава Завальнюка, парэшткі Эдварда Вайніловіча былі перапахаваныя ў сутарэннях збудаванай фундатарам святыні. Уладыслаў Завальнюк таксама быў адным з ініцыятараў працэсу бэатыфікацыі Эдварда Вайніловіча. З нагоды значнай падзеі ксёндз Уладыслаў сказаў: «Падчас урачыстай святой імшы ў нядзелю, 10 красавіка, арцыбіскуп-мітрапаліт мінска-магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч урачыста абвесціць, што Эдвард Вайніловіч — слуга Божы. Гэтым завяршаецца першая, інфармацыйная, частка бэатыфікацыйнага працэсу. Далей распачынаецца другая частка працэсу, якая мае мець знак: цуд. Гэта значыць, што ласка з неба праз заступніцтва Эдварда Вайніловіча мусяць быць бачнай на пэўным чалавеку — павінныя быць зафіксаваны цуд аздараўлення, вырataванне ці штосьці іншае. Гэта знакавая падзея ўжо таму, што гэты працэс упершыню праходзіць у Беларусі. У нашай

краіне такога не было ніколі за ўсю яе гісторыю. Калі такія выпадкі і былі, пра якія мы не маем звестак,— ці тое ў Вялікім Княстве Літоўскім, ці Рэчы Паспалітай, ці Ватыкане — то гэта былі духоўныя асобы альбо манахі. Таму гэтая падзея мае падвойную асаблівасць, бо ўвесь працэс, ягонае дакументальнае суправаджэнне адбываюцца тут, у Беларусі, і, што гэта адбываецца адносна свецкай асобы. І Эдвард Вайніловіч не проста свецкая асоба і вернік, але таксама вялікі гаспадарнік, палітык, дыпламат, дэпутат, сем'янін — узор для многіх беларускіх мужчын і бацькоў. Як вядома, Чырвоны Касцёл ён таксама збудаваў у памяць пра сваіх дзяцей Сымона і Алену. Ён як вялікі прыклад магутнасці духу, і нават у Еўропе ці знойдзем такую значную асобу, як Эдвард Вайніловіч — гэта трэцяя выбітнасць таго, што адбываецца ў нашай краіне. І што вельмі важна, 10 красавіка ў Ватыкане папа Францішак абвясціў на ўвесь свет пра ўшанаванне Беларусі і беларускага народа ў асобе Эдварда Вайніловіча. І не на адзін дзень, а назаўсёды, на кожны год». Прачытаўшы гэтую інфармацыю, я ўзгадаў 23 студзеня гэтага года. У той дзень я вяртаўся з Вішнева, дзе ўдзельнічаў ва ўшанаванні памяці свайго земляка ксяндза Уладзіслава Чарняўскага (14.01.1916—22.12.2001). У мікрааўтобусе з ксяндзом Уладыславам Завальнюком былі Уладзімір Гілеп, Анатоль Бутэвіч, Алесь Квяткоўскі, я і яшчэ адзін святар. Усю дарогу размаўлялі пра Уладзіслава Чарняўскага. Яшчэ ў Вішневе Фэлік Янушкевіч прапанаваў збіраць сведчанні, каб Чарняўскага прызналі святым. Ксёндз Уладыслаў Завальнюк абяцаў у нашай прысутнасці ініцыяваць працэс бэатыфікацыі ксяндза Уладзіслава Чарняўскага. Бог яму і нам усім у дапамогу!

***11.04.2016***

З 17 сакавіка па 10 красавіка жыхары Валожынскага раёна з дапамогай грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» абіралі птушку раёна. Сярод асноўных прэтэндэнтаў былі: глушэц, малы арлец, чорны бусел, пугач і звычайны зімародак. Бальшыню галасоў набраў звычайны зімародак. Я галасаваў за пугача. Я ж з вёскі Пугачы!

Упершыню рэдакцыю часопіса «Полымя» я наведаў, калі мне было дваццаць гадоў. Аддзелам паэзіі загадваў Анатоль Вялюгін. Ён быў вельмі патрабавальны. І я недзе паўтара

года хадзіў да яго, пакуль не давёў да ладу першую невялічкую падборку. Аднак, набыўшы «Полымя» № 5 за 1982 год, я не пазнаў свой верш пра партызана. Анатоль Сцяпанавіч зрабіў з яго «паравозік» да астатніх твораў — даў яму назву «Партызан» і надаў вершу баладнае гучанне. У творы з'явіліся радкі: «Яму зламалі рукі, ногі. На целе ран не палічыць. Шалеюць каты ад знямогі, а ён — маўчыць». Пасля публікацыі мінула гадоў дзесяць. І неяк у сяброўскім застоллі Анатоль Сыс звярнуўся да мяне: «Віцька, адгадай загадку! Без рук, без ног, а стаіць. Ні за што не адгадаеш!» Не паспеў я і падумаць, што б гэта было, як Анатоль, задаволена смеючыся, сказаў: «Гэта твой партызан! Ты пра яго ў «Полымі» надрукаваў!»



На пачатку васьмідзясятых гадоў я напісаў амаль пяцьдзясят вершаў пра каханне. Напісаць то напісаў, а дзе такую вялікую падборку надрукаваць цалкам? Мікола Мятліцкі параіў гэтыя творы пачытаць Веры Палтаран, і, калі яны ёй спадабаюцца, то яна закіне за мяне слова перад галоўным рэдактарам «Полымя» Кастусём Кірэенкам. Вера Сямёнаўна не паленавалася і паслухала ўсе мае вершы пра каханне. Яны ёй спадабаліся, і я праз колькі дзён ужо ў кабінеце Кастуся Ціханавіча чытаў свае творы. За паўгадзіны пачуў: «Малайчына! Пакідай! Усё надрукуем!» Аднак праз паўгода ў «Полымі» з маёй падборкі было надрукавана ўсяго толькі колькі вершаў пра каханне ў агульнай падборцы пачынаючых паэтаў. І наагул тады часопіс вельмі рэдка друкаваў моладзь...

Перабіраў у камп'ютары старыя файлы. Сярод усяго знайшоў пра Леаніда Галубовіча. Было напісана і надрукавана ў «ЛіМе» да ягонага юбілею. Якога? Здаецца, да 60-годдзя.

«Снежань 1981 года. Дом творчасці «Каралішчавічы». За вокнамі цёмна, марозна, завейна. У светлай ад паэзіі зале гучыць: «Шукаю чытача Хаўрусніка душы, Які б з майго пляча Цяжар пералажыў І на сваё плячо... Лягчэй дайшлі б да мэты. Так мала чытачоў, І тыя ўсе — паэты. І ўсё ж жыве, аднак, Надзея, і здаецца, На слова хоць адна Душа ды адзавецца...» — гэта Леанід Галубовіч чытае свае вершы. І яго слухаем мы, маладыя, Анатоль Сыс, Алег Мінкін, Уладзімір Арлоў, Васіль Сахарчук, Анатоль Шушко, Сяргей Вераціла, Алесь Наварыч, Уладзімір Мазго, Уладзімір Ягоўдзік, Людміла

Паўлікава, Ала Канапелька, Алесь Жыгуноў, Уладзімір Саламаха, Мікола Мятліцкі, Вадзім Спрынчан... У Лёні ад хвалявання дрыжаць рукі, і здаецца, што ён не трымае аркушы з вершамі, а сам трымаецца за іх. І мы чуем: «Хмурая восень злізала пагоркі... Познія яблыкі ў садзе пагорклі... Ціха ў душы, нібы ў доме начлежным. Толькі душа мая мне не належыць. Хмураму небу. Рыжаму долу. Голаму саду. Мірнаму дому. Сумнай жанчыне ў роднай Айчыне... Дзе прыналежна — там і спачыне». Перапыніўшыся на нейкую хвілінку і выцершы даланёй пот з лоба, Леанід Галубовіч чытае далей: «Прычакаўшы глыбокага снегу, Аб'язджаюць каня мужыкі: Маладому, шалёнаму бегу Дзве аглоблі сцінаюць бакі. Ні на міг не правісне ляйчына. Не папусціць свабоды рука, І — тады, дзе глыбее лагчына, Да апошняга правіць рыўка. Вось ён — потны, загнаны, знямоглы — Ад тугі і адчаю захроп. Заўтра стане пакорна ў аглоблі І без пугі не пойдзе ў галоп». Дачытаўшы нізку вершаў, Лёня глядзіць на нас, сваіх слухачоў, так, нібыта ён пастаўлены да сценкі і яго зараз мы павінныя расстраляць. «Усё? Калі ўсё, то сядай»,— кажа кіраўнік семінара паэзіі Рыгор Барадулін. Лёня, уздыхнуўшы з палёгкай, сядае, нібыта пачуў, што загад «расстраляць!» заменены на пажыццёвую высылку ў краіну Паэзія, з якой яшчэ ніхто жывым не вярнуўся дамоў. За хвіліну пачынаецца абмеркаванне вершаў. Усе хваляць Галубовіча, і ўсім хочацца даведацца, скуль ён такі ўзяўся. І Лёня апавядае, што ён нарадзіўся ў вёсцы Вароніна Клецкага раёна. Пасля сканчэння Грыцэвіцкай сярэдняй школы і Слуцкага ПТВ працаваў электрыкам на прадпрыемствах Жабінкі, Слуцка і Клецка, а цяпер — у родным калгасе. Пісаць пачынаў на рускай мове і свае першыя творы паслаў у «Сельскую газету», з якой атрымаў ліст ад Яўгеніі Янішчыц, якая параіла маладому паэту пісаць на роднай мове. І Лёня пачаў пісаць па-беларуску. Падводзячы вынікі абмеркавання паэзіі Галубовіча, Рыгор Барадулін сказаў, што ён асабіста чакае рукапіс кніжкі паэта, каб яе без чаргі выдаць у «Мастацкай літаратуры» ў калектыўным зборніку налета. Пасля гэтых Барадулінскіх слоў усе астатнія дні і ночы семінара маладых літаратараў у Каралішчавічах усе толькі і размаўлялі пра вершы Леаніда Галубовіча. Развітваючыся з Каралішчавічамі, мы, семінарысты, абмяняліся адрасамі, каб ліставацца. Абмяняўся і я з Галубовічам. Першы ліст ад Лёні прыйшоў 22 снежня 1981 года. Ён пісаў: «Сябра

мой, Віцюня — прывітанне! Здаецца яшчэ колькі дзён таму назад мы маглі пра многае гаварыць, аб многім спрачацца... А сёння ўсё гэта — памяць. Я як нанова нарадзіўся. Такі быў дзіўны, цікавы народ! Не падумай толькі, што пішу табе па неабходнасці ўведаць наконт выдання калектыўнага зборніка, хоць і гэта прычына для нашай размовы немалаважная. У мяне з сённяшняга дня пачаліся вясковыя працоўныя будні. А душа яшчэ там — у Каралішчавічах! Усё ніяк не хапае смеласці схіліцца над белым аркушам паперы. Не магу пісаць нешта горш таго, што адзначана Рыгорам Іванавічам як станоўчае. (...) Як ты там жывеш? Чым? Пішы, я буду шчыра рад тваім лістам. А цяпер пра справы выдавецкія. Ці быў ты ў Рыгора Іванавіча? Аб чым размаўлялі і аб чым дамовіліся? Пішы праўду, я не пакрыўдую. Гэта намнога лепш, чым ліць ялей на неразумную галаву. Віншую цябе з Новым Годам! Жыві, працуй, пацей, заставайся чалавекам! Твой сябра, Лёня. в. Вароніна». Потым неўзабаве 26 снежня прыйшоў другі ліст: «Віця, прывітанне! Сягоння атрымаў твой ліст,— дзякуй. Дзякуй за ўсё тое, што ты зрабіў і, магчыма, яшчэ зробіш для мяне. Спадзяюся, што і я не застануся тваім «вечным крэдыторам»; жыццё, дай-то Бог, выдасца ў нас доўгім, і мы яшчэ не раз сустрэнемся на гладкіх і коўзкіх сваіх дарогах. Я пастараюся стаць сапраўдным сябрам. Што з майго ты аднёс у «Знамёнку»? Крыху раней Валодзя Някляеў адабраў каля чатырох (4) маіх вершаў для «Радуги» ці асобнай падборкі, але добра, што ты аддаў яшчэ чатыры; з цягам часу, можа, што-небудзь і адбяруць для друку. Але гэта ўсё так... Сённяшні мой боль аб сваім рукапісе. Як ты пішаш, крыху адышоўшы ад семінара, прыйшло нейкае паразуменне, вострае адчуванне адказнасці за друкаванае слова. Сёння ж атрымаў чарговы нумар «ЛіМа». Даведаўся, што Рыгор Іванавіч «прападаў» у Літве на вечарах паэзіі з А. Балтакісам. Прыедзе — часу ў абрэз, калі яму будзе разбірацца з маім рукапісам? І ўсё-ткі я яму веру, і дай-то яму Бог... Віця, ты з ім лічы што на «ты», дапамажы калі што-небудзь спатрэбіцца пры рабоце над маім рукапісам. Я табе давяраю ва ўсім. І пішы, пішы, калі што трэба ад мяне. Дарэчы, ці чытаў ты лімаўскія згадкі Толі Сідарэвіча пра наш семінар у Каралішчавічах. Нас з табой у першай жа «абойме» амаль разам расстралялі. Аднак жыць пасля гэтага можна. Ці не так? Праўда, мне не спадабалася, што нас за «бездыпломнасць» папракаюць. Дык калі мы ўжо

па тыя дыпломы пойдзем, га? Ты не дастаў фотаздымкаў? Калі ёсць, то вышлі, калі ласка. Я працую цяпер вельмі цяжка. Калі што «выдатнае» будзе — падзялюся. Пішы аб усім, што лічыш неабходным ведаць. Віншую з Новым Годам! Жадаю ўсяго самага-самага добрага! Са шчырасцю і павагай, Лёня. в. Вароніна». Наступны ліст быў 13 студзеня 1982 года. Галубовіч пісаў: «Добры дзень, сябра мой Віктар! Прабач,— так ужо выйшла, што даўно не пісаў. Жыву я па-ранейшаму, тымі ж сумненнямі, тымі ж надзеямі... Як — ты? Што новага? Акром шостага нумара «Маладосці», дзе яшчэ змагу пачытаць твае шніпаўскае? Сам жа я — у няведанні: калі, хто і дзе мяне надрукуе. Цяжкавата наконт гэтага жыць у правінцыі, але я прывык, і мне здаецца, лепш і не трэба. Ты часцей бываеш у рэдакцыях — будзь сябрам — перапытвай раз-пораз і пра маё. Буду ўдзячны і абавязаны. Можа, бачыў Рыгора Іванавіча? Што там новага? Ці не дастаў часам фотаздымкаў «каралішчавіцкіх»? Яшчэ раз прабач, што я задаю табе столькі пытанняў. Мне ўсё гэта вельмі цікава, а я, сказаць папраўдзе, зноў прыхварэў... Не жыццё — а мучэнне. Аднак над чымсьці думаю, тое-сёе пішу. Але асаблівых удач не маю, і сам сабою незадаволены. Ды і работы цяпер на вытворчасці шмат. Сёння Шчадрэц. Заўтра Стары Новы год. У вёсцы, зразумела,— свята. І ўсё ж — сумнавата. Надвор'е, праўда, спрыяльнае стаіць, і на душы святлей, чым у дні завірух. Атрымаў лісты ад Алеся Жыгунова і Васі Сахарчука. Цікавыя хлопцы! Праўда, асаблівых навін і яны не пішуць. Усе жаляцца, што не пішацца пакуль яшчэ. Нічога, выбаліць — напішацца; «не трэба гнаць шпарчэй замыленага каня, чым ён бяжыць сам». Вось, здаецца, і ўсё. Пішы над чым працуеш, што новага напісаў? Убачыш Колю Мятліцкага — шчырае яму і яго сямейству прывітанне. Крыху пазней напішу падрабязней. Новых табе надзей і здзяйсненняў. Твой Лёня. P. S. Віця, добра, што не паспеў адаслаць табе пісьмо. Прабач дзівака! Заўтра ж, з раніцы, адашлю Рыгору Іванавічу фотаздымкі (хоць і благія) і аўтабіяграфію. Не верылася мне, што ён усёткі адобрыць мой рукапіс. Вялікі дзякуй табе, дружа. Заўтра буду ў горадзе Клецку і пастараюся датэлефанавацца да Барадуліна. І табе не пішацца... Ёш тваю галёш! Калі ж нам ужо пісацца будзе?! Працаваць і — годзе! Яшчэ раз дзякую за ліст і за турботы. Пішы. Твой вечны сябра, Лёня. в. Вароніна». І такіх жывых і светлых лістоў у мяне ад маладога Леаніда

Галубовіча болей за паўсотню. Я іх з любоўю захоўваю і часам, калі захочацца пабыць у нашай маладосці, перачытваю. І вельмі шкадую, што Лёня даўно не піша вершаў. Усе ягоныя зацемкі і «легалізацыі» — цудоўныя і непаўторныя, але, але... Хоць кожны з нас сам вырашаў і вырашае: што пісаць ці не пісаць зусім, дзе і што друкаваць ці зусім не друкавацца. Леанід Галубовіч даўно зрабіў свой выбар. І сёння ён паважаны і знаны пісьменнік, слова якога цэніцца і не губляецца на прасторах беларускай літаратуры, дзе ўжо свой рэй вядуць новыя маладыя творцы, якім, віншуючы Леаніда Галубовіча з юбілеем, кажу з намёкам: «І мы былі нядаўна маладымі...»



***12.04.2016***

Сёння міжнародны Дзень касманаўтыкі. Ніколі не марыў быць касманаўтам. І калі за саветамі праз тэлевізар абвяшчалі пра новы запуск касмічнага карабля, бацька, пачуўшы, казаў: «Зноў нейкі косман паляцеў! Няма чаго ім там рабіць! Толькі Бога злуюць!»

Насупраць майго вакна па дрэве лезе чорны кот, нібыта хоча паглядзець на нашу Міёну, не ведаючы, што яна жыве ў другім пакоі. А мо ў Дзень касманаўтыкі ён вынюхаў, што ў космасе на сваё свята нешта смачнае ядуць касманаўты?

На працы. Звініць тэлефон. Падымаю слухаўку. Чую: «Может, вам моя рукопись попала? Не помню, куда отдал...» — «Як называецца?» — пытаюся.— «В объятиях удава»,— адказвае пісьменнік.— «Не! Такой у нас няма!» — кажу я і чую кароткія гудкі...

Мы робім памылкі. У напісанні тэкстаў. У жыцці. Нават перапісчыкам Бібліі Бог не гарантаваў пазбягання памылак. Мы робім памылкі. У напісанні тэкстаў. У жыцці. Мы яшчэ жывыя...

***15.04.2016***

Маладзік, як адзінокі залаты ветразь у акіяне вечнасці...

У свой час Ірына Марачкіна збірала кнігу ўспамінаў пра Ірыну Крэнь, з якой я працаваў у газеце «Наша слова». На жаль, кніга не выйшла і Ірына Марачкіна пакінула гэты свет. Аднак успамін захаваўся. Ён, праўда, мае гучную назву «Мы разам ішлі да Беларусі», але не звяртайце на яе ўвагу, а чытайце.

## МЫ РАЗАМ ІШЛІ ДА БЕЛАРУСІ

Ірына Платонаўна Крэнь... Успамінаючы Ірыну Платонаўну, прыходжу да высновы, што гады яе працы ў газеце «Наша слова» былі самымі яркімі і плённымі ў яе працоўнай і жыццёвай біяграфіі. І не толькі самымі яркімі і плённымі ад таго, што яна актыўна ўдзельнічала ў выпуску газеты «Наша слова», а болей ад таго, што яна, як і ўсе супрацоўнікі штотыднёвіка Таварыства беларускай мовы, вяртала ў сэрцы і душы беларусаў гонар звацца беларусамі, беларусамі, якія маюць сваю мову і шматвяковую гісторыю і ганарацца гэтым.

Успамінаючы Ірыну Платонаўну, я не магу не згадаць тыя ўмовы жыцця і працы, у якіх мы ўсе тады жылі і працавалі. А час быў вельмі складаны, але ўсё-ткі светлы. І няхай гэта гучыць пафасна, але мы ўдзельнічалі ў нацыянальным Адраджэнні і разам з усімі ішлі да Беларусі. І, каб не быць галаслоўным, я прывяду некаторыя запісы са свайго дзённіка, якія тычацца непасрэдна «Нашага слова» і Ірыны Крэнь.

***5.05.1991***

29 красавіка — мой першы дзень працы ў «Нашым слове». Рэдактар Эрнест Ялугін патлумачыў мне ўсе мае абавязкі. Найгалоўнейшае — буду займацца літаратурай. У гэты ж дзень падрыхтаваў да друку верш Уладзіміра Пецюкевіча і подпісы да здымкаў. Здымкі прынёс з часопіса «Беларусь», бо ў нас сваіх няма...

Сапраўды, на той час у нас не было свайго фотакара і мы карысталіся тымі здымкамі, якія толькі маглі раздабыць у іншых рэдакцыях або набыць у БелТА. І, зразумела, мае першыя і потым усе матэрыялы для «Нашага слова» перад тым, як ісці ў друк, былі прачытаныя стыльрэдактарам Ірынай Крэнь. Ірына Платонаўна чытала ўсё, і нават у некаторых выпадках яе меркаванне, друкаваць ці не друкаваць той ці іншы матэрыял, было болей важкім за слова рэдактара. Чаму? Бо Ірына Платонаўна была не толькі высокаадукаванай і інтэлігентнай жанчынай, але яна мела аўтарытэт прафесійнага мовазнаўцы і стыльрэдактара. І наш рэдактар з думкамі Ірыны Крэнь заўсёды лічыўся. Некаторыя матэрыялы яна сама перапісвала за аўтараў, хоць гэта рабіць у яе абавязкі і не ўваходзіла. А чаму яна так рабіла? Бо ведала і разумела, што чытачы «Нашага слова» — патрыёты Беларусі, ды, на жаль,

не ўсе з іх добра валодаюць прафесіяй журналіста. І даведзеныя Ірынай Платонаўнай да ладу матэрыялы ішлі ў друк. І мелі чытацкі рэзананс. І Ірына Платонаўна радавалася, калі з цягам часу яе падшэфныя аўтары самі пачыналі пісаць на тым узроўні, калі ўжо не трэба было іх перапісваць. Да ўсяго, Ірына Платонаўна сама пісала надзённыя артыкулы, і ў яе яны добра атрымліваліся...

***8.09.1991***

16 жніўня разам з Людай і Веранічкай, а таксама з сям'ёй Галубовічаў паехаў у Дом творчасці «Іслач». Надвор'е было добрае. Усе радаваліся, што выбраліся на прыроду... Веранічцы спадабалася ў Доме творчасці, і яна адразу забылася і пра Мінск, і пра бабулю Галю.

19 жніўня, устаўшы недзе а шостай гадзіне, я паехаў у Мінск у рэдакцыю на вёрстку нумара. Напачатку зазірнуў дахаты, а затым да цешчы ў газетны шапік, дзе яна працавала. Цешча між іншым паведаміла, што Гарбачова знялі, на што я сказаў: «Такога не можа быць...» і паехаў у рэдакцыю «Нашага слова». Памяшканне ТБМ было замкнёнае, і мне давялося даўгавата пастаяць пад дзвярыма. Першай прыйшла Люба Баршчэўская і, пабачыўшы мяне зусім спакойным, спыталася: «Ты, відаць, нічога не ведаеш?» — «А што?» — «У краіне ваенны пераварот. Я ўжо мужу засушыла булку на сухары...» І толькі пасля гэтага я зразумеў, што цешча мая не жартавала... У галаве закруціліся розныя і страшныя думкі... Калі прыйшоў Ялугін і ўсе іншыя, мы пачалі абмяркоўваць палітычную сітуацыю. А праз радыё і тэлебачанне ўсё перадаюць і перадаюць пастановы ГКЧП. Паразмаўляўшы, мы ўсе прыйшлі да высновы, што нашу газету забароняць, але нумар чарговы, нічога не мяняючы, як было запланавана раней, пачалі рабіць. Баршчэўская, праўда, бедавала — мужа арыштуюць. Ялугін суцяшаў, што арыштоўваць яго адразу не будуць, а пагатоў нас, і гэты путч камуністычна-ваенны яшчэ невядома ці пераможа, бо калі перамагаюць, то перамагаюць адразу. Зрабіўшы нумар, я адпрасіўся назад у «Іслач»...

Ірына Платонаўна, у якой быў рэпрэсаваны бацька, як ніхто разумела тое, што адбылося ў краіне. Але яна была спакойная, і, відаць, у многім, дзякуючы ёй, мы не разгубіліся, а працягвалі рабіць газету. І зрабілі, і газета выйшла... І нам не сорамна...

***5.10.1991***

У рэдакцыю прыходзіў Янка Брыль. Ён доўга размаўляў з Ірынай Крэнь. Успамінаў Войска Польскае. А мы, забыўшыся на працу, слухалі...

Часцей у першую чаргу да Ірыны Платонаўны, каб паразмаўляць з ёй, а не ў рэдакцыю, прыходзілі і Янка Брыль, і Радзім Гарэцкі, і Уладзімір Калеснік, і шмат-шмат хто з тых інтэлігентаў, што з'яўляліся і з'яўляюцца гонарам нашай нацыі. І, дзякуючы Ірыне Платонаўне, нашаслоўцы мелі магчымасць не толькі слухаць вядомых грамадскіх і культурных дзеячаў, але і ўдзельнічаць у абмеркаваннях падзей, якія тады адбываліся...



***26—27.03.1993***

У гэтыя дні акурат праходзіў III з'езд ТБМ. Прыехала каля 200 дэлегатаў і дзясяткі гасцей. Ніл Гілевіч пачаў з'езд... Крытыкавалі нашага рэдактара і газету (усё-ткі несправядліва!), але было адзначана, што інфармацыйны блок газеты вытрыманы ў дэмакратычным кірунку. Усе супрацоўнікі «НС» хваляваліся за Ялугіна, але ўрэшце ўсё скончылася добра і Эрнест Васільевіч і далей будзе ўзначальваць «Наша слова»...

Найболей за ўсіх, і гэта было відаць, за Эрнеста Ялугіна хвалявалася Ірына Крэнь. І, па-мойму, яна была закаханая ў нашага рэдактара. І, калі ў Ялугіна памерла жонка, то можна было бачыць, як Ірына Платонаўна раз-пораз прыносіла і прапаноўвала Эрнесту Васільевічу паабедаць. І такое простае і душэўнае стаўленне Ірыны Платонаўны да Ялугіна нас, супрацоўнікаў газеты цешыла, бо мы вучыліся суперажываць і чужы боль браць да сэрца. А Ірына Платонаўна заўсёды чужы боль брала да сэрца і радавалася ад усяе душы поспехам іншых. У «Нашым слове» ў яе чужых людзей не было, як не была і яна нікому чужой...

***26.09.1994***

Тыдзень назад нам зноў сказалі, што не будуць даваць зарплату, бо фінансуемся на 75 %, а грошай няма і ў нас 2 мільёны доўгу. Напісалі ліст Бутэвічу, а ён наклаў рэзалюцыю: «Прашу разабрацца. Унесці прапановы». Яго намеснік напісаў тое самае. Усе напісалі разабрацца, а грошай нам так

і не далі. Я занёс ліст пра ўсё гэта Нілу Гілевічу. Сёння ўвечары будуць думаць, што далей рабіць з газетай. З Ялугіным сустракалі Генадзя Бураўкіна, прасілі дапамагчы ў нашай справе, але той толькі развёў рукамі...

На той час наклад «Нашага слова» быў каля 10 тысяч і на выпуск газеты патрэбна было шмат сродкаў. Да ўсяго шалёная інфляцыя хутка з'ядала ўсе падпісныя грошы, і мы ледзь-ледзь зводзілі канцы з канцамі, але не здаваліся. І тут ужо Ірына Платонаўна клапацілася не толькі пра выйсце газеты, але, нібыта родная маці, і пра кожнага супрацоўніка, бо яна ведала, што ў кожнага з нас ёсць дзеці. Дзе цёплым словам, а дзе і цукеркамі яна старалася стварыць кожнаму добры настрой. І, нягледзячы на цяжкі фінансавы перыяд, мы ў рэдакцыі адзначалі нацыянальныя святы, дні народзінаў, на якіх Ірына Платонаўна заўсёды нас частавала цудоўнымі пірагамі. І мы, дзякуючы ёй, адчувалі сябе калектывам, сям'ёй...



***30.10.1994***

Амаль месяц Ялугін ходзіць з ідэяй аб'яднаць «Наша слова» з «Культурай», каб атрымалася «Слова Культуры». Абышоў усіх. У ТБМ заварушыліся, пачуўшы пра ідэю аб'яднання. У чацвер Ніл Гілевіч паклікаў у свой кабінет, што ў Вярхоўным Савеце, Ялугіна, Вільтоўскага, Цумарава, Санько і мяне. Цумараў пасядзеў крыху і пабег на нейкае пасяджэнне. Пра «вяселле», як назваў Вільтоўскі прапанову Ялугіна аб'яднаць «Наша слова» з «Культурай», размаўлялі доўга. Ялугін нават заявіў: «Калі я не падыходжу вам як рэдактар, то здымайце з пасады». А Гілевіч яму ў адказ: «Калі трэба будзе зняць з рэдактарства, то здымем». Словам, усе выступілі супраць прапановы Ялугіна, бо ў ТБМ мусіць быць свая газета, як бы цяпер не было цяжка яе выдаваць. Без газеты не будзе ТБМ...

Без газеты не будзе ТБМ! Гэтую выснову супрацоўнікі «Нашага слова» зразумелі і ўспрынялі правільна. І працавалі, і працуюць цяпер, памятаючы пра гэта. І неўзабаве, не агледзімся, як «Нашаму слову» будзе 20 гадоў. А там і 25, і 50, і 100! І я думаю, успамінаючы першых супрацоўнікаў выдання, дзякуючы якім наша беларускае слова праз газету вярталася ў сэрцы і душы людскія, будзе заўсёды называцца і Ірына Платонаўна Крэнь. Яна вартая гэтага!

**15.05.2007**

***16.04.2016***

Не праспі сваю смерць!

З Людмілай ездзілі ў Бабруйск. Нас запрасіла выступіць у гімназіі № 3 Людміліна былая аднакурсніца з філфака Святлана Севярын (Свірыдава). На сустрэчу з намі прыйшло вучняў пяцьдзясят. Розных узростаў. І найгалоўнейшае — былі толькі тыя, каму хацелася паслухаць нас. Мы апавядалі пра сябе, пра сучасную літаратуру, чыталі вершы, адказвалі на пытанні. Мясцовае тэлебачанне ўсё зняло. Потым нам прапанавалі экскурсію па Бабруйскай крэпасці, якую правёў малады настаўнік гісторыі.

Бабруйская крэпасць, якую мы бачым на здымках, зусім не такая, як насамрэч. Я ўяўляў яе, як звычайны, але вельмі вялікі замак, які можна абысці за пару гадзін. А тут — не абыдзеш і за дзень. У крэпасці жыло адных салдат да дзесяці тысяч...

Гледзячы на брук, якому 200 гадоў і які месцамі відаць з-пад асфальту, падумаў: «Еўропа схаваная пад асфальт...»

Старыя будынкі, якія памятаюць цароў, стаяць пустыя з выбітымі вокнамі. Мёртвы горад...

Крэпасць ахоўваецца дзяржавай. Адпаведныя шыльды вісяць на будынках. Шыльды цэлыя, а будынкі развальваюцца...

Ходзячы ў Бабруйскай крэпасці, узгадаў Калізей у Рыме...

У нежылых будынках крэпасці чуюцца галасы. Нейкія хлапчукі лазяць у пошуках прыгодаў ці скарбаў...

Падумалася, што ўсё-ткі некалі Бабруйскую крэпасць адновяць. На жаль, нас тады ўжо не будзе...

Палуднаваць завіталі ў «Чырвоную вежу». За паўгадзіны мне ўявілася, што мы знаходзімся не ў Бабруйску, а ў Амстэрдаме. Праз вітражы працякала рознакаляровае святло на столік, за якім мы сядзелі, і мне здавалася, што зараз да нас зойдзе Ван Гог і прапануе купіць на памяць свае сланечнікі...

***17.04.2016***

Ходзячы ў Бабруйскай крэпасці, увесь час хацеў пабачыць вялікую чорную змяю, якая б грэлася на вясновым сонцы. Калі не змяю, то хоць бы вужа. Не пабачыў. Магчыма, іх там і няма. Мінуў дзень, як мы вярнуліся дахаты, а я ўсё думаю пра чорную змяю, якая не трапілася на мае вочы...

На пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, працуючы ў «Нашым слове» з фотакарэспандэнтам Уладзімірам Панадой, даведаўся, што мы з ім сваякі праз нашых бабуль, якія з'яўляюцца стрыечнымі сёстрамі, а ў самога Валодзі ёсць два стрыечныя браты журналісты — Вітаўт Мартыненка і Анатоль Мяльгуй. Нашы бабулі пахаваныя ў Дубравах. Пазнаёміўшыся бліжэй з Вітаўтам і Анатолем, мы вырашылі з'ездзіць на могілкі. Да нас далучылася мая Людміла. У Валодзі быў фотаапарат, і ён усё здымаў на плёнку. На жаль, здымкаў у мяне няма. Мы тады цэлы дзень прабылі ў Дубравах. Адшукалі магілы сваякоў. Дамовіліся, што наступным разам прыедзем з жонкамі і дзецьмі. Мінула болей за дваццаць гадоў, мы так і не здзейснілі сваю дамову і ўжо не здзейснім, як планавалі. Сёння на 57-м годзе жыцця памёр музычны крытык, журналіст і паэт Вітаўт Мартыненка...



***18.04.2016***

Чую размову студэнтак. Адна пытаецца: «Чаму ты на занятках не была?» — «У тэатр хадзіла!» — адказвае другая.— «Куды?» — «У «Чырвоны касцёл!» — «І што там было?» — «Спектакль паводле вершаў Янішчыц!» — «Ну і як?» — «Вельмі прышпільна. Адна актрыса ўсё выконвае! Прышпільна!»

***19.04.2016***

Сёння ў маёй мамы дзень народзінаў. Ёй было б 86 гадоў. Учора, дзякуючы карэспандэнцы TUT.BY Алене Зуевай, адведаў бацькоў на Ракаўскіх могілках і пабыў на тэрыторыі былога Дома творчасці пісьменнікаў «Іслач».

У «Іслачы» апошні раз быў гадоў пятнаццаць таму. Ехаў, баючыся, што пабачу разваліны, парослыя маладым лесам...

Прыпынак-альтанка аўтобусаў, з якіх выходзілі, прыехаўшы адпачываць, пісьменнікі і ў якія заходзілі, каб, прыехаўшы ў горад, жыць успамінамі пра «Іслач», захавалася. Праўда, вельмі сумная...

Здалёку пабачыў сярод маладых дрэў галоўны корпус Дома творчасці з выбітымі вокнамі і з пагнілымі аброслымі мохам гаўбцамі. Падалося, што мы прыехалі ў чарнобыльскую зону...

Зблізку Дом творчасці не такі ўжо і страшны. Каля яго два вартавыя сабакі. Пабачылі нас і пачалі брахаць. Адразу з'явіліся людзі. Яны паціху пачынаюць аднаўляць галоўны

корпус Дома творчасці. Праўда, гэты дом ужо ніколі не будзе Домам творчасці...

Алена Зуева распытвала мяне, дзе што раней тут было. Я апавядаў, а фатограф рабіў здымкі. Першы раз у Дом творчасці «Іслач» мы прыехалі ў 1991 годзе. Нашай Вераніцы было два гады. Якраз тады з намі адпачывалі Галубовічы, Лёня і Вера, з трохгадовай дачкой Ксеняй. Па сённяшні дзень памятаю словы Ксені, якая, гледзячы на туман на лузе, сказала: «Туман... Туман... Усё дарэмна...»

Цяпер на месцы лазні амаль збудаваны нейкі напалову шкляны будынак. Насупраць яшчэ большы будуецца. Тут амаль нічога старога няма. Засталася толькі цэментавая лесвіца ў лес, як у зялёнае мора...

Падышлі да ракі. Рэчышча не памянялася. Вада спакойна цячэ, як сонная...

Хвоі на абрыве так і не адважыліся скочыць у раку...

На лузе, які нядаўна быў затоплены вадой, сівая і рудая трава, як валасы русалак, якія пастрыгліся перад вясной...

Навокал шышкі. Мне здаецца: яны тыя, што мы бачылі пятнаццаць гадоў таму...

Шыльнік, як заржавелыя іголкі, якімі ніткамі павуціны мінулай восенню шылася залатое Іслацкае бабіна лета...

На камянях, на якіх мы раней сядзелі, адпачываючы ў «Іслачы», зялёны мох, як зялёны атлас, на якім цяпер сядзяць лесавікі і апавядаюць адзін аднаму пра пісьменнікаў, якія тут пісалі свае творы...

У 1996 годзе ў «Іслачы» я напісаў першыя «Сабачыя гісторыі». Тут, у «Іслачы», Людміла Рублеўская напісала першыя празаічныя рэчы — «Іслацкія імпрэсіі»...

Лавак, на якіх любілі сядзець пісьменнікі і назіраць за адпачывальнікамі, каля Дома творчасці няма. Згнілі, а мо спаленыя...

На дрэве варона. Чорная, як галавешка...

Сярод хвояў сям-там з'явіліся новыя двухпавярховыя дамкі. Прыгожыя, як дэкарацыі на здымкі фільма пра рамантычнае каханне ў лесе...

Асфальт, здаецца, той самы, што і быў даўным-даўно. У старых выбоінах калюгі, а ў іх неба і хвоі...

Новыя ліхтары, як несапраўдныя...

У адрамантаваных катэджах працуюць людзі. Сядзяць за камп'ютарамі. Адразу разумееш, што ты тут не ў 2000 годзе...

Хачу пабачыць вавёрку або зайца. Няма. Толькі птушкі спяваюць, як і пятнаццаць гадоў таму...

У Доме творчасці «Іслач» мы з Людмілай і дзецьмі пражылі болей за 150 дзён...

Вяртаючыся ў Мінск, заехалі на могілкі да маіх бацькоў. Магіл паболела...

***20.04.2016***

У вёсцы Ілья Вілейскага раёна ў мясцовай школе імя А. Грымаця ўжо шмат гадоў ёсць два народныя музеі — «Вілейшчына літаратурная» і «Ільянскія далягляды». Яны ўзніклі і працуюць дзякуючы цудоўнай краязнаўцы Розе Шэрай. Сёння па яе запрашэнні мы з Людмілай удзельнічалі ў адкрыцці памятнай дошкі, з якой можна даведацца, што з 1899 па 1901 год у Ілы вучыўся Змітрок Бядуля...

Роза Канстанцінаўна сустрэла нас на цэнтральным пляцы Ілы і адразу пачала апавядаць і паказваць, дзе што было раней і што там цяпер. Гадоў трыццаць таму ў мясцовым тэхнікуме вучылася каля тысячы студэнтаў. Цяпер чалавек дзвесце. Вялікія інтэрнаты амаль пустыя. Паблізу тэхнікума аднаўляецца царква. Яе робяць такой, якой яна была першапачаткова. У школе вучыцца каля двухсот вучняў. Калі мы прыйшлі ў школу, нас адразу ахінулі ўвагай настаўнікі, што былі вольныя ад урокаў. На сустрэчу з намі прыйшоў мясцовы паэт Мікола Кутас з жонкай. На ровары прыехаў краязнаўца Уладзімір Кажамяка. Дзецям, якія вучацца ў Ільянскай школе вельмі пашанцавала, бо апрача Розы Шэрай у іх выкладае паэтка Аксана Ярашонак-Камінская.

Перад тым як адкрыць памятную дошку, вучні апавялі пра жыццё і творчасць Змітрака Бядулі. Пачыталі вершы, прысвечаныя яму. Увесь час дзьмуў халодны пранізлівы вецер і было змрочна, але як толькі мы з Людмілай адкрылі дошку, засвяціла сонца і заціх вецер. Мне падалося, што з неба паглядзеў Змітрок Бядуля...

Напаіўшы і накарміўшы нас, Роза Канстанцінаўна са сваімі памочнікамі правяла экскурсію. Дзякуючы ёй у школе амаль пяцьдзясят дзяцей могуць быць гідамі. Падобных музеяў паводле свайго экспазіцыйнага багацця вельмі мала ў нашай краіне...

У музеі ёсць мядзяная конаўка, зробленая дзедам Змітрака Бядулі...

Учора акурат увечары мне патэлефанаваў мой сябра Іван Вараўка, які ў свой час скончыў Ільянскую школу. Ён апавёў пра Ілью. Паведаміў, што каля школы стаіць помнік Леніну. Даўней яго там не было. Паставілі на месцы помніка Сталіну. Іван памятае, як неяк раніцай дамоў прыйшоў бацька і сказаў: «Мы Сталіна ўтапілі ў рэчцы!»

На сустрэчу з намі ў актавую залу прыйшлі амаль усе вучні, што былі на занятках. Выступаць было лёгка, бо на нас глядзелі разумныя вочы, з якіх свяцілася прага ведаў...

Пасля выступу Роза Канстанцінаўна звадзіла нас да месца, дзе стаяў ешыбот. На вуліцы, якой мы ішлі, захаваўся брук. Я ішоў ім, і ў маіх вушах чуўся грукат колаў фурманак, а ў кроках дваццаці перад намі мне бачыўся чарнявы кучаравы хлапчук Самуіл, які ішоў вучыцца, каб па часе стацца беларускім пісьменнікам...



***21.04.2016***

Маладзік, як залаты апостраф, што выпаў са Скарынінскай Бібліі...

На TUT.BY змешчаны артыкул Алены Зуевай «Дом писателей «Ислочь» превратился в загородный клуб со СПА-центром», у якім скарыстаны мой аповед пра Дом творчасці, якім ён быў у 90-я гады. На просьбу Алены я даў (мог і не даваць) дзясятак маіх першых «Сабачых гісторый», што былі напісаныя ў «Іслачы», з якіх яна на свой густ выставіла на прачытанне тры. Цяпер на форуме ананімшчыкі абмяркоўваюць (крытыкуюць па поўнай праграме!) толькі мае «Сабачыя гісторыі», быццам болей ніякага тэксту і няма. Я задаволены такой рэакцыяй ананімшчыкаў, бо разлічваў на яе, калі аддаваў гісторыі на публікацыю...

На «Цэнтральным аўтавакзале» набыў квіток у родны Валожын. Прыйшоў на прыпынак пад № 11 і заўважыў, што з гэтага ж месца можна паехаць у Парыж. І ўзгадаўся верш, напісаны 5 жніўня мінулага года пасля таго, як мы з Людай былі ў Парыжы:

*Ты прачынаешся ў старым Парыжы,*
*Нібыта ў небе, дзе жывуць анёлы,*
*Дзе зоры — кроплі залатое цішы,*
*Якую мастакі парыжскай школы*

*Бяруць і ў фарбы дабаўляюць смела,*
*Малюючы Парыж, дзе ты не жыў,*
*Дзе над Парыжам уначы ляцела*
*Пылаючая Жанна на крыжы...*
*Ты прачынаешся ў старым Парыжы,*
*І напаўняецца святлом Парыж,*
*Нібы вінам, і сонца, нібы глыж,*
*Ляціць табе ў вакно, і ты крычыш:*
*«Парыж! Парыж! Парыж!..»*

***22.04.2016***



Сёння выпадкова (А мо і не? Неўзабаве ў траўні будзе чарговая гадавіна з дня смерці Анатоля Сыса) у сеціве натрапіў на свой дзённікавы запіс «Звязаны Сыс», што быў змешчаны ў «Жывым часопісе» 7 снежня 2010 года. Пры ім захаваліся каментары.

«Андрэй Федарэнка:

«Па-першае, сястра наадварот была супраць, каб адчынялі труну. Проста з натоўпу цікаўныя пачалі шумець, што перад тым як закапваць, трэба адчыніць. Насамрэч проста хацелася паглядзець, наколькі ён страшны. Адчынілі, пагледзелі, хуценька зачынілі.

І другое. Забіраць ездзілі вы з Пашкевічам, а хаваць — мы з Наварычам. Адзіныя, дарэчы, з Мінска. Акулін быў там, на радзіме, і пад'ехаў на другі дзень.

Так што не трэба тут нічога і нікога дзяліць. Тым болей рабіць вінаватай сястру.

Рукі-ногі сапраўды не развязвалі — вельмі цяжкі быў пах і наагул жудкаватае відовішча».

Уладзімір Сцяпан:

«Напісаў бы ў такім стылі...»

Андрэй Федарэнка:

«Я напісаў, не падумаўшы, грубаватую «Сечку», на мяне моцна пакрыўдзіліся, у суд хацелі падаваць... Я проста баюся, і мне не вельмі цікава.

Мой Сыс — у «Рэвізіі», яго зоркавы час».

Віктар Шніп:

«Усё ведаю і памятаю, што ты з Наварычам ездзіў. Малайцы. Ніхто сястру ні ў чым не вінаваціць! Гэта жыццё. Цяпер проста трэба пакласці нажніцы і ўсё!»

Андрэй Федарэнка:

«Мы з Наварычам не хвалімся, Віця. Проста я выдатна запомніў тое адчыненне труны. І нажніцы, Бог з імі, пакласці...»

Паліна Сцепаненка:

«Навошта такія падрабязнасці?»

Юрый Гумянюк:

«Віця, табе прывід Сыса не дае супакою? Ты выпіваеш?»

Віктар Шніп:

«Успомніў Сыса, бо кніжку Ганны Кандрацюк прачытаў, з якой зразумеў, што Сыса пахавалі са звязанымі рукамі і нагамі. Нельга так хаваць! Душа Сыса цяпер пакутуе і трэба выправіць гэтую недарэчнасць... Пачытай Ганну Кандрацюк. Як ты там жывеш-творыш?»

Юрый Гумянюк:

«Ганна Кандрацюк абяцала мне перадаць кнігу з аўтографам. Таму пакуль не маю. Ведаю, што там ёсць і мой здымак. Што твару? Пішу фельетоны і раблю рэпартажы на Радыё Рацыя».

Віктар Шніп:

«Нармальна. Даўно не бачыліся!!!»

Пасля публікацыі ў фэйсбуку «Сыс напомніў пра сябе» Галіна Сташкевіч напісала: «Адпусціце гэту сітуацыю. Тыя бінты-путы даўно згнілі, альбо іх Толік разарваў, каб падняцца і пайсці да каго-небудзь у госці...» Я адказаў Галіне: «Сітуацыя адпушчаная, але Сыс напамінае пра сябе... Я не спецыяльна... Ён, магчыма, спецыяльна...»

Дзесяць гадоў праляцелі, як цікавы дзесяцігадзінны спектакль, у якім прынялі ўдзел каля двухсот акцёраў. Сёння Аксана Спрынчан і Яраш Малішэўскі, дзякуючы якім у Доме гасціннай Цёткі (Рэгіны Багамолавай) раз у месяц збіраюцца творцы і гледачы-слухачы, стварылі святочны спектакль паводле Батанічнага слоўніка Зоські Верас. У кожнага выступоўцы была свая кветка. У Рэгіны Багамолавай — мацярдушка, у Пятра Васючэнкі — мята Пятрова, у Вячаслава Скобла — уразнік, у Сержа Мінскевіча — шальбабоны, у Ірыны Клімковіч — шалвея, у Вікі Трэнас — бурнэлька, у Альжбэты Малішэўскай-Спрынчан — дзяванна, у Міхася Скоблы — святаянскае зелле, у Юрася Пацюпы — сухавейка, у Міколы Кандратава — ацаўнік, у Васіля Кузьмічкіна — зелле ад

трасцы, у Яраша Малішэўскага — дзівасіл, у Аксаны Спрынчан — жабіныя вочкі. Мне выпала кветка цвінтарэй. На жаль, Людміла Рублеўская сёння не змагла ўдзельнічаць у спектаклі, бо на працы дзяжурыла па новым нумары газеты. І ўсё ж Аксана Спрынчан назвала і яе кветку — цынцылея, а Яраш Малішэўскі выканаў на словы Людмілы песню «Паляванне каралевы Боны». Прыканцы тэатральнай дзеі Станіслава Сыс хораша прачытала верш Паўлюка Пранузы.

На вуліцы было холадна, а ў зале цёпла ад зёлак Зоські Верас і паэтычных выступаў. Калі скончылася святкаванне, госці яшчэ доўга не разыходзіліся, бо мелі магчымасць пазнаёміцца з фотавыставай Міколы Лінніка і Васіля Кузьмічкіна.



***23.04.2016***

У сваім раёне сеў у аўтобус № 57, каб з'ездзіць у краму каля станцыі метро «Грушаўка». Еду. І раптам заўважаю, што навокал адны старыя гадоў за 80. Усе сівыя і са збялелымі тварамі. Падумалася, што я сярод мерцвякоў, якія аджылі перад Вербнай нядзеляй. Наступным прыпынкам у аўтобус зайшлі дзве дзяўчыны гадоў дваццаці ў кароткіх спаднічках, і старыя адразу ж зніклі з маіх вачэй...

***24.04.2016***

Да пустога вулля не ходзяць браць мёд...

У свой час я пісаў нататкі для друку (і яны друкаваліся) пра пісьменнікаў, пра мастакоў, пра музыкаў, якіх добра ведаў і любіў іх творчасць. Сёння знайшоў у камп'ютары сёе-тое з напісанага. Тут пра Анатоля Сыса і пра Алеся Асташонка.

***2005***

...Пры жыцці Сысу задавалі шмат нечаканых для яго пытанняў. І сябры, і журналісты, і чытачы, і выпадковыя людзі. Не ўсім ён адказваў без выбрыкаў. А на пытанне: «Сыс, калі ты ўжо памрэш?!» — адказаў так, што ўзяў і... памёр. Праўда, і без гэтага пытання людзі паміралі і паміраюць, і мы ўсе некалі, як і Сыс, памром, бо ў кожнага свой шлях па гэтым свеце. Сыс свой шлях прайшоў так, як ён хацеў. Ён не шкадаваў сябе, і яго таксама мала хто шкадаваў. І вось таго Сыса, які многім не падабаўся сваімі паводзінамі, няма. І што? Нам стала лепей без Сыса? Не! І ніколі лепей не стане.

І ніхто ўжо не напіша так, як мог Анатоль Сыс. І ў гэтым яшчэ раз пераконваюся чытаючы ягоны «Лён». Аднак кніга Сыса без самога жывога Сыса — маланка без грымотаў. Яна ёсць, і яе нібыта і няма... Але яна ёсць! І жыве ў «Лёне» сам Сыс, які п'е адзін чырвонае віно і нам нальe, а мы яму крыві нальем, сваёй крыві — чужой не падманем, бо ён п'е адзін, ён кроў не піў даўно. А мы ўжо даўно без Сыса былі, і нават тады былі без яго, калі ён яшчэ жыў.

Сыс — паэт. Але вершы яго страшныя, як рукі, працятыя цвікамі. І сам ён страшны і прыгожы, як чорны цвік у белай руцэ манашкі.

Сыс — інквізітар, які смяецца і плача, плача і смяецца і заклінае, каб не хадзілі за ім. А мы ідзем за ім. А мы хочам быць побач з ім. І душа яго хаваецца ў небе, як у лёне, які пасеялі анёлы. І сам ён хаваецца ў лёне, як у небе, куды мы глядзім і бачым росныя камяні, як зоры. І Сыс глядзіць на нас з лёну, як з неба, а з неба, як з лёну, і прапануе нам выпіць за Айчыну. І мы ўсе п'ем і п'ем, як Сыс, за сябе. І што пасля нас застанецца? У Сыса застаўся «Лён». І нам заходзіць у гэты лён, як у Сысова мора. І нам тануць у Сысовым моры і ўсплываць па-над ім канямі, што просяць піць. І пралятаць нам фанерай над беларускай літаратурай, і застацца толькі тым, каму Сыс прысвяціў верш... Але...

***2006***

Кніга Алеся Асташонка «Жоўты колер белага снегу», а дакладней «П'яная кніга, або Жоўты колер белага снегу» павінная была выйсці ў «Мастацкай літаратуры» яшчэ ў 1996 годзе. А на самым пачатку 90-х гадоў у часопісе «Крыніца» (там у той час працаваў Алесь Асташонак) была надрукаваная нізка маіх вершаў. І вось прыйшоў Алесь у «ЛіМ» і кажа: «Адгадай, якія радкі мне найболей спадабаліся?» Гадаў я, гадаў і не адгадаў. Алесь засмяяўся і зачытаў: «Ядуць рабацягі зжаўцелае сала і піва няспешліва п'юць». Да сённяшняга вечара думаў, што Алесь здзекуецца з мяне, цытуючы гэтыя радкі і кажучы, што яны найлепшыя ва ўсёй беларускай паэзіі. І толькі сёння, паставіўшы побач ягоны радок «П'яная кніга, або Жоўты колер белага снегу» і мой «Ядуць рабацягі зжаўцелае сала і піва няспешліва п'юць», я зразумеў, што нашы радкі, як гаворыцца, з аднэй оперы. І цяпер цешу сябе думкай, што маё «жоўтае сала і піва» дапамаглі Алесю прыдумаць назву

сваёй кнігі. «П’яная кніга...» была падрыхтаваная да друку. Ды не выйшла. Прычын ставала. І назва вельмі нязвыклая, і аўтар не хаваецца ў бульбу, і грошай у выдавецтве няма, і... Але карэктура кнігі была і, атрымаўшы яе, Алесь адразу ж прыйшоў у «ЛіМ» да Барыса Пятровіча і да мяне. Ён быў шчаслівы, як дзіця. У сваю чаргу мы таксама радаваліся за сябра. Радаваліся доўга, ажно пакуль Алесь і мы не зразумелі, што «П’яная кніга...», нягледзячы на тое, што ёсць яе карэктура, не выйдзе. На жаль, такі лёс напаткаў многія выданні таго часу. І калі б кніга Алеся Асташонка выйшла ў 1996 годзе, то і лёс яго мог бы быць іншым. Не такім трагічным. Мог, але... На той час Алесь Асташонак, прыходзячы ў «ЛіМ», амаль штораз у кабінеце Барыса Пятровіча, размаўляючы пра літаратуру, не абыходзіў пытанняў: «Хто з сучасных празаікаў, а хто з паэтаў уваходзіць у залатую дзясятку? Хто ў пяцёрку? Хто ў тройку?» Размаўлялі доўга, дапазна. Амаль заўсёды да нас далучаліся многія пісьменнікі, якія не абыходзілі «ЛіМ». І заўсёды ў пяцёрку, а часам і ў тройку лепшых празаікаў уваходзіў Алесь Асташонак. Часам здавалася, што ён да нас у «ЛіМ» толькі дзеля гэтага «рэйтынгу» і прыходзіць. Але гэтыя нашы рэйтынгі былі сур’ёзнай справай, а не дзеля таго, каб пакрасавацца адзін перад адным. І сапраўды, на той час проза Алеся Асташонка паводле права ўваходзіла ў залатую дзясятку лепшай сучаснай прозы. На жаль, на сённяшні дзень ужо не тое. Алесь застаўся ў сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя. І два гады назад, калі вырашаўся лёс «П’янай кнігі...», я, працуючы ў выдавецтве, настаяў, што калі нельга цалкам пакінуць назву, то змест павінен застацца такім, якім яго падрыхтаваў да друку Алесь. Мяне паслухалі. І сёння, ведаючы, што Алесь (мяркуючы паводле ягоных лістоў) да апошняга дня жыцця пісаў і займаўся перакладамі, можна сказаць, што «Жоўты колер белага снегу» — гэта толькі тое выданне, якое да нас дайшло праз дзесяць гадоў. І за гэтыя дзесяць гадоў яно не шмат страціла. Ну стала не такім актуальным, якім было, і не болей. Але ці трэба, каб кнігі былі актуальныя. Мастацкія творы — гэта не артыкулы з нагоды. У Алеся мастацкія творы, у якіх захаваны той час, у якім мы ўсе жылі. І, дарэчы, так, як Алесь Асташонак, пра той час ніхто не напісаў і па сёння. Ды і не трэба. У кожнага з нас ёсць, а ў каго няма, дык, можа, некалі будуць свае «П’яная кніга і жоўты колер белага снегу» і свае «зжаўцелае сала і піва».

### *24.04.2016*

Вербніца. У царкву не атрымалася схадзіць. Людміла прыйшла з горада са свянцанымі вярбінкамі і пабіла мяне імі. Мама мяне ў маленстве сцябала не толькі ў Вербніцу. Вялікі ёй дзякуй — вырас не самым апошнім абібокам...

Сённяшнім дажджом на Мухлі вымылася першае дзьмухаўцовае золата. Наша Міёна яго знайшла. Я знаходку прынёс дахаты. І, як на мяне, да дзьмухаўцовай залатой ліхаманкі засталося колькі дзён...

### *25.04.2016*



Паблізу з домам, дзе жыву, школа, вакол якой вялікі сад. Учора ён быў шэры, а сёння белы-белы, як снег, які чакае пчол і які чакаюць пчолы. У гэтым садзе сем гадоў таму я хадзіў з мамай і верыў, што яна пасля інсульту хутка паправіцца. І сёння, праходзячы каля белай квецені, я не пабачыў маму. А так хацелася!

### *26.04.2016*

Трыццаць гадоў таму я жыў і навучаўся ў Маскве. Але так атрымалася, што прыканцы красавіка ў Мінску праходзіў чарговы з’езд Саюза пісьменнікаў, на які я быў запрошаны, і 26 красавіка мне давялося сустрэць на роднай зямлі. Пра Чарнобыльскую бяду даведаўся ў Пугачах. Суседзі садзілі бульбу. Потым сядзелі на лаўцы каля нашай хаты і размаўлялі пра радыяцыю. За паўгода дзядзька Коля, які, пасадзіўшы бульбу, адпачываў лежачы на зямлі, а потым яшчэ трапіў пад дождж, захварэў і памёр. У Маскву я вяртаўся з чырвоным вінoм, як з лекамі...

Сёння ўдзельнічаў у жалобнай імпрэзе ў бібліятэцы імя Багушэвіча, на якую прыйшлі вучні шостых і сёмых класаў. Перад маім выступам бібліятэкары паказалі архіўныя кадры, на якіх адлюстраваная хроніка трагічных Чарнобыльскіх падзей. Чытаючы вершы, а потым і ўрыўкі з «Чарнобыльскай малітвы» Святланы Алексіевіч, жанчыны плакалі...

Адразу ж пасля выступу ў бібліятэцы імя Багушэвіча паехаў у Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь, куды быў запрошаны на патрыятычную акцыю «Захаваць Беларусь для будучыні», прысвечаную 30-годдзю аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У канцэрце «Жыць і помніць...», які цягнуўся болей за

гадзіну, удзельнічалі вядомыя спевакі, а з паэтаў была яшчэ Таццяна Сівец. Ідучы на акцыю, я думаў, што па-беларуску будзем выступаць толькі мы з Таццянай, а атрымалася, што і эстрадны спявак Тэа, і іншыя артысты бальшыню песень выканалі на беларускай мове. Пасля выступу да нас падыходзілі супрацоўнікі Нацыянальнага банка і дзякавалі за вершы. Вяртаючыся дадому праз змрок і дождж, я нёс у душы святло свечак, якія былі запаленыя ў памяць пра Чарнобыль у бібліятэцы імя Багушэвіча і ў Нацыянальным банку, і мне было светла...

***27.04.2016***



На месцы філфакаўскага інтэрната ўрэшце збудаваны, як з чорных квадратаў Малевіча, велізарны чорны дом. Гляджу на яго, як на маўзалей...

Усё жыццё цябе вучаць жыць. Адны дома, другія на працы, трэція ў сеціве. І родныя, і знаёмыя, і незнаёмыя. І ты ўсіх слухаеш, і ўсіх чытаеш, і ўсміхаешся, бо ведаеш, што сканаеш ад недахопу ведаў...

Неба, як вакно, нямытае пасля зімы...

Дзень прайшоў добра. Ніхто з пісьменнікаў не памёр...

Яна была прыгожая, як неба. Яна была небам, у якім жыло сонца...

У мяне каля сарака стрыечных братоў і сясцёр. А можа, і болей? Не пералічваў. Я ўсіх памятаю, узгадваю нашы даўнія-даўнія сустрэчы. А траюрадных яшчэ болей. І тут я ўжо мала каго ведаю. І ў кожнага з іх ёсць дзеці, унукі, з якімі я незнаёмы. Магчыма, з імі раз-пораз я сустракаюся ў гарадскім транспарце, на вуліцы і, гледзячы на іх, мне ў галаву не прыходзіць, што яны мае сваякі. Ну і Бог з імі! Мы ўсе разам ляцім да зор...

Было натхненне. І сплыло. А ў мяне засталіся чатыры радкі:

*Змяю ў сабе насіць не забаронена.*
*А можа, забаронена? Не знаеш ты.*
*І поўня ў кронах дрэў — гняздо вароніна,*
*Дзе пасяліўся час твой залаты...*

***28.04.2016***

Раніца. На траве шэрань, як застылы дым ад вогнішча, на якім зайцы з верша Уладзіміра Караткевіча ўначы варылі піва...

Не ўсе рукапісы хочуць быць кнігамі, таму яны губляюцца і гараць...

***29.04.2016***

Прыходзіла Раіса Баравікова. Даўно не была ў выдавецтве. Напомніла: «У мяне ўжо надыходзіць такі ўзрост, калі чалавека нельга пакідаць аднаго з запалкамі». Намёк зразумеў. Трэба планаваць да яе юбілею кнігу. Доўга размаўлялі і яшчэ даўжэй развітваліся. Магчыма, яшчэ развітваліся б з паўгадзіны, але тут прыйшла Арына Ястраб. Яна прынесла рукапіс кнігі свайго мужа мастака Фёдара Ястраба, які два гады таму пакінуў гэты свет. Унікальнасць твораў у тым, што яны раптам напісаліся мастаком у перадапошні год жыцця. Сам Фёдар казаў: «Мне пайшлі санеты, на працягу 2012 і 2013 гадоў штодзённа па два-чатыры вершы». Ёсць амаль тысяча твораў. Дзякуючы «Галіяфам» і спонсарам, выйшлі ўжо тры кніжкі з пяці запланаваных. Арына мне падаравала трэці том Фёдара «Жыццё, як час сарванай ружы».

П’ючы ваду, не памятаеш, ці пляваў ты ў яе раней. Ты п’еш, бо табе хочацца. Напіўшыся, ты можаш плюнуць. І вада не знікне, бо яна вада, у якую ты плюнуў, напіўшыся...

***30.04.2016***

У 2002 годзе ў «Куфэрку Віленшчыны» быў надрукаваны мой матэрыял «І засталася між людзей душа» пра Пятра Бітэля:

«Паступіўшы пасля сканчэння польскай сямігодкі ў Барунскую настаўніцкую семінарыю, я захапіўся польскай класікай. А калі аднойчы пахваліла мяне за ўдалае сачыненне наша настаўніца польскай мовы і літаратуры Марыя Багушэвіч (нявестка Францішка Багушэвіча — жонка ягонага сына Тамаша), я пачаў цішком, выключна для сябе, прабаваць свае сілы ў творчасці. Усе тыя наіўныя юнацкія творы, як і пазнейшыя — напісаныя падчас настаўніцкай працы, — амаль цалкам загінулі ў ваенным завірусе»,— так

успамінаў Пятро Бітэль пра пачатак сваёй творчасці ў 1981 годзе на пасяджэнні літаратурнага аб'яднання «Рунь» пры Валожынскай раённай газеце «Працоўная слава». На той час Пятру Іванавічу было 69 гадоў. Ён меў адну выдадзеную кніжку «Замкі і людзі» (1968). Але ён быў не адзін — побач з ім былі родныя і блізкія, і ён штодзённа працаваў над перакладамі і не губляў веры, што напісанае ім рана ці позна дойдзе да чытача. І яно спакваля даходзіць і становіцца часткай нашай культуры. Творы Пятра Бітэля яшчэ не ў поўнай меры прачытаныя і ацэненыя, але я і так ведаю, што Пятро Іванавіч — гэта гонар Вішнева, Валожыншчыны і Віленскага краю. І я ўдзячны лёсу, што меў магчымасць асабіста ведаць Пятра Бітэля, сябраваць з ім і вучыцца ў яго мужнасці і любові да роднай зямлі. Пятру Бітэлю цяпер было б 90 гадоў, і ён бы мог яшчэ жыць, але... Але засталіся яго творы, памяць пра яго, засталіся мы, хто яго ведаў і любіў як чалавека і творцу.

Чытачам «Куфэрка Віленшчыны» прапаную свае дзённікавыя запісы, паводле якіх можна прасачыць жыццёвы і творчы шлях Пятра Бітэля на Валожынскай зямлі, пабачыць, як зараджалася літаб'яднанне «Рунь», дзякуючы якому Пятро Іванавіч адчуў, што ён і яго творчасць патрэбныя людзям. Прапаную таксама лісты Пятра Бітэля да мяне.

***15.10.1979***

Быў у Валожыне 11.10.79 на ўрачыстым сходзе, прысвечаным 40-годдзю «Працоўнай славы». Пазнаёміўся з Аняй Арцюкевіч, Валянцінай Русакевіч, Петрусём Капчыкам, Пятром Бітэлем і Алесем Хазяніным... З Капчыкам размаўляў пра тое, як бы з'ездзіць да П. Бітэля (цікавы чалавек, добра перакладае). Думаю, з'ездзім.

***17.05.1981***

Сёння атрымаў ліст з «Працоўнай славы». Літаб'яднанне трэба абавязкова стварыць!

***19.05.1981***

Рана ўстаў і паехаў у Валожын. Зайшоў у рэдакцыю ў аддзел лістоў. Пазнаёміўся з Галінай Шаблінскай. Паразмаўлялі пра стварэнне літаб'яднання. Збіраемся 6 чэрвеня а 12 гадзіне. Яна апавяла пра сучасную паэзію, а я пра літаб'яд-

нанні і пра іх дзейнасць. Казала, што зробіць пасведчанні сябра літаб’яднання. Дала мне прагледзець вершы з літаратурнай пошты. Схадзіў з ёй і да рэдактара С. Ломацця — паразмаўлялі пра літаб’яднанне. Рэдактар мяне падтрымаў.

***21.05.1981***

Тэлефанаваў у «Працоўную славу». Прапанаваў даць назву літаб’яднанню «Рунь». Эпіграф з П. Панчанкі: «Песню сваю, мову сваю Я да грудзей прытульваю...». Галіна Шаблінская сказала, што размаўляла з мастакамі наконт пасведчання сябра літаб’яднання.



***29.06.1981***

Патэлефанаваў Г. Шаблінскай. Збірацца будзем у жніўні. Літстаронка выйдзе ў гэты чацвер.

***10.08.1981***

У суботу раніцай аб 11 гадзіне прыехаў у Валожын. Паеўшы ў сталоўцы, пайшоў у рэдакцыю. На лаўцы ўжо сядзеў Л. Шчарбінскі са сваім пляменнікам. Неўзабаве прыйшла Г. Шаблінская. Пасля з’явіліся М. Карыцкая і фотакарэспандэнт А. Пятровіч. Размаўлялі пра паэзію і пра паэтаў. Прыкінулі невялічкі план на будучае.

***31.08.1981***

29-га, раненька ўстаўшы, паехаў у Валожын. На пачатку 12 гадзіны прыйшла Галіна Шаблінская. Мы з ёй думалі, што нікога болей не будзе. Селі, перадрукавалі вершы Л. Шчарбінскага, але ён чамусьці не прыехаў. Галіна паведаміла, што мной цікавіцца валожынскі кампазітар Валерый Хахлоў. Ён казаў, калі буду ў Валожыне, каб нас пазнаёмілі. Першай прыйшла М. Карыцкая. Пасля дадаліліся Аня Косік і Пятро Бітэль. А яшчэ пачакаўшы, нясмела зайшоў Вікенцій Чаховіч. Усе мы пачыталі свае вершы. Крыху абмеркавалі. Ледзьве не забыўся — перад усім гэтым телефанаваў Міхаіл Курыла. Я з ім добра перамовіўся. Ён абяцаў адразу напісаць мне. Цяпер у бальніцы. Я з Галінай склаў літстаронку — абралі вершы аўтараў, што прысутнічалі. Прайшло літаб’яднанне добра. Я ўзяў вершы для літстаронкі ў «Чырвонку». Недзе а гадзіне трэцяй разышліся. Пятро Бітэль запрашаў мяне да сябе.

***1.09.1981***

Завёз вершы П. Бітэля, А. Косік, М. Карыцкай, Л. Шчарбінскага і свае ў «Чырвонку». Якраз у сакратарыяце быў М. Федзюковіч. Ён сказаў, што будуць рыхтаваць старонку нашага літаб'яднання «Рунь».

***15.11.1981***

У Валожын прыехаў аб 11 гадзіне. Пасля сталоўкі пайшоў у раёнку. Прыехаў М. Курыла. Пасля з'явіліся П. Бітэль, Г. Равінскі, М. Карыцкая, Я. Макарэвіч, А. Косік, Г. Шаблінская і Н. Штэйнер. Я чытаў новыя вершы. П. Бітэль сказаў: «Вершы ўсе працятыя адной тэмай, паспрабуй з іх зрабіць паэму». Сам П. Бітэль пачытаў пераклады.



***9.05.1982***

5 мая на запрашэнне раёнкі паехаў у Валожын на сход. У гэты дзень мне ўручылі «Ганаровую грамату» і трохтомнік Д. Пісарава. Я выступіў перад прысутнымі. Пасля паехаў на 13:15 у Вішнева да Пятра Бітэля. Хату знайшоў без цяжкасці. Акурат былі дома Пятро Іванавіч і Ніна Пятроўна. Прынялі мяне добра. Я крыху ўскапаў агарод. Шмат пачытаў, шмат цікавага пабачыў. Пабачыў, на якой паперы (на паперы ад мяхоў з-пад цэменту) пісаліся зялёнкай пераклады А. Міцкевіча. Паразмаўляць было цікава. Я начаваў. На другі дзень аб 11 гадзіне выехаў у Валожын.

***4.06.1982***

3 ліпеня быў у Валожыне. Гэтым разам на літаб'яднанні было 12 чалавек: П. Бітэль, Г. Равінскі, Л. Шчарбінскі, Г. Косік, І. Шакун, С. Садоўскі, Б. Бібік і інш. Пасяджэнне было юбілейным. Нашаму літаб'яднанню — 1 год.

***24.06.1982***

Увечары быў у Рыгора Барадуліна. Ён добрым словам успомніў П. Бітэля...

***23.08.1982***

Бачыўся з Валерам Янушкевічам. Ён казаў, што Фэлік малюе П. Бітэля.

***10.02.1983***

Гэтым разам прыйшлі П. Бітэль, М. Карыцкая, Л. Скадорва, В. Бібаеў, І. Шакун і новы хлопец з Вішнева. Зноў давялося добра папрацаваць. Фотакар нас фатаграфаваў. Пятро Іванавіч апавёў пра пераклады, і я папрасіў, каб ён напісаў пра гэта артыкул. Калі мы раз'язджаліся, я праводзіў Пятра Іванавіча і хлопца з Вішнева. Бітэль быў, відаць, заклапочаны, каб як хутчэй заехаць дамоў, і, дайшоўшы да аўтобуса разам са мной, не развітаўшыся, пайшоў у салон. Я разгублена паглядзеў яму ўслед і пасунуўся ў буфет. Ем, забягае П. Бітэль: «Неяк атрымалася па-свінацкаму! Не развітаўся». Мы развіталіся, і мне стала весялей.



***10.03.1983***

Гэтым разам было мала чалавек, бо не выслалі запрашэнняў. Першым прыехаў П. Бітэль. Потым Валодзя з Вішнева і В. Бібаеў. А. Хазянін крыху пакрытыкаваў, што апошнія літаб'яднанні сталі слабейшыя.

***7.04.1983***

Паехаў у Валожын у раёнку праводзіць літаб'яднанне. Зноў запрашэнняў не дасылалі, не далі абвесткі. Падвялі мяне. А мо не хочуць, каб мы болей збіраліся?

***21.05.1983***

А палове сёмай быў на вакзале. Прыйшла Тацццяна Мушынская. Галіна Шаблінская не змагла, бо ў іх праверка з Масквы. Усю дарогу размаўлялі. Язэп Янушкевіч заседзеўся дома і не паспеў на наш аўтобус «Мінск — Ліда». Паехалі без яго ў Валожын. Ужо думалі, што Язэпа не будзе, як раптам ён з'явіўся — прыехаў услед. Паехалі на 9:50 у Вішнева. Прыйшлі да Пятра Бітэля. Нас даўно чакалі. Ніна Пятроўна гатавала пачастункі, а мы слухалі творы Пятра Іванавіча. Цалкам ён прачытаў «Баруны», «Папараць-кветку» і апавяданняў колькі. Быў яго сябра і калега Мікалай Раманавіч з Ваўкавыска. Уразіў сваім веданнем гісторыі. Язэп перапісаў даты царавання дынастыі Раманавых. Хараша пасядзелі. Ехалі дамоў стомленыя, але задаволеныя паездкай. Цудоўна!

***10.06.1983***

Гэтым разам быў толькі Лёня Шчарбінскі. Тэлефанаваў П. Бітэлю. Пятро Іванавіч атрымаў адказ з «Мінскай праў-

ды». Казаў, што дрэнны адказ. Здароўе не вельмі. Ды і ў выдавецтве ўсё робіцца няспешна. Ёсць, казаў, задума на вялікую рэч.

***19.07.1983***

Зайшоўся ў выдавецтва да Дранько-Майсюка. Лёня ўзрадаваўся майму прыходу і запытаўся: «Калі думаеш ехаць у Валожын?» — «21 ліпеня...» І Лёня папрасіў перадаць ліст Пятру Бітэлю. Завітаў Мікола Арочка. Напачатку ён не хацеў браць рукапіс Пятра Іванавіча, каб напісаць на яго рэцэнзію, але мы яго ўмовілі, і ён узяў.



***21.07.1983***

Гэтым разам у раёнку прыехаў П. Бітэль. Я яму перадаў ліст ад Дранько-Майсюка. А ён праз мяне адказ. Генадзь Равінскі чытаў свае апавяданні. Казаў, што на мяне пакрыўдзіўся Іван Асіпацкі, якога я пакрытыкаваў у адным артыкуле разам з яго вучаніцай.

***11.08.1983***

Доўга стаяў па квіток. Завітаў у Валожыне ў кнігарню, дзе набыў І. Драча «Подсолнух». Добрая кніжка. Паразмаўляў з крамніцай Светай. Пасля сталоўкі забег у карэктарскую. Там нікога. Каля рэдакцыі пачытаў кніжку. Першым прыйшоў П. Бітэль. Падпісаў выдавецкую дамову на выданне яго кнігі (я прывёз) і даў фотаздымкі. Здароўе не вельмі ў яго і жонкі... Пятро Іванавіч прачытаў сваю паэму-казку «Нястача». Цікавая рэч...

***12.04.1984***

У Валожын прыехаў рана. Патэлефанаваў Бітэлю. Пятро Іванавіч крыху прыхварэў ды і зубы ставіць. Гэтым разам прыехаў Валодзя Малашэнкаў, васьмікласнік з Вішнева...

***14.06.1984***

У Валожын прыехаў і адразу патрапіў пад дождж, які ўжо ідзе амаль месяц. А ў Расіі быў смерч, які разбурыў шмат дамоў, ёсць загінулыя. Пабыў у карэктарскай. Прыехаў Лёня Шчарбінскі. Пасля — П. Бітэль і Г. Равінскі...

***6.09.1984***

Гэтым разам прыехалі Л. Шчарбінскі, Г Равінскі, Л. Скотнікава, Т. Гасціловіч, Л. Скадорва і інш. Патэлефанаваў Бітэлю. Выбірае бульбу, баліць спіна, а так усё нармальна.

***4.10.1984***

У Валожын прыехаў а 9 гадзіне. Зазірнуўшы ў кнігарню, пайшоў у рэдакцыю. Гэтым разам прыехалі Пятро Бітэль і Алена Жылінская. Малавата. З намі была Н. Штэйнер. П. Бітэль чытаў урыўкі з паэмы «Тупікі». Цікава. Я ўзяў вершы на агляд. Зноў не давалі абвесткі і не рассылалі запрашэнняў.



***3.01.1985***

З Пугачоў паехаў у Валожын. У аўтобусе сустрэў Фэліка Янушкевіча. Ён ехаў здаваць аналізы — едзе ў Японію на 20 дзён. Усю дарогу размаўлялі. У раёнку гэтым разам прыехалі П. Бітэль, Г. Равінскі і А. Жылінская. Пятро Іванавіч падпісаў мне сваю кнігу. Казаў, што ніхто ў Вішневе не чакаў ад яго такой кніжкі, усе думалі, што будзе маленькая кніжачка. Мы ўсе павіншавалі Бітэля з кнігай. Літаб'яднанне прайшло хараша.

***12.03.1985***

Са «Звязды» пайшоў на секцыю паэзіі ў Саюз пісьменнікаў, дзе (я не ведаў) разглядалі творчасць Пятра Бітэля. Прыйшоў Я. Янушкевіч з жонкай, на якую ўсе глядзелі і пасля пыталіся ў мяне, хто такая. На секцыі былі Р. Барадулін, В. Зуёнак, Р. Тармола, Я. Янішчыц, Т. Бондар, Р. Баравікова, У. Някляеў ды інш. Агляд паэзіі за мінулы год рабіла А. Сямёнава, дзе добрым словам успомніла і мяне. Выступіла Т. Чабан. А 16 гадзіне быў жалобны мітынг памяці Чарненкі. Пасля зноў працягнулася секцыя. Па Бітэлю выступіла В. Коўтун, а пад канец — Янушкевіч, які не вельмі ўдала сказаў: «Калі Галубовіч, Шніп, Пісьмянкоў пачынаюць свой шлях, то Пятро Бітэль ужо закончыў свой жыццёвы шлях...» І стаў дзякаваць, што прынялі Бітэля ў Саюз. Аднак ён памыліўся, бо секцыя — гэта толькі пачатак да ўступлення ў СП...

***16.03.1985***

Патэлефанаваў П. Бітэлю. Пятро Іванавіч сказаў, што хварэе сам і жонка. Скончыў сваю паэму і хоча пачытаць. Трэба будзе з'ездзіць. Казаў, што ніхто апошнім часам не

прыязджае. Скардзіўся, што на яго кніжку нідзе не даюць рэцэнзій. Аднак Пятро Іванавіч не вельмі перажывае. Не будзе, кажа, перажываць, калі і ў СП не прымуць. М. Курыла яму часта тэлефануе, просіць парад, чытае вершы...

***12.04.1985***

У Вішневе быў на пачатку адзінаццатай гадзіны. П. Бітэль і яго жонка былі дома, чакалі мяне. Перакусіўшы добра, заселі з Пятром Іванавічам чытаць яго новую паэму «Тупікі», якую ён нядаўна закончыў. Назву будзе мяняць. Чыталі недзе гадзіны чатыры. Чыталі па чарзе. Затым Пятро Іванавіч павёў мяне па Вішневе. Паказаў царкву, якая была пабудаваная ў 1865 годзе, і касцёл XV стагоддзя. Узышлі на гару насупраць царквы. На гары былі калісьці могілкі. Кажуць, тут недзе й пахаваны Сымон Будны. Цяпер растуць маладзенькія хвоі і шмат расце шыпшыны, якая якраз зацвіла. Прыгожа. З гары відаць усё Вішнева і наваколле. Пятро Іванавіч паказаў рэшткі крыжа — жалезная рэйка. Было іх тры — стаялі па адной лініі. Насупраць касцёла на гары сярод ліп магіла невядомага польскага салдата, а раней ён быў пахаваны ля касцёла. Паглядзелі касцёл. На гары ёсць нейкая яміна ці то ад выбуху, ці то так ад чаго. У ёй расце шыпшына. Пайшлі да рэчкі Ашмянкі. Бачыў рэшткі млына. Пятро Іванавіч паказаў падмуркі былых яўрэйскіх дамоў. Наагул у Вішневе было вельмі шмат яўрэяў, якія трымалі крамы і г. д. У вайну 1941—1945 гадоў Вішнева амаль усё згарэла, але яшчэ шмат яўрэйскіх дамоў. Старых, чорных, з дзвярыма адразу на вуліцу. Рэчка раней была большай, было шмат рыбы. Драўляным і хісткім мастком перайшлі на другі бераг. Схадзілі ў школу, дзе адзінаццаць гадоў Пятро Іванавіч працаваў. Там, дзе цяпер цір, раней было сховішча на сыры, якія рабілі пры Польшчы. Была вялікая ферма. Хораша пахадзілі. Ад сонца мне крыху забалела галава. Ніна Пятроўна прапанавала паспаць. Паспаў, і стала весялей. Я чытаў Пятру Іванавічу вершы пра каханне. Размаўлялі пра жыццё.

**Ліст ад 28.02.1986 г.**

Добры дзень, Віктар Анатольевіч!

Пісьмо Ваша я атрымаў, дзякую. Мы ўжо думалі, а нават часта размаўлялі між сабой, што Вы за нешта загневаліся на нас, хоць, здаецца нам, віны за сабой не адчуваем.

Падумайце ж Вы самі: быць дома 42 дні на канікулах і не знайсці хвілінкі, каб пазваніць нам ці напісаць пару слоў! Я ўжо, прызнаюся, і не чакаў ад Вас пісьма. Няўжо Масква зрабіла з Вас такога зазнайку? Дзівіліся Вашымі паводзінамі не толькі я, але і Наташа, і Курыла, і ўсе «рунеўцы». Ну цяпер, я думаю, Вы паправіцеся і не будзеце забываць старых сяброў. Не ведаю, чаму Вы кажаце, што сяброў у Вас няма. Гэта няпраўда. Не ўсе знаёмыя — сябры, але і не ўсе «плеткары і зайздроснікі». Не будзьце песімістам. Мне здаецца, што прычынай Вашага песімізму з'яўляецца адна з мінскіх прыгажунь. Нічога, гэта здараецца з маладымі людзьмі, але з часам мінае. (Если к другому уходит невеста, то неизвестно, кому повезло.)



Адносна Вашых «выдавецкіх» спраў скажу, што не толькі Вас «рэжуць». Чамусьці сябры з аддзела паэзіі і да мяне настаўлены варожа. Тую вершаваную маю аповесць, якую мы з Вамі ў нас чыталі, як Дранько, так і рэцэнзент Лойка моцна зганілі і пакрэслілі з яўнымі прыдзіркамі, відаць, з мэтай не прапусціць. Лойку я нават напісаў пісьмо з абвяржэннем яго неабаснаваных закідаў. Няхай не глядзіць на пісьменніка з вышыняў свайго доктарскага аўтарытэту. А з Дранько намерваюся сустрэцца й пагаварыць, каб высніць, у чым прычына перамены клімату.

Я вельмі рад за Вас, што Вы вучыцеся, што перад Вамі прыгожае будучае. Будзьце спакойнымі ў дасягненні мэты. Я і Ніна Пятроўна жадаем Вам моцнага здароўя, сіл перамагчы ўсе цяжкасці і творчых поспехаў.

З пашанай П. Бітэль.

**Ліст ад 14.10.1986 г.**

Добры дзень, юны дружа!

Пісьмо Ваша атрымаў. Шчыра дзякую за памяць і за добрыя пажаданні. У мяне покуль што, як кажуць, без перамен, жывём са сваёй гаспадынькай і хвалімся адно аднаму сваімі немачамі. Сёлета яна ў мяне асабліва дрэнна сябе адчувае. Я, як быццам, трохі мацней трымаюся, але таксама невядома, ці надоўга мяне хопіць. Цяпер перадрукоўваю на машынцы перакладзеную мной з польскай мовы кнігу Крашэўскага «Хата за вёскай». Па маёй вершаванай аповесці «Тры ўлады» варожа «праехаўся» з алоўкам Хведар Жычка і забракаваў. Бачу

ў гэтым чарговую на мяне нагонку, бо прыдзіркі беспадстаўныя, а месцамі наіўныя, а нават глупыя. Адносна таго, каб Вам завесці сям'ю, прывяду адказ аднаго ўсходняга мудраца юнаку на пытанне, жаніцца яму ці не. Мудрэц адказаў: «Як ні зробіш, усё роўна пасля будзеш шкадаваць». А англійскі паэт Бёрнс у адным са сваіх вершаў напісаў:

*Кавалерам, нежанатым*
*Не жыццё, а проста рай!*
*А сямейным хлапчанятам*
*Тройчы ў дзень аўсянкі дай!..*

І г. д. Так што, відаць, трэба над гэтым падумаць. Але жарты набок! Калі ёсць на прыкмеце чалавек па душы, дык доўга цягнуць не варта. Я сам ажаніўся, калі мне не было яшчэ і 20-ці.

Жадаю Вам поспехаў у вучобе і ў творчасці.

З сардэчным прывітаннем — П. Бітэль. Найлепшыя пажаданні ад Ніны Пятроўны.

**Ліст ад 15.12.1987 г.**

Добры дзень, Віктар Анатольевіч!

Пісьмо Ваша атрымаў, дзякую за памяць. Вельмі рад за Вас, што Вы нарэшце ўладкаваліся, супакоіліся і атрымалі працу. Жадаю Вам самых вялікіх поспехаў на новым становішчы.

Што датычыцца прапановы з Вашага боку што-небудзь напісаць у Ваш часопіс, дык, па-першае, не вельмі ведаю, што пісаць, а па-другое, вельмі заняты асноўнай работай — пераклаў кнігу з лацінскай мовы і цяпер цэлымі днямі «клюю» яе на машынцы. Не ведаю, ці да Новага года закончу, бо нездаровіцца і работа ідзе марудна, а таксама вельмі хворая мая Ніна Пятроўна, дык прыходзіцца адрывацца да хатніх спраў. Але Вашу прапанову буду мець на ўвазе.

Часта звоніць мне М. Курыла, ён цяпер жыве ў Валожыне, прасіў перадаць Вам ад яго прывітанне.

Віншую Вас і вашу «лепшую палавіну» з наступаючым Новым годам і жадаю Вам абаім моцнага здароўя і выдатных творчых поспехаў.

З павагай — П. Бітэль.

**Ліст ад 31.01.1989 г.**

Добры дзень, дружа Віктар Анатольевіч!

Выбачайце, што я не адказаў упару і не падзякаваў Вам за Навагоднія пажаданні, віншаванні і за добрую вестку.

Справа ў тым, што пасля паездкі ў Навагрудак (18.12.) я цяжка захварэў і ад 22.12. па 26.1. праваляўся ў бальніцах у Вішневе і ў Маладзечне. Цяпер я дома, але вельмі слабы, бо абсалютна нічога не магу есці. Гэта пісьмо піша за мяне мая дачка. Жадаю Вам добрага здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага.

З павагай — П. Бітэль.

**Ліст ад 11.06.1989 г.**



Дарагі Віктар Анатольевіч!

Курыла патэлефанаваў мне, што Вам патрэбна мая фотакартка, як ён сказаў, жанравая, г. зн. не партрэтная.

Няма ў мяне добрых картак, а шукаць цяпер фатографа ў маіх умовах досыць складана. Высылаю тое, што знайшоў у сваім архіве; калі што падыдзе, буду задаволены.

У мяне навін няма, са здароўем ніяк яшчэ не магу вярнуцца да папярэдняга стану. І невядома, ці наогул вярнуся.

Сардэчныя прывітанні і пажаданні Вам асабіста і Вашай Сям’і.

З павагай — П. Бітэль.

**Ліст ад 23.07.1989 г.**

Паважаны дружа Віктар Анатольевіч!

Як мы дагаварыліся, высылаю Вам колькі вершаў і ўрывак з паэмы «Баруны» (поўнасцю паэма выйдзе ў наступным годзе ў кнізе «Дзве вайны»). Выкарыстайце з гэтага матэрыялу тое, што палічыце мэтазгодным.

З пашанай — П. Бітэль.

***14.10.1989***

Субота. Паехаў у Валожын на святкаванне 50-годдзя «Працоўнай славы». Пабачыў многіх знаёмых. Асабліва быў рады сустрэчы з Пятром Бітэлем. Ён мне падпісаў кніжку «Хата за вёскай». Сядзелі побач. Нас зазняў фотакар. Было халаднавата. Свята працягвалася болей за тры гадзіны. Амаль апошнімі выклікалі на сцэну нас, паэтаў. Пачыталі крыху. Запрасілі нас пасля ў рэстарацыю на абед. Сядзелі з

райкамаўскімі кіраўнікамі. Яжэвіч наліваў. Я здзівіўся, калі Пятро Іванавіч піў столькі, як і мы. Малайчына! Жартаваў: «Многа не ліце, а то буду шумець!» Пасля ўсяго забегліся да М. Курылы, дзе зноў Бітэль мяне здзівіў — зноў добра пацягнуў з чаркі.

***20.01.1990***

Быў у Валожыне ў М. Курылы. Наразмаўляліся. Тэлефанавалі П. Бітэлю. Ён пераязджае ў Маладзечна. Сумна. У яго ўзросце пераезд — як смерць. Хату прадаюць.

**18 кастрычніка 1991 года** з Маладзечна прыйшла жалобная вестка: на 80-м годзе Пятро Бітэль памёр. За дванаццаць дзён да смерці паэта я атрымаў ліст, напісаны ягонай дачкой:

«Паважаны спадар Шніп! Вельмі дзякуем за Ваш ліст. Выбачайце, што доўга не адпісвалі Вам. Справа ў тым, што мой тата цяжка захварэў і з 16.IX. ляжыць у шпіталі ў кардыялогіі. Ужо ў чацвёрты раз — інфаркт! Пайшоў было на папраўку, а тут атруціўся бальнічнай ежай і двое сутак мучыўся. Тата просіць прабачэння, што не можа Вам напісаць, а як вернецца з бальніцы, то адкажа на ўсе Вашы пытанні. Мы жывём надзеяй на лепшае, а як будзе — невядома. Урач сказаў, што ўсё сэрца — у рубцах...»



* * *

*Памяці Пятра Бітэля*

У шэрым, сумным, як няволя, свеце,
Калі не быць рабом, то нельга жыць.
Лісцё з бяроз кідае ў неба вецер
На крылы адлятаючай душы.

Там воля, толькі там няма Айчыны,
І там спакой, ды там жыцця няма.
І ля начы спынілася Сцяжына,
І што прайшло, прайшло ўсё ж недарма.

І болей няма зямных пакут для цела,
А толькі вечнасць сумная крыжа.
Душа у Храм да Бога адляцела,
І засталася між людзей душа.

**19—20.10.91**

***30.04.2016***

Праз двор прайшла маладая сямейная пара. У абаіх у руках кошыкі, накрытыя вышыванымі ручнікамі. Пайшлі да царквы. Заўтра Вялікдзень. Гледзячы на маладых, узгадаў бацькоў. Мама перад Вялікаднем пякла булкі, якіх нам потым ставала на цэлы тыдзень. Мы такіх пячы не ўмеем. Думаю: «Пайсці ў краму і набыць пару святочных булак ці пачакаць дачку, якая прыйдзе і паспрабуе стварыць дзіва. Людміле сёння няма часу. Пайшла вучыць маладых літаратараў...» І сяджу я каля вакна і чакаю Вераніку. І ведаю, што вось так бацькі ў вёсцы, гледзячы ў вакно, чакалі нас, дзяцей, з горада. А мы не заўсёды прыязджалі на ўсё гатовае нават на Вялікдзень...



**СОНЦА ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ**
***(1490—1551)***

з белых бялюткіх снягоў
як з пены тутэйшага мора
сонца ўзышло над Полацкам
і раптам чарнець пачало
як вугаль
як чорная кропка
у канцы сказа
як у канцы свету
свету дзе цябе не было
і ты нарадзіўся
і сонца зноў засвяцілася
як шлях у Заўтра
і стала светла
і ў Полацку
і ў Вялікім Княстве
і маліліся людзі
і звінелі званы
паўтараючы тваё імя
Францішак Францішак Францішак
і ляцелі анёлы
і ляцелі пчолы
а ты глядзеў у неба
і бачыў роднае неба

у якім жыве Бог
які стварыў зямлю
і ўсё жывое на зямлі
па якой ты ідзеш з Полацка
несучы ў сэрцы сонца
якое было і будзе
і ў Вільні і ў Празе
і літары складуцца ў словы
і словы складуцца ў сказы
і будзе першая кніга
якую ты надрукуеш
і ты ідзеш па Еўропе
малады і прыгожы
як вой які абараняе
зямлю дзе магілы продкаў
дзе яму вераць дзе яго любяць
дзе яго заўсёды чакаюць
і ў кожным следзе тваім
застаецца святло жывое
якое не зарасце травой
і не засыплецца пылам
і ў цябе наперадзе Беларусь
пра якую ты не марыш
але якая абавязкова будзе
як свята пасля будняў
як дзень пасля ночы
як вясна пасля зімы
і сонца будзе тваё
і сёння і заўтра і заўсёды
як родная зямля пад нагамі
тых хто ідзе з дому
і тых хто вяртаецца
ведаючы тваё імя
як песню як малітву
як сонца

**7.04.2016**

**ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ МАЛІТВА МАСТАКА**

пасля 26 красавіка 1986 года
малюючы мастак не малюе
мастак моліцца
і ў кожнай кропельцы фарбы
жыве ягонае слова
ягоная малітва
да нас і да Бога
і ўзыходзячае сонца з туману
як з белай вечнасці
якой мы не ведаем
асвятляе крыжы на Храмах
і на магілах
і кожную травінку
і кожную пылінку
і вецер не тушыць свечкі
свечкі становяцца ветрам
які зрывае павуціну
і вымятае смецце з нашых душаў
з нашай памяці
вялікай як наша зямля
і як неба над намі
дзе зоркі гараць як свечкі
на полі якое перайшлі
нашы продкі
і ноч змяняецца днём
і знікае тое
што павінна знікнуць
і з'яўляецца тое
што павінна з'явіцца
і агонь гарыць у вадзе
і вада гарыць у агні
бо мастак моліцца фарбамі
у сваёй майстэрні
як у Каўчэгу
які плыве над горадам
і над усім светам
пад белымі ветразямі аблокаў
і лятаюць над ім чорныя анёлы
якім не хапіла белай фарбы
пасля Чарнобыля

якi стаў краем белага свету
з якога відаць прорва
чорная чорная чорная
як вугаль
у руках Бога
якому мастак моліцца
каб сонца жытнёва ўзыходзіла
не толькі на яго карцінах

**23.04.2016**

## *Травень*



***1.05.2016***

Сёння нашаму Максіму Віктаравічу 23 гады! Усёй сям'ёй адзначылі Вялікдзень і сынаў дзень народзінаў. 18 траўня Максіма забіраюць у памежнікі. Спрабую ўзгадаць, чые сыны з нашых знаёмых служылі ў войску, і не магу. Словам, у нас набліжаецца новы этап жыцця...

Мяркуючы паводле нядаўніх выніках расійскага тэлеконкурсу «Голас», каб стаць пераможцам, трэба быць манахам ці карузлікам. Людзі любяць святых і ўбогіх...

Калі цябе прызналі лепшым, то ты будзеш лепшым да сваёй смерці. Потым, паводле інерцыі, яшчэ цябе будуць называць у пераліках лепшых сярод мёртвых, пакуль будуць яшчэ жывыя, для каго ты быў лепшым, а потым будзе цішыня. І ўсё гэта таму, што лепшых няма. Яны наша выдумка. Яны, як гадзіннік, з дапамогай якога мы арыентуемся ў вечнасці...

***2.05.2016***

Паланга. Вецер дзьме ў бок мора. Мы ідзем берагам, як краем свету. І калі б ты не трымала мяне за руку, ці вярнуўся б я дахаты...

Дрэвы ў нашым двары штогод усё большаюць і большаюць. Гляджу праз іх кроны на суседні дом, як праз лясныя шаты. Баюся, што некаторыя дрэвы неўзабаве будуць спілаваныя, як і ў суседнім двары, дзе на свежых пнях ужо

гаспадараць мухі. Асабліва шкада бяроз, якія гэтулькі гадоў цягнуліся да сонца і ніколі праз дамы не бачылі, як яно ўзыходзіць і заходзіць за небакрай...

Ты ідзеш праз дажджлівую ноч, як пад бушуючым акіянам праз тунэль, які працякае...

***3.05.2016***

Святла ў вакне не бывае без вакна, як не бывае зорак без неба. І ты будуеш сваю вежу з вокнамі, каб у іх гарэла святло, на якое ляцела не толькі жамяра, але і людзі ішлі. Я не прыйду да цябе, бо ў мяне ёсць сваё вакно, у якім гарыць святло...



***4.05.2016***

Рыхтуем да друку падручнік «Музыка. 1 клас», які трэба аздобіць чатырма сотнямі ілюстрацый. Сёе-тое з класікі знайшлі ў сеціве, а іншыя работы трэба сфатаграфаваць. Дзякуючы Саюзу мастакоў у мяне з’явіліся нумары тэлефонаў патрэбных майстэрняў. Першай у спісе на наведванне стала Ала Мікалаеўна Замай. Я пайшоў да яе не адзін, а з нашым мастаком Міхасём Дайлідавым. І правільна зрабіў, бо карціну «Бярозавы гай» я адзін не зняў бы са сцяны. Яна немалая і цяжкая. Ала Мікалаеўна адразу ж пасля нашага прыходу пачала апавядаць пра сваіх аднакурснікаў Леаніда Шчамялёва і Віктара Грамыку, а таксама пра былых дырэктараў Нацыянальнага мастацкага музея Алену Аладаву і Юрыя Карачуна. Узгадала пра карціну «Матрошкі» (1974). Яна ў тыя далёкія часы была ўзята на адну з выстаў, на якую Ала Мікалаеўна не пайшла. Сяброўка пры сустрэчы паведаміла ёй, што карціна вісіць у добра асветленым сонцам месцы і вельмі хораша глядзіцца. І назаўтра мастачка вырашыла палюбавацца сваёй работай. Прыйшла на выставу, а карціны няма. Знайшла з пабітым шклом і паламанай рамай на вуліцы каля купы будаўнічага друзу. Слухаючы пра Грамыку і даведаўшыся, што ён нядаўна ажаніўся, я ўсклікнуў: «Яму ж 93 гады!» — «Ну і што! Ажаніўся і павянчаўся! З першымі дзвюма жонкамі не вянчаўся, а з гэтай павянчаўся!» — усміхаючыся, сказала Ала Мікалаеўна.

Цяпер Ала Замай працуе над партрэтам Нобелеўскага лаўрэата Жарэса Алфёрава. Падпісваючы мне і Міхасю каталог са сваімі карцінамі, што выйшаў у 1997 годзе, мастачка

апавяла амаль пра ўсе работы, змешчаныя ў ім. Цяпер яна плануе выдаць невялікую кнігу пра сябе і адкрыць у Нацыянальным мастацкім музеі персанальную выставу. Працуе з натхненнем. Скардзілася, што калені баляць і падымацца да майстэрні без ліфта ёй нялёгка. І ўсё ж яна амаль штодня працуе. Мы абяцалі Але Мікалаеўне не забывацца на яе і завітаць папіць гарбату, ад якой мы сёння адмовіліся.

Прыходзіў зямляк Яўген Ігнатовіч. Неўзабаве яму будзе восемдзесят. На пяць хвілінаў апавёў пра Адама Мальдзіса і час, калі той працаваў у Радашковічах у раёнцы. Я слухаў і думаў, што спадар Яўген паўтарае тое, што я сам добра ведаю. І раптам ён пачаў развітвацца і, кажучы «Я прынёс жакі. Вялікдзень жа! Наша свята!», даў мне два велікодныя яйкі...



***5.05.2016***

Быў у Маладзечне. Удзельнічаў у навукова-краязнаўчай канферэнцыі «Летапісец нашай славы», якую супрацоўнікі Цэнтральнай раённай бібліятэкі прысвяцілі 95-годдзю з дня народзінаў Міколы Ермаловіча. Дарэчы, гэта ўжо дзясятая навукова-краязнаўчая канферэнцыя, арганізаваная і праведзеная Міхасём Казлоўскім.

З Мінска ехаў з Навумам Гальпяровічам і дзвюма Таццянамі. Адна была за стырном, а другая з дыктафонам. Усю дарогу размаўлялі, жартавалі і незаўважна хутка прыехалі ў Маладзечна. Нас сустрэў Міхась Казлоўскі. У актавай зале бібліятэкі ўжо было поўна людзей. Сярод іх — паэткі Людка Сільнова, Тамара Бярэзіна (унучка Пятра Бітэля), Лідзія Гардынец, краязнаўца Валеры Бурэнь і дачка Ермаловіча Алена Мікалаеўна. За хвілінаў дзесяць пасля нас пад’ехалі Вячаслаў Рагойша, Зміцер Санько і Уладзімір Мароз. Калі выступала настаўніца роднай мовы і літаратуры Маркаўскай СШ Кацярына Ермаковіч, я ўзгадаў Таццяну Сапач з Маркава. І яна магла б сёння тут быць сярод нас, але яна цяпер Там, дзе і Мікола Ермаловіч. На жаль, Там ужо болей маіх сяброў і знаёмых, чым тут. Учора было ўжо адзінаццаць гадоў, як не стала Анатоля Сыса. Пасля канферэнцыі мы ўсклалі кветкі да валуна, што ўсталяваны ў гонар Ермаловіча, а потым паехалі на могілкі, дзе спачывае Мікола Іванавіч з жонкай Лідзіяй Цімафееўнай. Стоячы каля магіл Ермаловічаў, адзін з нас сказаў: «Сённяшні дзень намі пражыты недарэмна!»

Максім, кажучы пра будучую службу ў памежных войсках, сказаў: «Трэба будзе паехаць у вайсковую краму і набыць заплечнік навабранца.— Крыху падумаўшы, запытаўся: — А форму купляць?» — «Ты яшчэ і аўтамат купіў бы!» — дадала з усмешкай Людміла.

***6.05.2016***

З Міхасём Дайлідавым ездзілі ў майстэрню Мікалая Цурыкава на Кірава, 2. Думалі, што мастак працуе ў адной з прывакзальных веж, а ён у гэтым доме, але ў звычайным паддашшы. Міхась збіраўся ў вежы пamaляваць выгляд з вокнаў, ды і я марыў паглядзець на горад з незвычайнага месца. Не атрымалася. Карціна, якую нам патрэбна было сфатаграфаваць для падручніка «Музыка. 1 клас», ужо нас чакала. Яна невялікага памеру, таму не давялося лазіць па лесвіцы і пераастаўляць мальберты і карціны з месца на месца. Міхась зрабіў колькі здымкаў і за пяць хвілінаў можна было ісці назад на працу, але я пачаў распытваць, што дзе намалявана. Мікалай Яфімавіч спакваля разгаварыўся і на маю просьбу паказаў графічныя работы. Колькі соцень. Пераважна яны цудоўныя! Мы пачалі казаць, каб мастак зрабіў выставу, а ён: «Што рабіць, калі ніхто нічога не купіць! У нас нікому нічога не трэба!» Шкада, што зробленае Мікалаем Цурыкавым бачаць толькі адзінкі. Няма раскруткі і няма мастака. Нашы вядомыя выстаўляюць з года ў год нейкі дзясятак-другі карцін, якія ўжо ўсім знаёмыя, а працы такіх творцаў, у якіх няма каму заняцца арганізацыяй іх выстаў, пыляцца ў майстэрнях...

Майстэрня мастака, як прыступка нябачнай лесвіцы ў неба...

Чалавек памірае двойчы. Першы раз, калі ён памірае, і другі раз, калі памірае апошні з тых, хто яго хаваў...

Вечаровы дождж, як воплескі сонцу, якое знікла за небакраем, як за кулісамі...

***7.05.2016***

Алесь Квяткоўскі паклікаў мяне ў майстэрню, каб паразмаўляць. Думаў, забягуся на пяць хвілінаў, а праседзеў амаль гадзіну. Алесь цешыцца, што ў ліпені са студэнтамі

паедзе на пленэр на Валожыншчыну. Ксёндз Уладыслаў Завальнюк дасць мікрааўтобус, каб дабрацца.

Не ўсе вароны чорныя. Не ўсе вароны аддаюць сыр лісіцы. І ты, як белая варона, ідзеш з крамы з торбай, у якой нічога няма, бо ты дома забыўся грошы...

Учора поле было зялёнае, а сёння жоўтае-жоўтае ад дзьмухаўцоў, якія закрасавалі. Іду па полі, як па сонцы...

З Людмілай былі каля Ратушы на Форуме вулічных тэатраў. Паглядзелі тры спектаклі ў выкананні «Віра», «Майстэрні ўражанняў» і «Teatra na walizkach» з Польшчы. Незаўважна праляцелі тры гадзіны. Блукаючы ў вулках Верхняга горада, я адчуваў сябе менчуком, а не мінчанінам. І ў Менску мы сустрэлі Аляксея Ляпіна, які прадаваў свае карціны. Ён запытаўся ў мяне: «Чаму ты пішаш вершы?» На пытанне я адказаў пытаннем: «А чаму ты пішаш?» — «Я, каб забіць час!» — «І я таксама, каб забіць час, які нас забівае!» — і мой адказ, відаць, задаволіў Аляксея, бо ён пачаў размаўляць з намі на іншую тэму. Польскіх артыстаў глядзелі разам з Марынай Сідаровіч. Бачылі здалёку Максіма Клімковіча. Болей нікога са знаёмых не сустрэлі, але беларускую мову раз-пораз чулі ад мінакоў. Крыху пасядзелі ў «Старамескім півавары». Тут я ўзгадаў Клайпеду і дзень народзінаў Людмілы, які мы святкавалі з Максімам у музычнай кавярні. Пакінуўшы ў Менску старамескіх півавараў, за пяць хвілінаў мы зноў былі ў Мінску каля станцыі метро «Няміга», дзе прыступкамі хадзілі галубы з вераб'ямі, якіх сёння не зацікавіў Форум вулічных тэатраў...

Дзьмухаўцы — гэта сланечнікі, якія не захацелі быць сланечнікамі. І ты бярэш касу і косіш іх гэтаксама, як Ясь касіў канюшыну...

Разумнаму лепей быць аднаму, а дурному пагатоў...

Мастак з лесвіцай, як з крыламі. Лесвіца, каб карціны вешаць...

Багоўкі спусціліся з неба. Цяпер ёсць у каго прасіць, каб злётаў на неба і прынёс хлеба...

Заўтра першы раз сёлета еду ў родную вёску. Хвалююся, нібыта буду здаваць іспыт, да якога рыхтаваўся, ходзячы па кавярнях...

Прыеду дадому. Зайду ў хату, а там... бацькі сядзяць ля тэлевізара і глядзяць трансляцыю святкавання Дня Перамогі. Але так ніколі ўжо не будзе. Няма бацькоў, няма тэлевізара. Ёсць толькі сядзіба і хата самотная, як буслянка на старым дрэве, якое спілуюць, як толькі не стане буслянкі або не прылятуць увесну буслы...

***9.05.2016***



Дзень пражыты без фэйсбука. Не памёр! На роднай сялібе скошаная трава і пасаджаныя грады.

***10.05.2016***

Учорашні дзень, пражыты не ў фэйсбуку, сёння ўзгадваецца, як свята. З Людмілай, сястрой Валяй і яе мужам Віцем ездзілі ў Пугачы. Дарогаю размаўлялі пра дзяцей, якія даўно ўжо самастойныя і нашыя ім парады, як жыць, успрымаюцца імі, як лішнія.

Абапал дарогі дадому ў лясах цвіце чаромха. Яна як дым, які затаіў дыханне і не скранаецца з месца...

Прыехалі да роднай сядзібы. Нас ужо чакаў дзядзька Толя з Татар, які прыгнаў каня, каб узараць агарод. Дзядзька ў свой час служыў памежнікам і, даведаўшыся, што наш Максім ідзе ў памежнікі, сказаў: «Я тры гады на мяжы з Афганістанам адбыў! Нялёгка было! Адслужыць!»

Людміла завяла насценны гадзіннік, які пабудзіў матылька і вялікага чмяля. Я адчыніў вакно, і яны паляцелі...

Валя з Людмілай рабілі грады. Насадзілі ўсяго, а што вырасце — увосень паглядзім. Падыходзіла суседка. Муж хварэе, і яна яшчэ не садзіла бульбу...

За нашым плотам каля калонкі, якая ўжо гадоў дзесяць цячэ, прарвала трубу, і цяпер вада б'е з-пад зямлі, нібыта крыніца. Вада цячэ ў наш агарод, падбіраецца да хаты, якая стаіць, як стары каўчэг, пакінуты назаўсёды нашымі бацькамі...

Красуюць яблыні. Значыць будуць яблыкі. Пчол вельмі мала. Магчыма, ім стае спраў з дзьмухаўцамі, якіх на палях, як зорак на небе...

Я касіў траву. Віця дапамагаў у агародзе і наладжваў бензапілу. На страху, дзе працякае, усцягнулі велізарны ліст шыферу. Суседка Зіна праз плот павіталася і паскардзілася, што нага баліць, якую, паслізнуўшыся на апошнім лёдзе, зламала.

Дзядзька Шура ў гуморы. Амаль ужо ўсё паароблена ў полі і на агародзе. У садзе спяваюць шпакі. Праз квецень іх не відаць.

Сёння свята Перамогі. У вёсцы ціха. Ветэранаў няма...

Дарогаю ў Мінск заехаліся да цёткі Марыі, якой наша Вераніка намалявала Ракаўскую царкву. «Цяпер, калі не змагу хадзіць, буду глядзець на карціну і маліцца!» — сказала цётка і запрасіла нас да гасціннага стала. Не паспелі сесці, як прыйшоў яе сын Ігар са сваімі ўнукамі (ён іх называе «крывінкамі»). Пачаліся размовы пра зямное нялёгкае і светлае роднае. Пагасцяваўшы з паўгадзіны ў цёткі Марыі, паехалі на Ракаўскія могілкі да бацькоў. Паклалі туліпаны, якія даўным-даўно пасаджаныя мамай, і сёння цвітуць. Мы з Людмілай думалі, што ўрэшце паедзем у Мінск і вернемся да часу, каб паспець схадзіць у царкву і перад Радаўніцай замовіць малітву за бацькоў, але Віця захацеў адведаць сына Сяргея і нявестку Святлану, якія якраз прыехалі ў Ракаў да маці, таму наша вандроўка займела добры працяг. Нас хацелі частаваць, але мы адмовіліся. Вольга, маці Святланы, павяла нас з Людмілай паказаць помнік, які стаіць на месцы спаленай немцамі сінагогі, дзе згарэла 950 габрэяў. Побач на агародзе працавалі суседзі. Мужчына гадоў сарака пяці падышоў да нас і прапанаваў з маім смартфонам пералезці агароджу і зрабіць здымкі помніка. Вольга адразу прадставіла нас яму, і ў адказ мы пачулі: «Я Мыкола! З Данецка! Ужо год жыву і працую ў Беларусі! У красавіку мне працягнулі яшчэ на год права на жыхарства! У вас добра! — Сфатаграфаваўшы помнік, Мыкола сказаў: — Я люблю фатаграфаваць!», а Людміла мне прашаптала: «Сімвалічная гісторыя атрымліваецца. Бежанец з Данецка, які ваюе, фатаграфуе беларусам помнік габрэям, спаленым немцамі...»

Дамоў вярнуліся а палове дзясятай. Стомленыя і задаволеныя. Дзень без фэйсбука — адзін з лепшых дзён сёлета. На вуліцы пачаўся салют, які нагадаў нам, што сёння Дзень Перамогі...

Выдаліўся з фэйсбука, як скончыў жыццё самагубствам...

***11.05.2016***

У выдавецкім кабінеце ў мяне за спінай вісіць карціна Міхася Будавея, на якой Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Цётка, Максім Гарэцкі, Эдуард Самуйлёнак, Міхась Зарэцкі, Кузьма Чорны і Пятро Глебка. «Вы ведаеце ўсіх?» — запытаўся драматург Анатоль Дзялендзік, паказваючы на карціну і аддаючы мне рукапіс сваёй новай кнігі «Иронические воспоминания, забавные записные книжки». «Я ўсіх ведаю, толькі яны мяне не ведаюць! — усміхнуўся я і дадаў: — Гэта не назва кнігі! Гэта жанр!» Дзялендзік ці то не пачуў, што я сказаў, ці то не захацеў абмяркоўваць маю заўвагу, бо прапанаваў мне зрабіць подпіс да карціны, каб можна было ведаць, хто на ёй намаляваны…



Дзесяць гадоў таму для кнігі пра Міколу Селешчука «Гучанне музыкі нябёсаў» (2007) я напісаў згадкі «Я жыву над акіянам…»:

«Ён ідзе вуліцаю роднай вёскі. Няспешна, як сонца над травамі. Яму няма куды спяшацца, бо Ён ведае, што паспее ўсюды, куды яму патрэбна…

…Мне было 17 гадоў. Вучыўся ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме. Жыў на кватэры і мне, зразумела, не заўсёды ставала грошай на пражыццё. Бацькі дапамагалі, але я шмат траціў на кнігі. І вось неяк гасцюючы ў свайго земляка літаратуразнаўца Яўгена Гарадніцкага і размаўляючы пра тое, што трэба было б мне дзе-небудзь крыху падзарабіць, Жэня, ведаючы, што я ўмею маляваць, прапанаваў завесці мяне да свайго сябра мастака Міколы Селешчука ў выдавецтва «Вышэйшая школа» і ўзяць паспрабаваць аздабляць кнігі. Я даў згоду, не разумеючы, што бяруся не за сваю справу. Ну які з мяне мастак! Ну вучылі мяне ў тэхнікуме маляваць, ну атрымаў я па малюнку пяцёрку, але гэта ніякіх дачыненняў да мастацтва не мела і не мае. І тым не меней, я пайшоў з Яўгенам у выдавецтва. Да ўсяго мне было цікава пазнаёміцца з Міколам Селешчуком, пра якога я шмат чуў ад свайго земляка. Ідучы да Селешчука, я захапіў колькі сваіх тэхнікумаўскіх прац, каб паказаць, што аловак я ўмею трымаць у руках. Мікола нас чакаў, бо Гарадніцкі, перад тым як весці мяне ў выдавецтва, усё пра мяне яму апавёў. Не ведаю, як Селяшчук ацаніў мае малюнкі, але пасля размовы

пра паэзію і пра маю валожынскую вёску Пугачы і сваю Пугачова пад Берасцем, ён даў мне на аздабленне частку нейкага (не памятаю ўжо якога) рукапісу. Беручы працу, я ўжо сумняваўся ў тым, што яе зраблю. Так яно і атрымалася. Недзе паўгода я і блізка не падыходзіў да выдавецтва, баючыся сустрэцца з Селешчуком. З мастаком не сустракаўся, а вось Яўген Гарадніцкі на пасяджэннях літаб'яднання ў газеце «Чырвоная змена», куды мы разам насілі вершы, штораз пытаўся: «Калі ты ўжо аддасі працу ў выдавецтва?» А я ўсё казаў, што працую і мне засталося зрабіць пару малюнкаў. Насамрэч я нічога не намаляваў і нават не браўся. У мяне перад вачыма стаялі работы Міколы Селешчука, і я разумеў, што, каб ён ухваліў маё аздабленне, трэба мне намаляваць хоць бы прыблізна так, як малюе ён. І якая ў мяне была радасць, калі ад Яўгена Гарадніцкага даведаўся, што Мікола Селяшчук у выдавецтве болей не працуе. Пасля авантуры з аздабленнем кнігі я колькі гадоў не хадзіў на выставы, бо баяўся, што сустрэнуся там з Міколам Селешчуком, а ён і скажа: «Дзе аздабленне кнігі? Дзе рукапіс? Гэта праз цябе мяне звольнілі з працы!»

Ён ідзе праспектам вялікага тлумнага горада. Ён задуменны, як Бог. І ў ягоных вачах святло таго, што было, што ёсць і што будзе...

Яўген Гарадніцкі пазнаёміў мяне і з мастаком Фэлікам Янушкевічам. А Фэлік, у сваю чаргу, запрасіўшы мяне на адкрыццё выставы сямі мастакоў «Жывапіс. Графіка. 1985», яшчэ раз пазнаёміў з Міколам Селешчуком. Не ведаю, ці памятаў мяне Мікола як свайго аўтара, але прыемна было даведацца, што ён ведае мяне як паэта. І наагул Мікола Селяшчук любіў паэзію і разумеў яе вельмі добра. І ўсе кнігі ў ягоным аздабленні выклікалі захапленне, бо яны ў ягоным мастацкім аздабленні самі былі як творы мастацтва. І сёння, працуючы ў выдавецтве, я адчуваю як нам не стае Міколы Селешчука з яго божым талентам кніжнага графіка. Колькі мы з ім маглі б выдаць цудоўных кніг! І, я думаю, ён бы не патрабаваў вялікага ганарару, бо разумеў, што найвялікшы ганарар для творчага чалавека — гэта людское разуменне яго творчасці. Прызнаюся, я марыў, што прыйдзе той час і Мікола Селяшчук аздобіць і мае вершы. Але, на жаль...

Ён ідзе па Беларусі. І Ён любіць гэтую зямлю, на якой нарадзіўся і якая жыве ў яго творах...

Увосень 1987 года пасля вучобы ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах пры Літаратурным інстытуце імя М. Горкага мяне ўзялі на працу ў часопіс «Беларусь» у аддзел культуры. І мне, як паэту, далі весці рубрыку «Наш вернісаж», дзе прадстаўлялася творчасць мастакоў. А іх у часопіс прыходзіла вельмі шмат. І мне даводзілася амаль пра ўсіх пісаць, і я пісаў з радасцю. Асабліва пра тых, з кім у мяне ўжо склаліся добрыя сяброўскія дачыненні:

«Увосень мінулага года ў зале Інстытута навуковатэхнічнай інфармацыі, пасля некаторай бюракратычнай валакіты, адбылася выстава «Жывапіс. Графіка. 88». У ёй удзельнічала кагорта маладых беларускіх мастакоў: Віктар Альшэўскі, Уладзімір Савіч, Мікола Селяшчук, Валерый Славук, Уладзімір Тоўсцік і Фелікс Янушкевіч. Адчувалася, што мастакі перараслі вылучаную ім выставачную залу і змушаныя былі адбіраць толькі самае лепшае з таго, што хацелі б паказаць, але, і нягледзячы на гэта, наведвальнікі атрымалі добрую магчымасць для знаёмства з мастакамі, якія даўно прыкметна вылучаюцца сярод сваіх калег...» — так пачыналіся мае нататкі ў часопісе «Беларусь» № 2 за 1989 год, дзе я знаёміў чытачоў з творчасцю Віктара Альшэўскага. Пасля гэтага я пісаў пра Фэліка Янушкевіча, потым пра Уладзіміра Савіча, пра Уладзіміра Тоўсціка... А пра Міколу Селешчука ўсё неяк не выпадала. А ён часта прыходзіў у рэдакцыю часопіса. Але не для таго, каб мы нешта пра яго напісалі, бо ў яго і без нас было каму апавесці людзям пра яго творчасць. Ён прыходзіў да намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Беларусь» Таісы Бондар, для якой аздабляў новую кнігу паэзіі, і мне часта даводзілася ўдзельнічаць у размовах. Размаўлялі пра літаратуру, чыталі вершы і не толькі свае, абмяркоўвалі выставы, дзяліліся творчымі планамі. Час ляцеў, і ў 1989 годзе ў цудоўным аздабленні Міколы Селешчука выйшла кніга Таісы Бондар «Адна». Якая тады была шчаслівая Таіса Мікалаеўна! І каб аддзячыць мастаку за сваю радасць, яна дала мне заданне зрабіць для часопіса вялікае інтэрв'ю з Міколам Селешчуком. Мікола не быў супраць. «Прыходзь заўтра пад вечар. Я жыву над акіянам... Знойдзеш,— сказаў і пайшоў. А я задумаўся: «Над якім акіянам? Ну ёсць у нас Мінскае мора...

А дзе акіян?» Потым Таіса Бондар мне патлумачыла, што над рыбнай крамай «Акіян» знаходзіцца майстэрня мастака...

Ён ідзе па белым свеце. І ноч свае зоркі кідае яму пад ногі. І дзень цалуе ягоныя вочы. І птушкі, як анёлы, лятуць услед за ім...

...І пайшоў я да Міколы Селешчука рабіць інтэрв'ю. У майстэрні ён быў не адзін, а дакладней, над акіянам былі ў адным памяшканні тры майстэрні. Мастакі абрадаваліся майму прыходу. Пачалі частаваць, а я, у сваю чаргу, чытаў ім свае вершы. Скончылася тым, што я ні вялікага, ні малога інтэрв'ю з Міколам не зрабіў. Назаўтра сказаў Таісе Бондар, што, на жаль, Селяшчук быў вельмі заняты і мы з ім дамовіліся сустрэцца сёння. Пасля працы я ізноў пайшоў да мастака. Гэтым разам у гасцях у Міколы была прыгожая-прыгожая дзяўчына. Яна і сёння стаіць у мяне перад вачыма. Такая светлая, як ранішняе сонца над акіянам, дзе распачаўся канец сезона туманаў. Пазней я даведаўся, што тая прыгажуня стала жонкай Міколы. Зразумела, што і гэтым разам я ніякага інтэрв'ю не зрабіў. Давялося ісці яшчэ і наступным днём. Прыйшоў, а ў Міколы ў майстэрні зноў дзяўчына, і ён яе малюе. І мы дамовіліся, што я проста напішу пра Міколаву творчасць што-небудзь паэтычнае, як раней пісаў пра яго сяброў. І я напісаў, і ў часопісе «Беларусь» № 8 за 1990 год з'явілася такая публікацыя:

«Ён ідзе вуліцаю сярод людзей, якім усё адно, хто на іх глядзіць: міліцыянер, Мастак ці сам Пан Бог. А Ён ідзе і ўглядаецца ў твары і бачыць мінулае, сённяшні дзень і будучыню. Ён — Мастак. Яму дадзена ад Бога бачыць тое, што мог убачыць толькі сам Пан Бог. Ён чуе галасы і д'ябла, і анёла. Мастак, як і Паэт, не можа не чуць іх галасы. Ён не можа быць глухім, а пагатоў — сляпым. Хто мае вушы — пачуе, хто мае вочы — пабачыць. А той, хто мае талент,— увекавечыць тое, што пачуе, што пабачыць. І Мастак увекавечвае, не думаючы, як і чым яму за гэта заплацяць. Самая прыстойная і вялікая плата — разуменне. Не, не прызнанне, а разуменне. Прызнаць могуць і халтуршчыка, які ўмее маляваць мёртвыя твары часовых герояў. Ён і сам будзе часовым героем, які яшчэ пры жыцці можа стаць мёртвым. Колькі іх сёння, мёртвых герояў,

сядзіць у кабінетах, на дачах! А Мастак, калі ён сапраўдны, не можа быць часовым героем. Ён або Мастак, або — ніхто...

...А вуліцаю ідзе Мастак. Ён углядаецца ў твары і бачыць тое, што мог бы ўбачыць сам Пан Бог. Ён — Мастак.

Сёння госць «Нашага вернісажу» мастак Мікола Селяшчук».

Разам са словамі пра мастака на каляровай уклейцы часопіса былі змешчаныя рэпрадукцыі ягоных карцін: «Хвіліна маўчання», «Вандроўнікі», «Занесеныя да яго», «Блукаючы з раніцы», «На лецішчы Уладзіміра Антонавіча». Пасля выйсця часопіса ў свет пры сустрэчы Мікола Селяшчук вельмі шчыра і цёпла дзякаваў мне за публікацыю і хваліў мой тэкст...



Ён ідзе вуліцаю роднай вёскі... Ён ідзе праспектам вялікага тлумнага горада... Ён ідзе па Беларусі... Ён ідзе па белым свеце... Ён ідзе...

Смерць Міколы Селешчука мяне вельмі ўразіла. І я за колькі месяцаў (14—15.12.1996) напісаў верш, прысвечаны яго памяці:

*З прыгожай і роднай самотнай краіны*
*Паехаць да мора і там — патануць...*

*Праз дождж па дарогах, дзе плачуць рабіны,*
*Самотныя людзі самоту вязуць.*

*І дрэвы губляюць апошняе лісце,*
*І следам лятуць за машынай вятры,*
*І ты ўжо не можаш спыніць іх і выйсці,*
*Каб з лесам, каб з рэчкаю пагаварыць.*

*Ты едзеш не ў хату, ты едзеш пад крыж,*
*Дзе вечнасць чакае цябе на пагосце,*
*Таму так балюча і шчыра маўчыш...*

*Зноў мора чужое далёкае сніцца,*
*Дзе чорныя хвалі, як чорны пажар.*
*І раптам на бераг*
*вады бліскавіца,*
*І падае неба —*
*пад хвалямі*
*хмар...*

*І ціха ізноўку, і светла, бы ў Храме,*
*І свечкі, як зоркі ў сусвеце, гараць.*
*І маці страчае...*
*І што скажаш маме,*
*І што тут Айчыне сказаць?..*

***12.05.2016***

Тэатр оперы і балета. Лебядзіная Свіслач...

Амаль усе, хто наведвае мяне на працы, падыходзяць да вакна і, гледзячы з дзявятага паверха на горад, кажуць: «Прыгожа...» Я не пярэчу. Аднак тое, што я бачу з вакна, не заўсёды радуе мяне. Мне прыемна, што мае наведвальнікі бачаць прыгажосць...

Смерць бацькоў для мяне спакваля ператвараецца ў іх новае жыццё. Далёкае і вечнае, як сонца...

Кожны па-свойму бачыць час, у якім жыве. Ды і час у нас розны, як жытло, у якім жывем і паміраем...

***13.05.2016***

Крый божа, на старасці гадоў стаць літаратурным крытыкам...

Неперспектыўная вёска. Ты ідзеш вуліцаю, дзе сто гадоў таму рос лес. Ты ідзеш вуліцаю, на якой праз сто гадоў будзе вялікі лес...

Прыйшла вясна. А паэта ўдома няма. Сорак дзён мінула...

***14.05.2016***

У нашым двары ходзіць велізарны кот. Спадзяюся, што гэта не Бегемот Булгакава...

З Людмілай прысутнічаў на занятках Школы маладога пісьменніка. На сямнаццаць студэнтак быў толькі адзін студэнт. Гэтая акалічнасць нагадала філфак і той час, калі там навучалася Людміла. Пазнаёміўся з Інгай-Лінай Ліндквіст са Швецыі. З прыемнасцю паслухаў яе лекцыю пра кіраванне ў творы часам і майстэрства кампазіцыі. Думаю,

што некаторым нашым ужо немаладым празаікам варта было прайсці падобную школу. Было б карысна. Пасля лекцыі Алена Казлова, Наталля Паваляева, Людміла і я звадзілі Інгу-Ліну Ліндквіст і яе мужа ў касцёл Найсвяцейшай Тройцы (Святога Роха) на Залатой Горцы. Людміла апавяляла гісторыю Храма і могілак, на частцы якіх цяпер стаяць будынкі. Ідучы праспектам да пляца Якуба Коласа, муж Інгі-Ліны Ліндквіст дзівіўся са сталінскіх зорак на дамах, якія па вайне пабудаваныя палоннымі немцамі. І хоць мы з Людмілай амаль цэлы дзень правялі сярод людзей, але так і не зменшылі пякучасць будучай серады, калі нашага Максіма забіраюць у войска...



***15.05.2016***

У двары заквітнелі кусты бэзу. Ніхто не ламае. А я наламаў. Цяпер букет стаіць у кватэры. Была б мама жывая, яна б сказала: «Хораша...» Мамы няма. Ёсць букет. І мамін партрэт на сцяне побач з бацькавым...

***17.05.2016***

Заўтра Максім ідзе ў войска. Зрабілі невялікія праводзіны. Пакуль чакалі ягоных сяброў, сын сам сябе падстрыг «пад нуль». Заўтра з самага ранку трэба быць у ваенкамаце. Пойдзем праводзіць. У сённяшняй «Звяздзе» напісана, што першымі — амаль 1200 прызыўнікоў — армейскія шэрагі папоўняць прадстаўнікі сіл спецыяльных аперацый, Ваеннай камендатуры Узброеных Сіл і органаў дзяржаўнай бяспекі краіны. Наш Максім будзе памежнікам...

***18.05.2016***

Да другой гадзіны ночы Максім развітваўся з сябрамі. Удзень схадзіў да бабулі Галі. Я а палове шостай з Міёнай абтрос расу з дзьмухаўцоў, якіх у нас на Мухлі нарасло цэлае жоўтае мора, якое пачало бялець. На хаду перакусіўшы, Людміла, Вераніка і я пайшлі з Максімам да ваенкамата. Былі там а палове восьмай. У двары ўжо стаяла шмат народу. А восьмай прызыўнікоў паклікалі ў будынак. За колькі хвілінаў выйшла жанчына і запыталася, ці ёсць сярод нас Ляляўскі і Шыбека. Няма. Праляцела яшчэ хвілінаў пяць. Жанчына з ваенкамата зноў папыталася, ці з’явіліся адсутныя. Няма. І яшчэ за хвілінаў пяць прыйшлі Ляляўскі і Шыбека. Адзін з пляшкай вады. Другі без нічога. У астатніх (усіх было

48 чалавек) ранцы прызыўнікоў, а ў некаторых вялікія торбы, з якімі звычайна людзі ездзяць адпачываць. Колькі чалавек не пастрыгліся. Хутка з ваенкамата выйшаў падпалкоўнік, а следам за ім хлопцы. Прысутным дазволілі развітацца з прызыўнікамі, якіх адразу пашыхтавалі, пералічылі і далі каманду ісці ў аўтобус. Хлопцы зайшлі, і следам за імі зачыніліся дзверы. Жанчыны і дзяўчаты заплакалі. Яшчэ за хвілінаў пяць аўтобус павёз нашых хлопцаў у абласны ваенкамат, што на Ангарскай вуліцы. Людміла пайшла дахаты, Вераніка на працу, а я на журфак прымаць дзяржаўныя іспыты. За гадзіну Людміла патэлефанавала і паведаміла, што Максім тэлефанаваў, яго і яшчэ дваццаць два будучых памежнікаў толькі ўвечары павязуць у Пінск, дзе іх чакае вучэбка. Пасля экзаменаў быў у філармоніі на вечарыне памяці Уладзіміра Мулявіна. На імпрэзе выступілі Аляксандр Ціхановіч, Анатоль Кашапараў, Аляксандар Саладуха, Алег Молчан і іншыя вядомыя артысты, якія ведалі Уладзіміра Мулявіна. Святлана Пенкіна была ў добрым настроі. Пасля Мулявіна я паехаў у «Кніжную шафу» на ўручэнне «Блакітнага Свіна». З’явілася чалавек трыццаць сяброў суполкі «Літаратурнага прадмесця». Паводле вынікаў галасавання званне лаўрэата літаратурнай антыгламурнай прэміі «Блакітны Свін — 2016» атрымаў Яраш Малішэўскі — за цікавыя праекты, праведзеныя цягам году, цудоўныя песні, папулярызацыю беларускай паэзіі, беларускай гісторыі і беларускай музыкі. А званне ганаровага лаўрэата літаратурнай антыгламурнай прэміі «Блакітны Свін — 2016» атрымаў да 10-годдзя творчай дзейнасці Паэтычны тэатр «АРТ. С» — за адданасць беларушчыне, крэатыўнасць, шматгадовую папулярызацыю беларускай літаратуры, здольнасць аб’ядноўваць таленты і абуджаць сэрцы. Да канца імпрэзы я не дабыў, бо трэба было пайсці дахаты, каб выгуляць Міёну перад тым, як да нас з імпрэзы прыйдуць госці з Амерыкі — Ірына Конанава з сынам Міхасём. Яны былі на ўручэнні «Блакітнага Свіна». Міхась крыху валодае рускай мовай, а беларускую зусім не разумее. І ўсё ж хлопцу было вельмі цікава ў кнігарні сярод пісьменнікаў. У нас Ірына з сынам прабылі болей за тры гадзіны. Наразмаўляліся. Людміла ўсё хацела патэлефанаваць Максіму, але я папрасіў яе не турбаваць сына, які сам паведаміць навіны пра сябе, калі яны ў яго з’явяцца. Перад «Блакітным Свінам» тэлефанаваў Максіму, думаючы падвезці яму ежу,

бо ён пайшоў з дому амаль нічога не ўзяўшы. Сын папрасіў не ехаць, бо ўсе прызыўнікі пад канвоем, які нікога да іх не падпускае...

***19.05.2016***

А палове дзявятай раніцы патэлефанаваў Максім і паведаміў, што ён у Пінску ў вучэбцы і ўжо ў цяльняшцы і ў берэце памежніка...

Міхась Казлоўскі паведаміў, што памёр Алег Аблажэй. У аздабленні Алега ў 1992 годзе ў «Мастацкай літаратуры» выйшла кніга Людмілы Рублеўскай «Замак месячнага сяйва». На жаль, мы былі знаёмыя толькі праз творы і ўжо ў гэтым свеце асабіста не пазнаёмімся ніколі...



***20.05.2016***

Тэлефанавала Людміла Крушынская. Яе папрасіла звязацца са мной Святлана Пенкіна, каб яшчэ раз падзякаваць за ўдзел у імпрэзе, прысвечанай памяці Уладзіміра Мулявіна і прапанаваць мне быць сябрам клуба Мулявіна. Без ваганняў даў згоду. Цяпер мяне будуць запрашаць на ўсе мерапрыемствы, звязаныя з Песняром. Думаю, што ў маім выступе Святлане Аляксандраўне спадабаліся гэтыя словы: «Калі мне бывае кепска, я знаходжу ў сеціве песні Мулявіна і некаторыя, як «Малітва», слухаю ў паўторы разоў дзесяць, а то і болей. З кожным праслухоўваннем, у мяне аднаўляецца добры настрой. Слухаючы песні Мулявіна, хочацца жыць!»

Тыдзень таму пачаўся твор:

*У напісаных вершах, нібы ў павуціне,*
*Як матыль адзінокі, трапеча душа*
*Паўстагоддзя таму закапанага ў гліне*
*Маладога паэта, што жыў без граша*
*На віно і на хлеб, але сытым і п’яным*
*Быў заўсёды паэт, бо любілі яго*
*За самоту...*

Далей не стаў пісаць, бо згубіўся паэтычны настрой і я адчуў, што ў гэтым вершы не падымаюся вышэй і вышэй у неба, а сыходжу з неба ў траву, па якой ужо тапталіся паэты...

P.S. Аляксандр Быкаў, прачытаўшы ў фэйсбуку мой недапісаны верш, прапанаваў яго завяршыць радкамі: «... На віно і на хлеб, але сытым і п'яным. Быў заўсёды паэт, бо любілі яго за самоту душы, за зямныя заганы. Як і ў гліне, намешана ў ім усяго».

Апошнія тры дні пра Пінск, у якім цяпер у вучэбцы памежнікаў наш Максім, мы з Людмілай размаўляем, як ніколі часта. Раней гэты горад для нас амаль не існаваў. Праўда, у 1999 годзе, калі ў Пінску праходзіў Дзень беларускага пісьменства, мы там былі колькі гадзінаў. Найболей запомнілася, як нас паэт Анатоль Шушко вадзіў да Піны і мы доўга з драўлянага пірса глядзелі ў празрыстую ваду, дзе плавала шмат драбнюткай рыбы. Цяпер ведаю, што ад Мінска да Пінска 305 кіламетраў, якія можна праехаць аўтобусам за чатыры з паловай гадзіны. Нашаму Максіму яшчэ служыць 544 дні, з якіх чатыры месяцы ён будзе ў Пінску...

Каля гатэля «Юбілейны» які ўжо дзень у фантане плаваюць качкі. Гледзячы на іх, усміхнуўся: «Эмігранты са Свіслачы...»

***21.05.2016***

Патэлефанаваў Максім з Пінска. Праз чужы тэлефон, бо ягоны з фотакамерай (нельга такім карыстацца) забралі. Сёння ён днявальны. Казаў, што ў яго ўсё добра. За два месяцы адправяць на два з паловай месяцы ў іншую вучэбку, што ў Смаргоні. Спадзяецца стаць кінолагам...

Не кожны парасон перажыве навальніцу...

Бясконцасць вады...

Сярод скошанай травы дзьмухавец, як адзінокі воін, што застаўся жывым...

У межах сусветнай Ночы музеяў ажыццявіўся сумесны праект VELVET.by і Літаратурнага музея Петруся Броўкі «Чытаем сваё». У афішы было пазначана: «Найлепшыя беларускія выдаўцы будуць чытаць найлепшыя беларускія тэксты...» Вядоўца імпрэзы Ганна Севярынец мне першаму

дала слова. Я коратка сказаў пра «Мастацкую літаратуру» і прачытаў верш Уладзіміра Караткевіча «Беларуская песня». Амаль столькі часу, як і я, заняў выступ Аляксандра Пашкевіча, які прадстаўляў «Arche» і паэзію свайго земляка Ніла Гілевіча. Супрацоўнікі «Рэгістра» вельмі прафесійна і цікава прарэкламавалі свае беларускамоўныя кнігі, а іх выдадзена імі пакуль толькі дзве. Выдавец з Гародні ў сваім няспешным выступе паведаміў, што паэт Алесь Чобат цяпер жыве ў Скідзелі і ён зусім страціў зрок. Прарэкламаваўшы кнігу «Саветы 1939» і кнігу сваёй прабабулі, якая ўпершыню выйшла болей за сто гадоў таму, выдавец падзяліўся радасцю: «Сёння майму сыну споўнілася дзевятнаццаць гадоў. Ён вучыцца на філфаку і піша вершы. Хачу, каб ён выступіў». Худы, доўгавалосы, у акулярах хлопец падышоў да мікрафона і пачаў: «Она лежала передо мной...» У вершы не было ні рытму, ні рыфмаў, ні сэнсу. Я паспеў занатаваць яшчэ два радкі: «Что мне делать?» і «Как ты посмела!». Пасля філфакаўца з хуткасцю і шчырасцю сонечнага промня, які, вызірнуўшы на імгненне праз хмары, нагадвае ўсяму жывому, што сонца не патухла, з сапраўднай паэзіяй прысутных пазнаёміла Марына Шыбко з «Лімарыуса». А завяршыў імпрэзу Зміцер Санько з «Тэхналогіі» вершам Янкі Купалы «Прарок». Дамоў вяртаўся, як з цікавага спектакля, у якім і ў мяне была свая роля...

Ідучы ў Музей Петруся Броўкі каля сцяны Ратушы пабачыў Аляксея Ляпіна, які прадаваў карціны. Танна. Па дзвесце тысяч. За паўтары гадзіны, вяртаючыся з імпрэзы, падышоў да Аляксея. Ніхто нічога не набыў. «І не падыходзяць нават. Стараюцца прайсці міма, нібыта мяне тут і няма»,— усміхаючыся, сказаў Аляксей і пацікавіўся, якая карціна мне падабаецца найболей. Я паказаў на маленькі чорны караблік, які ў каляровай вечнасці не згубіўся, а спакойна і ўпэўнена плыве, хоць і не ведае куды...

***22.05.2016***

Сын служыць у войску пяты дзень. «І мне хочацца...» — кажу сам сабе, не ведаючы, што такое войска, бо не служыў. Узгадалася, як бацька ўжо моцна хворы ў свае 80 гадоў часам казаў: «Я і сёння пайшоў бы служыць! Там усё распісана наперад. Слухай каманды і выконвай, і не будзе ніякіх праблем...»

Канапу, на якой гадоў пятнаццаць спаў Максім і якую мы даўно збіраліся замяніць на новую, я ўчора разабраў і вынес з кватэры. За мной увесь час назірала і бегала Міёна. Яна, відаць, не разумее, што ў хаце адбываецца, таму і глядзіць нам у вочы з адным пытаннем: «Чаму Максіма дома няма?»

Людміла хадзіла ў краму і там захацела паглядзець па мабільным, колькі часу яна мае. Паглядзела і пабачыла, што нехта тэлефанаваў з незнаёмага нумара. Падумала, што Максім з войска. Набрала нумар. Высветлілася, што гэта з вучэбкі памежнікаў, дзе наш сын. Афіцэр адразу запытаўся: «Ваш Максім ішоў у войска з радасцю, ці жыццё прымусіла?» Людміла ўсё патлумачыла, і афіцэр застаўся задаволены адказам. Ад вайскоўца даведалася, што наш Максім у іх вучэбцы вышэй за ўсіх паводле паказнікаў і ён абавязкова будзе сяржантам. Потым афіцэр пацікавіўся, ці не будзем мы супраць, калі Максіму яны прапануюць службу па кантракце. «Мы не супраць. Галоўнае, як сам Максім. Ён жа не хлопчык васямнаццацігадовы». Словам, адбылося знаёмства Людмілы з начальствам Максіма...



***23.05.2016***

Да 22 чэрвеня будзе расці дзень, а там зноў пакоціцца з гары ажно да 22 снежня. І я вяртацца буду з працы ў цямрэчы і, падыходзячы да дому, глядзець, ці гарыць святло ў пакоі Максіма. Калі гарыць, то ён дома і наша Міёна выгуляная. Цяпер да снежня 2017 года можна не глядзець на вакно, бо Максім у войску, а Міёна адна нас чакае дома і пры святле, і без святла...

***24.05.2016***

Ляжу на скошанай траве. Непадалёку бацька на купіне курыць. Нам няма куды спяшацца. Дзялка скошаная, а да заходу сонца яшчэ далёка. Па мне поўзаюць рудыя мурашкі. Адна ўкусіла за нагу. Балюча. Укушанае месца пачынаю чухаць і, пабачыўшы кроў, думаю: «Пабачыла б мама, накрычала б, каб так болей не рабіў». Але мамы побач няма. Няма і бацькі, і я ляжу на зялёнай канапе, як на скошанай траве. І мне няма куды спяшацца. У мяне баліць горла, і мне трэба паправіцца. Наперадзе выходныя і я, магчыма, паеду касіць траву каля роднай хаты, дзе, відаць, насценны гадзіннік,

заведзены два тыдні таму, спыніўся. І ў хаце ціха-ціха, як у закінутым вуллі, што стаяў каля дзялкі, калі мы з бацькам былі касцамі...

Сусед, сустрэўшы мяне каля пад'езда з Міёнай, запытаўся: «А чаму сын не выгульвае аўчарку?» — «Ён ужо сёмы дзень як у войску».— адказваю. «Дык што яму ўжо васямнаццаць гадоў?» — «Першага траўня споўнілася дваццаць тры...» — «А майму ўнуку шаснаццаць. Неўзабаве ў войска...»

На могілках помнікі стаяць, як людзі ў чарзе акамянелай да Бога...



Камень у двары, як чарапаха, якая перапаўзае з аднаго склепа пад домам у другі. Некалі перапаўзе, калі паспее да канца свету...

Крыху прыхварэў. І цяпер мне няёмка, што сяджу дома, а ў выдавецтве калегі працуюць. Не хочацца, каб нехта з іх падумаў, што я ўдаваў з сябе хворага. Хутчэй за ўсё ніхто так і не падумае. Нехта і не заўважыць, што мяне не было пару дзён на працоўным месцы. За час маёй адсутнасці выдавецтва не спыніць працу над кнігамі, але мне ўсё адно няёмка, што я хварэю, калі ўсе працуюць...

У двары загула газонакасілка, як бензапіла. Вызірнуў з гаўбца, каб пераканацца, што гэта газонакасілка, бо непадалёку ў скверыку, дзе былі лютэранскія могілкі, спілавалі з дзясятак дрэў і цяпер там пракладаюць дарогу, што будзе ісці паралельна праспекту Дзяржынскага...

Прыгажосці не бывае шмат...

У вечаровых аблоках пасуцца авечкі з майго маленства...

***25.05.2016***

Раніца. Вялікае кроністае дрэва перад вакном, як зялёны туман, за якім не відаць суседняга дома і толькі маленькія лапікі неба свецяцца, як блакітныя зоры. А можа, дома і няма, і я праспаў цэлую вечнасць, калі лісцё на дрэвах ператварылася ў зялёны туман, які затапіў белы свет і наступіла эра зялёнага патопу...

У мінулую сераду наш Максім пайшоў у войска. Тыдзень праляцеў, як адзін дзень, але гэты дзень быў найдаўжэйшы ў нашым жыцці. Мы ўжо крыху прызвычаіліся, што Максім служыць. Міёна сумуе: ляжыць на падлозе і глядзіць так, нібыта яна вінаватая, што нашага сына няма дома...

Міёна ходзіць з пакоя ў пакой. Я хаджу за ёю, бо ведаю, што яна шукае Максіма...

***26.05.2016***

У Музеі Міхаіла Савіцкага галоўнае кіраўніцтва Міністэрства ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкама праводзіла конкурс мастацкага чытання вершаў «У Вечного огня». Я прысутнічаў у якасці старшыні журы. Вяла мерапрыемства маёр — высокая сімпатычная дзяўчына. Чытальнікаў было каля трыццаці чалавек. Першая выступоўца прадставіла верш Веры Вярбы. І наагул на беларускай мове было сем твораў. На добрым узроўні ў выкананні дзяўчыны ў пагонах прагучала «Беларуская песня» Уладзіміра Караткевіча. Чытаючы вершы пра вайну і пра маці, колькі чалавек заплакалі на сцэне, а ў зале ўвесь час сёй-той выціраў слёзы. Я падараваў сваю кніжку Марыі (прозвішча не запомніў) з Завадскога раёна, якая хораша прамаўляла і чытала верш на беларускай мове некага з маладых паэтаў (на жаль, праслухаў імя). Мерапрыемства цягнулася паўтары гадзіны. За гэты час крыху забыўся на сваю прастуду, але вершаў сваіх не пачытаў, бо зусім ахрыплы.

У небе ўсім месца хопіць...

Падчас хваробы ёсць магчымасць падумаць і пра сябе...

***27.05.2016***

Дзесяць дзён як Максім пайшоў служыць у памежныя войскі. На маладым галінастым клёне, які пад вакном, па-мойму, гэтулькі лісця, колькі да дзембеля нашаму сыну...

І толькі цяпер, калі сын служыць у трохстах кіламетрах ад роднага дома ў войску, уяўляю, і то не цалкам, што думала і чым жыла мая мама, калі мой брат Валодзя быў ракетчыкам

у Казачых лагерах Растоўскай вобласці. Ды і мяне акурат у той час не было дома — вучыўся ў Маскве...

Раніцай сонца, як віно, якое забрадзіла...

***28.05.2016***

Сённяшні Дзень памежніка з 18 траўня і для нашага Максіма стаў святам. Пра гэта мне нагадаў пры сустрэчы Алесь Квяткоўскі, да якога я на паўгадзіны зайшоў у майстэрню. Мы размаўлялі, а ў гэты час на падваконні расчыненага вакна сядзеў голуб і, слухаючы нас, разглядаў Алесевы карціны...



Белыя дзьмухаўцы, як ліхтарыкі, якія перагарэлі...

Тэлефанаваў Максім. У яго ўсё добра. Сёння на Дзень памежніка іх выводзілі ў горад. Пахваліўся, што ён бегае хутчэй за ўсіх. З чэрвеня ім выдадуць баявую зброю. Будуць вучыцца страляць. Пасля Пінска Максіма адправяць у Смаргонь у вучэбку кінолагаў на паўгода. Яго там ужо чакае аўчарка Тайга.

У сваім блогу Глеб Лабадзенка напісаў: «На Валянціну Быкаву (сястру Васіля Быкава) здзейснены напад, яна ў рэанімацыі. Патэлефанавала яе суседка, апавяла жах, у які цяжка паверыць. Учора зранку Валянціна Уладзіміраўна пачула нейкі шум у бакоўцы, выйшла паглядзець, у гэты момант атрымала моцны ўдар. Стала крычаць, нападнік пачаў заціскаць ёй рот. У выніку зламаў колькі рабрынаў і руку. Яна здолела выклікаць хуткую, цяпер у рэанімацыі Вушацкай лякарні. У яе ўжо былі следчыя, міліцыя і кіраўніцтва райвыканкама. Удар быў ззаду, таму яна не пабачыла і не запомніла нападніка. Як сказала суседка, з хаты нічога не знікла — нападніка нешта спужала, і ён уцёк. Іншых падрабязнасцяў суседка не паведаміла. Заўтра яна ідзе пераведваць Валянціну Уладзіміраўну, тады занясе ёй тэлефон і будзе магчымасць з ёй пагутарыць. У ліпені Валянціне Уладзіміраўне споўніцца 90 гадоў».

***29.05.2016***

Сніліся родныя мясціны. Каля мяне сабралася шмат родных і аднавяскоўцаў. Усе задаюць пытанні. Слухаю, а

потым кажу: «На гэтыя пытанні адказы ў маіх кніжках, якія маеце. Калі вы іх не чыталі, то давайце мне і я іх спалю!»

Астролагі прадказваюць будучыню, а Бог слухае і ўсміхаецца...

Лічу дні, колькі наш Максім праслужыў у памежніках. Сёння пайшоў дванаццаты дзень. І раптам узгадваю, што гэтаксама лічыў дні, калі Максім нарадзіўся...

Багоўка на крыжы, як кропля крыві Хрыста...

Аднакурснікі Максіма цяпер дзяржаўныя іспыты здаюць і рыхтуюцца да абароны дыпломаў...

На Мухлі ў кронах дрэў поўна маладых птушак, як у галовах маладых людзей маладых жаданняў...

***30.05.2016***

Вяртаюся з працы. Навокал пачатак лета. Усе вясёлыя і шчаслівыя. Мо і не ўсе, але мне здаецца, што ўсе. У галаве гучыць голас незнаёмага хлопца, які ўзяўся перакладаць «Сымона-музыку» на рускую мову. Сёе-тое пераклаў. Аддаў паўгода таму ў Музей Якуба Коласа і па сённяшні дзень ніякага адказу. Я папрасіў хлопца зачытаць хоць бы старонку. Сымон у перакладчыка стаў Симонам. І адразу ўзгадалася папсовая песня: «Симона — девушка моей мечты, Симона — королева красоты. Она прекрасна, как морской рассвет. На целом побережье лучше девушки нет, нет, нет. Ее картины просто блеск. Она богиня среди повес...» Каб паспець зрабіць пераклад «Сымона-музыкі» да 2018 года, хлопец гатоў кінуць працу. Паслухаўшы старонку тэксту, параіў не кідаць працу і займацца перакладам у вольны час. Высветлілася, што мой суразмоўца так не можа, бо пасля працы на чыгунцы ён ледзьве жывы. Дамовіліся, што ўсё ж хлопец і далей будзе зарабляць грошы на пражыццё не перакладамі, але і перакладаць не кіне, калі не можа кінуць...

І вось я стаю на прыпынку. Чакаю аўтобус, думаю пра перакладніка «Сымона-музыкі», і раптам мне на вуха нехта шэпча: «Кінь усё! У цябе ёсць сабака. Едзь у вёску. Там у цябе

ёсць хата і зямля. Купіш каня і будзеш да пенсіі каўбоем, як твой бацька!»

***31.05.2016***

На выгуле ў высокай траве Міёна знайшла варанятка. Пачала гаўкаць. Адразу закаркалі і закружлялі вароны. Думаў, што мая аўчарка загубіць птушку, а яна яе толькі лізнула...

На зялёным торце каштана белыя свечкі, затушаныя ветрам...



Які ўжо вечар амаль апоўначы выходжу на Мухлю з Міёнай. Сям-там гараць ліхтары, і я штораз хачу ў іх святле пабачыць вожыка, які б перад намі перапаўзаў сцяжыну. Помніцца, мне было гадоў чатырнаццаць. Лета. З мамай апоўначы вярталіся дахаты. Свеціць поўня. І раптам бачу, як вуліцу перапаўзае вожык. Я злавіў яго. Мама дазволіла прынесці дахаты. Цэлую ноч вожык тупацеў па пакоях. Раніцай я выпусціў яго на волю, хоць брат з сястрой былі супраць. З тых дзіцячых часоў у мяне па сённяшні дзень ёсць яшчэ адно жаданне — пабачыць НЛА...

На мінулым тыдні Алена Малочка прапанавала павіншаваць Святлану Алексіевіч з днём народзінаў праз газету. Я напісаў верш:

*Святлане Аляксандраўне*
*на дзень народзінаў для нобелеўскай усмешкі!*

Спаць клаўшыся позна, прачнуўшыся рана,
Граждан усё думаў: «Ну як там Святлана?»
І некалькі год, хоць даўно не гуляка,
Начыма не спаў, слухаў шведаў Сабака.
Чакалі падзею, цяплілі надзею,
Каб потым гуляць не адну ўжо нядзелю,
Каб потым сварыцца і тут жа мірыцца,
А самае-самае, каб — ганарыцца.
І дзень надышоў, і было людзям Свята —
Назвалі ў Стакгольме імя лаўрэата.
І душы напоўніла Свята й нірвана:
«Святлана! Святлана!! Святлана!!! Святлана!!!!»

І з печы зваліўся Граждан, заявіў:
«Я нашу Святлану пісаць навучыў!»
І ўміг, закасаўшы старыя штаны,
Пабеглі адзін прад адным Гражданы,
Каб першымі ручку Яе цалаваць,
Каб сфоткацца разам, а потым сказаць:
«Я з Ёю сябрую ўжо сотню гадоў!»
І толькі Сабака ў Палац не пайшоў.
Ён кніжкі Святланы ўсе перачытаў,
І лёг спаць спакойна, і сто год праспаў,
А потым прачнуўся і, як закаханы,
Пайшоў па праспекце вялікім Святланы
У кніжную краму, каб кніжку набыць
Святланы, і жыць...



## *Чэрвень*

***1.06.2016***

Максім... Пятнаццаць дзён... Не пятнаццаць содняў...

Тапалёвы пух... Таполі, як птушкі...

Колькі дзён таму даведаўся, што найлепшы сябра нашага Максіма Валера — сын роднай сястры Вольгі Зубовіч. А Вольга Зубовіч у свой час была апошнім натхненнем паэта Сяргея Новіка-Пеюна (27.08.1906—26.08.1994). У мяне ёсць зацемка «Сяргей Новік-Пяюн і нож у сэрцы», напісаная 31 ліпеня 2009 года: «Апошніх пяць гадоў жыцця Сяргея Міхайлавіча мы былі суседзямі. Ён жыў на вуліцы Купрыянава ў доме № 9, на другім паверсе ў аднапакаёвай кватэры, палову якой займалі скрынкі, напоўненыя рукапісамі, выразкамі, малюнкамі дзяцей, што прыходзілі да яго. А да яго хадзілі многія. Ён любіў гасцей. І ягоная кватэра была своеасаблівым культурным цэнтрам, дзе часта сустракалася беларуская інтэлігенцыя і радавалася, што Беларусь стала незалежнай краінай. А як сам радаваўся Сяргей Міхайлавіч! І колькі разоў мне давялося слухаць знакамітыя «Зорачкі» ў аўтарскім выкананні! І цяпер, часам гуляючы вуліцай Купрыянава, спыняюся каля дома Новіка-Пеюна і ўспамінаю тыя часы,

калі мы сябравалі. А помніцца вельмі шмат, бо не было тыдня, каб я з жонкай не заходзіўся да яго. Сёння чамусьці ўзгадаўся званок Сяргея Міхайлавіча: «Тэрмінова хадзіце да мяне! Ратуйце! Мне загналі нож проста ў сэрца!» Пачуўшы такое, я кінуў тэлефонную слухаўку і, на хаду апранаючыся, пабег да паэта. Дзверы былі не замкнёныя. Забягаю ў кватэру. У вітальні крыві няма. Зазіраю ў пакой. Чыста, а гаспадар ляжыць на ложку і праз слёзы ў вачах глядзіць на мяне. Я пытаюся: «Міліцыю выклікалі?», а Сяргей Міхайлавіч, сумна ўздыхаючы, адказвае: «Ніякая міліцыя, ніякія дактары мне ўжо не дапамогуць!» — «А дзе нож?» — пытаюся, аглядаючы паэта. Па нейкім часе, супакоіўшыся, Сяргей Міхайлавіч апавёў мне, што дзяўчына, якая ўжо гадоў пятнаццаць прыходзіць яго даглядаць, для якой ён піша вершы і наагул жыве, колькі месяцаў назад выйшла замуж і пра гэта ён сёння даведаўся. І я ўсё зразумеў... Цяпер у Вольгі Зубовіч шасцёра дзяцей. Старэйшай 22 гады, а малодшай 4. А Сяргею Новіку-Пеюну 27 жніўня спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння...

***2.06.2016***

Калі даглядаў нямоглага бацьку, раніцай уставаў а палове шостай. Ішоў і ў снег, і ў дождж да бацькі на кватэру, каб потым ехаць на працу. Тады бывала сам сабе задаваў пытанне: «За што мне такое выпрабаванне?» І, прыходзячы да бацькі, цешыўся, што ён яшчэ жывы, і ўсё, што хацеў выказаць родным, заставалася ўва мне. Апошні тыдзень Міёна мяне будзіць а палове пятай і просіцца на выгул. І я з хаты выходжу а пятай гадзіне раніцы. Узгадваючы свой ранні шпацыр да бацькі, думаю пра тое, што Бог мне паслаў разам з аўчаркай паўторнае выпрабаванне, якое павінны годна прайсці, таму і, паспаўшы толькі тры-чатыры гадзіны, без скаргаў на свой лёс іду на вуліцу...

Вечар. На азярыне, што на Мухлі, тапалёвы пух, як туман...

З самага дзяцінства ўсё жыццё нас нечым страшаць. Напачатку бацькі, сваякі, суседзі, настаўнікі, начальнікі, а там і тэлевізар, і радыё, і газеты. Цябе страшаць, і ты баішся, што захварэеш, цябе выганяць з вучобы, страціш працу, абра-

буюць, згвалтуюць і наагул заб'юць. Нехта прызвычайваецца жыць у страху, а нехта сам страшыць. Не жыццё, а суцэльны страх. І ты бярэш навушнікі і слухаеш са смартфона музыку. Табе кажуць, што ты наўзабаве аглухнеш. Але ты не рэагуеш на папярэджанне, бо ты слухаеш музыку, якая не страшыць цябе, бо яна створаная тым, каго страшылі, а ён не баяўся і слухаў музыку, якую чуў толькі ён і ў шуме дажджу, і ў завірусе, і ў цішыні...

***3.06.2016***

Рукапісы, як пясок, засыпаюць кабінеты рэдактараў...

Калі ўжо надыдзе час, што па Свіслачы паплывуць параходы? Калі Няміга вызваліцца з трубы, як з палону, і змые з сябе камяніцы шкляныя... Не! Не трэба, каб па Свіслачы плавалі параходы! Няхай праплыве човен, у якім Ты будзеш сядзець пад белым парасонам, як пад ветразем, і буду я стаяць на беразе каля царквы і глядзець Табе маладой услед, як услед таго, што ніколі ўжо не паўторыцца...

Жыву ўспамінамі пра бацькоў, пра дзядоў, пра землякоў жывых і памерлых. Жыву няспешна, як у палоне, які ў свой час зведаў мой дзед і які, уцёкшы на волю, ішоў амаль год да роднай хаты. Я не ў палоне. Але мне хочацца ўцячы з гэтых дзён, дзе няма ні маіх дзядоў, ні бацькоў, у свет, дзе жывуць родныя. А жывуць яны ў маіх успамінах. Я ж не хачу быць нечым успамінам, таму я жыву, таму я люблю гэтае жыццё, дзе можна ўспамінаць тых, каго ўжо няма...

У гэтыя чэрвеньскія дні мама палола б грады, а мы, дзеці, дапамагалі б ёй. Грады ёсць каля роднай хаты. Мамы няма...

Непадалёк ад Храма на Нямізе бабулькі прадаюць васількі, якія, як ненапісаныя вершы Багдановіча...

***4.06.2016***

Раніца. Пачатак шостай гадзіны. Міёна з кустоў выгнала нейкую п'яную пару. Яны сыходзілі моўчкі, Міёна брахала і нядобра глядзела ўслед, а я ўсміхаўся...

З сястрой Валяй і яе мужам Віцем ездзілі ў Пугачы. Усю нашу дарогу неба перад намі зацягвалася хмарамі. І ўсё ж дождж прайшоў паўз нашую вёску, дзе ўжо амаль месяц сухмень. Вакол хаты нарасло травы. Мне з Віцем было амаль на пяць гадзінаў касьбы. Валя палола грады. Зямля сухая, як порах. Не ўсё абышло. Дзядзька Шура сказаў, што такой сухменнай вясны даўным-даўно не было...

У хаце на падлозе ляжала колькі мёртвых велізарных чмялёў. Не дачакаліся волі...

У садзе хадзіла рудая суседчына курыца. Пабачыўшы мяне, спалохалася і ўцякла. З усмешкай узгадаўся Андрусь Горват і ягоная суседка, якая дала яму малітву ад суроку курэй.

Вакол платоў нарасло крапівы. Прыгожая і пякучая...

Сёлета нарасце шмат яблыкаў. Зноў будзе бяда — не будзе каму іх збіраць...

Каля нашага плота на вуліцы ўжо другі месяц прарваная водаправодная труба. Вада цячэ ў наш сад. Месяц таму я пракапаў канаву, і каля хаты болей-меней суха. Трэба будзе зноў тэлефанаваць у Валожын, каб ехалі і рамантавалі...

У траве скачуць жабы. Розныя, як з калекцыі Аксаны Спрынчан...

Патэлефанаваў Максім. У яго ўсё добра. Чакае нас на прысягу, пасля якой ён будзе ў вучэбцы ў Смаргоні.

Урэшце даведаўся, як ходзяць у Пугачы з Мінска маршруткі — на аўтобусным прыпынку вывесілі расклад.

Вяртаючыся ў горад, заехалі на Ракаўскія могілкі да бацькоў. У кустах сярод старых магіл хадзіў вялікі руды кот...

***6.06.2016***

Патэлефанавала дачка Уладзіміра Анісковіча і паведаміла, што памёр бацька. 25 кастрычніка Уладзіміру Ігнатавічу было б 84 гады. Нарадзіўся ён у вёсцы Гасцілавічы на Лагойшчыне. Да сканчэння журфака адзінаццаць гадоў працаваў кіроўцам тралейбуса. Апошнім ягоным месцам працы было выдавецтва «Юнацтва», дзе спадар Уладзімір стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі за складанне казак народаў СССР. Аніськовіч добра валодаў балгарскай мовай, і шмат з яе перакладаў, і быў на перакладніцкай ніве адным з галоўных (паводле ягоных словаў) канкурэнтаў у свайго земляка Ніла Гілевіча. Апрача перакладаў выдаў кнігу «Легенды і міфы

Старажытнай Грэцыі», дзе сярод іншага ёсць досыць поўны пераказ прозай па-беларуску гамераўскіх «Іліяды» (пад назвай «Троя») і «Адысеі». Я з Уладзімірам Анісковічам пазнаёміўся на пачатку 90-х у Доме творчасці «Іслач». Мы штодня з ім хадзілі ракаўскімі лясамі. Я збіраў дзецям ягады, а Уладзімір Ігнатавіч вязаў венікі на лазню, якую вельмі любіў. З ім было цікава паразмаўляць. Ён быў шчыры і часам наіўны, як хлапчук. Нягледзячы на тое што Анісковіч паводле ўзросту быў мне як бацька, аднак ён са мной кантактаваў, як з аднагодкам. Нават раіўся, ці варта яму другі раз жаніцца, і я сказаў, калі кахаеце адно аднаго, то чаму б і не. На жаль, пасля «Іслачы» мы сустракаліся ўсё радзей і радзей, і цяпер тут, на гэтым свеце, ужо ніколі разам не парадуемся жыццю...



***7.06.2016***

Бацька, седзячы дома, глядзеў у вакно, а я — у сеціва...

***8.06.2016***

У панядзелак хадзіў у Свята-Петра-Паўлаўскую царкву і замовіў на просьбу супрацоўнікаў выдавецтва на сёння святара, які б асвяціў нашыя працоўныя кабінеты. У Храме прапанавалі айца Андрэя. Сёння ён прыйшоў у выдавецтва а дванаццатай гадзіне. Мы сабраліся ў кабінеце дырэктара. Памаліліся разам, а потым айцец Андрэй асвяціў працоўныя месцы. У «Народнай асвеце» таксама ўсе захацелі, каб і ў іх кабінеты былі асвечаныя. Айцец Андрэй з радасцю падняўся і да нашых суседзяў.

Засесці ў ліфце, як костка ў горле...

***9.06.2016***

Васількі ў жыце. Жыта ў васільках...

У сеціве з'явілася інфармацыя: «Раніцай 7 чэрвеня авечкі апанавалі вуліцы іспанскага горада Уэска. Авечкі не мусілі заходзіць у горад — яны ішлі на пашу — але іх пастух заснуў, і статак выправіўся на самастойны шпацыр. Каля пятай гадзіны раніцы ў паліцыю звярнуліся занепакоеныя жыхары горада. Патрульным удалося сабраць усю чараду з 1300 авечак і да сёмай гадзіны вывесці іх да пастуха». Адразу ж узгадаліся гусі, якія выратавалі Рым...

*10.06.2016*

Учора ўвечары Міёну аддалі на чатыры дні ў сабачы гатэль, бо збіраемся ехаць у Пінск да Максіма на прысягу. Чакаючы гаспадыню гатэля Анастасію Санько, пабойваўся, што Міёна не палезе ў машыну да чужых людзей і будзе брахаць на ўвесь двор. Аднак яна адразу пачала лашчыцца да Анастасіі, а потым і да яе спадарожніка. Развітаўшыся з Міёнай, пачуў: «Яна маладая, і вы будзеце сумаваць па ёй болей, чым яна». Трапіўшы ў салон машыны, Міёна пачала круціць галовой, шукаючы дзе ж я падзеўся...

Як толькі раз у сотні гадоў у полі зроку нашай Зямлі пралятаюць некаторыя галактыкі, у якіх, магчыма, існуе жыццё, так і душы творцаў раз у сотні гадоў наведваюць самыя жывучыя творы, якія можна напісаць толькі тады, калі ты заўсёдна ўглядаешся ў неба сваёй душы...

Людміла пастрыгла мяне. Накідка, якой затуляла ад стрыжаных валасоў, яшчэ ўсё пахне бацькам, якога я апошні раз у жыцці стрыг на пачатку лістапада 2012 года, а таксама пахне сынам, які стрыгся нядаўна, калі збіраўся ў войска...

Заўтра як небакрай. Да заўтра ніхто і ніколі не дажыў, і мы не дажывем...

Нечакана ў сеціве знайшоў інфармацыю пра свайго стрыечнага брата Алега, які доўгі час працаваў пажарнікам у нашых Пугачах. Да сённяшняга дня ён быў для мяне проста пажарнікам, а цяпер — ветэран «Минского областного отделения БОО “Спасатель”». На сайце «Спасателя» напісана: «Шнип Олег Анатольевич прапорщик внутренней службы родился 23 августа 1968 года в д. Татары Воложинского района Минской области. Служил в Вооруженных Силах с 30.10.1986 по 02.10.1988. В органах МВД, МЧС служил с 18.12.1995 по 01.09.2013. В 1985 году окончил Раковскую среднюю школу. Командир отделения пожарного аварийно-спасательного поста № 14 д. Пугачи Воложинского районного отдела по чрезвычайным ситуациям учреждения «Минское областное управление МЧС». Неоднократно принимал участие в тушении пожаров и ликвидации аварий техногенного и

природного характера. Проявил высокий профессионализм и организаторские способности при тушении пожаров в сельской местности. Специалист 1 класса». Словам, вось такія мы Шніпы!

З Людмілай быў у Музеі Петруся Броўкі на выпускной вечарыне Школы маладога пісьменніка. Выпускнікі і выпускніцы апавядалі пра страчанае і набытае ў Школе, а выкладніцы і кураторкі пра свой досвед працы з чацвертым наборам ШМП. Ідучы ў музей, баяўся, ці змагу спакойна да канца даслухаць дваццаць апавяданняў. Даслухаў усіх, бо вечарына, дзякуючы вядучым Дар'і Кулік, Кастусю Касяку і самім выпускнікам, склалася ў цікавы спектакль. У галоўнай ролі быў Пятрусь Броўка, які з партрэтаў, што развешаныя на сценах, з зайздрасцю глядзеў на сучасную творчую моладзь. Не хачу пакрыўдзіць тых, хто піша па-руску, але беларускія творы былі болей змястоўныя і прэзентавалі сваіх аўтараў ярчэй і сур'ёзней. Слухаючы выступоўцаў, глядзеў на іх абутак. Бальшыня была ў чорным і на невысокіх абцасах. Адна выступала ў лабутэнах, пра якія спявае гурт «Ленінград». Дамоў вяртаўся з навязлівай песняй пра лабутэны ў галаве і верай у тое, што некаторыя празаікі з цяперашняй моладзі не будуць гультаявацца і здолеюць напісаць творы, якімі будуць захапляцца і ў нашай краіне, і ў свеце.



***11.06.2016***

Дзякуючы сябру нашай Веранікі Паўлу, мы ўсёй сям'ёй машынаю з'ездзілі ў Пінск да Максіма на прысягу. Было сонечна. На плошчы сабралася каля тысячы бацькоў, сваякоў і сяброў маладых памежнікаў. Да аднаго хлопца з Салігорска прыехала ажно сорак чалавек. А палове дзясятай пад гукі марша зладжанымі шарэнгамі з аўтаматамі ў руках прыйшлі салдаты. Прысягу прымала 129 памежнікаў. Атрымалася прыгожа і вельмі кранальна. Некаторыя бацькі плакалі. Прысяга была на дзвюх мовах, але ўсе, каго мы чулі, прысягалі па-беларуску. Пасля ўрачыстасцяў памежнікі рушылі ў сваю частку здаваць зброю, а прыезджыя велізарным натоўпам пайшлі ўслед. Мы наведалі казарму і пазнаёміліся з некаторымі афіцэрамі ў іх кабінетах. Максім атрымаў дазвол на волю да дваццатай гадзіны вечара. Сынаву прысягу адзначылі ў рэстарацыі «Бона Сфорца». На пытанне: «Ці

ўсе хлопцы з ахвотай ішлі служыць?» — Максім з усмешкай адказаў: «Адзін толькі я!» Паводле вайсковага плана Максім павінен пасля вучэбак быць у Гомельскім атрадзе, але тут у Пінску нядаўна даведаліся, што ён мастак і, ацаніўшы ягоную працу, якую ён выканаў для часткі, афіцэры хочуць, каб застаўся ў іх. Максім жа імкнецца на паўгода ў Смаргонь, куды вышэйшым загадам ужо скіраваны з наступнага аўторка. Пасля рэстарацыі пагулялі па набярэжнай Піны, зайшлі ў касцёл і схадзілі ў кіно на «Варкрафт». Правялі Максіма да КПП, куды з усяго горада сыходзіліся маладыя памежнікі са сваімі гасцямі. Зноў былі пацалункі і слёзы.



***13.06.2016***

Дамоў вярнулася Міёна. Радасная, нібыта з космасу паспяхова прызямлілася...

***14.06.2016***

Ёсць людзі, якім і ў раі кепска будзе...

Хадзіў па кнігарні і думаў, што некаторыя кнігі, якія тут, ніколі не прачытаю, бо не куплю. Дарагія вельмі. І найгалоўнейшае — іх надта шмат. Аднак стае і кніг танных, якіх нават пад прымусам чытаць не буду. Кнігарня як пытанне і адказ...

***17.06.2016***

Сёння ўжо месяц, як наш Максім служыць у Пінскім памежным атрадзе. Яшчэ ў яго наперадзе 517 дзён. З іх два леты, дзве восені, адна зіма і адна вясна.

У кожнай пчалы ёсць любімая кветка. У кожнай кветкі ёсць любімая пчала. Няма кветак. Няма пчол. Няма любові. І ты ідзеш па шэрым полі, як па мёртвым...

Наляцеў вецер і паламаў дрэвы ў скверы. Раней тут былі могілкі...

Вецер калашмаціць дрэвы ў двары. Сцямнела. Усё бліжэй і бліжэй чуюцца грымоты. Неўзабаве пачнецца залева. У вёсцы ў такі час я чапляў галёшы на разеткі і ўсё часцей

паглядаў на кут, дзе вісіць ікона. Цяпер гляджу ў вакно і думаю пра родную хату ў вёсцы...

***18.06.2016***

Адкручваючы галаву сланечніку, Граждан думаў пра Ван Гога...

У чаканні дажджу ёсць і кропля боязі, што з дажджу можа пачацца новы патоп...

Тое, што ты не прачытаў ніводнага твора Міларада Павіча, Умберта Эка, Маркеса і не ведаеш нічога пра іх, яны ад гэтага горшымі не сталі і не стануць. Гэта тычыцца і лепшых беларускіх пісьменнікаў...

Калі не было чаго добрага друкаваць у часопісе, то і няма там чаго чытаць...

А другой гадзіне з Людмілай паехалі ў цэнтр горада, вычытаўшы ў сеціве, што сёння каля Ратушы будзе шмат цікавых мерапрыемстваў. Зайшлі ў царкву. Падалі цыдулку з замовай на абедню па родных. Пахадзілі па Верхнім горадзе ў пошуках абяцаных у абвестцы цікавостак. Нічога няма. На Інтэрнацыянальнай, 33 нядаўна адчынілася кавярня-клуб «Грай». Зайшлі паабедаць. Меню на беларускай мове і стравы нашыя. Паслухалі песні ў выкананні Лявона Вольскага і Юрыя Несцярэнкі. Праўда, было крыху халаднавата, але ў спёку тут будзе вельмі цудоўна паадпачываць. Вярнуліся да Ратушы. Якраз пачаўся выступ юных удзельнікаў творчай майстэрні эстраднага мастацтва «Хвілінка». Сабралася шмат людзей, але як толькі пачалася рускамоўная папса, слухачоў адразу паменела. Мы пайшлі да касцёла. Там акурат скончылася вянчанне. Сустрэлі казачніцу Наталлю Бучынскую, ад якой даведаліся, што вянчалася дачка яе сяброўкі Алена Хахель. Цяпер яна будзе Скуратовіч. У свой час Алена прыходзіла да мяне ў выдавецтва з вершамі. Людміла прапанавала наведаць Івана Міско, майстэрня якога паблізу з касцёлам. Скульптар быў на месцы. Цяпер ён стварае барэльеф трох касманаўтаў-беларусаў — Клімука, Кавалёнка і Навіцкага. Даведаўшыся, што наш Максім служыць у Пінску ў памежным атрадзе і там цэніцца, як мастак, Іван Акімавіч узгадаў пра

сваю службу ў войску. Гэта было ў 1952 годзе. З роднай вёскі Івана Міско ў ваенкамат выклікалі дзесяць чалавек. Аднак, прызнаўшы ўсіх годнымі да войска, хлопцам сказалі, што іх служыць сёлета не возьмуць. Усе пайшлі дамоў, а Міско заявіў, што не пойдзе, бо хоча служыць, бо калі некага не бяруць у войска, то гэта ганьба. І яго ўзялі. І ён у войску быў мастаком. Маляваў, маляваў і маляваў. А хлопцы, якія вярнуліся дадому, пачалі піць і за год паводле стану здароўя іх ужо не ўзялі служыць. Па нейкім часе палова з іх па-дурному сышла з жыцця, а потым і ўсе астатнія. «Не ведаю, як бы склалася маё далейшае жыццё, калі б і я тады вярнуўся з ваенкамата дадому...» — сумна сказаў Іван Акімавіч і апавёў пра падрыхтоўку да свайго юбілею. У лютым наступнага года Івану Міско будзе 85...



***19.06.2016***

Да адпачынку яшчэ далекавата, але ўжо раз-пораз мне чуецца шум мора і нагамі адчуваецца прахалода вады, што выкідвае на бераг бурштын, як кропелькі сонца, пад якім грэліся нашы далёкія-далёкія продкі...

Вакол азярыны на Мухлі штораніцу сядзяць рыбаловы. Яшчэ ні разу не бачыў, каб нехта нешта злавіў. І ўсё ж я з Міёнай праходжу каля іх асцярожна і падалей, бо, магчыма, нехта зловіць залатую рыбку і папросіць, каб мы тут болей не хадзілі...

Абсалютная бальшыня людзей ад паэта хоча канкрэтнасці і правільнасці ў вершах, якую яны могуць зразумець канкрэтна і правільна, а Паэзія гэта не канкрэтнасць. Таму Паэзію і разумеюць толькі тыя, хто можа думаць вобразамі і асацыяцыямі. У Паэзіі няма і не павінна быць канкрэтных і правільных кветак, дрэў, дамоў, рэчак, азёр, сцяжын, дарог, летаў, зімаў, дажджоў, снягоў... У Паэзіі ўсё сімвалічна...

***21.06.2016***

Сёння пахавалі паэта Ігара Канановіча, якому 22 ліпеня было б усяго толькі 33 гады:

*у дзень нараджэння Быкава*
*ты вырашыў паляцець*

*у свет дзе жыве Быкаў*
*паляцеў з даху*
*і ўпаў на асфальт*

Сёння мой уважлівы чытач і зямляк Яўген Ігнатовіч святкуе сваё 80-годдзе. На жаль, не змог да яго прыйсці ў госці і павіншаваць. Даруйце, спадар Яўген. Жывіце да 100, і мы яшчэ багата разоў сустрэнемся, каб парадавацца за нашу Віленшчыну, дзе шмат нарадзілася людзей, якія жылі для Беларусі.

На азярыне тапалёвы пух, як снег набрынялы вадой, які доўга растае пасля зімы...



***22.06.2016***

Шчасце — гэта калі не думаеш, што такое шчасце. Сказаўшы гэта, я нічога новага не сказаў. І новага нічога пра шчасце не скажаш, бо няшчасныя пра шчасце ўсё сказалі, што думалі...

***23.06.2016***

На трыццаць шосты дзень пасля таго, як Максім пайшоў у войска, суседка не вытрывала і запыталася: «А дзе ж гэта ваш хлапец знік?» — «У памежніках служыць!» — адказаў, і жанчына заўсміхалася: «Добры хлопец! Пры нагодзе яму перадавайце ад мяне паклон».

***24.06.2016***

Быў у Нацыянальным мастацкім музеі на адкрыцці выставы, прысвечанай незалежнасці Беларусі. Адначасова прэзентавалася кніга пра Мая Данцыга. Сабралася шмат народу, сярод якога былі народныя мастакі — Іван Міско і Георгій Паплаўскі. Іван Акімавіч, набыўшы кнігу (на новыя грошы каштуе 100 рублёў), папрасіў мяне сфатаграфаваць момант атрымання аўтографа і даў мне свой фотаапарат. У Данцыга не было асадкі, і я прапанаваў сваю. Май Вольфавіч адразу запытаўся: «Мы з вамі знаёмыя, ці мне здаецца?» — «Гадоў дзесяць таму мы разам удзельнічалі ў Ракаве на Ракаўскіх чытаннях і потым побач сядзелі за вячэрай»,— адказаў я і назваў сваё прозвішча. Данцыг заўсміхаўся: «Памятаю! Вы паэт. А я гляджу на вас і думаю: «Што гэта за нейкі хлопец

знаёмы?» Гадаю, а ўспомніць ніяк не магу». Май Вольфавіч увесь час сядзеў на крэсле, як на троне. І ён на сённяшняй выставе быў сапраўдным каралём Вялікай краіны мастацтва.

***25.06.2016***

Сёння ў Беларусі да 34-х градусаў цяпла. Дачакаліся лета! За пару дзён пачнем ныць, што вельмі горача, няма чым дыхаць і дажджу надта ж хочацца...

Вераніка з Пашам падалі заяву ў ЗАГС. Вяселле будзе 12 жніўня, і мы з Людай налета станем дзедам і бабуляй...

***26.06.2016***

Чытаю ў Вацлава Ластоўскага ва ўспамінах пра Максіма Багдановіча: «Склад рэдакцыі «Наша ніва» ў 1909 годзе быў гэткі: А. Уласаў, браты Іван і Антон Луцкевічы, Ядвігін Ш. (Лявіцкі), Янка Купала, В. Ластоўскі і, дарыўкамі,— Язэп Манькоўскі (Янка Окліч) ды Чыж (Альгерд Бульба), а на пачатку лета 1909 года прыбыў яшчэ С. Палуян. Гэты склад рэдакцыі ў 1909-м і 1910-м гадах рэзка распадаўся на дзве групы, каторыя былі дамэтна ахарактарызаваны свежа прыехаўшым з Кіева С. Палуянам «верхняй» і «ніжняй» палатамі. Да «верхняй» палаты належалі: А. Уласаў, браты Луцкевічы і, калі бывалі,— Чыж і Манькоўскі. «Ніжняя» палата складалася з Ядвігіна Ш., Купалы, Ластоўскага і Палуяна, а ў канцы 1909 года да яе далучыўся мастак-маляр Я. Драздовіч». З тых часоў мінула болей за сто гадоў і цяпер, калі б хто каго з мастакоў назваў мастаком-маляром, была б крыўда і злосць на ўсё жыццё. Праўда, сёння добры маляр болей запатрабаваны і цэніцца, чым мастак...

З Людмілай вярнуліся з праспекта Пераможцаў і з сеціва даведаліся, што на 87-м годзе жыцця памёр Расціслаў Янкоўскі. Колькі гадзінаў таму мы праходзілі паўз дом, дзе жыў артыст. Я нават паглядзеў на ягоны гаўбец, які быў адчынены, і хацеў сказаць Людміле, што там жыве Янкоўскі. Не сказаў. Так атрымалася, што мой першы фэйсбучны запіс быў з назовам «Янкоўскія і Ракіцкі» і ён быў датаваны 20 траўнем 2009 года: «Сёння раніцай памёр актор Алег Янкоўскі. Мне адразу ж узгадаўся ягоны старэйшы брат Расціслаў, які жыве ў доме, дзе размешчаная крама «Алеся». Колькі гадоў назад

я з мастаком Кастусём Ракіцкім хадзіў да Расціслава Іванавіча — рыхтавалі пра яго кнігу. Амаль тры гадзіны прапоўзалі па падлозе, абіраючы фотаздымкі для выдання. Магчыма, сваю працу мы б зрабілі хутчэй, але надта ўжо вялікая была пляшка каньяку. На кухні ўвесь час нешта пяклося, але нам нічога не перапала. Закусвалі яблыкамі. Расціслаў Іванавіч не піў — рыхтаваўся да складанай аперацыі. Казаў, што дыягназ вельмі кепскі. Аднак, відаць, аперацыя прайшла паспяхова, бо ён і сёння жывы. На жаль, колькі месяцаў таму памёр Кастусь Ракіцкі. Памёр нечакана для мяне і тых, хто яго бачыў за два дні да смерці на выдавецкіх калідорах. Ён ужо ў нас два гады як не працаваў і прыйшоў да нас, нібыта развітацца...»



Ідучы праспектам Пераможцаў, з Людмілай схадзілі ў Музей Вялікай Айчыннай вайны. Чакаў болей нечаканых уражанняў, але ўсё-ткі застаўся задаволены тым, што пабачыў. Побач з намі было колькі замежнікаў, якія дужа доўга разглядалі экспазіцыю партызанскага побыту. Потым мы зайшлі паабедаць у кавярню «На прывале», што пры музеі. Усё нядорага і прынеслі хутка. Праўда, было б цікавей есці, калі б меню было з назвамі страў: «Бульба, тоўчаная гранатай», «Апошняя партызанская буханка», «Гарбата, сабраная партызанкай Ганулькай», «Макарона па-партызанску», «Сала і каўбасы, смажаныя на штыках», «Булён, звараны ў касцы». Дамоў вярнуліся, як з партызанскага лесу, стомленыя, але задаволеныя спякотным днём, у якім у нас усё было добра.

Следам за Расціславам Янкоўскім памёр кампазітар Сяргей Картэс. Яму быў 81 год...

***28.06.2016***

Быў на Вайсковых могілках, дзе ўдзельнічаў ва ўшанаванні памяці Янкі Купалы, які 74 гады таму загінуў у Маскве.

Святар чытаў малітву, і мне на нейкае імгненне падалося, што яе чуе ўся Беларусь...

Пад нашымі нагамі поўзалі мурашы, і мы былі, як мурашы, каля помнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа...

Дрэвам вакол магіл нашых Песняроў увесну былі спілаваныя кроны, і яны цяпер стаяць, як вялікія трубы, упрыгожаныя маладзенькімі зялёнымі галінкамі. У трубы дзьмуць нябёсы, і гучыць музыка, якую чуюць толькі Купала і Колас...

Зрэдку непадалёку праходзілі людзі. Спыняліся, прыслухоўваліся і ішлі далей, як час, у якім мы жывем...

***29.06.2016***

Удзельнічаў у адкрыцці выставы жывапісу цудоўных маладых мастакоў Вольгі Шкарубы і Вадзіма Богдана, якое адбылося ў «Галерэі Мастацтва», што на праспекце Незалежнасці, 12. Карціны светлыя, цёплыя, гледзячы на якія хочацца пісаць вершы. І было радасна на душы, што ты з'яўляешся сведкам пачатку непаўторнага Шляху мастакоў, чыя творчасць будзе запатрабаваная ў недалёкім будучым. Перад адкрыццём выставы ў галерэю зайшоў мастак Алесь Суша з карцінай, якую ён здаў на продаж. Вітаючыся са мной, Алесь на мяне глядзеў так, нібыта казаў: «Мы з табой даўно знаёмыя, але, як цябе завуць, я не памятаю. Назавіся!» Я не назваўся, а толькі ўсміхнуўся, бо і я тут сустрэў нямала такіх, каго ведаю ў твар, але, як і Суша, не памятаю, як іх завуць, бо знаёміліся даўным-даўно. Пасля таго як адбылося адкрыццё выставы, да мяне з Людмілай падышоў мужчына і запытаўся: «Вы мяне пазнаяцё?» — «Бачу, што ваша постаць мне знаёмая, але як завуць вас, не магу сказаць»,— адказаў я і адразу даведаўся, што да нас падышоў былы галоўны доктар паліклінікі Саюза пісьменнікаў Аркадзь Паўлавіч Кірылаў. З Людмілай вярталіся дамоў, як з выспы, на якой сярод тлумнага горада, жыве мастацтва, якое дае надзею на тое, што ўсё будзе добра, бо не перасталі нараджацца таленты на нашай зямлі...

***30.06.2016***

Пад белым небам парасона твая рудая галава, як сонца...

Горача. Рэдкая муха далятае да дзявятага паверха, дзе я працую...

* * *

Глядзіш на свет самотнымі вачыма,
Бо гэты свет самотны, нібы крыж,
Якім пазначана твая Радзіма
На мапе ў Бога, прад якой стаіш.

І ты не згодны з Божаю высновай
І век не згодзішся, хоць ты памёр.
Апошняе сказаць ты просіш слова,
А Бог маўчыць, нібыта пракурор,
Як ты маўчаў, калі глумілі мову
На роднае зямлі, дзе добра жыў.
Цяпер гатоў жыццё пачаць нанова
І роднай мовай вечна даражыць.
Ды Бог глядзіць самотнымі вачыма
І на цябе, і свет, які як крыж,
Які далей і несці немагчыма
І кінуць нельга так, бо ты глядзіш...

**19.06.2016**



* * *

У адзіноце ад самоты плачаш,
Нібы хлапчук, які ўначы згубіў,
Што поўняю зрабіўся, жоўты мячык,
Які ты больш за ўсё ў жыцці любіў.
Не плач! Ніхто цяпер не любіць плачу.
Жыццё ў нататнік нельга запісаць,
Нібы на дошцы школьную задачу,
Каб потым цэлы век яе рашаць
І не рашыць, бо гэтую задачу
Прыдумаў Бог, каб мы з табой былі
Самотныя і каб маглі без плачу
Любіць свой край найлепшы на зямлі.
Не плач! Нікому не патрэбны слёзы,
Як не патрэбны пыл, які ляціць
І засыпае, нібы шкло, нябёсы,
З якіх на нас ніхто больш не глядзіць,
Бо што глядзець, калі ізноў ты плачаш,
Нібы хлапчук, які ўначы згубіў,
Што поўняю зрабіўся, жоўты мячык,
Які ён больш за ўсё ў жыцці любіў.

**21.06.2016**

## *Ліпень*

***1.07.2016***

Учора на 47-м годзе жыцця памерла Святлана Уладзіміраўна Маркава. Яна апошнія тры гады працавала ў «Мастацкай літаратуры» ў вытворчым аддзеле. З яе прыходам выдавецтва займела цудоўнага спецыяліста ў справе кнігавыдання. Яна была працавітай і адказнай, шчырай і добразычлівай. Я ніколі не забуду атрыманы ад яе падарунак на сёлетнія Каляды. Святлана Уладзіміраўна, даведаўшыся, што ў мяне няма для працы вялікага насценнага адрыўнога календара паводле месяцаў, сама яго зрабіла. Каляндар вельмі адметны — у ім усё па-беларуску, а месяц май названы траўнем. Нічога ў гэтым незвычайнага не было б, калі б каляндар не рабіла расіянка. Да сённяшняга дня я адрываў лісты ад календара, а цяпер не буду. Бывай, Святлана Уладзіміраўна!

***1.07.2016***

«Зараз вазьму бярабалку і як дам, што нават дзясятаму не давядзеш!» — часам казала мама, калі з кім-небудзь сварылася ў вёсцы. Нядаўна бярабалкай колькі разоў я палохаў нашу Міёну, калі яна не слухалася. Слова само па сабе ўсплыло з маёй памяці. Паглядзеў у слоўніках і там не знайшоў яго, а бярабалка — гэта важкая калаціна, якой праганяюць кепскіх людзей.

***2.07.2016***

Горача, як у Іспаніі, куды мы з Людмілай збіраліся, але не паехалі. І неба над намі, як мора, дзе ветразь маладзіка адзінока бялее. І я гляджу на яго, як Калумб, якому яшчэ далёка да адкрыцця Амерыкі...

З сястрой Валяй і ейнымі мужам Віцем і дачкой Надзяй ездзіў у Пугачы. Людміла паехала ў Пінск да Максіма. Сёння наш сын ужо сорак пяць дзён як памежнік...

Грады зараслі травой, дзякуючы якой нішто, што пасадзілі, не засохла. Валі і Надзі было работы на паўдня. Я касіў у садзе, а Віця ладзіў дарогу да нашай брамы. Урэшце вада з прарванай трубы, што каля нашай агароджы, не цячэ. Адрамантавалі пасля таго, як я патэлефанаваў у Валожын паэтцы Валянціне Гіруць-Русакевіч і папрасіў, каб яна там, дзе трэба,

сказала, што вада неўзабаве змые Шніпаву хату. На другі ж дзень прыехалі рамонтнікі. Ад дзядзькі Шуры даведаўся, што была перакрыта на паўдня дарога ў вёсцы. Адрамантавалі не толькі трубу, але і калонку, што непадалёку. Цяпер у нашым садзе каля хаты суха і жабы не скачуць.

Амаль паспелі чорныя і чырвоныя парэчкі і вішні. Паспрабаваў. Яшчэ кіславатыя. У траву нападала няспелага белага наліву. Амаль усё так, як было пры бацьках...

На градусніку ў цяні 34. І не патрэбны нам бераг турэцкі, і Афрыка нам не патрэбная...

Над вёскай праляцеў бусел, нібыта хацеў даведацца: хто тут працуе, а хто загарае.



***3.07.2016***

Птушкі, напалоханыя самалётамі з вайсковага парада, мітусіліся ў небе, як чорныя маланкі...

Учора, пабачыўшы жабу, якая загінула падчас касьбы ад майго трымера, падумаў, шкадуючы паскакуху: «Будзе дождж!» Узгадалася, як у дзяцінстве чуў ад дарослых, што, каб у сухмень пайшоў дождж, трэба забіць жабу. Ніколі не забіваў адумысна, а тут сама натрапіла ў траве. Сёння ўжо амаль тры гадзіны як ідзе дождж. А мне вельмі шкада жабоцьку...

Чым далей ад цябе дзеці, тым мацней адчуваеш, што ты іх любіш і што ты для іх таксама не проста родны чалавек. Нічога ў сказаным новага, але я гэта напісаў, бо адчуў...

Пад грымотнымі нябёсамі дождж збівае з дрэў жоўтую лістоту так, нібыта злуецца, што тут без яго амаль восень наступіла...

Калі ты не ідзеш да вады, вада сама рана ці позна прыходзіць да цябе. З неба. І вада затапляе гарадскія вуліцы, як лабірынты Мінатаўра, у якіх спыняюцца машыны. І машыны стаяць разгубленыя, як іхнія гаспадары. І вада напаўняе перасохлыя забытыя рэчышчы, нагадваючы нам, што даўнія старыя шляхі да мора яшчэ існуюць. І вада размывае дарогі і сцяжыны, на якіх даўно няма тваіх слядоў, бо ты сядзіш пры камп'ютары, як пры вакне ў прыдуманы свет. І дождж ідзе, як Вадзяная Арда, захопліваючы ўсё перад сабою. І ты выходзіш на гаўбец і глядзіш на ваду, як на свой час, які стаў вадой...

*4.07.2016*

Сёння а 8 раніцы на 90-м годзе жыцця памерла сястра Васіля Быкава Валянціна Уладзіміраўна.

Нашаму Максіму да дзембеля з памежных войск засталося 500 дзён. Людміла ўчора ездзіла да яго ў Пінск. У сына ўсё добра. Прызвычаіўся да службы.

У нядаўніх чарнавіках, як у прыску, знайшоў радкі:

*Зноў дзень карацее, як шлях да вады,*
*Якая святлом з берагоў выцякае*
*І свет затапляе ад сонца руды,*
*І ты ў гэтым свеце — пчала залатая,*
*Якая працуе — не проста ляціць,*
*Якую да скону кахаць і любіць,*
*Хоць дзень карацее, як шлях да вады,*
*Якая душу нам штоміг наталяе*
*У свеце самотным і не залатым,*
*Дзе толькі пчала, як і ты, залатая...*

*5.07.2016*

Па абедзе да мяне ў кабінет зайшоў усхваляваны, нібыта толькі што ў нас у выдавецкім калідоры здарылася нешта страшнае, кандыдат навук і, размахваючы 12-м томам Уладзіміра Караткевіча, абвесціў: «Вы парушылі план выхаду Збору твораў Караткевіча ў 25-х тамах! Творы, запланаваныя ў два тамы, вы выдаяцё ў трох, а гэта значыць, што будзе не 25, а 26 тамоў! У мяне ў кніжнай шафе на 26-ты том Караткевіча няма месца. У мяне ўсё палічана!» Ад такой прэтэнзіі я на нейкі момант разгубіўся, але потым, усміхаючыся, сказаў: «Калі ў вас у шафе ёсць мая кніга, дык выкіньце яе і будзе вам месца для Караткевіча!» І адразу кандыдат навук супакоіўся і задумаўся...

*6.07.2016*

Учора на 69-м годзе жыцця адышоў у іншы свет цудоўны чалавек Міхась Шавыркін. Колькі гадоў пасля амаль дваццацігадовага рэдактарства ў «Родным слове» ён працаваў у «Мастацкай літаратуры». Нярэдка яму даводзілася рыхтаваць да друку няпростыя рукапісы, з якімі ён заўсёды даваў рады. Працуючы сярод творчых людзей, Міхась Мікалаевіч

сам натхніўся і напісаў колькі вельмі патрэбных кніжак пра нашых класікаў для дзяцей. З ім было добра. Шмат разоў я з Міхасём Мікалаевічам бываў у вандроўках. Часта ў аўтобусах сядзелі побач. Гаманілі, жартавалі, спявалі. Апошні раз мы бачыліся 28 чэрвеня падчас Жальбін па Янку Купалу на Вайсковых могілках. Было дужа горача. Міхась Мікалаевіч прыйшоў, калі ўжо ля помніка Песняру выступалі пісьменнікі. Раней, па-мойму, ён ніколі не спазняўся да пачатку мерапрыемства. Стаяў сярод моладзі. Сумны, як на пахаванні. Калі ўсе выступілі, я падышоў да Шавыркіна. Павіталіся і адразу развіталіся, бо мне трэ было вяртацца на працу. Сёння, узгадваючы Міхася Мікалаевіча, са шкадобай падумалася: «Яшчэ аднаго шчырага і адданага беларушчыне чалавека не стала. Гэтак, глядзіш, яшчэ праляціць гадоў дзесяць і не будзе каму, наведваючы магілы і аддаючы даніну павагі нашым класікам, сказаць палымяныя словы пра іх жыццё і творчасць». У «ЛіМе» за 9 лістапада 2012 года ў рубрыцы «У падтрымку чытання» Міхась Шавыркін напісаў: «Для душы чытаю, канечне, паэзію. Прозу часта не будзеш чытаць і перачытваць. Скажам, эпапею Мележа двойчы прачытаў — у школе і ў студэнцкія гады. А зборнічак вершаў узяў у любы момант — і пагартаў, і знайшоў для душы нешта сугучнае. Па веравызнанні я — прыродацэнтрыст, таму вельмі падабаецца адчуць паэзію ў прыродзе — і пабачыць, як гэта выяўлена ў слове». Так, Міхась Шавыркін любіў паэзію, і ён сам душой быў паэтам.

Тэлефанаваў Максім. Павіншаваў маму з днём народзінаў. Цяпер ён на заставе на стажыроўцы. Быў у начным дазоры да пятай гадзіны раніцы. У лесе, казаў, холадна, а так усё добра. Словам, спадары, спіце спакойна — вас Максім Шніп ахоўвае!

***7.07.2016***

Аддаў Міёну наператрымку да 27 ліпеня, бо 10 з Людмілай едзем адпачываць у Палангу. Малая ў машыну не хацела лезці, пакуль я не сеў. Калі выйшаў, Міёна сумна-сумна паглядзела праз шкло мне ў вочы, нібы запытался: «А ты мяне назад забярэш?»

Апошні раз з Міхасём Шавыркіным размаўляў 28 чэрвеня ў дзень Жальбін па Янку Купалу на Вайсковых могілках.

У дзень Жальбін па Якубу Коласу (13.08.2014) апошні раз бачыў Уладзіміра Содаля. Чамусьці падумалася, што, памёршы, Шавыркін пайшоў да Купалы, а Содаль да Коласа...

***8.07.2016***

Дзякуючы Музею Якуба Коласа, пабываў на «Прыстаньцы», дзе 9 ліпеня 1906 года прайшоў 1-шы нелегальны з'езд настаўнікаў. Адзін з выступоўцаў пажартаваў, што сёння адбываецца другі нельгальны з'езд.



***9.07.2016***

Едзем заўтра на чатырнаццаць дзён у Палангу. Напачатку збіраліся на тры тыдні па Еўропе. Па два дні ў Амстэрдаме, Лондане, Парыжы і яшчэ ў некалькіх гарадах і тыдзень у Іспаніі на моры. Палічылі, колькі на гэта трэба грошай і пачалі шукаць таннейшы маршрут на два тыдні. Знайшлі і нават замовілі, але давялося адмаўляцца — Вераніка з Паўлам падалі заяву ў ЗАГС, і вяселле прызначанае на 12 жніўня. Едзем у Палангу, дзе мы ўжо былі і дзе можна проста адпачываць ад працы і тлуму мінскага...

**ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ПЕРШЫ**

***10.07.2016***

А палове трэцяй прачнуўся, каб збірацца ў дарогу, а Людміла пасля мяне за хвілінаў пятнаццаць. Выклікалі таксоўку. На вуліцы халаднавата. Дожджык дробны. Збор на пляцы Якуба Коласа. Даехалі хутка. Вандроўнікаў у Палангу сабралася шмат. Некаторыя з малымі дзецьмі. У гмаху, што быў за нашымі спінамі, на гаўбцы стаяла падпітая дзеўка з мужыком і раз-пораз, махаючы рукамі, таненькім галаском крычала: «Пуцешэственнікі! Ура! Я вас всех люблю! Ура!» Некаторыя з нас, чуючы дзеўку, паварочваліся і ўсміхнуўшыся, працягвалі далей чакаць аўтобус. Прыйшоў двухпавярховы. Нашыя месцы на другім паверсе — 39—40. А чацвертай гадзіне выехалі з пляца Якуба Коласа.

За горадам туман, як увосень. Пасвяцца каровы. Ходзяць буслы. Красуе бульба. Куды ні зірну, бачу бацькоў...

Рамонкі на полі, як снег пажаўцелы…

А сёмай хвіліне на восьмую гадзіну прыехалі на мытню «Катлоўка». Нашыя памежнікі папрасілі ўсіх выйсці з рэчамі на пашпартны кантроль. Утварылася вялікая чарга. Потым яшчэ нас у аўтобусе колькі разоў пералічвалі, як авечак. Ніхто не згубіўся. Літоўцы правяралі адбіткі пальцаў. Іх цікавіў указальны левай рукі. Зноў стаялі ў доўгай чарзе…

Прыгарад Вільні. Гаражы. Дзясяткі. І ўсе ржавыя…

У Палангу прыехалі а 14 гадзіне. Сустрэлі на прыпынку літоўца Віктара, у якога мы жылі тры гады таму. Даведаліся, што ў іх адчуваецца наш фінансавы крызіс. Адпачывальнікаў стала меней. Неўзабаве па нас прыехаў сын гаспадыні вілы на Смілчу, 34, дзе мы будзем жыць. Даехалі за колькі хвілінаў. Да цэнтра ісці метраў дзвесце, да мора яшчэ бліжэй. Нас сустрэлі гаспадыня Далія і яе нявестка Ева. Еве за сорак гадоў. Мае дачушку трохгадовую. Маладыя жывуць у Вільні, а тут улетку дапамагаюць старэйшым. Віла трохпавярховая. Наш сёмы нумар на другім паверсе. Невялікі, але ўтульны. Дасталі з валіз рэчы, перакусілі і пайшлі да мора. Вецер халаднаваты. Басанож па вадзе скіравалі да пірса. Шукаў бурштын, а знайшоў мёртвую багоўку. Дайшлі за хвілінаў дзесяць. Пасядзелі з усімі на лаўках, як у канцэртнай зале, паслухалі мора. Адзінокая чайка лётала над хвалямі. Узгадаўся твор Максіма Горкага пра Буравесніка. Са словамі «хутка гране бура!», я прапанаваў Людміле пайсці ў горад, бо пасыпаўся дробны дождж. Схаваўшыся пад парасон, мы прагуляліся вуліцаю Басанавічуса. Народу не шмат, бо яшчэ не вечар. Павячэралі каля Храма. Набылі харчоў і вярнуліся да сябе на вілу. Сеціва працуе, але пісаць у яго нічога не буду, бо ў мяне з сабой чысты сшытак, які трэба ператварыць у чарнавік.

Перад сном пайшлі да мора. Ветрана. Хвалі паўзуць і паўзуць на бераг. Сонца заходзіць за мора, нібы патанае і не просіць ратунку…

Ідзем каля мора праз хваёвы лес, у якім ціха-ціха. Падумалася, што мора шуміць, як той хваёвы лес, які там некалі рос…

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ДРУГІ

***11.07.2016***

Спалася добра. Снілася нешта. Не змог успомніць. А Людміле прысніўся цікавы сон (амаль мастацкі твор), які яна назвала «Праклён Максіма Багдановіча».

А сёмай было сонца, а 9 гадзіне пайшоў дождж. Неба стала, як мора...

Людміла падлучыла пад сеціва смартфоны і свой ноўтбук. Думаў, што не буду нічога ведаць, што робіцца ў свеце і ў нас у Беларусі... Думаў...



Аўтавакзал, што быў тры гады таму непадалёк ад Храма, перанеслі ў невядомае нам месца. Пайшлі шукаць. Запыталіся ў літоўскай студэнткі з заплечнікам. Пару слоў сказала па-руску, а ўсё астатняе на роднай мове. І ўсё ж мы зразумелі, што яна якраз і ідзе на аўтавакзал (стоціс) і нам трэба трымацца яе. І мы пайшлі за дзяўчынай следам. Вакзал не блізка ад нашай вілы. Паглядзелі расклад на Клайпеду. Завіталі ў краму «Максімум». Сёе-тое купілі. Дождж перастаў, пацяплела. Градусаў 25.

Абед Людміла гатавала на летняй кухні. Гаспадары, даведаўшыся, што мы беларусы, павесялелі.

Па абедзе пайшлі да мора. Я хадзіў берагам, а Людміла плавала. Вада не халодная, але і не такая ўжо і цёплая.

Сярод людзей на пляжы хадзілі вароны, нібыта шукалі мёртвых...

На хвоях шышкі, як зялёныя ліхтары...

Шмат рускамоўных. Спакойныя і ненахабныя...

Пайшлі на могілкі. На нядаўніх пахаваннях ляжаць кветкі і ўсе белыя...

Надпісы на помніках па-літоўску. Адшукаў колькі па-руску. Сярод іх — «Сорока Петр Петрович (1906—1982), Полина (1908—1990)». Каля магілы Сарок у мяне на левым чаравіку развязаўся матузок. Чамусьці падумалася, што гэтыя Сарокі мае сваякі, бо адзін з маіх прадзедаў меў прозвішча Сарока.

Шукалі старыя помнікі. Іх вельмі мала. Колькі XVIII стагоддзя. У людзей свой век і ў магіл свой...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ТРЭЦІ

***12.07.2016***

Прачнуліся пазней, чым планавалі. На вуліцы сонца. Людміла схадзіла пакупацца. Задаволеная.

Паехалі ў Клайпеду а палове дванаццатай. Выйшлі з маршруткі ў цэнтры горада. За тры гады, што тут не былі, крыху забыліся, дзе і што, але за хвілінаў пятнаццаць зарыентаваліся і пайшлі па горадзе, як мясцовыя. Наведалі Музей гадзіннікаў. Іх тут сотні. Малыя, вялікія, старажытныя і нядаўнія. І ўсе яны ў свой час мелі гаспадароў, якім адлічвалі іх хвіліны і гадзіны жыцця. А 13 гадзіне некаторыя пачалі падаваць свае адметныя галасы. У розных кутах музея, як у розных вяках, і не адначасова, нібыта перагукваючыся. Многія не працуюць. Стрэлкі паказваюць час смерці гадзінніка.

Пасля Музея гадзіннікаў пайшлі ў стары горад, каб папалуднаваць. На вуліцы пахаладала. Людзей няшмат. Зайшлі ў кавярню. Чамусьці гучыць грузінская музыка. Наведвальнікі пераважна сядзяць у дворыку, а мы абралі столік у зале. На сценах гістарычныя здымкі горада. Пад столлю старыя бэлькі. Некаторыя моцна пашкоджаныя шашалем, але глядзяцца прыгожа. Адна сцяна з чырвонай цэглы, а другая — з дрэва. У куце стаіць пластыкавы мурын. Ён павернуты задам да залы, нібыта яго пакаралі, бо дрэнна граў на саксафоне.

Кельнерка размаўляе па-руску. Наелі на 20 еўра. Наеліся дасхочу. Нават стала лянотна выходзіць на вуліцу...

У дворыку кавярні мужык гадоў сарака чакаў і дачакаўся русявую пухленькую гэткіх самых гадоў жанчыну. Частуе толькі кавай і сам п’е няспешна, нібыта думае дацягнуць сустрэчу пры адным кубачку да цемры. На ім не новая скуранка. Паліць танныя цыгарэты. Кожная зацяжка недзе за хвіліны тры. Махае рукамі. Жанчына слухае і хітае на знак згоды галавой. Раз-пораз прыгубляе каву. Усміхаецца яму, а ён, гледзячы на яе ўсмешку, ажно квітнее ад нейкіх сваіх думак...

Зайшлі ў двор Музея кавальства, дзе пабачылі колькі дзясяткаў няновых магільных агароджаў, крыжоў, каваных помнікаў з імёнамі. Каля сцяны на зэдліку сядзеў стары, як помнік. Вельмі падобны да мастака Гаўрыіла Вашчанкі.

Я нават падумаў, што паміраючы ў адным месцы, некаторыя людзі працягваюць жыць у іншым. Каля старога сядзелі два рудыя каты, як залатыя, пасыпаныя пылам стагоддзяў...

Сходзілі на прыстань. Пастаялі каля скульптуры хлопчыка і сабакі. Узгадалі нашу Міёну. Сабака ўжо амаль стаў залатым, бо ўсе да яго дакранаюцца, каб загадаць жаданне.

На лаўках, што ўздоўж ракі, прымацаваныя шыльдачкі з нержавейкі, на якіх змешчаныя вершы з пазнакай паэтак і датай (20.08.11). Творы напісаныя пра ўсе раёны Літвы.

На рацэ стаіць вялікі карабель з белымі ветразямі, нібыта нядаўна сюды прыплыў Калумб з Іспаніі і адкрыў для сябе адзін з гарадоў ВКЛ...

Завіталі ў мастацкі музей. Дзіцячая зала. Малюнкі дзяцей лепшыя за карціны сталых і памерлых творцаў, што ў музеі выстаўленыя...

У актавай зале музея стаяць крэслы гэткія самыя, як у нас у выдавецкіх кабінетах. «Відаць, у нас закупляюць!» — сказаў я і перакуліў крэсла, каб паглядзець, хто яго зрабіў. Выявілася, што гэтыя крэслы не з Беларусі, а з Харкава...

У кнізе водгукаў напісаў: «Усё цудоўна! Жыве Беларусь!» — і мы з Людмілай распісаліся.

Ідучы да вакзала, зайшлі ў праваслаўны Храм. Якраз была служба. Малілася пяць чалавек...

Ідучы праз парк сучаснай скульптуры да вакзала, зразумелі, скуль былі надмагіллі і крыжы ў дворыку кавальства. У парку былі могілкі, бо яшчэ сям-там бачацца магільныя грудкі. Людзі да іх працягваюць насіць кветкі. Захаваўся адзін помнік, на якім напісана: «Морозава Мариксейя М. 1905—1956. Память осталась о тебе, мама, в наших сердцах». А навокал — фантазіі сучасных скульптараў.

Над паркам жудасна каркаюць вароны, і ў кронах шматвекавых дрэў вохкаюць, нібы плачуць, галубы...

З Клайпеды вярнуліся а сёмай. Стомленыя. У мяне ногі разбалеліся. Злёг. А Людміла яшчэ збегала да мора і паплавала.

А дзясятай сходзілі да мора. Калі ішлі да яго, перад намі прайшоў мужчына, ахінуты белай посцілкай з чорнымі плямамі. Я назваў яго плямістым Бэтманам. На моры вялікія хвалі. Прыгожа і страшнавата. Нідзе нікога няма, нават чаек над морам...

**ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ЧАЦВЕРТЫ**

***13.07.2016***

Уставаць з канап не спяшаліся, бо вырашылі сёння быць у Паланзе. Да мора пайшлі пасля адзінаццатай. Людзей няшмат. Вада прымальная...

Пясок, як у пясочным гадзінніку...

Побач прыпляжыліся палякі. Бацькам гадоў па трыццаць пяць і двум хлопчыкам гадоў сем і дзесяць. Паставілі намёт ад сонца. Прыляцела аса. Бацька адразу яе забіў. Прыляцела другая. Бацька спрабаваў і гэтую прыдушыць, але яна ўцякла да мяне. Палётала і паляцела падалей ад мора...

Людміла купаецца, а я гляджу на мора. Дачакаўся, што ўдалечыні з'явіўся белы ветразь, як аркуш чыстай паперы, што чакае вершаў...

З сеціва даведаўся, што ў Мінску страшная патопная залева. У Паланзе сонечна і градусаў 25.

У нашу вілу засяліліся новыя Гражданы. Шумяць, нібыта вечна п'яныя...

Пайшлі ў парк. Натрапілі на паваленую ветрам яліну. Ёй гадоў пад сто пяцьдзясят. Шышкі на ёй, як зялёныя ледзяшы...

Палац Тышкевічаў. На азярыне белыя лебедзі. Спакойныя, як намаляваныя...

Ровaрысты ездзяць і ездзяць сюды-туды, туды-сюды. Трэба ўвесь час памятаць пра іх, а то можна трапіць пад колы...

На лаўках і пад імі марскі пясок — застаўся ад людзей, што адпачывалі ад мора...

Зайшлі ў Храм. На лаўцы выдзерта «14 августа»...

Праляцела машына, з якой данёсся радок песні «Никто кроме нас...».

З сеціва даведаліся, што за час буры толькі ў адным Мінску паламаныя сотні дрэў...

Перад сном схадзілі да мора, як у Храм...

Удалечыні, у моры, свецяцца агеньчыкі, як свечкі...

Берагам прайшлі тры чалавекі з сабакам. Праляцелі чайкі над намі. На пяску дзіцячыя сляды. З цэнтра горада чуецца музыка. Усё добра...

### ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ПЯТЫ

***14.07.2016***

Пайшлі ў Музей сабак. Даўгавата шукалі, але знайшлі. Ён збудаваны на месцы арачнага праходу ў жылым доме. Дзверы адчыненыя. Не паспелі разабрацца, дзе тут і што, як нам насустрач выйшаў гаспадар музея. Мы завіталі не ў час, але ён з радасцю запусціў нас да сябе. Уваход два еўра. Гаспадар музея — паэт і мастак Вітаўтас Кусас. Ён аўтар дзевяці кніг паэзіі і шматлікіх карцін. У музеі прадстаўлена болей за тры з паловай тысячы экспанатаў розных матэрыялаў. А яшчэ карціны-шары, адна з іх у прамым сэнсе лунае і круціцца. Нябачныя карціны, якія з'яўлюцца толькі з падсвятленнем. Маленечкі зборнік вершаў, які, аднак, зарэгістраваны ў кніжнай палаце. А яшчэ Кусас займаецца разьбой па яечнай шкарлупіне, і таму парцалянавых, шакаладных, пластыкавых і саламяных сабак асвятляе свяцільнік са страусавых яек. Мы з задавальненнем апавялі Кусасу пра нашу паэтку Аксану Спрынчан, якая збірае жабак.

Увечары вырашылі схадзіць на старыя яўрэйскія могілкі, пра якія мы даведаліся, разглядаючы мапу Палангі. Толькі выйшлі з дому, як пасыпаў драбнюткі дождж. Аднак дамоў мы не сталі вяртацца. Недзе з паўгадзіны ішлі лесам. Могілкі знайшлі на ўзгорку. Абгароджаныя па кутах каменнай сценкай і абсаджаныя кустамі. У цэнтры могілак захавалася толькі дзесяць помнікаў, а так, відаць, тут пахавана каля двухсот чалавек. Праз могілкі пралягае колькі дробных сцяжынак. Каля помнікаў і каля некалькіх хвояў апалкі свечак, а таксама ляжаць купкі дробных камянёў...

Дождж не перастаў. Неба зацягнулася хмарамі, і вершаліны хвояў боўтаюцца ў іх...

Пачарнелымі шышкамі засыпаныя сцяжыны, якімі мала хто ходзіць. Мы ідзем па шышках, як па вуголлі...

У нумары ёсць тэлевізар. Яшчэ ні разу не ўлучалі...

### ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ШОСТЫ

***15.07.2016***

Усю ноч ішоў дождж. Здавалася, што наш дом плыве ў моры...

А 10:40 выехалі ў Плунге. Дождж сыпле, але раз-пораз вызірае сонца праз аблокі. Праязджалі Крэцінге, дзе мы былі тры гады таму. Глядзеў на ўсё, як на роднае, блізкае душы і сэрцу...

За гадзіну заехалі ў Плунге. Палац Агінскіх. У азярыне плаваюць рыбкі і цвітуць белыя, жоўтыя і ружовыя гарлачыкі. Яны далёка ад берага. Да ўсяго здаецца, што зараз выйдзе сам Агінскі і скажа: «Спадары паэты, запрашаю вас на гарбату!» І раптам адчыніліся дзверы былой стайні. Мы падышлі бліжэй і пабачылі ў будынку, накрытыя белымі абрусамі, сталы з букетамі, з вялікімі крышталёвымі келіхамі і зялёнымі пляшкамі з шампанскім. Заходзь і частуйся. Не зайшлі. Адышліся ад адчыненых дзвярэй, і яны за пару хвілінаў зачыніліся...

Зайшлі ў палац Агінскіх. Цяпер тут музей. Набылі квіткі. У першай зале каля сцяны стаяла вялікая, ажно пад столь, кніжная шафа. Спыніліся ля яе. Пачалі ўголас чытаць назвы кніг. Дзяўчына, якая тут сядзела пры стале, пачуўшы пра што мы размаўляем, падышла да нас і пачала адказваць на нашыя пытанні. У шафе стаяць кнігі XVIII і XIX стагоддзяў на літоўскай, нямецкай і польскай мовах. Пацікавіліся, ці ёсць беларускія кнігі. Даля (так завуць дзяўчыну) адразу дастала выданне пра Агінскага, якое хтось з Беларусі падараваў: «Міхал Клеафас Агінскі: Ліцвін, Патрыёт, Творца» Леаніда Несцерчука. Паказала кнігу 1847 года «Каталіцкія місіі», якой карыстаўся Агінскі. Асабістых рэчаў былых гаспадароў вельмі мала. Нашчадкі прыдворнага шаўца ахвяравалі шкляны куфэрак, захаваўся кошык, які жонка Мікалая Агінскага Марыя падаравала нейкай дзяўчынцы. Пастаялі каля піяніна, на якім у свой час іграў Чурлёніс. Даля амаль паўгадзіны вадзіла нас па першым паверсе, а Людміла апавядала: «Палац Агінскіх належаў розным магнатам, нейкі час — фаварыту Кацярыны II Платону Зубаву. Ягоны спадчыннік прадаў палац Агінскім. Тут гаспадараваў унук Міхала Клеафаса Агінскага Мікалай. Ён быў вядомым мецэнатам, арганізаваў у палацы аркестр, музычную школу, дзе, дарэчы, навучаўся Чурлёніс. Ён жа даў Чурлёнісу грошы на адукацыю ў Варшаве...» Спыняліся каля партрэтаў, і Людміла зноў апавядала пра лёсы намаляваных асоб. Даля распытвала пра Беларусь. Яна хоча прыехаць у Мінск. Потым мы пайшлі на другі і трэці паверхі палаца, дзе выстаўленыя працы сучасных літоўскіх мастакоў і

скульптараў. Пабачылі карціны-шары нашага знаёмага паэта-мастака з Палангі Вітаўтаса Кусаса. Работы маладых мастакоў былі ў сутарэнні каля прыбіральні...

Тры гады таму палац давялі да ладу. Захаваўся цудоўны парк, у якім мы, натуральна, заблукалі, бо рэчка так кружляе, што не зразумееш, дзе які масток пераходзіць. «У гэтым парку, як унутры карціны!» — сказала Людміла.

Дрэвы, як на карцінах Драздовіча і Чурлёніса...

Да Храма, які быў добра відаць з ганка палаца Агінскіх, дабіраліся болей за паўгадзіны. Праходзілі каля лужка, на якім рыхтавалася выстава сабак. Храм на ўзгорку. Прыйшлі ў час, калі ў Храме скончыўся малебен. У ім няма ікон. Толькі стужкі каляровыя. Шмат народу. Усе святочна апранутыя і з кветкамі. Вельмі шмат моладзі. У Паланзе гаспадыня вілы нам сказала, што гэта быў выпускны ў школе.

Выправіліся ў стары горад. Старога мала. Завіталі ў кавярню папалуднаваць. Кельнерка па-руску нічога не разумее, як і па-англійску, але неяк патлумачылі, што мы хочам ад яе. Сюды ж прыйшоў літовец гадоў сарака пяці з тоўсценькай жонкай і дочкамі гадоў васьмі і дзесяці. Сабе ён узяў літровы куфаль піва, жонцы невялічкую філіжанку кавы, а дзецям па маленечкай пляшцы напоя. Мужык піў піва, нібыта толькі што скончыў вялікую і важную справу. На ягоным ілбе можна было напісаць: «Я люблю жыццё!» Жанчына піла каву, нібыта цалавала яе і паглядала з любоўю на мужа. Дзеці свае напоі выпілі за колькі хвілінаў і пачалі дурэць, ляпаючы парожнімі пляшкамі па стале, нібыта намякаючы бацьку, што хочуць яшчэ папіць. Мужчына сядзеў, як каменны, і піў піва. Мы папалуднавалі, разлічыліся, а мужчына з сям'ёй засталіся ў кавярні...

З мора хмары плывуць і плывуць і ўсё ў бок Беларусі...

А палове дзявятай усе хмары сплылі і засвяціла сонца. Мы пайшлі да мора. Ветрана. Хвалі вялікія і белыя, як са снегу з лёдам. Берагам ходзяць людзі і чайкі. Знайшлі выкінутую на бераг камбалу. Ужо без вока...

У Паланзе шмат людзей з сабакамі. Амаль усе дробныя і звяглівыя...

Прачытаў у сеціве пра тэракт у Ніцы, дзе загінула болей за 80 чалавек і яшчэ за сотню параненыя. Тэрарыст узяў на пракат фуру і на ёй урэзаўся ў людзей, што гулялі ўвечары, і праехаў два кіламетры. Жах! Не мог доўга заснуць...

**ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ СЁМЫ**

***16.07.2016***

Перад сном даведаліся з сеціва, што ў Турцыі распачаўся вайсковы пераварот, а ў Парыжы загарэлася Эйфелева вежа. Узгадаліся нашыя ранейшыя летнія адпачынкі з дзецьмі ў Доме творчасці «Ісклач». Адзін раз паехалі і ў лесе даведаліся, што Гарбачова адлучылі ад улады. Другі раз паехалі. Тады падлодка «Курск» затанула. Трэцім разам — у Маскве з танкаў расстрэльвалі Белы дом. Словам, жыццё і раней віравала крывава. У сёлетніх нашых планах адпачынку напачатку была Ніца, дзе цяпер адбыўся тэракт, але ўсё ж вырашылі туды не ехаць, бо не тыя фінансы і хапіла і іншых прычын. Цяпер думаем, што нас Бог бярог ад паездкі ў Ніцу.

Раніца. На вуліцы сонца няма. Магчыма, яно падчас вайсковага перавароту ў Турцыі трапіла ў закладнікі...

Пайшлі ў цэнтр Палангі. Людміла захацела патрапіць на канцэрт музыкі Рахманінава. Прыехаў музыка з Францыі. Міхаілас Юркас. Знайшлі касу. Дзяўчаты па-руску не размаўляюць. Людміла пачала па-англійску. Таксама слабавата разумеюць. Дзяўчаты паклікалі мурына, які ў іх працуе ў кавярні. Мурын пыкаў-мыкаў і таксама нічым дзяўчатам не дапамог. Праўда, Людміла сама па нейкім часе патлумачыла касірцы, што яна хоча ад яе. Вярнуўшыся дахаты, праз сеціва мы даведаліся, што Міхаілас Юркас з Францыі — гэта Міхаіл Юркоў з Беларусі, які ў Гомелі граў Рахманінава за 70 тысяч, а тут квіткі па 11 еўра.

Па абедзе на вуліцы Басанавічуса распачаўся грыль-фестываль. Сабралася народу. Шум, тлум, музыка і песні. Не думалі што-небудзь купляць, але, ідучы да Музея рэпрэсій і высылкі, Людміла спынілася каля палаткі са скуранымі шапкамі. Пачала мераць. Адну шапку абрала, і я сказаў: «Бяры!» Прадавец, мужчына гадоў пяцідзесяці, усклікнуў: «Вы з Беларусі! Я па слове «бяры» зразумеў, скуль вы!» Разгаварыліся. Майстра па шапках родам з Віленшчыны. Вёска ягоная на Смаргоншчыне. Цяпер жыве ў Вільні. Бывае ў Мінску.

Наведалі Музей рэпрэсій і высылкі. Ён месціцца ў маленькім жоўтым дамку на вуліцы Басанавічуса. Уваход бясплатны, працуе тры дні на тыдзень па пары гадзін. У гэты час там дзяжурыць хтось з таварыства рэпрэсаваных, якому і

дазволілі стварыць музей. Калі мы зайшлі, дзяжурыла пажылая жанчына, якую ў восем гадоў разам з сям’ёй выслалі, як кулакоў, у Іркуцк. Апавядала, як там выжывалі, як вярнуліся, як тут не бралі на вучобу ў інстытут, бо ў анкетах пісала праўду. Камсамолкай не была. У стэндах — рэчы, якія прывезлі з сібірскіх лагераў. Ёсць літоўскі сцяг, які быў разрэзаны на тры асобныя паласы, бо іначай не маглі яго захаваць. У адным з пакояў — працы школьнікаў, якія наведваюць ахвяр рэпрэсій, распытваюць, запісваюць. Пра кожную высланую сям’ю робяць даклад. Апавёўшы пра музейныя экспанаты, жанчына пацікавілася пра жыццё ў Беларусі. Папрасіла, каб мы пакінулі колькі слоў у сшытку для наведвальнікаў. Я напісаў па-беларуску. Запісаў штук дзесяць. Пару па-руску, а так на літоўскай мове.

Увечары Людміла пайшла на канцэрт Юркаса, думаючы, што там нікога не будзе, бо, калі набывалі квіткі, можна было браць любое месца. Я падышоў да канцэртнай залы за гадзіну. Думаў, што давядзецца чакаць, як з залы пачалі выходзіць слухачы. Іх было каля сотні. Канцэрт Людміле спадабаўся.

Пайшлі ў бок пірса. На плошчы, што паблізу мора, фестываль-грыль быў у самым разгары. Канкурсанты смажылі, прадавалі піва, спявалі. Адным словам, багемная атмасфера. Мы пахадзілі, паглядзелі і зразумелі, што заключным нумарам конкурсу будзе выпечка парсючка кіляў пад сто, бо ўсё на гэта ўжо было падрыхтаванае. Шмат знаёмых рускіх песень прагучала на літоўскай мове. У нас Алесь Камоцкі перакладае рускія старыя шлягеры на беларускую мову.

**ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ВОСЬМЫ**

***17.07.2016***

Сонца няма. Аблокі ад мора плывуць і плывуць. Думаю, што некаторыя сямейныя, прыехаўшы ў Палангу загараць, цяпер сварацца паміж сабой: «Я ж казала (казаў) — трэба ехаць у Іспанію!», а мы спакойныя, бо ехалі сюды проста адпачыць ад нашых будняў і свят.

На вуліцах адныя ходзяць у куртках, іншыя ў саколках і шортах. Тыя, што ў цёплым, відаць, толькі нядаўна прыехалі ў Палангу. Мы самі першы дзень хадзілі ў куртках...

Над Палангай чаек меней, чым над Мухляй, з якой мы побач жывем у Мінску...

Сёння нашай Міёне 11 месяцаў. І яна ўжо 10 дзён без нас, а мы без яе. Як яна там у чужых людзей?

Толькі сабраліся ісці ў цэнтр горада, як пайшоў дождж. Перачакалі хвілінаў пятнаццаць. Вызірнула сонца. Пайшлі праз лес, які ў метрах пяцідзесяці ад нашай вілы. Паветра пахне хваёвай смалой. Калюжын болей, чым людзей. За хвілінаў дзесяць дайшлі да цэнтра Палангі, дзе ўчора пачаўся міжнародны фестываль-грыль. А 10 вечара быў дадзены старт на засмажку кабанчыка. Мы прыйшлі акурат да 12 гадзіны, калі журы пачало абход удзельнікаў конкурсу. Найлепей, на маю думку, з заданнем далі рады ўкраінцы. Эстонцы смажылі ў вялікай чыгуннай печцы і, адчыніўшы яе, узяліся за галовы — там кабанчык ляжаў чорны, як вугаль. Калі старшыня журы запытаўся, ці будуць яны свайго кабанчыка прапаноўваць людзям, кухар у шапцы ў выглядзе ружовага парсючка адказаў: «Не! Мы будзем вяртацца ў Эстонію, і ўсё аддамо нашым паліцэйскім!» Пасля таго як журы абышло ўсіх удзельнікаў конкурсу, пачалася дзяльба кабанчыкаў. Найсмачнейшыя кавалкі свінінкі (узгадаўся кліп Віктара Лупасіна «Піва ды свінінка») былі аднесеныя журы на дэгустацыю, а астатняе пачалі прадаваць. За 2 еўра Людміла набыла ў літоўцаў грам сто свініны з салёнымі агурочкамі і хлебам. Я стаў у чаргу да ўкраінцаў. Падрыхтаваў грошы, але яны не спатрэбіліся — украінцы свініну раздавалі бясплатна. Колькі каманд нават не прадавалі, а загарнулі свайго кабанчыка ў фольгу і схавалі...

А дзясятай вечара пайшлі на пляц, дзе праходзіў фестываль-грыль. Нічога не засталося, што нагадвала б пра фестываль. Ні смецця, ні паху. Грае музыка, швэндаюцца людзі і вецер з мора, а ў небе аблокі, як дым ад караблёў, спаленых падчас аблогі Палангі...

Спыніліся каля фантана са святламузыкай. Прыгожа, але да барселонскага фантана яму далёка-далёка, як ад Палангі да Барселоны...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ДЗЯВЯТЫ

***18.07.2016***

Дзень пачаўся з сонца, але на вуліцу асабліва ісці не хочацца. Я прытаміўся ад хадзьбы. За гэтыя дні адпачынку мы прайшлі з Людмілай ужо болей за сто кіламетраў. Толькі ўчора кіламетраў пятнаццаць. Для здароўя добра, але штодня так хадзіць — гэта, як праца, якая хоць і любімая, але і ад яе часам хочацца адпачыць...

Сёння ўжо два месяцы як наш Максім служыць у памежных войсках. У яго яшчэ наперадзе 16 месяцаў...

Учора Людміла напісала ў фэйсбуку: «Пакуль адпачываем, аддалі нашу Міёну, юную аўчарачку, на гэтак званае ператрыманне (ёсць такі сервіс для сабак). І вось ужо шмат разоў лаўлю сябе на тым, што збіраюся ёй тэлефанаваць, як іншым сямейнікам, і пытацца, як справы...»

Узялі напракат на гадзіну ровар на дваіх за 3 еўра. Ён болей трэнажор для ног, чым ровар. І ўсё ж праехалі кіламетраў пяць лясной дарогаю...

Каля мора вельмі ветрана. Ніхто не купаецца. Адзінокая чайка крычыць, як плача...

Нечакана праз сеціва з намі звязалася Ксенія Шталянкова, якая акурат цяпер у Паланзе. Дамовіліся сустрэцца ў сераду а 19 гадзіне...

Людміла схадзіла паплаваць. Увечары ідзе ў кіно...

Сёння ў дварах віл бачылі з дзясятак машын з беларускімі нумарамі. Мы тут не адны...

Хочацца пачытаць добрых вершаў. Нічога з сабой не ўзяў. Шкада. Трэба напісаць самому.

*

Ля халоднага мора ў Паланзе
Я сяджу на салёным пяску,
Быццам век я сядзеў на баландзе,
Сёння ўцёк, пераплыўшы раку,
Што за сценамі замка бурліла
І шаптала пра волю і свет,
Дзе мая шчэ нага не хадзіла,
Дзе па мне не страляў пісталет,
Пра які я пісаў і Гілевіч
Мне казаў, каб так больш не пісаў.

Я ж пішу, бо ў мяне свая веліч,
Бо сто год я да мора ўцякаў,
І цяпер ля халоднага мора
Я адзін, як апостал, сяджу,
І няма для мяне майго Ўчора,
Як няма ў лёгкіх хмарах дажджу,
Што абмые мяне ад няволі,
Ад якой я да мора ўцякаў,
Каб цяпер больш ніколі, ніколі
Сумных вершаў я ўжо не пісаў...

Адразу па напісанні верша ў мяне пасвятлела на душы. Пайшоў сустракаць Людмілу з кіно. З кінатэатра выйшла два чалавекі — мясцовая жанчына і Людміла. А фільм быў цікавы, прэм'ера...



**ПАЛАНГА. ЛІЕПАЯ. ДЗЕНЬ ДЗЯСЯТЫ**

***19.07.2016***

За паўгадзіны зайшлі на новы вакзал. У касе квіткоў на Ліепаю не прадалі, бо аўтобус ідзе з Клайпеды ў Рыгу і нас пусцяць у яго, калі там будуць вольныя месцы. На нашым прыпынку сабралася людзей. Замест аўтобуса (адпраўленне аб 11:15) прыйшла маршрутка на 19 пасажыраў. Нам дасталіся апошнія вольныя месцы. Сядзелі побач з маладой жанчынай з сынам. Гаваркая. Даведаліся, што яна з Беларусі і муж яе служыць прапаршчыкам. Праз 18 кіламетраў пачалася Латвія. Стаіць памежны слуп. Каля дарогі хутары. Чорныя, як у чорна-белым кіно. Пэўна, на іх няма святла, бо не відаць электрычных слупоў. Да Ліепаі даехалі за гадзіну. Вакзал стары і амаль пусты. Хацелі набыць квіткі назад, але зноў жа іх прададуць у аўтобусе, калі будуць вольныя месцы...

Пайшлі Рыжскай вуліцай. Навокал амаль адныя двухпавярховыя баракі, якія ў нас у Мінску нядаўна знеслі на Грушаўцы. Баракі, пэўна, апошні раз фарбаваліся яшчэ ці не за Савецкім Саюзам. «У гэтыя будынкі наша вясковая хата ўпісалася б якраз вельмі добра»,— сказаў я, і Людміла заўсміхалася...

Рыжскай вуліцай, якая абсаджаная ліпамі, ходзяць трамваі. Ліпы паабразаныя і цяпер стаяць, як куксы з зялёнымі вяхоткамі...

Зайшлі ў кавярню папалуднаваць. Танней амаль у два разы, чым у Палангзе. Рускую мову кельнеркі разумеюць. Шмат рускамоўных.

Музей горада. Паводле раскладу ён у аўторак не працуе, але мы натрапілі, калі ў музей прыехала тэлебачанне, і нас пусцілі бясплатна. Дырэктарка думала, што мы літоўцы. Апавяла нам пра ўсё, што нас цікавіла...

Асфальт на брукаванцы, як кароста...

Сходзілі да мора. Яно ў Ліепаі не такое, як у Палангзе. Тут пясок амаль белы, як снег. Ветрана. Людзей мала.

Ідучы ўскрайкам вады, Людміла знайшла бурштын. І ў нас пачалася бурштынавая ліхаманка. Назбіралі цэлую жменю. Маглі б і болей, але ж мы прыехалі не па бурштын...

Зайшлі ў праваслаўны Храм. Вельмі шмат ікон. Жанчына, пабачыўшы нас, адразу падышла і пацікавілася, што нам тут трэба...

Не абмінулі катэдру Святога Язэпа. Вялікая. Была асвечаная ў 1752 годзе...

Наведалі бажніцу Святой Ганны. Гучала малітва, нібыта яна даносілася да нас з XVI стагоддзя, калі Храм быў збудаваны. Узгадаліся Лягезы і бабуля Ганна, у якой я гадаваўся да школы...

Ходзім па горадзе без мапы. Арыентуемся ў цэнтры па крыжах Храмаў...

Прайшлі каля дома, дзе ў свой час спыняўся Пётр І. На сцяне шыльда...

Ёсць зусім старыя дамы, у якіх, пэўна, толькі прывіды жывуць...

Пляц Руж. Утульны дворык. У цэнтры фантан. Кавалачак прыпудранай еўрапейскай Латвіі...

Завіталі ў кавярню падсілкавацца. Замовілі па катлеце і па цэлай порцыі варанай бульбы. Катлеты як катлеты, а вось цэлая порцыя бульбы — гэта болей за паўкілі...

Не абышлі катэдру Святой Троіцы (1758 г.). Унутры сцюдзёна і спакойна, як у анёла пад крылом. У Храме вісіць латышскі сцяг. Дарэчы ў Ліепаі сцягоў шмат. Яны вісяць там, дзе абавязкова трэба, і там, дзе можна было б і не чапляць. Адчуванне такое, што ў Ліепаі толькі нядаўна латышы прыйшлі да ўлады, таму і сцягі навокал...

Прайшліся набярэжнай. На прыколе стаяць старыя гандлёвыя караблі. Сярод іх вайсковы. Ён навейшы. На ім

ходзіць жанчына з дзецьмі. Падумалася, што яны там жывуць…

Папіць гарбаты зайшлі ў «Фантэне». Тут багемная атмасфера. З ежы нічога няма. Толькі гарбата, кава, піва, віно, віскі. Грае музыка. Абралі столік, вакол якога стаяць вялікія скураныя фатэлі. На невялікім памосце (відаць, сцэна) стаяць гукаўзмацняльныя калонкі. Сцэну і залу падзяляюць гаршкі, у якіх растуць памідоры. Яны яшчэ зялёныя. Сцены з цэглы і камення, не штукатураныя. Шмат карцін і кветак. Столь з празрыстага шыферу. У кавярні колькі залаў, і ўсе стылёвыя. Словам, месца для творчых людзей, дзе можна папаліць, выпіць, пачытаць вершы, паспяваць, пафіласофстваваць. У мужчынскай прыбіральні побач з пісуарамі стаіць чорны раяль. Паспрабаваў іграць. Не грае. Магчыма, таму, што я цвярозы.

На вуліцы паблізу «Фантэне» бурштынавы гадзіннік. Аўтар Вольга Шылава.

Ідучы на вакзал, сустрэлі колькі пар мясцовых п’янтосаў. Размаўляюць між сабою па-руску…

На вакзале ў шапіку прадаюцца савецкія ўзнагароды. Ордэн Леніна можна набыць за пяць еўра…

Ходзячы па Ліепаі нам сям-там на ходніках сустракаліся нотныя знакі. «Што гэта значыць?» — раз-пораз мы задаваліся пытаннем. Прыканцы нашай вандроўкі здагадаліся, што так пазначаны шлях ад аднаго гістарычнага месца да другога. Трэба было арыентавацца, гледзячы пад ногі, а мы глядзелі ў неба, дзе бачыліся над горадам крыжы Храмаў…

Наш аўтобус а 20:20. На прыпынку людзі з квіткамі, а ў нас няма. Хвалюемся. На пытанне: «Як іначай дабрацца да Палангі» — касірка адказала, што гэта адзіны аўтобус, які ходзіць. Сталі думаць пра тое, што рабіць будзем, калі месцаў у аўтобусе не будзе. Таксоўкаю дабірацца? Ці хопіць грошай? Давядзецца ісці ў гатэль начаваць. Прыйшоў з Рыгі наш аўтобус. Хвалюючыся, зазірнулі ў салон. А там адзін пасажыр. У Ліепаі да Палангі з намі села яшчэ чалавек пяць. За паўтары гадзіны мы былі на сваёй віле. Стомленыя і задаволеныя паездкай. Ліепая нам спадабалася сваёй шчырай закінутасцю.

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ АДЗІНАЦЦАТЫ

***20.07.2016***

Дзень пачаўся з сумнай навіны — у Кіеве забіты Павел Шарамет. А 7:45 ён сеў у машыну і па нейкім часе на вуліцы горада яна выбухнула...

Адзінокі белы ветразь у моры, як белы сцяг...

Людзей на пляжы, як апалага лісця пад райскім дрэвам...

Вецер ганяе на пляжы пясок, з якога дзеці будуюць замкі. Замкаў шмат, як у XVIII стагоддзі...

Хадзілі па лесе, як следапыты. Няспешна, разглядаючы ўсё навокал. Бачылі незнаёмых птушак і вавёрку, якая ўзбегла на вершаліну хвоі і кідала на нас шышкі...



Купаўся. Вада цяплейшая за паветра. Нашу посцілку, пакуль мы плавалі, амаль замяло пяском.

А сёмай вечара пайшлі ў рэстарацыю на сустрэчу з Ксеніяй Шталянковай. Яна ў Паланзе з усёй сям'ёй — бацька, маці, бабуля і малы сабачка. Я замовіў грыбны суп і каву. Прынеслі маленечкую філіжаначку, у якой пяць каўткоў кавы. Побач паставілі келіх з вадой і паўкілі цукру. Гледзячы ўпершыню на такую каву, я толькі ўсміхаўся і стараўся паводзіць сябе, нібыта так я заўсёды п'ю.

У рэстарацыі прагаманілі амаль тры гадзіны. Паветра было халоднае, а размова цёплая...

Вярнуўшыся дадому, перад сном запісаў восем радкоў:

*Зноў вецер нястомны ганяе на пляжы пясок*
*І нашы з табою сляды замятае адразу.*
*І поўня ў нябёсах, нібы апельсінавы сок,*
*Замерзлы ўначы і яшчэ не адпіты ні разу*
*Ні мной, ні табой, ні марскіміваўкамі,*
*Што знаюць, што сонца і сёння з-за лесу ўсплыве*
*І знікне пясок, нібы стомлены снег пад нагамі,*
*І мы зноўку пойдзем дамоў па адвечнай траве...*

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ДВАНАЦЦАТЫ

***21.07.2016***

Чацвер. Нікуды не едзем. Вырашылі гуляць у лесе і каля мора. Надумалі набыць новую валізу на колцах. Не знайшлі, якая спадабалася б. Ідучы вуліцаю Вітаўта, Людміла зайшла ў краму, а я застаўся на вуліцы. Стаю хвілінаў дзесяць

і раптам бачу — ідзе Зміцер Санько. Ён са сваімі прыехаў у мінулую суботу на тыдзень і ў нядзелю з'язджае дамоў, як і мы. Жыве на Смілчу. Мы ў доме № 34, а ён у № 40. Зміцер не купаецца, не загарае. Шпацыруе ў хвойніку і краем мора басанож.

У сеціве ўсё і амаль усе пра забойства Шарамета. Даўно столькі ні пра кога не пісалі. Смерць трагічная. Яна ўсім напамін, што трэба рабіць дабро і свае справы сёння, бо заўтра, можа, будзе позна...

Сёння ветрана. Увечары выправіліся ў лес. Шмат старых акопаў, якія даўно зараслі, але засталіся, як рэчышчы, якімі цякла кроў. Напаткалі яшчэ адзін капанір. Уваходы закладзеныя цэглай.

Ідучы басанож берагам мора, звярнуў увагу на чырвоныя сцягі, якія вывешваюцца, калі купацца нельга, і падумаў: «Гэты пусты бераг, як тэрыторыя Савецкага Саюза, дзе засталіся толькі чырвоныя сцягі...»



**ПАЛАНГА. КЛАЙПЕДА. ДЗЕНЬ ТРЫНАЦЦАТЫ**

***22.07.2016***

Снілася вёска. Родная хата. Я з братам мяняю шыбы ў вокнах — рыхтуемся да зімы.

З Людмілай вырашылі яшчэ раз з'ездзіць у Клайпеду. А 12 былі ў цэнтры горада. Пайшлі галоўнай вуліцаю. Папалуднаваўшы ў кавярні, якая паблізу старога горада, завіталі ў Музей Клайпедскага замка. Пажылая касірка, калі Людміла звярнулася да яе па-англійску, папрасіла: «А можна па-руску? — і, прадаўшы квіткі, дадала: — Наша пакаленне ведае рускую мову, а маладыя і ведаць не хочуць!» Экспазіцыя яшчэ небагатая, але ўжо можна ўявіць, якой вялікай яна будзе ў будучым, бо поўнай хадою ідзе рэстаўрацыя. Працуе чалавек дваццаць. Пры нас брыгадзір ці прараб, агледзеўшы кладку сцяны, усчыніў лаянку. Лаяўся па-руску. Пасля замка мы пайшлі ў Музей малой Літвы, дзе асабліва нічога цікавага няма. Побач з намі хадзіў мужчына доўгавалосы і барадаты гадоў сарака, а з ім чацвёра дзяцей. Старэйшай дзяўчынцы гадоў дванаццаць. Размаўляюць па-руску. Чамусьці падумаў, што гэты мужчына нейкі святар. Дарогаю на вакзал завіталі ў кавярню, у якой ёсць кніжная паліца. Сярод кніг знайшлі выданне 1989 года «Знака бяды» і «У тумане» Васіля Быкава

ў перакладзе на літоўскую. П'ючы каву, слухаючы музыку і гледзячы ў вакно на машыны, падумаў, што наша жыццё працякае няспешна, як з крана сапсаванага вада...

Кава ў філіжанцы, як клайпедскае сонца...

А дзявятай выправіліся перад сном да мора. Ветру амаль няма. Разуліся і сталі гуляць па вадзе. Вада цёплая. Дайшлі да пірса. На ім народу, як на «Тытаніку». Шмат рыбакоў. Цягаюць і цягаюць. Часам па шэсць рыбін. Даволі вялікая — па 15—20 см. Ловяць на голыя гачкі, якіх на лёсцы па шэсць штук.

Дамоў вярталіся берагам мора. Чаек над вадой было, як у нас на Мухлі вечарамі камароў...



## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

### *23.07.2016*

Сёння наш апошні дзень адпачынку ў Палангзе. Заўтра дадому. Хочацца і не хочацца. У панядзелак трэба на працу схадзіць. Што там і як там? Відаць, клопатаў стае, як і заўсёды...

Увечары а шостай на Басачынявічуса ля фантана сустрэліся з Ксеніяй Шталянковай і яе бацькамі. Пашпацыраваўшы, зайшлі ў невялічкую кавярню. За хвілінаў дваццаць сюды ж зайшоў Зміцер Санько са сваім сямействам. Мы колькі разоў гукнулі яму, але Зміцер не пачуў, бо грала музыка і ён быў далекавата ад нас. Па нейкім часе тата Ксеніі пабачыў сярод наведвальнікаў кавярні хлопца падобнага да Андрэя Хадановіча, а я другога — падобнага да Паўла Касцюкевіча. З гэтай нагоды я з усмешкай сказаў: «Вось і сабраўся беларускі бамонд у Палангзе!» Мы файна пасядзелі і пагаманілі. Праўда, было халаднавата.

Дамоў з Людмілай вярнуліся позна, шкадуючы, што наш адпачынак хоць і быў цудоўны, але ж так хутка праляцеў, як чайка над берагам мора...

## ПАЛАНГА. ДЗЕНЬ ПЯТНАЦЦАТЫ

### *24.07.2016*

Спаў кепска. Думалася пра дарогу дадому. Усталі а дзявятай. Паснедалі і пайшлі развітвацца з морам. Хадзілі амаль гадзіну басанож па вадзе і пяску. Крыху сумнавата, што ад'язджаем. Прызвычаіліся да вандровак, да волі. А дванаццатай

пакінулі рэчы ў гаспадароў у пакойчыку, у якім сярод усяго стаяў вялікі літоўскі сцяг, пра які я чамусьці падумаў, як пра зброю. Ходзячы па горадзе, зірнулі і на месца, скуль нас мусяць забраць у Мінск. Там стаяў аўтобус з беларускім нумарам. Хацелі запытацца, ці не гэты аўтобус прыехаў па нас, але, калі падышлі да дзвярэй, кіроўца зачыніў салон. Мы яшчэ апошні раз прайшліся хвойнікам і вярнуліся на вілу. Нявестка гаспадыні сказала, што недзе за гадзіну падвязе нас да аўтобуса. Мы прыселі адпачыць, і тут неўзабаве дамоў з мора вярнуўся ейны муж і сказаў, што наш аўтобус будзе адпраўляцца на гадзіну раней, чым планавалася, бо ён даўно прыйшоў з Мінска. Мы хуценька склалі свае рэчы ў машыну і за пяць хвілінаў былі на патрэбным прыпынку. У нашым аўтобусе ўжо сядзелі людзі. Мы прыехалі апошнімі. За пару хвілінаў а 14:35 наш аўтобус пакінуў прыпынак. У салоне горача. Асабліва ў вакно не глядзеў, бо ўжо амаль усё вакол дарогі знаёмае і я еду нібыта з родных Пугачоў...

Едзем праз Каўнас. 102 кіламетры да Вільні. Рэчка Нярыс. Прыгожа.

Калі ехалі адпачываць, на палях усё было зялёнае, а цяпер жоўтае, спелае. Праўда, у Літве жніво яшчэ не пачалося.

Сёння выходны дзень і нашыя кіроўцы вырашылі паехаць праз мяжу там, дзе, на іх думку, не будзе затрымкі. Заехалі ў лес на мытню. Высветлілася, што тут акурат аўтобусы не прапускаюць. Паехалі назад. Кіламетраў трыццаць. Выехалі на дарогу, якая вядзе да памежнай Катлоўкі, праз якую мы і заязджалі ў Літву. На кіламетраў пяць уздоўж дарогі стаялі фуры. Ледзьве даехалі да мяжы. Літоўцы хутка нас прапусцілі, а вось нашыя памежнікі папрасілі ўсіх пакінуць аўтобус з рэчамі і прайсці на мытны кантроль. Утварылася чарга. Першым не пашанцавала, бо ім давялося вытрыбушыць свае валізы з ношанымі падчас адпачынку рэчамі. За хвілінаў дваццаць падышоў афіцэр і пацікавіўся, хто мы такія, і, даведаўшыся, што людзі едуць з адпачынку, сказаў: «Мы так вас будзем правяраць да раніцы! Паклічце свайго куратара». Прыйшоў адказны за нас, перамовіўся з афіцэрам, і нас хутка прапусцілі праз мяжу. Яшчэ гадзіны тры ехалі да Мінска. На лугах і палях сцяліўся туман. З комінаў некаторых вясковых хат віўся дым. Яго нельга было адчуць у аўтобусе, але дым мне ўсё адно пах. Душа радавалася вяртанню. У аўтобусе некаторыя спалі, але большыня глядзела праз вокны на родныя краявіды...

***25.07.2016***

Вярнуліся з Палангі. Сёння дома былі апоўначы, а дакладней на пачатку другой. Распакаваўшы валізы, узяў вялікую кіпу газет, якая сабралася за два тыдні. Угары ляжала, пакінутае мне дачкой, паведамленне з пошты, каб я прыйшоў і атрымаў замоўны ліст з нейкага «имнс». Чытаць газет не змог, бо пачаў расшыфроўваць гэтае таемнае «имнс». Былі розныя варыянты ад «малодшага навуковага супрацоўніка» да «інспекцыі Мінска па налогах і сборах». Нагадаўшыся, заснуць адразу не атрымалася. Думалася пра няўплачаныя падаткі, якія раптам недзе ўсплылі, хоць я іх і не хаваў і не хаваю. Ранкам пайшоў на пошту. Чарга. Адстаяў з паўгадзіны. Атрымаў замоўны ліст, з якога даведаўся, што трэба да лістапада заплаціць 11 рублёў за бацькоўскую зямлю і хату ў Пугачах. Аплаціў адразу, каб спаць спакойна. Пасля Палангі ў Мінску дыхаць няма чым. Нейкі час, ідучы на працу (я ў адпачынку, але абяцаў прыйсці), глядзеў на нумарныя знакі машын, як гэта было ў Літве, каб знайсці транспарт з землякамі. Глядзеў на вабных жанчын, якіх вельмі і вельмі шмат і якія ў працоўны дзень ходзяць па горадзе, нібыта гэта не Мінск, а Паланга. Ішоў праспектам Пераможцаў, а чайкі крычалі над Нямігай і Свіслаччу, нібыта наша сталіца — партовы горад. Урэшце маю новыя грошы. Разлічваўся імі і ўвесь час прыкідваў, колькі ж гэта будзе ў еўра, а ў Літве ўсе кошты пераводзіў у нашыя тысячы. Дамоў вярнуўся з торбамі харчоў і напояў. Сёння пайшоў трыццаты год нашага вяселля з Людмілай...

***26.07.2016***

Яшчэ ў адпачынку, але па справах заходзіў на працу. Якраз патэлефанаваў празаік Алесь Жук. Адразу ж падумалася, што пачне пытацца пра выданне новай кнігі. Не спытаўся, а сказаў, што тэлефануе, каб проста паразмаўляць са мной. Хвілінаў пятнаццаць мы апавядалі адзін аднаму пра сваё цяперашняе. Прыканцы размовы Алесь Аляксандравіч перадаў прывітанне Людміле і папрасіў у мяне мой нумар мабільнага, каб, калі я не супраць, ён змог у любы час патурбаваць мяне і паразмаўляць проста пра жыццё...

У СМІ з’явіліся прапановы надаць Нацыянальнаму аэрапорту Мінск імя Францішка Скарыны. Надзвычай добрая ідэя! Яшчэ 4 ліпеня мінулага года (ёсць дзённікавы запіс),

едучы ў Амстэрдам праз Варшаву каля аэрапорта імя Шапэна, мы з Людмілай марылі, каб наш аэрапорт насіў імя Францішка Скарыны, але тады мы бачылі ажыццяўленне нашай мары ў няблізкім часе. Дай Бог, каб мы памыляліся!

***28.07.2016***

Мы былі ў ад'ездзе, а наша Міёна дваццаць дзён была на ператрымцы. Калі я ўчора ранкам патэлефанаваў, каб даведацца, як яна там і ў які час яе прывязуць дамоў, гаспадыня сабачага гатэля сказала: «Усё з Міёнай добра! Яна ў нас на лецішчы, як на курорце!» Міёну прывезлі а палове дзясятай. Як толькі наша малая пабачыла мяне, дык адразу кінулася цалавацца, ледзьве не збіўшы мяне з ног. Людміла была ўдома. Міёна і яе ўсю абцалавала. Потым доўга хадзіла па кватэры. Цешылася сваім цацкам. Паляжала на ўсіх сваіх улюбёных месцах, незабываючыся за хвіліну падысці да нас і палашчыцца. Гадзіны паўтары нічога не ела, а толькі раз-пораз прагна піла ваду і глядзела запытальна: «Я дома, ці я гэта ўсё сню?»



***29.07.2016***

Даведаўшыся, што ўчора памёр Іван Пташнікаў, я паспрабаваў адшукаць у сваіх сшытках верш яму прысвечаны, які ў свой час друкаваўся ў «Чырвонай змене». Тады Пташнікаў працаваў у «Полымі», а я ў «ЛіМе». Мы былі побач. Іван Мікалаевіч прыйшоў да мяне з газетай і, падзякаваўшы за твор, папрасіў яго пачытаць. Яму хацелася чуць мой голас. Я чытаў, а ён глядзеў на мяне ўсхвалявана і, калі я скончыў, сказаў: «Усё так! Дзякую!» Сшыткаў з запісамі ў мяне шмат, і я верш Івану Пташнікаву не адшукаў, бо не памятаю, у якім годзе ён быў напісаны. Затое натрапіў на цікавы запіс, які быў зроблены 25 лютага 1993 года:

«Учора ўвечары прыехаў Станіслаў Валодзька з жонкай Вольгай. Гаманілі да паловы другой. Стасю цяпер няма калі пісаць вершы, бо вучыць латышскую мову, каб працаваць у школе. Без мовы няма і працы. Усё ў іх даражэй і ўсё інакш, чым у нас.

17, 18 і 19 лютага ў СП праходзіў конкурс бардаўскай песні. Усё было б звычайна, каб не Анатоль Сыс быў у журы. Першы дзень ён правёў нармальна. Ставіў 4 і 5 усім. Увечары напіўся і назаўтра не хацелі яго пускаць у журы, але ён заняў сваё месца. І пачаў усім ставіць 2 і 3. Дайшло да Алеся

Камоцкага. Алесь праспяваў і сказаў: «Мне ацэнак не стаўце. Я ўступаю маладзейшым». Усе пагадзіліся. Згадзіўся і Сыс, але Дранько-Майсюк устаў: «Як гэта не стаўце ацэнак! А чаго тады выступаў?» Словам, вырашылі і Камоцкага ацаніць. Сыс паставіў пяцёрку. Пачалі абвяшчаць адзнакі: «4, 5, 5, 4, 5, 3». Сыс усхапіўся: «Хто паставіў тры? — за імгненне Сыс зароў, як дэман: — Ах, гэта ты Дранько!» — і кінуў у журы колькі лапатак-адзнак, а астатнія запусціў у залу. Вылаяўся і пайшоў. Усё гэта здымала тэлебачанне. Ацэнкі Сыса анулявалі. Першае месца заняў Атаманаў, другое Акулін, а трэцяе Цярэшчанка.



Тэлефанаваў Асташонак. Разгаварыліся і, калі я спытаўся, як там у «Крыніцы» працуе Сыс, Алесь адказаў: «Як прыйшоў, так і пайшоў!» За тры месяцы Сыс ухітрыўся нічога не зрабіць, але атрымаў двойчы зарплату. З усімі лаяўся, казаў: «Цяпер паэзіяй загадваю я і вы не суньце носа. Каго захачу, таго і буду друкаваць!» Абражаў і Някляева, які не вытрываў і выгнаў Сыса. Быў і такі выпадак. Сыс здзёр у Славаміра Адамовіча дзве пляшкі гарэлкі, шантажуючы, што «калі не паставіш, дык не надрукую, бо я загаднік паэзіі». А быў Сыс у «Крыніцы» толькі літкансультантам.

Сёння хадзіў на сумеснае пасяджэнне секцыі паэзіі з Саюзам кампазітараў. Выклікаў Алесь Емяльянаў, бо сам я не хацеў ісці. К. Камейша сустрэў: «А гэта Віктар Шніп — аўтар вядомай песні...» — «А ў гасцях...» — працягнуў я і сеў за круглы стол у канферэнц-зале. Народу было малавата. З кампазітараў — І. Лучанок, Дамарацкі і Елісеенкаў. Кампазітары гаманілі па-руску. Лучанок кідаўся ад мовы да мовы і быў вельмі нервовы. Адчувалася, што сябе ён уважае за вялікага кампазітара. Размова атрымалася не вельмі высокая. Старэйшым паэтам хацелася, каб кампазітары адразу сталі прасіць у іх вершы і адразу пісаць песні. Пранчак паводзіў сябе, як галоўны песеннік Беларусі, бо А. Бадак і М. Скобла, не дачакаўшыся пачатку пасяджэння, пайшлі ў кнігарню, адкуль і не вярнуліся. Пранчак хваліўся, што ён напісаў заяву, каб на тэлебачанні не перадавалі ягоных песень, бо не плацяць, і прапанаваў, каб усе зрабілі, як ён...»

Чытаю свае даўнія запісы ў сшытках і, як казаў Анатоль Сыс, балдзею. Вось што было запісана 19 мая 1993 года:

«Даўно не запісваў. Нарадзіўся СЫН — Максім! — 1 мая а 10:35. Вага — 3500, рост — 54 см. Асілак! Дзякуй Богу, усё

нармальна. Незаўважна лятуць дні, бо ўсё ў працы і няма калі перадыхнуць. Тыдзень таму ў СП была секцыя паэзіі. Мяне паклікаў М. Скобла, калі засядалі ўжо чацверты дзень. Тры дні запар збіраліся таемна і мяне не клікалі. Бегаў Камейша і ўсё казаў: «Прэмію Куляшова Свірку! Кнігі не было ў 1992 годзе, дык за публікацыю!» Скобла агітаваў за Людмілу Рублеўскую і яго падтрымлівалі. Хто моўчкі, а Галубовіч уголас. Я прыйшоў на пасяджэнне, і мяне ўсе сталі віншаваць з нараджэннем сына. Камейша бегаў і шукаў пастанову, дзе можна даваць прэмію Куляшова за публікацыі. Селі ў канферэнц-зале. Камейша, Камароўскі, Галубовіч, Марук, Скобла, Емяльянаў і я. Камейша прапаноўваў Свірку, Скобла — Рублеўскую. Галубовіч падтрымаў Міхася. Камароўскі прапанаваў Змітрака Марозава з вянком санетаў. Галубовіч: «Гэта матэматыка, а не паэзія! І гэты ягоны вянок па сабе, як паэту!» Камейша стаў цытаваць Свірку. Скобла: «Я Людзіных вершаў яшчэ болей магу працытаваць!» Галубовіч: «Калі даваць прэмію за тое, што чалавек пражыў 60 гадоў і за тое, што ён добры, то — Свірку, а калі за вершы — Рублеўскай». Крыху пашумеўшы, сталі галасаваць. Усе за Свірку апрача Скоблы. Я ўстрымаўся. Камейша: «Шніпу трэба прэмію напачатку атрымаць, а затым ужо жонцы!» Пачалі абтэлефаноўваць сяброў секцыі. Нікому не датэлефанаваліся. Прыйшоў Кастусь Жук і, калі ў яго запыталіся: «За каго ты?» — ён адказаў: «За каго вы, за таго і я!» Скобла не ўстрымаўся: «Што гэта за таго, за каго вы! У цябе няма сваёй думкі? Я за Рублеўскую».— «Ну і я за Рублеўскую!» — сказаў Жук. «А мы за Свірку!» — выгукнуў Камароўскі. «Ну і я за Свірку!» — усклікнуў Кастусь. «Давайце вылучым дваіх, а там кіраўніцтва разбярэцца!» — прапанаваў я. Са мной усе пагадзіліся, і Емяльянаў стаў пісаць пратакол пасяджэння. У свой час мы былі вылучылі Галубовіча, а на Радзе далі іншаму. Наша пакаленне старэйшыя як могуць так і зневажаюць, не прызнаюць. Так што і ў Людмілы шанцаў атрымаць прэмію імя Аркадзя Куляшова амаль нуль. Прыйшоў Алесь Гаўрон, і мы пайшлі ў бар замочваць нараджэнне Максіма. Праходзіў Камейша і не падышоў. Мы пілі за майго сына, а ён, магчыма, падумаў, што мы п'ем за вылучэнне Людмілы на прэмію. Зноў будуць праблемы з друкаваннем у «Маладосці» і ў «ЛіМе». Праўда, як дадуць прэмію Юрасю Свірку, а гэта амаль стоадсоткава, то ўсё будзе ціха».

***30.07.2016***

З Людмілай ездзілі ў цэнтр горада. Прайшліся праспектам. Каля Ратушы паглядзелі рыцарскія баі і старасвецкія танцы. Пахадзілі па Верхнім горадзе сярод турыстаў. Завіталі папалуднаваць у кавярню «Дэпо», што каля Свіслачы. Меню па-беларуску і налепкі на сценах такія самыя. На бэйджыку ў касіркі напісана «Маруся». У нейкі момант падумалася, што мы з Людмілай працягваем адпачываць у Паланзе, а сюды ў беларускі горад прыехалі на дзянёк, як ездзілі ў латвійскі Ліепая...

***31.07.2016***



Нядзеля. Людміла ездзіла ў Пінск да Максіма. У аўторак ён тэлефанаваў і, апавядаючы пра службу, пацікавіўся: «Мо хто-небудзь прыедзе да мяне?» І Людміла абяцала прыехаць і прывезці заяву, каб Максіма адпусцілі з войска дамоў на вяселле Веранікі, якое адбудзецца 12 жніўня. За час службы сын крыху схуднеў, але памужнеў. Скончыў вучэбку. Атрымаў значку, што цяпер ён інспектар памежнай службы 3 класа. Здаваў экзамены. У іх пяцібальная сістэма. Апавядаў, што быў чатыры дні на стажыроўцы на мяжы. Хадзіў у балотах. Месцамі правальваўся па пояс. Бачыў дзікоў, ласёў і многіх іншых звяроў і птушак. Ідучы па мяжы, ірвалі чарніцы і елі. Служыць Максіму цікава. Цяпер у сераду зноў у складзе мабільнай групы паедзе на мяжу на цэлы тыдзень. Пакуль Людміла хадзіла па крамах і выконвала просьбы сына, мне Максім патэлефанаваў і крыху апавёў пра сябе. Цяпер чакаем 12 жніўня...

## *Жнівень*

***1.08.2016***

Каб вярнуцца ў сям'ю, мужчына памёр... Жанчына ў чорнай хустцы ішла следам за труной. У некалькіх кроках за ёй былі іх дзеці. Дачка і сын. А над горадам свяціла сонца, як вялікая кропка ў канцы жыцця-сказа мужчыны...

# ЗМЕСТ

## КАСТРЫЧНІК — СНЕЖАНЬ, 2014



## СТУДЗЕНЬ — СНЕЖАНЬ, 2015

**СТУДЗЕНЬ — ВЕРАСЕНЬ, 2016**

Літаратурна-мастацкае выданне

**Шніп** Віктар Анатольевіч

**ТРАВА БЯСКОНЦАСЦІ**

*Дзённікавы раман паэта*

Рэдактар *А. В. Спрынчан*
Мастацкі рэдактар *М. Ю. Дайлідаў*
Тэхнічны рэдактар *Т. В. Свірыдзенка*
Стылістычныя рэдактары *А. М. Анцытовіч, Ю. В. Тыркіч*

Падпісана да друку 19.03.2018. Фармат 60x84$^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура Georgia. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 22,32.
Улік.-выд. арк. 20,08. Тыраж 500 экз. Заказ 1261.




Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/5 ад 09.07.2013.
Пр-т Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.
www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

ААТ «Друкарня “Перамога”».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/38 ад 29.01.2014.
Вул. Таўлая, 11, 222310, Маладзечна.